№5(54)
/ верасень-кастрычнік / 2011

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Віктар Казько



...чым больш ён расце,
тым больш непрадказальнай і пакручастай
робіцца яго памяць...

# Пра Моцю

***Апавяданні***

## Пра Моцю і карову

У той дзень ён устаў з левай нагі. Але каб гэта толькі адно, жыць яшчэ можна было. Ногі – левая, правая, увесь час гуляліся з ім: думаў пра адну, а адзывалася другая. Ці то думкі былі такія хуткія, што апярэджвалі ногі, ці то ногі распусціліся і сваволілі. А ён жа кожны вечар, хаця і вымушана, старанна мыў іх мылам. Яны ўсё роўна не прызнавалі дабра.

Вось і сёння далей, калі ён ужо ўстаў, але яшчэ не прачнуўся, пачаў абувацца, замест правай падсунулася левая. А гэта было зусім няправільна. Ён добра гэта ведаў. Увогуле шмат чаго ў сваім жыцці ўжо ведаў: справа ад чалавека знаходзіцца анёл, а злева – чорт. Такім чынам ён і сёння абудзіў і пачаў дзякаваць чорту. І як у ваду глядзеў. Не паспеў сесці за стол, як маці падсунула да яго якуюсьці шараватую і клейкую размазню ў талерцы.

– Хумня, – адмовіўся ён есці яе.

– Якая ж хумня, якая хумня, – порстка ўскінулася маці, але зірнула на бацьку і адразу ж асеклася. – Гэта ж аўсянка, хоць і не на малацэ, але вельмі карысная, Моця.

– Моця ў балоце, – адказаў ён. – А я Мацвей, і ў сваёй хаце мне лацвей.

Ён не любіў зранку гэта сваё ўкарочанае і нейкае дзявочая імя. На пачатку дня нават не адгукваўся на яго.

– А вось і бананчык табе, Мацвейка, – паправілася маці і падала яму нейкую жаўклявую і крывую плешку, што ўжо зусім, пэўна, абурыла сына. Ён хацеў шпурнуць той “баняньчык” у камешнік, але адчуў, што гэта будзе таксама няправільна: раскідвацца ежай грэх. Ды і было ўсё ж нешта ласкавае ў тым “баняньчыку”, было. Узяць толькі адзін пах яго. Але Моцю тым ранкам не спакусіў і салодкі, мядовы пах заморскага ласунку.

– Які ж дурань зранку ў вёсцы на адпачынку пасля дзіцячага сада есць бананы, – абурана выказаўся ён і замоўк, падцяўшы вусны.

Характар, характар. Як што не па ім, дык хоць кол на галаве цяшы. Мужык, нічога не скажаш. А ён да ўсяго яшчэ і паляшук. А паляшукі, як вядома, нават малыя, – людзі ўпартыя і ці не ўвогуле зацятыя. На тое яны і паляшукі, што карчы ў лесе ці сёння ўжо на дрывотні дубовыя калодкі, на якіх сякуць дровы. Ты іх і калуном, і сякерай і што ў лоб, тое і па лобе, яны толькі крэкчуць ды мацуюцца, урастаючы ў зямлю. Такім прыземлена непахісным, настойлівым ды непадатным на чужыя ўгаворы быў і Мацвей, ці хацеў выдаваць сябе за такога ¬– у свой род, у бацьку з маці, што ўперліся рогам у гэту жытку, і хай рог той адпадзе, чым яны збочаць.

І як рогам Мацвей уталопіўся ў вялікую алюміневую кружку, што стаяла на стале сярод іншага посуду. Пустую кружку. Але яна не заўсёды была пустой. Бацька піў з яе гарбату, калі служыў у войску. З войска прыхапіў з сабой, а пазней падарыў сыну:

– Пойдзеш у армію са сваёй кружкай.

Арміі Мацвейку было яшчэ доўга чакаць. А калі ў прадчуванні яе ён усё ж спрабаваў піць з кружкі гарбату, апякаўся. Але апошнім часам, у вёсцы, ён піў нагбом цёплы, яшчэ пасля каровы сырадой, цёплы і з пенай, што ці не цалаваў яго ў вусны і пакідаў на іх такую гожую беленькую адзнаку, якую ён старанна злізваў кончыкам языка, працягваючы асалоду паху сырадою, каровы, хлява і, здаецца, сонца.

Вось на гэту, некалі поўную малака, а цяпер зусім-зусім пустую, бляшанку, а не посуд, адсунуўшы карысную кашу і заморскі банан, нязводна і прагна і пазіраў Мацвейка.

Маці без слоў зразумела яго і патлумачыла:

– Няма малака, Мацвейка, няма. Не дае карова малака. Запусцілася.

Тое, што карова не дае малака, Мацвейку было зразумела, часам, і ён чагосьці не даваў. А вось “запусцілася” было яму ў навіну. Адно: распусціліся ногі. А як гэта бывае ў кароў і чаму. Як гэта яны запускаюцца ці распускаюцца, нібыта дрэвы ці кветкі. І, галоўнае, нехта чагосьці не дае. І не дае не каму-небудзь, а яму. Ён можа некаму нечага не дасці. А каб не далі яму! Тая ж карова пашкадавала яму малака. Спачатку прызвычаіла, прыручыла, а потым запусцілася ці распусцілася і адмовіла. Нешта тут было не так. Няўжо і з каровамі здараецца, што яны ўстаюць не з тае нагі.

І чорт падбухторвае іх на шкоду і шкадобу яму малака. З гэтым трэба было разабрацца і дапамагчы карове: прагнаць чорта і абудзіць анёла. Анёла, які прыходзіць да яго ранкам з поўнай алюмініевай салдацкай кружкай, як бабуля гаворыць – карцом, цёплага і сонечнага сырадою. І Мацвейка счакаў, пакуль усе дарослыя сыдуць з хаты і ён застанецца адзін. Калі гэта адбылося, абяруч аплёў кружку і пашыбаваў у хлеў да каровы. У хляве было ўтульна. Праз шчыліны ў сценах коса прабівалася сонца. Проста лілося крыжаванкамі і плазам прыпадала да саломы, залаціла яе, што надавала яму ўпэўненасці і спакою, адчування, што ён усё робіць правільна. Крыху аслеплены і прыгаломшаны няроўным і зыбкім святлом хлява, ён асцярожна пачаў набліжацца да каровы, што і так была рабая, а цяпер і зусім спярэсцілася.

Ці не на першым жа кроку пераканаўся: усцерагацца было чаго. Падыходы да каровы былі замініраваны. І ў адну з мін улез адразу двума нагамі. Хоць гэта было нечакана і трохі брыдка, Мацвей не надта расстроіўся:

– Так вам і трэба, – ніколькі не гідуючы, помсліва мовіў ён, гледзячы, як зеленаваты гной прасочваецца скрозь пальцы ног. І, пэўна, меў рацыю так сказаць, бо далей было яшчэ горш. Каб усё ж зноў не патрапіць на міну, ён пачаў трымацца сцяны і наскочыў на дошку з выпнутым цвіком. Сур'ёзны ці не быў цвік, але пеканула добра. І адразу ж зеленаваты гной пачаў заплываць рудаватай кроўю.

Мацвейка і тут паказаў характар:

– Панакідалі дошак з цвікамі. Добраму чалавеку і не прайсці. Рукі б вам паадбіваць, гаспадары!

Але хаця апёк быў імгненны і не такі ўжо страшны, крыві болела. І яна хутка перафарбавала гной і заліла ўсе пальцы на левай, чортавай назе. А калі Мацвей узняў гэтую нагу, пачала капаць і на салому рэдкімі, але ярка чырвонымі igольчатымі па краях пырскамі.

Вось толькі тады, разглядзеўшы гэтыя іголачкі, Мацвейка заплакаў, хутчэй нават заскавытаў, заскуголіў. І больш не ад болю і страху, а таму, што адступаць ён не думаў. Не на таго напалі, не таго ўздумалі затрымаць. Ён заўсёды дамагаўся свайго, ніколі не ўцякаў нават ад сабак, мо толькі перад гусаком, і то калі нікога не было побач, кідаўся прэч.

Мацвейка дадыбаў да каровы. Тая неяк зняможана ляжала на баку і сачыла за ім чарнільным вокам, навесіўшы на губу празрыстую нітку сліны.

– Ты што гэта распусцілася, – звярнуўся да яе Мацвейка. – Ты думаеш, я на бананах пражыву. Давай малако.

Карова ўздыхнула ўсім целам, мыкнула, паспрабавала падняцца, але чамусьці перадумала. Адно толькі варухнула пярэднімі нагамі, напружыла іх, сагнула ў каленцах і адразу разагнула, супакоіла. І зноў цяпер ужо сумна і працягла ўздыхнула і мыкнула. Ад чаго яе губы, асабліва ніжняя, набылі падабенства з губою бабулі, калі тая прыхворвала, розніца была толькі ў памерах.

– Глядзі ты, – здзівіўся Мацвейка, – што карова, што бабуля – адразу і не разбярэшся. Давай малако, ці не бачыш, што я паранены.

Ён працягнуў карове кружку, а мо і карэц. Пустая кружка, здаецца, карову праняла. Яна, хоць і цяжкавата, паднялася. Павярнулася да Мацвейкі і вільготнымі губамі пачала залізваць яго шматлікія віхуры. Сапраўды шматлікія. Чэрці разам з ведзьмамі на галаве ладзілі вяселле.

– Не пераменішся, такое ж кручанае і жыццё будзе, – гаварыла пра яго віхуры бабуля, цалуючы ў макаўку. І Мацвейку гэта падабалася, але тут было не да сантыментаў.

– Ты сліну асабліва не распускай, – нават крыху зазлаваў ён. – Во калі малака дасі...

І тут Мацвейка ўбачыў... Убачыў, што ў хляве не адна карова, а адразу дзве. Толькі другая маленькая і з лысінкай на лобе. Галава ж дарослай, сапраўднай каровы была чорнай, што галавешка.

– Адкуль, адкуль, – разгублена спытаўся Мацвейка ў цацачнай каровы. – Лысінка адкуль...

І гэта маленькая кароўка з лысінкай тыцнулася якраз жа той лысінкай пад паху Мацвейку. Малое, малое, а ледзьве не паваліла яго. Мацвейка хацеў ужо адказаць крыўдзіцельніцы належным чынам, як гэта яна прарабіла з ім. Але не хапіла спрыту. Лысенькая вырода адвярнулася ад яго, прыпала да цыцак каровы, як знайшла там нешта спажыўнае і вельмі смачнае, з мілагучным прыцмокам пачала смактаць іх.

У тым, як яна прарабляла гэта, было нешта да дрыжыкаў знаёмае Мацвейку. Знаёмае мо яшчэ да яго з'яўлення на свет і таксама, здаецца, у такі сонечны прамяністы дзень. І таксама ў хляве, сярод саломы. Толькі ці карова і цялё былі там. Хаця нешта падобнае і вечнае. І гэта былі не яго памяць і не яго веданне – нешта таксама вечнае.

А цялё ўжо было побач з Мацвейкам, мякка злізвала белую стужку з чорных і крыху змардаваных, падобна, ссінелых губ. Злізвала, высалапіўшы кароценькі чырвоны язычок. Але гэта добра знаёмая Мацвейку справа не збіла яго з панталыку, ён добра ведаў, чаго прыйшоў у хлеў да каровы, нават кружку з рук не выпусціў.

– Ну ты і нахлебнік, – сказаў ён маленькай карове і паўтарыў: – Ну, ты і нахлебнік. Будзем дзяліцца. Будзем дзяліцца.

## Моця і свет

Гэта быў такі час у яго. Час пазнавання і прызнання свету і сябе ў гэтым свеце. Пэўны час, што зведаў ці не кожны, калі ты яшчэ хвіліну таму была поўная бессэнсоўнасць. На злом галавы гонішся за якім-небудзь таксама дурнаватым матыльком. Бяжыш, ды раптам спатыкаешся аб камень ці корань дрэва на дарозе. Спатыкаешся і коцішся, коцішся, пакуль галава не закружыцца, а голую нагу пачынае праціначь боль. Вось праз гэты боль, а іншым разам і слязінку спачатку ў сярэдзіне, а потым і ўваччу, упершыню нешта імгненна перайначыцца навокал.

Усё будзе зусім іншым, чымсьці да покату, болю, слязы і сукравіцы на збітым вялікім пальцы нагі, мо і знесеным пазногцю... І чаму гэта найчасцей здараецца з вялікім пальцам. Мо ён больш смелы і неабачны менавіта таму, што вялікі, ці з якой-небудзь іншай трасцы? Але думай не думай, трэба падымацца і супакойваць гэты блазнаваты вялікі палец. А чым супакойваць, чым гоіць. Тым, зразумела, што і ўсе твае хаўруснікі, калі побач няма ні бабулі, ні маці, ні бацькі, ніхто не абагрэе родным подыхам, тройчы не сплюне і не скажа: ужо не баліць?

У такім разе заўсёды застаецца адно: лекавацца і шкадаваць сябе самому. А гэта значыць пасыпаць паранены палец цёплым прыскам, калі курыцца

вогнішча. А не, дык, азірнуўшыся, зняць штонікі і... дапамагае, ды яшчэ як. Праверана не адным пакаленнем жэўжыкаў.

І тады, калі ты гэта зрабіў, калі зашчыміць ад тваёй жыватворнай крынічнай вільгаці драпіна і прыпячэ табе гэтая ж твая дэзынфекцыя, так прыпячэ, што вочы падрастуць і апынуцца ці не на лобе, вось тады гэтымі пашыранымі, імгненна пасталелымі вачыма і ўбачыцца. Усё адразу ўбачыцца: далячынь да самых даляглядаў, не абмежаваная ўласным глупствам. Нешта прыбачыцца, прымроіцца і за даляглядамі. І захочацца зазірнуць у гэтае н е ш т а. Не заставацца проста кусцікам ці слупком і камянем на дарозе, на якіх усе, у тым ліку сам ты, спатыкаюцца. Захочацца панесці сябе ў свет і дасведчыцца: ці ёсць у ім краі, ці ёсць у ім яшчэ нехта апроч цябе. І ахвота падпарадкавацца гэтаму жаданню, ступіць за далягляды свайго маленства, адзіноты і глупства такая неадольная, што лепш падпарадкавацца і не супраціўляцца, не пыхаць і не чмыхаць смаркатым носам.

Вось гэтая прага адкрыцця неспазнанага, таго, што схавана ад цябе тваім жа маленствам і дарослымі з іх забаронамі і перасцярогамі, прага пераступіць рысу, а гэта значыць пераступіць і праз самога сябе, і прымусілі Моцю да дарог. Прымусілі выпраўляцца штодзень у белы свет, як у капеечку. Мо не так недарэмна кажуць, мо сапраўды ў тым белым свеце ці за ім і ёсць тая самая яго капеечка. Трэба толькі дайсці да яе і прыбраць, прыбраць сваё ж.

Такім чынам Моця апошнім часам разведваў і пазнаваў свет. Пазнаваў боль нагамі, хаця патроху і вачыма, у прасцягу, гарызантальна. Гарызантальнасць зямлі крыху прымушала яго і думаць: хлусяць, хлусяць бацькі і ўсе навокал, калі гавораць, што зямля круглая, шар. І яму няма чаго баяцца, што ён недзе ўпадзе, пакоціцца з гэтай зямлі, бо яна зусім не шар.

Але ж часам у тым, што зямля не шар, ён крыху і сумняваўся. Сумненне выспявала, калі ён бачыў перад сабой лес, бо за лесам відавочна меўся край зямлі, круглы край, шар. Але лясы, хутчэй бліжнія ляскі, якія ён даследаваў, не пацвярджалі яго высноў. За імі зноў усё было плоскае, далёка плоскае і прэснае.

Трэба было неяк выцярэблівацца з гэтай будзённай плоскасці і прэснасці, бо чалавечы век, як гавораць бацькі, не толькі кароткі, але чарвівы. І з гэтай показкай Моця быў заўжды згодны, асабліва пра чарвівасць, што яшчэ раз пацвердзілася менавіта сёння.

– Моня, Монечка, да ты ж галубы. Ну зусім галубенькі, як шызы галубок, Монечка, – сказала яму бабуля, калі ён апрануўся ў сваю далёкую дарогу: блакітненькі плашчык, блакітненькія штонікі, блакітная шапачка-жакейка. Нават сандалеты, і тыя блакітныя.

– Ну, увесь галубенькі, галубок ты мой шызы.

– Я не галубенькі, я не галубы, тым больш, што і не шызануты. – Ад абурэння ледзь не ўпаў з крэсла. Калі б можна было, калі б былі крылы, хаця б курыныя, то ён бы і ўзляцеў.

Пра галубых, блакітных, ён ужо тое-сёе ведаў, добра, трывала ведаў і не чакаў, што яго так абразіць родная ж бабуля. А да ўсяго, колькі ж гэта адразу ў яе словах крыўды, хлусні і няпраўды. Па-першае, калі ж ён сапраўды галубенькі галубок, то ні ў якім разе не шызы. Па-другое, які ён Моня, які з яго Моня. Ну, Моця, гэта яшчэ куды ні ішло. А Моня ні ў якія ўжо вароты не лезе. А па-трэцяе... Тое ж, што і першае, і другое.

Як жа за сваё імя, за сваю мужчынскую годнасць прыходзіцца змагацца на кожным кроку і са сваімі ж роднымі.

Глыбока зняважаны Моня-Моця, на самой справе сапраўдны Мацвей, выхапіўся з хаты, вырашыўшы неадкладна сёння даказаць сваю сапраўднасць, дабрацца да краю зямлі і на свае вочы ўбачыць, уведаць, якая яна, ці ёсць у яе край, плоская яна ці сапраўды круглая. І калі маецца ў яе край, то заўсёды застацца на ім. А калі ж круглая, то вярнуцца дамоў ужо кругаля з другога яе боку, адкуль яго і чакаць ніхто не будзе: галубы, галубенькі, шызануты Моня. Я вам яшчэ пакажу, які я на самой справе.

Ён хутка пакінуў адзаду ўсе тыя мясціны, сцежкі, сцяжынкі і дарогі, па якіх хадзіў раней. Зняважанасць надавала не толькі хуткасці, але моцы, рашучасці і спакою. Спакою хады, якая заўсёды патрэбна ў доўгай дарозе. Ён спора крочыў гасцінцам, па якім чамусьці амаль не ездзілі машыны, абраўшы асфальтаваную шашу. Хаця гасцінец быў больш прыдатны і прываблівы. Шаша далёка абапал была абсечаная ад дрэваў і якіх бы там ні было кустоў. Адны бетонныя слупы з нацягнутымі гнятліва стогнучымі дротамі. Сумна. А на гасцінцы – душа і вока і нават ногі раскашуюць і ў траве-мураве, і ў белым пустым пясочку. І па абодва бакі – грушы ды яблыні. Дзічкі, зразумела. Але на свеце напрыканцы лета няма нічога смачней за дзікую грушку і працяты наскрозь сонцам яблык-райка.

Моця хутка набіў імі аскоміну. І каб больш не спакушацца і не есці (асабліва самасейкі, чырвоненькія яблыкі-райкі было проста немагчыма: хай хутчэй жывот распярэжыцца, а я цябе ўсё роўна з'ем, праглыну, як шчупачок малька), ён збочыў з гасцінца на поле і пайшоў па цаліку, па раллі пасля прыбранага жыта. Ралля пад жнівеньскім задуменным і задаволеным сонцам пахла хатняй печчу, з якой толькі што знялі боханы хлеба на падкурчаных зрудзелых капусных лістах. І не было таму полю ні канца, ні краю. Мацвей яшчэ парадаваўся за камбайнёраў: такое поле ўхопіста жаць.

Але хутка аднастайнасць раллі яму надакучыла. Ён пачаў азірацца, каб убачыць хоць дрэўца ды даць адпачыць у прахалодзе ценю здарожаным ужо нагам. Дрэўца нідзе не было. І Моця цяпер ужо паспачуваў камбайнёрам. На бясконцым голым полі, хаця і хлебным, звар'яцець можна, пакусаць з нуды самога сябе ці якога прыблуду зайца.

Дрэўца нідзе не прадбачылася. Затое далёка наперадзе нешта віднелася, як мроілася. На зняможаным ад жнівеньскай спёкі сярод рудой аднастайнасці нізенькай раллі, як карабель у бурштыне, пагойдвалася нейкае дзіўнае збудаванне, ці то плыло, ці то спрабавала ўзняцца ў неба і паляцець. Кіруючыся на яго, і пашыбаваў Мацвейка, хаця ісці туды было ой ды ой. Але ж хоцькі не хоцькі, нічога іншага не выпадала.

І Моця дапяў да таго ні то касмічнага, ні то акіянскага карабля выпетраны ўжо да поўніцы, ушчэнт. І нікольні не галубенькі, а сапраўды шызы, узмакрэлы і перафарбаваны потам у шызага галубка. Дапяў і на кожным кроку спыняўся, набліжаючыся ні то да відзежу, ні то да наслання, самай сапраўднай здані. Але здані вельмі гожай і прывабнай, як у ласкавым радасным сне. Цуд ды і толькі.

Перад ім на бясконцым золаце раллі распасцёрся, абапершыся дубовымі шулама ў жытняе поле, а крыламі падпіраючы нябёсы, стаяў вялізны старажытны млын, ветрак. І крылы яго з пашчапанай і ўчарнелай ужо дранкі круціліся, трошкі не датыкаючыся пры нізе зямлі, а ўверсе дасягаючы

рэдкіх аблачынак, што праплывалі над яго аголенай сівой галавой. Мо тыя аблачынкі і круцілі крылы казачнага пракаветнага ветрака.

І быў то не зусім ветрак, а папраўдзе касмічны карабель, які толькі што прыляцеў і прысеў на полі, выглядваючы і чакаючы яго, Моцю. Ведаў, прадчуваў, што Моця сёння прыйдзе да яго – да лятаючай талеркі іншапланецян у звыклым выглядзе існуючых тут у мінуўшчыне млыноў.

Уваходны люк міжпланетнага карабля быў вітальна адчынены. Дубовая, парослая мохам дошка, якая мо і служыла люкам, была прыслоненая да боку млына, а глыбінная і таямнічая цемра ў сярэдзіне таго млына зеўрыла запрашэннем. Толькі Моця быў не такі ўжо просты, каб неабачна некуды ступіць. "Яшчэ ўкрадуць, – падумаў ён. – Украдуць і звязуць на якое-небудзь сёмае неба, дзе і Макар цялят не пасвіў." Такія выпадкі, гаварылі дасведчаныя людзі, надараліся. Кралі, кралі людзей лятаючыя талеркі. Кралі, а потым падкідвалі. А маглі ж і не падкінуць. Моця ж прагнуў, канечне, зорак, таямнічасці і невядомасці іншых планет, іншага жыцця, але каб пры гэтым заставацца пры бацьках, бабулі і яе карове, што дае яму штодзень кружку сырадою.

І таму Моця паасцярогся лезці ў чорнае, як пашча злога сабакі, нутро млына, хаця нехта ці нешта заманьвала яго туды, цягнула як бычка на вяроўцы. Толькі ён не паслухаўся нячутнага поклічу і не паддаўся яму. Не на таго, хлопцы-іншапланетцы, напалі. І яшчэ, Моця пры ўсёй зачараванасці іншабыційнасцю касмічнага стварэння не забыўся, дзеля чаго ён выправіўся сёння ў дарогу: дазнацца, ці ёсць у зямлі край і якая яна, зямля, сапраўды круглая, што шар, ці ўсё ж плоская. І цяпер яму выпаў шанец зрабіць гэта, не вярэдзячы ног. Крылы, крылы ветрака, нечага ж яны круцяцца і ў стане падняць яго ад зямлі, падняць, ускінуць высока ў неба, да аблачынаў. А там, у вышыні, ён ужо ўбачыць, ці ёсць у зямлі край. Шкада толькі, вельмі шкада, што ў яго няма крылаў. Прывязаны ён, прыпнуты да аднастайнай зямной роўнядзі, плоскасці яе паверхні, гарызантальнасці. Нечага ж вартыя і для нечага ці некага створаны не толькі лятаючыя талеркі, але і старажытныя дзедаўскія ветракі.

Недарэмна ж ад іх сыходзіць разам з замілаваннем і жалоба. Такая жалоба, што аж сэрца шчыміць, набрыняе не толькі кроўю, але і слёзьмі. Жалоба па самому сабе, што бяскрылы, бяскрылы быў і той, хто будаваў гэты млын. Бяскрылы, але ж, пэўна, думаў пра крылы, таму і стварыў іх, дараваў ветраку. А цяпер вось, сатлеўшы ўжо недзе ў сярэдзіне свайго збудавання, заклікаў яго наведаць, прымерыць да сябе крылы свайго ветрака-летака.

І Моця, як загавораны і прычараваны, невідушча, бо вочы былі павернуты некуды ці не ў сярэдзіну яго, а мо і праз яго, у неспасціжную далеч, прыслепленую зыбкім мроівам смугі і смутку сённяшняга зжатага ўжо жытняга поля, аберуч ашчаперыў крыло ветрака, стромкае і гудлівае. Нібыта нехта іграў на ім, як на скрыпцы. І пэўна ж, іграў тугім, але мяккім смычком ветру. Музыка крыла і ветру адарвала Моцю ад зямлі і пацягнула, панесла яго ад стрэмка ўхопістай раллі ў неба.

Дранкі крыла таксама былі стрэмкімі і няроўнымі. Моцю гэта радавала, бо рукі не слізгацелі і нагам было ўчэпіста. Ён усім целам прытуліўся да цёплага, угрэтага сонцам крыла, зліўся, зрітаваўся з ім. І цяпер іграў сваім ласкавым смыком і на ім, на блакіце яго адзення і музыка здавалася яму таксама блакітнай, той, на якую здольнае толькі неба, і то, калі на ім ззяе сонца.

На жаль, Моця пад гэту музыку зноў стаў відушчым, набыў зрок. Мо гэта і патрэбна было, чаго ж падымацца ў неба і заслепліваццa. Пэўна ж, і птушкі не дазваляюць сабе слепа лятаць. Толькі лепей бы ён заставаўся невідушчым. Не, паглядзець з-пад аблачын з нарастаючай вышыні, адарвацца ад зямлі, канечне, было варта. Было варта ўбачыць і край зямлі далёка, да звыклых даляглядаў. А ў зямлі ўсё ж меўся, меўся край, і неба абручом замыкала той край, трымала яго, каб нехта не скаціўся. І была яна, і была яна, зямля, сапраўды...

Тут на сваю бяду – залішняя цікаўнасць, як гаворыцца, і котцы шкодзіць – Моці закарцела паглядзець, а якая ж зямля пад ім. Паглядзеў. І ачомаўся ўжо толькі тады, калі зямля пад ім перастала стагнаць і хістацца, ёкаць і круціцца. І тады Моця падняўся, трывала стаў на ногі. Для пэўнасці нават умацаваўся абодвума нагамі, ачысціў, выдзеўб красоўкамі раллю пад сабой, хаця і не без цяжкасці. Здалося, нешта адбіў у сярэдзіне. Ці не селязёнку. Моця даволі высока скочыў на прагале пад сабой. Не, селязёнка была на месцы.

І тады ён зарагатаў і крыкнуў на ўсю зямлю і неба:

– А ўсё-такі ты круглая, круглая! Ты круглая і круцішся...

І ціхенька, вельмі ціхенька дадаў:

– А паслізнуцца можна і на плоскім, на роўнядзі...

## Пра Моцю і яго сястрычку

Моця пад вечар быў непадобны сам на сябе. Так не падобны, што не мог і прыдумаць, на каго ён на самой справе падобны. Хутчэй на дзьмухаўца, які ўжо адкрасаваў, а цяпер белым пухам завіс па-над зямлёй, гатовы ў неба, на другое адраджэнне. Прарастанне, завязь, цвіценне, і зноў – у палёт, у неба. І каб ніколі не злазіць з яго, хай яму і есці туды падаюць, адно марожанае ды цукеркі. Хаця пасля іх можна адзін-другі і дранік, толькі на масле і з вяршкамі. Расчулены, насалоджаны такімі думкамі, ён і сам не прыкмеціў, як пачаў цалаваць бабулю. У вусны і з прыцмокам, чаго да гэтага цураўся, недзе нават грэбаваў. Здзівіцца не паспеў. Здзівілася бабуля. Доўга выціpала губы на рагі, па-піянерску, завязанай пад падбароддзе белай у зялёны гарошак хусцінкай. І мала таго – адварочвалася і плявалася:

– Здзяцінеў ты ці што?

– І зусім не здзяцінеў, пасталеў, падрос, параўняўся з бацькам... А ты чаго смаркаешся?

– А таго, – адказала бабуля. – Сама што таго.

– Ну, тады можаш, – дазволіў Моця. – Тады можаш і ў кулак, і на дарогу жабаў і жабянят пускаць. Я сёння добры, бо крыху шалёны.

– Во дзіва, – сказала бабуля, – толькі крыху. Ты заўсёды і быў... –Такім чынам сапсавала Моцю настрой бабуля. Зняла, скінула, сцягнула з самага што ні на ёсць сёмага неба. Абзямлячыла.

Моця ледзь не кінуўся біцца з ёй. Але хоць і на зямлі, на калдобінах з цвілой і без доўгіх дажджоў застаялай у іх і адчувальна смярдзючай вадой разважлівасць і надвячоркавая лагода перамаглі. Старая, парахня, што яна можа разумець у яго сённяшнім жыцці, калі даўно ўжо і забылася на яго, на палёты ў сне і на яве. Пэўна, ніколі і не ведала: кухня, хлеў, венік і яго, Моцяў, каршэнь, а да гэтага – бацькаў, і стогн, стогн – якія ж дзеці

пайшлі, горш учорашніх. Адно толькі – заўсёды белая, па-піянерску, на рагі хустка ў вечназялёны гарошак пад падбародак. Таму не варта з ёй сварыцца, тым больш біцца. Звязвацца – сабе даражэй.

З гэтым ён і дапяў да хаты. А там замілаванне і шалёная ўзнёсласць зноў узялі верх. Не, жыццё, нават нягледзячы на бабулю, усё ж мае сэнс. Нездарма, нездарма прыдумалі яго. Варта, варта жыць і ўвечары, нават уначы, калі цябе прымушаюць класціся ў ложак. У ложак... Моця наледзь дачакаўся маці, так яго распірала, поўніла вар'яцкай радасцю недарэмна пражытага дня. І толькі маці ступіла на парог, як ён адразу ж і вельмі галасна, столь падскочыла і збялела:

– А я сёння спаў са Светкай!

Твар маці на нейкае імгненне стаў падобны да столі, сутаргава сцяўся і расцяўся. Але ж яна вельмі хутка ўзяла сябе ў рукі. Толькі аднаго разу вохкнула ды двойчы развяла рукі і пляснула далонямі, што Моця ўспрыняў як апладысменты:

– Ты сёння... спаў... са Светкай?

– Ага ж, у адным ложку і цэлыя дзве гадзіны.

– Дзіва, дзіва, – амаль бабуліным голасам мовіла маці.

І Моця адчуў, што ніякага дзіва тут ёй няма. Нібыта ён усё жыццё спаў са Светкай, і не па дзве гадзіны ўдзень, а дзень і ноч навылёт, не пакідаючы ложку. І яна загадзя ўжо ведала, што ён будзе спаць са Светкай. Прывыкла ведаць і ніколькі не здзіўляецца.

“Ну чаму яны такія, – з прыкрасцю падумаў Моця – Што бабуля, што маці. Дзе і калі яны страцілі здзіўленне. Раздзяцінелі. Дзе і калі яны так паразумнелі, што назаўсёды страцілі, не, не толькі здзіўленне, а саму радасць здзіўляцца. Згубілі, згубілі патаемнасць таго ж дзьмухаўца, што ўжо адкрасаваў, але адчуваннем асалоды таго, што ён вось-вось памножыцца, адскочыць ад амярцвелай, струпам збялелай сівой галоўкі, былой сваёй і чалавека ўцехі, і кінецца ў белы свет, залунае, залунае, куляючыся пад сонцам і блакітам неба. Паляціць, паляціць па-над зямлёй, а мо і прэч ад зямлі – у сусвет, невядомыя жыцці, планеты, як лётае, не адчуваючы ні цела, ні ног ён, Моця, як лётаў і сёння дзве гадзіны, пакуль спаў са Светкай і працягвае лятаць і цяпер. Толькі нябачна.

І гэта нябачнасць прымусіла Моцю больш пільна прыглядзецца да маці, мо яна саромеецца яго, хавае сябе перад ім. А на самой справе яны аднолькавыя, і адчуванні іх аднолькавыя. Толькі маці не выказвае сябе. Бо яна ўсё ж маці, яго маці. Але якраз у гэтым уся і справа: абодва яны не могуць далёка адбегчыся адно ад аднаго.

Але вынік гэтай глыбокадумнасці і пільнасці да выразу твару і постаці маці быў зусім інакшы і вельмі нечаканы нават для Моці. Падсвядома, усё ж нешта маючы ў галаве, як гэта бывае толькі ў раннім дзяцінстве і ў дзяцей, ён некуды пранік. Патрапіў у недасягальнае яшчэ яму і яго розуму, мо і зусім не чалавечае, хутчэй звярынае, а найбольш верагодна, увогуле нікому з жывых неўласцівае. Зноў жа, апроч дзяцей у пэўным узросце, дараванае невядома кім, мо нябёсамі, а мо і зямлёй, падзямеллем. Дараванае толькі на імгненне і цалкам і адразу з узростам адабранае. Адабранае нейкім найвышэйшым, каб чалавек не надта вытыркаўся па-над зямлёй і з зямлі сярод тых жа чалавекаў.

– Нешта апошнім часам ты надта патаўсцела, маці, раздалася ўперадзі і ўшыркі.

Маці зачырванелася і прысела на крэсла каля стала. Але Моцяў промільг, пэўна, ужо скончыўся, і паперла з яго звычайная будзёншчына, уласцівая кожнаму ў сталасці цвярозасць і разважлівасць.

– На дыету трэба садзіцца, маці, надта ты ўжо прыпадаеш да мучнога і салодкага. Абмяжоўваць трэба сябе дыетай.

– Дыета тут не дапаможа, сынок, – уздыхнула маці і расквецілася ўсмешкай.

– Усім дапамагае, а табе не? – здзівіўся Моця. – Так не бывае. Зірні ў тэлевізар, якія там трэскі, вешалкі і фасоліны. І як жа яны выдзыгаюцца, хаця, я думаю, пешкі, сваімі сарочымі нагамі не кожная з іх і да могілак дапне... А ў Светкі ножкі спраўныя, абедзьве...

– Як у нашага кабанчыка? – спытала маці.

– Уга, як у нашага кабанчыка, хаця яна таксама на дыеце са сваёй маці. Тыдзень на садавіне, тыдзень на кефіры, а ў дадатак яшчэ гербалайф, крамлёўскія таблеткі, раздзельнае харчаванне па... па...

– Ну, ты і адукаваны, – папраўдзе ўжо здзівілася маці.

– Дурная справа няхітрая, – па-дарослаdensamu разважліва адказаў ёй сын. – Звар'яцелі дзеўкі. І ўсе адразу і ўсе разам.

– Ну, разумнік, ну, разумнік, і ў каго ты толькі такі.

– А табе лепш ведаць,– сказаў Моця. – Табе і бацьку. Якім ужо зрабілі.

Але сказаў, пэўна, нешта не тое, бо маці ўсердзілася і ўхапіла яго за віхор:

– То ты спіш са Светкай, то... Як жа гэта ты спадобіўся пераспаць з ёй?

– Адпусці, – буркнуў Моця, – тады скажу. А так гаварыць не буду.

– Будзеш, яшчэ як будзеш, – запэўніла яго маці.

– Не буду, хоць табе, бачу я, вельмі ўжо цікава, як спяць хлопчыкі з дзяўчынкамі.

– Ды не так ужо і вельмі, – сумелася маці і адпусціла віхор. – І ўсё ж як гэта было?

– Было, – сказаў Моця.

– Як?

– А вельмі проста, калі ўжо так карціць табе ведаць.

– Проста?

– Зусім не проста. Спрэс адна мітрэнга і бязладдзе... Рамонт у нашай спальні быў. Ложкі павыкідвалі, і на ўсіх не хапіла. І я прапанаваў Светцы спаць са мной. Леглі і заснулі...

– І ўсё?

– Ну, не зусім. Не без таго ўжо... Пагаварылі, пабуськаліся. І дамовіліся, што заўсёды будзем спаць разам, пакуль не пажэнімся. А тады ўжо і як ты з бацькам, паасобку.

– Чаму ж гэта так: я з бацькам паасобку... Паасобку я з бацькам. Бач ты, паасобку.

Моця ніяк не мог зразумець, чаму маці так расхвалявалася, што крыўднага ёй ён сказаў. Праўду сказаў, і нічога балючага ў гэтай праўдзе няма. Чаму гэтыя дарослыя такія пераменлівыя і не трываюць ні хлуслівай, ні праўдзівай праўды. Якога ж ражна ім трэба. На самой справе ўсім ім на дыету садзіцца час: мазгі ці то падсушыць, ці набірацца іх. Ён так і сказаў маці, хаця і быў супраць той дыеты. Падобна, такой жа думкі

прытрымлівалася і маці, бо пачала смяяцца. Ды так увішна, весела і галасна, што цяпер ужо пакрыўдзіўся Моця.

– Здзекуешся, усё жыццё здзекуешся. А вось Светка лепшая за цябе. Ніколі, ніколі з мяне не смяецца.

– Дурненькі, ох і дурненькі ж ты. – Маці ўстала з крэсла, выйшла з-за стала. Падышла да Моці, падняла на ногі і яго, але чамусьці зноў за віхор. І Моця хацеў ужо канчаткова раззлавацца, але маці прытуліла яго тварам да сябе, да свайго раздабрэлага ўшыркі, а больш наперад жывата.

– Чуеш? – амаль у самае вуха, што ад нечаканасці і абурэння стала бураковым і зусім не чуйным, ціхенька і ласкава спытала маці.

– Нічога не чую, – адказаў Моця.

– Ну як жа, яна ж голас табе падае і брыкаецца. Вітае і ўжо крочыць насустрач табе.

– Хто, хто вітаецца і крочыць? – перахопленым ад неспадзяванкі галасам, узбуджаным і зноў крыху відушчым нябачнае і непазбежнае, як ачужэлым яму сэрцам, спытаў Моця.

– Сястрычка. Твая сястрычка.

– Як? Як яна ў жывот табе трапіла?

– Трапіла, родненькі, трапіла.

– Ты праглынула яе?

– Але ж, Моцечка, але ж...

– Ну і што ты нарабіла, што я з табой рабіць буду? Гэта ж злачынства!

– Ды не ж, Моцечка, не. Гэта не злачынства, а зусім нават наадварот.

– Як, як зусім наадварот, калі яна ў цябе ў жываце і квакае.

У жываце ў маці нешта, здаецца, сапраўды квакала, як жабяня па вясне на купіне ў балоце, калі яно ўжо ўгрэецца і пачынае набываць мову. І гэта мова чэрава матулі была нікольві не горкай, не жаласлівай. Нейкая абвяшчальная яна была. Так абвяшчае сябе жаўтароты верабейка, што першы раз хапіў, каўтнуў з зялёнага лісціка бярозы кропельку, слязінку вады, маладой расы. Мо так нікому не чутна падае голас і пушынка дзьмухаўца перад тым, як набыць крылы, залунаць пад небам і ўгрэўным сонейкам. І то быў голас, здалося Моці, яго, калі ён прачнуўся пасля ціхага часу ў ложку разам са Светкай.

І адчуванне гэтага ўласнага голасу нібыта апякло Моцю. Апякло як загадзя, як крыху наперад, пякучым агнём і зыркім полымем будучыні. Яго ўласнай і непазбежнай будучыні.

– Што ж гэта значыць, што ж гэта значыць, – вусцішна і амаль нема закрычаў Моця. – Гэта і ў Светкі цяпер можа завесціся жабянё?

– Ды не, сынок, не. Дзеці зачынаюцца зусім інакш.

– Як, як інакш?.. Толькі не нада мне ля-ля пра капусту і бусла. Я ўжо прыглядаўся да капусты. Вусені там, вусені адны, што караеды пражэрлівыя і брыдкія, зялёныя ў сярэдзіне ад соку капусты.

– Вой-вой, – адсланілася ад Моці матуля. – Прагледзела, не ўпільнавала капусту. Пабягу ж зараз...

– Не пабяжыш, не ўцячэш... – сказаў Моця. – Ад мяне і праўды не ўцячэш... І пра буслоў мне не трэба. Бачыў я, як той буслік цягнуў у кубло сабе гадзюку. Вось толькі на што і здольныя вашы белыя буслы. Гадзюк прыносяць, а не дзяцей. Брыдота, а не птушка. Я не хачу, не жадаю быць параджэннем бусла. Але ўсё ж тады... Як, адкуль, ад каго?

– Ад радасці, ад кароткага нашага шчасця... Ад таго, што мы таксама часам лятаем... Вось і я лятала, лятала і заляцела. – Маці ўнурылася і замоўкла.

– Чаму ж ты тады не радая ад таго, што можаш лятаць? Я вось рады, рады, што не з капусты і не ад бусла. Рады таму, што і ты, мая матулька, здольная лятаць. Рады... – Моця гаварыў гэта, але ўжо не зусім верыў, што ён сапраўды рады. Мімаволі яму здавалася, што час яго палётаў заканчваецца. Ці ж давядзе яго да дабра гэтае жабяня ў жываце маці. Дагэтуль ён быў адзіны, непаўторны і любы. А цяпер гэту непаўторнасць і любасць бацькам прыйдзецца дзяліць надвое. І якая доля дастанецца яму.

Ён зноў наблізіўся да маці, прытуліўся да яе жывата:

– Дай паслухаць. – Прыпаў вухам, амаль да голага распранаючы маці. І яму так урэзалі па вуху, нібыта ён рабіў нешта вельмі і вельмі непрыстойнае. Так урэзалі, што ён адхіснуўся, адпаў ад чэрава маці, як адпадае перасычаная п’яўка ад цела чалавека.

– Брыкаецца. Глядзі ты, брыкаецца цялічка-сястрычка. Біцца будзем, вой будзем біцца...

Падумаў, памаўчаў і нечакана загадаў маці:

– Садзіся і разяў рот.

І такая рашучая непрыхільнасць чулася ў яго голасе, што маці без ваганняў адразу ж і падпарадкавалася, як дзяўчынка.

Моця схіліўся да шырока разяўленага рота матулі:

– Дабранач. Дабранач, сястрычка!

## Пра Моцю і хлопчыка Вовачку

Увогуле Моця быў добры. На чужое ніколі не зайздросціў і не квапіўся, але і сваім не прыкідваўся. Заўсёды ўсмешлівы, ласкавы і шчодры. Мо толькі залішне задуменны. Хто ведае, пра што ён думаў, а думаў ён без перапынку, калі толькі так можна сказаць, калі гэта магчыма думаць увесь час. Гэта ж вельмі цяжкая праца. Недарэмна ж кажуць: індык думаў ды ў суп трапіў. Часам яму карцела спытацца ў таго індыка, пра што ён думаў перад супам. Але Моця саромеўся і трохі пабойваўся яго. Бо гэты мысляр чамусьці не ўзлюбіў Моцю. Як толькі ён аказваўся паблізу, кідаў і свой хаўрус, і сметнік, і грады. Адразу ж чырванеў грэбнем, прышпорваў і з усіх ног капацеў да яго. Толькі хвост пагойдваўся ўсім пер’ем.

Не было ў Моці еднасці з індыком. Што тут зробіш. У кожнага чалавека ў яго жыцці павінен быць свой індык. І Моця яго ці не любіў нават. За тое, што ў яго быў толькі індык, а не хто-небудзь іншы. На індыка ў Моці меўся дубец. І той міратворчы дубец, без якога Моця не выходзіў з хаты, індык разумеў і паважаў.

А так ворагаў, апроч індыка, не мелася, бо Моця да ўсяго жывога быў натхнёны і спагадлівы. Нават жабе саступаў дарогу. Брыдкая, так, брыдкая, але хто ведае, што ў яе наўме. Возьмеш гэтае пудзіла тагасветнае ў рукі, а яно ж адразу і сікне табе. А потым з’яўляюцца бародаўкі, як на скуры ў рапухі. Нікому ўжо не падасі рукі.

Але і гэта яшчэ не самае горшае. А калі тая ж рапуха ў тваіх руках ды ператварыцца ў царэўну. І мілуйся тады ўсё жыццё з прыгажуняй, якая толькі ўчора яшчэ была жабай, растаптанкай. Але Бог засцерагаў Моцю

ад такой долі, бо, пэўна, любіў яго, як і Моця любіў усё, што рухалася, поўзала, лятала і спадобілася, мела талан нарадзіцца на гэтай зямлі.

І Моцю мо якраз за гэта замілаванне ўсім існым на свеце любілі ўсе і ўсё. На яго нават сабакі не брахалі, хаця ён і не надта выпрабоўваў іх намераў і адносін да яго. Ведаў, што прызначэнне іх рознае, і яму з яго прызначэннем трэба пільнавацца, каб лішні раз не перайсці дарогу, і не толькі сабаку, а нават мурашу, калі той выйшаў на сцежку свайго жыцця. І мурашы яго ніколі не кусалі, нават тады, калі ён замінаў ім рухацца ў непадуладную яму мурашыную невядомасць. Тыцкаліся шырокай лабацінай у яго палец, пэўна, нюхалі, каб пазнаваць, другім разам мецілі сваёй мурашынай кіслатой і абміналі. Нюхаць, а часам і смактаць той мечаны палец было шчымліва соладка. Нібыта мураш яму нешта мовіць, перадае. А ён не разумеў яго, як і мураш не разумеў, бо мовы ў іх былі розныя, абодва яны непісьменныя, хаця Моця ўсе літары ўжо ведаў, а вось слова мурашу скласці не атрымлівалася. А хацелася, так хацелася паразумецца, што аж у носе рабілася кісла.

На самой справе кісла. І ў носе, і ў роце, і чых нападаў ад мурашынага паслання, аднаго толькі паху яго таямнічага жыцця, закліку некуды ў баравую неспасціжнасць. Мо нават у мурашнік. Царом. Але мурашыным царом ён ніяк не мог быць. Па-першае, зноў тое ж самае – мовы іх не ведае. Хаця сёння гэта не перашкода, колькі іх, непісьменных і бязмоўных цароў на свеце. А па-другое, і мо галоўнае, у мурашоў не цар, а царыца, як у пчол матка, і з крыллямі. У яго ж і прызнакаў тых крылляў не пазначалася. А так ён не супраць стаць хоць і мурашыным, але трошкі царом.

Прываблівала і ўлада, і пасада, і сам мурашнік. Не надта, праўда, упарадкаваны. Але ж мядзяны, сапраўды з пахам мёду ў пагодны дзень, узнёсла дрыготкі, нібы касмічны карабель перад стартам. І ўсе мурашкі на тым караблі такія паслухмяныя, такія працавітыя. Быць царом над імі адна асалода. Ён бы іх навучыў і свабоду любіць, так яны былі любыя, нават родныя яму, як і наогул быў любы і родны ўвесь белы свет. І Моця зычыў яму дзе толькі і як мог. Зноў жа, не папускаючыся сваім, але і не прыпадаючы да чужога.

Неяк на іх падворак забегла суседская кошка. Моця адразу яе злавіў, хаця яна і не прагла быць злоўленай. Але ў яго хапіла спрыту. Згроб у абярэмак і, нешта ласкава нашэптваючы ёй, панёс да плоту суседкі, бліжэй да яе роднага котлішча. З цяжкасцю і не без стратаў сабе, бо не думайце, што кошка ацаніла яго клопат, верашчала і драпалася, супраціўлялася, ды яшчэ як. Толькі і ён быў такі ж зацяты. Данёс і прапіхнуў на суседчын двор у шчыліну, малаватую нават вераб'ю. Прапіхнуў і радасна абвесціў:

– Ма'ія Г'ігоеўна, Ма'ія Г'ігоеўна. Я вам кошку падаіў. – Што зразумела, на яго мове зусім не значыла, нібыта ён сапраўды падаіў кошку – проста падарыў яе суседцы. Хаця мог і падаіць. У коткі, пэўна, былі кацяняты. І пакуль Моця пакутна праціскаў яе праз шчыліну, кошка, вылузваючыся, акрапіла Моцевы рукі малаком. А да малака Моця быў куды як ласы. Ён бы мо і не пагрэбаваў малаком коткі, толькі палічыў, што кацянятам яно больш патрэбна.

А да ўсяго маці яшчэ завецца: калі ты сапраўдная маці, то дзяцей трэба карміць. Малако праз край ужо ліецца, а яна шлэндае немаведама дзе па чужых падворках і спакушае яшчэ яго сваім малаком. Ці ж варта дзяцей заводзіць, калі ты іх не корміш. І вы думаеце, кошка ацаніла яго клопат?

Як бы не так. Скочыла, вызверылася на Моцю і сыкнула, што гадзючка. Але гэта няўдзячнасць коткі не адбіла ў Моці ахвоту да добрых спраў, клопату і любові да ўсяго жывога. Гаспадарчы быў, клопатны і кемлівы, гарнуўся і млеў сэрцам да ўсіх і да ўсяго на гэтым свеце.

Але ж было і выключэнне. Меўся ў яго жыцці той адзіны і смяротна нялюбы яму. Хлопчык Вовачка. Во каго ён ужо ненавідзеў, дык ненавідзеў, таксама, калі не болей, як усіх і ўсё любіў. Таму што бацькі з тым хлопчыкам не давалі яму жыцця. Ледзь ён толькі ў хаце ці на падворку, а то і са двара чым-небудзь цікавым па-за хатай зоймецца, як усе яны ў адзін голас:

– А вось хлопчык Вовачка так бы не зрабіў бы...

А як гэта так і чаму не зрабіў, не гаварылі. Бо, пэўна, не разумелі, што так толькі трэба рабіць, таму што цікава. Усё цікавае пачынаецца толькі па-за хатай. І асабліва пасля дажджу, які наліваў пасярод вуліцы такую лужыну, такую лужыну, што каб паглядзець на яе, прылятала нават аднекуль з лесу варона. Моця пасябраваў з той варонай. Ёй таксама была цікавая і вельмі патрэбная лужына сярод вуліцы. Варона звычайна прыносіла з сабой скарынку, пэўна, сухога і чэрствага хлеба і размочвала ў лужыне.

Разумніца разумніца, але дурная. Кідала скарынку на краі лужыны, дзе было малавата вады, углыб не лезла, баялася. А вось Моця ніякае глыбіні не баяўся. Гэта ж так прыемна, калі пясок засмоктвае ногі, а ты іх выдзіраеш, выдзіраеш. Моця ледзь не подбегам кідаўся, каб дапамагчы вароне правільна размочваць хлеб. Але варона звычайна ўцякала, прыхапіўшы хлеб, жадобіна. Уцякала ды яшчэ незадаволена каркала. І так злосна і гучна, што апошнім разам Моця ад нечаканасці ўсім тварам, усёй апраткай ляпнуўся ў лужыну. Што тут пачалося:

– Хлопчык Вовачка ніколі б не палез у такую твань, хлопчык Вовачка абышоў бы бокам, хлопчык Вовачка заўсёды слухаецца бацькоў.

– То ён мо і не хлопчык, – слушна дзівіўся Моця. – Як гэта заўсёды слухацца бацькоў?

– Не, хлопчык, толькі акуратны і паважае старэйшых.

– Яны яго б'юць?

– А яго няма за што біць. Ён жа шкоды ніколі не творыць і не лезе, куды не дазволена.

– Нават тады, калі ніхто не бачыць?

– Нават і тады.

– Не, ён не хлопчык... Нават тады, калі ніхто не бачыць? Дурань нейкі ваш хлопчык Вовачка.

– Разумнік, такі ўжо разумнік, што большага і ў свеце не знойдзеш...

Моця хацеў нешта сказаць бацькам, але стаіўся, таму што нечакана да іх далучылася бабуля. А Моця адчуваў, што ў яе слоў будзе болей, у яе сёння маецца больш чаго сказаць і яму, і бацькам. І як у ваду глядзеў, бо папраўдзе глядзеў у ваду, у лужыну.

– Гэта ж што надоечы ўтварыў. Перад самым дажджом, ужо маланка б'е, грамы грымяць, а ён залез на яблыню і не злазіць. Я, як квактуха, вакол той яблыні: "Моцечка, злезь, Моцечка злезь. Я табе яблычак дам, чырвоненькі. Спеленькі." А ён:

"У мяне і сваіх хапае. Зялёненькіх. Лезь сама сюды, я і з табою падзялюся".

"А мандарынчыка не хочаш?"

"Не спакушай мяне, старая, мандарынамі. Я не прадаюся."

“Ага, тады бачыш маланкі, чуеш гром? У сухую навальніцу такіх, як ты, маланка і гром забіваюць на дрэвах.”

“Праверым. Мо забіваюць, а мо і не забіваюць. Пажывем – убачым.”

“Дык ужо ж не ўбачыш.”

“Відно будзе...”

– Так і не злез, паршывец, пакуль не ўсчалася ў небе і пры зямлі такая калатэча, што мне нават млосна зрабілася. І тое злез не таму, што спалохаўся. Напароўся тых зеляпушчых яблык так, што аж прыперла яму...

– Не прыперла, – запярэчыў Моця.

– Прыперла, прыперла.

– Не прыперла.

– А то я не бачыла і не чула. Прыперла, прыперла.

– Не дабачваеш ты, баба, і не дачуваеш ужо.

– Я? Недабачваю? Я не дачуваю? А скуль тыя яблыкі сыпаліся з-за пазухі, з кішэняў і з усіх дзірак жыўцом перла, бы антонавак мачоных у хату занеслі.

– А тут ты ўвогуле хлусіш, баба, – зніякавеў Моця.

– Цыц, – цыкнуў бацька. – Дык ты да ўсяго яшчэ і ...

– Не, не...

– Тваё “не” зразумела, ты не хлопчык Вовачка, калі яшчэ і...

Гэта апошняе “і”, здаецца, канчаткова ўжо дабіла Моцю.

– Ну і бярыце тады сабе ў сыны гэтага паслухмянага хлопчыка Вовачку. Бярыце! – выгукнуў ён.

Бацькі пераглянуліся і дружна мовілі:

– Сабе? Хлопчыка Вовачку? А што, гэта неблагая прапанова, – кіўнула галавой маці. – Бацька, як ты мяркуеш, калі мы замест гэтага паганца Моці возьмем сабе ў сыны хлопчыка Вовачку?

– Добрая справа, – падтрымала маці бабуля, – я хоць на старасці гадоў адпачну. А то ў мае гады па дрэвах лазіць...

Моця аслупянеў і стаіў дыханне.

А бацька, крыху, здаецца, згодна памаўчаўшы, запытальна сказаў:

– А мо дадзім яму выпрабавальны тэрмін. Будзем цяпер адсочваць, Моця, кожны твой крок. І калі што, няма ж іншага паратунку, памяняем цябе на хлопчыка Вовачку...

І пайшло, паехала. Дзе ж ты набярэшся таго паслухмянства, як ні пільнуйся, абавязкова ж, на думку дарослых, што-небудзь зробіш не так, куды-небудзь ды ўляпаешся. І адразу ж:

– Дзе ж гэта той хлопчык Вовачка...

Моця зненавідзеў да скрыгату зубоў паслухмянага і таямнічага хлопчыка Вовачку. Яму б толькі ўбачыць, ці нават адчуць яго, як ён адчуваў мурашоў па паху кіслаты. Уга, Моця ведаў бы, што з ім рабіць. І ён паўсюль шукаў хлопчыка па імю Вовачка. Але на шчасце ці на хваробу Вовачак нідзе паблізу ў яго асяроддзі не было. Усё толькі Дзянісы, Максімы, Арцёмы і адзін нават Карп. Быў, праўда, адзіны, ды таксама не зусім Вовачка. Дзядзя Валодзя, але стары, лысы і казлабароды, таксама брыдкі, але ж не Вовачка. Да ўсяго, у яго была маладая жонка, нядаўна ажаніўся. І яму з гэтай маладой жонкай, відавочна, не да таго, каб памяняць Моцю на сябе. Хаця Моця і перасцерагаўся і пабойваўся яго: сёння ён Валодзя, а заўтра, глядзі, стане і Вовачкам...

І так боязь і перасцярога замены сябе на Вовачку доўжылася да таго

часу, пакуль не надышла пара пачынаць школу, ісці ў падрыхтоўчы клас. І Моця пайшоў у школу, молячы ў душы, каб не сустрэцца з якім-небудзь чысценькім і паслухмяным, выдатнікам ад нараджэння Вовачкам. І сустрэўся ж такі. Сустрэўся там, дзе і ў думках не меў сустрэцца.

У кустах.

На клумбе каля прыступак школы высоўваў галаву з кветак і бэзу нейкі бялява-беленькі хлапчук, і апратка беленькая, і ручкі беленькія, і галоўка ў беленькіх кудзерках. Стаяў і загадкава пасміхаўся, гледзячы на Моцю. І Моця адразу пазнаў яго. Пазнаў, таму што ўжо некалькі гадоў, ці не кожную ноч сніў яго ў сваіх снах. Для вернасці, праўда, спытаўся ў бацькі:

– Хто гэта?

– Гэта? А хлопчык Вовачка.

Моця адшпурхнуў ад сябе букет асенніх астраў, якія сілай навязала яму бабуля, скінуў пінжачок, чамусьці нечакана для сябе перакруціў з шыі за плечы гальштук і кінуўся да хлопчыка Вовачкі, нашэптваючы праз сцятыя зубы:

– Дык вось ты дзе, хлопчык Вовачка! Схаваўся ў кветніку. Ёсць у цябе кветкі, але будуць яшчэ і ягадкі.

На гэтых словах ён падскочыў, намерваючыся ашчаперыць хлопчыка Вовачку за шыю і паваліць яго. І як ні дзіўна, паваліў. Вовачка, падаючы, паспеў расквасіць яму нос і пусціць юшку. А ў дадатак, як сказалі потым дактары, зламаць дзве рабрыны.

Праз гады і гады гэта дазволіла Моці сцвярджаць, што ён яшчэ ў маленстве быў змагаром, амаль што дысідэнтам: біўся з самім Уладзімірам Ільічом Леніным. І пацярпеў, пацярпеў ад Савецкай улады.

## Via est vita,
## Альбо Моця на сцежцы вайны

Пасля дзяржаўных святаў, а іх было адразу да чортавай матары: і Дзень Перамогі, і Дзень незалежнасці, і вызвалення Мінску, і яшчэ... адным словам, у адзін дзень усё не ўвабраць, Моцю зацікавіла яго біяграфія. А больш дакладна – гераічнага ён роду ці не. Усе ж яго хаўруснікі былі гераічнага паходжання. І калі не самі героі, то шляхетных, панскіх каранёў. У гэтых каранях Моця, праўда, моцна сумняваўся. Прысеў мужык пад хвойкай – вось табе і пан Сасноўскі, пад грабам – Грабоўскі. А Моця – Махахей, а па маці яшчэ горш, Барздыка. Куды з такімі прозвішчамі. Ні ў прэзідэнты, ні ў бізнес не сунешся, як у полі абсевак. Але ж гэта першае калена. А мо ніжэй ці вышэй... Што там за каленам вышэй? Атрымлівалася не вельмі гожа.

І Моця звярнуўся да матулі: раскажы ды раскажы сваю біяграфію.

– Адчапіся, – нядоўга думаючы, адказала маці. – У мяне малако табе ж закіпае. Таго і глядзі, збяжыць.

– Далей пліты не ўцячэ, – супакоіў маці Моця.

– Во як хвастану рушніком, дык і ў цябе з носу прама ў рот нешта ўцячэ.

Моця пакрыўджана адышоў ад маці. Намёк, што ў яго з носам нешта нялюдскае, зразумеў. Але адышоў недалёка. Да бабулі, у якой рушніка ў

руках не было. Спачатку хацеў звярнуцца да бацькі. Але адчуў – гаворкі не будзе. Той быў надта заклапочаны. Толькі ўчора набыў і прывёз новы халадзільнік, апошняга, як казаў, пакалення.

Сёння ўзяўся вывучаць інструкцыю і спатыкнуўся галавой. У інструкцыі было напісана, што ў халадзільніку забараняецца захоўваць спіртавыя напоі моцнасцю сорак і болей градусаў. І бацька ніяк не мог уцяміць, радавацца яму ці сумаваць. Не мог даць веры, што і ў нас нарэшце дамагліся вырабляць такія мудрыя рэчы. Галава была занятая, дзе ж і як цяпер захоўваць напоі.

– Мо то выпіваць адразу да донца, – быў заклапочаны бацька.

І Моця наўпрост звярнуўся да бабулі з тым жа пытаннем, што і да маці. Бабуля, хаця Моцю гэта і цяжка ўявіць, біяграфію мела. На ўсе гэтыя святочныя дні яе некуды запрашалі, уганароўвалі граматамі, кветкамі. І ў Моці ўжо была алергія на іх: нелады з тым жа носам. Каму свята, а каму...

– Ай, якая ў мяне біяграфія... – паспрабавала ўнікнуць дапытлівасці ўнука бабуля. Але не на таго трапіла. Да ўсяго, Моця адчуў, што тэма ёй блізкая. Бабуля не супраць пагаварыць пра сваю біяграфію. Бясконцыя святы, ветэранскія шэсці па горада не прайшлі дарэмна. Бабуля стала гаваркая, хоць і стрымлівалася, але гаварыла пра сябе ў множным ліку накшталт: ”Мы, з божай ласкі імператар Мікалай другі...”

– А якая ў мяне ў мае гады біяграфія, унучак.

– Ну як жа, баба. У цябе ж былі і матка, і бацька.

– Гэта было, было.

– Дык хто яны, якога роду?

– Роду? Да свінапасы мы. Усе свінапасы, – не без гонару адказала бабуля, нібы выхваляючыся, ды што там нібы. Відавочна выхваляючыся сваім патомным свінапаствам.

– І ты таксама свінапаска? – каб толькі не пакрыўдзіць бабулю, спытаў Моця.

– Я горш, унучак.

Моцю гэта горш зацікавіла:

– Як гэта можа быць яшчэ горш?

– Ды так, унучак. Так атрымалася.

– Ты ж вайну ваявала...

– У тым і справа, унучак, што ваявала. Партызаніла...

– І медаль маеш?

– А то ж... – бабуля замоўкла і яўна не жадала працягваць гаворку далей.

– За што цябе ўзнагародзілі, за гераізм?

– А то ж... За гераізм. За падрыў...

– Дык ты ж падрыўніком была?

– А то ж...

– І дзе ён, твой медаль?

– На могілках, унучак, на могілках... Медаль на ўсё жыццё падвесіла на шыю сабе. Мужа свайго, а табе – дзеда.

– Нічога не разумею, – сказаў Моця. – Давай талкова і па парадку.

– Па парадку дык па парадку. Бо хутка ўжо, сальёмся са сваім медалём. Два бакі аднаго медаля. Пайду да яго і побач лягу. І ляжаць будзем, пакуль не саржавеем. Маці твая, мая дачка, не ведае. А табе паспавядаюся.

І бабуля пачала спавядацца.

У вайну ёй было мо трохі больш гадоў, чымсьці сёння Моцi. Але яна была, як сама казала, баявая. А да ўсяго ж галоўка добрая, а вочы, вочы, такіх ужо сёння не вырабляюць. І падрыўнікі любілі з ёй у якасці разведчыцы хадзіць на чыгунку. Яна ішла наперадзе іх, усё вышныпарыць і парушынкі не ўпусціць. І толькі пасля гэтага выходзілі на рэйкі і падрыўнікі.

Так было і на той раз. Бегла яна з чыгункі, ног пад сабой не чула. Было да каго бегчы. Хлопец там адзін быў, якому яна заўсёды радая была ўслужыць. Але набліжаецца яна да партызан, а хлопцу таму трэба ж... Якраз прыспічыла. Толькі ён прыладзіўся, зняў папружку, расшпіліў гузікі, тут і яна. Дых перахапіла: яна ж на яго малілася, яна ж яго на бажніцу гатова. А ён, як і ўсе, у кусты ходзіць...

– Я ж не ведала, што гэта ён ад нашага харчу – гнілой капусты. І такія мяне крыўда, злосць і помста вочы залілі, свету Божага не бачу, – гаварыла бабуля. – Толькі ён наважыўся міну закласці, як я яго імгненна размініравала. Не памятаю, як і выляцела: хенде хох! Што па-немецку – рукі ўгору. Ну, ён ад разгубленасці рукі ўгору. А потым як даў гону... Ніколі ў жыцці не бачыла, каб людзі так бегалі. Скажы хто, не паверыла б, што так хутка можна бегаць. Куды там алімпійскім неграм. Бачыў, як заяц ад сабакі на адных задніх нагах па полі скача, бо пярэднія не паспяваюць за ім? Аўстралійскіх кенгуру бачыў? Я думаю, што гэта нашы зайцы толькі пужаныя. Вось так і ён. Жвавы хлопец. Толькі куды ты ўцячэш... Штаны па лытках целяпаюцца. Гэта бег, як ногі ў мяшку... Вось так я і атрымала свой медаль. На чыгунку больш ні нагой, спіхнулі на кухню, усю партызанку бульбу абірала...

– Але ж медаль далі, узнагародзілі? – Жадаючы суцешыць бабулю, спытаў Моця.

– Узнагародзілі, а як жа. Твой дзед за пазухай і прынёс мне ўзнагароду. Козачку беленькую. Я ад крыўды так і не спытала, дзе ён яе ўзяў. Да ўсяго ж козачка падрасла і аказалася казлом.

– Тым самым, што на партызанскім парадзе выступаў?

– Не, унучак... Але хто ведае.

– Я ведаю, – сказаў Моця. – Тым, тым.

– Хай будзе і тым... Колькі ж гэта звычайных казлоў на парадных прэтэндавала? Не менш, чым былых свінапасаў на прэзідэнства... Але я ў адказ на казліны падарунак твайго дзеда пісталет нямецкі іменны ў яго скрала. Бліскучы, нікеляваны...

– Ён і зараз у цябе?

– Бог убярог. Я схавала яго ў лесе. У дупле дуба, а якога – і забылася. Да ўсяго там міны засталіся. Партызаны замініравалі падыходы ў свой табар. А ён лагер перавярнуў, шукаючы. Скоса пазіраў на мяне, толькі і я вочы не адводзіла і маўчала, як партызан... Вось так мы і шуткавалі адзін з аднаго, пакуль да шлюбу не дашуткаваліся. Але і потым маўчала. Перад смерцю яго толькі прызналася, што гэта я нарабіла. Ён дараваў. Толькі наказаў, каб я ўсё ж знайшла той дуб. Забрала пісталет, прынесла і закапала на яго магілцы.

Некаторы час бабуля з унукам маўчалі. Потым Моця спытаў:

– Выканала наказ дзеда?

– Дзе там. Гэта ж у лесе столькі дубоў... Грэшная я, грэшная...

– Не пералсывай, – сказаў Моця. – Я выканаю наказ дзеда. Дай толькі падказку.

І бабуля дала яму падказку.

Моця збіраўся ў дарогу грунтоўна. Жыццё набыло мэту. У яго і раней была думка пахадзіць па свеце. Гэта ж колькі прыдуркаў па зямлі сёння бадзяжыць. І пешкі, і на веласіпедах, і па моры. А ён што, у Бога цяля з'еў. І бацькі ацэняць, калі ён часова знікне, і ён адпачне. А то кожную хвіліну Моця ды Моця.

Апроч пошукаў бабулінага дуба з пісталетам, мелася ў яго яшчэ і свая патрэба выправіцца ў дарогу. Недзе якраз у тых мясцінах, дзе партызаніла бабуля, бруілася ў дуброве невялікая рачулка. Да таго ж свая Моцю, што слёзы набягалі. Моця калісь адпачываў на беразе яе з бацькамі. І нейкі рыбак падараваў яму ножык. Такі ладны складнічок, што Моця не разлучаўся з ім ні на хвіліну: нозік, нозік, нозік. Мой нозік. Бацька ад граху далей забраў яго і кінуў у рэчку, а яму сказаў: сам утапіўся. Як жа Моця плакаў. Да ночы, зорак каля вады сядзеў, маліў нозіка выплыць. І вось прыспеў час вярнуцца да таго нозіка, які яму даўно ўжо стаў ножыкам і нават сцізорыкам.

Не падумайце толькі, што ён такі малы і няцямны. Ведаў, нозік даўно саржавеў, спрах. Але рэчка, якая прыняла яго, дуброўная пятляначка, захавалася. Падрасла рыбная драбяза, якой ён цешыўся ў той далёкі час. Яго рэчка, яго рыба, белы ласкавы прыбярэжны пясок, лазнякі і ракіты. Ён павінен праведаць іх, бо на свеце існуе нешта больш значнае, чым нейкія добра вядомыя ўсім рэчы. Повязь нейкая нябачная іх з чалавечым векам.

Непарыўная нітачка з колішняга, бесклапотнага дзяцінства ў дарослае жыццё. Будзь то бабулін ці дзедаў пісталет, альбо яго нозік. Усё, што заўгодна. І гэта трэба адчуваць нюхам, як разумее і адчувае гэта сваім нюхам ён, амаль ужо дарослы чалавек, сённяшні Моця. Па нюху ён і выйдзе на сваё, дзедава і бабуліна дабро, хаця гэта будзе і цяжка. Але ж на тое ў ваўка і ногі. Вось чаму Моця збіраўся ў свой паход як на вайну, у тыя ж партызаны.

Напакаваў бацькаў вайсковы рэчмяшок ванільнымі сухарыкамі і баранкамі. Разам з тушонкай ўкінуў дзве банкі згушчонага малака. Задумаўся над шакаладкай, але не ўтрымаўся, узяў. А вось ад шакаладных цукерак адмовіўся на карысць ледзянцоў: больш практычна і па-даросламу, пamужчынску. Шматок сала, запалкі, бацькаў паляўнічы нож у скураным футурале. Здаецца, усё. І ледзь не забыўся галоўнага, компіка, ці, як маці яго звала, камбікорміка. Недарэмна імя яму Умка. Моця яго вельмі любіў і вельмі баяўся. Надта ж разумны, мо больш разумны, чым Моця. Палец у рот не кладзі. Адкусіць адразу на дзвюх мовах. Але лепш мець справу з адным небяспечным разумнікам, чым з дзесяццю дурнямі.

Вырашыў пачаць падарожжа на метро, а там ужо як дарога ляжа. Тым больш, што ўсе дарогі браліся ад выйсця са станцыі метро “Кастрычніцкая”. Там, на плошчы, ляжаў чатырохкутны ўказальнік з таксама каменнымі пянькамі побач. На іх зручна будзе прысесці перад дарогай, развітацца з горадам.

Моця і раз, і другі, і трэці абышоў указальнік, уважліва прачытаў усё, што там было напісана:

“Дарогі, вечныя дарогі,
Няма канца вам, ні супынку.
Вы жывы кожную часіну”.
Якуб Колас.

– Дзякуй, дзядзька,– уголас мовіў Моця. – Слушна, вельмі слушна.

А на процілеглым боку другі надпіс: “Via est Vita.” “Дарога – гэта жыццё.” Абедзве гэтыя цытаты Моця ўспрыняў як пахвалу сабе і напутнае слова. А вось з прызначэннямі напрамкаў свету яму здалося нешта не так. Адпаведна сонцу ён бы іх крыху развярнуў. Далей Моця таксама ўважліва пачаў вывучаць надпісы, накірункі і адлегласці да вялікіх гарадоў. Да Масквы было 700 кіламетраў. Далекавата. Добра, што яму туды не трэба. Да Варшавы крыху меней – 600. Ужо лягчэй, хаця і Варшава была яму як зайцу кенгуровая сумка. А вось Гомель яго суцешыў – толькі 315 кіламетраў. Таксама багата, ды толькі ў Гомлі яму рабіць няма чаго. Кавалак шляху, гарадок, да якога Моці трэба было кіравацца, быў цяпер на адлегласці ад яго 227 кіламетраў. Але і ў сам той гарадок Моці нечага было забрыдаць. А калі ісці яшчэ і напрасткі, – будзе значна карацей.

Такім чынам Моця вызначыўся, можна было ўжо і прысесці на дарожку, што ён і зрабіў. Зняў з плячэй рэчмяшок, уладзіўся на каменным пяньку. Але сядзець на ім было няёмка: востранька, мулка і халаднавата. Моця перабраўся на чатырохкутнік. Па левую ад яго руку за праспектам, каля шыкоўнага гмаху на вершавінах дрэў драла горла гурганнё, нібы гэта была іх рэзідэнцыя. У плечы яму з прысадзістага двухпавярховага будынка пазіраў надпіс: “Подвигу народа – жить в веках.”А ў вочы біла рэклама нейкага “Horisont”а телекома”. Непадалёку ад яго, па правую руку, завіхаліся дзве машынныя буравыя ўстаноўкі. Вішчэлі, скуголілі, не давалі засяродзіцца. Моця пра сябе паслаў іх некуды, але недалёка.

А вось рэклама “Horisont”а выклікала ў яго задавальненне. Бо там спачатку праблiснула: “И это свершилось!” Што – ні па-руску, ні па-беларуску – не ўдакладнялася. Але Моця і без удакладнення ведаў, што. Наступная рэклама легла на сэрца амаль голубам: “Вкусно есть – полезно.” Телеком ведаў справу. І Моця вырашыў паслухацца мудрасці. Дастаў з рэчмяшка сала, акраец чорнага барадзінскага хлеба, рэшткі пачатага, няўзнак прыхопленага са стала на кухні селядца. Але адразу есці не стаў. У яго, як маці гаварыла, мелася дурная прывычка, словам не збыць і таўкачом не выбіць: садзіцца за стол толькі са сваім Умкам. Уключаць яго, есці і забаўляцца.

І ён дастаў свайго Умку разам з прыладамі, правадкамі і запаснымі, на ўсякі выпадак, батарэйкамі. Адкрыў, расклаў каля ног. Пачаў выбіраць гульню. Абраў Nex Mines, Mines Weeper – мініраванне і размініраванне. Не прыкмеціў, як усё навокал сцішылася. Але ці не адразу да гэтага да Моці наблізіліся дзяржаўным крокам два амапаўцы. Моця не звярнуў на іх увагі. АМАП у горадзе – гэта ўжо звыкла ўсім. Адзінае, на чым спыніўся яго позірк, абутак: зашнураваныя з высокімі халявамі ні то боты, ні то чаравікі. Мне б такія ў дарогу, пазайздросціў Моця.

– Чым ты гэта тут займаешся? – Не падыходзячы да Моці, спыталіся амапаўцы.

– Ды хіба вы не бачыце, – заняты Умкам, адказаў Моця. – Мініру́ю.

– І што ж ты мініруеш?

– А вунь тое гурганнё, – хітнуў у бок аціхлых птушак Моця.

– І ў цябе гэта...

– Дыстанцыйны пульт, – сказаў Моця. А пра сябе падумаў: ну, абалдуі, ну абалдуі... – Хутка пачну падрыў.

Амапаўцы на некалькі крокаў адышлі ад яго. Паглядзелі адзін на другога і спрытна і суладна ўзброіліся перагаворнікамі. Што яны гаварылі, Моця ўжо не чуў. Разбіраўся з салам і селядцом. Але не паспеў як трэба нарэзаць і пачаць есці, здаецца ж, хвіліны не прайшло, як убачыў, што праз праспект, парушаючы ўсе правілы руху, праз мацюкі кіроўцаў і роў клаксонаў іх машын, бяжыць міліцыянт. І праміком да яго, да Моці. Маёр, запараны, як з лазні:

– Что же, мальчик, ты надумал?

– А нічога, – здзіўлена адказаў Моця. – Наладжу кантакт з Умкам і пачну падрыў.

Не змеціў, як ад нечаканасці націснуў на компіку не тую кнопку. І той пакрыўджана і гучна нешта выдаў на англійскай мове.

– Эй, кто у тебя там разговаривает?

– Кіраўнік, – адказаў Моця. – Прыспешвае. Бо бегаюць тут усякія... маёры.

– Понял. Все понял, – ласкава цяпер загаварыў маёр. – Может, ты бы перекусил сначала, – паказаў рукой на раскладзены на рэчмяшку наедак міліцыянт. – Может, и выпил бы.

– Дык я і кажу, не даеце, лезеце пад руку.

– Хорошо, хорошо, мальчик. Спокойно, только спокойно.

– Всенепременно, – на мове маёра адказаў Моця, даючы яму зразумець, што ён не лыкам шыты, валодае і чужымі мовамі. – А вы што, п'юшчы?

– Употребляю, – мовіў маёр, але схамянуўся, пачаў блытана заграбаць моўленае, доўга і нудна распавядаць. Гаворыць, гаворыць. А сам зірк-зірк па баках. І на праспект, у далячынь яго, і да Моці:

– А что это у тебя в рюкзаке, мальчик?

– Нічога, – адказаў Моця. – Усё маё.

– Правильно. Хозяйственный мальчик, молодец. Как говорили древние греки: все мое ношу с собой.

– Што, што?

– Латынь, мальчик, все свое ношу с собой.

– Правільная латынь. Правільныя грэкі. Толькі чаму гэтыя грэкі на латыні гавораць. Яны што, таксама з беларусаў?

– Похоже, похоже, мальчик. Потому, наверно, и вымерли.

– Вымерлі? – жахнуўся Моця. – З чаго ж, чаму ж?

– Смешливые были.

– І ад гэтага паміраюць?

– Еще как. Смешинка в рот попадет, и аллес капут. У тебя ведь тоже.

– Здараецца, здараецца, – пагадзіўся Моця. Калі подмазку ад патэльні маці праглынеш.

Пад гэтую гаворку Моця і не ўбачыў, як хуценька, пакінуўшы нават у свідравінах буры, узняліся і з'ехалі некуды буравыя машыны. І тыя буры гола тырчалі ў неба сталёвымі зашмальцаванымі ўверсе сэрцавінамі.

А на плошчу, а на плошчу, Божухна мілы, пачалі ўязджаць нейкія страшыдлы. Больш-менш прыстойна і пазнавальна выглядалі з закратаванымі

вокнамі варанкі, зялёныя вайсковыя аўтобусы, напакаваныя, што бочкі, амапаўцамі з чорнымі наморднікамі і марсіянскімі шчытамі наперадзе. А ўсе астатнія – монстры. З чэрава аднаго такога монстра, нібыта ён быў цяжарны, выкаціўся невялічкі і нават чымсьці прывабны балотна-зялёны монстрык на гусенічнай хадзе. Амапавец у масцы вёў на почапцы аўчарку, чорную каржакаватую. Без намордніка. А тая ўсё ўгіналася і ўгіналася і чмыхала, чмыхала носам. Пашанцавала, падумаў Моця, пагляджу. Некага будуць браць. Але ўжо ў наступную хвіліну стала зразумела: не некага, а яго.

– Берите его, – загадаў маёр адначасова прывабнаму балотнаму монстрыку, амапаўцам і аўчарцы.

І Моцю ўзялі. Хутка, жорстка і балюча. Спачатку за шкіркі, а потым падпахі. Літасціва абышлася з ім толькі аўчарка. Але і ад яе Моця не хацеў бы такой ласкі. Яна наважылася пазначыць яго, ужо і нагу падняла, ды амапавец не дазволіў. Абышлося без ганьбы.

А ўсё астатняе Моця атрымаў напоўніцу дома. Хаця на якую там поўніцу. Маці хвастанула яго, але не рушніком, як абяцалася, а венікам. Крыўдна, але не балюча. Венік быў в’етнамскі, рысавы.

– Вось табе, вось табе ўся твая біяграфія.

Ашчадныя ўсё ж венікі для сённяшняй дзіцячай ср...кі робяць в’етнамцы.

Бацька ж амаль не прыклаў да яго сваіх выхаваўчых рук:

– Ну, значыць так. Будзем жыць цяпер толькі па-пісанаму. Зразумеў, Моця, толькі згодна інструкцыі. І ні кроку ні туды, ні сюды.

Лагодны быў бацька, хаця і стражыўся. Пэўна, нарэшце вырашыў свой клопат з халадзільнікам.

А бабуля, бабуля ўвогуле ў яго малайчынка. Падміргнула цішком, калі ніхто не бачыў, і выдала:

– У мяне пайшоў, хоць і шалавы. Так, унучак, так. Мы з табой зараз абодва партызаны. Падрыўнікі.

## Моця ўляпваецца ў палітыку

Як жа гэта балюча жыць на свеце, будучы ворагам народу. Хаця малым сёння ўвогуле цяжка жыць. Ні ў бацькоў, ні ў бабулі ніякага клопату няма, а ў яго спрэс адно няшчасце. Але няшчасце яшчэ туды сюды. А вось вораг народу – гэта ўжо нештачкі сур’ёзнае. І Моця так-сяк трываў, пакуль быў проста няшчасцем.

– Не дзіця, а адна бяда, – гаварыла бабуля. – Куды ні кінь – усюды клін. Не дзіця, а трыццаць тры няшчасці.

– Чаму трыццаць тры? – крыўдзіўся Моця. – Чаму для роўнага ліку хаця б не трыццаць?

– А таму, – тлумачыла бабуля, – што як наперад, так і назад. Як павернешся, так і ўпернешся. У што-небудзь абавязкова ўляпаешся. Не, кручанае калясо галаву ўсюды скруціць.

Накаркала старая, як у ваду глядзела.

Хаця асаблівай празорлівасці з яго жыццём і не трэба. На кожным кроку засада за засадай. Усе адно толькі і цікуюць, каб яму падгадзіць. І не толькі дома, на вуліцы, але і ў школе ўжо мода такая пайшла. Не, каб жыць мірна, як заклікаў кот Леапольд, дык...

Настаўніца загадала напісаць хатняе сачыненне. Моця слухаў яе на паўвуха, але тэму яго старанна і такім прыгожым почыркам занатаваў у сшытак. Загадваюць – зробім. Прыйшоў дамоў, разгарнуў сшытак і аслупянеў: “Прэзідэнт – гара канстытуцыі”. Бацька прачытаў і таксама аслупянеў: услых, як вачам сваім не верыў, ажно тройчы паўтарыў:

– Прэзідэнт – гара канстытуцыі. Што гэта за абракадабра?

– А ніякая не абракадабра, – пачула яго здзіўленне бабуля. – Дзіця праўду кажа. Толькі не гара, а камень у нас на шыі.

– Памаўчы, старая, а то дагаворышся. Язык не толькі да Кіева даводзіць.

І адразу ж да сына:

– Ты хоць ведаеш, хто такі прэзідэнт?

– Гэта я ведаю, – адказаў Моця. – У нашай хаце ў тэлевізары жыве, час бы і яму за кватэру плаціць.

– Глядзі ты, кемны. Слушна, слушна.

Моця асмялеў:

– А яшчэ бомж ён.

– Чаму адразу ж бомж?

– Ну... Нам не хоча за кватэру плаціць і сваёй кватэры ў яго няма.

Бацька толькі крактануў. Моця ўпэўніўся: ад праўды нікуды не дзенешся. І працягваў:

– А яшчэ сынок у яго ёсць. Колька. Амаль мой равеснік. Шкода хлопчыка.

– Чаму ж табе яго шкода? – зацікавіўся бацька.

– Ну як жа. Электрамабіль амаль ці не за дваццаць тысяч даляраў мае. А паставіць няма дзе... Мо мы ў нашым гаражы месца б знайшлі. Людзі мы ўсё ж, людзі.

Пра месца для электрамабіля Моця сказаў ад безнадзейнасці. Зайздросціць ён таму Кольку. Спадзяваўся, паставяць яго электрамабіль у іх гаражы, Колька дазволіць і яму, Моці, пакатацца на ім. Хаця добра ведаў: не дазволіць, не дазволіць. Але хто ведае. Марыць ніхто не забароніць.

– Высока, высока лятаеш, – здзівіўся бацька. – Ну, ды дай Бог нашаму цяляці... А што такое кан-сты-ту-цыя? – Знарок па складах сказаў бацька. Моця зразумеў, каб падсекці ці нават абсекці яго. І не даўся.

– Мяркую, жонка прэзідэнта. Хаця можа быць і маці. Бо ён увесь час памінае яе і клянецца ёю. Пэўна, і пабойваецца.

– Пабойваецца, кажаш... А па вушах не хочаш? – Бацька відавочна стаміўся экзаменаваць ці весці допыт сына.

Моця па вушах не хацеў, і таму прамаўчаў. Зацяўся. А бацька вярнуўся да пачатку гаворкі:

– Гара, гара канстытуцыі? Забіце мяне, нічога не разумею. Ну і сачыненні вам задаюць. Аднак на акадэмікаў вучаць.

– Там яшчэ адна тэма была. Мо больш лёгкая: СМІ – крыніца ведаў.

– Што, што? – здзівілася цяпер маці. – А я-то, дурная, заўсёды думала: крыніца ведаў – кніга.

– Не, – давёў Моця. – СМІ – крыніца ведаў. Так настаўніца на дошцы напісала.

– Гэта ж трэба, куды наша школа сёння сягнула, – сказала маці. А бацька спытаў:

– Ты хоць ведаеш, што такое СМІ?

Моця трохі пра СМІ ведаў, але сумняваўся – ці то краіна, ці то газета з вельмі блытанай назвай «Советская Белоруссия» ці «Беларусь сегодня». І пасля праколу з канстытуцыяй асцерагаўся лішне ўжо адкрываць рот. Нагаворыш яшчэ на сваю шыю і галаву – вушы не будзе на чым насіць.

– Трэба званіць настаўніцы, – параіла маці бацьку.

– Ага, званіце, званіце, – абурылася бабуля. – Званіце ўсяму свету, якія ў нашага Моці дасціпныя і разумныя бацькі і сынок іх. Напісаў пісака – не разбярэ і срака.

– Хопіць – дастаткова ўжо народнай мудрасці, – асёк яе бацька.

– Ужо і мая народная мудрасць вам замінае – усхадзілася старая. – Каб вы яе ведалі, каб вы яе чулі, вам бы і кутніцы павыпірала.

– Во-во, ужо да гэтага ідзе, – сказаў бацька. – Але нявыкрутка поўная. Прыйдзецца ўсё ж званіць.

Высвятлілася, прэзідэнт – ніякая не гара, таму, канечне, і не камень. А ўсяго толькі гарант. Гарант канстытуцыі. Ужо значна лягчэй.

– Што толькі там у цябе ў галаве, – апошні раз папікнуў Моцю бацька. – Мазгі ці апілкі.

– А што вы ўклалі, тое там і ёсць, – ціхенька піскнуў Моця. Але яго пачулі, яго голасу хапіла, каб бацькі толькі пераглянуліся і змоўклі.

Уся сям'я, узброіўшы Моцю ручкай, забяспечыўшы новенькім сшыткам, узялася за справу. Творчы працэс пачаў бацька. Але ж яго адразу і заклініла:

– Прэзідэнт – гарант канстытуцыі... Прэзідэнт – гарант канстытуцыі. Прэзідэнт – гара... – Зазірнуў у сшытак сына: – Тройчы гэта пісаць не трэба. Балбес. І балбес не пішы.

Але балбес ужо напісаў. Прыйшлося закрэсліваць.

– Сапсаваў новенькі сшытак. На твае сачыненні іх не напасешся, – дакарыла маці.

– А ўсё ж, што такое гарант, растлумачце мне, – спытала адразу ўсіх бабуля.

Моця зразумеў, што гэта надоўга і сур'ёзна: бацька пачаў глыбокадумна калупацца ў носе, як гэта рабіў і Моця, калі чаго-небудзь не ведаў ці ў нечым сумняваўся.

– Гэта пытанне палітычнае, – відавочна жадаючы ўнікнуць адказу, паспрабаваў адбіцца ад бабулі бацька. Але маці не дазволіла:

– Сачыненне пішаш сыну. Будзь ласкавы гаварыць зразумела.

– Вось і гавары, калі ты такая разумная. А я тут без чаркі...

– Яшчэ чаго не хапала...

Моця быў задаволены. Пра яго забыліся. Каб жа забыліся зусім. Каб дайшло да таго, што ён тут лішні. Па ўсім, на тое і паварочвалася, бо гаворка пайшла не па школьнай тэме.

– Чаму толькі ў інстытуце цябе вучылі, – наступала маці на бацьку. А той адбіваўся:

– Я тэхнар... з чырвоным дыпломам.

– Тупар ты, буквар. З медным лобам.

– А ты, а ты... Шпаргалетка....

– Хто, хто?.. Гэта ўжо абраза, мой міленькі...

– Так, – пацвердзіла баба, – гэта ўжо абраза. Але ўсё ж растлумачце мне, што такое ці хто такі гарант?

Не, не забылася баба пра свае два грошыкі.

Маці помсліва зірнула на бацьку і на Моцю чамусьці таксама:

– Шпаргалетка? Я вам пакажу шпаргалетку. – І пасля гэтых слоў распачала тлумачэнні: – Зірні, мама, на наш новы тэлевізар. Колькі разоў яго ўжо рамантавалі. Выклікалі майстра. Дык вось тыя рамонты і майстры называюцца гарантыйнымі.

– Добра, калі чалавек мае прафесію. Майстра. Так і пішы, унучак, – сказала бабуля. І пэўна, узгадаўшы бясконцыя гарантыйныя рамонты іх тэлевізара, ціхенька дадала: – Абіраць і дурыць народ.

– Не ўздумай гэтага пісаць, – перапыніў Моцеву руку бацька.

– Чаму? – пакрыўджана здзівілася бабуля. – Што, я не маю ў вашай сям'і права голасу?

Вось толькі такім чынам сямейнікі вярнуліся, а праўдзівей выйшлі зноў на тэму сачынення. Далей палілося бойка. Пра правы, гарантыі і свабоды. Толькі бабуля незадаволена чмыхала носам і плюшчылася са сваім каментаром. Клініла яе, як да гэтага клініла і бацьку, і маці. Пэўна, такі выпаў дзень. Клінаваты дзень, вырашыў Моця. І калі ён ужо так пачаўся, то да дабра не давядзе. Гэта было яму вядома яшчэ раней, чымсьці ён навучыўся думаць. Жыло ў ім разам з жаданнямі есці, піць, гуляць. Такое прадчуванне. Да школы нават прабудзілася. Было толькі дзіўна, што гэта непраходна, не збываецца з узростам. Вось таму клініла зараз і бабулю. Развярэдзіў ёй душу чортаў тэлевізар.

Бацька прыкмеціў, што галава Моці занятая зусім не сачыненнем:

– Біць буду, – строга прыгразіў сыну. – Не адхіляйся, злазь з неба.

Моця злез, а вось з бабуляй было цяжэй. Давялося браць яе за руку і весці ў другі пакой. Але і там яна не супакоілася, усё ўстаўляла свае два грошыкі.

– Выключце нарэшце гэты тэлевізар! – Не на жарт зазлаваў бацька. Дзверы бабулінага пакоя шчытна прыкрылі і замкнулі на замок. Але яна ці не ў замочную шчыліну, як падавалася Моці, крычала:

– Вось, вось і ўсе мае правы, даражэнькія гаранты. Вось і ўсе мае правы.

І чым далей, тым горш. Прыдзіралася да кожнага слова, што надыктоўвалі Моці.

– Не вучыце дзіця хлусіць. Гэтаму ён і сам навучыцца. Не вучыце дзіця хлусіць...

І тут бацька і маці кончылі дыктоўку. Моця занепакоіўся: хай бы ўжо працягвалі вучыць яго хлусіць. Хутчэй бы скончыліся пакуты. А трошкі-трошкі ж хлусіць ён ужо ўмеў і сам. Хаця ўсё тут не так проста. З хлуснёй і праўдай ў Моці былі складаныя, надзвычай складаныя адносіны. Гэта было нешта балючае, слёзнае і рухавае. Не заўсёды нават самому сабе мог адказаць: хлусіць ён ці гаворыць праўду. Настолькі ўсё заблытана. І хлусня, і праўда нейкія касабокія, пароўну надкусаныя і зaгaнныя. Хаця Моця засвоіў: маніць – заўсёды сабе даражэй. Але і гаварыць праўду... Толькі ёсць яшчэ і сярэдзіна. Навошта відавочна і шчыра маніць, калі можна проста хітрыць. І гэта хаця і не падабаецца яму, тут ён можа і нагой тупнуць, і заплакаць ад нейкай самому незразумелай крыўды, прыкрасці, уласнай шчырасці і няшчырасці. Але, як не дзіўна, касабокая праўда ўсіх задавальняе.

А тут што, якая праўда можа быць па-пісанаму. Ды яшчэ зададзенаму ў школе. Трэба пісаць, як трэба. Але ў бацькоў, пэўна, была другая думка. Яны амністыравалі бабулю, пасадзілі каля сябе за стол:

– Вучы ўнука праўдзе. Дыктуй яму праўду.

Бабуля пераможна агледзела ўсіх. Набрала ўдосталь паветра ў грудзі. Шырока адкрыла рот і як папярхнулася. Загаварыла зусім не сваім голасам. Выразным і добра пастаўленым голасам тэледыктара і яго словамі. І ці не словамі самога прэзідэнта.

Моця хацеў сказаць, што гэта ў яго ўжо запісана, але не паспеў. Маці з бацькам зноў пераглянуліся і суладна:

– Добра, добра, маці. Гэта мы ўжо прайшлі. Час закругляцца і ставіць кропку.

І галасы іх былі таксама як не свае. Не тэлевізійныя, але ж і не свае. Моця не здолеў распазнаць, што ў іх было, але чамусьці яму стала шкада іх. Усіх шкада. У тым ліку і самога сябе.

Нягледзячы на ўсе гэтыя спрэчкі і спатыканні сачыненне яны ўсё ж так-сяк зладзілі. Скляпалі. Моця перапісаў яго ў яшчэ адзін новы сшытак. На праверку памылак сіл ні ў каго ўжо не засталося: і так вялікае дасягненне. Моця хуценька, пакуль не апамяталіся, схаваў сшытак у ранец і, не марудзячы ні хвілінкі, выкуліўся за парог кватэры. Разняволенымі адразу нагамі, па ўстаялым у іх сям'і выразу, пайшоў біць лынды. Паглядзець незалежную, суверэнную радзіму і, маючы ўсе правы і свабоды народ. Гэта быў вельмі любы яму занятак, хаця і не асэнсаваны дагэтуль так яскрава, гучна і гожа. Лынды біць – і ўсё. Сціпла і коратка. Ніякай канстытуцыі. Прэзідэнтаў, гарантаў. Толькі ногі.

Ідзеш сабе і ідзеш, куды вочы вядуць. Ніхто не тлуміць галавы дарослым глупствам. А глупства хапае. Аж зіхаціць глупства. Вітрыны, вітрыны, рэклама, рэклама. І пакупнікі, пакупнікі. Калі яны толькі грошы паспяваюць зарабляць на свае куплялкі. А Моцю больш цікавяць твары і ногі. Гаваркія ногі ў людзей, як і ў яго. Праўдзівыя, хоць і гавораць, што ў нагах праўды няма. Праўда мо толькі ў нагах і засталася. Але і яны нейкія няправільныя ў горадзе, не прыстасаваныя да бруку, асфальту. Камень у полі – жывы, здаецца, і адгукаецца. А ў бруку – маўклівы, хаця ногі і рупяцца. Асабліва ў тых, хто пасля змены выхопліваецца з прахадных фабрык ці заводу, хто толькі прыехаў у горад, сышоў з поезда ці аўтобуса. Хада ў іх адметная, не хапатлівая, задуменная. Думка ў нагах і на тварах. Прыезджыя як мацаюць нагамі зямлю. Нібы толькі адкрылі яе ці адкрываюць разам з Моцем. І Моцю прыемна ісці побач ці сярод іх. Іншым разам ён падрабляецца пад іх хаду, але гэта не проста. Крок яшчэ не той, драбнаваты, не сысціся Моці з імі.

Але гэта мо і няблага. У горадзе добра лынды біць з разяўленым ротам. Спыняцца каля кожнага слупа, чытаць на ім аб'явы, вывучаць чужое і невядомае яму жыццё. Толькі сёння жыццё на слупах было нейкае нецікавае: куплю, прадам, зраблю. І пусціце на кватэру акуратную сям'ю, студэнта ці студэнтку, гарантую... Сумнае і аднастайнае ў гэты дзень было жыццё яго горада.

Сумнае, шэрае. І раптам яно засвяцілася. На чарговым слупе каля аўтобуснага прыпынку Моця прачытаў: "Потерялся колхозный мерин, масти сивой, по кличке Президент". І гэта літаркамі школьнымі, пузаценькімі. Як нібыта яго рукой пісаныя. На аркушы паперы ў матэматычную клетачку. А ўнізе пад гэтай аб'явай – хвосцікі з нумарам тэлефона. У першую хвіліну Моці здалося, што ён яшчэ працягвае пісаць сачыненне.

Моця тройчы перачытаў гэтую аб'яву. І пачаў разважаць: адкуль гэта ў сталіцы мог з'явіцца і згубіцца ў ёй калгасны сівы мерын. Згубіцца, канечне, з аднаго боку, мог: усё ж калгасны конік, і з канюшні ў мільённы горад. Такое магло здарыцца. Ён жа вывучыў, як ходзяць па горадзе вясковыя людзі, з перасцярогай, мацаючы зямлю. Хаця, з другога боку – конь, не сабака, не кот. Конь, ды яшчэ мерын. Але больш за ўсё Моцю ўразіла імя каня: прэзідэнт. Насланнё нейкае. З-за аднаго прэзідэнта ён ужо сёння пацярпеў. А тут ён зноў як знак нейкі. Пошасць, засада. Не, бокам-бокам і прэч.

Але на наступным слупе ён бачыў, літарка ў літарку, такую ж самую аб'яву. Папера тая ж самая і рука. І на наступным, і колькі Моця іх не мінаў, адна і тая ж аб'ява спраўна вісела на іх. І Моця не ўстрымаўся. На ўсякі выпадак узяў і адарваў хвосцік з нумарам тэлефона. Не, зразумела, ён і не думаў званіць, але ж, шчыра кажучы, лёс каня ўжо хваляваў яго. Каня і чалавека, які, пэўна, так любіў таго каня, што па ўсім горадзе, лічы, расклеіў аб'явы.

Яшчэ раз – не і не. Зарокся Моця мець хоць якое дачыненне да каня з такім знакавым імем. Але ж само так атрымалася. Як толькі даспеў да дому, адразу ж кінуўся да тэлефона і пазваніў. І яму адразу ж адказалі мужчынскім і нейкім безаблічным голасам:

– Дежурный по приемной президента слушает.

– Дык што? – здзівіўся Моця. – Мерын ужо знайшоўся?

– Нет, еще не нашелся. Ищем. Но обязательно найдем скотину. У вас что-то имеется сообщить по этому поводу?

– Ды не, што я магу саабшчыць. Проста, як вы кажаце, скацінку шкада...

– Не волнуйся, мальчик. Не волнуйся, найдем, найдем скотину. А ты не клади трубку. Поговори со мной. А лучше сразу зови отца.

– Отца? – невядома чаму спалохаўся Моця, хаця, здаецца, прычыны палохацца не было. Толькі Моця быў ужо вучоны школай: калі хочуць бачыць яго атца, гэта заўсёды чырвоны сігнал светлафора. А бацька ўжо быў тут як тут. Прывучаны, пэўна, чуць нават носам тое, што сын зноў нешта ўтварыў.

– Што вам, таварышок? – спытаўся бацька, адабраўшы ў сына слухаўку.

Адказу таварышка Моця не пачуў, але гаворка, па ўсім, была не з прыемных. І напрыканцы бацька спытаў:

– Адрас патрэбны?... Не, то і добра. Чакаем.

На Моцю ён нават і не зірнуў. Толькі выцягнуў са штаноў папружку. Моця ніколькі не сумняваўся, навошта гэта ён рабіў. Хаця да папружкі выхаваўчая роля бацькі ніколі яшчэ не даходзіла. А тут...

Што будзе тут, доўга чакаць не давялося. Ужо літаральна хвілінаў праз дзесяць, якія б Моці хацелася расцягнуць на гадзіны і нават дні, у дзверы пазванілі. У кватэру зайшлі трое ў цывільным. Толькі іх цывільнасці відавочна не хапала пагонаў. Поступ іх быў службовы, дзяржаўны, не трываючы пярэчанняў, дзе б яны ні былі, і куды б ні ішлі. І выхаваныя яны былі, не выключана, добрай папружкай, да аскоміны лагодныя, прыязныя, нібы медам намазаныя, але не салодкім – колкім, сталяліцейным.

– Ну, вот и хорошо. Встретились, любезный, встретились. – гледзячы

ва ўпор на Моцю, радасна загаварыў, пэўна, галоўны. – Нашли скотину по имени президент!

Моця прамаўчаў, чакаючы, што ён скажа далей. А бацька нечакана для Моці абурана зазлаваў:

– Таварыш, не абражайце нашага прэзідэнта!

– Понимаю, понимаю и разделяю ваши родительские чувства. Только вы, наверное, не догадываетесь, что ваше чадо – уже рецидивист. Вычислили.

– Яшчэ чаго не хапала. Ніякі я не рэцы...

Тут і Моця падаў голас: незнаёмае слова рэцыдывіст пакрыўдзіла яго. Што за аблога такая ў адзін дзень: то гара, то СМІ, а цяпер во на табе...

## Моця і яго пазнанне свайго хобі

Дзень быў Божы. Душэўны, працяглы небу, зямлі, іх прасцягам і часу. Такі, як і патрэбны. Што надараецца толькі ўлетку. Калі цябе не выхоўваюць і не вучаць і не трэба ў школу і па хаце нічога не зададзена. Ты ў вёсцы. І ўсё навокал тваё, у табе і з табой. Нават курыная слепата, кураслеп – кветка, ад якой, кажа бабуля, слепнуць куры. Куры слепнуць, а Моці хоць бы што. Колькі ні глядзеў, ні разу не аслеп. Рэчка, з беражком поўная вады, і ты мімаволі угінаешся ад цяжару сонца на плячах, уваходзячы ў яе.

Шкада толькі, што такія дні нявечныя. К вечару іх як хто пачынае есці. І пры захадзе сонца з'ядае да сутоння, а потым і густой цемры. Хто толькі прыдумаў гэтую цемру і ноч. Дня Моці ў вёсцы ніколі не хапае. Толькі, здаецца, падахвоціўся, звыкся з бясконцасцю святла. Як ужо час мыць ногі, есці і класціся спаць.

Але што дзіўна: вечаровая ахвота доўжыць дзень і святло ранкам некуды знікае. Нехта скрадвае ў чалавека ўчарашняе, былое. І ранкам даводзіцца пачынаць не з таго, з чым ён засынаў, а спачатку. Нібыта пачаткі і канцы варагуюць, не сыходзяцца. Гэта Моця прыкмеціў ужо даўно, і чым больш намаганняў звесці іх, састыкаваць, тым далей яны адно ад аднаго адбягаюць. І справа тут не толькі з вечаровымі і ранішнімі жаданнямі, а ўвогуле з усімі жаданнямі – марамі, мроямі, памкненнямі. Нешта заўсёды кісла ў носе ад сутыкнення жаданага ўчора і збытага ці маючага збыцца сёння.

Але кожны раз Божы дзень бярэ сваё. І Моця тым ранкам, як толькі прачнуўся, пачаў шукаць у ложку сваю даўнюю мару, сваё праз столькі пакут, расчараванняў ўрэшце набытае хобі, падараваны яму ўчора вечарам бацькам спінінг. Хобі ў ложку не было. Моця ледзь не заплакаў: зноў прыснілася. А такое ж гожае хобі. Заморскае, блакітнае, а на сонцы глыбінна цьмянае – колеру металік ці мокры асфальт. І катушачка пстрыкалкай, галавасценькая і пявучая, і леска па кольцах, па кольцах да самага шчыка. А напрыканцы той лескі самы сапраўдны воблер – рыбка, што аж ліжацца, іграецца і ззяе ў вадзе, спакушае каляровых акунёў ды розных шчупакоў.

Тых акунёў і шчупакоў ён за ноч налавіў, здаецца, незлічона. Моця спалохана пачаў мацаць прасціну пад сабой. Не, суха, суха ўжо, колькі ён сябе памятае. Куды ж тады дзеўся спінінг. Ён паклаў яго перад сном пад коўдру, каб з усходам сонца не марнаваць часу: хобі ў рукі і ходу на раку.

Праспаў, сонца ўжо выядае вочы. І на раку няма з чым ісці. Не збыліся сны, развеяліся мроі. Знікла мара ідыёта. Прапала хобі.

Далося ў знакі яму гэта хобі. Не, каб гаварыць па-людску і шчыра прызнацца: няма чаго рабіць – здуру шалеюць. А то трашчаць усе як сарокі. І на вуліцы, і ў класе, і дома: хобі, хобі. Моці крыўдна – белая варона. Ну, не было ў яго ніякага хобі. А ва ўсіх навокал ёсць. Збіраюць алавяных салдацікаў – ды каб жа алавяных, пластмасавых балбесаў – маленькія легкавічкі, маркі. А дзяўчынкі ўвогуле – непатрэбства. Фанцікі, лялькі, розных там дэбільных Барбі: хобі. А Моці гэта не цікава. Яму б што-небудзь такое, такое...

Ён, праўда, прайшоў праз усё такое. Ад алавяных балбесаў і, сорамна прызнацца, да дэбільных Барбі. Як гаворыць бабуля, паскудства, браце, і не пытайся. Хаця нешта адзіны раз і варухнулася. Захапіўся музыкай. Сусед музыкант сказаў, што ў яго бездакорны слых. Моцю купілі інструмент. І не што-небудзь – піяніна, як танк з белымі і чорнымі зубамі. Сур'ёзная рэч, цягнулі ў кватэру праз балкон – у дзверы не пралазіла. Патрушчылі на тым балконе ўсе шыбы, сапсавалі толькі што праведзены рамонт у пакоях.

Моця хадзіў пеўнікам і чырванеў шчокамі і носам. Цяпер і ён з хобі. Цяпер ён пакажа ўсім сваім хаўруснікам, як урэжа падыспань, усе адразу пабягуць не ў тую стэп. Але ж... Што але ж: гамы, гамы з ранку да вечару. І мымра настаўніца: як ты б'еш па клавішах, як ты трымаеш рукі. Адкуль яны ў цябе растуць? Правільна, адтуль, але там у цябе і шыла, і цвік. Яна што ў цябе, на спружынах? Аніякай уседлівасці. Сядзець трэба...

Моця сам вызначыў, дзе і як яму трэба сядзець. Настаўніца на парог, а ён адразу ж у прыбіральню. І на ўвесь урок, раз за разам. Дастаў тую мымру, давёў да таго, што вытанчаная музычка ў пенснэ і карунках забылася, што яна пры пенснэ на носе і накрухмаленых карунках па ўсім тулаве. У адно імгненне ссыпаўся з яе ўвесь крухмал:

– Багата ў мяне было вучняў. Ёсць і славутыя музыканты. Былі ўсякія. А такога засранца сустракаю ўпершыню, – выгукнула гэта і так бразнула дзвярыма, што ў чэраве піяніна абудзіліся адразу ўсе ноты ад "до" да "до". А Моця ўведаў, што такое сапраўднае шчасце і як яго можна дасягнуць.Уседлівасцю, уседлівасцю і ахвяраваннем, а крыху і ганьбай свайго добрага імя.

Але ж пытанне з хобі засталося адкрытым. Жаданне займець яго не прайшло. Не хацелася ўсё ж быць белай варонай. А тут падаспелі і канікулы. Лета – вельмі зручны час для вырашэння адразу і цалкам усіх школьных і жыццёвых праблем. А Моця забыўся на ўсе свае праблемы. Толькі яны не забыліся пра яго. Не-не ды нешта агорвала яго, вярэдзіла душу. А што, ён і сам не ведаў. Пачаў пільнаваць навакольнае вясковае жыццё і самога сябе ў ім. І неўзабаве дапяў да таго, што яму трэба, чаго яму не хапае ў вёсцы і леце. Самаадданасці ім, занятку, каб аж дух захоплівала і вочы ад задавальнення на лоб лезлі. Атрымлівалася – хобі.

І хобі знайшлося, выйшла на яго само. Яно было побач. Плавала ў рацэ, у якой плаваў і ён. Церлася аб пальцы яго ног, калі ён стаяў у вадзе пры беразе ракі. Маленькае такое, празрыстае, што слюдка. Коўзкае і рухомае і дасціпнае. Пашчыпвала яго ногі, нібы імкнулася паласавацца імі. Пазней Моця зразумеў, што гэткім чынам яго прываблівалі і спакушалі. Вада, рака ці нехта ў ёй падсылаў да яго маленькіх рыбак, каб ён праз

іх адчуў сябе, зразумеў няпэўнасць, а мо і поўную бяссэнсавасць свайго расліннага летавання ў вёсцы.

Так упершыню Моця ўзяў у рукі вуду, як селянін бярэ сякеру, салдат вінтоўку, дзяўчына серп, каваль молат. Напяў прывязаную да канца вуды леску і адчуў, як усё ў ім затрымцела. Праз гэту леску ці гэтай лескай, тоненькай стрункай, ён прывязаны да неабсяжнасці ўсяго наваколля, звязаны з сусветам. Нешта перадае вадзе, рэчцы, а тыя ўхвальна пасылаюць яму спрадвечнасць. Спрадвечнасць таго, чым жыў і будзе жыць чалавек, а мо і адбіраюць гэта, свой пасыл і дар. І хобі гэта ці не хобі, але нешта вартае чалавека, яго сапраўднасці, адбытасці. Але дзе ж насамрэч гэта сапраўднасць. Няўжо толькі летуценні, мроі і сны. Моця заварочаўся ў ложку, кінуў вачыма па баках пакою. Не, вось яна тут, варта толькі руку працягнуць. Стаіць у куце, напагатоў ужо, падрыхтаваны, каб кінуцца ў рукі Моцю. Бацька, пэўна, ноччу выцягнуў яго спінінг, з ложку, каб Моця выпадкова ў сне не зламіў самога сябе. Толькі ж дзе цяпер бацька. Яны ж дамовіліся яшчэ на ўсходзе сонца разам пайсці на рыбалку.

Першая рыбалка на ўсходзе сонца – гэта таксама ранняе жаданне Моці. Толькі ён каторы год тоіць гэта ў сабе. Ёсць прычына. Яшчэ з маленства, падсвядома Моця цягнуўся да ўсяго, што звязана з вадой і рыбамі, нібыта сам калісь быў рыбай і вадой. А мо і быў, ды забыўся. Чалавеку ж так цяжка вярнуцца да былога, страчанага, згубленага, забытага. Недарэмна ж амаль усе, асабліва сталыя людзі, яго ж бабуля, калі яе пытаюць, каго ці што яна ўвесь час шукае, адказвае: учарашні дзень. Дзень гэты ёй, пэўна, так і не знайсці, але ён жывы і не збыты ў памяці Моці, бо такое не забываецца.

Увогуле, чым больш ён расце, тым больш непрадказальнай і пакручастай робіцца яго памяць. Ён нават не здольны з пэўнасцю сказаць, яго гэта памяць ці некага іншага. Раней у ёй быў толькі ён. І помнілася ўсё толькі шчаслівае і задаволенае. А цяпер у яго памяць усё часцей і часцей заходзіць нехта пабочны і не надта пажаданы, бо прыгадваецца такое, што ён бы і не хацеў памятаць, часам горкае, часам кіслае, а часам і зусім брыдкае, саромнае і нават ганебнае. Калі і далей так пойдзе, то гэта невядома куды і да чаго давядзе. Скарачаць, скарачаць, укарочваць трэба ўжо і яму, Моці, ягоную памяць.

Так ён хацеў бы скараціць, нават выкрасліць з яе і той сумны самагубны дзень, калі ён нешта і зусім трошачкі адчуў і ўведаў пра рыбу, ваду і рыбалку, калі яго скаланула і прынізіла да жуды і страты сябе тое, што сёння завецца так не звыкла нармальнаму вуху – хобі.

Гэта было ўзімку. Бацька рыхтаваўся да падлёднай рыбалкі. Увесь дзень, як казала маці, біў лынды, бегаў па такіх жа прыдурках, як і сам, што з усяго гораду сцягваліся каля рыбацкага магазіна “Байкал” і, як ля царквы, мітынгавалі там, тусаваліся, вырашаючы свае рыбацкія праблемы. Нешта куплялі, нешта прадавалі, нешта абменьвалі ці проста лупілі вочы, часалі языкамі – дзеці, што адчувалі сябе супермэнамі, звышчалавекамі. Абранымі і званымі. Натуралы ці натурапаты.

Тым зімовым перадвыходным вечарам бацька прыбег з чарговай тусоўкі ля “Байкала”, падскокваючы:

– Такіх жыўцоў урваў, такіх жыўцоў урваў, – тыцкаў у нос хатнім смаркатымі ёршыкамі і лупатымі карасікамі і месца не знаходзіў, куды іх паставіць у прахалоднае месца, каб не заснулі.

– На бажніцу, – раіла бабуля.

– Сабе ў штаны, – падказвала маці.

Бажніцы ў кватэры не было. А ў штаны, пэўна, не падыходзіла. Бацька пакінуў сваіх жыўцоў у вядры з вадой, хлорнай, яшчэ падумаў Моця, паставіў у калідоры. Моця вырашыў выправіць яго недагляд, дапамагчы жыўцам выжыць. І як толькі ўсе леглі спаць і, здаецца, заснулі, перакінуў акварыум, дзе раскашавалі розныя там гамбусы, дафніі, залатыя рыбкі: калі ім добра, то і жыўцам будзе ўтульна.

Прачнуўся сярод ночы ад ляманту бацькі:

– Хто ж гэта даўмеўся, хто ж гэта ўтварыў?

Дафніі і гамбусы разам з залатымі рыбкамі за ноч састарыліся і ссівелі. Палеглі на дно і паверхню вады акварыума ўгару раздзьмутымі белымі брухамі. Моця ўстаў, толькі зірнуў на іх і адразу ж на дыбках моўчкі бокам, бокам ад раз'юшанага бацькі зноў у ложак.

Маці сказала, што гэта не яе рук работа, на душагубства яна няздольная. Выратавала бабуля, узяла віну на сябе. Ды яшчэ дакарыла бацьку:

– Знайшоў бяду. Людзі сёння мруць, як мухі, а ты... Чаго лютуеш. Жыўцы ж твае жывенькія. Свежанькія і рухавыя.

І праўда, карасікі і ёршыкі раскашавалі ў акварыуме, нібы там і векавалі. Адно толькі, плямкалі роцікамі, пашчыпваючы нерухомых дохленькіх залатых рыбак за спінкі і хвосцікі, ласаваліся імі.

– Я ж хацела табе дагадзіць, я ж думала як лепей, – ужо апраўдвалася, а мо і ўхвальвала іх бабуля. – Хто ж ведаў, што яны такія хічнікі, цыгры.

Бацька раніцой так і не выбраўся на першую той зімой падлёдную рыбалку. Па ўсім, і не надта паверыў сваёй маці. Ведаў сына, а даказаць нічога не мог. Хадзіў, бурчэў, скоса пазіраў на Моцю, нібыта ён і не сын яму. Гэта быў ужо не першы выпадак, калі Моця псаваў бацьку рыбалку, замінаў яго хобі.

Увогуле трэба адзначыць, калі бацька збіраўся на гэта сваё хобі, усе сыходзілі з яго вачэй, шыліся па кутках. А маці яшчэ і пад'ялдыквала:

– Ахтунг, ахтунг! Увага, увага! З вамі побач рыбак!

Бабуля падтаквала ёй:

– Беражыце азадкі! Беражыце азадкі!

І сапраўды іх трэба было берагчы, што Моцю было крыху і дзіўна: чаму на свеце ўсіх і кожнага, у тым ліку і ў яго больш пакутуе самае бяскрыўднае ў чалавеку месца. Чаму яно за ўсё адказнае. Робіцца ж усё рукамі, а адказвае... Непамысна. Як увогуле непамысна было ўсім падчас бацькавых збораў на рыбалку. Не кватэра, а вар'яцкі дом.

На стале, на крэслах, на ложках паўсюль, дзе і не прыдумаць, яго рыбацкія прылады. Вуды, вудачкі, стаўкі, адчэпы, прынада для рыбы. І гэта яшчэ можна было трываць. А выпадала ж і не трывушчае. Тыдзень пасля яго збораў ці то бабуля, ці то маці натыкаліся і выдзіралі з розных месцаў блёсны, кручкі, мармышкі і іншы калючы і рэжучы інструмент. І не дай бог абурыцца і папікнуць бацьку. Гняўлівы і помслівы ён быў наконт усяго, што тычылася яго хобі, рыбалкі, неймаверна. І Моця маўчаў і трываў. І не толькі таму, што баяўся бацьку.

Зайздросціў. Зайздросціў яго апантанасці, непрадказальнасці і таямнічасці – усяму, што стаяла за яго хобі. Хаця спайманую бацькам рыбіну бачыў зрэдку. Але гэта ўжо зусім іншая справа. Галоўнае, як ён часцяком ад бацькі чуў і разумеў, – працэс. І яго з неадольнай сілай цягнула да гэтага дарослага бацькавага працэсу. Было ў той цязе штосьці невытлумачаль-

нае. Так ці не зладзейкаватае. Бо так, пэўна, цягне сапраўднага злодзея, а мо і проста шкадліўца справа і месца, дзе ён нешта ўдала скраў, альбо нашкодзіў. А ён, што ні кажы, нашкодзіў і не хоча, а мусіць таіцца.

Але ўсё гэта ўжо ў мінулым. Злодзея і шкодніка падслухалі і падахвоцілі і благаславілі. Ёсць праўда на свеце. Бог не цяля, мае ласку і да круцяля. Моця са сваім новенькім спінінгам разам з бацькам ідзе на сваю першую дарослую рыбалку. На буйную рыбу. Праўда, крыху адстае ад бацькі, таму што практыкуецца. Гэта трэба, пакуль паляна, роўнае месца без кустоў. Ён робіць адзін закід. Асцярожна, напаўмоцы. Другі ўжо больш смелы.

Гэта здарылася на трэцім, самым удалым і, здаецца, самым дальнім закідзе. Праз плячо, з разваротам, на поўную сілу. Ён яшчэ працягваў шукаць у небе воблер, але бачыў толькі стракоз над галавой. І тут яго нібыта хтосьці пачаў распранаць, сцягваць штаны. Ды каб толькі сцягваць. Хто так моцна кусаецца, паспеў ён яшчэ падумаць і прысеў ад нясцерпнага болю. Моця закружыўся на поплаве ці не з большым імпэтам, чым тая ж страказа над ім. Заматаўся ў лёску, але так нікога і не ўбачыў, ні зубатага, ні бяззубага. А пякло, пякло. Гадзюка, падумалася яму. Няйнакш падкралася і джыгнула атрутным клыкам. Няцямна кінуў руку на клубы сябе і наткнуўся пальцамі на воблер. Уздумаў адчапіць яго і зразумеў, што не справіцца. Ці не абодва трайнікі таго воблера ўпіліся яму ў цела. А пад калені ўжо вілася, бегла, струменіла кроў.

Хацеў заплакаць, але стрымаў сябе. Стрымаў думкай, а адказвае яна. А яшчэ, ужо супакойваючы сябе, але не ганячы і без асаблівага шкадавання сябе, як крыху наперад, яго нагнала думка, што ў гэтым жыцці мала жыць аднымі толькі жаданнямі і марамі. Дзеля сапраўднага хобі трэба нечым і ахвяраваць. Хаця ахвяры часам бываюць вельмі, вельмі недарэчныя, нават ганебныя. Як у яго, ні самому паглядзець, ні людзям паказаць. Такая ўжо рыбацкая доля. І дым густы, і наедак пусты. Ахтунг, ахтунг – гэта плата за набытае нарэшце хобі.

І Моця пачаў клікаць на дапамогу бацьку, бо ведаў, што ў таго заўсёды пры сабе не толькі адчэпы, але на такі вось медыцынскі выпадак хірургічны скальпель.

## Моця і яго маладыя бегі

Моця гнаўся за сваім ценем. Спачатку па асфальце свайго ж двара, ямнага і калдобнага, але даволі прыстойнага, вышараванага як зубачысткамі, начным ліўнем. Потым зноў жа па асфальце тратуараў горада, туманкава шызых ад ранкавага прыпару і падэшвеннага прыціру і ўгрэву шматлікіх прахожых. Далей ужо выхапіўся ў прыгарадную прастору прыватных дамкоў з засцерагальна шчытнымі платамі і хітрым прыжмурам за імі шыбін вокнаў з сінім сумам угледання ў сваё ж мінулае і будучае.

Моцеў цень быў нейкі надта ж непаслухмяны, непрыручаны, як не яго. То кідаўся пад ногі, то наравіў схавацца ў большым цені прыплотных дрэваў. Моця няспынна цікаваў за ім і злаваўся, ужо, здаецца, перагнаў, наступіў на яго. А ён, варта яму толькі выхапіцца на сонца, усё наперадзе і наперадзе. І толькі галоўкай ківае, яго, моцевай галоўкай, але ж і чужой, непадступнай.

Моця, канечне, добра ведаў, што так і павінна быць. Свой цень яму

ніколі не дагнаць, тым болей не перагнаць. Гэта было падобна на тое, як ён летась у вёсцы спаборнічаў з бацькам, калі той калоў дровы. Бацька калоў. А ён за ім падбіраў колатае і складваў у паляніцу. Так выжыльваўся, так пнуўся, што бацька не вытрымаў, зразумеў яго задуму:

– Хочаш апярэдзіць мяне? Гэта немагчыма. Нерасколатае мной у паляніцу не пакладзеш. Апошняе слова за сякерай.

Так-то яно так. Толькі сякера бязглуздая, а ў яго розум. Тое ж самае і з ценем. Гэта ж яго, моцеў цень. Ён яго нарадзіў, даў яму ногі, прымусіў, навучыў хадзіць. Чаму ж ён такі зацята ўпарты. Разбэшчаны і непаслухмяны. Нешта не так з гэтым ценем, як і сякерай. Дагары нагамі. Увогуле ў гэтым свеце шмат чаго дагары нагамі. Парадкаваць і парадкаваць яго трэба.

Вось хаця б узяць сённяшні ранак. Зусім жа не за ценем ён ганяецца. Няма дурных за ім гнацца. Хаця, на яго думку, гэта і не такая ўжо цалкам дурная справа, і займаецца ёй не адзін толькі ён. Варта толькі азірнуцца і падумаць. Не дагнаць, не дагнаць, але ж, але ж... Колькі гэтых “не” напрыдумвалі сабе людзі, калі слухацца і адпавядаць кожнаму з іх, можна ўрасці ў зямлю і засохнуць, няма чаго і нараджацца, усё роўна ж памрэш. Не, за ўласным ценем варта пабегаць. Толькі сёння ён бяжыць не за ім. Гісторыя доўгая. І пачынаць яе трэба здалёку.

Колькі сябе памятае Моця, ён увесь час хацеў займець сабаку. Сябра ці жывую істоту, якая б мела голас, гаварыла, гаўкала, але не пярэчыла яму. Не вучыла, як трэба жыць. З цягам часу гэта, канечне, адышло. Яму проста патрэбны быў сабака. Навошта, навошта? У адзін голас усхадзіліся бацькі. А каб ён сам ведаў, навошта. Хочацца, і ўсё. І растлумачыць гэта немагчыма, бо міжволі пачнеш хлусіць. А хочацца – гэта вельмі шчырае і непадробнае слова. За тлумачэннямі ж заўсёды хлусня сабе і іншым.

Лепш за бацьку з маці гэта разумела бабуля. Пэўна, таму, што не адрывалася ад тэлевізара, хаця і плявалася:

– Хлусяць, хлусяць. Дураць галаву. Не, каб проста праўду сказаць – тлумачаць, тлумачаць. Бляваць верне, а цікава, як перад канцом свету. – Плявалася, але зноў прыпадала да тэлевізара, бо так ёй карцела, хацелася.

Вось і Моця хацеў мець сабаку. Без тлумачэнняў, шчыра. Апрацоўка бацькоў была доўгай. Браў іх Моця штурмам, цярпеннем і зморам. Узяў. Пытанне ўзнікла толькі наконт пароды. Маці прапаноўвала маленькага, пакаёвачку. Такі якраз быў у яе сястры. Тут Моця паўстаў. Тая пакаёвачка яму зусім не падабалася, хаця ўвесь час хадзіла на задніх лапках, падцяўшы пярэднія і хвост. Мо і за гэта не хацеў яе Моця. Надта ж ліслівая і танканогая, і паджарая нейкая. Такім Моця не давяраў. Да ўсяго ж яшчэ і шкадлівая. Да гаспадыні ліжацца, а яго ўвесь час наравіць знянацку ўкусіць за руку ці за нагу.

– Не і не, гучна абурыўся Моця на прапанову маці. – Засмяюць усе на двары. Яе ж, яе ж... і пацалаваць гідка.

– Дык ты што, цалавацца з ёй хочаш?

– Цалавацца не цалавацца, але ж...

– Гідка, гідка, – нечакана падтрымаў яго бацька. – Як гавораць, калі танцаваць, то і кружыцца. А тут... Не, вальс-бастон з пакаёўкай не зладзіш.

– Аўчарку. Аўчарку, нямецкую ці каўказскую, – ціхенька выціснуў з сярэдзіны сябе Моця. Вартавую, каб і на ваўка...

– Толькі тады, калі вынясеце мяне з хаты наперад нагамі. Яна ж мне галаву адкусіць і не прыкмеціць, – абурылася бабуля.

– Пры сённяшніх цэнах на ліверку і косці... – хітнула галавой маці.

У той час усе чацвёра так і не прыйшлі да згоды. Пытанне з сабачай пародай па ўсім было тупіковае і на нейкі час засталося адкрытым. Павісла, як казаў бацька. Але Моця быў рады: усё, што вісіць, некалі падае само па сабе. Гэта ён ужо засвоіў: цяжэй падвесіць, чым зняць. Галоўнае, не даць засмярдзець: нагадваць і біць, біць у адну кропку. Што Моця наладзіўся рабіць з вялікім спрытам і нават натхненнем.

І тут ён дамогся свайго. Пытанне вырашылася нечакана і проста, як гэта заўсёды бывае, калі нечага вельмі хочацца: хто варушыцца, той варушыць і свет. Аказваецца, трэба было толькі купіць газету і ўважліва пачытаць аб'явы. Пра сабак было там да чорцікаў. На любы густ. Хоць цалуй іх куды хочаш, хоць танцуй вальс-бастон і кружыся да... да ўпаду.

Так, па аб'яве ў газеце, Моця і выйшаў на сваё хочацца, аднагалосна зацверджанае ўсімі хатнімі, асабліва бабуляй. Ёй надта ж спадабалася назва пароды сабакі: спаніэль. Хаця яна і не ведала, што гэта значыць, але, як прыкмячаў і раней Моця, на старасці гадоў яе ўсё болей і болей прыцягвала ўсё невядомае і невытлумачальнае. Дапытлівая была бабулька. Напрыканцы жыцця імкнулася ўсё спазнаць і пра ўсё ўведаць. У прыдбаным жа сям'ёй цуцыку яе прыцягвалі вушы: навошта яны такія вялікія і віслыя, як лісты лопуха ў спёку. Апроч дзіўных вушэй і не менш дзіўнага імя, той спаніэль меў сапраўдны пашпарт з генеалагічным дрэвам – радаслоўнай – і медалі, атрыманыя на розных сабачых выставах і агледзінах.

– Дзівосы, дзівосы, – гаварыла бабуля. – Я звекавала без пашпарту, і ні адзін сабака мне аніякай медалькі не даў. А цяпер у кожнага цуцыка – пашпарт і медалёк. Дзівосы, дзівосы...

У цішы і сонным ачмурэнні квецені прысадаў прыватнай задумлівасці Моці беглася амаль у ахвотку. Не параўнаць з асфальтавымі бегамі па горадзе. Сады і хаты тут дыхалі і надавалі рухавасці, дыху і яму. Беглася водарна і смачна, як пасля добрага сняданку – так зазыўна і добразычліва слалася пад ногі яму пахкая дарога – так патыхала гаркавым, з прысмакам нечага вельмі спажыўнага і нязведанага ад коміна кожнай хаты, з адкрытых насцеж дзвярэй іх, агародаў, сядзіб і нават самой зямлі. Вось тут бы заўсёды яму і месціцца са сваім спаніэлям, жыць ад ранку і да вечару. Ён бы тады не ленаваўся. Ён бы тады кожны дзень па тры, а то і чатыры разы выгульваў яго. Цэлы б дзень выгульваў: адкрыў дзверы, і хай сабе бегае. А ён бы не, ён бы палежваў у адным з гэтых гамакоў сярод садовых яблыняў, і вясновы квет казытаў яму нос, губы. Ён бы толькі сплёўваў і чмыхаў. Жывуць жа людзі, жывуць, хоць і абвешаліся шыльдамі: "Асцярожна! Злы сабака".

Ён бы нават і шыльду такую не стаў пісаць. Яго спаніэль зусім не злы. Але нешта надта ўжо шпарка ён бяжыць. Спрыяе і яму тут усё для бегаў. Толькі вушы разлятаюцца. І падумаць немагчыма, што было шчанё шчанём, паслухмяным і ласкавым і, здаецца, зусім няздольным на здзек. А вырасла такая сучка.

Моця вёз тое шчанё, свайго файнага цуцыка, у суправаджэнні бацькі на тралейбусе. У кардоннай скрынцы з-пад шыкоўнага абутку фабрыкі "Марка". Нацешыцца і намілавацца не мог. Гладзіў, лашчыў, нават калі ніхто не бачыў, прападаў вуснамі да халодненькага і мокрага ружовага носіка. І

неўзабаве за Моцем і яго цуцыкам у скрынцы наглядаў увесь тралейбус. Зайздросцілі, пэўна, нязбытаму ў дзяцінстве. Толькі адзін дзяцюк, калі Моці трэба было ўжо выходзіць, ні то з сумам, ні то з жалем кінуў: яшчэ адно новае Муму, яшчэ адзін Герасім. Што гэта значыла, Моця даведаўся пазней. Каб жа тады ён быў хоць крыху больш адукаваны...

Усё збылося амаль па Івану Сяргеевічу Тургеневу, якога ён мо і з-за гэтага на ўсё жыццё неўзлюбіў. Напрадказвалі гэтыя Іваны Сяргеевічы, напрарочылі, языкі ім павыдзіраць. Усё збылося ці вось зараз збываецца амаль па-пісанаму. Толькі, зразумела, з папраўкай адпаведна сённяшняму часу. Вечны Іван Сяргеевіч, вечнае Муму. І неўміручы Герасім пры ім.

Спаніэлю, а гэта быў не ён, а яна, далі імя Пані Эля. Ды каб яна апраўдвала сваё імя. Увогуле, як прыкмячаў Моця, з гэтымі імёнамі ці ў яблычка, ці наадварот пальцам у неба. У нейкім сэнсе і з ім так. Знайшлі Моцю... Хаця не, нічога, пасаліўшы есці можна. А вось пані Эля, што з соллю, што без солі: пярчыць яшчэ трэба, заплюшчвацца, адварочвацца і стоіваць дух.

Звычкі ў пані зусім не панскія. Нехта ў яе родзе ўсё ж саграшыў пэўна. З заганамі, ухіламі і вывіхамі аказалася шляхцянка. Крывабокая, ненаедная і ці то дурнаватая, ці то ўжо надта разумная, да таго, што Моця сваім розумам і спасцігнуць яе не мог. Вышныпарыла, падабрала на моцевым двары ўсе галовы селядцоў. І не супакоілася. Прагла і чакала іх. Цікавала каля альтанкі кампаніі, што гулялі ў даміно. Гучна забівалі казла і, вядома, пацягвалі чарнільца, заядалі не шашлыкамі – kількамі ды селядцамі. Гэта была заўсёды пажаданая хеўра. Хаўрус, пэўна, будучай алканаўткі – паляўнічага сабакі вузкай спецыялізацыі па здабычы дзікіх качак.

Трэба адзначыць, што Пані Эля мела ўсё ж і гонар. Яна ніколі не старцавала, не выпрошвала пачастунку, як ведала: самі дадуць. І ёй давалі. Тут ужо яна не грэбавала браць з рук, з-пад ног казлятнікаў. Не грэбавала маленькімі галоўкамі і нават хвосцікамі кількі, да чаго не апускаліся мясцовыя бамжаватыя і беспашпартныя дваране – дваровыя сабакі.

І Моця мімаволі пачаў саромецца, імкнуцца як мага меней са сваёй шляхцянкай выходзіць і затрымлівацца на двары. Пазбягаў людскога вока і не выпускаў з рук шворкі. Бо нюх на пошукі і знаходкі паскудства паненка мела адметны. Праўду кажуць, не ўсе пані з тых, што маюць знакамітую радаслоўную і носяць на шыі медалі, нават залатыя. Аднаго медаля Пані Элі, відавочна, не хапала, не далі. Медаля за брыдоту. Паненка беспамылкова выходзіла на якое б там ні было паскудства на вуліцы, такое ўнюхвала непатрэбства, што і прызнавацца гідка. Вось табе і шляхетнасць. З князі ды ў такія гразі.

Пані Эля даволі ўтульна і забяспечана, як сыр у масле, перазімавала ў моцевай кватэры. За зіму ў дадатак да той ежы, што атрымлівала, паспела з'есці ці пагрызці дзве пары мадэльных лакаваных туфляў маці, бацькава службовае пасведчанне, забытае ім на стале, моцеў школьны ранец. З маёмасці бабулі не кранула нічога, што было дзіўна. Упадабала толькі мачыцца на яе хатнія стаптаныя тапці, а яшчэ, калі іх высушвалі, любіла на іх спаць. Мо сніла яе гады і жыццё, дарогі, мову зямлі, сцежак, па якіх бабуля хадзіла. Таму ж, пэўна, пакусала і мадэльныя туфлі маці: прагнула выйсці ў свет і патанчыць, зайздросціла жанчыне і помсціла, што ёй самой гэтага не дадзена.

Так ці не, можна толькі меркаваць. Бясспрэчна толькі, што ў адносінах да чужога абутку хавалася ў яе нешта таемнае, сабачае. Пані Эля падоўгу

абнюхвала яго, лізала, моршчыла нос, пускала пад лоб вочы, нібы гаварыла з ім. Варта было некаму з сямейнікаў толькі ступіць на парог ці нават бразнуць дзвярыма ліфта, як яна ўжо несла ў зубах хатнія тапкі і ніколі не памылілася, каму якія.

Не, не зусім безнадзейная была паненка. Падавала лапу і голас, калі прасілі. Беспамылкова знаходзіла таго з сямейнікаў, каго ёй загадвалі знайсці. І нават трымала на носе драбок цукру, не ела без дазволу. Пакуль на яе глядзелі, адчувала вока. Але варта было толькі міргнуць, як цукар знікаў ў яе пашчы, а пані адно бессаромна аблізвалася.

Але ж усё гэта ўжо не надта цешыла маладога Герасіма. Нешта як падламілася ў ім. Праўду кажуць, калі нечага край хочацца займець, – займей. І паглядзі сваімі вачыма, зблізу. І тады хочацца – расхочацца. Так гэта было і з Моцем. Хаця дзеля праўды трэба сказаць, зноў жа зблізу. Здаля ён усё ж любіў сваю задрыпаную пані, хаця і не заўсёды разумеў. Мо якраз гэта ў шляхцянцы і прываблівала яго. Людзі, як і сабакі, сыходзяцца і любяць адно аднаго па-рознаму і часцяком хіба мо толькі з несупадзенняў, каб не так прэсна жылося. Як тыя ж кошка з сабакам. Рознай яны пароды: няма – сэрца мрэ, ёсць – з душы прэ.

Вясной непаразуменні паміж Моцям і яго шляхцянкай толькі ўзмацніліся. Пэўна ж, надта розныя былі памкненні. Пані Эля глядзела ў адзін бок, Моця – у другі. Шляхцянка зусім перастала яго ўспрымаць. Наравіла пазбавіцца шворкі і некуды ўцякчы. Усё нечага ці некага шукала, вынюхвала і чмыхала, не знаходзячы. Вось і ў той дзень яна вылузнулася з ашыйніку і пабегла, пабегла, толькі вушы, як у Віні Пуха ці Чабурашкі па баках разлягаліся...

Моця следам за ёй. Бо, як папярэдзіў загадзя яго бацька, гэтыя сабачыя бегі маглі скончыцца яму плачам. Па дварах унадзіліся ездзіць сабачнікі. Не жывадзёры – ахвотнікі пародных сабак – гэткі сабачы кінднэпінг. Пад'язджалі на рафіках і газэлях, спыняліся каля выгула сабак і цікавалі, калі з'явіцца псіна, вартая іх увагі. А ў салонах іх машын напагатоў ужо сядзелі адмыслова вымуштраваныя да правакатарскай справы кабялёк ці сучка. У патрэбны час іх у якасці спакусы выпускалі з салону. І ўсё, зладзейская справа ўчынена. Хатні сабачка ці сучка не гублялі, як ім здавалася, шчаслівага моманту. На злом галавы беглі за жывой прынадай.

Так было і ў той нешчаслівы дзень. Пані Эля ўлягала спачатку ад свайго кавалера, а потым за ім. Следам жа стометроўку за стометроўкай наразаў Моця. І што было яму найбольш крыўдна, не сказаць, каб кавалер быў пагляднды. Ні стану, ні твару – нехлямяжы, бічаваты дваранін. І Моця абурыўся: на каго толькі шляхцянка яго прамяняла. Яшчэ ж толькі хвіліну таму яна замілавана, амаль слёзна зазірала яму ў вочы, намякаючы, выпрошваючы шпацыру. І во, на табе. Ды каб з кім-небудзь людскім. А то і плюнуць услед нярвата. Шляхцянка, з радаслоўнай, пашпартам, медалямі ўлягае за ім, як, як... Карацей, і больш зразумела, як... Хаця зрэдку і азіраецца, але не збаўляе хуткасці. Наперад, наперад за сваім шалудзівым абранцам.

Так і беглі яны. Два сабакі, а за імі Моця. Насустрач невядомасці, лёсу і наканаванасці. Ужо і спальны раён адпаў, застаўся адзаду і прыватны сектар. І сонейка пачало прыпякаць, і моцеў цень зморана ўкараціўся. А потым і зусім знік. Моцю ўжо не было патрэбы гнацца за ім. Не толькі дагнаў, але і перагнаў яго Моця. Ён быў ужо адзаду яго. І не Моця, а

яго цень гнаўся за ім. А гавораць, што гэта немагчыма. “Не дагоніш, не дагоніш,” – усклікнуў Моця. – Не дамся...”

І тут ён спыніўся ці, больш праўдзіва, спатыкнуўся. Бо свет наперадзе няўзнак перакуліўся. Скончыўся брук і асфальт. Дарога, сцежка пайшла голая. Тупкая, вілюгамі і непрыбраная. Не апранутая жыццём, дзікая. Моця ступіў як у іншы свет ці ў прыбіральню пры невялікай чыгуначнай станцыі. Так патыхала ўсё навокал той прыбіральняй. Пацягнулі зарослыя быльнікам і дзядоўнікам ямы і траншэі. І сметнікі, сметнікі, сметнікі. І чароды, чароды чорных крумкачоў і чаек над імі. Хаця чайкі былі белымі, па-над сметнікамі яны здаваліся Моці бруднымі і чамусьці дакаральнымі, нягледзячы на тое, што лёталі і галёкалі даволі радасна, весела.

Наяве была нейкая неадпаведнасць, несумяшчальнасць, як і яго бегі ў гэты дзень, бегі сабак. Не, зразумела, Моця быў не такі ўжо дурны і наіўны, каб не ведаць, чаму ўцякла ад яго Пані Эля. Быў прыглядны да жыцця сабачага і людскога, таго, пра якое не прыстала гаварыць. Чаму не хочаш ды мусіш навучыцца сам і часам неспадзявана. Але ўпершыню самому бачыць так аголена тое, пра што толькі думаў на адзіноце, што так страшыла і пужала, прыцягвала яго падсвядомай, амаль пячорнай таямнічасцю, апынуцца ў гэтай пячорнасці...

Насамрэч пячорнай тагасветнасці. Бо не толькі тагасветныя птушкі раявалі наперадзе над сметнікамі, да якіх Моцю прывяла яго Пані Эля. Там яшчэ былі людзі, корпаліся на гурбах збытага горадам жыцця. Пячорныя, здаецца, людзі, апранутыя ці не ў звярыныя скуры і з нейкімі доўгімі друкамі ў руках, мо старажытнымі дзідамі. Людзі і птушкі з нябыту і ў нябыце – у раі, у пекле.

І самае дзіўнае ў тых людзях, птушках, сметніках і далучаных да іх сабаках было тое, што Моця, хаця і адмаўляў, але некалі, у мінулым, а мо і непраглядным сваім будучым, ужо зведаў. Зведаў і падсвядома прымаў, бо чуў ці не з маленства ў сабе покліч. Покліч і прыцягальнасць сметнікаў, таямнічую адбытасць чужога і свайго жыцця. Загадны покліч сваіх мінулых і будучых гонаў, гонаў Пані Элі і беспароднага сабакі. Гэта пекла і рай, што нечакана так аголена і бессаромна адкрыліся яму зараз, чаму ён так пярэчыў. І ад чаго не было паратунку, што няўмольна, як навала, немачна і непазбежна насоўвалася на яго. З неадольнай сілай прачыналася ў ім.

І Моця, не здольны ні асэнсаваць, ні пазбавіцца ад гэтага, скарыцца і моўчкі падпарадкавацца, заплакаў. Заплакаў, але слёзы былі як несапраўдныя, гарачыя і салодкія. І плакаў ён, здаецца, не сёння, не тут, сярод гэтага перакуленага свету. Цень яго, моцеў, адвергнуты ім жа, плакаў. Развітальна, шчымліва. Плакаў, падобна, не на зямлі, а недзе ў сусвеце, без болю і спачування яго болю.

Шчымела, галасіла ні то душа, ні то сэрца. Ім у першы раз здрадзілі.



Уладзімір Някляеў



...За дарогай
няма нічога,
І нічога —
сама дарога...

# Лісты да Волі

*Вользе Някляевай*

*   *   *

Як плашчаніца, бел-чырвона-бела
Лунаў над лёсам сімвал Твой святы...
Калі ўдыхнуў Гасподзь душу мне ў цела —
Ёй стала Ты.

Ты, Воля беларуская, Ты, мара
Крывіцкая, Ты, крэўная мая!..
Калі Табе патрэбная ахвяра —
Ёй стану я.

*1. 01. 2011*

*   *   *

Не ўсё дарэмна, што дарэмна...
Не ўсё брыдота, што ў брыдзе...

Па ветры,
сушы,
па вадзе,
Магчыма, нехта патаемна
Мяне да нечага вядзе.

Магчыма, шлях мой да астрога
Наўмысна скручаны ў клубок
За ніццю ніць,
за крокам крок...

Хто ж мой вядок? Ён служка Бога,
Ці служка д'ябла — мой вядок?

*2. 01. 2011*

* * *

...І той, які махаў рукамі,
Нас падзываючы, і той,
Каго паклікалі мы самі —
Яны былі табе братамі,
А ты не стала ім сястрой,
І калі цемра праглынула
Апошні ўскрык братоў тваіх,
Нікога з іх ты не пачула,
Не ўбачыла нікога з іх,
Схаваўшыся ў маіх абдымках,
Дзе я люляў цябе, бярог,
Ды дзве крывінкі, дзве радзімкі
Не сцалаваў з плячэй, не змог...

*3. 01. 2011*

* * *

Дождж, што ў снежні без патрэбы,
Сувязь між зямлёй і небам
Абарваў.

Сувязістку Бог забраў...

Страта ў страце...

Толькі з вока абраза,
Прад якім стаяла маці,
Ціха ўпала ў ціхай хаце
Вінаватая сляза.

*4. 01. 2011*

* * *

Чыя дарога?.. Нічыя.
А на дарозе хто?.. Нікога.
І так адчуў я ласку Бога,
Нібы ў спякотны поўдзень я
Дайшоў да ручая ляснога.

І ўбачыў на дарозе цень,
Які на ёй стаяў без ценю,
І я падумаў: «Летуценні...» —
І ў цені тым заснуў на дзень,
Клубком скруціўся ў Боскай жмені.

*5. 01. 2011*

* * *

Праз краты, праз калючыя драты
Апоўначы ўсміхнулася мне ты,
І я заснуў —
і праз драты,
праз краты
З тваёй усмешкай
паляцеў
дахаты.

*6. 01. 2011*

* * *

Прыснілася, што я ў турме адзін
На васемнаццаць камер з прыбіральняй.
Рэальным сон быў. І турма — рэальнай.
Пад раніцу. Каля шасці гадзін.

А ў шэсць — пад'ём! І змрочны вартавы
Павёў у прыбіральню. Ледзянела
У ёй лайно. Дрыготка біла цела,
І адляталі сны ад галавы.

*7. 01. 2011*

* * *

Як жыць не хочаш, дык памры.
Няма гульні. Распас.
Турэмны дворык два на тры —
І ў ім пяцёра нас.

І ў ім — з табой — усё, што меў,
І ўсе, што будзеш мець...

Квадратна-гнездавы пасеў.
Пляц.
    «Кляц!»
        Клець.

*8. 01. 2011*

* * *

З чаго складаецца душа —
Няведама, бо ні шыша
З душы не ўзяць, а толькі з цела.

Вунь цела пашаньку арэ,
І што там з цела адляцела —
Ніхто не скажа, як памрэ.

Банальна?..
А ты як хацела?

*9. 01. 2011*

* * *

Як ні спяшаеш, як ні гоніш коней,
Ні прагнеш жыць ажно да забыцця —
Не хопіць на жыццё твайго жыцця
І рэшту будзеш дажываць па сконе.

*10. 01. 2011*

* * *

Калі я выйду з турмы на волю,
Не стану клясці ні лёс, ні долю,
А стану дубам у чыстым полі
Зялёным веццем шумець на волі.

І калі сядзе на вецце воран,
І калі каркне, што ён — мой вораг,
Не стану ў Бога вымольваць кары...
На тое й воран, каб жыць ды каркаць.

*11. 01. 2011*

* * *

Падышоў да возера і лёг
На ваду, на хвалі галавою,

Каб заснуць — і ў сне сувоіў Бог
Тое, што ўва мне і пада мною,
Тое, што ўва мне і нада мной,
Дзе аблокі, поўныя вадою,
На якіх паклаўся галавой
Той, хто мною быў і стане мною,
Хто напяў між небам і зямлёй
Залатую нітачку сувою...

*12. 01. 2011*

* * *

З нябожчыкамі параішся —
Адсюль туды не пара яшчэ...
Хоць скрозь парадкі адны:
Куды не йдзеш — упіраешся
У чатыры сцяны.

*13. 01. 2011*

* * *

Паўзе па шкле, што раптам пачарнела
Начны павук.
На кожны рып напружваецца цела,
На кожны грук.

І замірае камера ў здранцвенні
На ўскрык нямы...
Тут некалі стралялі ў сутарэнні
Такіх, як мы.

*14. 01. 2011*

* * *

Пераступіўшы праз парог
І ўбачыўшы, што за парогам
Няма нічога, я бярог
Усё, пра што ў сумоўі з Богам
Дамоўлена было, а Бог
За гэта ўсё
Мяне збярог.

*15. 01. 2011*

* * *

Спіш яшчэ, мая ты сплюшка?
Дзве цукеркі пад падушкай
Там, дзе ты... А там, дзе я,
Дзверы з вочкам і кармушкай,
Камера дзявятая.

Да мяне прыйдзі ты ночкай,
На мяне зірні ты ў вочка
І кармушку адчыні,
Дай цукерку мне да чаю
І цукерку вертухаю,
Каб не гаўкаў дзень пры дні.

*16. 01. 2011*

* * *

Так хочацца сябе парадаваць,
Пакінуць камерную клець,
Знайсці альтанку пад прысадамі,
Зайсці ў яе і пасядзець...

*17. 01. 2011*

* * *

Збіты операм, на нары
Лёгшы ніц,
Я прыпомніў, як штукарыў
Дацкі прынц.

Тут ягоныя хістанні
Не ў цане,
Тут нямашака пытання
Быць ці не.

Калі ты каля парашы
Ніцма лёг,
Толькі б выжыць, зубы сцяўшы,
Даў бы Бог.

*18. 01. 2011*

* * *

Я — ракой з берагоў,
Я — расой па траве,
Бо ў курыных багоў
Дзірачкі ў галаве...

*19. 01. 2011*

* * *

Толькі снег. І на снезе сляды
У чатыры бакі. І куды
Ты ні ступіш, ні рушыш — твой шлях
Па слядах, па слядах, па слядах.

А калі завіруха на свет
Наляціць, замяце кожны след,
Нехта пойдзе, як па цаліку...
Так бывае на кожным вяку.

*20. 01. 2011*

* * *

За дарогай
няма нічога,
І нічога —
сама дарога.

*21.01. 2011*

* * *

Перакінуўся праз лёс
Мост — і я па ім панёс
Тое, што на плечы ўзяў.

Мне ў дарозе месяц ззяў.
Я ішоў, не ведаў сна
Ад цямна і да цямна.

На плячах маіх сума,
А ў ёй воля ды турма.

І яшчэ, быў горле ком,
Лёс. Унізе. Пад мастом.

*22. 01. 2011*

* * *

Не ў памеры Гамера
Ні харэй і ні ямб.
Меў на эпас намеры,
Ды, халера, аслаб.

Пасадзілі за краты —
І палюцый няма.
Не Гамер вінаваты.
Вінавата турма.

Бо ўсё цягне дадому,
Бо ў аддзел паясны
Не прыходзяць ад брому
Гамерычныя сны.

*23. 01. 2011*

* * *

“Скажы, — спытала ты мяне,
Што бачыш ты на самым дне
Жыцця?..” І я напружыў зрок
Так, што наплыў у вочы змрок,
І ў ім не ўбачыў я нічога
На дне — і нават дна самога...

*24. 01. 2011*

* * *

“Ці ты хочаш, ці не хочаш, —
Цёмны вецер шэпча ночы, —
Я з табой пераначую...”

Вецер шэпча. Ноч не чуе.

“Ці ты хочаш, ці не хочаш, —
Кажа вязню ў цёмнай ночы
Каля шыбеніцы кат, —
А вяроўка акурат
Па табе...”
І ката чуе
Ноч, што з ветрам не начуе —
З вязнем хоча начаваць.

Каб хутчэй
пасцель
паслаць,
Паспяшацца ката просіць,
І плыве па ўсёй зямлі
Цемра ў цемру — і галосіць
Цёмны вецер у пятлі.

*25. 01. 2011*

* * *

Сам дзіўлюся: мне — 65.
Па-салдацку ложак засцілаць
У турэмнай камеры вучуся...

Засцілаю ложак і дзіўлюся.

*26. 01. 2011*

* * *

Зноў да сінечы следчы голены.
Парфума з пахам міндаля.

Мундзір з шыццём. Душа з пагонамі
І дзірачкай для медаля.

*27. 01. 2011*

* * *

Пяць крокаў па камеры ўздоўж,
Упоперак — тры.

Пяць крокаў ступаю праз дождж
І тры — праз вятры.

*28. 01. 2011*

* * *

Дзе свае? Дзе чужыя?
Цені ў дальнім акне.
Там, у той старане,
Дзе слупы межавыя,
Яшчэ тыя жывыя,
Хто кахае мяне.

*29. 01. 2011,*
*унутраная турма КДБ*

* * *

Нечакана легла карта
Мне й табе.
Днём і ноччу ў хаце варта
КДБ.

Каля хаты цень гарбаты,
Чорны цень,
Праз які не выйсці з хаты
Ноч і дзень.

Праз яго не зойдзе ў хату
Госць, але ж:
“Сёння ў нашай хаце свята”, —
Ты пяеш.

Бо запарваеш гарбату
Мне сама,
Бо ўсё ж хата — гэта хата.
Не турма.

*01. 02. 2011,*
*хатні арышт*

Макс Шчур



...Мая душа не знаходзілася ўва мне.
Маёй душой былі мае сябры, маё наваколле,
маё асяроддзе, а я быў душою іхняй.
Цяпер я ніхто...

# Аўтсайдэр

***Аповесць***

*Сяржуку С.-В.*

*“Я прашу вас вырашыць мой лёс у той,*
*ці ў іншы бок. Я павінен мець адказ сёння”.*
Вальтар

## 1.

Мяне абудзіў гук нейкай цяжкой працоўнай прылады, магчыма — адбойнага малатка, які натужна змагаецца з асфальтам ці бетонам і нагадвае стракатанне аўтамата, якое я аднойчы чуў на вайсковым стрэльбішчы. Цяпер я разумею, чаму мой сон зноўку скончыўся маёй гвалтоўнай смерцю. Паколькі кожны дзень у гэтым доме пачынаецца з гэтага гуку, дык кожная ноч у ім заканчваецца адным і тым самым сном: я вяртаюся на радзіму, імкнуся зноў пакінуць яе, аддзелы наўмысна скліканай паліцыі пачынаюць шукаць мяне па ўсім Горадзе. Я спрабую ўцякаць ад іх па нейкай невядомай мне вуліцы, але ногі мяне не слухаюцца. Нарэшце, нехта з пераследнікаў аддае загад

страляць мне ў спіну. Я падаю тварам на асфальт і прахопліваюся ад удару. На працягу ўсяго дня мае высілкі будуць скіраваныя на тое, каб забыцца на гэты сон — марна: людзі з аўтаматамі будуць мроіцца мне за рогам кожнага дому.

Некаторы час мае мазгі змагаюцца з гэтым гукам, а цела — з холадам. Мы спім у вопратцы: зранку на вуліцы цяплей, чымся ў доме, які ніколі не праграецца сонцам, таму спаць тут карціць, бы мядзведзю ўзімку. Ці не дзіўна, што калі заглыбіцца ў свае думкі ўночы, цяжка заснуць, а калі раніцай — прачнуцца? І хаця адно без другога я ўявіць сабе не магу, апошняе лічыцца тут нашмат больш непрыстойным: працоўны чалавек не можа дазволіць сабе спаць удзень, а значыць — і не спаць уначы. Зрэшты, уначы ў доме няма чаго рабіць, бо тут няма электрычнасці: чытаць нельга. Але акрамя мяне ніхто з насельнікаў ад гэтага не пакутуе. Толькі аднойчы я заспеў кагосьці з гаспадароў дома за нейкім старым часопісам. Пры гэтым ёсць установы, дзе, наадварот, па начах святла не выключаюць — напрыклад, у турэмных камерах. Тут гэта здаецца недаравальным марнатраўствам.

Спрабую хутацца ў тонкія абрэзкі ніколі не мытых коўдраў, што смярдзяць сабакамі. Усюды — сабачая поўсць, якая казыча ў носе. Сабакам у гэтым доме спаць нашмат больш утульна, чым людзям. Кожны з жыхароў дома мае аднаго ці двух сабакаў. Кожны сабака — два-тры дзясяткі блох. Гэта калі не лічыць іншае жамяры. У гэтай краіне, я заўважыў, шмат інсектаў. Нашмат больш, чым у нас. І ўсе такія гнюсныя, агідныя, жвавыя, мітуслівыя. Калі б не вегетарыянства гаспадароў дома, яны б іх усіх дакладна паелі. А так — інсекты спакойна могуць есці гаспадароў. Нарэшце, менавіта ненавісны сабачы смурод канчаткова абуджае мяне: я ўзгадваю, дзе знаходжуся, і ў мяне тут жа з'яўляецца жаданне знікнуць адсюль як мага хутчэй, аднак ажыццявіць яго няма ніякай сілы.

Што было ўчора? Як заўжды, палілі траву. Не, не тую, што перад домам. Я адмовіўся — магчыма, дарэмна. Але з травой усё было б яшчэ горш: мінулы раз мне здалося, што ўсё ператварылася ў сон, нават я сам, не кажучы ўжо пра вакольны свет. Я спалохаўся. Ад таго часу я не палю травы, што выклікае абсалютнае неразуменне з боку астатніх. Яны мяркуюць, што я проста пагарджаю іхнім таварыствам. Што ж, яны не далёкія ад праўды.

Пазіраю на свой гадзіннік, пачуваючы сябе прымацаванай да яго бомбай: палова на дзясятую. Паводле меркаў гэтай краіны, я — непапраўны лежань: працоўны дзень тут пачынаецца а шостай гадзіне раніцы й сканчаецца а другой гадзіне дня. Неверагодна. Усе тут маюць што рабіць, адзін я не ведаю, што тут раблю. Зрэшты, ведаю: маім адзіным абавязкам ёсць чакаць. Чаго? Пакуль мяне адсюль не выкінуць. Не толькі з гэтай начлежкі, але і з самой краіны, што ў прынцыпе было б роўназначным: я начую тут толькі таму, што мне больш няма куды падзецца.

Лежачы, запальваю цыгарэту. У пустым закінутым доме ўжо адчуваецца сапраўдная восень. Уласна, тут заўсёды восень. У вокнах няма шкла, толькі цэлафан і, як ні дзіўна, краты, хаця красці тут відочна няма чаго. Нікому з жыхароў дому, апроч мяне, краты не перашкаджаюць. Навокал у розных позах, як пасля "мора хвалюецца", застылі нейкія анучы, што замяняюць тут мэблю. У куце — падраны матрац з выпетранымі вантробамі. Прыцягнутыя са сметніку шматкі дывана разасланыя па падлозе. Памятаю, учора хадзілі на сметнік. Прынеслі шмат мэблі: крэслы, канапу.

Гаспадары ўжо каторы год “абжываюцца” ў сваім дзіцячым кутку. Цягнулі гэтае ламачча па вузкім цагляным муры па-над падземным паркінгам, на крок улева — прорва ў пяць метраў глыбінёй. Як той Ганібал цераз Альпы. Дзіўна, што ніхто не ўпаў.

Усё гэта таксама нагадвае сон. Я знаходжуся тут усяго некалькі месяцаў, але спрабую паводзіць сябе так, як быццам жыў тут заўжды, што гаспадароў найбольш раздражняе. Прыстасавацца ў мяне ніяк не атрымліваецца. Што такое некалькі месяцаў свабоды за агароджай вальера ў параўнанні з дваццаццю гадамі няволі ў запаведніку? Мне здаецца, што мая свабода — надзвычай крохкая, што паміж ёю й няволяй — усяго толькі тонкая нябачная перагародка, што ўсё яшчэ можа змяніцца, час можа пабегчы назад, як у тым кіно. У якім? Няма розніцы.

Пасля першай цыгарэты мой настрой рэзка падае. Цяпер зусім няма ніякай сілы ўстаць і ісці. Страшэнна баляць ногі — у такім холадзе ў мяне заўжды ныюць галёнкі. Зразумела, што ўвесь учорашні дзень я правёў на нагах. Дзе я быў, апрача сметніку? Дзе заўсёды. Сярод іншага, хадзіў здаваць бутэлькі. Потым хадзілі ў краму: купілі прадуктаў на выручаных 20 крон, скралі ў дзесяць разоў болей. Што зробіш, жыць трэба. Трэба?

Нарэшце, галоўнай і адзінай сапраўднай прычынай для таго, каб устаць, робіцца малая патрэба. Адразу бяру з сабою свае рэчы, то бок усё, чаго пакідаць тут не варта: зубную шчотку, жылетку — сёння трэба пагаліцца, каб выглядаць крышку ахайней. Я мушу зрабіць добрае ўражанне на спадара прафесара. Я — і спадар прафесар! Чаго толькі не бывае ў свеце.

Унізе чакаю, пакуль хтосьці з сапраўдных жыхароў дома адчэпіць з кратаў ланцуг, адамкне замок і выпусціць мяне на двор, у прыбіральню. У доме ёсць прыбіральня, але ў ёй няма вады, таму ёю карыстаюцца толькі ўначы, што пры колькасці спажыванага тут піва здараецца часта. Сапраўдны жыхар выглядае нявелта: пазірае на мяне так, як быццам не пазнае. Пытаецца, хто я такі. Тое самае ён пытаўся ўчора. Я кажу яму, што тут жыву. Ён раіць, каб яшчэ сёння мяне тут не было. Ягоны сабака пазірае на мяне, як на ежу. Я не люблю яго ані ягонага сабакі. Сабака вялікі, злосны й такі сама галодны, як ягоны гаспадар. Мяса тут сабакам дазволена, у адрозненне ад прыматаў. Ненавіджу сабак: але яшчэ больш ненавіджу іхні смурод.

У гэтым доме жывуць аматары чалавецкасці — толькі таму мяне яшчэ тут трымаюць. Не разумею, навошта ім у такім выпадку сабакі, кр*а*ты, замкі й ланцугі. І ўсё-ткі я пастанавіў лепей заставацца ў гэтым доме, чым ісці ў дабрачынны прытулак. Там я таксама быў некалькі разоў. Памятаю смярдзючы пах тамтэйшай кавы (проста з пакету, залітай кіпенем) і таннага распушчальнага супу, што толькі псуюць страўнік, гэтаксама як казані бясполага, чыста паголенага святарка — розум.

Тут, прынамсі, ніхто не чытае казаняў — ну, хіба толькі вачыма і толькі наконт таго, як трэба апранацца, што трэба есці, калі трэба прыходзіць дамоў, з кім трэба, а з кім не трэба сябраваць, каго ільга, а каго нельга прыводзіць, чым трэба, а чым не трэба займацца, якімі сродкамі транспарту маральна, а якімі немаральна карыстацца, і гэтак далей. Аматары чалавецкасці жывуць, як ахвяры марской буры на бязлюднай выспе — з той розніцай, што яны тут амаль не займаюцца сэксам і не мараць быць уратаванымі: зусім наадварот, яны мараць ратаваць астатніх. Штодня яны выпраўляюцца на паляванне ў каменныя джунглі, па скальпы й іншыя

трафеі. Вакол іх — не людзі, а драпежнікі. Яны не ведаюць аб тым, што я — адзін з гэтых драпежнікаў, іначай яны ўжо даўно з'елі б мяне з г...ном. Але варта аддаць належнае іхняй інтуіцыі: яны й гэтак падазраюць ува мне шпіёна, які можа аднойчы стаць прычынай таго, што іхняя ільдзяная крэпасць не вытрымае штодзённай аблогі ворага, і яны будуць вымушаныя адсюль сысці.

За тое, што мяне не выганяюць, я павінен хадзіць з гаспадарамі, апрача сметніку й крадзяжоў, на штосьці, што яны называюць дэманстрацыямі й вулічнымі парці, дзе пад тупую электронную музыку, перад якой я аддаў бы перавагу нават стракатанню адбойнага малатка, яны паляць марыхуану й крычаць, што вуліцы належаць ім. Тое самае маглі б крычаць вулічныя каты — у іх былі б не меншыя шанцы паўплываць на палітычную сітуацыю.

Урэшце, мяне выпускаюць на двор, як таго вязня на шпацыр. Як я і здагадваўся, знадворку цяплей, чым у так званым доме. Паветра — шэрае, дымнае, восеньскае. Цяжкое неба. Паўсюль нейкі дым. Маленькія хаткі пазіраюць уніз з высокай гары, як ліліпуты, што ўпалявалі Гулівера: Места. Я падбіраю з зямлі некалькі яблыкаў, крыху падгнілых. Уначы йшоў дождж, усюды непрыемна мокра. Трэба зайсці ў паблізны інтэрнат, пазбавіцца прыкметаў ночы. Рашуча закідваю на плячо торбу: калі мне пашанцуе, я вярнуся сюды толькі позна ўвечары, калі пашанцуе крыху больш — мяне зноў пусцяць пераначаваць. А калі яшчэ больш, то я зусім сюды не вярнуся.

## 2.

У інтэрнаце ціха: амаль нікога з студэнтаў яшчэ няма (цяпер я раблю выгляд, што я — адзін з іх), заняткі пачнуцца толькі праз тыдзень. Два агромністыя трыццаціпавярховыя гмахі амаль пустуюць. Халера з імі, усё адно б я не хацеў тут жыць: у інтэрнаце такія доўгія калідоры, такія вузкія пакоі з белымі сценамі й белымі, як у аперацыйнай зале, геліевымі лямпамі, з такімі шырокімі дзвярыма й вялізнымі вокнамі (мне распавядалі), што вышыня гэтых гмахаў з часам робіцца небяспечнай для жыцця. Тым не менш, калі з дапамогай спадара прафесара я патраплю ўва ўніверсітэт, мне прыйдзецца жыць у адным з такіх пакояў. Сумна, калі адзінае выйсце з сітуацыі — праз вакно. Аднак паспрабаваць трапіць ува ўніверсітэт усё-ткі варта, прынамсі дзеля таго, каб пераехаць з начлежнага дому ў інтэрнат, хай іх і аддзяляе ўсяго трыццаць метраў. Усё адно дзіўна, што пракрасціся сюды ў якасці выпадковага лазутчыка нашмат лягчэй, чым прапісацца тут легальна.

Прыбіральня добрая тым, што тут ільга пабыць аднаму, на момант прыбраць сябе з свету й прывесці ў сякі-такі парадак не толькі знешні выгляд, але й думкі. Мой страўнік з намогай пазбаўляецца ад учорашняй пустэчы. Седзячы ў прыбіральні, я напружана ўслухваюся, ці не прыйдзе хто па мяне, каб схапіць і выкінуць нават адсюль. Дарэмна было б тлумачыць мне зараз, што мне, уласна кажучы, нічога не пагражае. А што, калі нехта прыйдзе й паскардзіцца вахцёрцы, буфетчыцы альбо яшчэ каму на смурод, здаецца, прывезены мною кантрабандай з-за самай мяжы? Што, калі паліцыя выцягне мяне са спушчанымі нагавіцамі на калідор? Скаланаюся ад кожнага гуку.

Шкада, што, апроч рукамыйніку, няма дзе памыць валасы. У бальшыні насельнікаў начлежнага дома валасы скатаныя ў тлустыя матузкі, гэткі экзатычны варыянт каўтуна — таму для іх гэта не праблема. Таксама няма чым абрэзаць пазногці. Трасца, трэба ўрэшце паразмаўляць з гаспадарамі дома — можа, які з іх злітуецца. Хаця я не заўважаў, каб які з іх калі карыстаўся нават туалетнай паперай, не кажучы пра нажніцы. Можа, варта было б звярнуцца да дзяўчат... Але тыя пазбягаюць мяне яшчэ больш пільна за ўсіх астатніх.

Пагаліўшыся перад люстэркам інтэрнацкай прыбіральні, я ўпершыню за доўгі час здаюся сабе маладзейшым за свае гады, што на нейкі момант уздымае мне настрой. У наступнае імгненне я згадваю, колькі мне насамрэч гадоў, і зноў пераконваюся, што выглядаю безнадзейна старым. Мая галава ўжо цяпер поўная сівых валасоў — я спрабую іх расчасаць і звязаць у пук, але гадзіннік на левай руцэ пры кожным руху чапляецца за іх і знішчае ўсе мае папярэднія намаганні. Ад зубцоў масажнай шчоткі на лбе набухаюць доўгія чырвоныя шнары, якія пачалі з'яўляцца на маёй скуры нейкі час таму, невядома адкуль — звычайна, яны доўга не могуць сысці. Варта мне ці камусьці іншаму дакрануцца да маёй скуры, як тая на месцы дотыку чырванее і ўздзьмуваецца, утвараючы дробныя пухіры, як у рапухі. Магчыма, у мяне алергія на любыя дотыкі, нават уласныя. Апроч гэтага, час ад часу скура майго твару рэпаецца сама па сабе, і на ёй узнікаюць караценькія дробныя шнарыкі, асабліва на скронях, як быццам ад кіпцюроў нейкага невядомага маленькага звярка памерам з пацука. Цікава, што яны, як і іншыя балячкі на маім целе, якія немагчыма нават падлічыць, не тое што падлячыць, прытрымліваюцца таямнічага закону сіметрыі: калі сёння шнар з'яўляецца на левай скроні, дык ільга быць упэўнены на ўсе сто адсоткаў, што заўтра ён з'явіцца на правай. Усё гэта нагадвае стыгматы чужых пакутаў, сляды катаванняў — перадусім, псіхічных, найбольш дасканалы інструмент якіх, як добра вядома жанчынам — люстэрка. Што ж, калі свайго адлюстравання нельга змяніць, з ім трэба вучыцца жыць, як з дзікай жывёлай, як з суседам па камеры, як з жонкай, як з...

Спрабую яшчэ раз зірнуць на сябе крытычна, калупаючыся ў зубах зубной шчоткай, вычытаць з свайго твару ўсю нядоўгую гісторыю свайго жыцця паводле слядоў сваіх ранейшых захворванняў. Для гэтага мне даводзіцца наблізіцца да люстэрка: мой зрок за апошнія колькі тыдняў значна пагоршыўся. Апроч сівых валасоў, у мяне паспелі з'явіцца дзве глыбокія баразны абапал носу — бясхібная прыкмета старэння. Яны з'яўляюцца ад лішняй балбатлівасці й беспрычыннага смеху. А яшчэ кажуць, быццам смех падаўжае жыццё. Само сабой, у мяне вельмі благія зубы — жоўтыя, з чорнымі камянямі. Цягам ночы вялізны гнайнік зноў набрыняў у мяне па-над правай іклай: у корані нейкая інфекцыя. Выціскаючы яго да крыві кожны другі дзень, я прыслухоўваюся да ягонага покання і чую ў ім нейкае асаблівае задавалненне. Упэўнены, што гэты зуб давядзецца вырваць, іначай інфекцыя не пройдзе. Варта было б пайсці да зубнога лекара — ды дзе ж... Можа, лепш адразу да таго рабочага з адбойным малатком? Апошні раз я праходзіў мусовы медагляд паўгоду таму, неўзабаве пасля таго, як тут апынуўся. Самае дзіўнае, што мне сказалі, што я здаровы. Не разумею, навошта ім было мне хлусіць. Я дакладна ведаю, што ў мяне безліч самых звычайных і незвычайных хваробаў. Можна сказаць, што за свае дваццаць з нечым гадоў я дасягнуў не так і мала. З прычыны паскоранага

бегу майго фізіялагічнага жыцця (першы сівы волас з'явіўся ў мяне ў дзевяціцігадовым узросце) я заўсёды быў вымушаны шмат думаць аб смерці й аб "духоўным" — больш, чым лічыцца здаровым і чым хацелася б мне самому. За гэта я й ненавіджу сваё цела. з якой асалодай я раздзіраю яго да крыві ў хвіліны, калі мяне дапякае сверб! Наадварот, люблю таблеткі, ад якіх перастаеш яго адчуваць. У хвіліны роспачы я цешу сябе прынамсі думкай, што ўжо цяпер ведаю, як буду тхніць пасля смерці: з-за нейкага нагнаення ў маім носе ўвесь час стаіць смурод, які добра вядомы тым, хто жыве ў суседстве з мясакамбінатам.

Калі прыгледзецца да сябе ўважліва, разумееш, наколькі складана й недасканала ты створаны. Насамрэч, у нас, людзях, не так шмат жыцця. Нашае цела не здольнае вытрымаць без ежы болей за пяць гадзін, без сну — болей за дваццаць. Потым яно само па сабе, дабраахвотна, без усялякіх намоваў ані прымусу, адключаецца. Менавіта таму жыццё лічыцца такім скарбам: не з-за ягонага зместу, а з-за ягонай крохкай скарбонкі.

Паводле дактароў, усе мае хваробы нібыта маюць адну агульную назву — гіпахондрыя. Але мне здаецца, што яны памыляюцца, назва павінна быць крыху іншая — чалавецкасць. Гэта калі не лічыць хранічнага запалення мазгоў, якое ў народзе называюць свядомасцю. Зрэшты, на душэўныя хваробы шкада часу, скажу толькі, што графаманія — самая вялацякучая, але не самая страшная з іх.

Перад тым, як выправіцца ў падарожжа, варта было б падсілкавацца. Учора не вячэралі: замест ежы, як я ўжо казаў, была трава, ад якой я адмовіўся. Пад'есці можна ў інтэрнацкім буфеце, які акурат адчынілі. Ежа тут надзвычай дрэнная й надзвычай танная. Балазе, у мяне ёсць яшчэ колькі жоўтых, чырвоных і белых манетаў. Жанчына, якой я спрабую растлумачыць, чаго я хачу, не разумее мяне. Я вымушаны паказаць ёй пальцам на бутэрброд, які ляжыць тут ужо другі тыдзень: я даўно збіраюся яго з'есці, і толькі цяпер мне робіцца ясна, што болей сілкавацца ягоным выглядам я не здолею.

Я б схлусіў, калі б сказаў, што ніколі ў жыцці не піў такой паскуднай кавы — піў, у дабрачынным прытулку. Але гэтая кава, трэба сказаць, надзвычай яскрава нагадала мне той незабыўны момант. У бруднай шклянцы наверсе плавае чорны бруд, выглядам, колерам і смакам падобны да вільготнай зямлі з гаршчка для кветак. Узбуджальнае дзеянне напою цалкам перабіваецца дзеяннем маёй смярдзючай цыгарэты: праз хвіліну я пачуваю сябе яшчэ больш сонным, чымся дагэтуль.

Буфетчыца й прыбіральшчыца перагаворваюцца між сабою, з падазорам пазіраючы ў мой бок. З мясцовымі насельнікамі начлежнага дому яны ўжо звыкліся — але нейкі чужынец? Добрая нагода зноў патэлефанаваць у паліцыю. Значыць, у начлежным доме зноўку будзе перетрус. Потым будзе таварыскі суд, на якім мяне абвінавацяць у супрацоўніцтве з усясветным імперыялізмам, і ў выніку мне зноў давядзецца начаваць на вуліцы: гэта значыць ездзіць усю ноч у трамваях альбо бадзяцца па месце, палохаючы алкашоў і паліцыянтаў. А каб вы спрахлі.

Раскрываю свой сшытак, які паўсюль цягаю з сабой: вялізны, сіні, не крадзены, а куплены — гэта называецца жыць не па сродках, але ў такой раскошы, якая ёсць для мяне, насамрэч, першай неабходнасцю, я сабе адмовіць не мог. Гэта ўжо трэці сшытак за апошнія тры месяцы. Папярэднія два я выкінуў у сметніцу, не скарыстаўшы ані трацiны старонак. З кож-

ным новым сшыткам я збіраюся пачаць новае жыццё, а ў сшытку весці дзённік гэтага новага жыцця. Насамрэч, кожны новы сшытак я пачынаю з таго, што апісваю ў ім усе здарэнні, якія адбыліся са мною й вакол мяне падчас пісання папярэдняга сшытка: гэта значыць, што ў маіх занатоўках няма нічога цікавага, бо нічога такога ўжо надзвычайнага са мною цягам апошніх месяцаў не здараецца. Апроч іх у сшытку шмат нейкіх малюнкаў, адрасоў, тэлефонаў, схемаў і малюнкаў, змест і прызначэнне якіх мне цяпер ужо збольшага невядомыя.

Дапісаўшы гэты абзац, адчуваю, быццам плюнуў сам сабе ў твар — і галоўнае, непапраўна запляміў чароўна белую старонку, гледзячы на якую так прыемна было ўяўляць сабе начыста перапісаныя раздзелы будучага раману ці аповеду. Звычайна, мае нататкі натхняюць мяне так доўга, як працягваецца дзеянне кавы. Як толькі яно перапыняецца, я пачынаю ненавідзець усё, што пішу, сябе, і перадусім — сам гэты сшытак. Пра што я магу пісаць? Што важнага я магу камусьці паведаміць? Нічога. Гэта проста дурная звычка, яшчэ з часоў полавага даспявання: пісаць, пісаць, пісаць, каб чымсьці заняць ці суняць рукі й часткова — мазгі. Нейкі даўжэзны допіс каханаму чалавеку, які даўно на цябе забыўся й не памятае нават твайго імя.

На шчасце, сёння нічога не прыходзіць мне ў галаву. Тая пасля кавы не праясняецца, а яшчэ больш цяжэе, у левай палове чэрапу пачынаецца калючы боль, які бязлітасна свідруе мае мазгі. Сняданак чэмпіёнаў у такім выглядзе зусім не дадае мне натхнення. Смярдзючы дым ад маіх цыгарэт і гурба недапалкаў у бруднай попельніцы змушаюць буфетчыцу зацiскаць нос. Я прашу ў яе за гэта прабачэння й абяцаю, што хутка сыйду. Мая падкрэсленая ветлівасць ніяк на яе не дзейнічае — напэўна, у маіх паводзінах і старанным вымаўленні ёй чуецца нейкі здзек.

Дзіўным чынам, я разумею, што, нягледзячы на невыносную й ненавісную прысутнасць буфетчыцы, мне не хацелася б нікуды адсюль сыходзіць. Што з нашмат большым задавальненнем я б застаўся сядзець тут і піў бы гэтую жудасную каву, чым цягнуўся зараз у Места. Але што зробіш — трэба ісці.

## 3.

Каб крыху адкласці сустрэчу з непазбежным, пастанаўляю дайсці да цэнтра пешкі. Зноў маю шчасце сузіраць задворкі места, задні бок яго тэатральных кулісаў: нейкія майстэрні, прыстанак для чоўнаў, краны. Самае горшае, што ўсё гэта я ўжо бачыў учора, пазаўчора, тыдзень таму — ад таго часу нічога не змянілася, толькі неба з кожным разам робіцца ўсё больш пахмурнае, а паветра ўсё больш сцюдзёнае. На тым баку рэчкі пазнаю будову хостэлю, дзе я калісьці спаў некалькі начэй запар. Здаецца, нават не адзін. Але нічога больш канкрэтнага прыгадаць не магу — на шчасце, я быў занадта п'яны.

Восень — найбольш бязлітасная пара года. У зусім нядаўнім мінулым жыцці я быў звыклы штовосені сустракацца з сябрамі пасля вымушанага летняга перапынку. Цяпер я ведаю, што ўпершыню за столькі гадоў не ўбачу гэтай восенню іхных аблiччаў, і тым не менш шукаю іх усюды, часам нават знаходжу кагосьці, хто падобны да іх: выпадковая міласціна генетыкі. Мой розум адмаўляецца верыць, што я не ў Горадзе, сярод сваіх, а сам у

гэтым панылым, чужым, незнаёмым Месце. Немагчымасць — найгоршае. Немагчымасць сустрэць таго, каго хочаш, прагнеш сустрэць, каго карціць, каго неабходна сустрэць. Толькі цяпер прыгадваю, што ніякіх сяброў у мяне, уласна, болей няма — амаль з усімі я паспеў перасварыцца перад ад'ездам. З-за чаго? Цяпер ужо не памятаю. Дый якая розніца? Мабыць, у нейкі момант усе яны падаліся мне пасярэднасцямі, і я меў неасцярожнасць ім аб гэтым сказаць, пра што цяпер надзвычай шкадую. Зрэшты, лепей зараз пра гэта не думаць.

Я спрабую есці кіслыя зялёныя яблыкі, што нарваў каля начлежкі перад адыходам. Бутэрброд быў нічым не смачнейшы, але атрыманыя з яго калорыі я ўжо скарыстаў на падтрымку чуйнасці арганізму і цяпер зноў адчуваю голад. Дзякуй богу, у мяне яшчэ ёсць цыгарэты. Палю адну за адной — паскудства, трэба кінуць паліць, кажу сам сабе, хаця насамрэч не магу сабе гэтага ўявіць. Колькі сябе памятаю, столькі палю. Самае горшае: увесь гэты час, будучы сам, я павінен аб чымсьці думаць. Забаўляць сябе, як малога. Пра штосьці з сабой размаўляць, нібыта каб не страціць прытомнасці. Пра што? Абы пра што: думаць пра нешта сур'ёзнае ў маім становішчы шкодзіць болей за цыгарэты.

Апошняе, што ў мяне засталося ад колішняга цывілізаванага жыцця — гэта плэер з навушнікамі. Я пачаргова затыкаю яму зяпу дзвюма касетамі, якія за гэты час паспелі мне, шчыра кажучы, абрыднуць, але лепей з імі, чымся без іх. На жаль, мой галоўны візір страўнік небеспадстаўна нашэптвае мне, што сёння я буду вымушаны гэты плэер прадаць. Шкада: ён наматаў разам са мною ці не сотні кіламетраў безнадзейнасці, асабліва між лагерам і найбліжэйшай аўтобуснай станцыяй, дарога да якой вяла праз ранішні лес. І вось цяпер, калі найгоршае ўжо ў мінулым, я вымушаны ад яго пазбавіцца...

Пад даўжэзным мостам каля трубаў гарадскога ацяплення стракацяць пустыя бутэлькі, каляровыя анучы, старыя часопісы, бляшанкі з-пад кансерваў і іншыя рэчы, якія пананосілі сюды бадзягі, што туляцца тут уначы. Гэтыя ўратаванцы з патанулага турыстычнага параходу паспелі ўжо ў сваім асабістым жыцці перацярпець тое стыхійнае бедства, якое нас, астатніх, яшчэ толькі чакае ў будучыні. Мабыць, таму яны заўжды былі мне настолькі цікавыя. Але цяпер гэтая цікаўнасць мяне палохае, бо я надта небяспечна да іх наблізіўся. З гэтай самай прычыны я не хаджу ў дабрачынныя ўстановы — лепш я буду такім, як яны, сам па сабе, чым штодня бачыць у іх сябе самога.

Ідучы па мосце, я без захаплення пазіраю на гарадскі краявід, які зусім не выклікае ў мяне ніякіх эмоцыяў, не кажучы ўжо пра нейкія ідэі, і пачынаю разумець, як ненавіджу ўсё тое, што дагэтуль чытаў аб гэтым Месце, разам з тымі, хто гэта панапісваў. Што яны маглі ведаць аб сапраўдным жыцці? Службоўцы, настаўнікі, журналісты... хто яшчэ? Хлусы, бессаромныя хлусы! Нічога, прыйдзе час, і я здолею выкрыць іхнюю хлусню. Хваля гневу апаноўвае мяне: гневу ад сваёй цяперашняй бязмоцы. Я не магу нічога стварыць, не магу звязаць двух словаў, нічога не ведаю аб гэтым Месце, я толькі адчуваю, інтуітыўна адчуваю, што праўда — гэта тое, што адбываецца тут і цяпер са мной, а не тое, што напісалі тыя чалавечыя парэшткі, якія гніюць цяпер у шанаваных і добра дагледжаных магілах! Тутэйшыя ходзьбіты, так званыя фланёры! Разявакі... У сапраўднасці ў бадзяннях па Месце няма нічога літаратурнага, пагатоў

рамантычнага. Спазніцца ўначы да закрыцця начлежнага дому, правесці ўсю ноч без сну, на холадзе, на вуліцы, адмарозіць сабе ср...ку — у гэтым няма, насамрэч, нічога прыемнага. Праўда, што звычайна пасля ночы такіх бадзянняў прыходзіць “узнагарода”: шпацыр па каменным, як на мой густ — залішне дэкаратыўным мосце, калі па-над вадою ўздымаецца густы хомар, не відаць берагу, ды нават уласных ног, усё нагадвае сон. Птушкі маўчаць. Толькі паводле плёскату здагадваешся, што дзесьці там, у дзесяці метрах пад табою — вада. Здаецца, што знаходзішся ў нейкім інкубатары, што ўдае сабою шкляную сферу з дыяметрам некалькіх метраў, загорнуты ў бавоўну, як свежавылуплены гамункулюс. Мінімальная адзінка быцця: белая крывінка ў сэрцы Еўропы. Цёмныя плямы імкліва ператвараюцца ў прывіды людзей, якія мінаюць цябе, з перасцярогай пазіраючы ў твой бок, як быццам прывід — гэта ты, а не яны... Вось і ўся ўзнагарода. На гэта я і прамяняў вострыя, рэзкія абрысы майго Гораду й твары сваіх сяброў: на прывідны шпацыр па прывідным мосце ў прывідным Месце. Я спадзяваўся, што, зрабіўшы гэтак, змагу жыць паводле сваіх прынцыпаў, знайду душэўны спакой. Як я памыляўся! Мая душа не знаходзілася ўва мне. Маёй душой былі мае сябры, маё наваколле, маё асяроддзе, а я быў душою іхняй. Цяпер я ніхто. Сказаць гэта — іншы спосаб сказаць, што я зноў нарадзіўся. Так, зрэшты, інкубатар... Мая адзіная праблема, што я маю яшчэ сія-тыя згадкі аб папярэднім жыцці.

Шпацыр займае ў мяне паўгадзіны, але мне здаецца, быццам я крочу цэлую вечнасць. Пад прыкрыццём транспартнага гуду я спяваю ўголас незразумелыя мне тэксты песень з плэеру. Той замяняе майму “я” кіслародную падушку й не дае яму задыхнуцца. Шкада толькі, што ён пачынае цягнуць. Але нічога, да цэнтру дацягне. Калі б я паехаў аўтобусам, сілкавання хапіла б на большае: перад продажам плэеру я паспеў бы яшчэ раз паслухаць тую кампазіцыю, дзе гучаць скрыпкі. Хаця няма бяды, я й без таго ведаю яе на памяць. Толькі дзеля гэтага не варта сядаць у аўтобус. У аўтобусах мяне пераследуюць лічбавыя паліндромы на электронным гадзінніку, такія як 10:01, 11:11, 12:51 і г. д. Я заўважыў, што такія люстраныя імгненні часу прыносяць няшчасце. Яшчэ мяне раздражняе жаночы голас, які абвяшчае прыпынкі: адзін і той самы голас нейкае звышістоты ў трамваі, метро, аўтобусе, на вакзале, нават у тэлефоне. Нізавошта ў жыцці не хацеў бы сустрэцца з ёю. Да таго ж, у аўтобус мяне не пускаюць боты. Не падумайце, у мяне вельмі зручныя спартовыя боты, знойдзеныя мною ў гурбе гуманітарнай дапамогі, але ў іх адна праблема: яны страшэнна смярдзяць. Калі я з’яўляюся ў іх у грамадскім месцы, яны тут жа прыцягваюць увагу астатніх і змушаюць іх з падазрэннем унюхвацца ў наваколле з мэтай ідэнтыфікаваць месцазнаходжанне пагрозы: асцярожна, бадзяга! Убачыўшы мяне, яны пераконваюцца ў беспамылковасці атрыманай імі з паветра (то бок, ад маіх ботаў) інфармацыі: так і ёсць, бадзяга, жабрак, беспрытульны. І калі ўжо іх... і г. д. Самае горшае, што я сам ведаю пра неахайнасць свайго выгляду, але пакуль яшчэ не навучыўся за яго не саромецца — вось толькі тады я б насамрэч ператварыўся ў бадзягу.

Машыны, што спяшаюцца ў цэнтр, свішчуць у мяне ўвушшу дальнабойнымі снарадамі, абмінаючы мяне так, як бык абмінае тарэадора — неахвотна, збольшага дзякуючы ўласнаму спрыту апошняга. Памятаю, калі я выходзіў на шпацыр па Горадзе, я пачуваў сябе ўпэўнена, бо ведаў, што Горад належыць мне, што ў яго няма ад мяне ніякіх таямніцаў. Тут

у мяне зусім адваротнае адчуванне. Зрэшты, гэтага ж я і хацеў — таямніцаў... Пакуль для мяне таямніца толькі тое, што я тут буду рабіць, як доўга тут застануся, ці хопіць мне на сёння грошай і дзе іх узяць, калі яны скончацца.

І, урэшце, галоўная тутэйшая таямніца для мяне — гэта мова. Надпісы, якія вітаюць мяне на тым баку рэчкі, зноў выклікаюць у мяне смех. Я ніяк не магу да іх прывыкнуць: мне здаецца, што гэта нечы жарт. Не, немагчыма, каб такія смешныя літары маглі паведамляць нешта сур'ёзнае. Як быццам хтосьці наўмысна скажае людскую мову, каб з мяне паздзекавацца: так размаўляюць толькі з малымі дзецьмі. Трэба абавязкова звярнуць на гэта ўвагу мясцовых жыхароў. Адзінае, што ўлагоджвае мой зрок — гэта стракатыя ручныя дываны паўсюдных графіці, якія не паведамляюць дый не імкнуцца паведаміць вам зусім нічога, апроч таго, што вы ў свабоднай краіне, дзе вашае існаванне зусім не павінна мець нейкі сэнс: тут можна быць лёгка вызваленым ад яго, як ад нейкага неабавязковага падатку.

## 4.

Сёння маёй мэтай нумар адзін ёсць будынак, які нагадвае сваёй формай "Прадчуванне грамадзянскай вайны", то бок штосьці вельмі недарэчнае, як і ўся паслямадэрновая архітэктура, на якой значна адбіліся бамбардаванні пяцідзесяцігадовае даўніны: дамы пачалі будаваць проста, хутка і танна, без упрыгожванняў, каб іхняя страта ў выпадку разбурэння была не такой адчувальнай, і праз гэта сучасныя гарады выглядаюць нетрывала, знервавана, у іх няма спакою і пэўнасці. Праўда, гэтага Места, на шчасце, гэта амаль не датычыцца. Усё ў ім, наадварот, дыхае мінуўшчынай. Калі шчыра, я прыехаў сюды акурат таму, што стаміўся жыць у горадзе без мінуўшчыны — хаця жыць у месце без будучыні ненашмат лягчэй.

У гэтым будынку месціцца радыё "Суайчыннік", штоператварае яго ў маіх вачах у непрыступны бастыён свабоды слова пасярод гораду. Гэта азначае, што там павінна ў дадзены момант знаходзіцца некалькі блізкіх мне па духу людзей. І хаця сам я ведаю, што нікога блізкага мне па духу ў прынцыпе не існуе, калі толькі мець на ўвазе менавіта дух, а не духан, я ўсё ж рэгулярна спрабую пераканаць іх у адваротным, каб пазычыць у нейкага з іх некалькі срэбнікаў на ўтрыманне свайго зношанага цела. Што зробіш: з тых, каму ідэі свабоды прыносяць непасрэдную карысць, я не ведаю ва ўсім месце нікога, акрамя насельнікаў гэтага будынку. Гэта ў Горадзе я быў знаёмы з кожным сабакам. Праўда, я спрабаваў размаўляць з двума-трыма тутэйшымі наконт свайго навуковага адкрыцця, але ніводны з іх мяне па-сапраўднаму не зразумеў, а адзін нават палічыў мяне блазнам і параіў мне лячыцца. Я сказаў яму, што я дастаткова здаровы на тое, каб пры жаданні набіць яму пысу, пасля чаго той спалохаўся і ўцёк. Дзіўна, няўжо ў мяне сапраўды настолькі пагрозны выгляд? Адкуль у мяне раптам узялося столькі нахабства і злосці? На радзіме я не толькі ні з кім не біўся, але нават амаль не лаяўся: там білі й лаялі ў асноўным мяне.

Пасля даўжэзнай працэдуры вытрусвання маіх кішэняў, з якіх на стале з'яўляюцца недапалкі, скамянелыя жуйкі, нейкія замуляныя цыдулкі, аб існаванні якіх я й сам ужо паспеў забыцца, мне дазваляюць зграбсці ўсё гэта ў далоню й выкінуць у сметніцу. Ахоўнікі радыё, якія сышліся сюды з усіх кутоў будовы, каб на мяне паглядзець, пазіраюць на мяне ўсе разам

хутчэй са здзівам і спачуваннем, чым з падазорам. Мне гэта цалкам да ср...кі: да іхніх позіркаў я звыклы. Здаецца, яны не могуць дацяміць, што я тут у каторы раз раблю. Я паведамляю ім, што ў мяне сустрэча з супрацоўнікам радыё. Яны не разумеюць, як хтосьці можа хацець сустрэцца са мною. Аб'ектыўна кажучы, яны маюць рацыю. Але я насамрэч дамовіўся аб сустрэчы з прадстаўніком радыё — яшчэ ўчора. Мяне садзяць на сінюю канапу ў куце, як асабліва небяспечнага інфекцыйнага пацыента. Мінае паўгадзіны, а мой меркаваны візаві ўсё не прыходзіць. Я стаміўся азірацца на гадзіннік, які вісіць у мяне за спінай: гэта нагадвае мне, як я сядзеў у Горадзе ў пастарунку і чакаў допыту. Ахоўнікі назіраюць за мной з-за непразрыстага затанаванага шкла. Мне хочацца паліць, але калі б да смуроду маіх ботаў далучыўся яшчэ й смурод маіх цыгарэтаў, гэта насамрэч магло б быць кваліфікавана як выкарыстанне хімічнай зброі. Ува мне мацнее патрэба куды-небудзь адсюль знікнуць, схавацца, праваліцца скрозь зямлю. Што я тут раблю? Што я яму скажу? Супакойваю сябе думкай, што я тут такі не адзін: шмат людзей з Усходу прыходзяць сюды выжаброўваць працу, цыганіць грошы. Усе яны прыкідваюцца, што ёсць чымсьці большым, чым насамрэч. Вытрымаць.

Нарэшце ён прыходзіць. Усміхаецца. Жартуе. Я прагна зацягваюся прапанаванай ім дарагой цыгарэтай. Божухна, такіх добрых цыгарэтаў я вельмі даўно не паліў! Тытунь адразу дае мне па мазгох. Мне робіцца добра і ўтульна ў таварыстве гэтага мілага, сімпатычнага й таленавітага чалавека. Ягоныя словы гучаць як калыханка. Ён паведамляе мне аб тым, што змаганне працягваецца і што неўзабаве я змагу вярнуцца на радзіму. Гэтая фраза выклікае ў мяне жах і прымушае ачомацца. На радзіму? Навошта? Што я яму зрабіў? Можа, нешта не так?

Ніхто, нават ён, не можа зразумець, у чым палягае прычына маёй нянавісці да сваёй краіны. Ніхто не можа паверыць, што калі я бачу на вуліцах сваіх суайчыннікаў, чую іхнюю мову, асабліва з тэлефонаў-аўтаматаў ("Ну як там дома? Усё ў парадку? Ну і лады"... У іх дома заўжды ўсё ў парадку!), мне робіцца блага — чыста фізічна (хаця невядома, як я магу гэта пазнаць, калі мне фізічна блага амаль увесь час). Мой суразмоўца заўважае мой спалох і перапыняе свой маналог, нібыта сумеўшыся, каб нарэшце спытацца ў мяне, чым я займаюся. Я доўга чакаў гэтага пытання, і вось цяпер паціскаю плячыма: пакуль што нічым. Але хачу вучыцца ва ўніверсітэце.

— Што ты будзеш там рабіць? — здзіўляецца ён: відаць, я зусім не падобны да чалавека, які б мог мець нейкае дачыненне да ўніверсітэту, хаця й правёў у студэнцкіх інтэрнатах ладную частку жыцця.

— Рэч у тым, — кажу я амаль з выклікам, праглынуўшы сваю крыўду, — што я зрабіў адкрыццё.

— Якое адкрыццё? — цікавіцца ён.

— Навуковае, — кажу я.

Ён уважліва на мяне пазірае.

— І ў чым яно палягае? — настойвае ён з усмешкай.

Яшчэ чаго не хапала! Так я табе гэта й сказаў! Шмат вас такіх, цікаўных. Але адказваю ветліва:

— Гэтага я вам сказаць не магу. Прынамсі, да таго, як яно будзе апублікаванае ў спецыялізаваным часопісе.

— І калі яно будзе апублікаванае?

— Не ведаю. Я спрабаваў дасылаць свае тэксты ў айчынныя часопісы, але ніводны з іх пакуль не ўзялі. Людзі, якія калісьці былі пра мяне найлепшага меркавання, цалкам змянілі сваё стаўленне, як толькі я з'ехаў...

Ён хітае галавой, маўляў разумее — ці то сцвярджальна, ці то засынаючы.

— Унівэрсытэт — гэта добра, — урэшце ўхваляе ён. — Нам патрэбныя адукаваныя людзі.

Відавочна, што ён лічыць мяне поўным вар'ятам.

Пасля гэтай кароткай прэлюдыі я спрабую намякнуць яму, што мне патрэбныя грошы. Бяда ў тым, што ў мяне сканчаюцца цыгарэты, а без цыгарэтаў я не магу пражыць. Чаму ж ты не знойдзеш сабе працу, пытаецца ён. Я маўчу, каб не сказаць якой грубасці. Як быццам гэта так лёгка!

Божухна, колькі разоў я ўжо казаў, што не магу рабіць ніякай фізічнай працы! Я ненавіджу фізічную працу! Фізічная праца, я лічу — гэта рабства. Хіба я дзеля гэтага прыехаў? Толькі нацысты лічылі, што яна "вызваляе". Да таго ж, я такі хворы, што не магу вытрымаць ніякай фізічнай нагрузкі, нават самай мінімальнай. Я ведаю, спрабаваў. Акрамя таго, інтэлектуалу павінна быць проста забаронена фізічна працаваць, хіба толькі рэкрэацыйна, бо фізічная праца атупляе...

Зрэшты, ён мае рацыю, не ў фізічнае працы тут цымус. Я папросту нядобра выхаваны. Усё пачалося з нулявога класа: замест добрай выхавацелькі аднекуль прыйшлі злосныя настаўнікі, і кожны з іх пачаў хацець ад мяне нечага свайго. Ненавіджу спецыялізацыю, падзел на прадметы, на дысцыпліны! Каб працаваць, неабходная ўнутраная дысцыпліна, а я б хацеў займацца ўсім і нічым адначасова...

Ён перапыняе мае глыбакадумныя рэмінісцэнцыі: маўляў, у такім разе гэта значыць, што ты па духу — журналіст, такі ж, як і я. (Не, ён мяне не разумее.) Паспрабуй уладкавацца прынамсі ў нейкую тутэйшую газету для эмігрантаў. Не, дзякуй, усміхаюся я. Гэта было б ніжэй майго роўню. Чым пісаць у такія ўплывовыя выданні — лепей памерці з голаду. Я ведаў людзей, што здолелі туды ўладкавацца. Усе яны спіліся.

Што ж, у мяне пры сабе няма грошай, кажа ён, дый я мушу вяртацца на працу — абед скончыўся. Прыйдзі ў гэты самы час заўтра — паглядзім, што ільга для цябе зрабіць. Яшчэ, калі хочаш, магу пашукаць для цябе дома якія іншыя боты. Добра, уздыхаю я. Ён пакідае мне недапалены пачак дарагіх цыгарэт. Дзякуй і на гэтым.

## 5.

Я выходжу паміж шырока расстаўленых калонаў будынку на вуліцу і з ганьбай для сябе ўсведамляю, што адчуваю сябе бездапаможна, як дзіця, выкінутае з матчынага ўлоння. Водгук размовы цягнецца за мною замест абарванае пупавіны, блытаецца ў мяне пад нагамі. Яшчэ дзесяць хвілін таму я аддаў бы ўсё на свеце, каб як мага хутчэй адтуль знікнуць, і вось цяпер разумею, што цягам рэшты сённяшняга дня больш не змагу ні з кім пагаварыць па-свойму, хіба толькі калі патэлефаную дадому, але гэта мала праўдападобна. Я рэдка званю дадому. Перад уцёкамі з краіны я перапісаў у асобны альфабэтны нататнік, калісьці даўно падораны мне маці замест азбукі драўлянаму чалавечку, кантакты ўсіх сваіх тамтэйшых знаёмых — у

добры шлях! Некаторыя літары ў ім засталіся пустымі. Пасля прыезду я так ніводнага разу ў яго і не зазірнуў, ці то каб пазбегнуць сантыментаў, ці то проста таму, што не было неабходнасці. Тут ён ператварыўся ў кшталт энцыклапедыі прыдуманых істотаў. А вось узяты мною на памяць дзедаў памазок аказаўся вельмі практычнай штукай. Гэтаксама выявілася, што пілкай для пазногцяў (адкуль я яе ўзяў?) можна мазаць масла на хлеб пры адсутнасці нажа. Хто б мог падумаць, што перасячэнне нябачнай мяжы між дзвюма краінамі насамрэч дапаможа трапіць у іншы свет, дзе пануюць іншыя законы — не толькі чалавечыя, але й фізічныя?

Перабіраючы свае рэчы на зэдліку ў скверы, я доўга не магу знайсці адрас, на якім знаходзіцца чарговая патрэбная мне ўстанова — няўжо я выкінуў яго ў сметніцу на радыё? Вярнуцца туды й пачаць у ёй корпацца? Гэта ніжэй майго гонару, хаця нікога з ахоўнікаў гэта б і не здзівіла. Ушчуваю сябе, што быць такім незасяроджаным у маёй сітуацыі — недаравальна. Замест адрасу знаходжу ў кішэні цыдулку з яшчэ адным тэлефонным нумарам. Прыгадваю: мне казалі, што калі я на яго патэлефаную, мне зробіцца лягчэй. Дзіўная, магічная цыдулка — як замова супраць злога духу. Доўгае слова з дзевяці лічбаў: зашыфраванае імя анёла-абаронцы. Гэта тэлефон адной дабрачыннай установы, аднак пайсці я туды не магу, бо вінаваты адной тамтэйшай працаўніцы 500 крон, якія не ведаю, як буду вяртаць і ці вярну калі наогул. Шкада: яна вельмі мілая жанчына. Сорамна быць вінаватым жанчыне. Што яна цяпер думае пра мяне? Я зусім не хацеў яе падманваць, я насамрэч спадзяваўся, што здолею вярнуць ёй пазыку. Але ў маім цяперашнім становішчы нельга быць упэўненым ні ў чым.

Урэшце, знаходжу адрас установы ў жоўтым тэлефонным даведніку, прымацаваным да аўтаматнай будкі жалезным тросам. Пасля гэтага доўга вывучаю мапу горада на паблізным зашклёным стэндзе, быццам не магу наглядзецца на ўласнае адлюстраванне: дзякуй богу, факультэт знаходзіцца побач. Бадай, здалёк мяне можна прыняць за самага звычайнага турыста. Цемнаскурыя хлопцы, што гуртуюцца паблізу, таксама прыходзяць да гэтай высновы і пачынаюць па чарзе прапаноўваць мне наркату: яны належаць да тых, што начуюць на вакзале, бальшыня з іх вымушаная красці ці прадаваць сябе, каб зарабіць на дозу. Вядома, я ім спачуваю, — як быццам мяне не спрабавалі кадрыць на вакзале! — але дапамагчы не магу. Зразумела, што любы з іх толькі марыў бы памяняцца са мною месцамі, але я гатовы пайсці на ўсё, каб гэтага не дапусціць, бо ведаю, што калі б не мае чыста буржуазныя інстынкты некалі "прыстойнага хлопчыка", дзякуючы якім я яшчэ трымаюся за апошнюю прыступку сацыяльнай лесвіцы, гэта магло б здарыцца досыць лёгка. Напэўна, гэтак тапелец, які вынырвае на паверхню вады, бязлітасна лупіць нагамі тых, хто спрабуе за іх учапіцца.

Дадумаўся ж нехта размясціць гэты задрыпаны факультэт на самай ажыўленай гарадской артэрыі! Відаць, наўмысна, каб схаваць ад людскіх вачэй яго агідны шэры будынак, які вельмі проста мог бы быць сядзібай тайнай паліцыі ці анкалагічнай клінікі. І гэта вы яшчэ не бачылі яго з сярэдзіны: нізкія столі, вузкія калідоры, доўгія лесвіцы з высокімі прыступкамі, белыя сцены падмазваюцца да вас, незаўважна пакідаючы на вопратцы незмывальныя клейны будучых прадстаўнікоў "разумовага пралетарыяту" — кагнітарыяў.

Ліфт не без намогі, нібы неахвотна ўздымае мяне ўгару — мяне і яшчэ пяцёх чалавек рознага полу. То бок нягледзячы на тое, што ліфт разлічаны

толькі на пяцёх, нас там цяпер шасцёра. Зразумела, хто там лішні — вядома, я. Не думаю, аднак, што важу цяпер нашмат болей за прывід, за які мяне ўсе прымаюць. Але што, калі гэты стары, напрацаваны ліфт усё-ткі ўпадзе? Не хацеў бы ляжаць унізе, на першым паверсе, у панібрацкай еднасці перамешаны з касцямі гэтых юных энтузіястаў з шэрагаў залатой моладзі... Ад гэтай уявы мне робіцца ніякавата. Я спрабую пераканаць сябе, што такое чаргаванне панічнага й дэпрэсіўнага стану павінна быць абумоўленае ўсяго толькі адсутнасцю вітамінаў і калорыяў, але гэтая думка ніяк не дапамагае мне супакоіцца. Усю дарогу да пятага паверху мае пяць спадарожнікаў несупынна размаўляюць між сабою (дзявочы дуэт, хлапечае трыо) на ўсё яшчэ малазразумелай мне мове. Я імкнуся іх не слухаць: паводле майго досведу, 90% усіх падслуханых тут мною размоваў з'яўляюцца поўны нонсэнсам. Прынамсі, у тым, што я маю няшчасце разумець, няма абсалютна нічога, што было б вартае разумення.

Пры ўсім гэтым, я не магу не прызнацца сабе, што ў ліфце я ўпершыню за доўгі час нечакана зблізку бачу рэальных людзей, сапраўдных жыхароў гэтага места, якія тут, у адрозненне ад мяне, дарэчы. Мне сорамна перад імі: яны мае аднагодкі, некаторыя нават крыху маладзейшыя за мяне, ці прынамсі так выглядаюць. Усе яны ахайна, даволі модна, а некаторыя нават густоўна апранутыя (мы нагадваем гэткую клетку з паддоследнымі экзатычнымі птушкамі, якіх вязуць на абед драпежнікам), усе нейкай інтуіцыяй адчуваюць ува мне чужынца: я парушаю іхнія ўяўленні аб іхняй роднай навучальнай установе. Дагэтуль яны пачувалі сябе тут у поўнай бяспецы, а цяпер гэтае адчуванне цалкам знікла. Да таго ж, ад мяне смярдзіць усім: вуліцай, потам, нямытымі валасамі, начлежным домам, сабачынай, бруднымі нагамі, мачой, палюцыяй, півам — чым яшчэ? Як мне давесці гэтым людзям, што чалавек смярдзіць ад стрэсу, ад несупыннага стрэсу, а зусім не ад таго, што мыецца раз ці два на тыдзень? Насуперак усякай логіцы, найлепшае ў маім становішчы — трымацца як мага далей ад людзей. Гэта, прынамсі, больш годна, дый у выніку больш практычна, чым спрабаваць ім растлумачыць, хто я такі й што тут раблю. Аднак як трымацца ад іх далей у гэтым вузкім ліфце? Я не вінаваты, што пасля шпацыру ў мяне няма сілаў уздымацца па лесвіцы.

Як толькі ліфт спыняецца, мае спадарожнікі выбягаюць з яго, каб магчы забыцца пра мяне як мага хутчэй, аднак ужо напаўпрыручанае брыдкае качаня ўсё адно паслухмяна валюхаецца за імі. Пад нізкай столлю апошняга паверху я адразу заўважаю, што пачынаю задыхацца на верхняй палубе гэтага "Тытаніку", дзе астатнія пачуваюць сябе, як рыбы ў вадзе: гуд іншамоўных галасоў, які замінаў мне ўжо на вуліцы, зрабіўся тут яшчэ больш невыносным і, цалкам затапіўшы мой слых, ператварыўся ў штосьці накшталт глухой цішыні ўвушшу патанулага. Усе галасы зліліся ў адзін гоман, у якім немагчыма адрозніць ніводнага слова. Я не чакаў убачыць і пачуць тут столькі моладзі, што паслухмяна стаіць у чарзе да адныхадзіных дзвярэй: ніхто не сварыцца, не мацюкаецца, не плюецца, ніхто нікога не абганяе, усе чакаюць. Верасень — месяц чэргаў, яго варта было б назваць чэргенем, бо чэргі стаяць цяпер усюды — на зямлі, пад зямлёй... З Гораду ненавіджу чэргі, але калі там чарга — гэта асобны прымітыўны жывы арганізм, накшталт тысячаножкі, то тут — усяго толькі кшталт ДНК нейкай нашмат вышэйшай істоты; выпадзенне з шэрагу малекул было б роўназначнае пагрозе біялягічнай мутацыі на ўзроўні цэлага, парушыла

б прычынна-выніковую сувязь у функцыянаванні ўсяго грамадства, таму кожны тут трымаецца свайго парадкавага нумару і не спрабуе лезці папярод іншага ў пекла. Стаяць у чарзе азначае стаяць на варце цывілізацыі.

Азіраючыся па баках у пошуках прынамсі аднаго незадаволенага позірку, я вагаюся, ці варта мне ўсё-ткі турбаваць спадара прафесара з-за такой драбязы, як мая будучыня, ці не лепей было б проста зараз развярнуцца й сысці. Але я ведаю, што калі хачу быць часткаю арганізму, то павінен пераадолець сваю нерашучасць: у мяне ёсць місія, і я павінен яе выканаць, надакор усім перашкодам. Гэта мой апошні шанец.

— Чым я магу вам дапамагчы? — якой гадзінай пазней ветліва пытаецца ў мяне стары прафесар, вялікі чалавекалюб і педагог.

Я пачынаю свой добра прадуманы, на памяць вывучаны маналог, які адгаворваю хутка, але бязвыразна, як школьнік нудную праграмную паэму.

— Мне вельмі цяжка вас зразумець, — урэшце прызнаецца прафесар. — Вы вельмі спяшаецеся. Вашая мова яшчэ не такая добрая, як вам здаецца.

— Ну, добра, — уздыхаю я. — Зрэшты, гэта вашая мова, а не мая. Мне здавалася, вы павінны яе разумець. Калі хочаце, давайце будзем размаўляць на маёй мове. Мне, каб вы ведалі, гэтая вашая мова наогул здаецца непрыдатнай да выказваньня маіх думак...

Прафесар перапыняе мяне жэстам і просіць вярнуцца да тэмы. Але настрой да размоваў у мяне знік: замест словаў я бяру аркуш паперы й імкліва крэслю на ім геаметрычную фігуру.

— Што гэта? — хітравата пазіраю я на прафесара.

— Чатырохкутнік, — пасля кароткага роздуму адказвае той, узняўшы бровы па-над акулярамі.

Кіўнуўшы галавой, я зухавата перакрыжоўваю чатырохкутнік дзвюма рысамі: выходзяць чатыры квадраты.

— А гэта?

Ён пазірае на мяне паверх акуляраў, каб запэўніцца, што я не жартую.

— Лагічны квадрат Грэймаса? — спрабуе ўгадаць ён.

Я ледзь не паміраю са смеху.

— Не-е, шаноўны! Гэтак не пойдзе! Я бачу, мы з вамі не паразумеемся... Гэта — схема чалавечага ўспрыняцця свету!

Прафесар даволі доўгі час пераводзіць вочы з мяне на мой сшытак, пакуль яны ўрэшце не пачынаюць яму балець, а тады падсумоўвае:

— Скажыце: чаго вы ад мяне хочаце?

— Ад вас? Я хачу ведаць, што вы наконт гэтага думаеце.

— Наконт чаго?

— Наконт майго адкрыцця.

— Якога адкрыцця?

Я пачынаю губляць цярплівасць.

— Паслухайце, я з вамі не жартую! Зразумейце: з-за гэтага адкрыцця я мусіў уцячы з сваёй краіны! Уяўляеце сабе, якія гэта можа мець наступствы? У палітычным і геапалітычным сэнсе? Не кажучы ўжо пра гнасеалагічны аспект...

Прафесар чмокае вуснамі, варушыць бровамі — робіць выгляд, што думае. Нарэшце, прыдумляе пытанне:

— Вы чыталі кнігу такога й такога на гэтую тэму?

— Не.

— А такога?
— Не.
— А гэтага?
— Не.
— Дрэнна, вельмі дрэнна... — круціць галавой прафесар. — Гэтага я ад вас не чакаў...
— Але ўсё гэта — шарлатаны! — пачынаю пярэчыць я. — Якая розніца, што яны напісалі аб гэтым? Калі б яны насамрэч разумелі, у чым тут справа, яны б прыйшлі да такіх сама высноваў, што і я!

Прафесар уздымае на потны высокі лоб забрала акуляраў (здаецца, гэта самі ягоныя вочы вылезлі на лоб) і вылупліваецца на мяне сваім нізкавокім позіркам: не, я ўсё-ткі не галюцынацыя ягоных перапрацаваных мазгоў.

— Як вы можаце патлумачыць той факт, што кірылічная літара “Б” нагадвае перавернутую дзявятку, а лацінская “B” – васьмёрку? Што кірылічная “З” ёсць тройка, а лацінская “Z” – двойка? Што кірылічная “Г” – гэта сямёрка наадварот, а лацінская “G” – шасцёрка? Вы разумееце?

Гэта не ён, гэта я задаю яму гэтыя пытанні, на якія ён, натуральна, не можа ведаць адказу, бо ведаю яго толькі я. Спадзяюся, гэта ўразіць яго больш за мой чатырохкутнік. Ён, здаецца, сапраўды агаломшаны. Няўжо ён сам на працягу свайго доўгага жыцця ніколі над гэтым не задумваўся? Нельга губляць моманту, надышоў час канчаткова яго даціснуць.

— Пазаўчора, — тут я пераходжу на ўрачысты шэпт, — я заўважыў, што прозвішчы ўсіх маіх улюбёных пісьменнікаў пачынаюцца з літары “Б”! Няўжо вы думаеце, што ўсё гэта выпадковасць? А калі не — то ўсведамляеце, як гэта можа змяніць нашыя ўяўленні аб свеце?
— Вам так здаецца?

Я спрабую паставіць сябе на месца прафесара: уявіць сябе старым, самотным чалавекам з нізкім заробкам і высокім аўтарытэтам, дзеянне якога сканчаецца за дзвярыма гэтага кабінету.

— Хіба вы не можаце дазволіць мне тут вучыцца? — пытаюся я амаль міралюбна. — Я б мог атрымліваць грошы й працягваць сваю працу...
— Працу? — прафесар ссоўвае бровы. — Не разумею... Як я магу дапамагчы вам знайсці працу?
— Вы не разумееце, — я спрабую ўсміхнуцца, каб схаваць балючую грымасу, якую выклікае ў мяне слова “праца”, але нічога не атрымліваецца, — як бачыце, у мяне ўжо ёсць праца...
— Ёсць? Тады чаго вы ад мяне хочаце?
— Вось, — дастаю я свой сшытак — як мага больш хутка, каб ён не заўважыў трымценне маіх рук. — Вось усё, што я напісаў. Я магу пакінуць гэта вам.
— Навошта? — не разумее ён.
— Як? — здзіўляюся я. — Хіба я вас не зацікавіў сваймі думкамі?

Прафесар паціскае плячыма. Мне хочацца плюнуць, але ў ягоным кабінеце няма попельніцы ані сметніцы. Я адчуваю гэтую немагчымасць як прыніжэнне, як парушэнне маіх чалавечых правоў.

— Добра: калі вы не можаце нічога мне параіць, дык пазычце мне прынамсі грошай! — уздымаю я голас. (Насамрэч, я спрабую суняць сваё хваляванне й сцішыць голас, але той усё адно трымціць на актаву й на дэцыбел вышэй, чым звычайна.) — Іначай мне прыйдзецца прадаць плэер з навушнікамі, што ў маёй сітуацыі было б роўнае самагубству...

Ён доўга пазірае на мяне. Як вядома, у гэтай краіне ўсіх маіх землякоў уважаюць за рэкеціраў. Нарэшце, параіўшыся з гіпсавым Сакратам, прафесар дастае з кішэні новую паперку з лічбай 200 — хоць нешта. Столькі я звычайна растрачваю за дзень. Значыць, сёння жыць можна. Мой інтэлектуальны ціск на яго падзейнічаў. Але я сёння яшчэ вялікадушны! Упэўнены, што ён заплаціў бы ў дзесяць разоў болей, толькі каб ад мяне пазбавіцца.

## 6.

Нарэшце, я вольны! Не, пачуцця голаду ў мяне няма — хутчэй пачуццё віны перад сваім страўнікам і перад чалавецтвам, а таксама перад старым прафесарам: усё-ткі ён не такі ёлуп, якім я яго спярша палічыў.

Я збягаю ўніз па вузкай лесвіцы — прэч адсюль, хутчэй прэч! — чацвёрты, трэці, другі паверх — і нарэшце апынаюся на вуліцы. Сляпучае сонца спыняе мяне папераджальным сігналам: перад маім носам на поўнай хуткасці пралятае машына. Што ж, сёння насамрэч удалы дзень! Калі я яшчэ й прадам плэер, то зараблю больш, чым за ўсё папярэдняе жыццё ў гэтым Месце! За яго мне дадуць як мінімум яшчэ столькі: магчыма, я нават здолею разлічыцца за пазыку. Калі праца — гэта рабства, то грошы — гэта свабода!

Падумаўшы так, я адразу ж раблюся смешны й агідны сам сабе. Так нізка ўпасці! Што я там распавядаў старому прафесару? Што я Міхайла Ламаносаў? Не дзіва, што ён мне не паверыў. Калі б ён у нешта верыў, ён не быў бы прафесарам. Няўжо ж я сам мог ува ўсё гэта верыць? Калі шчыра, дык мне наср...ць на ўсялякую навуку. Я ўпэўнены, што маё адкрыццё не патрабуе ніякіх доказаў, тытулаў, абаронаў дысертацый — для гэтага яно занадта відавочнае. Як доўга яны будуць вагацца з ягоным афіцыйным прызнаннем — праблема не мая, а іхняя. Хутчэй за ўсё, я да гэтага не дажыву — ну дык і што?

Адразу пастанаўляю, што трэба зайсці на піва. Падумаць толькі, сёння я яшчэ нічога не піў! Неверагодна. А ўжо даволі позна: палова на другую. Дзень схіляецца да сваёй лепшай паловы. Значыць, ужо ёсць падстава для святкавання. Без лішніх роздумаў заходжу ў маленькі бар на вялікім бульвары, дзе прадаюць самае таннае піва, для рабочага класу, па адзінаццаць крон. Не толькі ўва ўсім цэнтры, але і ўва ўсім месце, наколькі мне вядома, няма такога таннага піва. Выглядае, што тут яго чэрпаюць проста з рэчкі. Рабочыя прыходзяць сюды пасля працоўнага дня — калі па-нашаму, адразу пасля абеда. Паколькі на вялікім бульвары несупынна нешта руйнуецца, будуецца й перабудоўваецца, бар заўсёды поўны людзей, і гэтыя людзі заўсёды п'яныя. Збольшага яны моўчкі п'юць нешта зялёнае, што цягнецца, як марынад у слоіку закансерваваных грыбоў. Іхнія запэцканыя ўсімі фарбамі камбінезоны маюць у сабе штосьці ад клоўнскіх касцюмаў. Між іх я пачуваю сябе як першы сярод роўных, не тое што на факультэце. Сядзець у бары нельга, толькі стаяць, абапершыся на маленькі, як у пасажырскім цягніку, столік. Акрамя голых баб на сценах ёсць тут і іншыя атракцыёны: прыкладам, два гульнявыя аўтаматы, што павінны замяняць тэлевізію. Іхняе змоўніцкае падміргванне супакойвае і ўсыпляе, вось толькі гук — раздражняе. Час ад часу чуецца бразгатанне манет, калі аўтамат, як дзіцё, выблёўвае назад частку ўкладзеных у яго грошай.

Не менш аўтаматычна дастаўшы свой сіні сшытак, я збіраюся, пакуль не забыўся, зараз жа апісаць у ім свае навуковыя дэбаты з прафесарам, аднак не магу засяродзіцца. Дзіўна, раней я думаў, што месцаў, дзе немагчыма пісаць ці чытаць, папросту не існуе. Відаць, гэта ўсё з-за назойлівай папсовай музыкі, неад'емнага атрыбуту рабочай піўнухі, ды перыядычнага парохквання гульнявых аўтаматаў і тых, хто іх абслугоўвае. Гэта цяпер яны мяне раздражняюць, а вось калі я ўпершыню быў апынуўся ў падобным бары, толькі не гарадскім, а вясковым, я быў гатовы плакаць ад шчасця. Люблю заходнія бары, гатэлі, хостэлі, вакзалы з іхняю легкадумнаю безгустоўнасцю й ананімным, на ўсіх і кожнага разлічаным камфортам. Ёсць і ў Месце падобныя закуткі, якія мяне асабліва натхняюць. Напрыклад, так званая “Заходняя Еўропа” — невялічкі дворык у атачэнні дарагіх рэстарацыяў, спланаваны як наследаванне заходняй архітэктуры, гэткая гульнявая ці трэніровачная пляцоўка для шырокай грамадскасці, што хоча выпрабаваць на сабе, якое адчуванне маюць ад жыцця тыя, каму пашанцавала больш за астатніх — яны сядзяць побач за шклянымі вокнамі й спажываюць сушы ў засені штучнай зелені, і на іх можна падоўгу глядзець, як на малпачак у заапарку, хіба што перайманне жэстаў і звычак адбываецца ў адваротным напрамку. Але сёння для адчування паўнаты жыцця мне дастаткова знаходжання ў гэтым паўпадпольным з выгляду бары й погляду на прыціснутую попельніцай зялёную сурвэтку перад сабой.

Свет пад алкаголем — ува ўсім лепшы за проста свет. Я б не мусіў піць, але п'яны стан дапамагае мне пераадолець псіхічны дыскамфорт, прасцей кажучы, надае мне ўпэўненасці. Можна сказаць, што я п'ю чыста ў медычных мэтах, дзеля, так бы мовіць, прафілактыкі нервовага разладу. Калісьці псіхічныя хваробы збіраліся лячыць з дапамогай ЛСД — але ў мяне, спадзяюся, не такі цяжкі выпадак, так што мне цалкам хопіць і алкаголю.

Канец канцоў, я не вытрымліваю позірку бармэна, які, мабыць, увесь час баіцца, што я сыду, не заплаціўшы. Аднойчы ўжо так сапраўды сталася, праўда, у іншым месцы — мне не хапіла дзвюх крон, каб разлічыцца за курыны булён у рэстарацыі. Даўшы яму гэтым разам прыплату (якой ён, па ўсім мяркуючы, ад мяне не чакаў — гуляем, браце!), я зграбаю свае рэчы й выходжу зноў на бульвар, дзе адразу ж трапляю ў самую гушчу нейкае нелегальнае перасоўнае тэхнапарці. Паўраспранутыя маладыя людзі, якія гадоў дзесяць таму пастанавілі назаўжды застацца тынейджарамі, таварышы маіх суседзяў з начлежкі, скачуць за машынай, як хлебныя крышкі па стале, калі па ім рытмічна, утрапёна ўдараць дубцом. З машыны, аздобленай некалькімі каляровымі балонікамі й лозунгамі, якія цяжка назваць палітычнымі (яны нягегла намаляваныя нейчай няўпэўненай рукой і маюць такі ж самы няпэўны змест), на хаду прадаюць піва за 20 крон: толькі для тых, хто таньчыць. Танцоры распырскваюць яго навокал фантанамі, як у чорнабелай камедыі чаплінскай пары: піць у часе скокаў у іх не атрымліваецца, таму за імі па ўсім бульвары цягнецца шлейф разлітага піва.

Падпіты не менш за мяне хлапец з па-хрысціянску шырокай бяззубай усмешкай спрабуе завабіць мяне ў іхнія шэрагі — відавочна, на падставе майго выгляду. Я дзякую яму і прыгадваю, што кагадзе гэтыя маладыя людзі атрымалі дзесьці ў полі дубцамі ад мясцовага спецназу, пасля чаго ўзнялі лямант наконт паліцэйскай дзяржавы, пра якую ніхто з іх насамрэч

не мае найзелянейшага паняцця: у паліцэйскай дзяржаве вас спачатку лупцуюць, а потым прыдумляюць для гэтага законную падставу. Затое цяпер у якасьці помсты яны цалкам беспакарана лупяць па галовах астатніх уласным мегатэхнасаўндсістэмстэрэадубцом. Тлумачыць ім, што гэтая дзяржава ёсць насамрэч не паліцэйскай, а мафіёзнай, у мяне цяпер не болей ахвоты, чым пускацца з імі ў шаманскія скокі. Лепей бы я ўжо далучыўся да крышнаітаў, якія ладзяць у цэнтры штосьці падобна зануднае штосуботу, толькі без піва і акустычна.

Спалоханыя грукатаннем тэхнапарці й анархісцкім выглядам качэўных маладзёнаў турысты прыцiскаюцца да сценаў будынкаў і ў закутках яшчэ больш пільна прыкрываюць далонямі лічбы на банкаматах, быццам хочучы распаліць агеньчык, з якога павінна разгарэцца полымя іхняга будучага шчасця. Падтрымліваць агонь: галоўная мэта жыцця засталася за тысячагоддзі нязменнай. Думаю, многія з турыстаў у глыбіні душы з задавальненнем уліліся б у гэты першабытны экстатычны статак, як калісьці ў юнацтве, аднак у іх ужо ёсць квіткі на зваротную дарогу, а яшчэ трэба паспець выплюндраваць заваяванае Места — набыць сувеніраў...

Не ведаю, што раздражняе мяне болей: гэты грукат ці смурод цыбулі і смажаных кіўбасаў, нечулліва змяшаны з паўсюдным смуродам конскіх дупаў (рамізнікі перагароджваюць турыстам шлях да адступлення, паставіўшы свае фурманкі ў адзіны шэраг: тактыка яшчэ з часоў табарытаў). Перасільваючы агіду, разумею, што пад'есці цяпер неабходна. Побач заўважаю шапік з самымі таннымі хот-догамі ў Месце, каля якога беспрытульныя звычайна выпрошваюць у мінакоў дробязь ці рэшткі ежы. Я ўжо амаль разяўляю рот, каб нешта замовіць, але своечасова паспяваю адсланіцца — бачу, што рукі гандляркі, якімі яна бярэ ежу, пакрытыя ружовымі плямамі нейкай скуранай хваробы, хутчэй за ўсё псарыязу. Не, я залішне добра знаёмы з скуранымі хваробамі, каб рызыкаваць зноў падчапіць якую з іх. Мне шкада гэтай немаладой ужо жанчыны, але ж даць рады сваёй ірацыянальнай боязі я не ў змозе. Я скіроўваю прэч і рушу абы-куды, маўляў у нейкім затлумленні розуму. У рукі мне невядома якім чынам (як калі йдзеш удоўж кустоў і бяздумна абдзіраеш пальцамі лісце) трапляюць рэкламныя ўлёткі з імёнамі ўсясветна вядомых кампазітараў. Нібы выбарчыя бюлетэні, якія потым трэба кінуць у бліжэйшую скрынку. Я механічна бяру іх з рук раздатчыкаў, хаця мне іх ніхто не прапаноўвае: у ніводную канцэртную залу мяне б усё адно ніхто не пусціў. Некаторыя з распаўсюднікаў улётак — мае суайчыннікі: гэта адзіная праца, якую яны здольныя знайсці ў горадзе. І я аднойчы спрабаваў быў падпрацоўваць на ўлётках. Увесь час трэба стаяць на адным месцы і ліхаманкава круціцца ў розныя бакі, як пляскатая фігурка бляшанага хакеіста ў настольным хакеі, якая рана ці позна адвальваецца. Я пракруціўся так цэлы дзень — болей не вытрымаў. Пры канцы дня мне заплацілі якую сотню крон. Пасля гэтага я болей нікуды не спрабаваў уладкавацца, шчыры дзякуй.

Дарма я ўсё-ткі піў тое рачное піва за 11 крон. Цяпер яно пачынае ўздзейнічаць не толькі на мае мазгі, але й на цела: трэба тэрмінова адліць. Гэта ўсё праз пусты страўнік. Акрамя таго, калі вас даймае сэксуальная жарсць, патрэба схадзіць у прыбіральню з'яўляецца ў вас у два разы часцей чым звычайна, як у таго ката — патрэба азначэння тэрыторыі. Яшчэ адзін доказ таго, што я тут зусім аскацінеў.

Бадай, найвялікшая пакута ў маім стане — крочыць па вялікай вуліцы

й вытрымліваць грэблівыя мімалётныя позіркі тысячаў сустрэчных дзяўчат і кабет, якія здаюцца мне цяпер неверагодна прыгожымі, не тое што ў першыя дні ў гэтым месце. Нязменным засталося толькі тое, што ніводная з іх не дапускае думкі, што са мною ільга нешта мець. Але я ўжо навучыўся адказваць ім узаемнасцю: у якасці супрацьдзеяння я пазіраю на азадкі тых, што ідуць наперадзе мяне. Зрэшты, невядома, што цяпер горай: на некаторыя з іх лепш было б не глядзець, аднак прымусіць сябе гэтага не рабіць папросту немагчыма. Гэтак аднойчы ў цягніку з лагеру ў Места я ўсю дарогу змагаўся з жаданнем накінуцца на пажылую кабету, якая сядзела насупраць мяне і займалася крывадушным маралізаваннем наконт разбэшчанасці сучасных нораваў, як быццам ейная ўласная маладосць, што паводле маіх падлікаў мусіла прыпасці на самы пачатак сэксуальнай рэвалюцыі, была іншай — пагатоў што я асабіста з разбэшчанасцю нораваў вось ужо колькі месяцаў не маю нічога супольнага. Юр душыў мяне, падаграваны жывёльным пахам майго ўласнага поту: празмерная гігіена відавочна спрыяе дэмаграфічнаму крызісу. У такім разе не разумею, як толькі людзі ў начлежным доме вытрымліваюць без сэксу: гэта ўсё іхняе вэгетарыянства... Хто ведае, можа, тая кабета наўмысна правакавала мяне такімі размовамі? У цягніках мне наогул шанцуе на вычварэнцаў...

Бачу паблізу адкрытую публічную галерэю, дзе працуе наглядчыцай адна мая знаёмая з Усходу, што ўладкавалася туды па вялікім блаце: добры шанец зайсці ў прыбіральню задарма. З месцамі, куды людзей звычайна прыводзяць патрэбы духу, такімі як галерэі, бібліятэкі, універсітэцкія будынкі, я азнаямляюся выключна дзякуючы патрэбам свайго цела ў рамках вывучэння месцазнаходжання бясплатных прыбіральняў. Многія з іх за гэты час паспелі зрабіцца платнымі — думаю, наўмысна, каб мне нашкодзіць.

У галерэі праходзіць выстава аднаго славутага аўстрыйскага мастака, аб якім я ніколі дагэтуль не чуў. Усміхнуўшыся сваёй знаёмай вартаўніцы, я адразу ж іду адліць, бо з поўным мачавым пухіром я наўрад ці быў бы здольны ацаніць мастакова майстэрства. Зачыніцца ў прыбіральні: якая ўнікальная магчымасць пабыць аднаму пасярод гэтага шматлюднага Места! Нездарма так шмат жабракоў хаваецца цягам дня ў прыбіральнях бібліятэкаў і факультэтаў. Вакол — цішыня і, у адрозненне ад платных грамадскіх прыбіральняў — чысціня. Шкада, што ў мяне з сабой няма якога порначасопісу... Я ўзгадваю пра адну дзяўчыну, якую быў неяк сустрэў — здаецца, гэта было на нейкім вернісажы, куды мы з асобнымі насельнікамі начлежнага дому завіталі паласавацца дармовымі бутэрбродамі на фуршэце — яна працавала там гардэробшчыцай. Памятаю, у мяне дых заняло, калі я яе ўбачыў: такой прыгожай дзяўчыны я не сустракаў ніколі ў жыцці. Нейкі час я назіраў за ёю, а калі яна пайшла ў прыбіральню, я адразу ж скіраваўся ў суседнія дзверы. Затаіўшы дыханне, я стаяў і слухаў, што яна робіць за фанернай сценкай. Здаецца, у той момант я ледзь не самлеў ад радасці, нібы адкрыў для сябе адну з найважнейшых таямніцаў гэтага места.

У мяне няма часу, каб надта доўга разглядаць карціны ў якасьці своеасаблівай маральнай кампенсацыі за карыстанне паслугамі галерэі: праз гадзіну я павінен з'явіцца на так званае дадатковае інтэрв'ю. Не, не падумайце, не ў гламурны часопіс: так тут называюць допыт у паліцыі. Гэты допыт нібыта павінен быць сапраўднай мэтай майго прыезду ў Места: я б і не на

тое яшчэ пагадзіўся, каб не вяртацца ў лагер. Да таго ж, я заўважаю, што ад карціны да карціны за мною ходзіць нейкі падазрона добра апрануты мужчына, якому ад мяне як быццам нешта патрэбна. Не, гэта ўжо, відаць, мае домыслы. Але ў кожным разе трэба адсюль праставаць.

На выхадзе з галерэі сустракаю хлопчыка-інваліда на каталцы, якога бачыў, як мне здаецца, на адной з карцінаў. Гэтае супадзенне змушае мяне міжволі ўсміхнуцца: здаецца, ён толькі што не сышоў, а выехаў з карціннай рамы — натуральна, маці хлопчыка, што ўсё жыццё вымушаная стаяць у яго над душой у якасці анёла-ахоўніка, пазірае на мяне з асуджэннем. Мне робіцца сорамна за свае думкі. Аднойчы мне было гэтак жа сорамна, калі я выпадкова штурхнуў сляпога з белым кійком: той абмацюкаў мяне, нягледзячы на мае выбачэнні. Прызнаюся, я крыху пашкадаваў, што не магу абмацюкаць яго ў адказ — усё-ткі сляпы. Але ж якое хамства: абмацюкаць і не бачыць каго! Магчыма, ён аблаяў у маёй асобе ўсё чалавецтва — але чаму менавіта ў маёй, ды яшчэ й публічна? Цікава, якім ён мяне ўяўляў? Напэўна, як высокага плячыстага бандзюгана альбо жвавага бессаромнага падлетка. Ах, калі б я быў такім насамрэч!

Не магу не заўважыць, што фарсісты аматар мастацтва выйшаў з будынку ўслед за мною. Дзіўна, што ён не затрымаўся там даўжэй за мяне. Цяпер ягоны твар як быццам мне нават аднекуль знаёмы: мы на момант сустракаемся позіркамі, і мне здаецца, што ён мне ўсміхаецца. Так я і думаў: ён належыць, відаць, да таго кшталту мужчынаў, што могуць дазволіць сабе прабадзяцца ўвесь дзень па горадзе ў пошуках амурных прыгодаў на свой густ. Па-свойму зайздрошчу такім, як ён, але дапамагчы не магу.

## 7.

На ўваходзе ў метро мне бракуе тых цяжкіх шкляных дзвярэй, якія сустракаюць вас у Горадзе супрацьдзеяннем струменяў восеньскага паветра, выразным пахам сапрэлага лісця й кавуна: налягаючы на іх, можна на імгненне адчуць сябе, як на дошцы для віндсёрфінгу, ува ўсёй сваёй бязважкасці і нязначнасці, завіснуць у вакууме, на скразняку між двух светаў. Супраціў паветра ператварае метро ў вечную нявінніцу, якую штодня трэба зноў браць гвалтам, ідучы на ранішні штурм, нахіліўшы па-бычынаму галаву. Затое вагоны ў метро тут такія самыя, як у Горадзе. Калі стаяць спінаю да астатніх, пазіраючы ў чорную палонку вакна, дзе з шумам вясновай паводкі праносіцца бурлівая брудная плынь уласных думак, можна на нейкі момант забыцца, дзе ты знаходзішся — у Месце ці ў Горадзе, асабліва калі перад гэтым папаліць у начлежным доме травы. Гэтак са мною аднойчы сталася: я ўсё ніяк не мог зразумець, куды я ўласна кіруюся, на якой станцыі мне варта выходзіць, ці не праехаў я свой універсітэт і г. д. Такім чынам, мне зусім нядаўна яшчэ раз пашчасціла пабываць у Горадзе: здабытак, за які безумоўна варта было ахвяраваць якую сотню-тысячу шэрых клетак.

Плаціць за праезд у мяне не ўзнікае нават і думкі. Кантралёраў я не баюся — ім няма чаго з мяне ўзяць. Паліцыі таксама: у мяне ёсць адна вельмі добрая паперчына, універсальная замова ад паліцыі. Паводле гэтай паперы, нікому няма да мяне ніякага клопату. Там чорным па белым напісана: чакай. Пакуль я чакаю, я — ніхто. Як бачыце, і ў гэтым ёсць свае плюсы.

Людзі на станцыі абыходзяць мяне за тры метры й становяцца ад мяне як мага далей. Разумею іх: зусім нядаўна адзін чалавек майго выгляду забіў тут нажом паліцыянта. Проста тут, на гэтай во станцыі. На такой жа пачцівай адлегласці яны трымаюцца ад яшчэ аднаго хлапца майго веку, які прымасціўся побач на зэдліку і ўвесь час размаўляе ўголас сам з сабою, гайдаючыся ўзад-уперад. Я прыслухоўваюся да ягонага маналогу: здаецца, ён імкнецца даказаць сам сабе, што гэта ён, а не хто іншы, вынайшаў турбуленцыю, і за гэта яму даўно павінны былі даць медаль на галоўнай плошчы ягонага роднага гораду. Я адварочваюся, каб не глядзець на тое, да чаго даводзіць людзей карыстанне тутэйшым транспартам. Транспарт насамрэч ёсць дасканалай прыладай катавання, асабліва для такіх, што, уласна, ужо "прыехалі". Але ў гэтым сэнсе метро яшчэ далёка да трамваяў, што спыняюцца на кожным кроку, пасоўваючыся наперад рыўкамі, сантыметр за сантыметрам, дзе цела, заціснутае між іншых целаў, торгаецца туды-сюды, як туша забітай жывёлы на гаку мясакамбіната. У параўнанні з трамваямі метро ёсць вяршыняй гуманнасці.

На хвіліну прыклаўшы сваю жалезную лінейку да станцыі й змераўшы ейную нязменную даўжыню, цягнік спяшаецца да наступнай. Уздымаю галаву й на вобмільг бачу за шыбай вагону прафесара — таго самага, з якім размаўляў пару гадзінаў таму. У памяці мільгае радок з нейкай даўно чытанае кнігі. Ненавісны жаночы голас абвяшчае назву чарговай станцыі. Усё гэта раптам зліваецца ў маёй галаве ў надзвычайна лагічную, як быццам невыпадковую паслядоўнасць. Такія рэчы даводзяць мяне да шалу, бо занадта нагадваюць сон. Я баюся, што зараз буду вымушаны прачнуцца на тым баку танюткай перагародкі, што аддзяляе мяне ад мінуўшчыны. Я адчуваю, як мае ногі падкошваюцца, мне робіцца млосна, я апускаюся наўколенцы й абапіраюся спінай на дзверы. Людзі вакол, што дагэтуль яшчэ неяк прымушалі сябе мірыцца з фактам майго існавання, пазіраюць на мяне з папрокам і непаразуменнем. Што я збіраюся рабіць? Няўжо я вырашыў сходзіць па-вялікаму проста тут, у вагоне? Не, гэта ўжо занадта! Выкіньце яго адсюль на самым першым прыпынку! Але да прыпынку яшчэ далёка. Тады выкіньце яго зараз жа! Не спыняйцеся!

Нечакана каля мяне вызваляецца месца. Парушаючы правілы прыстойнасці, якія прадпісваюць маладым людзям спадзявацца выключна на ўласныя ногі, я пастанаўляю сесці, бо ўтрымацца на нагах не магу. Узняўшы вочы, бачу перад сабою мапу невядомай мне збольшага галактыкі з трыма рукавамі: гэта ён, тутэйшы метрапалітэн. Па-дзіцячы просты малюнак мапы крыху мяне супакойвае, але я амаль адразу ж згадваю, што мне час выходзіць. Шкада, нават не падрамаў.

У метро са мною здараецца яшчэ адна дзіўная рэч: едучы на эскалатары на паверхню, я двойчы бачу на суседнім эскалатары, што рухаецца ўніз, аднаго і таго ж мужчыну сярэдніх гадоў, толькі не ў прасторы, як вы падумалі, а ў часе: спярша ўнізе, калі ён саступаў з свайго эскалатару на платформу, а потым — наверсе, калі з эскалатару сыходзіў я, тым часам як ён зноўку на яго заступаў... Не разумею, як такое магчыма. Тэарэтычна, ён мог паспець за гэты час зрабіць кола, сысці ўнізе і зноў узняцца нагару па маім эскалатары, каб тут жа зноўку паехаць уніз, але гэта азначае, што ён мусіў прайсці, ці хутчэй прабегчы міма мяне, бо эскалатараў толькі два, аднак клянуся, што міма мяне цягам якой хвіліны пад'ёму ніхто не прабягаў... Хіба што ён праімчаў міма залішне хутка для таго, каб я паспеў яго

заўважыць, што таксама не ёсць надта рацыянальным тлумачэннем. Можа, у яго ёсць клон ці прынамсі брат-блізьнюк? Са мною ўжо такое здаралася, у мінулым жыцці — у адным цягніку мне пашчасціла сустрэць дакладную копію маёй знаёмай, якая зусім мяне не пазнала й аказалася зусім іншай дзяўчынай. Аднак каб між гэтымі дзвюма сустрэчамі не прайшло і пары хвілінаў — такога яшчэ не было. Здаецца, у мяне насамрэч пачынаюцца галюцынацыі. А ўласна, ці не той гэта самы мужчына, які хадзіў за мною ў галерэі? У звычайнай сітуацыі я б вярнуўся назад, каб гэта спраўдзіць, але цяпер гэтая ўява наадварот змушае мяне прыспешыць хаду.

У паліцыі, як і варта было чакаць — яшчэ большы натоўп, чым кагадзе на факультэце. Людзей тут столькі, што неяк не верыцца, быццам яны насамрэч арганізаваныя ў нейкую чаргу — такая чарга была б патэнцыйна бясконцай. Дый нават у чарзе той, хто дужэйшы й нахабнейшы (у асноўным, гэта мае былыя суайчыннікі, якіх я адкрыта цураюся, не падаючы выгляду, што я адзін з іх), адштурхвае таго, хто слабейшы й баязлівейшы. Змагацца за свае правы тут не мае сэнсу — ні ў кога тут няма ніякіх правоў, бо паўсюль, дзе назіраецца вялікая канцэнтрацыя маіх суайчыннікаў, аўтаматычна пачынае панаваць панібрацкая роўнасць у бяспраўі. Прынамсі, да часу, пакуль яны афіцыйна не стануць тутэйшымі жыхарамі.

Зноў мне здаецца, што я бачу тут адныя й тыя самыя твары, што й заўжды. Гэтым разам гэта не галюцынацыя: некаторыя насамрэч прыходзяць сюды, як на працу, яшчэ на досвітку — займаюць месца. Прычым іх, у адрозненне ад мяне, гэтая неабходнасць зусім не раздражняе. Збольшага, гэта кабеты, якія шчабечуць без супыну абы пра што — гэта адзіны вядомы ім сродак змагання з сумам. Калі яны толькі не размаўляюць па мабільным тэлефоне, дык пачынаюць чапляцца да сваіх суседак і суседзяў. Пра што яны гавораць? Скардзяцца на гэтую краіну. А што яны рабілі дома? Таксама стаялі ў чэргах, таксама ўвесь час балбаталі й таксама скардзіліся. Што для іх змянілася? Нічога. Шчаслівыя людзі.

Каб не чуць іхнага амаль мімавольнага, акурат як у птушак, пошчаку, я спрабую чытаць кнігу пра мастацтва. Гэта — мая першая кніга на тутэйшай мове. Я пазычыў яе ў лагернай бібліятэцы, каб набрацца карысных кніжных словаў для размовы са спадаром прафесарам. Аднак замест чытання ў мяне ў галаве пачынае сам сабой прайгравацца запіс самай першай і самай важнай гутаркі ў паліцыі, якая адбылася адразу пасля майго прыезду сюды:

"— Як вы сюды патрапілі?

— Цягнікам. Але я не памятаю падрабязнасцяў...

— Як гэта?

— Не памятаю. Я быў надзвычай агаломшаны. Знерваваны. Наўрад ці я ўсведамляў, што я раблю.

— Такім чынам, вы дзейнічалі ў стане афекту?

— Да пэўнай ступені... Не магу толькі сказаць, які дакладна гэта быў афект. Я быў вельмі напалоханы, але таксама вельмі ўзрушаны. І вельмі рады. Ведаеце, я вельмі моцна іх ненавідзеў...

— Але гэта яшчэ не падстава для ад'езду.

— Як не падстава? А што — падстава?

— Падстава — гэта калі яны ненавідзяць вас.

— Не, што вы. Для нянавісці патрэбная пэўная шырыня душы. Але там такіх як я знішчаюць з чыстай абыякавасці...

— У такім выпадку, вам трэба ў іншы кабінет. Чакайце, вас прымуць...”

Не, я болей не магу чакаць. Я стаміўся ад чакання і сыходжу ледзьве не перад самым надыходам сваёй чаргі. Я ведаю, што гэтым іду супраць здаровага сэнсу і ўласных інтарэсаў, калі наогул не парушаю закон. Але не магу даць сабе рады: я зараз жа павінен сысці, куды-хаця, абы толькі прэч адсюль, як мага хутчэй.

## 8.

Я стаю на вяршыні пагорку, палю нованабытыя дарагія цыгарэты й аплакваю свой плэер. Бачу, як гандляр, прыблізна майго веку, ці нават маладзейшы, грэбліва круціць яго ў пальцах, як быццам не ведае, што гэта такое, пасля чаго запытальна ўздымае на мяне вочы. Усё ясна: ён упэўнены, што я яго недзе скраў. Браць яго ад мяне ён яўна не хоча, таму пачынае на мала зразумелым мне жаргоне з надзвычайна неахайным вымаўленнем тлумачыць, чаму я нізавошта не атрымаю за гэты цуд тэхнікі болей ста крон. На ягонае шчасце, месцы знаходжання іншых камісіёнак мне не вядомыя, таму я пагаджаюся. Гэтыя сто крон ён выдае мне дваццацікронавымі паперкамі, якія, як мне вядома, ад нядаўняга часу не дзейнічаюць, бо іх вынялі са звароту. Я пазіраю на яго з вінаватай усмешкай: выбачайце, але вы памыліліся. Ён глядзіць на мяне насцярожана, з падазорам: што, маўляў? Я настойліва прашу яго даць мне мае 100 крон іншымі купюрамі альбо манетамі. Спачатку ён адмаўляецца, але ззаду падыходзіць нейкі чалавек, нешта яму шэпча, пасля чаго гандляр неахвотна шпурляе мне на стол дзве 50-кронавыя купюры й моўчкі пераводзіць вочы на далейшага кліента. Я для яго болей не існую — я толькі што ператварыўся ў балючы доказ ягонай няздольнасці падмануць нейкага ср...нага прыхадня. Уявіце сабе! Ён хацеў скрасці ў мяне мой плэер! У самім падмане я, бадай, не бачу нічога заганнага, аднак тутэйшыя спосабы падману здаюцца мне крыху неэлегантнымі. Я сам бы часам з задавальненнем даў грошай прыгожым дзяўчынкам, што распавядаюць мне байкі аб страчаных цягніках, недахопе дробязі на квітці, іграюць на эмоцыі... Цяпер я разумею, чаму мая ўласная эмацыйнасць настолькі раздражняе людзей з тутэйшых установаў: яны ўспрымаюць яе як спробу іх падмануць, бо самі звыкліся карыстацца эмоцыямі толькі тады, калі кагосьці падманваюць.

Да самай цемры я буду назіраць, як запальваюцца агні. Дні робяцца ўсё карацейшыя. Трэба нешта думаць: што я буду рабіць з надыходам маразоў? Заставацца ў начлежным доме было б вар'яцтвам. Няўжо давядзецца вяртацца ў лагер? Ці можа ў Горад? Зрэшты, я настолькі ж цьмяна сабе ўяўляю, што буду рабіць зараз. Ільга было б паспрабаваць паразмаўляць з жаўнерамі ганаровай варты, спытаць, ці бачылі яны ўжо калі тутэйшага монстра з славутай кніжкі, але ж ну іх у дупу — яшчэ застрэляць ці заколюць штыхом. Размаўляць ім нельга, чытаць, мабыць, таксама — а вось забіваць, думаю, можна. Ці паспею я перад смерцю расказаць ім пра сваё навуковае адкрыццё? Паспавядацца?

Каля мура стаіць штосьці накшталт платнага тэлескопа — не працуе, але грошы жарэ. Вельмі нагадвае мяне. Хацеў бы я, каб гэты тэлескоп аднойчы раптоўна зрабіўся відушчым і дазволіў мне зірнуць на гэтае магічнае Места праз свой не меней магічны акуляр, каб пераможнаму позірку заваёўніка ўрэшце адкрылася ўсё тое хараство, пра якое столькі

пішуць у кніжках. Але пакуль што, на жаль, тая мышыная валтузня, якую язык не паварочваецца назвай бітвай, не скончаная, і ніякай магічнасці я ў гэтым краявідзе не бачу.

З пагорку мне і няўзброеным вокам добра відаць усе тыя месцы, дзе я сёння быў. Адсюль здаецца, што за дзень я прайшоў пешшу якіх кіламетраў дваццаць. Столькі ж я прайшоў учора і прайду заўтра. Сэнсу ў маіх хаджэннях будзе не болей: на мой лёс гэта, хутчэй за ўсё, ніяк не паўплывае. Але нягледзячы на тое, што я практычна бесперапынна на яго наракаю, мне, уласна кажучы, няма на што наракаць. Можа, стаць бадзягам у гэтым месце і было маёй патаемнай марай, а ўсё астатняе — проста вынік неразумення сваіх сапраўдных амбіцыяў. І насамрэч, што мне да таго, што ў гэтым месце хтосьці ажно пяць стагоддзяў таму надрукаваў нейкую кнігу? Жыць трэба тут і цяпер, як усе астатнія. Гэта значыць, што я спакойна магу дастаць зараз свой сіні сшытак і пакінуць яго тут, каля мура, ці падараваць камусьці з жаўнераў, калі трэба нават з аўтографам — яны пратэставаць не будуць, ім забаронена. Без яго хадзіць па Месце мне дакладна стане ў разы лягчэй. Але хопіць таго, што сёння я ўжо развітаўся з плэерам.

Я не магу прыдумаць сабе лепшай забавы, як зноў патэлефанаваць у Горад — чамусьці, я заўжды званю дамоў менавіта адсюль, з пагорку. Патэлефанаваць, каб сказаць, што ў мяне ўсё добра. Што пакуль нічога не ясна, ані благога, ані добрага. Што ўсё залежыць ад выпадку — на ўсё сваволя божая. Што нікуды ехаць я не збіраюся дый не магу. Што яшчэ нейкі час будзе трываць, пакуль мяне вырашаць адсюль канчаткова выгнаць. Што я пра ўсіх іх памятаю, узгадваю пра іх кожны дзень, але зусім — дзіўным чынам — не сумую. Што мне тут, ільга сказаць, добра. Што я ні пра што не шкадую. Але яны й так усё гэта ведаюць, таму марнаваць грошы няма ніякай патрэбы. Лепей пачаць ашчаджаць, каб прынамсі аднойчы магчы дазволіць сабе платны сэкс.

Каму яшчэ ільга патэлефанаваць? Рытарычнае пытанне. У начлежным доме няма тэлефона — дый размаўляць з ягонымі насельнікамі, шчыра кажучы, няма пра што. Пазваніць майму знаёмаму з установы на вялікім бульвары, якую відаць адсюль, як на далоні? Ён ужо, напэўна, сышоў дахаты. Не, званіць яму дамоў было б некарэктна. Я не хачу нікога абцяжарваць. Бадай, калі ў мяне ёсць якая падстава быць задаволеным сабой, дык толькі гэтая: я цяпер нікога ў свеце не абцяжарваю, апроч самога сябе.

Нягледзячы на ўсё гэта, думаю, што нікому з турыстаў гэты выгляд не прыносіць такога задавальнення, як цяпер мне, але і яно не вечнае, як любая асалода. Я досыць згаладаўся за дзень. Цыгарэты болей не дапамагаюць. Канец канцоў, мне абрыдае тут стаяць, і я спускаюся ўніз, з свету нібыта ўзнёслых развагаў у нізкі свет сваіх матэрыяльных патрэбаў. Нейкі час стаю каля афішы кінатэатру — не, дазволіць сабе пайсці ў кіно я, на жаль, не магу. Запыняюся ля статуі аголенай дзяўчынкі пасярод пустога двара, гэткай німфеткі, у цнатлівым каменным улонні якой нейкі барбар затушыў цыгарэту: рысы ейнага твару нават не зварухнуліся, яна працягвае ўсміхацца. Гэтая нічым не адметная з мастацкага гледзішча статуя падабаецца мне нашмат болей за ўсякіх гістарычных дзядоў маразоў і снягурак, панатырканых у ваколіцах цацачнай гатычнай забудовы. Памятаю, у дзяцінстве я марыў, каб мне падаравалі пластыкавую мадэль

сярэднявечнага замку з улюбёнае казкі, аднак на такія глупствы лішніх грошай у бацькоў не было. Не паспела тое дзяцінства скончыцца, як я сам падараваў-такі сабе гэты замак, у натуральную велічыню, але ён перастаў мяне цікавіць літаральна праз пару тыдняў, як усялякая цацка.

Пачынаецца дождж. Мокрыя вуліцы зноў немінуча нагадваюць мне мой улюбёны Горад — не той, што месціцца на паверхні, а той, патанулы, сапраўдны, амаль свяшчэнны, што ззяе каляровымі неонавымі агнямі на дне ўсіх лужынаў свету. Па апусцелым каменным мосце, па-над якім з шалёным ёкатам віруюць белыя чаінкі, то бок чайкі, я памалу вяртаюся ў Старое Места. Памятаю, як на гэтым мосце я пазнаёміўся з адным старым мастаком-вар'ятам — пазнаўшы ўва мне брата па розуме, ён папрасіў мяне павартаваць хвілінаў дваццаць ягоныя карціны. Можна падумаць, што іх хтосьці збіраўся красці. Гэты мастак, нацягнуўшы на галаву гумку з парай чырвоных драўляных рагоў, увесь час маляваў акварэллю свае ўласныя партрэты, пазіраючы на сябе ў люстэрка. Ён лічыў сябе д'яблам — магчыма, гэта і быў д'ябал, хто ведае. Ніхто яго не праганяў, бо за доўгі час ён паспеў быў ператварыцца ў адну з турыстычных прыкметнасцяў моста, а значыць і Места. Дзе цяпер той мастак? Мажліва, памёр з голаду, бо ягоных аўтапартрэтаў збольшага не куплялі, а калі за нешта крыху й плацілі, то хіба толькі за магчымасць пасмяяцца з яго.

Увечары восеньскае Места выглядае з сярэдзіны зусім не так прывабна, як кагадзе з пагорку. Музыка ў барах робіцца гучнейшай, святло больш рэзкім. Менавіта ў такі час у цёмных вулках пачынаюць з'яўляцца калекі. Прызнаюся, што нідзе раней я не сустракаў такой рознамаітасці калекаў. Можна падумаць, што яны павылазілі проста з фантазіі найславуцейшага тутэйшага пісьменніка, але і ў гэтай рысе гэтага гораду ёсць штосьці глыбока камерцыйнае. Будучы адзінымі сапраўднымі нашчадкамі (ці можа нават сучаснікамі) згаданага аўтара, калекі зарабляюць не столькі на этычных, колькі на вычварных эстэтычных патрэбах багатых людзей, гэтаксама як тыя, хто гандлюе сувенірнымі прадметамі з ягонай (я пра пісьменніка) да болю знаёмай выявай. Адчуванне, што калекі, як і багацеі, сцягваюцца сюды з цэлага свету — гэтак у сярэднявеччы жабракі духу цягаліся за крыжакамі. Зрэшты, людзей з паловамі целаў, вялікімі галовамі, маленькімі ручкамі й ножкамі можна сустрэць на абодвух баках сацыяльнай прорвы: адны жабруюць, стуліўшыся на тратуарах, другія падсыпаюць ім грошай, праязджаючы міма ў вазках з электрычным маторчыкам... У гэтым штодзённым люстэркавым супрацьстаянні я ўсё яшчэ трымаюся нейтралітэту. Хаця і ў мяне часам узнікае думка ўкленчыць, паказаўшы небу ср...ку, на ходніку, і заўзята, хай сабе й моўчкі, пачаць урэшце маліцца сапраўднаму Богу.

## 9.

У якую рэстарацыю зайсці? Дзіўнае пытанне, бо рэстарацыі ўсюды адныя й тыя самыя. Гэта места рэстарацыяў: на кожным рагу іх больш, чымся ўва ўсім Горадзе. Тая ж прапорцыя справядлівая і ў дачыненні да цэнаў: за шклянку тутэйшай вады ў нас можна было б павячэраць. І гэта я яшчэ не кажу пра сапраўдныя рэстарацыі, для турыстаў, што нагадваюць клубы для ганаровых пенсіянераў міжнароднага значэння, дзе ў перапынках між вясёлымі падсумаваннямі іхных доўгіх і насычаных ударнаю працай

жыццяў пануе ўжо амаль замагільная ціша, якая гэтак пасуе да строгіх касцюмаў і налакаваных ботаў — Ананімныя Пенсіянеры энд ко.

Нарэшце, я сядаю ў нейкай недарагой з выгляду карчме, дзе стаіць густы непрадыхны дым у маім гусце, а мясцовы пралетарыят, пад канец дня ўжо п’яны ў дрыбадан, спявае свае вульгарныя песні. Афіцыянт соваецца між сталоў з упэўненасцю рухомай мішэні й павольнасцю настаўніка, што правярае напісанне кантрольнай. На баку ў яго вісіць скураная партупея з грашыма й рахункамі, праз што ён нагадвае хутчэй гэткага бравага мясцовага шэрыфа, чым гасціннага гаспадара салону. Калі я сядаю за стол ля самых дзвярэй і замест меню першым чынам адкрываю свой сшытак, гэта не можа не выклікаць у яго падазору. Калі ж я на ламанай мове сваёй кніжкі пра мастацтва спрабую ў яго штосьці замовіць, ягоны твар перакрыўляецца яшчэ болей, чым дагэтуль. Я разумею: гэта несправядліва, што бацька некалькіх дзяцей і сумленны падаткаплацельшчык вымушаны з прычыны сваёй прафесіі прыслужваць яшчэ й нейкаму сысунку бадзяжнага выгляду, пагатоў чужынцу.

Што замовіць? Шчыра кажучы, мне ўсё адно. Што тут самае таннае? Здаецца, амлет. Што ж, у такім выпадку — амлет. Мне яго прыносяць надзіва хутка (за такі час яго не маглі паспець падсмажыць, хіба толькі разагрэць), і я з’ядаю яго амаль імгненна, нават не паспеўшы адчуць ягонага смаку. Не прайшло й пятнаццаці хвілінаў ад таго часу, як я ўвайшоў у рэстарацыю. Афіцыянт відавочна рады такому тэмпу: ён спадзяецца, што я зараз жа сыйду. Але я не магу сысці адразу: толькі цяпер я напоўніцу адчуў, наколькі я стомлены. Ногі нібы адняло, па ўсім целе расцякаецца славутая нацыянальная млявасць. Найлепш было б кульнуць у сябе на дарожку кілішак чагосьці моцнага, але ж я мушу прасядзець тут прынамсі гадзіну, пакуль не скончыцца дождж. Таму я замаўляю гарбату з ромам, каб расцягнуць асалоду ад адсутнасці патрэбы й магчымасці рухацца. Пасля глытка напою, які ў іншых месцах падаюць гарачым, мне здаецца, што толькі цяпер я бачу гэтае Места тымі вачыма, што трэба: між намі нарэшце ўзнікае тое маўклівае паразуменне, тая повязь, якой мне дагэтуль так бракавала. Цяпер я магу цэлую вечнасць сузіраць яго, не сыходзячы з месца, бы ў тым алефе — не праз вакно, у якое і ўдзень не надта добра відаць вуліцу, а на карціне, якімі ў цэнтры ўвешаныя ці не ўсе танныя харчоўні. Вернасць сацыялістычнаму рэалізму выдае ў палатне мастацкі почырк нейкага з маіх былых суайчыннікаў: відаць, што не адзін я ў гэтым месце лічу сябе творцам.

О, як цягнецца гадзіна ў такіх месцах! Перад мною па-ранейшаму ляжыць раскрыты сіні сшытак, у якім за сённяшні надзвычай багаты на думкі і ўражанні дзень назбіралася некалькі цалкам нязвязных, абы як нашкрабаных радкоў. Перачытваючы іх, я адначасова іх перакрэсліваю: што я хацеў гэтым усім сказаць? Можа, гэта наогул пісаў не я, а хтосьці іншы? Хто? Я імгненна хапаюся за гэты сюжэт, нягледзячы на тое, што ён здаецца мне крыху прымітыўным і аднекуль ужо вельмі, вельмі добра знаёмым: паводле нататак у сваім дзённіку герой адкрывае, што ён — не адна асоба, а дзве, доктар Д. і містэр Г., і што ён вядзе двайное жыццё замест звычайнага адзіночнага жыцця. Падобная фантастычная, хай сабе й народжаная не маёй фантазіяй гісторыя як нельга лепей пасавала б да гэтага праўдзіва магічнага асяроддзя, у якім мне, як наўмысна, увесь час штосьці перашкаджае засяродзіцца: напрыклад, цяпер мне страшэнна

(нават болей, чым п'яныя мужчынскія спевы, да якіх я паспеў ужо прызвычаіцца) замінае голас заікі за суседнім сталом: спрабуючы зразумець сэнс няўрымснай дзейнасці ягоных вуснаў, якія дрыжаць, як тэлевізійны экран падчас навальніцы, я не магу сфармуляваць ніводнага ўласнага сказу. Здаецца, ягоная заікатасць перадаецца мне самому, як пазяханне. У дадатак, заўважыўшы, як мяне раздражняюць гукі мовы, мой сябра афіцыянт уключае радыё, дзе пачынаюць чытаць абсалютна нецікавыя мне апошнія паведамленні з тутэйшага жыцця. Агіда да вакольнае рэчаіснасці дасягае ўва мне апагею. Я разумею, што сама ідэя дастасаваць да згаданае рэчаіснасці нейкі сюжэт ёсць несусветным глупствам, і што калі б я яе ажыццявіў, то саромеўся б за гэта да канца жыцця. Яшчэ адзін доказ таго, што адмовіцца ад няўдалай задумы — таксама маленькая перамога.

Цяпер я спрабую супакоіць сябе цыгарэтай і падбадзёрыць думкамі аб будучым рамане: неўзабаве я напішу вялікі, папросту татальны раман, які складацьмецца з асобных аркушаў рукапісу, дакументаў, урыўкаў размоваў... Вось толькі пра што? Гэтага я не ведаю. Пра ўсё, што мне закарціць. Можа, пра двух людзей у двух розных гарадах: хлопца ў Горадзе і дзяўчыну ў Месце. Не, лепш наадварот. Тут жа спрабую накідаць план раману, — гэта, як неаднойчы было заўважана да мяне, ёсць у працэсе пісьма самым прыемным, — але ў мяне зноў нічога не выходзіць. Смешна. Забудзься. Кінь, закрый сшытак, не рабі з сябе дурня. Хопіць гуляць камедыю. Навошта такому ўломку як ты спатрэбіўся раман? Усё вельмі проста: каб маё ўласнае жыццё набыло калі не значнасць, то прынамсі нейкі сэнс. Інакай, каму яно можа быць цікавым, калі я нецікавы цяпер нават сабе самому? Толькі раман аб Горадзе можа апраўдаць маё знаходжанне ў гэтым Месце, мае ўцёкі, усё, што адбываецца тут і цяпер. Пастанаўляю, што ў рамане не будзе ніякага Места, я выкрэсліваю яго з плану і з памяці: надоўга, назусім. Ніякіх хронікаў штодзённасці, споведзяў, ляментацыяў. Пісаць пра што заўгодна, толькі не пра той здзек, што адбываецца вакол мяне й са мною. Знікнуць, уцячы з гэтага банальнага свету, дзе няма нічога гераічнага, і дзе толькі цяпер я напоўніцу адчуваю сябе самым нікчэмным і прыніжаным чалавекам, тым, кім я ёсць насамрэч: паразітам і дармаедам без усякіх перспектываў... Забіць у сабе Места. Смерць Месту!

Накрэмзаўшы гэты лозунг буйнымі літарамі на ўсю старонку, я заўважаю, што за мною стаіць афіцыянт, зазіраючы ў сшытак цераз маё плячо. Няўжо карчма ўжо зачыняецца? Я паварочваю галаву і бачу проста перад сабою густоўна апранутага чалавека сярэдніх гадоў, які пазірае на мяне з той жа ўсмешкай, што й кагадзе на выхадзе з галерэі. Мяне пакрывае сцюдзёны пот, я імгненна цверазею й пачынаю ліхаманкава прыдумляць падставу для сыходу. Позна: ён падсаджваецца да мяне, называе маё імя, з запытальнай інтанацыяй, потым сваё (хутчэй за ўсё, несапраўднае) — з клічнай. Пачынае штосьці казаць аб Месце, аб складанасці сучаснай сітуацыі ў свеце, аб сацыяльнай несправядлівасці. Цяпер я пазнаў яго: я бачыў яго на антываеннай дэманстрацыі перад нейкаю амбасадай.

— Навошта вам было ўцякаць? — пачынае дакараць ён мяне напаўголаса, так, каб ніхто не чуў нашае размовы. — Вы ж бачыце, вас тут зусім не разумеюць. Яны няздольныя ацаніць усяе рэвалюцыйнасці вашага адкрыцця. (Божухна, адкуль ён ведае пра маё адкрыццё?) Не дурыцеся, вярніцеся дамоў. Мы дамо вам на гэта грошы. Абяцаю, што з вамі нічога не здарыцца.

Я сяджу, увесь сцяўшыся. Ягоныя словы свідруюць мой розум. Ад колькасці выпітага мая галава абяцае покнуцца. Я не магу болей гэтага вытрымліваць, мне карціць закрычаць:

— Ахова! Ахова! Гэты чалавек хоча мяне забіць! Гэты чалавек — вораг! Ён прапаноўвае мне грошы! Злавіце яго, іначай ён уцячэ! Выклічце паліцыю! Гэта — шпіён!

Аднак замест гэтага я дрыготкім голасам прашу прабачэння, устаю і ўпадскок кіруюся ў прыбіральню. Замкнуўшы за сабой дзверы, я доўга аддыхваюся: тут мяне ніхто не кране. Праз адчыненае закратаванае вакенца сюды проста з чорнага неба залятае гнаны ветрам дождж. Глыток свежага паветра здаецца мне больш п’янкім за ром з гарбатай. Я сядаю на вечка ўнітазу й пачынаю чытаць living надпісы на сценках прыбіральні, што ў асноўным належаць прыхільнікам аднаполага кахання, у якіх няма грошай на дарагія клубы. Выглядае, не я адзін у гэтым Месце вымушаны ратавацца ад самоты пісанінай.

## 10.

Затрымаўшыся ў прыбіральні досыць доўга на тое, каб запэўніцца, што мой суразмоўца за гэты час сыдзе, я вяртаюся ў залу й паспяваю яшчэ заўважыць, як той вылазіць з-за стала і павольным, фанабэрыстым крокам выходзіць з карчмы, перад гэтым шапнуўшы нешта на вуха афіцыянту. Афіцыянт тут жа падыходзіць да мяне й разгортвае перад мною жудасна доўгі рахунак, які мноствам радкоў з нулямі на канцах нагадвае нейкі вершаваны прысуд. У мяне займае мову, але я разумею, што не заплаціць не магу. Дарэмна спрабаваць патлумачыць яму, што я зусім не ведаю таго спадара, які толькі што сышоў. Афіцыянт узгадвае, што ён насамрэч — шэрыф, і ўзвышае голас, людзі навокал пачынаюць на нас азірацца. “Д’ябал цябе бяры”, кажу я сабе: раптоўна ў мяне з’яўляецца ахвота, нават патрэба заплаціць за незнаёмага суразмоўцу — мне здаецца, што гэтымі грашыма я магу выкупіць нішто меншае, як сваю душу. Дрыготкімі рукамі я выцягваю грошы й аддаю іх афіцыянту. Той бярэ іх моўчкі, разварочваецца й сыходзіць. Ад усведамленьня глупства, якое я толькі што зрабіў, у мяне на вочы наварочваюцца слёзы. Што тут сказаць? Усё страчанае, апрача гонару. Трыста крон — вось ён, рэальны кошт маёй душы. Наўрад ці хтосьці прапанаваў бы за яе болей.

На вуліцы, на шчасце, нікога няма. Куды зараз? Я пазіраю на грошы, якія ў мяне засталіся: мала, вельмі мала. Зноў не атрымалася нічога ашчадзіць. Але павінна хапіць на заўтрашні пачак цыгарэт. Ідучы няпэўным крокам па мокрым ходніку, я праглядаю шыхты вулічных прастытутак так, як быццам камандую іхным парадам — гэткім свецкім аналагам параду статуяў на каменным мосце. Вядома, што б я ім цяпер скамандаваў, калі б мог. Думаю, яны б мяне зразумелі: бальшыня з іх гаворыць адной са мною моваю, не толькі ў пераносным сэнсе. Дзе цяпер тая падпітая кабета гадоў сарака, што ў абмен на цыгарэтку прапаноўвала мне заняцца каханнем, якое я адрынуў тады з павагі да ейнага ўзросту? Замест яе мяне нечакана спыняе нейкі высокі хлопец у бейсболцы, пытаючыся, дзе знаходзіцца тая і тая вуліца. Хлопец — тутэйшы, але не мясцовы, і мяне раптоўна напаўняе пачуццё гонару за тое, што ў параўнанні з ім я магу лічыць сябе сапраўдным гарадскім тубыльцам. Ад няма чаго рабіць

я абяцаю яму правесці яго. Ён аднекваецца, але я спрабую патлумачыць яму, што гэта натуральная падзяка за тое, што ў першы дзень майго тут знаходжання мяне праводзілі па Месце вакзальныя панкі, з якімі мы потым моўчкі пілі бутэлечнае піва непадалёк адсюль. Ён не разумее маёй логікі, але пагаджаецца.

Дарогай высвятляецца, што ён — былы вязень. Не разумею, што за шчасце ў мяне ў гэтым горадзе на вязняў: з адным такім я ўжо некалі быў пазнаёміўся, у пацверджанне сваёй тоеснасці ён паказваў мне татуіроўку і пісталетную кулю. Хлопец кажа, што сёння ў яго вялікае свята: па-першае, яго выпусцілі з турмы, хаця й не за добрыя паводзіны. Па-другое, нядаўна ў яго нарадзіўся сын, якога ён яшчэ не бачыў, і цяпер едзе да сям'і, кудысьці на поўнач краіны. Ну і, па-трэцяе, у дадатак ён яшчэ выйграў у латарэю і мусіць чакаць у Месце да раніцы, каб зайсці ў адну кантору за сваім выйгрышам. Начаваць яму няма дзе, таму ён збіраецца ўсю ноч святкаваць, калі я толькі не супраць скласці яму кампанію. Не, я толькі "за". Усё гэта гучыць непраўдападобна, але чамусьці я яму веру. Самае дзіўнае ў гэтай сітуацыі тое, што я яго не баюся (хаця, магчыма, яго зусім не адпускалі з турмы, а шукаюць цяпер па ўсёй краіне), а ён мною не пагарджае, нягледзячы на тое, што я чужынец. А як святкаваць?, пытаюся я ў яго. Як звычайна, кажа ён, і дастае з кішэні пластыкавую пушачку з белым парашком. Я імгненна спыняюся й адскокваю ад яго метры на два. Дык ты ведаеш, што гэта такое?, запытвае ён з усмешкай. Не ведаю й не хачу ведаць, кажу я, засаромеўшыся сваёй рэакцыі. Да таго ж, у мяне заўтра таксама адна вельмі важная сустрэча. Ну, глядзі, уздыхае ён.

Мы ловім таксі і даязджаем да вялікага бульвару: там да нас падсаджваецца пажылы цыган з залатымі ланцугамі на шыі, якога нібыта адпусцілі з астрогу на колькі месяцаў раней за майго новага знаёмца. Дарогай цыган распытвае яго пра далейшыя планы, а той, як ні дзіўна, распавядае яму тую ж самую гісторыю з латарэяй, што і мне. Мушу прызнацца, мне нават прыемна, што гэтыя людзі, якіх я бачыў дагэтуль толькі ў кіно, зусім не ставяцца да мяне з падазорам, у адрозненне ад астатніх. Магчыма, мой занядбаны выгляд запэўнівае іх, што я — свой. Цыган амаль незаўважна кладзе штосьці хлопцу ў кішэню і развітваецца з намі. Мы, у сваю чаргу, выходзім каля нацыянальнага тэатру. Мой спадарожнік просіць мяне, каб я пастаяў нейкі час "на шухеры", а сам заходзіць у паблізны закутак, за дэкаратыўны каменны куб — выбрык сучаснай ці то архітэктуры, ці то скульптуры, якому цяжка было б знайсці іншае практычнае выкарыстанне. Я крыху нярвуюся, чакаючы яго, але ж цяпер, балазе, ужо гадзіна ночы, і навокал няма ні душы. Неўзабаве ён вяртаецца, і мы сядаем на зэдліку на даўжэзнае набярэжнай з шырокаэкранным выглядам на Места, палім цыгарэты, чырвоныя пырскі якіх адносіць вецер. Мой новы знаёмы пытаецца ў мяне, што я збіраюся рабіць далей. Ну, зацемваю я, у начлежны дом я сёння ўжо не патраплю. Ды не, я маю на ўвазе — па жыцці, удакладняе ён. Я не ведаю, што яму адказаць, але пасля нядоўгага вагання ўсё-ткі прызнаюся, што хачу быць пісьменнікам, паспрабаваць вучыцца... Гэта зусім не здаецца яму смешным: маўляў, яму да спадобы людзі, якія нешта пішуць, чытаюць, вучацца. Шкада, што ў яго самога на гэта ўжо не будзе часу. Пасля такой прыхільнай рэакцыі ў мяне нават мільгае думка, ці не варта мне расказаць яму аб сваім адкрыцці. Гэтая спакуса ёсць цяпер такой сама моцнай, як хвіліны таму была спакуса прыняць ягонае

запрашэнне, — халера бяры, я навуковец ці хто? — але ў рэшце рэшт я знаходжу ў сабе моц перадумаць: дзякуй богу, існуе безліч іншых тэмаў. Сядзець цяпер на набярэжнай у цэнтры Места і гутарыць з ім здаецца мне самым натуральным і прыемным заняткам, які можна прыдумаць а другой гадзіне ночы. Можа здацца, што я ведаю яго цэлую вечнасць, яшчэ з Гораду.

Праз нейкі час мы выпраўляемся размяць ногі й сустракаем нейкую дзяўчыну, якая тут жа прапаноўвае нам набыць яшчэ новыя мужчынскія боты, ці то знойдзеныя, ці то скрадзеныя. Паміж ёю і маім сябрам адбываюцца кароткія перамовы, і боты сапраўды мяняюць гаспадара, з прычыны чаго дзяўчына бязмежна радуецца. Відаць, што яна таксама з тых, хто не спіць уначы, і я вымушаны прызнацца сабе, што менавіта гэта мне ў ёй найбольш падабаецца: да таго ж, яна нагадвае мне адну былую аднакласніцу. Яна ўжо развітваецца з намі, збіраючыся сысці, калі я зусім нечакана для самога сябе звяртаюся да яе ўсё той жа моваю з кніжкі пра мастацтва: сэнс майго пытання зводзіцца да таго, ці не хацела б яна заняцца сэксам. Яна моўчкі пазірае на мяне сваімі шырока расплюшчанымі вачыма й паціскае плячыма: маўляў, не маю нічога супраць. Гэты адказ настолькі мяне агаломшвае, што я ледзь не забываюся развітацца з сваім новым знаёмцам. Той спрабуе пераканаць мяне не рабіць глупства й нікуды з ёю не ісці, не пакідаць яго аднаго ў такім стане: заўтра ён атрымае грошы й калі трэба падзеліцца імі са мной; дый хто ведае, што ў гэтай дзеўкі за хваробы... Аднак на мяне ўжо нічога не дзейнічае. Я абдымаю дзяўчыну за талію і ўпіваюся пацалункам у ейны твар. Яна паддайна смокча мае вусны: здаецца, ёй усё адно, хто я такі й адкуль. Мы пакідаем нашага таварыша аднаго пасярод начнога Места сам-насам з новымі ботамі й думкамі пра ягонага сына, жонку, заўтрашні выйгрыш. Некаторы час ён глядзіць нам наўздагон, потым паварочваецца й знікае ў шчыльным тумане.

*2003-2011*

Ігар Сідарук



...між намі лістапад –
як вера і праклён...

# І крыж кляновы, як Хрыстос...

* * *

Тваe пацалую каленкі,
Вачэй вып'ю пеністы грог.
...І шэраю коткай сукенка
Даверліва ляжа ля ног.

Ах, мілая, ціхая котка!
Ці бачыла ты калі,
Як двое – шалёна, п'янотна –
Узносяцца ад зямлі?!

Туды, дзе вільготнае неба,
І ў кожнае кроплі – вальс
Хвілін, калі сэнсу не трэба,
Што сэнсам гучаць – для нас.

І сцішана-здзіўленай ноччу
Запомніцца толькі адно:
Смех рухаў, пужлівых трошкі,
Спакуслівых яблычкаў кошык,
Твае залатыя панчошкі
І дождж, які шэпча ў вакно.

*29. 09. 2010*

* * *

Буду сыпаць кляновае золата
Я на цела тваё няспынна;
Водар сэксу і кавы молатай
Мы адчуць, як жыццё, павінны.

Што злучае ў ложку нас восенню,
Калі ў душах шалёны вецер,
Калі мары ў рэальнасць просяцца, –
Іх здзяйсняюць дарослыя дзеці,

У якіх – ні граху і ні сораму.
І ўжо суткі ляжыць адзенне
Побач крыламі нерухомымі
На падлозе у светлацені

То начное, а то вечаровае,
То прыціхлага, пахкага ранні.
Выпіваем адно другога мы
Да канца. Да асноў. Дазвання!..

*12. 10. 2010*

* * *

Цёплым днём прахалоду зведаю
Пальцаў тонкіх тваіх эратычных,
Што пякуць і агнём вярэдзяць,
Нараджаючы электрычнасць

У таемных крынічках цела –
Яны б'юць так канкрэтна і ўпарта.
Восень фарбы змяшаць хацела,
А змяшала – усе нам карты!

Дзе тузы цяпер і дзе козыры?!
Дзе сцяжыны і дзе лістота?..
Мы аголеныя – сярод возера,
Нашых душаў распранутых возера.
І арганам гучаць – усе ноты.

*12. 10. 2010*

* * *

Ну што за розніца, якая садавіна
Між намі сёння на гарачай прасцінай?
Той грэшны смак мы ведаць не павінны...
Чакай, аднак! Мы паспытаць – павінны.
І гэта – так! Як ісціна – ў віне

Тваіх вачэй. І вуснаў. Скуры тонкай
І цела – з пахам яблыкаў.
Налі ж
Мне келіх восені, як сэкс са смакам звонкім,
Ад яблык тых – адкусваем калі.

*12. 10. 2010*

* * *

Прыйдзе час, і сярод гэтых клёнаў
Я знайду твае вусны і рукі.
Будзе вечар, вільготны і сонны
Зноў яднаць і адценні, і гукі

Нашых слоў, нашай тайнай пяшчоты,
Нерастрачанага кахання,
Што жыве так адкрыта і ўпотай
І мкне вонкі!..
І зноўку адхланнем –

Сярод смакаў, і ценяў, і клёнаў –
Супакойваецца, замірае...
І скрозь вечар, вільготны і сонны!.. –
Феерычна і так спакойна
Нашы душы ў рай узлятаюць.

*14. 10. 2010*

* * *

Ах, лёсаў нашых мілая шарада!
Адно другога мы згубілі ці знайшлі?
У эратычным танцы лістапада
Да неба мы ляцім ці да зямлі?!.

І гэты смак – ці горкі, ці салодкі? –
Калі на вуснах – вечаровы пыл
Асенніх зорак у шчымлівых нотках
Даверлівай мелодыяй ляжыць.

Адкрытае душы суправаджэнне!..
І целаў – унікальны камертон.
Так па-даросламу зліваюцца ўсе цені,
І па-дзіцячы так кранаюцца калені.
І гукі ўсе, і пахі, і адценні
Ў шарадзе той нясуць адно значэнне
І безліч розных. І – чароўны геній! –
Між намі лістапад – як вера і праклён.

*17. 10. 2010*

* * *

Апранаю цябе ў вечаровыя
Каляровыя сны і лістоту.
Каралевы сукенку новую –
Разглядае месяц употай

І цалуе ў вочы нахабнікам,
І застацца там хоча зноўку,
Бы старым, але дужым бабнікам,
Які справу вядзе да толку.

Не зраўную і не пазбаўлюся
Яго срэбнага апякунства.
Як і тонкай інтымнай радасці,
Што на волі, бы строгі стронцый,

Распадзецца звонкімі нотамі,
Стане мятным, адкрытым даверам...
Абуваю цябе я з пяшчотаю
У лістоту і ў восені верас.

*18. 10. 2010*

* * *

Я ўцягваю ноздрамі
Водар светлага вечара,
Што вільготным і вострым
На кавалкі пасечаны

Кастрычніцкім дожджыкам,
Назольна няспынным,
З аўтарскім росчыркам
На кляновых прасцінах,

Ад якіх адбіваюцца
Цені сцішаных крокаў...

Ціха таньчыць на пальчыках
Наш анёл між аблокаў.
*18. 10. 2010*

* * *

Зноў непазбежны лістапад
Сярод вачэй тваіх блукае.
І верш кладзецца так не ў рад,
Калі ў вачах тых сустракаю

Агмень самоты. І адчай
Не тухне, як у парку дрэвы,
Што шэрагам хацелі ў рай
Патрапіць і ў Адвечнасць верыць.

Як верым мы ў бясконцы дзень
Без непазбежнасці расстання.
Чароўнай залацінкай цень
Пад вечар шэранню не стане;

Святлу праменьчыкаў наўскос
Яшчэ далёка да парога;
І ліст кляновы, як Хрыстос –
Паміж грудзей – далонню Бога.
*17. 10. 2010*

Андрэй Федарэнка



...Рэдактарства – гэта творчасць.
Талент рэдактара ніколькі не меншы,
чым талент пісьменніка...

# Сечка-15

**1.**

Хто мае хоць якое дачыненне да літаратуры, канечне ж, будзе ведаць выдатнага рускага пісьменніка (цяпер жыве ў Ізраілі; копія анекдатычнага энцыклапедыйнага радка: “Вялікі рускі мастак Ілья Рэпін нарадзіўся ў беднай яўрэйскай сям’і) – Сяргея Каледзіна.

Яго нашумелы “Будбат”, “Поп і работнік”, “Заміраныя могілкі” (“Смиренное кладбище”)... Паводле апошняга зняты фільм.

Цікавая гісторыя стварэння і ходу да чытача гэтых “Могілак”. Пісаліся яны замест дыплома. Сяргей адлічыў 50 чыстых старонак, унізе апошняй напісаў “П...ц”, вярнуўся да першай старонкі і ўсяго за месяц стварыў маленькі шэдэўр.

Стварыў, бліскуча абараніўся. Аднак што далей? Пачаў рассылаць твор па рэдакцыях – дзеля цікавасці.

“...Мы прачыталі аповесць. Напісана добрай моваю. Але

ў партфелі часопіса ёсць больш моцныя творы на падобную тэматыку" ("Нева").

"...Мова аповесці неахайная, засмечаная жарганізмамі, рэкамендаваць да надрукавання нельга" ("Наш современник").

"...Рэкамендаваць аповесць не ўяўляецца магчымым – яна далёкая ад задач, якія перад сабою ставіць наша выдавецтва" ("Молодая гвардия").

Карацей, старая гісторыя. Ніхто ў Расіі не ацаніў і не падтрымаў маладога аўтара. І тут ад старэйшага сябра прагучала: "Нужно в Минск, к Василю!", – як да апошняй, самай справядлівай інстанцыі.

Каледзін едзе ў Мінск. Хвалюецца, доўга шукае дом, адцягваючы сустрэчу.

Быкаў папрасіў пакласці папку з рукапісам у куток, на кіпу вышынёй з паўметра.

– Пра што твор?

– Пра могілкі, я працаваў там.

– Свежая тэма. Усяго добрага.

І неўзабаве вось ён, той каштоўны лісток паперы ў канверце:

"...Я з асалодаю прачытаў Вашу аповесць і магу сказаць, што яна цудоўная ў многіх адносінах. Праўда, яна пачатая з нешчаслівым лёсам, і ў суцяшэнне аўтару хай будзе толькі ўсведамленне ўласнага таленту, які несумненны, значны і шчыры.

Вельмі зычу Вам удачы. В. Быкаў".

Прыемна! Гонар за Беларусь! Нібыта і цябе асабіста датычыцца...

Але вось на якія думкі ўсё гэта наводзіць. Ці знайшоўся б у нас у Беларусі пісьменнік, які не змясціў бы падобны ліст, як ахоўную грамату, папередзе свайго твора? (Калі б, вядома, такі ліст атрымаў.)

Каледзін жа проста мімаходзь згадвае гэты эпізод у адной са сваіх біяграфічных аповесцяў.

Якая ўсё ж вялікая розніца паміж дзвюма літаратурамі. Або так – розніца паміж дзвюма катэгорыямі пісьменнікаў: вялікім і малым, самадастатковым і тым, каму абавязкова трэба падстрахоўка, чужое плячо.

## 2.

Знішчаў старыя запісы, перавярнуў аркушык і ўбачыў, што гэта "палымянская" гранка з тэкстам Янкі Брыля. Некалі я быў дзяжурны па нумары і вычытваў яе, паправіў "радзіску" на слоўнікавую "радыску". Івану Антонавічу не вельмі спадабалася, але ён змоўчаў.

На гэтай адной староначцы можна знайсці многа Янкі Брыля. Тут і яго творчая візітная картка – слова "хараша" ў значэнні рускага "хорошо", і асалода ад піцця ("а вы пайдзіце да збанка ў цянёчку ад снапоў, хлебаніце сабе"), і любімыя пісьменнікам сакавітыя простанародздзі:

"Грубка халодная, як мёртвая дупа", а ў Валодзі Караткевіча яшчэ лепш – радыска з белымі дупкамі".

Ну і параўнаннейкі... Яшчэ разбіраюцца, у каго лепш, у каго горш... Ва ўсіх лепш.

Анатоль Сыс падпісаў яму свой "Агмень" так: "Бога малю, каб даў сто гадоў Янку Брылю".

Не без долі падхалімства я сказаў Івану Антонавічу, што лічу гэта адным з самых лаканічных і цёплых у беларускай літаратуры аўтографаў.

– Глупства, – быў адказ. – Нашто мне сто гадоў? Пажыў, і хопіць, трэба другім даць месца.

“Паміж смерцю ў 45 гадоў ці пазней – усяго толькі колькасная розніца”, – пісаў любімы Брылём Талстой. Інакш кажучы – або жыць вечна, або няважна колькі.

Янка Брыль нейкім чынам змог стварыць для сябе своеасаблівы мінізалаты век у літаратуры, здолеў усё, што трапляла ў поле яго зроку, падпарадкаваць любімай справе.

І праўда, як гэта здорава і зайздросна: пахадзіць па свежай пакошы, папіць у спёку халоднага малака нагбом з паліванай гладышкі, паслухаць рып маладога снегу пад падэшвамі, пасумаваць разам з жоўтым восеньскім лістом, памацаць у пальцах клейкую пахкую веснавую пупышку, пачытаць любімую кнігу, няспешна, роўным прыгожым почыркам запісаць усё гэта...

Не жыццё, а песня! А песні хіба можна адмераць мяжу, хіба не кашчунна акрэсліваць яе канкрэтыкай, нават такой спаважнай, як цэлых сто гадоў?

## 3.

Неяк Машэраў склікаў аўтарытэтных пісьменнікаў на раду.

“Чаму ў вашых рэдакцыях працуюць усяго тры гадзіны, з 14 да 17? І то называецца гэта не праца, а сустрэчы з аўтарамі?”

На што Янка Брыль расказаў Пятру Міронавічу, як у іх у польскай арміі быў надта шкадлівы, прыдзірлівы капрал, які тым не менш не стамляўся паўтараць:

“Мне ўсё роўна, дзе, чым, у які час вы будзеце чысціць боты – абы яны блішчэлі!”

– Так і мы, Пятро Міронавіч, думаем, што абсалютна няважна, колькі пісьменнік працуе – абы вынік быў. А ён ёсць – добрыя часопісы выходзяць, новыя выдатныя імёны з’яўляюцца, і ў выніку нашая літаратура квітнее.

Машэраву так спадабалася, што ён рассмяяўся і махнуў рукой: рабіце што хочаце, “абы боты блішчэлі!”

Разумею, што мы цяпер жывем у іншым часе, пры іншых умовах і нават у іншым фізічным вымярэнні. Нашых гісторыяй з капралам не праб’еш. І ўсё ж круціцца ў мазгах і на языку простая арыфметыка: чаму раней, калі рэдакцыі працавалі 3 гадзіны ў дзень, былі Мележы, Шамякіны, Брылі, Быкавы, Караткевічы, Стральцовы, Танкі, Макаёнкі?.. Пачалі працаваць па-стаханаўску, як на рэжымна-стратэгічным аб’екце (ледзь не па зменах: “Сёння мне ў начную – рэдагаваць новага Караткевіча”), – зніклі Мележы і Брылі...

Рэдактарства – гэта творчасць. Талент рэдактара ніколькі не меншы, чым талент пісьменніка. І, як любы талент, падуладны ён натхненню, але ніяк не рэжыму. Толькі людзі, самі да смешнага чужыя і творчасці, і натхненню, могуць не разумець гэтага. Або наадварот, вельмі добра яны разумеюць, а ўся справа ў тым, што:

Нам, товарищи, нужны
Подобрее Мележы,

И такие Быковы,
Чтобы нас не трогали...

**4.**

(Наступны эпізодзік чакаў свайго часу роўна 10 гадоў, з самай першай “сечкі”, ды ўсё не надаралася магчымасці ўплішчыць яго куды-небудзь. Хай ідзе цяпер.)

Грамадзянскі подзвіг далёкага ад палітыкі Чэхава – адмовіўся ад звання ганаровага акадэміка ў знак пратэсту, што не прынялі ў тыя ж акадэмікі Горкага.

Заўсёды цікава было, як ён адважыўся? Ён, які так сярдзіта выгаворваў захопленаму рэвалюцыйным уздымам Лугавому: “Студэнты бунтуюць, каб стаць героямі і падабацца паненкам: вось уся рэвалюцыя!”

У школе і ВНУ нас вучылі: “Перапоўніўся святым гневам да царызму”. Ніколькі не збіраюся прыніжаць учынак вялікага пісьменніка, проста хачу разабрацца – а што ён губляў?

“Белетрысты могуць быць толькі ганаровымі акадэмікамі, – піша Чэхаў Суворыну, – а гэта нічога не значыць, усё адно як ганаровы грамадзянін горада Вязьмы ці Чарапаўца; ні грошай, ні права голасу. Скажыце: дзеля чаго трэба было прыдумваць званне ганаровага акадэміка?”

Усё ж доўга яны з Караленкам раіліся, абмяркоўвалі, узважвалі, быў цэлы падрыхтоўчы перыяд, паўпадпольныя сустрэчы, зашыфраваная перапіска...

Вырашылі падстрахавацца Талстым, каб ён таксама напісаў заяву з адрачэннем. Чэхаў паехаў на перамовы.

“Я не лічу сябе ніякім акадэмікам”, – буркнуў Талстой і ўнурыўся ў чытанне. (З такою ж лёгкасцю двойчы, у 1897 і 1906 г.г., адмовіцца ад вылучэння яго на прэмію, зацверджаную Альфрэдам Нобелем.)

У Караленкі лопнула цярпенне, ён падаў заяву ў Акадэмію адзін.

Толькі праз месяц (!) Чэхаў, які “пасля пакутлівых роздумаў змог прыйсці да высновы, вельмі для мяне цяжкай і сумнай”, нарэшце напісаў славуты ліст, з такой мілай канцоўкай, што рука не падымаецца перакладаць:

“С чувством глубокого уважения имею честь пребыть Вашим покорнейшим слугою”.

**5.**

*“Пераглядаючы самыя сварлівыя крытыкі,*
*я знаходжу іх настолькі*
*забаўнымі, што не разумею, як мог на*
*іх крыўдаваць; здаецца, каб хацеў я з іх пасмяяцца,*
*дык нічога не мог бы лепшага прыдумаць,*
*як толькі перадрукаваць без усялякіх каментароў”.*

А. Пушкін.

“...Меня и моих друзей, прочитавших в журнале «Молодость» № 8 за 2009 г. «произведение» «писателя» А. Федоренко «Уночы», настолько возмутила и разгневала эта публикация, что мы не выдержали.

Просим Вас, кто причастен к вопросам идеологии, прочесть этот «шедевр» автора, если сможете без омерзения дочитать его до конца.

Сразу возникает масса вопросов и проблем. Как и где в нашей стране могут быть такие преступники-«герои»? Они могут быть только в бредовом сознании больного «писателя», а скорее врага нашей страны, нашего народа. А если ты враг, то почему ты печатаешься в государственном журнале? Что можно сказать о населении нашей страны, прочитав этот провокационный рассказ? Это преднамеренное очернение наших людей, всего государства. Таких выродков в нашей стране нет и никогда не было. Тогда куда же были направлены силы и воспитательные средства нашего государства, если у нас выросли такие люди?

Это оскорбление всего народа, государства и Президента в том числе. Что будут разные читатели думать о Белоруссии?

Почему главный редактор Боровикова это печатает? Кстати, с постоянным размещением своего портрета в каждом номере журнала! И это не первое подобное такое произведение в этом журнале! Страшно, что заставляют студентов подписываться на него.

Такой журнал надо закрывать или переориентировать. А указанного автора и редактора нужно привлечь к отвественности, даже судить за подобные публикации. Их нельзя даже близко подпускать к литературной деятельности. Думаем, что есть в кодексе необходимые статьи и положения, а у Вас хватит власти, чтобы не повторялось больше ничего подобного.

SOS! Спасите наши души от подобных публикаций и «произведений»!

*2011г.*



Соф'я Шах



...няма яму спакою
ў белым свеце...

# Вецер

***Вянок санетаў***

**1**
О, гэты зноў усеахопны вецер
з надрыўнаю, з пранізлівай тугой,
калі і далеч у журбе глухой,
калі і сонца яснае не свеціць!..

Калі зямля і небу ўжо не верыць,
бадай што, нават верай запасной,
калі адно трымаецца на ёй
шчэ дзённае святло ў такую негадзь...

І ён – нібыта сплецены з трывогі...
Але з якой так вырваўся эпохі?
Але з якой абрынуўся вярсты?

Напружаны затоенасцю стылай,
запушчаны з непрадказальнай сілай, –
адкуль так утрапёна і куды?

**2**
Адкуль так утрапёна і куды
імкнецца, рвецца, меціцца, імчыцца?
Сягаць ані, канечне, не баіцца
праз рэкі, ўзвышшы, вёскі, гарады.

І быццам бы нясецца не пусты,
з сабою захапіўшы, каб не збіцца,
ужо не толькі хвілі-бліскавіцы,
а нават – нават цэлыя гады.

Бы аб’яднаў чыесьці намаганні,
нібы ўвасобіў нейчыя жаданні
да проста відавочнай паўнаты.

І вось праносіцца ён без памехі –
ці то да гора ад якое ўцехі,
ці то да шчасця ад якой бяды?

**3**
Ці то да шчасця ад якой бяды,
ці то ізноў расхрыстанай, стыхійнай,
працягла непрыкаянай лавінай –
ад любасці-мілосці да брыды?

Ад вышняй прыгажосці-пекнаты
да ўбогасці, да той, да амбіцыйнай,
што, можа быць, па сутнасці глыбіннай
злачынная і страшная заўжды.

Ах, вецер, вецер, так сканцэнтраваў
адбіткі нейкіх дзей, задум, праяў,
набытых у вандроўках дальніх недзе,

што і не распазнаць, і не ўявіць,
ці то ён да прасвету так ляціць,
ці то ўжо ад святла да апрамецця?

**4**
Ці то ўжо ад святла да апрамецця
наканавана вызначаны шлях?..
Здаюцца ненадзейнымі ні дах,
ні сцены хаты ў гэтай крутаверці.

Ляціць у вокны ўзвіхранае смецце,
прызыўны стогн бы чуецца ў дзвярах,
а па кутках засеў напяты страх
і адбіваецца ў любым прадмеце.

Што дзеецца, урэшце, навакол?
Чаго баіцца пасівелы дол,
названы некалі зямною цвердзю?

Аднекуль пачынаючы здалёк,
пралузваецца ветравы паток
з самотным свістам праз быллё і вецце.

**5**
З самотным свістам праз быллё і вецце
кустоў і дрэў, старых і маладых,
густых і рэдкіх, хвойных, лісцяных, –
яму не страшныя такія сеці.

Яны бяссільныя самоту сцерці,
яна шчэ болей вострыцца ад іх,
такою і трапляе ўжо ў мой слых,
і я нявольная яе адвесці.

У ёй – вякоў далёкіх скрыжаванне,
у ёй – бы стогадовае гучанне,
але яе данёс-такі сюды.

Яна гучаць няўцешна застаецца,
а ён далей у белы свет нясецца
з шчымлівым гулам праз платы, масты.

**6**
З шчымлівым гулам праз платы, масты,
з панылым шумам праз дарогі, сцежкі
ды праз лясныя просекі і ўзмежкі,
праз купіны ў балоце, чараты.

Наскокамі на хвойныя рады,
зігзагамі праз пні, праз вехі, вешкі, –
ужо шалеючы ад гэтай спешкі,
ад ношы непазбытнае – нуды.

Адкуль з такой імклівасцю ліхою?
Куды з такой зацятасцю тугою?
Ці з роляй, ці то з доляй сіраты?

Як бы штось упусціў, а што – не помніць,
як бы шукае штось і не знаходзіць
ад досвітку да самай цемнаты.

**7**
Ад досвітку да самай цемнаты
разносяцца ў ваколлі стогны, ўсхліпы,
крактанні, стукі, скрогаты і рыпы
на ўсе, на ўсе магчымыя лады.

Звіняць да знемажэння правады,
пужліва ўздрыгваюць у вокнах шыбы,
заходзяцца ў хістанні клёны, ліпы
і ляскае дзесь бляха да жуды.

А ў комінах – выццё і скугаццё,
а ў шчылінах – сіпенне і ныццё,
а ў скразняках – бы сутаргі ў фальцэце...

Шапочуць узлахмачана стагі,
гудуць слупы, гундосяць ланцугі, –
няма яму спакою ў белым свеце.

**8**
Няма яму спакою ў белым свеце,
нібыта месца пэўнага няма.
А неўзабаве з'явіцца зіма –
і ўжо вядома, што ў яе сюжэце.

Таму ён так і струніцца ў пратэсце,
што і яму яна – нібы турма.
І гэткая трывога нездарма
у ветравым надрывістым імпэце.

Не ведаю прычыну патайную,
пагэтаму на ўласны лад мяркую,
вось гэты назіраючы ўвесь вір.

Ды мне б і справы да яго ніякай,
заўгодна колькі хай бы вецер плакаў
і хай бы шастаў ён удоўж і ўшыр.

**9**
І хай бы шастаў ён удоўж і ўшыр,
і хай бы ў правадах шукаў кірунак,
а ў комінах – прамежкавы ратунак,
а там і недалёка да вышынь.

І хай бы ўжо яго скразная плынь
абгойсала найкожны закавулак
і не адзін праверыла падмурак
на ўстойлівасць, на існую цвярдынь.

Ды мне-то што, – няхай сабе шукаў бы
свае аднойчы згубленыя скарбы,
хай бы абмацваў ціну, гліну, жвір,

штурмуючы любую перашкоду,
ўздымаючы шырокую пылоту,
налётамі ўздуваючы эфір.

**10**
Налётамі ўздуваючы эфір
да проста неймавернага памеру,
нібыта ў іншую пранікнуць эру
намерыўся самотны дэбашыр.

Палоннік сам сабе і канваір,
мо трапіў выпадкова ў нашу сферу?
Мо родам ён ажно з касмічных дзір?
Дык я і ў гэта з лёгкасцю паверу.

А праўда: вецер – неба пасланец.
Нявызнаны пачатак і канец
паветранага сумнага тэрору...

І хай бы ўжо, калі патрэба ёсць,
ён агаляў сваю тугу і злосць,
парывамі ўзрываючы прастору.

**11**
Парывамі ўзрываючы прастору,
усю наўсцяж свідруючы яе,
як быццам супраць свету паўстае, –
жывога, нежывога – без разбору.

Ужо як быццам сам сабе ён фору,
дарэшты разышоўшыся, дае, –
адныя, можа, і не дастае
зямныя нетры сілаю напору.

І хоць яго ўжо роспач узмацнела,
ды неяк бы я й гэтае сцярпела
сярод уласных неадкладных спраў.

Не думаць бы аб ім паспрабавала,
не чуць бы зацяжных ягоных шквалаў,
але ж ён і душу апанаваў!

**12**
Але ж ён і душу апанаваў!
Але ж і ў ёй так плача ён маркотна,
але ж і ў ёй злуецца так самотна,
як без яе не плакаў, не злаваў.

Як бы яе шукаў ён і гукаў
ўсім гэтым свістам роспачна-гаркотным,
ўсім гэтым гулам жаласна-журботным,
і шырынёй, і глыбінёй распраў.

Знайшоў-такі, – не абмінуў у лёце,
і пры такой спадобленай нагодзе
аж здрыгануўся, аж затрапятаў.

А ўжо яе сабой запаланіўшы,
над ёю аб уладзе заявіўшы,
ён у заложніцы яе забраў.

**13**
Ён у заложніцы яе забраў,
змяніўшы раптам злосныя матывы,
пагрозна адзічэлыя парывы
на тон, які душу маю працяў.

Як непрадбачана яе скаваў, –
працяжны, непрыкаяны, жаллівы.
Чым болей тонкі, тым мацней шчымлівы,
бы й сам ён кімсьці згублены ўжо стаў.

Не памыліўся ў выбары сваім, –
як ведаў, што бязвольнай будзе ў ім,
пратэст яна забудзе й непакору.

Патрапіў, наляцеў, перахапіў,
душу да невымоўнасці спавіў –
і вось нясе нібы да прыгавору.

**14**
І вось нясе нібы да прыгавору:
заўжды дзяліць з ім крайні неспакой,
яго трывожна поўніцца журбой,
увасабляць яго адчай і змору.

І разам уздымацца з ім угору,
і разам падаць з вышыні крутой, –
шукаць і не знаходзіць між зямлёй
і небам неабходную апору.

Сцінацца сіратліва ад няўдач
і нараджаць жалейкавы той плач,
што адгалосам доўжыцца ў Сусвеце.

Як ён, журыцца флейтава між дзён,
ўзнікаць арганным выгукам, як ён, –
о, гэты зноў усеахопны вецер!

**15**
О, гэты зноў усеахопны вецер!
Адкуль так утрапёна і куды?
Ці то да шчасця ад якой бяды,
ці то ўжо ад святла да апрамецця?

З самотным свістам праз быллё і веццe,
з шчымлівым гулам праз платы, масты, –
ад досвітку да самай цемнаты
няма яму спакою ў белым свеце.

І хай бы шастаў ён удоўж і ўшыр,
налётамі ўздуваючы эфір,
парывамі ўзрываючы прастору!

Але ж ён і душу апанаваў,
ён у заложніцы яе забраў –
і вось нясе нібы да прыгавору...

Віктар Сазонаў



...на душы стала надзвычай спакойна і камфортна,
нібы нейкая вышэйшая сіла ўсялілася ў яе
і паведаміла праз падсвядомасць:
"Нічога не бойся!"...

# Залік па "ЧэГэДэ"

***Апавяданне***

Алеся Качура спешна выбегла з метро і куляй паляцела на прыпынак маршрутных бусікаў, якія, шукаючы сабе месца, каб на хвілінку спыніцца, коўзаліся туды-сюды, стрымліваючы ўвесь рух ля плошчы імя Якуба Коласа. Часу катастрафічна бракавала. Вечна яго бракуе, як грошай. Нібыта ён на тое і прыдуманы, каб яго не хапала. А ёй тэрмінова трэба паспець у два месцы адразу. Хоць ты трэсні, як стары клён ад маланкі. Трэба ехаць у Бараўляны, дзе сёння робяць аперацыю яе знаёмаму, і так неабходна заставацца ў Мінску, каб паспрабаваць атрымаць залік па самым нявывучаным прадмеце "Чалавек. Грамадства. Дзяржава.", ці, як яго скарочана называюць яе аднакурснікі, па "ЧэГэДэ".

Алеся баялася, што калі яна замарудзіць хоць на хвіліну, то не патрапіць своечасова нікуды. А трэба быць і тут, і там. Вельмі трэба.

Студэнтка другога курса факультэта псіхалогіі

ўніверсітэта яшчэ наіўна і беспадстаўна цешылася надзеяй, што калі правільна размеркаваць час, які ўжо цэлы год дакладна распланоўваць не ўдавалася, то ёсць нейкая ступень верагоднасці на хвілінку заляцеўшы ў шпіталь, а пасля хуценька злавіўшы таксоўку, паспрабаваць паспець на залік. Галоўнае – нідзе не затрымацца. Толькі, як назло, аніводнага маршрутнага мікрааўтобуса. А на таксоўку ў два бакі няма грошай. Вечна іх няма, тых грошай. Нібыта іх і прыдумалі, каб іх не хапала. Як таго часу...

Ну вось! Нарэшце пад'ехаў патрэбны бусік. Пяцьсот пятнаццаты нумар. Лічбы не такія ўжо і кепскія. Ды цяпер не да забабонаў. Хоць бы былі месцы. Ёсць! Дзякуй Богу! Можа, усё паспею...

За вакном мікрааўтобуса прыгожая і нават велічная ў сваіх шляхетных колерах і пахах восень. Любімая пара года Алесі. Толькі няма калі захапляцца той прыгажосцю. Трэба чытаць ненавісны падручнік. Каб ён згарэў. Вось ён. "Поўны курс для падрыхтоўкі да тэставання і іспыту. Чалавек. Грамадства. Дзяржава.". Матэрыял не тое што не вывучаны, але нават не прачытаны да канца. Ні разу. І нават да сярэдзіны не дачытаны... І ўсё таму, што залік перанеслі. Каб яны павыдыхалі, усе тыя разумнікі. Вечна нешта блытаюць. Залік мусіў быць нашмат пазней, зімой. Але захацелі зрабіць зараз. Нейкія ўсё навуковыя эксперыменты ставяць.

Так. Старонка 371. Што тут. Раздзел трэці. "Роля маралі ў жыцці грамадства і чалавека". Пра гэты раздзел нешта чула ад некага. Хіба штосьці пра тое выкладчык распавядаў, калі яна драмала на лекцыі. Ну вось і знаёмыя словы: "Як фармавалася ўяўленне пра чалавека як пра найвышэйшую каштоўнасць". Да Бараўлянаў паўгадзіны язды. Можна многа вывучыць. Ці хоць нешта.

Ужо хвілінаў праз дзесяць Алеся заўважыла, што нічога не запамінае з прачытанага. Навука адскоквае ад яе галавы, як гарох ад дубовай сценкі. Позірк механічна плыве па друкаваных радках падручніка, але думкі зусім пра іншае. Яны даўно ўжо там, у шпіталі. Як там Дзяніс? Ці добра прайшла аперацыя? Напэўна, яму цяпер вельмі цяжка і балюча. Хутчэй бы ехаў той бусік... Як назло, вулічны затор. Што за горад! Як тут людзі жывуць?! Нікуды не паспееш. То заторы, то рамонты дарог, то міліцыя не пускае, бо прэзідэнт кудысьці едзе... То яшчэ якая халера... Усюды перакапана. Нешта рамантуюць, будуюць. Бібліятэку нейкую. Гары яна агнём. Тут у збудаваныя раней бібліятэкі часу няма схадзіць, а яны яшчэ адну ставяць. Хіба што ўсё з таго ж вялікага розуму, ад якога ўсе праблемы на свеце. З-за гэтых мудрагеляў чалавеку нічога планаваць нельга, бо ўсё адно не здолееш паспець. Ды яшчэ маршрутны аўтобус патрапіў у затор. Стаіць нерухома, як помнік Леніну на плошчы, толькі псуе нервы. Больш з яго аніякага толку. Так яна дакладна не патрапіць куды хоча. Трэба нешта рабіць.

Дзяўчына выскачыла з бусіка, хутка перабегла на другі бок дарогі і падняла руку. Першы ж бліскучы легкавік зарыпеў тармазамі і спыніўся, трохі пераехаўшы месца, дзе стаяла Алеся. Шафёр "Мерседэса" нахабна і наўмысна, з выглядам паўліна у перыяд спарвання, парушаючы правілы дарожнага руху, здаў назад і адчыніў перад дзяўчынай дзверы прадмета свайго гонару.

– Прашу, мадмуазель, – не без фрывольнасці ў голасе бадзёра прапанаваў ён. – Мой самакат да вашых паслуг. І ён, і я вольныя аж да заўтрашняй раніцы.

– Мне ў Бараўляны, у шпіталь, – спешна прагаварыла Качура. – Там чалавек... хворы... на аперацыі. Чакае маёй дапамогі. Калі ласка, падвязіце...

– А гэта ўжо не мае праблемы, дзетка, – кіроўца “Мерседэсу” імгненна страціў да дзяўчыны цікавасць. – Мне самому дапамога патрэбная. Ты дзверцы зачыні, а то дзьме, а я скразнякоў баюся. Зачыні і чашы адсюль, пакуль тую лапу, якой ты мяне спыняла, не адарваў...

– Добра, – Алеся ласкава ўсміхнулася на хамства мужчыны. – Калі праз пятнаццаць хвілінаў мы будзем у Бараўлянах, то праз пару гадзінаў забярэш мяне назад. Паглядзім, ці такі ты файны ў справе, як на словах. Я запішу твой нумар і патэлефаную да цябе, як вызвалюся. Згода? – І каб пацвердзіць праўдзівасць свайго намеру, дастала з сумачкі мабільны тэлефон.

Шафёр агледзеў Качуру з ног да галавы. Адкуль у гэтай сціпла апранутай дзяўчыны такі дарагі тэлефон? Няйначай, мае добрага спонсара. Тады чаму так сціпла апранутая, нібы жыве толькі на стыпендыю? Хіба, яна яго ўкрала, той тэлефон. А, якая розніца...

– Ну сядай, – насцярожана працадзіў ён праз зубы. – Толькі не намачы ад страху калготкі. Ехаць будзем хутка. А спяшаешся хіба да свайго мэна?

– Едзь і не сунь нос у чужыя справы. А то мне і без цябе ёсць каму пазваніць.

– Зразумеў, не дурань, – на гэты раз з немаведама адкуль узніклай павагай да пасажыркі адказаў шафёр, і “Мерседэс” панёсся супраць руху, на чырвоныя колеры святлафораў, па пешаходных ходніках, дзе толькі мог.

* * *

Лёс закінуў Алесю Качуру ў Мінск з невялічкай вёскі, што схавалася за маляўнічымі пагоркамі і старым бэзам недзе ў Ашмянскім раёне на Гарадзеншчыне. Здаецца, не так ужо гэта і далёка ад сталіцы, трохі больш за сто кіламетраў. Але калі збочыш з аўтатрасы Мінск – Вільня, каб даехаць да таго бэзу, як у іншы свет трапіш. Нібыта на незнаёмую планету і ў іншую эпоху. Калі гэта летам, то, трасучыся па гравійнай дарозе і ведаючы дакладна правільны кірунак язды, наглытаўшыся аж па горла пылу і праехаўшы яшчэ праз неверагоднай прыгажосці невялічкія лясок ды дурманячы водарам кветак луг, можна дасунуцца да драўляных хатак, якія, утапіўшыся ў зеляніне вішняў, клёнаў і ўсё таго ж бэзу, даюць прытулак пераважна старым нямоглым бабулькам. Моладзь даўно адсюль з’ехала. А што тут рабіць? Ваўком завыць можна ад суму. Сабакі так і робяць. А людзі, мажа, і хацелі б скарыстацца з мудрасці сабак, ды толькі ўжо не маюць сілаў. Мужчыны амаль усе паўміралі. Хто ад гарэлкі, хто ад хваробаў, хто ад таго сабача-воўчага суму. А іншыя дык проста ад жыцця. Пакінулі старэнькіх жонак дажываць і замольваць грахі маладосці ў роспачы ды хваробах. Добра, калі завітае аўталаўка з тоўстым і вечна п’яным шафёрам ды прывязе хоць хлеба. А так адзіны чалавек, які можа зайсці ў хату, – гэта паштальёнка, што раз на месяц прыносіць пенсію.

Дажджлівай восенню і вясной ужо гарадскія людзі, дзеці тых нямоглых бабулек, каб наведаць сваіх матуляў, змушаныя за тры-пяць кіламетраў ад вёскі пакідаць свае машыны і ў гумовых ботах, праклінаючы апошнімі словамі сваю малую радзіму, мусяць чмякаць па гліне і балоце... А зімой тут нібыта іншы кантынент. Паўночны полюс. Ні даехаць, ні дайсці. Ні

“хуткая” не прыкоціць у разе чаго, ні аўталаўка не дацягнецца. Усё замецена. І, як кажуць, сядзі ў будзе і чакай, што будзе.

Літаральна праз сем кіламетраў сельсавет, крама, паліклініка, фельчар... Ды паспрабуй прайдзі тыя сем кіламетраў па гурбах, з ацёчнымі ад хваробаў і старасці нагамі і сямю дзясяткамі гадоў за плячамі.

Вёску яшчэ за саветамі пазначылі як “бесперспектыўную” і перасталі ўкладаць туды грошы і працу. Яе жыхарам вельмі не пашанцавала, бо прытулілася яна да маляўнічых пагоркаў акурат на сутыкненні двух раёнаў, Ашмянскага і Валожынскага, ды дзвюх абласцей, Гарадзенскай і Мінскай. Таму адміністрацыі ўсіх гэтых тэрытарыяльных адзінак лічылі, што менавіта суседзі абавязаны дбаць на гэтай тэрыторыі пра дарогі ды іншыя камунікацыі, якія так і не парадавалі залітае зеллем мясцовага вырабу вока тутэйшых сялянаў.

Алесі даводзілася ў школу хадзіць менавіта за сем кіламетраў. Але гэта не перашкодзіла ёй закончыць першую ў сваім жыцці навучальную ўстанову з добрымі адзнакамі. Вельмі матуля хацела, каб дачка выбілася ў людзі, паступіла вучыцца, з’ехала ў горад, стала чалавекам. Там больш магчымасцяў для рэалізацыі сваіх мараў. Матуля ведала, што некаторым пашанцавала. Вось у суседкі дачка ўладкавалася на працу ў сталіцы і нават пакой у інтэрнаце атрымала. І цяпер у разе натуральнай патрэбы няма ёй неабходнасці расчышчаць гурбы, каб дасунуцца да прыбіральні. Ды і пасварыцца, як захочацца, то на агульнай кухні заўжды ёсць той, хто не памыў за сабой пліту. Не жыццё, а казка. А з суседняй вёскі дзяўчыне ўвогуле пашанцавала, як з працай шафёру іх аўталаўкі, які за тое, што прывязе буханку хлеба, бярэ паўлітра самагонкі. Тая выйшла замуж за нейкага старога немца. І цяпер яна і ўсе яе сваякі не могуць дачакацца, калі той памрэ, каб была нагода хоць раз у жыцці легальна патрапіць у Нямеччыну не на танку. І не на вайну, а ўсяго толькі на пахаванне старога немца, які сваёй маладой жонцы можа пакінуць больш маёмасці, чым спаліў тут падчас другой сусветнай вайны.

Алеся вельмі любіла матулю. Таму старалася дагадзіць ёй. І добра ў яе пайшло. Факультэт, можа, і не з самых прэстыжных, але дастаткова перспектыўны. Псіхолаг – гэта штосьці новае ў Беларусі. На захадзе да псіхолага людзі часцей ходзяць за парадамі, чым да святара на споведзь. Можа, і ў нас хутка так стане. Бо да споведзі мала хто спяшаецца. Палова работы, як кажуць, ужо зробленая. Засталося зусім трошкі, каб, разгубленыя інтэнсіўнасцю ўрбаністычнага жыцця, згубіўшы надзею на свае сілы, людзі кінуліся за дапамогай да спецыялістаў. Бо зусім нядаўна яны яшчэ мелі спадзяванні на ўсемагутную сілу абранага імі, а цяпер хіба толькі на псіхолагаў, псіхатэрапеўтаў, псіхіятраў і шпіталі для псіхічна хворых. Карацей, надзея толькі на псіхушкі. Таму заставалася толькі цешыцца з тае магчымасці і тых перспектываў, як дзіця цешыцца з абяцання бацькоў, што будзе яно касманаўтам. Трэба толькі спакойна вучыцца.

Так і было спачатку. Хоць студэнцкае жыццё багатае на розныя спакусы і жаданні правесці маладыя гады як мага весялей, Качура старалася выкарыстоўваць час з большай карысцю для вучобы. Ёй аднакурснікі нават паспрабавалі даць мянушку “Бібліятэка”, ды яна не прыжылася. Хіба таму, што ў кампаніях, ад якіх у тыя гады, калі жыццё здаецца вельмі доўгім, усё ж нікуды не падзенешся, Алеся была сваім чалавекам. Вясёлая, разумная, з гумарам. Ды і знешні выгляд нічога такі. Хлопцы не абдзялялі ўвагай.

Паварочвалі галовы, каб палашчыць юрлівы позірк яе станам, не радзей, чым на іншых прыгажунь. А з вучобай і гаворкі няма. Першая сесія толькі на выдатна. Трэба ж і пра стыпендыю дбаць. На матуліну пенсію доўга не працягнеш. А калі і працягнеш, дык толькі ногі. Прыкладам, бацьку, пакуль ён жыў, гэнай пенсіі разам са сваёй, нават на гарэлку не хапала. Даводзілася няшчаснаму вырабляць яе самому. Гэтак, як і ўсё астатняе: хату, хлявы, закуску, вазы, кашы, стол, лаву і нават ложак, да якога рэдка ўдавалася дапаўзці.

Так яно і ішло, можа, так і скончылася б. Банальна, сумна, але правільна. Ды нечакана ў жыцці адбыліся кардынальныя змены. Нібыта сам лёс, што любіць цешыцца з чалавечых праблемаў, сваёй магутнай і бязлітаснай рукой скіраваў яе жыццё на іншы шлях. На той шлях, дзе дзявочыя мары пра звычайнае асабістае бытавое шчасце саступаюць абсалютна незразумелым для астатніх пачуццям.

А ўсё неяк знянацку. Яе аднакурснікі ішлі на нейкі пікет, а ёй не было чаго рабіць і яна пайшла з імі. А там – затрыманне, міліцэйскі пастарунак, выклік у дэканат, сур'ёзная размова з дыпломнай кіраўнічкай, якая ад нібыта клопату пра лёс студэнткі плаўна і незаўважна перайшла да адкрытых пагрозаў. Але пагражаць было позна. Алеся ўжо не магла жыць без таго свету, у якім размаўляюць пра правы чалавека, справядлівасць, дэмакратыю, гістарычную і духоўную спадчыну, празрыстыя выбары, свабоднае волевыяўленне народа. Носяць бел-чырвона-белыя значкі і размаўляюць на той мове, на якой і яе матуля. На той мове, якой яна так саромелася і хацела пазбавіцца яе вымаўлення цягам цэлага першага года свайго гарадскога жыцця.

З гэтага часу і пачаліся клопаты. Дзяўчына бачыла, як да яе змянілася стаўленне ў некаторых выкладчыкаў. Не ў усіх, праўда. Але хапала і тых, у каго змянілася. Трэба было вучыцца так, каб аніхто не змог падкапацца. А часу і на вучобу, і на грамадскую дзейнасць зусім не было. І акурат у той момант у яе жыцці з'явіўся Дзяніс.

І зноў усё выпадкова, або па волі ўсё таго ж усёмагутнага лёсу. Аднаго дня папрасіў яе аднакурснік завезці нейкаму хвораму ў Бараўлянскі шпіталь торбу з харчаваннем. Маўляў, яму бацькі з вёскі перадалі. Суседзі ягоных бацькоў. Дзяўчына пагадзілася і праз некалькі гадзінаў ужо адчыняла дзверы дзіцячага шпіталя для хворых на лейкемію, злаякасныя пухліны ды іншыя хваробы, пры агучванні якіх думаеш: "Не дай Божа!".

Першае ўспрыманне будынка не абышлося без захаплення. Качура яшчэ не бачыла такіх дагледжаных шпіталяў. Ён сапраўды рабіў уражанне месца, дзе ўсё прадумана і зроблена для таго, каб хворыя адчувалі сябе як мага камфортней. У палатах санвузлы, нават падлога з ацяпленнем. На вокнах жалюзі. Нейкі агульны праект з аўстрыякамі, якія пасля Чарнобылю дапамаглі зрабіць такі медычны цэнтр для беларускіх хворых. Персанал вельмі ветлівы і зычлівы. Цалкам станоўчае ўражанне. Але чым больш дзяўчына там была, тым больш яе перапаўняла незразумелае пачуццё трывогі, болю і жалю. Вакол хадзілі хворыя дзеці, хлопчыкі і дзяўчаткі. Нехта зусім без валасоў, іншыя з мабільнымі кропельніцамі на калёсіках. Былі і такія, што са скрыўленымі болем тварамі перасоўваліся на крэслах для калекаў або на мыліцах. Некаторых зачынілі ў палатах і нікога да іх не пускалі з патрэбы звышстэрыльнасці. Нехта патлумачыў, што гэта так званая "хімія". Апошняя надзея тых, хто хворы на рак крыві.

У дзяўчыны па целе прабегліся мурашкі. Яна недзе глыбока ў сэрцы, куды да гэтай хвіліны ніколі не зазірала і не ведала, што там нешта ёсць, пачула незвычайны, моцны і паралізуючы боль. Цела яе дрыганулася, і па спіне нібыта хтось павёў халоднай ледзяной рукой. Спачатку зверху ўніз, а пасля адваротна. Невыносны холад пралез аж у пяты, а з ілба пасыпаўся градам буйны ледзяны пот. Ёй нават здалося, што яна пачула пах смерці. Пах, якога раней не адчувала ніколі, але, удыхнуўшы яго першы ж раз, адразу зразумела што за ён.

– Гэта вы Алеся, – вывеў яе з стану аслупянення голас за плячамі. – Мне тэлефанавалі, што вы перадасцё торбу з ежай.

Студэнтка павярнулася і ўбачыла перад сабой юнака гадоў чатырнаццаці.

– Скажы, тут хто-небудзь паміраў? – спыталася яна дрыжачым голасам.

– Тут увесь час нехта памірае, – здзіўлена адказаў хлопец. – Гэта ж шпіталь для хворых на рак. Вось і сёння ў рэанімацыі памёр мой знаёмы. У адной палаце ляжалі некалі. Дык гэта вы Алеся?

– Табе не страшна тут? – дзяўчына сунула новаму знаёмаму торбу.

– Мне няма чаго баяцца, – весела адказаў той. – У мяне добрыя аналізы. Лячэнне прайшло паспяхова. Хутка дахаты выпішуць.

А праз некалькі дзён нейкая незразумелая сіла зноў прымусіла Качуру наведаць шпіталь. Яна проста прынесла некалькі апельсінаў незнаёмай сямігадовай дзяўчынцы і збіралася пайсці. Ды тая папрасіла застацца. Высветлілася, што яна сірата. З дзіцячага дома. І ёй вельмі прыемна, што нехта завітаў і да яе. А праз нейкі час Алеся ўжо не магла, каб хоць раз на тыдзень не наведаць каго з хворых. Яе пазнавалі, з ёй віталіся нават тыя дзеці, якіх Алеся і не бачыла дагэтуль. А аднаго разу яна са здзіўленнем пачула, што дзеці гэтак жа прыязна вітаюць яшчэ некага. І як прыемна было даведацца, што яна не адна, хто ходзіць сюды па закліку сэрца. Гэта былі Маша і Таня. Таксама студэнткі. А пасля Качура пазнаёмілася яшчэ з трыма такімі дзяўчынамі. Яны былі з розных куткоў Беларусі і самога Мінску. Але іх яднала тое, што яны адчуваючы боль душы, рэгулярна наведвалі хворых дзяцей, каб дапамагчы ім развеяцца і забыцца, што іх жыццё пад пагрозай.

Цяпер у Качуры больш ні на што не ставала часу. Не толькі на бібліятэку, але і на дыскатэкі. Толькі грамадская дзейнасць і шпіталь. Дзяўчаты кожную вольную хвіліну стараліся наведваць хворых. Гулялі з імі ў розныя гульні, разам цешыліся з паляпшэнняў у лячэнні і перажывалі пры няўдачах. Шпіталь стаў часткай жыцця Алесі. Яна плакала разам з матулямі хворых дзяцей і радавалася, калі замежнікі або манашкі прыходзілі да тых з падарункамі. Стала рэгулярна хадзіць у шпітальную царкву і запрашаць туды іншых. Той свет, у якім яна жыла раней, застаўся недзе там, далёка-далёка, на першым курсе, дзе студэнтка Алеся Качура імкліва крочыла да рэалізацыі матуліных надзеяў. Але менавіта зараз яе душа адчувала камфорт і задавальненне з таго, што яна робіць.

Праўда, былі і крыўдныя моманты, калі хтось з наведнікаў хворых сваякоў казаў, што гэтыя дзяўчаты хіба якія сектанткі, ці, можа, медыцынская практыка ў іх, і яны хочуць паказацца добранькімі дзеля будучай кар’еры. Каб тут на працу ўзялі. Ці каб кандыдацкую напісаць. Было балюча гэта

чуць. Але пазней дзяўчына перастала звяртаць на такое ўвагу. Хай, думала, тое застанецца на іх сумленні.

– Што гэта ты сабе такую дурную прафесію выбрала? – неяк спытала ў Алесі адна з дакторак. (Медычны персанал шпіталя добра ведаў дзяўчат і вітаў іх памкненні дапамагаць хворым). – З тваім сэрцам трэба было ісці ў медыцыну.

– Я б не змагла, – пачырванела будучы псіхолаг. – Я магу пры выглядзе крыві самлець. І яшчэ я не магу трываць стогнаў.

– То хай застаецца так, як ёсць, – умяшалася ў размову маці аднаго хворага дзіцяці. – І хай, дзетачка, у цябе ўсё будзе добра!

Але не было так усё добра. З вучобай пачаліся праблемы. Качуру часта хворыя дзеці прасілі схадзіць у краму, штосьці прывезці з Мінска. Гэта вымагала часу. Ды і старэнькую матулю таксама трэба было наведваць усё часцей. Неўзабаве высветлілася, што Алеся прапусціла больш заняткаў, чым гэта можа вытрымаць гонар выкладчыка, які разглядае такое стаўленне да вучобы як праяву непавагі да сябе асабіста. Ды тое яшчэ можна было выправіць. Але вось яе палітычныя перакананьні, якія кардынальна разыходзіліся з поглядамі дзяржаўных спецслужбаў, не пакідалі надзеі на тое, што яе праблемы з вучобай успрымуцца з разуменнем.

Асабліва вялікія праблемы ўзніклі з выкладчыкам прадмета “Чалавек. Грамадства. Дзяржава.” Хоць гэта быў яшчэ даволі малады мужчына, але вельмі з’едлівы. Як недакормлены казёл. Казалі, што ён яшчэ ў студэнцкія гады даносіў на аднакурснікаў у дэканат. І нават не за грошы, а па той жа прычыне, па якой Алеся ездзіла ў шпіталь: па закліку душы. Ну а калі сам стаў выкладчыкам, то пачаў даносіць у значна вышэйшыя інстанцыі. І на студэнтаў, і на сваіх калегаў. Цярпець не мог грамадска-палітычных актывістаў. Такую дзейнасць ён успрымаў як асабістую абразу і не мог гэтага дараваць студэнту. Яго за такія паводзіны студэнты абдарылі мянушкай “Зануда”. І кожны ведаў, што з Занудам лепш не заядацца. Вельмі злапомны і помслівы. Затое дужа хутка ён падымаўся па кар’ернай лесвіцы. Хіба гэта была для яго кампенсацыя высілкаў па выгнанню з універсітэта нелаяльных да існай улады студэнтаў.

– Сядайце, Качура, – аднаго разу прывітаўся з студэнткай Зануда. – У вас сёння прагрэс. Вы спазніліся на заняткі ўсяго толькі на сем хвілінаў. Хвалю. У вас нарэшце прачнулася цікавасць да навукі? Мінулы раз вы спазніліся на цэлую лекцыю. І не толькі на маю. Справа ваша. Пасля толькі, як вас выкінуць з сценаў нашай навучальнай установы, не шукайце вінаватых апрача сябе. І не кажыце, што да вас прыдзіраліся з-за вашых палітычных перакананняў. Бо чытаў я ў гэтай сметніцы – інтэрнэце, што вы так ужо казалі.

– У мяне так складаюцца абставіны. Я ўсё вучу па падручніках, – збянтэжана прабубніла студэнтка.

– Вось як! – іранічна ўсміхнуўся выкладчык. – А навошта тады патрэбныя лектары? За што дзяржава плоціць нам грошы, калі і без нас надзвычай разумныя студэнткі могуць засвоіць матэрыял па падручніку? А можа і залік вы будзеце здаваць без мяне, і самі сабе адзнаку паставіце ў залікоўку? Добра. Паглядзім, што вы там вывучылі. Раскажыце, у чым сутнасць разумнага самаабмежавання паводле Канта.

– Я гэтага яшчэ не прачытала, – ледзьве чутным голасам прашаптала Алеся.

– І не збіраліся, – працягваў дабіваць яе Зануда. – А вам больш за ўсіх гэта трэба ведаць. Бо гэта тычыцца менавіта вас і такіх, як вы, лайдакоў з поўнай адсутнасцю пачуцця абавязку і адказнасці. А маральнасць, па Канту, гэта якраз уменне чалавека пераадолець прыродны эгаізм у імя вышэйшых ідэалаў абавязку і адказнасці, – раз'юшаны выкладчык усё ўзмацняў тэмбр голасу. – Этыка Канта – гэта этыка чалавека абавязку. Чалавека адказнага. Яна вучыць, як стаць вартым шчасця. Яна вучыць ставіцца да кожнай жывой істоты некарысліва і справядліва. А як вы будзеце ставіцца да грамадства ў цэлым і да кожнага асобнага чалавека ў гэтым грамадстве, калі не ведаеце гэтых прапісных правілаў і не збіраецеся іх вучыць? Дарэчы, як вы так ставіцеся да сваіх студэнцкіх абавязкаў, – цяпер Зануда ўжо перайшоў на істэрычны, як у пажарніка пры вогнішчы крык, – то я ні кроплі не пашкадую, калі наш універсітэт развітаецца з вамі. І я абяцаю перад усім курсам, што паскору гэты працэс, калі вы прапусціце яшчэ хоць адну хвілінку маіх лекцый.

Але Алеся зноў прапусціла. Засядзелася з хворымі ў Бараўлянах, а пасля чамусьці не прыехаў маршрутны мікрааўтобус. Яны заўсёды не прыязджаюць, калі гэта вельмі патрэбна.

Чарговая размова з Занудам, а звалі яго Ігар Пятровіч, адбылася ва ўніверсітэцкім калідоры.

– Ах, вы наш універсітэт усё ж наведваеце, – з непрыхаванай іроніяй у голасе звярнуўся да яе Ігар Пятровіч. – Значыць, вы толькі мае лекцыі прапускаеце. Можа, я вас не задавальняю як выкладчык. То вы скажыце. Я сам пайду хадайнічаць у дэканат, каб вам замянілі лектара.

– Прычына не ў вас, – апусціла галаву Алеся. – У мяне вельмі складаны перыяд. Я ўсё наганю.

– Не, даражэнькая. Не нагоніце. Я не дам вам такой мажлівасці! Бо ў вас няма сумлення. Бо вучыцца – гэта не апазіцыйнымі сцяжкамі махаць на плошчы. Дарэчы, вы ведаеце, што такое сумленне? Ну канечне, не ведаеце. Скуль вам ведаць. Гэта ж можа растлумачыць толькі навуковая дысцыпліна, якую вы настойліва адмаўляецеся вывучаць. Ну то я вам хоць тут, у калідоры, скажу. Сумленне – гэта этычная катэгорыя, якая адлюстроўвае вышэйшую форму здольнасці асобы да маральнага самакантролю, самасвядомасці, самастойнага фармавання для сябе этычных і маральных абавязкаў, патрабавання ад сябе іх выканання і выпрацоўкі ўмення ацэньваць свае ўчынкі. А ў вас няма аніводнага з гэтых чыннікаў сумлення. Я ўжо не кажу пра залатое правіла маралі, якое патрабуе ад чалавека ставіцца да іншых так, як хочаце, каб яны ставіліся да вас. З гэтага і вынікаюць такія якасці, як дабрачыннасць, спачуванне, некарыслівая дапамога бліжняму. А вы прыехалі вучыцца, а самі нават на заняткі не ходзіце. Скуль вы можаце пра ўсё гэта даведацца? Вы самі зачыняеце сабе дзверы да ўдасканалення і самі будзеце вінаватыя ў страце мажлівасці вучыцца далей у нашай установе. Я ўжо даваў вам апошняе папярэджанне. Зараз даю самы апошні шанец. Яшчэ адзін пропуск маёй лекцыі – і я на заліку буду ганяць вас па ўсім падручніку, як сабака злодзея. І калі вы не адкажаце хоць на адзін параграф, то я стаўлю пытанне ў дэканаце пра немажлівасць вашай далейшай вучобы.

На гэты раз Алеся вельмі сур'ёзна паставілася да словаў выкладчыка. Ён не жартуе. А калі папруць з вучобы, то як на гэта адрэагуе старая маці. Ці вытрымае яе хворае сэрца такое нечаканае разбурэнне ўсіх ма-

раў і спадзяванняў пра дачку? Дзяўчына вырашыла на нейкі час спыніць свае візіты ў шпіталь, каб падцягнуць веды хоць па “ЧэГэДэ”. Яе сябры ўсё зразумеюць. Тым больш, што гэта ненадоўга. А яшчэ тым больш, што гэта сапраўдныя сябры. Гэта толькі да заліку, які (ой, як недарэчы), перанеслі з зімы на восень. Як назло перанеслі. Хоць, калі задумацца, то па вялікім рахунку, гэта нічога не мяняе. Якая розніца, калі сканцэнтравацца на тыдзень-другі і вывучыць прадмет? Так яна вырашыла і, можа, так і зрабіла б, каб не Дзяніс.

Яго прывезлі ў шпіталь акурат у той момант, калі Алеся прыйшла сказаць хворым, што яе пэўны час не будзе. Дзяніс быў высокі юнак гадоў пятнаццаці з неверагодна правільнымі і надзвычай прыгожымі рысамі твару і вялікімі выразнымі вачамі, на самым дне якіх затаіўся глыбокі невыносны боль. Алесю ледзь не паралізавала, як яна зазірнула ў тыя вочы. Юнак таксама зірнуў на яе, неяк грэбліва, без цікавасці, пасля адвёў позірк у бок і на мыліцах пайшоў у сваю палату.

Дзяўчына некалькі хвілінаў, вагаючыся, што ёй рабіць далей – ісці вучыць “ЧэГэДэ” ці зайсці на хвілінку да Дзяніса, – стаяла нерухома перад дзвярыма палаты. Пасля адчыніла іх і бадзёрым голасам прывіталася з пацыентам.

– Прывітанне! Ты новенькі, таму не ведаеш. Тут толькі на пачатку крыху не па сабе. Пасля ўсё наладжваецца. Галоўнае – не падаць духам, і ўсё будзе о’кэй. Давай знаёміцца.

– Я цябе ведаю, – сумна адказаў юнак. – Ты Алеся. Мне пра цябе расказвалі. Дарэмна ты тут поўзаеш. Прынамсі, мне ты не патрэбная. Ідзі адсюль. Не да цябе мне.

– Я разумею твой стан. Але не трэба адчайвацца. Можа, усё абыдзецца, – пастаралася не перапыняць знаёмства Алеся. – З чым ты тут?

– А табе што? – у голасе юнака гучалі роспач, боль і крыўда на ўвесь свет. Ён перайшоў на крык: – Ідзі да малалетак і суцяшай іх, калі хочаш. А мяне не чапай! Без цябе абыдуся! Без нікога. Што вам усім ад мяне трэба?! Пакіньце мяне ў спакоі! Усе пакіньце!

І ён расплакаўся ды павярнуўся да Алесі плячыма. Дзяўчыне нічога не заставалася, як зачыніць дзверы палаты з вонкавага боку. Але Дзяніс ні на хвіліну не пакідаў яе думкі. На другі дзень студэнтка развярнулася ля дзвярэй свайго ўніверсітэта, села на маршрутку і праз гадзіну зноў завітала ў палату новага знаёмага. Хлопец сядзеў на ложку з новенькім “ноўтбукам” і ў нешта гуляў. Здавалася, быў даволі спакойны і ўраўнаважаны.

– Добры дзень, – пастаралася ўкласці ў голас як мага больш ветлівасці дзяўчына. – Як ты сёння?

– Як і ўчора, – адгукнуўся юнак, адклаў у бок кампутар і павярнуўся тварам да Алесі. – Толькі ты не прыходзь да мяне. Не трэба. Ідзі суцяшаць маленькіх. Я мужчына. Я са сваімі праблемамі спраўлюся сам. Мне нічыя дапамога і нічые спачуванні непатрэбныя. І ніхто мне непатрэбны. Я сам па сабе. Абыдуся без іншых.

– Добра, – пагадзілася дзяўчына. – Я толькі на хвіліну зазірнула, каб прывітацца. Ну, я пайшла.

У суседняй палаце Алеся спыталася пра Дзяніса. Гэта быў мінскі хлопец. Выдатнік, спартовец. Можна сказаць – гонар школы і надзея бацькоў. Бацькі ў яго заможныя і ўплывовыя. Бацька – палкоўнік міліцыі. Маці займае высокую пасаду ў нейкім выканкаме Мінска. Хлопец з дзяцінства

ні ў чым не меў патрэбы. Як сыр у масле качаўся. Але тры гады таму здарылася бяда. Дактары паставілі страшны дыягназ. Злаякасная пухліна. Па-народнаму – рак. Недзе ў назе. Тры гады лячэння нічога не далі. Хвароба то суцішвалася, то зноў абвастралася. Каб паспрабаваць ўратаваць жыццё, заставалася толькі адно выйсце. Ампутацыя нагі. Алеся зразумела ўвесь адчай маладога хлопца. Увесь яго боль, усе яго думкі перайшлі да яе. Не зайсці яшчэ раз да яго ў палату яна не змагла.

– Я зноў на хвілінку. Толькі развітацца. Я так заўсёды раблю, – пачала апраўдвацца яна.

– Ну што, усё пра мяне распытала? – буркнуў юнак. – Цяпер ты больш да мяне не зойдзеш. Асабліва пасля аперацыі. Каму цікава сябраваць з бязногім калекам.

– У чалавека не гэта галоўнае, – не пагадзілася дзяўчына.

– А што? – здзекліва спытаў юнак.

– Напэўна, яго чалавечае "Я". Чалавек не жывёла. Калі ногі адрэзаць сабаку, то той будзе карацейшы на цэлыя ногі. А калі адрэзаць ногі чалавеку, то яго "Я" меншым ад гэтага не стане. Ды і чалавечае шчасце залежыць далёка не ад фізічных формаў.

– Дык можа ты, у такім разе, сабе мужа будзеш шукаць бязногага?! І будзеш з ім шчаслівая?! – зноў перайшоў на крык юнак.

– Хіба што адмыслова шукаць такога не буду. Але калі так станецца, то гэта не паўплывае на мой выбар.

– Гэта няпраўда, – з такой крыўдай у голасе прастагнаў Дзяніс, што Качура ледзь не самлела.

Сапраўды, яна фальшывіла. І хворы гэта адчуў. Адчуў глыбіннымі фібрамі сваёй спакутаванай душы. У Алесіных марах яе муж – прыгожы, разумны, чулы, добры, моцны мужчына без фізічных заганаў. Яна хлусіла.

– Ты лжэш, – працягваў настойваць юнак. – Лепш будзе, калі я памру падчас аперацыі, чым так жыць далей, – голас яго задрыжаў. – Каб не бацькі, я ні за што не дазволіў бы мяне рэзаць. Пажыў бы з нагамі, пакуль не памру. А так і нагу адрэжуць, і ніякіх гарантый няма, што хвароба не пойдзе далей. Усё адно памру! Толькі без ног! Ды яшчэ рэзаць мяне будуць. На які чорт мне гэта ўсё трэба!

З вялікіх Дзянісавых вачэй пацяклі слёзы. Пацяклі – не тое слова. Паліліся Ніягарскім вадаспадам па яго шчоках, па шыі, па грудзях і па Алесіным сэрцы. Яна ў гэты момант так разгубілася, што не ведала, як ёй быць. Пачынаць супакойваць – не атрымаецца. Сама разравецца так, што ніхто не супакоіць. Добра, што дзверы ў палату адчыніліся і зайшлі Дзянісавы бацькі. Гэта дало мажлівасць дзяўчыне ціха пакінуць пакой.

На наступны дзень Дзяніс быў даволі ветлівым. У яго з'явілася нейкая, незразумелая цікавасць да Алесі. Ён стаў цешыцца з яе прыходаў і нават змяніўся знешне. Павесялеў, пасвяжэў, твар пасвятлеў, вочы ажылі, заблішчэлі. Хлопец з нецярпеннем штодня чакаў прыходу дзяўчыны. Яны разам гулялі ля шпіталю, хадзілі ў лес. Аднойчы паехалі ў Мінск у МакДональдс. Дзянісу было вельмі добра з Алесяй, утульна неяк, спакойна. Яна таксама прызвычаілася да свайго "кавалера". Хоць Дзяніс на пяць гадоў быў малодшы ад яе, але з гэтым вельмі высокім шыракаплечым юнаком, яна, маленькая, шчупленькая дзяўчынка, выглядала як школьніца. Як пстрычка. І таксама адчувала сябе неяк бяспечна, абаронена, цёпла.

Калі пасля аналізаў і праверак Дзяніса на нейкі час адпускалі дахаты да наступнага прыезду, яна хадзіла да яго дамоў. Яны прагульваліся па мінскіх вячэрніх вуліцах, размаўлялі, весяліліся.

Дзяніс вельмі прызвычаіўся да Алесі. Іншая справа – яго бацькі. Бацька адразу разгледзеў у Качуры апазіцыянерку. Ды і цяжкасці не было разгледзець. Адзін значок чаго значыў. Ён нават перастаў з ёй вітацца. Намаўляў і сына, каб той не звязваўся з гэтымі, як ён іх назваў, “адмарозкамі”. А Дзянісава маці, як убачыла на сумачцы дзяўчыны бел-чырвона-белую стужку і пачула з яе вуснаў беларускую мову, некалькі дзён не магла выйсці са стану істэрыі. Ды пайсці супраць жаданняў хворага дзіцяці бацькі не адважыліся і паступова змірыліся з візітамі Алесі. Неяк прапаноўвалі заплаціць ёй грошы. Ды дзяўчо ветліва адмовілася ад падачаў. Тыя шчыра замаркоціліся, але ацанілі гонар дзяўчыны. І падарылі ёй на дзень нараджэння неверагодна дарагі (у яе ўяўленні) мабільны тэлефон. Яе першы мабільны тэлефон. Ім прыходзілася праз сілу яе цярпець. Бо з сынам пасля пастаўленага дыягназу адносіны сапсаваліся цалкам. Той невядома з чаго вінаваціў ва ўсім бацькоў. Агрызаўся, сварыўся, нават крычаў на іх. Аніводнага нармальнага слова ў адрас бацькоў не казаў. Добра, што хоць падпарадкаваўся легчы на аперацыю. А яны цярпелі. Што зробіш. Адзіны сын, ды яшчэ з такім страшным дыягназам. Ды і ўзрост такі. Усё адно на адно наклалася. Нарабілася так, што сцэнарыст фільмаў жахаў не прыдумае.

***

Неўзабаве надышоў і дзень аперацыі. І дзень заліку таксама. Які ўдар лёсу! Подлы такі, з-за вугла і ў плечы. Тут разгублены і збянтэжаны Дзяніс, яго глыбокія напалоханыя вочы, яго заплаканыя і знерваваныя бацькі. Там непрачытаная кніжка, Ігар Пятровіч і яго абяцанні выгнаць Алесю з вучобы. Як той час хутка праляцеў! Яна ж збіралася ўсё вывучыць. Каб даказаць Зануду, што яна можа ведаць усё, нават прапусціўшы заняткі. Але не атрымалася. Што цяпер будзе? Галоўнае – не нервавацца, а ўсё добра распланаваць. Яшчэ застаецца шанец паспець усюды. А там, можа, пашанцуе яшчэ раз. Можа, білет трапіць даволі лёгкі. Хто яго ведае. Галоўнае, што “Мерсэдэс” нясецца, як вецер.

Бараўляны наблізіліся хутка. Алеся на паперцы напісала кіроўцу нейкія лічбы, якія толькі прыйшлі ў галаву, і выдала іх за свой тэлефон.

– Хвілінку, – хапіў той яе за руку з выглядам чалавека, які мае багаты вопыт такіх падманаў. – Паглядзім, што ты мне падсунула. – І другой рукой набраў той нумар на сваім мабільным.

Тэлефонны аўтаадказнік пацвердзіў яго падазрэнні, што такога нумару не існуе.

– Ты што, мяне за дурня трымаеш? – гнеўна працэдзіў мужчына скрозь зубы.

– Адчапіся, прыдурак, – Алеся вырвала сваю руку з палону яго далоні і кінулася з машыны прэч.

– Я цябе яшчэ злаўлю, – рыкнуў той наўздагон, але дзяўчына ўжо куляй неслася па прыступках да будынка.

Вось і шпіталь. Чаму так доўга не едзе ліфт? Хто яго трымае? Ну і чорт з ім! Уверх, па сходах. Вось так. Праз пяць прыступак адразу. Ну вось і яго палата. Ля палаты – заплаканая Дзянісава маці.

– Што з ім?! – устрывожана спытала студэнтка.

– Усё добра, – не перастаючы плакаць, абняла тая Алесю. – Толькі ты туды не заходзь. Ён нікога не хоча бачыць. Яму баліць. Ён крычыць на ўсіх. Не пускае да сябе нават дактароў.

– Галоўнае, што ўсё скончылася, – уздыхнула дзяўчына. – Але я на хвілінку зазірну. Я хутка змушана буду пайсці. У мяне залік. Божа мой! Ён хутка пачнецца! Я зараз.

Алеся ціхенька прыадчыніла дзверы і мышанём прасунулася ў палату. Дзяніс ляжаў з заплюшчанымі вачамі і цяжка дыхаў. Было бачна, што пад накінутай аж па горла бальнічнай коўдрай няма адной нагі. Твар у хлопца быў белы, як папера. Алеся толькі зараз заўважыла, як з гэтых бледных шчок, на якіх адбіліся фізічныя і духоўныя пакуты, прабіваецца першы мужчынскі пух. Ёй нават прыйшла ў галаву думка падарыць Дзянісу станок для галення. Яму хіба спадабаецца.

– Ты прыйшла, – прастагнаў юнак, не расплюшчваючы вачэй. – Я ведаў, што ты прыйдзеш. Я чакаў цябе.

– Ты адпачывай. Я на хвілінку. Табе трэба спакой. Не хачу цябе турбаваць, – сфальшывіла яна Дзянісу другі раз. І напалохалася гэтага. Пасля дадала: – Заўтра я прыйду на цэлы дзень.

– Пасядзі са мной цяпер, – аслабелым голасам папрасіў хлопец.

– Як хочаш. Я пасяджу з табой. Пасяджу столькі, колькі табе будзе трэба.

Яна ўзяла крэсла і падсунула яго бліжэй да ложка.

– Раскажы мне што-небудзь, – папрасіў хворы і расплюшчыў вочы.

Алеся здзівілася. У вялікіх прыгожых вачах Дзяніса болю, які раздзіраў душу, не было. Нейкі іншы боль быў. Фізічны. На шчоках, на вуснах, на лбе і нават на павеках. Але не ў вачах. Не на самым іх дне.

– Я не ведаю, што табе расказаць, – усміхнулася яна ў адказ. – А хочаш, я табе пачытаю? У мяне тут выпадкова кніжка з сабой, гары яна агнём. Называецца “Чалавек. Грамадства. Дзяржава.” Пачытаць?

– Пачытай.

– Ну, слухай. З чаго толькі пачаць? Вось. “Згодна з рыгарыстычнымі суровымі поглядамі Канта (з пункту гледжання прынцыпаў рыгарызму, маральныя паводзіны вызначаюцца выключна абавязкам), да маральных учынкаў не павінен прымешвацца ні пэўны інтарэс, ні схільнасць, ні сімпатыя, ні задавальненне. Чалавек для Канта – заўсёды мэта, ён валодае маральнай самакаштоўнасцю. Нельга зніжаць адносіны да чалавека да роўню рэчы або сродку для дасягнення мэты. Чалавек – вышэйшая каштоўнасць і мэта”. Ну што, падабаецца?

– Так.

– Ну то слухай яшчэ. “Чалавек ёсць адзінай істотай, якая дзейнічае паводле “унутранай мэты”. Яго імкненне да ідэалу бязмежнае і бясконцае. Маральны ідэал, ідэальны вобраз, найвышэйшая нязздзейсненая маральная мэта вызначае спосаб мыслення і дзейнасці чалавека або грамадскай групы”.

– Гэта ў цябе ва ўніверсітэце такія разумныя рэчы вывучаюць? – перабіў яе юнак.

– Так. А што, сапраўды падабаецца?

– Падабаецца. Я, як закончу школу, менавіта туды пайду вучыцца. На твой факультэт. Пачытай што яшчэ.

– Добра. Хочаш пра сувязь маралі і рэлігіі? Слухай. Ёсць тры вялікія сусветныя рэлігіі: будызм, хрысціянства ды іслам.

– Будызм – гэта дзе перасяленне душ? Я б вельмі хацеў, каб у наступным жыцці я нарадзіўся старэйшым за цябе і здаровым. Тады ты мела б такога хлопца, пра якога марыш.

– Дурненькі, у цябе яшчэ гэтае жыццё наперадзе. І будзе яно шчаслівым. Хоць той жа будызм сцвярджае, што галоўная ісціна – гэта ісціна пакуты. Жыццё дадзена для пакут. Але каб наступнае было лепшым, трэба перамяніцца ў гэтым жыцці. Бо наступнае жыццё вызначаецца сумарным вынікам думак, словаў і дзеянняў чалавека. Таму ты мусіш памірыцца з бацькамі і папрасіць у іх прабачэння за свае неабдуманыя паводзіны. Ведаеш, як ім крыўдна. Яны ўсё дзеля цябе робяць. І нашая, хрысціянская рэлігія, таксама настойвае на гэтым. Ёсць нават запавет, які абавязвае любіць бацьку і маці, а твае непаважлівыя паводзіны ў дачыненні да іх кваліфікуе як грэх.

– Добра, памірuся. А ведаеш, мне казалі, што зараз вельмі добрыя пратэзы за мяжой робяць. Зусім незаўважна, што не свая нага. Мне бацька купіць такі. Шкада толькі, што, як я паступлю ў універсітэт, ты яго ўжо скончыш. Я скажу бацьку, у яго сувязі, ён знойдзе табе працу ў Мінску.

Алеся хацела кіўнуць у знак згоды галавой, але не змагла. Не. Больш яна не будзе фальшывіць і падманваць гэтага хлопца, які толькі што ў нешта паверыў. Паверыў ёй, бацькам, жыццю... Паверыў у сябе.

– На жаль, я не змагу скарыстацца з дабрыні твайго бацькі, – сумна ўздыхнула яна. – У мяне на вёсцы засталася старэнькая матуля. Яе трэба даглядаць. Таму ў лепшым разе я пайду працаваць псіхолагам у якую-небудзь вясковую школу на Ашмяншчыне ці ў дзіцячы садок. А ў горшым – мяне заўтра выганяць з універсітэту.

– Знайшла праблему, – здзівіўся Дзяніс. – Я скажу бацьку, і табе адразу выдадуць дыплом. А пасля ён забярэ тваю маму да нас у другую кватэру. Усё адно там ніхто не жыве. Будзеш яе тут даглядаць.

Алесі стала вельмі весела. Ледзь не засмяялася. Як добра быць багатым! Тыя праблемы, якія табе здаюцца неразвязальнымі, вырашаюцца імгненна. А яна, з-за сваёй беднаты, нават думаць так не ўмее. Ёй і ў галаву не прыходзіла, што неабавязкова ехаць да маці, а можна ўзяць яе да сябе.

Дзяўчына хацела нешта сказаць, але словы застылі на вуснах. Дзяніс заснуў. На гэты раз спакойным здаровым сном. У палаце было так ціха, што Алесі здалося, нібыта яна чуе гук ад кропель у кропельніцы.

Яна ціхенька паднялася і выйшла з палаты. Было сем гадзінаў вечара. Яе аднакурснікі хіба ўжо ўсе здалі залік, а яна нават не прыйшла. Цяпер з вучобай ўсё скончана. Што ёй сказаць сваёй маці і што рабіць далей?

– Як ён? – спытала маці Дзяніса.

– Спіць.

– Я ведаю. Я чула вашу размову. Ты не хвалюйся. Сяргей Іванавіч, муж мой, пагаворыць з Клімко – і ўсё будзе добра. Ён яго добра ведае. Сустракаюцца, каб абмеркаваць вашы дзеянні. Я маю на ўвазе апазіцыянераў, – сказала жанчына ні то асуджальным тонам, ні то голасам чалавека, які просіць прабачэння і сам не ведае за што.

– А хто такі Клімко?

– Як хто. Твой выкладчык. Што залік сёння прымаў.

– А, Зануда. Сапраўды ён Клімко. Я і забылася, што ён Клімко, – за-

думенна прашаптала Алеся. – Ну, я пайду. Мне трэба. Я прыйду заўтра. Да пабачэння.

Дзяўчына выйшла на вуліцу. Упершыню за апошні час не было куды спяшацца. Павольнымі крокамі, падкідваючы нагамі жоўтае лісце, яна няспешна рухалася ў бок прыпынку. Вецер пяшчотна гуляў з яе валасамі, заігрываў, задзіраючы крыло плашча. Два маладыя хлопцы, якія праходзілі побач, паспрабавалі з ёй пазнаёміцца. Але яна не зразумела, чаго яны хочуць, і моўчкі, паглыбленая ў свае думкі, працягвала няспешна крочыць наперад.

“Якая цёплая восень, – падумала Алеся. – Можа, дзе сесці, пацешыць вока цудамі прыроды. Падыхаць яе пахамі. Шкада толькі, што на залік не паспела. Што цяпер будзе? О, Божа! Але ж я не магла кінуць гэтага хлопца. Не магла. Гэта вышэй за мае сілы. Галоўнае, што ён вярнуўся да жыцця. А можа і добра, што я не патрапіла на залік. Яшчэ горш было б, каб прыйшла. Узлавала б Зануду да апошняга нерва. Ён тады крычаў бы, што ўсе апазіцыянеры такія бязмозглыя. Я ж нічога не прачытала, нічога не ведаю. Не змагла б адказаць на прасцейшыя пытанні. Ні што такое абавязак, ні што такое адказнасць, ні пра сумленне, ні пра маральнасць – ні пра што. Няўжо Зануда не дасць мне яшчэ адзін шанец? Не можа быць, каб не даў! Чалавек, які так шмат размаўляе фразамі тыпу “катэгарычны імператыў маральнасці” ці “сутнасць разумнага самаабмежавання” не можа з ёй так па-свінску абысціся. Павінен жа ён зразумець, што ў яе таксама можа быць асабістае жыццё, свае праблемы, напружаны перыяд. Ён абавязкова зразумее і пойдзе насустрач. Асабліва, калі бацька Дзяніса паразмаўляе з ім. Хоць наўрад ці паразмаўляе. Ён жа мяне ненавідзіць за тое, што я апазіцыянерка. У яго работа такая – душыць такіх, як я. Як і ў таго Зануды. А можа...”

І тут дзяўчына адчула, што ў яе душу засялілася яшчэ адно пачуццё, якога яна ніколі раней не зведвала. Моцнае пачуццё ўпэўненасці, што будзе так, як ёй вельмі хочацца. Такое пачуццё, якое калі і захочаш знішчыць сумневамі, то ўсё адно не зможаш. На душы стала надзвычай спакойна і камфортна, нібы нейкая вышэйшая сіла ўсялілася ў яе і паведаміла праз падсвядомасць: “Нічога не бойся!”

Алеся села ў маршрутны мікрааўтобус і прытулілася шчакой да шкла. Ноч ужо заявіла пра свае правы. Сустрэчныя машыны ехалі з уключанымі фарамі. Магнітола ў бусіку раўла нейкую папсовую расейскую песню. Кіроўца насвістваў зусім іншы блатны матыўчык. У дамах гарэла святло. Мільгалі блакітнымі агеньчыкамі тэлевізары, з экранаў якіх дыктары расказвалі пра паездку прэзідэнта ў чарнобыльскую зону, пра вайну ў Іраку, пра чарговы тэракт і чарговыя ахвяры... Рэклама выхваляла нейкія прадукты...

На вуліцы хтосьці раздаваў мінакам буклеты. Нейкая група моладзі з адкаркаванымі бутэлькамі піва іграла на прыпынку на гітарах. Толькі Алеся гэтага ўжо не чула. Яна спала.



Эдуард Дубянецкі




...трымайся, зорачка,
не падай і свяці...

# Беларуская планіда

## *ЗНЯДУЖАНЫ ВЕЧАР*

Знядужаны маўклівы вечар,
паклаўшы
ў свой вялізны заплечнік
усе самыя яркія фарбы
і пахі дня,
і зняўшы з неба
згасаючы сонечны каганец,
кладзецца спаць
на чыстую пасцель
сваёй каханкі
чорнабровай – ночы...

## *РАНАК-ВАЛАЦУГА*

Ціхенька ранак
коткай паўзе
ў маю хату.

Разгортваецца,
бы папірус, на сцяне
дзівосны сонечны малюнак –
ад каго
такі мне
незвычайны падарунак?!.

...Злятае з вейкаў сонная напруга –
што ж,
прывітанне,
ранак-валацуга!

## *ЗРУЙНАВАНАЯ ПРАСТОРА ДУХУ*

Зруйнаваная
прастора Духу...

Я цішыню яе бяздушша
не парушу.

Дай моцы, Божа,
вырвацца з яе!

Сваіх мне сілаў
болей
не стае...

## *АДСУТНАСЦЬ*

Адсутнасць тваіх слоў,
дыхання.

Бяссонне – з ночы
і да рання.

І сэрца –
на крыжы расстання...

## *БАЛІЦЬ...*

Душа мая
Птушкай ляціць
Над морам жыцця ў вышыні.
А сэрца баліць і баліць
Ад здрады, падману, хлусні...

## САНЕТ ПРА ПАЛЁТ ДУШЫ ПАЭТА Ў ДЗІВОСНЫ КРАЙ

Туды, дзе мора сінім аметыстам
Ляжыць ля прыбярэжных шэрых скал,
І дзе апошні хваль марскіх прычал,
І вецер дзе гуляе ў небе чыстым,

І забаўляе хмаркі сваім свістам
Лагодным і ледзь чутным; дзе карал
Блішчыць ў вадзе, бы сонца, і дзе шквал
Шалёны гойсае зрэдчас па камяністым

Сцяжынам горным, – вось туды, туды
Ляціць душа паэта птушкай вольнай,
Шукаючы паўсюль твае сляды,

І ўжо у роспачы крычыць табе – свавольнай:
"Дзе ж ты, каханая, прашу-малю – скажы!"
Маўчанне. І ў душы боль ранай незагойнай...

## БЕЛАРУСКАЯ ПЛАНІДА

О, Беларусь – ты зорка шматпакутная,
Бо столькі зелля ты ўжо выпіла атрутнага,
Прыгатаванага з нянавісці, маны
(Яго далі табе вар'яты-ўладары!).

Так, табе цяжка, зорачка, і крыўдна,
І плачаш ад бяссілля ты ўначы.

Але ж ты вер,
што калісь замест зелля
Нап'ешся ўдосталь ты жывой вады,
Адужаеш, ўсміхнешся,
Ну а пакуль
Трымайся, зорачка,
Не падай і свяці!...

## СПЯШАЕЦЦА...

Душа мая – горны ручай,
Што змейкай бяжыць ўніз,
Спяшаецца...
Бяжыць,
І урэшце ўліваецца
Ў рачулку пад назвай – Адчай...

## *НЕ СПЯЦЬ…*

Самота мая не спіць – працуе! –
Атручвае крозы ў душы...

І радасць мая не спіць – святкуе! –
Дзень ўцёкаў тырана-нуды...

Самота і радасць не спяць, не спяць
Каторы ўжо дзень і год...

Стаміўся я,
Але
Калі б спалі яны, –
Не меў бы я
столькі ў жыцці
Вясёлых і сумных прыгод...

## *ЧАЛАВЕК*

Душа – ледзь бачны след каметы.
А грэх твой цвёрды, бы гарэх.
У нетрах суму дрэмле смех.
Ты – радасць і праклён планеты!

Алесь Усеня



...чалавек прыходзіць у гэты свет
не пры нараджэнні, а ў той момант,
які ўпершыню зафіксавала ягоная памяць...

# Мой лістапад...

***Неяк я спытаўся ў паэта Сяргея Законнікава:***

***— А чаму б вам не напісаць успаміны? Пагартайце любы часопіс: хто толькі ні згадвае “пра сваё басаногае дзяцінства” і “творчыя дасягненні!” А ў Вас жа сапраўды багатая на падзеі, прычым, агульнадзяржаўнага значэння, біяграфія...***

***Сяргей Іванавіч трохі падумаў і нейкім прыглушана-таемным голасам мовіў:***

***— Ведаеш, сярод пісьменнікаў бытуе такая думка: як толькі ты напішаш свае ўспаміны, дык амаль адразу і памрэш. Вось, напрыклад, мой сябар Болтач...***

***Валянцін Болтач (друкаваўся пад псеўданімам Блакіт) сапраўды памёр неўзабаве пасля таго, як апублікаваў успаміны ў часопісе “Дзеяслоў”.***

***Аргумент Сяргея Законнікава на першым часе мяне пераканаў. Аднак душу грыз чарвяк сумневу: ну не можа быць сувязі-повязі паміж напісаннем успамінаў і смерцю. Паспрабаваў знайсці такую заканамернасць на прыкладах памерлых літаратараў і... не знайшоў. Проста зусім нямногія беларускія пісьменнікі пакінулі***

***пасля сябе ўспаміны! Чаму? А можа, яны, як і Сяргей Законнікаў, асцераганіся: напішаш — памрэш? Апублікаваў жа, напрыклад, Васіль Быкаў сваю аўтабіяграфічную "Доўгую дарогу дадому", і кніга стала ягоным апошнім прыжыццёвым выданнем...***

***Калі тэорыю нельга пацвердзіць дастатковай практыкай, дык я на свой страх і рызыку вырашыў зрабіць эксперымент на сабе. Напэўна, мала каго зацікавяць нататкі пра маё жыццё: адно што пражыў ўсяго пяцьдзясят з невялікім хвосцікам, а другое — не такая ўжо я выбітная асоба, каб выклікаць у кагосьці інтарэс.***

***Аднак я ўсё ж зраблю спробу выкласці нешта на паперу. Па-першае, любы чалавек цікавы сам па сабе (нездарма кажуць: кожная асоба — гэта цэлы свет). Па-другое, у мяне ёсць дочкі, унукі, спадзяюся, будуць і праўнукі. Дык няхай хоць яны прачытаюць, што быў у іх такі продак, нешта рабіў, пра штосьці думаў...***

***Мае запісы — не зусім успаміны ў традыцыйным сэнсе, хоць пасля напісання я спрабую прыдаць ім нейкую храналогію. Чалавечая памяць непрадказальная. То яна выхапіць яркі фрагмент з дзяцінства, то азорыць зусім нядаўні эпізод жыцця. Так і ў мяне. Таму я не буду сядзець, як корч, за сталом і высмоктваць з пальца гэтыя фрагменты. Падкажа памяць — запішу, а не — дык, мусіць, так і трэба, бо не гэтак важна...***

## Боль

Мой самы ранні ўспамін пра сябе, як жывую істоту...

Я нават не ўсведамляю, у якім гэта было ўзросце. Мусіць, у гадавалым, бо ўпершыню дзяцей падстрыгаюць тады.

Раней маіх старэйшых братоў і сястру бацька падстрыгаў нажніцамі. А тут ці недзе пазычыў, ці купіў "машынку". Цяпер такую не ўбачыш, хіба што ў даўнішнім кінафільме, дзе паказваюць, як гэты "агрэгат", нібы камбайн на жытнёвым полі, паласуе галовы салдатаў-навабранцаў.

Бацька карыстаецца гэтай "машынкай" упершыню, таму валасы з маёй галавы вырываюцца купінамі, як з глебы лён. Я брыкаюся і крычу, бо мне вельмі балюча.

На самой справе чалавек прыходзіць у гэты свет не пры нараджэнні, а ў той момант, які ўпершыню зафіксавала ягоная памяць. Звычайна свядомасць абуджаецца болем. Як правіла, у апошнія хвіліны жыцця з болем яна нас і пакідае.

## Апілкі

У суседа цераз чатыры хаты, майго аднагодкі Мішкі (ён ужо, як і бацька, мае мянушку Муха) ёсць цацачны грузавічок. У мяне ніякіх цацак увогуле няма. Але Муха часам дае мне пацягаць гэтую машынку за вяровачку.

Сёння ў нас ёсць што загружаць у кузаў, не толькі пясок. Нашыя бацькі ў адзін дзень парэзалі дровы, на зямлі засталіся апілкі. Спачатку мы забаўляліся каля майго двара. Бацька і старэйшы брат рэзалі дровы двуручнай пілой, таму апілак тут вельмі мала — і на два "рэйсы" не награбеш. Муха пазірае на мяне пагардліва, з насмешкай:

— Пайслі ка мне.

І сапраўды, каля Мухавага двара апілак цэлая гара. Ягоны бацька лічыцца багатым, працуе ў калгасе шафёрам, таму змог наняць нейкага

дзядзьку з бензапілой. Апілкі буйныя і светла-жоўтыя, як няспелыя кукурузныя зярняткі. Вазіць іх нам не перавазіць!

Я вельмі злую і крыўдую на свайго бацьку за тое, што ён пілаваў дровы двуручкай.

Гэта потым зразумею: чым менш апілак, тым цяжэй яны даюцца...

## Карысць навукі

Мне чатыры гады. Старэйшы брат Міша ўжо вучыцца ў школе, ведае літары і па вечарах спрабуе чытаць па складах. Я сяджу побач і паўтараю за ім услед.

Праз некалькі тыдняў Міша ўсе яшчэ "бэкае-мэкае", а я ўжо чытаю бегла.

Бацькі не нарадуюцца, суседзі ідуць падзівіцца. Наведвае і старшыня калгаса. Дае мне нейкую газету (бо думае, што ў кніжцы я нешта вывучыў на памяць):

— Чытай.

У газеце дробны шрыфт, але зрок у мяне востры, і я "шпару" пра "вядучую ролю камуністычнай партыі" і "высокія надоі". Узрушаны старшыня садзіць мяне ў свой "козлік" і робіць круг вакол вёскі — гэта мая ўзнагарода.

Калі прыязджае раённае ці абласное начальства, старшыня абавязкова вязе яго да мяне, каб падзівіліся на "вундэркінда". Я чытаю тэксты, і за гэта мяне па завядзёнцы катаюць па ваколіцах вёскі. "Пакатацца на машынцы" — для мяне найвялікшае шчасце. І я раблю выснову: навука прыносіць карысць. Хай сабе і такую.

## Шкода навукі

Разам з аднагодкамі ў школу мяне не бяруць, бо 1 верасня да сямі гадоў не хапае двух месяцаў.

— Ды яго трэба адразу ў трэці клас! — даводзяць дырэктару школы бацькі.

Дырэктар стаіць на сваім: нельга — значыць, нельга. Да таго ж першы клас перапоўнены (вёска яшчэ шматлюдная, шматгалосая). Так што ў школу трапляю толькі праз год.

Дзеці запамінаюць літары, спрабуюць чытаць па складах. Для мяне гэта даўно пройдзены этап, я ўжо наведваю бібліятэку і "бэкаць" не хачу.

Настаўніца злуе:

— Чытай па складах, як усе!

Я ўпарчуся, за што атрымліваю двойкі.

Тое ж і з пісьмом. Настаўніца патрабуе выводзіць палачкі і кручкі, а я ўжо ўмею пісаць літары. Гэтыя палачкі я стаўлю спехам, за адну хвіліну, таму яны пахілыя ці крывыя. І настаўніца зноў ставіць мне двойкі.

Бацька не задаволены, гатовы ўзяцца за рэмень, і я раблю другую выснову: навука прыносіць шкоду.

## Першыя радкі

Нарэшце аднакласнікі "падцягнуліся" да мяне, хто-ніхто чытае досыць умела, і я ўжо ўпісваюся ў рамкі школьнай праграмы. Настаўніца ўпершыню

ставіць мне пяцёрку. Шчасце маё настолькі вялікае, што па дарозе дадому нараджаецца верш. Памятаю толькі два апошнія радкі:

А калі вярталіся са школы,
Усе радасныя мы былі.

Калі чалавек шчаслівы, дык яму здаецца, што шчаслівыя ўсе навокал.

### “Карэспандэнт“

Некалькі “вершыкаў” накрэмзаў яшчэ. Другі старэйшы брат, Федзя, які ўжо вучыцца ў чацвёртым класе, кажа, што гэта не вершыкі, бо ў іх няма рытма і рыфмы. Ён тлумачыць мне, што гэта такое, і я “творча перапрацоўваю” сваю пісаніну.

Дасылаю яе ў газету “Піянер Беларусі”. Пры гэтым не ўказваю, што вучуся ў першым класе. Праз два тыдні атрымліваю адказ: “Вашы вершы недасканалыя ў мастацкіх адносінах...” Я вельмі крыўджуся на газету і, назло ёй, вырашаю: “Пісаць болей не буду!”

Адказ з газеты напісаны на каляровым фірмовым бланку, усе сваякі круцяць яго ў руках, любуюцца, на тэкст ніхто ўвагі не звяртае. Мяне пачынаюць называць “карэспандэнтам”.

У час застолля ці проста на падпітку дарослыя мужыкі даюць мне парады:

— От напісаў бы ты ў газету, што ў кароўніку стойлы не саломай падсцілаюць, а пясочкам, — кажа мой дзед Павел.

— А яшчэ пра тое, што ў буртах бульба згніла, а ў копах лён сапрэў, — падхоплівае дзядзька Адам па мянушцы Шайдула.

Я ўжо ва ўсіх на слыху, і ніхто не згадвае, што ў тым лісце мяне зусім не пахвалілі...

Так я, хоць і падсвядома, засвоіў тое, што абралі сваім дэвізам сучасныя папсовыя спевакі і артысты: усё, што напісана пра цябе ў газетах (няважна, хваляць ці ганяць) — на карысць. Акрамя некралога.

### Пастух

З першых свядомых дзён я — пастух. Спачатку прыстаўлены да чарады гусей, а калі маці пачынае працаваць на ферме, — і да цялят. Гусей у чарадзе з дзясятак. Цэлае лета я цягаюся за імі хвосцікам, віжую, каб не залезлі ў шкоду. Я вывучыў ужо характар кожнага гусяняці, ведаю, якое з іх шкадлівае. Найбольш мне падабаецца гусак — правадыр чарады. Белы, з шэрай аблямоўкай вакол вачэй, малады і дужы, таму заўсёды перамагае ў сутычках гусакоў з іншых чарод. Я гэтым вельмі ганаруся.

(Калі напрыканцы кожнай восені бацька збіраецца скручваць гусям шыі, я на цэлы дзень сыходжу з хаты, каб не чуць іх перадсмяротны енк...)

Змарнелы ад сонца, я драмлю. Абуджаюся ад гусінага крыку. Чарада забрыла ў калгасную бульбу, і малады аграном наладзіў сапраўдную бойню. Гусі ўцякаюць, перабіраючы лапамі картаплянік, некаторыя спрабуюць узляцець, але крылы ў іх перабітыя.

Я кідаюся ў сярэдзіну чарады (пэўна ж, не шпурне аграном кол у дзіця), але і сам атрымліваю насаком пад ср...ку.

Затым я доўга-доўга плачу над белым гусаком, перабіраю пёры на

нерухомых крылах, тулю ягоную галоўку да сваіх грудзей. Па шэрай аблямоўцы вакол вачэй сцякае кроў, якая пэцкае маю сарочку.

Пазней, калі буду губляць блізкіх людзей, я не адчую такога гора, як тады. Дзіцячы боль самы непасрэдны і востры.

## Слодыч

У першым класе я закахаўся ў піянерважатую. Яна прыехала аднекуль здалёк і зусім непадобная да нашых праставатых вясковых дзевак. Нафарбаваныя вусны, ямачкі на шчоках, кароткая і вузенькая спаднічка. Дый імя-прозвішча ў яе не тутэйшыя, прыгожыя, як у кінаактрыс: Ларыса Чайкіна. Пры першай магчымасці я трымаюся бліжэй да піянерважатай, каб патрапіць ёй на вочы: магчыма, і яна мяне ўпадабае. Ларыса, вядома ж, на смаркача не звяртае ўвагі.

Раніцай я, як і звычайна, не хачу ісці ў школу, бо там нецікава і прымушаюць чытаць па складах. Маці выштурхоўвае мяне з двара на вуліцу:

— Ідзі вучыся, гультай!

Якраз у гэтую хвіліну па вуліцы ідзе ў школу Ларыса Чайкіна. Я ведаю, што яна кватаруе ў старой Агапкі на другім канцы нашай вялікай вёскі. А яшчэ ведаю, што да Ларысы заляцаецца інжынер з суседняга калгаса і завуць яго Паўлам. Ён шырокі ў жываце, адрузлы, і я не магу зразумець, што знайшла Ларыса ў гэтым целяпні. Аднак жа кожны вечар яны разам гуляюць за ваколіцай (употайкі сачыў за імі і бачыў, што цалаваліся). Я ненавіджу гэтага Паўла, і мне хочацца зрабіць яму якое-небудзь паскудства.

Маці, згледзеўшы піянерважатую, просіць у яе помачы:

— Вось палюбуйцеся, у школу ісці не хоча! Дык вы ўжо яго як-небудзь...

Ларыса робіць сур'ёзны твар, ад чаго ямачкі на яе шчоках знікаюць, і доўгімі пафарбаванымі пазногцямі дакранаецца да майго вуха.

— Што ж гэта ты, а? — строга пытаецца Ларыса і стараецца зазірнуць мне ў твар.

Я адварочваюся, выкручваюся, таму пазногці піянерважатай сціскаюцца, як абцужкі, і Ларыса за вуха вядзе мяне ў школу.

Якія гэта шчаслівыя хвіліны! Я адчуваю нейкую няўцямную слодыч, хоць ранкі на мочках вушэй загояцца толькі праз тры тыдні. І мне вельмі шкада, што дарога да школы такая кароткая...

## Пажар

Па вуліцы бягуць людзі — хто з вядром, хто з рыдлёўкай. Я нічога не разумею.

— А ты чаго стаіш? — на хаду крычыць мне, сямігадоваму, памочнік ляснічага па мянушцы Шмат. — У Карпея хлеў гарыць!

Бягу разам з усімі, хоць якая з мяне помач?..

Па дарозе даведваюся: у ясны дзень у хлеў дзеда Карпея ўдарыла маланка. Сам стары акурат стаяў каля сячкарні. Маланка прайшла скрозь яго і разарвала гумавы бот. Дзед загінуў, а хлеў загарэўся.

Полымя шугае, як над піянерскім кастром. Вакол мітусяцца мужыкі і бабы, над суседскім калодзежам безупынна скрыпіць "жураваль".

Раптам у людскую гаману ўрываюцца незразумелыя гукі: пук-пук, затым — бабах! Тыя, што стаялі бліжэй да хлява, кідаюцца ўрассыпную.

Чуецца істэрычны крык:

— Гэта ж патроны і гранаты!

Хлеў згарэў датла: стралянiна працягваецца да той пары, пакуль не застаюцца адны асмолкі. Добра, што хоць не занялася хата...

Дзед Карпей у апошнюю вайну быў партызанам. Таму зразумела, адкуль у яго гэты склад боепрыпасаў.

Стала ўжо завядзёнкай: як толькі ў вёсцы памірае былы ваяка, ці ў куратніку, ці пад масніцай ягонай хаты дзеці знаходзяць аўтамат альбо патроны. Вунь і калі мае бацькі прадаюць бабуліну хату, новы гаспадар знаходзіць на страсе прасалідолены і акуратна загорнуты ў анучку пісталет і патроны да яго...

Маё пакаленне — адзінае ў гісторыі краіны, на якое не выпала ніякай вайны. Усім нашым продкам — ад далёкіх прашчураў да бацькоў — давялося бараніць сваю зямлю. Вось і дзед Карпей, і ўсе іншыя былыя ваякі, прыхоўваючы зброю, былі ўпэўнены, што яна яшчэ спатрэбіцца...

## Натоўп

Прачынаюся ад крыку на вуліцы. Выбягаю. Вакол нейкае жывёліны стоўпіліся мужыкі з каламі і дубасяць яе што маюць сілы. Такую істоту я ніколі не бачыў, хіба што ў буквары. Гэта бабёр. Ён чамусьці вялізны, як мядзведзь, а не такі цацачна-пушысты, як на малюнку. Бабёр, выскаляючы свае клыкі, спрабуе аскірзнуцца на мужыкоў, туды-сюды варочае галаву, аднак з месца зрушыцца не можа.

Адкуль ён тут? Да ракі Арэсы, калі напрасткі, кіламетраў дзесяць будзе. Да Любанскага вадасховішча — і таго больш. Што прымусіла звера праз такую далячынь прыйсці да чалавека?

Над гэтым ніхто не задумваецца. Мужыкі месяць і месяць бабра каламі, а калі хто-небудзь трапляе ў галаву, чуецца вокліч:

— Так яму, так!

Дзеці бегаюць вакол, радасна вішчаць ад такой забавы, а мне вельмі шкада бабра, хочацца абараніць яго, спыніць гэты гвалт над жывой істотай. Ды хто ж мяне, смаркача, паслухае?

Нарэшце бабёр, раскінуўшы ўшыркі лапы, заціхае. Мужыкі і дзеці мацаюць ягоныя клыкі, цягаюць за акрываўленую поўсць. І мне так хочацца, каб бабёр хоць на хвіліну ажыў і цапнуў каго-небудзь за руку...

...Пасярэдзіне вёскі ёсць копанка. Усе называюць яе Крыніцай, бо, паводле расказаў старэйшых, у самым глыбокім месцы копанкі з-пад зямлі б’е струмень. Туды заплываць мала хто асмельваецца: лічыцца, што там жыве нячыстая сіла.

У Крыніцы купаемся мы, дзеці, а побач плаваюць гусі і качкі, таму вада жоўта-зялёная, як сітро. Каб спаласнуцца, пад вечар, бывае, сюды прыходзяць і дарослыя.

А ў гэты вечар каля Крыніцы збіраецца ледзь не паўвёскі. Мужыкі і дзеці, абстаўшы берагі, трымаюць у руках каменне і палкі.

Да Крыніцы немаведама чаму прыляцела дзікая качка. І зараз на яе ідзе паляванне. Свойскіх гусей і качак з вады павыганялі, так што вадаём роўны і пустэльны, калі не лічыць рэдкіх карчаг.

Дзікая качка, ратуючыся, нырае ў ваду, яе не відно з паўхвіліны, затым ейная галоўка вытыркаецца ў зусім нечаканым месцы, нават на супрацьлег-

лым беразе. Аднак ёй удаецца схапіць толькі глыток паветра, бо адразу ж у гэтае месца ляцяць каменне і палкі. Качка зноў вымушаная ныраць, і людзі застываюць у напружаным чаканні: дзе ж яна з'явіцца на гэты раз і каму ўдасца яе дабіць?

Гэта падобна на нейкую забаву ці гульню. Гульню ў чужую смерць.

Калі галоўка на імгненне з'яўляецца над паверхняй вады, можна разглядзець, што яна зусім маладая: тоненькая шыйка, пёркі быццам зліпліся на тоненькім целе.

Забава працягваецца з паўгадзіны. Маё дзіцячае сэрца ад жалю абліваецца крывёю. Я азіраюся вакол сябе, каб у хоць у нечых вачах убачыць спагаду. А яе ні ў каго няма (ці, можа, мне так здаецца?). Ва ўсякім разе і дзядзька Рубяжанец, вясёлы, дабрадушны ў жыцці чалавек, трымае ў руках палку, і мой сябар Віцька Канарэйка, які, здавалася, муху не пакрыўдзіць, збірае на беразе каменне.

Нарэшце ўсё заканчваецца. Качка знясільваецца, не паспявае схавацца пад вадой, і нечы ўдала запушчаны кавалак цагліны растлушчвае яе галоўку...

Ужо цямнее, і ўсе разыходзяцца, узрушана абмяркоўваючы падзею. А цельца качкі застаецца лёгка гайдацца на вадзе. Яно нікому не патрэбнае.

Страшная з'ява — натоўп. Варта ў чым-небудзь сэрцы запаліцца іскрынцы жорсткасці, як яна, іскрынка, разгараецца ў полымя і перакідваецца на іншых. І нічога немагчыма перайначыць.

## Грыбы

Мой Старадарожскі раён здаўна славіцца самагонам і грыбнымі мясцінамі. Зямля тут не вельмі, не тое, што на суседняй Случчыне, дзе, кажуць, калі ўваткнеш у глебу кол, дык праз пэўны час на ім вырасце лісцё.

Затое ў нас шмат лясоў. Дубовых, хваёвых, бярозавых, а часцей дык уперамешку. Вёска, дзе я нарадзіўся, называецца Пасека — з націскам на першым складзе. А я мяркую, што трэба ставіць на другім. Яшчэ ў першай палове мінулага тысячагоддзя пасяліліся тут мае прашчуры, пасекшы непралазны лес каля балота. Адсюль і "пасека".

Шмат лесу — шмат грыбоў. Мая галава яшчэ ніжэй за папараць, а я ўжо, босы, тупаю па шышках ці сухім імху, шукаю грыбы. Грыбамі вяскоўцы называюць толькі баравікі. Усе астатнія — казлякі, і на іх ніхто не звяртае ўвагі.

Па грыбы я хаджу тройчы на дзень. Першы раз — "на ранкі". Маці будзіць дзяцей у чатыры гадзіны раніцы, і мы з бацькам шыбуем у зусім блізкі хвойнік. Аднак нас апярэдзілі. Паміж сосен амаль што ў цемры ўжо блукаюць людзі, падсвечваючы сабе ліхтарыкамі.

Другім разам я, паснедаўшы, іду ў лес ужо адзін: бацьку трэба на працу, старэйшым братам і сястры — у школу, а маці перабірае нашую ранішнюю здабычу. Дзіўна, але я не баюся ні ваўкоў, ні дзікоў, мусіць, таму, што ніколі іх не бачыў. Хаджу я далёка, на Шушараўскія гаі, бо ў блізкім лесе ўсё павыграбалі за раніцу.

Калі дзень на зыходзе, бацька запрагае каня. На калёсах — скрыня, у якой звычайна возяць бульбу. Мы ўсёй сям'ёй (гэтым разам і маці) едзем у лес яшчэ глыбей. Бацька прывязвае каня да сухастоіны, а мы разыходзімся абапал дарогі з кашалямі, зносім і напаўняем грыбамі скрыню.

Да позняй ночы чысцім, перабіраем, натыкаем на нізкі. Іх з дроту не хапае, таму бацька нарабіў драўляных. Хоць грыбы ў агульнай кучы, кожны “свой” я памятаю. А іх у мяне за дзень — некалькі соцень. Бывае, што і тысяча набіраецца.

Каб высушыць грыбы, печы і грубкі, што ў стопцы, мала, таму рэшткі мы нясём да бабы Каці. Праўда, і там звычайна “ўсё забіта”: баба Каця і дзед Павел таксама на прызбе не сядзяць...

Калі грыбны сезон сыходзіць, у лесе з’яўляюцца зялёнкі і подзеленкі. Гэтыя грыбы ў вёсцы таксама паважаюць, бо іх можна заквасіць на зіму. У нашай стопцы амаль да вясны стаіць агромністая дзежка, якая нас корміць, гэтак жа, як карова і парсюк (у дзяцінстве толькі і наедку — грыбы, малако ды сала).

Сушаныя грыбы бацька сартуе на маладыя (шляпка ў іх белая спадыспаду) і старыя, пачарнелыя. Маладыя нарыхтоўчая кантора прымае па дзесяць рублёў за кілаграм, а старыя — усяго па два. Розніца вялікая! Таму сабе, каб зімой кінуць у шчавель ці крышкі, адкладваецца толькі невялічкая кучка старых.

Сушаных грыбоў на здачу — больш за дзесяць мяшкоў з-пад бульбы. Грошай за іх хапае, каб хоць неяк дажыць да наступнага лета...

Калі зрэдку наведваюся ў родныя лясы, дык не веру сваім вачам: знаёмыя сцежкі пазарасталі, грыбоў — за дзень і дзве сотні не набярэш. А слова “казлякі” ніхто з маладых ужо і не ведае. Лісічкі, абабкі, асовікі, маслякі і нават сыраежкі — гэта ўжо таксама грыбы. Куды ўсё падзелася? Адны кажуць, што шматлікія чароды дзікоў грыбніцу парушылі, другія — што лясы пастарэлі...

Для сябе асабіста я знаходжу іншае тлумачэнне. Цяпер, маючы пэўны дабрабыт, я зрэдку выбіраюся ў лес і тое дзеля забавы. А тады, у дзяцінстве, грыбы былі для нашай сям’і сродкам для выжывання. Прырода ўсё размяркоўвае мудра...

## Подлы ўдар

На школьным перапынку немаведама з-за чаго паміж мной і Франіным Віцькам усчынаецца бойка. Віцька ці не лепшы мой сябар, жыве па суседстве, яшчэ летась мы з ім не ў школу бегалі, а разам рабілі буданы ў лесе, рылі норы ў ямах для бульбы. І вось жа з-за нечага сашчапіліся. Я каржакаваты, як гаявік-чарнагаловік, намнога дужэйшы за Віцьку, доўгага і перахлябістага, нібы малады асовік.

Мы валтузімся ў школьным двары, нас абстаюць гэткія ж першакласнікі. Зрэшты, бойка нейкая дзіўная, нетыповая. Спачатку я валю Віцьку на зямлю, саджуся на яго і пытаюся:

— Ну, будзеш яшчэ?

Але біць — не падымаецца рука. Мы разам устаём, Віцька дае мне дзве-тры зубатычыны, і я зноў кідаю яго аб глебу.

— Ды ўрэж ты яму! — раяць гледачы.

А я не магу. І зноў адпускаю. І так — некалькі разоў, пакуль не скончаецца перапынак. У мяне разбітыя губы і заплывае вока, а на Віцьку — ні драпіны. Адчуваю на сабе насмешлівыя позіркі дзяўчынак...

Пасля ўрокаў мы з Віцькам разам ідзем дадому. Ён — паперадзе, я — крыху ззаду. У мяне ўжо няма на яго злосці, адно што вярэдзяць душу

кепікі аднакласнікаў. Я доўга-доўга збіраюся з духам, заплюшчваю вочы і б’ю Віцьку кулаком у вуха. Ззаду. Подла.

Віцька моўчкі паварочваецца, з дакорам пазірае на мяне і, нічога не сказаўшы, ідзе далей...

Потым мне не раз давядзецца ўдзельнічаць у розных бойках, вялікіх і малых, але ўсе яны будуць “чэснымі і высакароднымі”, твар у твар. І іх я амаль не запомню. А вось гэты подлы ўдар, як стрэмка, застанецца ў маім сэрцы да астачы жыцця.

З Франіным Віцькам боек у нас больш не было. Не дажыўшы і да пяцідзесяці, ён памёр ад гарэлкі. І ўжо ніколі не адкажа мне на той удар спадцішка. Так і застануся перад ім вінаватым.

## Бойкі

Усё маё дзяцінства — суцэльныя бойкі. Вёска на вёску. Мы, пасецкія, варагуем з маладзёнамі суседніх Гасціно і Сінягова. Сыходзімся “сценка на сценку”, ладзяцца засады. У ход ідуць калы, ланцугі, каменне. У нашым кагале верхаводзіць Грыша Піліпеня — здаровы, як бугай, старшакласнік. Мы, падшыванцы, бегаем ззаду, “падносім патроны”.

Варажнеча ёсць і ў самой Пасецы. Нешта не падзялілі паміж сабой падлеткі Петрык і Міха, суседзі. А ў вёсцы на трыста двароў амаль што ўсе адзін аднаму радня — Усені ды Каралені. Вось і падзялілася хлапечая гурма на два лагеры. Я з братамі ў Міхавым.

У кожнага лагера — свае астраўкі тэрыторыі. Крый Божа ў адзіночку, выпадкова трапіць на чужую.

З часам варажнеча затухне, сыдзе на нішто, і мы будзем смела хадзіць у Сінягова на танцы.

Няма цяпер тых боек вёска на вёску, Міха заўчасна памёр, а Петрык, адслужыўшы на флоце, застаўся ў Расіі. Дый моладзі цяпер у вёсцы амаль няма.

Тым не менш досыць часта даходзяць да мяне з радзімы непрыемныя чуткі: кагосьці пакалечылі, кагосьці зарэзалі...

І я прыгадваю, што ў тых далёкіх дзіцячых бойках зусім не было ахвяр. Хіба што аднойчы Федзі Шагаеву нехта пырнуў нажом у ср...ку...

## Лазня

Калгасная лазня месціцца на самым ускрайку вёскі, амаль што ў лесе. Драўляная, дзе-нідзе спарахнелая, з двума падслепаватымі акенцамі. Жанкі і мужчыны пачаргова ходзяць сюды штодзень.

У жаночы дзень, зрабіўшы лесам абыходны манеўр, да лазні падбіраюцца абэлтухі-пераросткі і лезуць на гарышча. Мы, жэўжыкі-хвосцікі, — за імі.

У столі ёсць дзірка. Не надта вялікая, можа, на два пальцы. Бэйбусы па чарзе прыстаўляюць да гэтае дзіркі лупэткі і, налюбаваўшыся жаночымі вабносцямі, усклікваюць:

— Ну і фігурка ў вучыцелькі!

— А ў Ганулькі такія цыцкі!..

Нарэшце паназіраць за голымі цёткамі даюць і нам, малым. Не маючы ніякай асалоды ад жывога эратычнага кіно, кожны з нас, тым не меней, адарваўшыся ад дзіркі, пераймаючы большых, пацвярджае:

— Ну і цыцкі!..

Гэтым летам лазня не працуе: правалілася падлога, патрэбен рамонт. Уласных лазняў у вёсцы ні ў кога няма — савецкая ўлада прывучыла жыць, тым лікам і мыцца, гамузам. Таму пакуль што людзі пазбаўляюцца ад бруду хто як можа: ці плёхаюцца ў начоўках, ці выліваюць на сябе вядро вады.

Вучыцелька-фізічка, што прыехала ў школу летась і кватаруе ў Мацака, абрала больш камфортную працэдуру. Акурат каля лазні, там, дзе калгас здабываў гліну, з'явілася копанка, якую мы, каб адрозніваць ад Крыніцы, называем Катлаванам. Вада тут чыстая, хоць і трохі жаўтаватая. Вучыцелька прыходзіць сюды, цалкам агаляецца, ступае па каменні ў ваду і няспешна, з асалодай, мыецца. А то яшчэ і праплывае ад берага да берага.

Вядома ж, ці з лесу, ці з-за ўзлобку за вучыцелькай назіраюць дзясяткі дзіцячых вачэй. Яна гэта разумее, аднак ніколькі не саромеецца, наадварот, выстаўляе сваё цела ў самых панадных ракурсах. Якая ўжо дзірка на страсе ў лазні! Тут цэлае шырокафарматнае кіно! Аднак жа з кожным разам паглядзецць яго прыходзіць усё меней бэйбусаў, не кажучы пра смаркачоў. Надакучвае. Напрыканцы лета за голай вучыцелькай увогуле ніхто не віжуе.

Падлогу ў лазні адрамантавалі, а дзірка ў страсе засталася. Чамусьці, аднак, цяпер ніхто не лазіць на гарышча, каб "пабачыць цыцкі"...

"Даць чалавеку ўсё, значыць, загубіць чалавека", — гэта мая любімая показка. Ну, можа, не загубіць, ды ўсё ж перанасыціць можна.

## Стымул

Настаўнік белаурскай мовы і літаратуры Іван Кандратавіч Жукавец, чалавек сталага ўзросту, ні з таго ні з сяго на ўроку прапануе нам, пяцікласнікам:

— Хто напіша верш, таму пастаўлю пяцёрку.

Ці ж гэта для мяне праблема? Рыфмаваць словы з любой нагоды я люблю. Праз дзесяць хвілін тут жа, на ўроку, выдаю тры слупкі.

Вось зіма надышла,
Снег у полі ляжыць,
Замярзае вада,
Ручаёк не бяжыць...

Вершык праставаты, але, як кажуць, "у нашым калгасе я ўжо класік". Настаўнік, як і абяцаў, ставіць пяцёрку.

Мне такі расклад дужа падабаецца. Дома лезу на печ і за вечар крэмзаю яшчэ з дзясятак падобных — на палову школьнага сшытка. На наступным уроку іх зачытваю. За кожны верш настаўнік ставіць пяцёрку — ледзь хапіла клетачак у класным журнале. З гэтага часу мяне пачынаюць лічыць паэтам.

## Цэлы клас паэтаў

Мой "творчы поспех" выклікае ў аднакласнікаў непрыхаваную зайздрасць: Іван Кандратавіч увогуле скупы на вышэйшую адзнаку, а тут такая халява! Хто-ніхто спрабуе рыфмаваць словы, але плёну ад гэтага мала. І тады мой сусед па парце Валодзя Усеня па мянушцы Бычок (на жаль, неўзабаве загіне пад коламі матацыкла) просіць:

— Напішы вершык для мяне!

А чаму б і не? Мне гэта не цяжка. Складаю для яго адзін слупок. Бычок зачытвае яго настаўніку і таксама атрымлівае пяцёрку!

Што тут усчынаецца! Ледзь не ўсе аднакласнікі на перапынку пруцца з просьбамі:

— І для мяне напішы!

Да наступнага ўрока я прыношу і раздаю паўтара дзясятка “вершыкаў”, каму адзін слупок, а каму нават і два. Як вынік, урок падобны на паэтычныя чытанні, а клас — на літаратурны гурток.

Наіўны Іван Кандратавіч... Ён так і не здагадваецца пра масавую ашуку і раздае наваспечаным “паэтам” столькі пяцёрак, на колькі не разгавейваецца за цэлую чвэрць.

Натхнёны гэтакім “творчым імпэтам” вучняў, настаўнік вырашае зладзіць агульнашкольную вечарыну, прысвечаную творчасці Янкі Купалы. “Цвіком праграмы”, зразумела ж, павінна быць дэкламацыя ўласных вершаў вучнямі пятага класа...

Вечарына ўдаецца. Іван Кандратавіч дужа задаволены, старшакласнікі ў адкрытую пасміхаюцца і нават рагочуць: ведаюць, што гэта за “паэты”...

## Асадзі назад!

Свой “паэтычны сшытак” дасылаю ў раённую газету. Час выходзіць на шырокі прасцяг! Не сумняваюся, што наступная літаратурная старонка цалкам будзе забіта маімі вершамі, бо рэдактар раёнкі — малады паэт Мечыслаў Шаховіч, які толькі што надрукаваўся ў калектыўным зборніку “Рунь” (я ўжо добра знаёмы з усімі паэтычнымі навінкамі і нават ведаю, што зборнікаў пад назвай “Рунь” ажно два. Гэтай дасведчанасцю потым, пры сустрэчы, я вельмі здзіўлю Шаховіча).

Аднак на чарговай літаратурнай старонцы сваіх “твораў” чамусьці не знаходжу. Ёсць толькі паэтычны агляд за подпісам таго ж Мечыслава Шаховіча. Мне прысвечаны ажно шэсць абзацаў, і пачынаюцца яны так: “Дваццаць пяць вершаў даслаў у рэдакцыю вучань Пасецкай школы Аляксандр Усеня, але ніводнага з іх мы не можам падрыхтаваць да друку...” Вось табе і выйшаў на прасцяг!

Дзіўна, але ні Іван Кандратавіч, ні школьнікі, якія, безумоўна, прачыталі рэцэнзію, з мяне не насміхаюцца, і тым болей не здзекуюцца. Для іх я па-ранейшаму застаюся “паэтам”. Анягож: пра яго нават у газеце напісалі, хай сабе і без пахвальбы!

Неўзабаве Іван Кандратавіч паведамляе, што званілі з раёнкі, прасілі, каб у пэўны дзень я пад’ехаў у рэдакцыю. Рэдакцыя месціцца акурат насупраць аўтавакзала, таму шукаць яе доўга не даводзіцца.

Пасля знаёмства з рэдактарам і нядоўгай размовы з ім Шаховіч кажа:

— Тут да нас вядомыя пісьменнікі з Мінска прыехалі — Ян Скрыган і Анатоль Астрэйка. Ты можаш паказаць ім свае вершы. Пісьменнікі ў сельгасаддзеле.

Лёгка ўявіць, з якім хваляваннем я адчыняю дзверы таго кабінета! Пра Яна Скрыгана я чуў мала, бо больш чытаў паэзію, а не прозу. Затое Анатоль Астрэйка для мяне — легенда. Ягонага “Дзеда Міхеда” я ведаю назубок і заўсёды чытаю ўрыўкі на школьных канцэртах.

Пісьменнікі сядзяць каля акна, па абодва бакі ссунутых ушчыльную

двух сталоў. Пазнаю іх па кніжных партрэтах. Мусіць, "абавязковую праграму" слынныя літаратары ўжо выканалі і зараз чакаюць, калі іх павязуць у Мінск ці паклічуць на банкет. Зрэдку перакідваюцца словамі. Мусіць, Шаховіч папярэдзіў іх, што зойдзе пачынаючы паэт, таму Ян Скрыган прапануе:

— Ну, паказвай, што прынёс.

Я працягваю яму агульны сшытак з акуратна перапісанымі загадзя вершыкамі. Скрыган колькі хвілінаў моўчкі гартае сшытак, дзе-нідзе прабягае вачыма па двух-трох радках.

— Ну, што, хлопча, вершы слабенькія. Раю пабольш чытаць, вучыцца ў класікаў.

Во даў параду! Ведаў бы ён, што я прачытаў ужо столькі, што не кожны на плячах панясе...

Ад Астрэйкі, які гартае нейкі часопіс, я ўвогуле не чую ніводнага слова. Госці рэдакцыі зноў пачынаюць размову паміж сабой, даючы мне зразумець, што пяціхвілінная "аўдыенцыя" скончылася.

Вось такім было яно, маё першае знаёмтсва з жывымі пісьменнікамі.

Потым мне самому не раз давядзецца чытаць і рэцэнзаваць творы пачаткоўцаў. Добра памятаючы тую рэцэнзію і тую сустрэчу, вазьму сабе за правіла: хай нават творы нікуды не вартыя, абавязкова трэба не пашкадаваць часу, зрабіць падрабязныя заўвагі, хоць бы нават і крытычныя. А яшчэ лепей — знайсці два-тры ўдалыя радкі і за іх пахваліць...

## Як мяне хрысцілі

Гэтага, безумоўна, я не памятаю, але вось што расказалі бацькі.

Царквы ў вёсцы няма. Яе няма нават ва ўсім раёне, тым лікам і ў Старых Дарогах. Калі трэба каго-небудзь пахрысціць, вязуць немаўля ажно ў Слуцк, а бывае, калі набіраецца цэлая плойма нехрышчоных, поп, за грошы, наведвае вёску сам.

Мяне хрысцяць разам з Валяй Сакавай, ейная сям'я чамусьці носіць мянушку Цыбулькіны.

Прачытаўшы кароткую малітву і папырскаўшы, поп (можа, з перапою?) выпускае мяне з рук, і я з галавой плюхаюся ў чан са "святою вадою". Хросныя бацькі ў разгубленасці — такога зроду не было. Поп іх заспакойвае і як бы апраўдваецца:

— Добры знак. Усё жыццё будзе пад Боскай апекай...

## Мянушкі

У нашай вёсцы кожная сям'я і кожны чалавек маюць сваю мянушку.

Калі сям'я, дык Макрэнікі, Узбекі, Чырвонцы, Махтулі, Цурэлікі...

Калі дарослы чалавек, дык Калаўрэнт, Кардэй, Рыба, Сербіянка...

Мянушкі маюць і ўсе дзеці (такое ўражанне, што яны з імі і нараджаюцца): Клоп, Сроль, Злодзей, Карась, Цык...

Наша сям'я носіць мянушку Цецерукі. Баба Каця расказала, што калісь мой прадзед, які жыў у суседняй вёсцы Асавец, надта добра скакаў. Быў ён дробненькім, жвавым, дык людзі і казалі: "Глядзі, як падбрыквае, быццам цецеручок". Адтуль і пайшло.

Калі хто-небудзь з равеснікаў хоча мяне раз'ятрыць, ён адбягае як далей і пачынае дражніць:

"– Цецярук, цецярук, хадзем у апенькі.

– Не пайду, не пайду, бо я маладзенькі."

Мне гэта дужа не падабаецца, і гора таму "дэкламатару", калі ён не паспявае ўцячы...

Мой бацька мае мянушку Валавянік. Ягоныя продкі былі знакамітымі на ўсю акругу варажбітамі. А дзед Прахор любіў варажыць на расплаўленым волаве. Бацька дужа не любіць сваю мянушку, таму яго абзываюць гэтак толькі "за вочы".

Дзіўна, але, бадай, толькі ў мяне, аднаго на ўсю вёску, мянушкі няма. Калі хто-небудзь скажа проста "Сашка", дык ужо зразумела, што размова ідзе пра мяне, хоць Сашаў у вёсцы не адзін дзясятак.

Аднак жа гэта нікуды не варта, каб чалавек — дый без мянушкі. І хоць ужо вельмі запознена, ажно ў дзясятым класе, мне ўсе-такі прысабачаць "паганяйла": Паэт. Абзыванка не самая крыўдная, і я ўспрыму яе абыякава.

Адкуль пайшлі нашыя прозвішчы? Адтуль, з сівое даўніны, з язычніцтва. Мянушкі і былі прозвішчамі — адметнымі, красамоўнымі. А цяпер — суцэльная бязлікасць: два прозвішчы на ўсю вёску. І, напрыклад, калі пачую я "Валодзя Караленя", гэта мне нічога не скажа. А пачуўшы "Валодзя Махтуля", я прыгадаю, што ў яго быў самы вялікі ў вёсцы сад, і што ніхто з нас, дзяцей, не змог сарваць аніводнага яблыка, бо там былі высачэзны плот і вельмі злыя сабакі.

## Украдзеная перамога

Росту я невялічкага (на фізкультуры — перадапошні ў шарэнзе), затое каржакаваты, шырокі ў плячах, як бяроза з камля. Фізкультура — мой любімы прадмет.

На раённай спартакіядзе школьнікаў сярод сваіх равеснікаў-пяцікласнікаў я паказваю лепшыя вынікі ва ўсіх дысцыплінах: бег на 100 і 1000 метраў, скачкі ў даўжыню, кіданне гранаты.

Ідзе ўрачыстае ўзнагароджанне. За першае месца ўручаецца кніга Якуба Коласа "Дрыгва". Я атрымліваю яе адзін раз, другі, трэці... А ў чацвёрты раз (за кіданне гранаты) чамусьці выклікаюць зусім іншага. Я — быццам бы толькі другі.

Пасля цырымоніі падыходжу да галоўнага суддзі, ледзь не слёзна пытаюся:

— Як жа так? Я ж кінуў на дваццаць метраў далей...

Ён няўцямна пазірае на мяне:

— Табе што, трох кніг "Дрыгва" мала? Ты хоць бы адну пачытай...

Ведаў бы ён, што гэтую кнігу я адужаў яшчэ ў трэцім класе і што зусім не яна для мяне — галоўнае...

З трох "пераможных" кніг сёння ў мяне не захавалася ніводнае. І ў памяці, мусіць, даўно сцерліся б тыя спаборніцтвы, калі б не гэтая скрадзеная перамога. Потым я яшчэ шмат чаго страчу, многае ў мяне скрадуць — і пра ўсё гэта я забуду. А вось пра гэты крадзеж — не. Я ўпершыню зразумеў, што жыццё, як і спаборніцтва, не заўсёды справядлівае...

## Самы дужы

Сярод сваіх сяброў-равеснікаў я — самы спрытны і дужы. Пабораць мяне не ўдаецца нікому. Каля клуба, дзе паўсядзённа ладзяцца зборышчы, старэйшыя хлопцы "цкуюць" нас, малых, адзін на аднаго. Калі мне пачаргова ўдаецца пакласці ўсіх на лапаткі, выстаўляецца ўмова, што я буду бараццa толькі адною рукою альбо адзін супраць траіх. І ўсё роўна я перамагаю. Таму біцца (не барацца!) са мною ніхто не асмельваецца. Даходзіць да таго, што абэлтусы, каб пазабаўляцца, мяне падбухторваюць:

— Пакажы яму кулакі!

І тады, напрыклад, Віцька Канарэйка пачынае плакаць...

Маё панаванне працягваецца доўга, да падлеткавага ўзросту.

На стаптаным стадыёне мы гуляем у футбол. Мой аднакласнік Валодзя Журко па мянушцы Камель наўмысна робіць мне падножку. Я ўскокваю, сціскаю кулакі і набліжаюся да яго. Дзіўна, але ён не кідаецца бегчы ад мяне, таксама сціскае кулакі, і я заўважаю, што яны нават большыя, чым у мяне. І гэта пры тым, што сам Камель на паўгалавы за мяне вышэйшы, а ягоныя плечы — як засланка. Нашыя позіркі сутыкаюцца, і я разумею, што мне лепей адступіць. Я ўжо ведаю: з гэтага моманту ніхто не будзе баяцца мяне гэтак, як раней.

Жыццё кожнага чалавека складаецца з перыядаў і этапаў. Часцей за ўсё яны пераходзяць адзін у адзін незаўважна, плаўна, а бывае, што гэтаму спрыяе яскравы, адметны эпізод. Вось як у мяне. Тады, на футболе, я ўцяміў, што маё панаванне скончылася.

## Ад "А" да "Б"

Мой любімы занятак — чытаць. У бібліятэцы я ўжо даўно "пералапаціў" усю паэзію, перакінуўся на ваенную прозу. Найболей кніг чамусьці — пра партызанаў. У мяне складваецца ўражанне, што менавіта яны перамаглі ў той вайне.

Адна бяда: бібліятэкарка, мясцовая паўпісьменная жанчына, адчыняе бібліятэку, калі ёй уздумаецца. А бывае, што і цэлы тыдзень на дзвярах вісіць замок. Я ўжо хачу напісаць скаргу ў раённую газету, аднак баюся, што тады бібліятэкарка ўвогуле не дапусціць мяне да стэлажоў.

Таму, як выйсце, калі мне ўсё ж удаецца "застукаць" бібліятэкарку на месцы, набіраю кніг, колькі магу панесці.

Прынамсі, аднаго разу тое, што бібліятэкарка не разбіраецца ў літаратуры, ідзе мне на карысць. Прыношу дадому "Воспоминания и размышления» Г. Жукава — з кілаграмы два вагой. Яе прачытвае бацька, былы партызан. А гэткіх жа ваяк у вёсцы нямала. І пайшла кніга "па руках", у рэшце рэшт канцы яе згубіліся...

Завядзёнка ў бібліятэцы такая: калі губляеш кнігу, трэба прынесці хоць якую замену. А ў мяне толькі і ёсць адна ўласная кніга — казка "Серая шейка". Яе і прынёс. Бібліятэкарку гэта цалкам задавальняе.

"Праглытваю" дзве-тры кнігі за дзень. Чытаю нават пры месячным святле, бо электрычнасць бацькі эканомяць.

З'яўляецца жаданне перачытаць усе кнігі ў бібліятэцы. Каб не прапусціць ніводнай, вырашаю браць іх па алфавіце. Літару "А" адужваю без асаблівых праблемаў. Напачатку лёгка даецца і "Б", пакуль не трапляецца

нейкая манаграфія пра камяні. Ну такая нудота! Падазраючы, што падобная "манаграфія" ў бібліятэцы не адна, адмаўляюся ад сваёй задумы...

Прыгадваючы зараз тую неадольную цягу да друкаванага слова, вельмі шкадую, што столькі часу было патрачана на пустое, непатрэбнае. І як важна, каб побач своечасова знайшоўся чалавек, які мог бы нешта падказаць, параіць, накіраваць неўтаймаваны імпэт у карыснае рэчышча.

## "Сляпенда"

Беспрасветнае чытанне прыносіць непрыемнае наступства: у мяне стаў пагаршацца зрок. Прызнацца ў гэтым я магу толькі самому сабе. У вёсцы з бязлітаснай пагардай ставяцца да заганных і хібных. Калі ты гарбаты ці картавы, дык усё жыццё не абярэшся кпінаў і здзекаў. Такая ўжо грубая сялянская "далікатнасць". Можа, таму ў вёсцы няма ніводнага, хто насіў бы акуляры. Хіба што настаўнікі.

Паказваць, што я "не зусім добра бачу", мне нельга ніяк. Калі дагэтуль не меў мянушкі, дык цяпер абавязкова будуць дражніць якой-небудзь "сляпендай". А пра тое, што пахіснецца аўтарытэт, і казаць няма чаго. Ёсць жа, напрыклад, Валодзя па мянушцы Кардэй, трохі старэйшы за мяне. Усім вядома, што ён падслепаваты ад нараджэння, дык падлеткі яго за непаўнавартага лічаць, насміхаюцца.

Каб утаіць свой недахоп, іду на розныя хітрыкі. Раз пораз у школу наведваюцца дактары з райцэнтра, праводзяць медыцынскі агляд. Настаўнікі папярэджваюць пра гэта загадзя. Я тады раптоўна "захворваю" ці знаходжу яшчэ якую-небудзь нагоду, каб застацца дома.

У класе я сяджу не перадапошняй парце. Тое, што настаўнікі пішуць на дошцы, бачыцца мне, бы ў тумане. Касавуруся ў сшытак суседа, Валодзі Бычка, занатоўваю заданне, якое ён паспеў перапісаць з дошкі.

Становіцца зусім жахліва, калі мяне ў старэйшых класах пачынаюць пасылаць на раённыя алімпіяды па фізіцы ці па матэматыцы. Класы ў райцэнтры прасторныя, і мне не заўсёды ўдаецца ўладкавацца за адну з першых партаў. Заданні пішуцца на дошцы. Я, вядома ж, не бачу ніводнае літары ці лічбы. Спісаць няма ў каго: кожны сядзіць за асобнай партай. Што рабіць? Я падымаю руку, кажу, што мне трэба ў прыбіральню. Атрымаўшы дазвол, як мага павольней набліжаюся да дошкі, і пакуль іду міма яе, паспяваю зафіксаваць у памяці напісанае. Гэткі ж манеўр раблю на зваротным шляху...

Яшчэ цяжэй захоўваць сваю таямніцу ў дапрызыўным узросце. На медыцынскую камісію трэба ехаць у раённую паліклініку, і тут ужо на "хваробу" не спашлешся. У кабінеты нас заводзяць па некалькі чалавек адразу. Акулісту я правільна называю літары толькі ў першых радках табліцы. (Меў бы яе дома, дык вывучыў бы назубок, але дзе тую табліцу ўзяць). Сябры, якія знаходзяцца ў гэтым жа кабінеце, пачынаюць на мяне касавурыцца: няўжо сляпы? Доктарка, каб не затрымліваць "паток", кажа:

— З табой мы папрацуем асобна, а пакуль пасядзі ў калідоры.

Калі ўсе праверыліся, зноў запрашаюць мяне. Тут ужо саромецца не выпадае, бо ў кабінеце, акрамя мяне ды доктаркі, нікога няма.

— Ну, што табе сказалі? — пытаюцца паплечнікі (хто са спагадаю, а хто зларадна), калі я выходжу з кабінета, сціскаючы ў кулаку рэцэпт на акуляры.

— Ды ўсё нармальна! — бадзёра-выдавана адказваю я. — Проста на святло папярэдне наглядзеўся, дык і замільгацела ў вачах.

Суразумоўцы вераць, і да наступнай медыцынскай камісіі мне можна не хваляваццa...

Тое, што я “сляпенда”, мне ўдасца ўтойваць нават пад час вучобы ва ўніверсітэце — ажно да тае пары, пакуль не давядзецца, наведваючы ваенную кафедру, страляць з аўтамата па мішэнях.

Колькі марных пакутаў і душэўных сілаў трацім мы на тое, каб у чужых вачах выглядаць “гэткімі, як і ўсе”, ні ў чым не заганнымі, паспяховымі! А куды прасцей было б заставацца самімі сабою, не абцяжарвацца чыімісьці думкамі і меркаваннямі пра ўласную асобу, не “спатыкацца” ад пагардлівых позіркаў. І жыць бы стала больш камфортна і зручна.

## Валёнкі

Калі сказаць, што нашая сям’я жыве бедна — дык не сказаць нічога. Яна жыве проста ў нішчымніцы. Асабліва гэта тычыцца вопраткі. Найболей шанцуе старэйшаму з братоў — Мішу. Бывае, што сваякі ці суседзі даюць нам якую-небудзь паношаную кашулю, і яна дастаецца старэйшаму. Калі ж зрэдчас купляецца абнова, дык абавязкова навырост — і таксама для яго.

Пасля Мішы ягонае адзенне пераходзіць да другога брата — Федзі. І, зразумела, даношваю ўсё гэта я. Лёгка ўявіць, якія ашмёткі мне дастаюцца.

Урэзалася ў памяць, як жанкі каля крамы выгаворваюць маці за мой знешні выгляд: груба пашытая світка, дзіравыя, сатлелыя чаравікі, завостраныя ўверх, як лыжы, бо на тры памеры большыя, чым трэба. Нават мне, трохгадоваму, робіцца сорамна за сябе і крыўдна за маці.

Асабліва падкасіла нястача, калі я пайшоў у школу. Аднаго разу восенню мае адзіныя чаравікі распаўзліся па швах, як гуркі-жаўтлякі на градзе. Я мог бы хадзіць на заняткі і без абутку, мне звыкла, але ж босага у школу не пускаюць...

І тады давялося бацьку выцягваць з-пад страхі рыжыя дзедавы валёнкі, якія зберагаліся на зіму — як “недатыкальны запас”. У іх я і шаргачу па восенскай лістоце, сяджу за партай, варушачы сапрэлымі пальцамі на нагах. (Мне і цяпер дзіўна, што ніхто з аднакласнікаў не звяртаў увагі на мой абутак, не паказваў пальцам і не ладзіў кепікі).

Затое зімою ў гэтых валёнках я адчуваю сябе як кум каралю! Асабліва, калі гуляем у “хакей”: выразанымі з бярозавых загагулін кульбакамі-“клюшкамі” ганяем па лёдзе Крыніцы замерзлы каравяк. Канькоў ні ў каго няма, боты слізгаюць, а я ў сваіх рыжых валёнках бегаю па лёдзе, як па пяску!

Кажуць, што Бог наканоўвае ўсім пароўну. А калі не пароўну, дык тое, што чалавек заслугоўвае (“...і апошнія стануць першымі”). Дзяцінства ў мяне было нішчымным, затое на схіле жыцця маю неблагі дабрабыт. Аднак жа хоць і магу зараз купіць самыя дарагія італьянскія чаравікі, аддаў бы любыя грошы, каб прыдбаць тыя рыжыя дзедавы валёнкі. Толькі дзе яны цяпер?..

## Макрэнік

Ён жыве на другім канцы вёскі, таму сутыкацца з ім мне даводзіцца толькі зрэдчас, калі стары па цэнтральнай вуліцы, дзе стаіць наша хата,

клыпае ў краму. Ягоная хада запаволеная, ногі не ступаюць, а шаркаюць па зямлі. Чамусьці ён заўсёды ўціскае галаву ў плечы, і ў мяне такое адчуванне, што гэта не ад старасці, а па нейкай іншай прычыне. А яшчэ здзіўляе, што ён ніколі са мною не здароўкаецца. Хай сабе я і малеча, аднак жа ў вёсцы такая завядзёнка: вітацца з любым сустрэчным, хоць бы нешта буркнуць пад нос, але не размінуцца моўчкі.

Я не ведаю прозвішча гэтага старога, усе завуць яго Макрэнікам. Аднаго разу я ўсё ж патаюся ў бабы Каці, што гэта за чалавек і чаму ён староніцца людзей, гэтак жа, як і яны яго.

Баба Каця хоць і без выяўнай злосці, аднак з непрыхаванай агідай адказвае:

— Дак ён жа столькі шкоды колісь людзям нарабіў! Кансамолец засраны...

Высвятляецца, што ў 20-30-я гады Макрэнік быў мясцовым актывістам. Разам з гэткімі ж “кансамольцамі” выграбаў збожжа з сусекаў, ссылаў кулакоў у Сібір.

— Сам гультай, рабіць не хацеў, дак людзей грабіў, — не сунімаецца баба Каця. — За што ж яго любіць-паважаць?

Дзіўна, але з тае пары я пачынаю шкадаваць гэтага старога Макрэніка. Ці ж ён адзін быў адурманены бальшавікамі? Ці толькі ягоная віна, што насельнікі вёскі (лічы, радня) амаль адначасна сталі ворагамі?

Калі ў чарговы раз Макрэнік, не пазіраючы ў мой бок, шаркае да крамы, я знарок падбягаю да яго блізка-блізка і голасна кажу:

— Добры дзень!

На першым часе Макрэнік падазрона зыркае на мяне з-пад ілба, нічога не адказаўшы, тупае далей.

Яму, мусіць, здаецца, што нават і во гэты смаркач здзекуецца з яго, зларадні чае, каб упікнуць за колішнія грахі. Аднак ужо трэцім разам я заўважаю ў ягоным паглядзе нейкі агеньчык надзеі, акурат як у шчанюка, калі гаспадар спачатку паб’е яго за правіну, а потым змякчэлым голасам пакліча да сябе. Макрэнік, хоць пакуль што і з недаверам, але ўсё ж кідае мне свой “дзень добры”. Магчыма, ён спадзяецца, што я сапраўды нічога не ведаю пра людскую агіду да яго і проста выказваю павагу да ягонай старасці.

Ва ўсякім разе пры наступнай сустрэчы ён першы вітаецца са мною, і ягоныя плечы не здаюцца задужа прыгорбленымі, а хада — хваравіта-запаволенаю...

Калі навука знаходзіцца ў пастаянным пошуку, расхінае новыя далягляды (“чым больш я ведаю, тым больш не ведаю”), дык праваслаўе дае адказы на ўсе пытанні вернікаў. І толькі ў адным багасловы не могуць прыйсці да адзінай думкі. Тое, што ў Боскім царстве, у раі, праведнікі будуць вечна ўпівацца асалодаю, — гэта бясспрэчна. А як наконт пекла, дзе грэшнікі павінны таксама вечна пакутаваць? Ці ж гэта справядліва: пражыў чалавек на гэтым свеце некалькі дзясяткаў год, хай сабе і грашыў бязмежна, а расплочвацца за грахі ягонай душы патрэбна вечна?

“Бог ёсць любоў” — так даводзіць нам рэлігія. Чаму ж ён, Бог, дае чалавеку магчымасць нарадзіцца, хоць загадзя ведае, што ён будзе грэшнікам і ў рэшце рэшт ягоная душа навекі патрапіць у пекла? Дык, можа, не навекі? Можа, даецца ўсё-такі нейкі пэўны тэрмін у пекле, як для злачынцаў — у калоніі строгага рэжыму?

У маладосці Макрэнік здзейсніў грэх, які атруціў астатняе ягонае жыццё, па сутнасці яно стала тым жа пеклам. Нават на пахаванне прыйшлі толькі суседзі ды блізкая радня.

“Бог ёсць любоў...” Чалавек — падабенства Бога. Аднак ці можа ён, грэшны, спадзявацца на Боскую любоў, на “нявечнасць пекла”, калі тут, на гэтым свеце, не хоча прабачыць грэх свайму бліжняму і стварае для яго “пекла” да самае смерці?

## Музыка

Ужо даўно сцямнела, але мы, падшыванцы, як і зазвычай летам, ладзім забавы на поплаве, за ваколіцай вёскі. Раптам на блізкім даляглядзе неба пачынае паступова святлець, а затым і ўвогуле запаўняецца полымем.

— Сцірты гараць! — здагадваецца нехта, і мы гурмою бяжым у той бок. Вядома ж, не каб тушыць, а каб зблізку палюбавацца рэдкім відовішчам. Мы імчымся навыперадкі, хоць босыя ногі балюча апякае свежая пожня. Калгас толькі што скасіў збажыну, а салому пасцягвалі і склалі ў сцірты. І вось цяпер яны чамусьці загарэліся.

З боку сціртаў насустрач нам няспешна крочыць Музыка, мой сусед цераз вуліцу. Бачна, што ён хацеў збочыць, каб не патрапіць нам на вочы, аднак, мусіць, не паспеў, таму выдавана-спакойна пытаецца:

— Куды гэта вы нясецеся?

— Гляньце, дзядзька, салома гарыць!

Музыка азіраецца і ўскліквае:

— Ажно і праўда!

Аднак, хоць ён і дарослы, чамусьці не спяшаецца з намі на пажар, а шыбуе ў вёску...

Сцірты згараюць да апошняй саломінкі. Хоць людзей сюды набегла-наехала шмат, аднак даць рады пякельнаму агню ўжо немагчыма.

Назаўтра раніцай каля калгаснай канторы стаіць міліцэйскі “козлік”. Ні ў каго няма сумневу, што сцірты нехта падпаліў. Наўмысна. Калі б загарэлася адна, дык можна было б спісаць усё на якога-небудзь курца-палюбоўніка. А тут — адразу тры.

Міліцыянеры ходзяць па дварах, апытваюць людзей. Вяскоўцы шэпчуцца, што падпаліць мог толькі адзін чалавек — Музыка. Ён ужо не ўпершыню “пускае пеўня” на калгасную маёмасць — аднаго разу за гэта нават і адсядзеў. А яшчэ Музыка — несусветны злодзей. Калі ў кагосьці нешта прападзе, шукаць зламысніка доўга не трэба...

Музыку першым чынам “бяруць у абарот” і міліцыянеры. Аднак вымушаны адступіцца, бо ў яго ёсць... алібі. Высвятляецца, што Музыка разам з іншымі людзьмі залазіў у кузаў машыны, якая кіравалася на пажар.

У рэшце рэшт зламысніка так і не знаходзяць.

І толькі адзін я, смаркач, здагадваюся (не, нават цвёрда ведаю), што тыя сцірты сапраўды падпаліў Музыка.

Нас, дзяцей, міліцыянеры не апытвалі. І дарэмна. Калі б пацікавіліся, хто-небудзь абавязкова прыгадаў бы тую неспадзяваную сустрэчу з ім на калючай пожні, яшчэ задоўга да таго, як уся вёска кінулася тушыць пажар.

А мяне асабіста насцярожвае якраз “алібі” Музыкі, тое, што ён “разам з іншымі людзьмі залазіў у кузаў машыны”. Навошта перціся на пажар, калі з паўгадзіны таму ён ужо быў там, побач?

А было, мусіць, так. Музыка падпальвае сцірты, а па дарозе ў вёску нечакана натыкаецца на дзяцей. Гэта ж відавочныя сведкі! Аднак ёсць надзея, што дзеці ні пра што не здагадаюцца, дый распытваць іх сапраўды ніхто не будзе. Музыка вяртаецца ў вёску і разам з усімі садзіцца ў машыну. Адно што паказвае: глядзіце, я тут ні пры чым, толькі што з хаты выскачыў. А другое — трэба абавязкова ва ўсіх на вачах патаптацца каля тых палаючых сціртаў. Інакш жа чым ён зможа растлумачыць свае сляды, якія міліцыя абавязкова знойдзе?

Свае здагадкі я выказваю маці. Яна хапаецца за галаву і крычыць:

— Маўчы, нягоднік! Забудзь пра ўсё, што бачыў! Хай сабе Музыку пасадзяць. Дык ён жа, калі выйдзе, спаліць нашу хату!

І я разумею: сапраўды спаліць. Такога ворага, як Музыка, не пажадаеш нікому.

Нават цяпер, праз некалькі дзесяцігоддзяў, гэты выпадак вярэдзіць маю душу. Я так і не магу прыйсці да пэўнай высновы, ці правільна я зрабіў, што не падышоў да следчага і не расказаў яму пра ўбачанае. І чамусьці не пакідае адчуванне, што тыя сцірты я падпаліў сам...

## Медаль

У нашую хату Музыка, хоць і сусед, наведваецца толькі зрэдчас. Мае бацькі (зрэшты, як і большасць вяскоўцаў) яго не любяць — зладзеяваты. І вось прыцёгся — ужо на добрым падпітку.

Неяк атрымліваецца, што я застаюся з ім сам-насам: бацькі, мусіць, наўмысна сышлі з хаты, каб не слухаць ягоны п'яны словаблуд.

Мяне ўжо стала называюць "карэспандэнтам", бо пстрычкі-заметкі пра школьнае жыццё друкуюцца ў раёнцы часта. А яшчэ — невялічкія замалёўкі пра ветэранаў вайны. Іх у вёсцы шмат, асабліва былых партызанаў. І хоць ваявалі яны "з адною вінтоўкаю на пяцярых", медалёў маюць (большасцю юбілейных) — на ўсе грудзі.

Музыка з непрыхаванаю крыўдаю звяртаецца да мяне:

— От ты, караспандзент, усіх абпісаў, а пра мяне, суседа, ні слова.

— А хіба ж, вы, дзядзько, ваявалі?

— А то як жа! І не так, як етыя парцізаны, што ў лесе ад паліцаяў хаваліся ды людзей грабілі, а на фронце!

— Няўжо праўда? — не веру я сваім вушам. Музыка, злодзей, п'яніца — і франтавік!

— У мяне і награда ёсцека! — горда кажа Музыка. — От сяйчас пакажу...

Ён падхопліваецца з-за стала, выскоквае з хаты і праз дзве-тры хвіліны сапраўды прыносіць у жмені медаль. І не абы-які, юбілейны, а "За баявыя заслугі"!

— Ну то раскажыце, дзядзько, як ваявалі.

Нашая размова зацягваецца. Ніякіх подзвігаў Музыка, вядома ж, не здзейсніў, бо прыхапіў толькі канец вайны. А тады, напрыканцы, узнагароды раздаваліся шчодра. Дый медаль "За баявыя заслугі" — гэта не "За адвагу", што ўручаўся за канкрэтны подзвіг.

А трэба сказаць, што Музыка, хай сабе і ў іншым, сапраўды герой. Ягоная жонка Ева нарадзіла ажно адзінаццаць дзяцей. Яны, дзеці, вельмі саромеюцца за сваіх бацькоў, бо Музыку ўсе лічаць шкоднікам і злодзеем, а Ева не прасыхае ад самагонкі.

Пісаць пра Музыку ў газету (тым болей з фатаздымкам) я не збіраюся. Адно што нямашака яркіх эпізодаў, другое — вяскоўцы мяне не зразумеюць. Пра такога прайдзісвета — і ў газету! Гэта ж ганьба!

Аднак жа ў хлапечай гурме я расказваю пра Музыку як франтавіка, і ўсе дзівяцца. Ніхто і падумаць не мог, што ненавісны для ўсіх Музыка ваяваў і тым болей — мае медаль. У розныя прэзідыумы яго, вядома ж, не запрашалі...

Пад час свайго аповеду заўважаю, з якім захапленнем і ўдзячасцю пазірае на мяне адзін з сыноў Музыкі — Васіль. Ён, мусіць, і сам не ведаў пра "гераічнае мінулае" свайго бацькі. Дый не гэта галоўнае. У яго з'явілася падстава, каб хоць за нешта ганарыцца родным чалавекам, якога ўсе ганьбяць і ніхто не паважае.

Потым я буду не раз чуць, як Васіль пераказвае мае словы сваім сябрам, якія не прысутнічалі пры той размове. А да мяне з гэтае пары ён будзе ставіцца з асаблівай павагай.

Васіль адслужыць у арміі, у Афганістане, будзе паранены і сам атрымае ўзнагароду. Затым адбудуе дыхтоўны дом побач з нашай хатай, і калі я буду раз-пораз наведваць бацькоў, заўсёды клікацьме мяне на чарку...

Яно, можа, для чалавека і галоўнае, каб ніхто не пасягаў на ягоную годнасць і была магчымасць хоць нечым ганарыцца.

## Крыўда

Восенню, калі ў калгасе прыходзіць час выбіраць бульбу, заняткі ў школе спыняюцца. Нават нас, вучняў малодшых класаў, выганяюць на палеткі. Для большасці гэта ў радасць: лепей бавіць час у гаманлівай талацэ на прыродзе, чым праседжваць штаны у тлумным класе. Да таго ж, у полудзень можна на вогнішчы падсмажыць прыхопленае з дому сала, а затым, скруціўшы з сухога лісця "казіную ножку", самавіта пыхкаць дымам — акурат як мой дзед Павел.

А яшчэ можна зарабіць такую-сякую капейку. Хай сабе і невялікую, аднак жа для нашае сям'і і яна спатрэбіцца. Таму не дзіва, што сярод аднакласнікаў я ў перадавіках.

Бульбу, вывернутую наверх капалкай, мы збіраем у вёдры і зносім яе да грузавіка. Каля яго стаіць настаўніца, звычайна класная кіраўніца, і адзначае ў сваім сшытку кожную ходку. У нас класная кіраўніца — маладая, толькі што з інстытута, настаўніца фізкультуры. Яна на дзіва прыгожая, гонкая, а ў дадатак яшчэ і апранутая ў трыко, якое спакусліва аблягае ейныя панадныя формы. Старшакласнікі нам зайздросцяць: іхнія настаўніцы-ўчотчыцы — нашы, вясковыя. І прыйшлі яны на поле ў кухвайках і шараварах.

Па праўдзе кажучы, у сваю класную кіраўніцу я трохі закаханы. І гэта спрыяе маёй руплівасці, бо хочацца часцей апынуцца каля грузавіка з поўным вядром, пабачыць яе зблізку дый самому патрапіць на ейныя вочы.

Настаўнікі палуднуюць асобна ад дзяцей, і аднаго разу каля вогнішча нехта з нас дастае чакушку самагонкі. Здзівіць гэтым нельга, бо ва ўсіх дома стаіць не адзін гляк такога пітва, і нават кожны з нас, недаросткаў, ведае ягоны смак. Чакушка ідзе па кругу. Двух-трох глыткоў хапае, каб забыць і пра бульбу, і пра цэрбераў-настаўнікаў. Мы гурмою ідзём блу-

кацъ па лесе, распальваем яшчэ адно вогнішча і дамоў вяртаемся толькі надвячоркам...

Назаўтра — “разбор палётаў”. Мая каханая фізручка лічыць, што менавіта я падбіў усіх на “самаволку”. Як пакаранне — “спісвае” ўсю бульбу, якую я выбраў у той дзень. А гэта — ні многа ні мала — 70 вёдзер. Больш як паўтоны! Грошай за працу я не атрымаю, што мяне вельмі засмучае. Смутакператвараецца ў гора, калі праз два дні “бітва за ўраджай” заканчваецца, і па школе разносіцца абвестка, што “перадавікі вытворчасці” будуць узнагароджаны экскурсіяй у Мінск, дзе наведаюць цырк ліліпутаў. Вывешваецца спіс шчасліўчыкаў з іхнімі “працоўнымі паказчыкамі”. Мяне ў гэтым спісе няма. Мне не хапае акурат тых сямідзесяці спісаных вёдзер!

Ну, недаатрыманыя грошы — яшчэ паўбяды. Але ж экскурсія ў сталіцу! Я ж яшчэ, калі не лічыць райцэнтра, ні разу не быў у горадзе, не бачыў ніводнага шматпавярховага будынка. А пра цырк ужо і казаць няма чаго...

Адчай мой настолькі вялікі, што ў перапынку паміж урокамі я асмельваюся зайсці ў перапоўнены настаўніцкі пакой і з парога пачынаю выказваць сваю крыўду. Спачатку мяне ніхто не заўважае, тым болей не слухае, а затым гамана паступова заціхае, і чуваць толькі мой узрушаны дзіцячы голас. Я, мусіць, яшчэ і плачу, бо вочы настаўнікаў напаўняюцца спагадаю і шкадобаю. І толькі ў адным позірку я скрозь слёзы заўважаю непадробнае здзіўленне. Фізручка ніяк не можа ўцяміць, з-за чаго гэты сыр-бор. Ну, недаплацілі хлопчыку крыху, ну, не наведае ён сталіцу. Што ў гэтым страшнага? Для яе самой такія грошы — сапраўды капейкі, а Мінск за час вучобы, магчыма, гэтак абрыд, што і бачыць яго не хочацца...

Грошы мне, вядома ж, не вярнулі, затое на экскурсію ўзялі. Ад яе ў мяне засталося столькі ўражанняў, колькі не было потым ні ад егіпецкіх пірамід, ні ад Парыжа з ягоным Луўрам, ні ад рымскага Калізея...

## Рэабілітацыя

Аднаго разу да майго розуму даходзіць, што дзед Павел зусім не любіць савецкую ўладу. Я выказваю яму сваё абурэнне, бо ўжо стаю на чале школьнай піянерскай арганізацыі, а старая Алёнка, падобная на вядзьмарку, называе мяне “анціхрыстам”.

У адказ на маё абурэнне дзед, літаральна выціскаючы з сябе словы, упершыню распавядае пра сваю маладосць.

Ягоны бацька, Хведар, жыў заможна. Шмат зямлі, хатняй жывёлы. Аднак жа парабкаў не трымаў. І сам гарбаціўся, як пракляты, і дзяцей сваіх прымушаў працаваць да сёмага поту.

Затым прыйшлі бальшавікі. Аднойчы да Хведара прыехалі на падводах, павыцягвалі з хаты ўсю маёмасць, забралі жывёлу. Сусед, таксама з “багацеяў”, паспеў паклікаць вясковых музыкаў, і калі пачалі ўсё выцягваць і з ягонай хаты, папрасіў:

— Грайце, хлопцы...

І яны зайгралі. Паланэз Агінскага. Мой дзед асабліва запомніў, як жалобна гучалі цымбалы... Сабралася шмат народу. Многія плакалі, бо таго суседа пасадзілі на падводу разам з сям’ёй і некуды павезлі. Болей іх ніхто ніколі не бачыў.

Забралі і Хведара разам з ягонымі сынамі. Пратрымаўшы некалькі месяцаў у астрогу, усё ж выпусцілі...

Сапраўды, майму дзеду ёсць за што не любіць савецкую ўладу. Дзеду здаецца, што і яна, гэтая ўлада, таксама не любіць яго да гэтага часу. І таму ён вельмі здзіўляецца, калі на парозе ягонае хаты нечакана з'яўляецца фотакарэспандэнт з раённай газеты, каб зрабіць здымак "вядомага на ўсю акругу каваля".

Праз некалькі дзён гэты здымак з подпісам на дзесяць радкоў з'яўляецца ў газеце. Дзед бярэ яе дрыжачымі рукамі (мне нават здаецца, што на вочы нагарнуліся слёзы) і надоўга сыходзіць некуды з хаты. Я ніяк не магу зразумець ягоных паводзін: ды такіх, пра каго раёнка пісала-перапісала, — у вёсцы цераз аднаго. Пра што ёй яшчэ пісаць?..

Пытаюся ў бабы Каці:

— Што здарылася з дзедам?

Баба Каця цяжка ўздыхае і тлумачыць:

— Ета ж ён, унучак, лічыць, што прызналі яго, прасцілі за тое, што кулаком быў...

Глядзі ж ты: столькі гадоў насіў дзед у душы віну за сваё "сацыяльнае паходжанне". І толькі бляклы здымак у газеце нарэшце стаў для яго раэбілітацыяй...

## "Вусаты"

Мой дзед Павел мае мянушку Вусаты. У яго сапраўды шыкоўныя, выгнутыя сярпом вусы, як у Будзённага, толькі рыжыя. Сваім дзедам я ганаруся, бо ў вёсцы яго ўсе паважаюць. Ён негаваркі, памяркоўны, амаль ніколі не выпускае з роту самакрутку. Праўда, у зацяжку не курыць.

А паважаюць майго дзеда за тое, што ён — каваль. У вёсцы няма больш запатрабаванай прафесіі. Каму трэба каня падкаваць, каму абады нацягнуць на калёсы, а каму і звычайнай качаргою разжыцца. Зрэшты, болей мой дзед працуе на калгас. Таму і ягоная несамавітая кузня месціцца побач з калгаснай майстэрняй, каб механізатары далёка не бегалі, калі спатрэбіцца выкаваць-падагнаць якую дэтальку.

Седзячы на бервяне перад уваходам у кузню, я люблю назіраць за дзедавай працай: як гулка вухкае молат, як znічкамі ляцяць пад столь іскры, як змяюкай шыпіць у вадзе распаленае жалеза... Дзед раз-пораз кідае на мяне хітры пагляд і ўсміхаецца ў свае рыжыя вусы.

Дзедава сядзіба — побач са стадыёнам. Ён паставіў амаль трохмятровы плот, каб футбольны мяч не залятаў у сад, па велічыні другі ў вёсцы. Праўда, плот не дужа замінае таму, хто хоча паласавацца жытнікамі ці белым налівам. Ён знарок запулёўвае мяч у сад, каб мець падставу пры дапамозе іншых пералезці цераз плот, вярнуцца не толькі з мячом, але з поўнай пазухай яблыкаў. Калі ж проста на футбольным полі ў кагосьці атрымліваецца няўдалы ўдар, яму раяць:

— Ідзі да Вусатага!

Гэта значыць, ён, майстар-каваль, выправіць табе нагу.

У свае семдзесят з хвосцікам дзед усё яшчэ мацак, кузню не пакідае. Бывае, што па начах ён наведваецца да маладых жанок — разведзёнак ці ўдоў. Найчасцей, кажуць, да 40-гадовай Сілінскай, якая жыве з прыдуркаватым сынам на самым ускрайку вёскі, амаль у лесе. Ва ўсякім разе баба

Каця найболей раўнуе свайго мужыка менавіта да яе і, адолеўшы ноччу немалы шлях, стукае кіёчкам у вокны ёйнай хаты.

На вяселлях ці на хрэсьбінах дзеда ніхто не можа перапіць. Аднаго разу ён на спрэчку перакульвае ў горла ажно дзесяць “хрушчовікаў” першаку (што такое старадарожскі пяршак, мусіць, тлумачыць не трэба: гэта амаль спірт). Затым завальваецца ў хляве, счарнелы, пластом ляжыць трое сутак, падымаецца і, не пахмелены, ідзе ў кузню...

“Патухае” дзед літаральна на вачах, амаль імгненна. У яго выяўляюць рак.

За два дні да дзедавай смерці мы з братамі колем дровы ў ягоным двары. Сам ён ужо не можа падняць не толькі молат, але і сякеру. Схуднелы, ссохлы, дзед сядзіць на прызбе і моўчкі назірае, як мае старэйшыя браты заліхвацка распраўляюцца з цурбакамі. Калі за сякеру бяруся я, у мяне гэта атрымліваецца не так спраўна, бо пакуль што не стае сілы. Але за мною дзед сочыць асабліва ўважліва, і я гэтаму не здзіўляюся, бо ведаю: я ж ягоны любімы ўнук. А яшчэ я заўважаю, як па разоры-маршчынцы дзедавае шчакі спаўзае да рыжых вусоў ашчадная слязінка. І я да гэтага часу не магу зразумець, што яна высвечвала...

Паміраць, безумоўна, страшна. Тым болей тады, калі ты разумееш, што справа, якой ты прысвяціў усё сваё жыццё, не будзе мець працягу... Кавалём я, вядома ж, не стану. А праз дзясятак гадоў ад дзедавай кузні не застанецца і следу.

## Гаючая зямля

Летам у калгасе рабочых рук не хапае, і раніцай да канторы, “на нарад”, прыходзім і мы, дзеці. Усё адно на канікулах няма чым заняцца, а лішняя капейчына не зашкодзіць. Каго пасылаюць на зерняток, хтосьці запрагае каня і возіць з лесу зялёны мох на подсціл для цялят, камусьці наканавана браць сахор і ісці “на сянаж”.

На гэты раз мне выпадае акурат сянаж. Трэба стаяць у кузаве грузавіка і разграбаць сахаром сечку, якая сыплецца з крывуліны-трубы касілкі.

Дзень ужо на зыходзе, я, стомлены, трачу канцэтрацыю і запулёўваю сахаром не ў сянаж, а сабе ў сцягно — спераду. Напачатку болю не адчуваю, але затое, як мне здаецца, чую скрыгат жалезнага зубца аб косць!

Да вёскі, а тым болей да бальніцы, далёка, дый наўрад ці туды мяне хтонебудзь павязе. Крыві мала, бо зубец, мусіць, не закрануў жылы. Таму я працягваю разграбаць сянаж, пакуль ён не напаўняе кузава паверх бартоў.

Бінту ў мяне, вядома ж, няма, і я скарыстоўваю правераны спосаб. Бяру ў жменю пясок і прыкладваю яго да раны. Боль не праходзіць, але кроў спыняецца зусім.

Праз тры дні я ўжо не памятаю пра тую рану (хоць яна, мусіць, усё ж была сур’ёзнаю, бо рубец застаецца да гэтага часу).

Гэткі спосаб загойвання цяпер можа здацца дзікім, але тады, у дзяцінстве, ён не падвёў мяне ніколі. Засыпаць рану пяском навучыла мяне баба Арынка, казала, што нашыя продкі рабілі гэтак спрадвеку. І вось жа дзіўна: колісь у мяне, гарэзы, была процьма праколаў і ран, аднак пры дапамозе пяску яны загойваліся як на сабаку. Цяпер жа з любою драпінай даводзіцца цягацца па паліклініках, і, нягледзячы на найноўшыя медыцынскія сродкі, яна доўга не зажывае...

Калі зрэдчас наведваю вёску, таксама адчуваю боль — толькі душэўны. І яго, на жаль, немагчыма спатоліць, пасыпаўшы гэтую рану гаючым пясочкам роднае зямлі...

## Тона цэменту

На нарадзе нам, чатыром падлеткам, даручаецца прывезці цэмент ажно з Капыля. Для гэтага выдаецца два “ЗіЛы”. У прызначаны час і ў прызначанае месца два падлеткі чамусьці не прыходзяць. Але ж дзявацца няма куды. У дарогу выпраўляемся толькі я і мой аднакласнік Саша Санкевіч — грузчыкі. Сашаў бацька па мянушцы Камак з паўгода як памёр, пакінуўшы сыну гэткае ж паганяйла.

У Капылі даведваемся, што цэменту трэба пагрузіць ажно пятнаццаць тон. Машыны могуць пад’ехаць да насцілу каля склада ўшчыльную, аднак усё адно мяхі па паўсотні кіло неабходна валачы метраў трыццаць. Затым, укінуўшы ў кузаў, належыць самім лезці туды ж, каб падцягнуць мех да кабіны, пакласці ў штабель.

Мы з Сашам хоць і бярэмся за працу, аднак паступова ўсведамляем, што хутка парвём жылы. (Потым стане вядома, што падлеткаў, якія не з’явіліся, проста не пусцілі бацькі, даведаўшыся пра нарад на цэмент). Мы просім падсабіць кіроўцаў, якія нас прывезлі. Яны не нашы, не калгасныя, іх прыслалі з райсельгастэхнікі, і таму нам не спагадаюць, гуляюць у карты з кладаўшчыком. Мы кажам, што болей грузіць не будзем, але кіроўцы пагражаюць: калгас вылічыць з нашага сціплага заробку грошы за пустапарожнія рэйсы. Такая перспектыва не радуе, і мы зноў “запрагаемся ў воз”.

Кожны мех даецца нам з вялікімі патугамі, таму не дзіўна, што мы іх лічым. Калі нас, дашчэнту знясіленых, спыняюць, дык па нашых падліках атрымліваецца, што загрузілі мы не пятнаццаць тон, а чатырнаццаць. Пры гэтым заўважаем, як кладаўшчык перашэптваецца аб нечым з кіроўцамі і суе ім у жмені грошы. Я разумею, што тут пахне ашуканствам, і патрабую загрузіць яшчэ дваццаць мяхоў, хоць ужо не чую рук. Адзін з кіроўцаў брудна лаецца і заганяе нас у кабіну.

У калгас вяртаемся амаль апоўначы. І тут высвятляецца, што каля склада нас ніхто не чакае, адзін дзед-вартаўнік тупае паміж будынінамі. Мы з Сашам спадзяваліся, што нашыя мучэнні скончыліся там, у Капылі, а ўжо тут, у калгасе, болей не давядзецца “браць на пуп”, бо для разгрузкі знойдзецца іншая рабочая сіла. Аднак прыбягае кладаўшчык і пагрозліва загадвае разгрузіць і пазаносіць мяхі ў склад менавіта нам, інакш за нявыканаую да канца работу не атрымаем ні капейкі. Яму падтакваюць кіроўцы, якіх, ці бачыце, чакаюць дома сем’і. І калі ўсю дарогу мяне цешыла думка, што я раскажу дома пра скрадзеную тону цэменту, дык зараз чамусьці ахвота зрабіць гэта знікае. Кладаўшык мяхі не лічыць, і я нават радуюся зладзейству, бо разгружаць давядзецца на цэлую тону меней.

Назаўтра я не магу варухнуць ні нагою, ні рукою. Зацэментаваная вопратка мае падабенства са скафандрам і адмочваецца ў начоўках трое сутак. Валасы на маёй галаве — кавалак бетону, даводзіцца рабіць прычоску “пад Катоўскага”.

Пра скрадзеную тону цэменту я нікому так і не распавяду, хоць напачатку і будзе жадоба падысці да старшыні. Я проста ўцямлю, што нікога гэта не “заказыча”, бо недастачы ніхто не хапіўся. І тады я, сакратар школь-

най камсамольскай арганізацыі, актывіст грамадскага жыцця, упершыню прыйду да высновы, што калгас — гэта дрэнна.

### Піянерскі гальштук

У шостым класе газета “Піянер Беларусі” ўзнагароджвае мяне пуцёўкай у Артэк — на цэлыя два месяцы. Адначасна прыходзіць паведамленне і з часопіса “Бярозка” — мне прапануецца адпачнуць у беларускім “Зубронку”. За якія заслугі? І ў газеце, і ў часопісе мае вершы друкуюцца ледзь не ў кожным нумары. Я, безумоўна, выбіраю легендарны “Артэк”.

З такой нагоды бацькі купляюць мне касцюм, дзве сарочкі і нават зубны парашок, які я дагэтуль зроду не бачыў. А яшчэ — новы піянерскі гальштук, бо без яго ў Артэку не абысціся ніяк. Бяда ў тым, што ўсё гэта няма куды пакласці. Не паедзеш жа ў няблізкі свет з гаспадарчай сумкай. Праблему вырашае Шмат, памочнік ляснічага. У яго знаходзіцца невялікі чамаданчык. Ён хоць і пацёрты-падрапаны, аднак жа лепшага нічога няма.

Артэкаўскія будні для мяне — як святы. Мора, горы, штодзённыя забавы. Асабліва ўсім падабаецца гульня “снайпер” — нешта падобнае на лапту. Перш чым зайсці ў спортзалу, мы скідваем уніформу, нацягваем трыко.

Аднаго разу пры выхадзе са спортзалы я не знаходжу ў раздзявалцы свайго піянерскага гальштука. Куды ён падзеўся — невядома. Магчыма, хто-небудзь і скраў, бо дзеці разнамасныя, прыехалі з усяго белага свету.

Здавалася б, толькі тае бяды. У лагеры ёсць шапік, дзе можна купіць і гальштук, і значок, і іншую драбязу. Аднак такой магчымасці я не маю, бо ў дарогу бацькі не далі мне ніводнае капейкі. Там жа, палічылі, усё будзе задарма.

Перад адбоем я доўга-доўга стаю каля акна, пазіраю на зеленаватае мора, на дыхтоўныя карпусы, падобныя на караблі, і яны ўжо мяне чамусьці не радуюць. Па шчоках цякуць слёзы.

Гэта заўважае Саша Шасцін, не па гадах высокі і бугрысты хлопец з Сахаліна. Падыходзіць і пытаецца:

— Цябе хто-небудзь пакрыўдзіў?

Гонар не дазваляе мне расказаць пра скрадзены гальштук, пра тое, што ў мяне няма грошай, каб купіць новы. Да таго ж, страта гальштука — для піянера ганьба. Мы ведаем гэта з кніг, са школьных палітінфармацый. Таму я, не паварочваючы галавы, адказваю:

— Ніхто мяне не пакрыўдзіў. Проста засумаваў па Радзіме...

— Ну, гэта пройдзе, — смяецца Саша і ад мяне адыходзіць.

Не памятаю ўжо, якім чынам мой гальштук знайшоўся. Магчыма, злодзея загрызла сумленне.

Цяпер я дзіўлюся і свайму невыказнаму гору, і “адданасці ленінскім сімвалам і ідэалам”, якую заклалі тады ў маю дзіцячую душу. Пройдзе час, і я, працуючы ў часопісе “Вожык”, свядома пакладу на стол галоўнага рэдактара, былога цэкоўскага работніка, свой партыйны білет... Але пра гэта пасля.

### Урок геаграфіі і мовы

У “Артэку” ёсць і школа. Раніцай нас прывозяць сюды ў аўтобусах, у вестыбюлі дзеці вывучаюць расклад заняткаў і разбягаюцца па кабінетах: геаграфічных, фізічных, матэматычных...

Для мяне гэта нязвыкла, бо ў нашай вясковай школе ніякіх кабінетаў няма, усе заняткі праходзяць у адным класе. Таму ў "Артэку" я часта блытаюся і доўга шукаю патрэбны кабінет. Вось і ў гэты раз ніяк не магу знайсці геаграфічны. Нарэшце, расчыняю патрэбныя дзверы. Заняткі ўжо ідуць поўным ходам. Каля дошкі — новы выкладчык. З радасцю для сябе адзначаю, што гэта — выхавацель нашага атрада Вячаслаў Іванавіч. Мы ўсе яго вельмі любім, бо ён добра грае на гітары і трымаецца з намі папанібрацку. Вячаслава Іванавіча я не толькі люблю, але ім і ганаруся, бо ён, як і я, беларус.

— Почему опоздал? Где ты шляешься? — строга пытаецца ў мяне выкладчык.

Збянтэжаны гэткім суровым тонам, я раптам забываюся на рускую мову, якую паспеў ужо добра вывучыць, і, апусціўшы галаву, адказваю:

— Я шукаў...

Аднакласнікі гэтага слова не разумеюць, таму ніяк не рэагуюць, затое Вячаслаў Іванавіч раптам моршчыць твар, нібы толькі што праглынуў недаспелую журавіну, і з пагардай мяне перадражнівае:

— "Шу-ука-аў"... Садись, деревня!

З тае пары Вячаслава Іванавіча я не люблю: не вабяць ні ягоныя песні пад гітару, ні цікавыя гісторыі каля кастра. Падобна, што неўзлюбіў мяне і ён.

Мне было няўцям, чаму ён, беларус, з такою агідаю ставіцца да роднай мовы, хай сабе і жыве далёка ад Радзімы. Ці ж мог я тады падумаць, што пройдзе час, і з такой жа пагардай і агідай будуць успрымаць беларускую мову амаль спрэс усе насельнікі тэрыторыі, якая пакуль што носіць назву Беларусь.

## Заметка

Вярнуўшыся з Артэку, я адразу крэмзаю заметку ў "Піянер Беларусі" — і з удзячнасцю, і ад вялікіх уражанняў. Праз два тыдні заметка з'яўляецца ў газеце, і хоць пад ёй стаіць мой подпіс, мне здаецца, што пісаў зусім не я і не пра тое. Пачынаецца яна так: "У нашым артэкаўскім пакоі было 12 рабят. Батыр — з Узбекістана, Чынгіз — з Кіргізіі, Пятро — з Украіны, былі і сахалінцы, і хлопчык з Магадана, а мы, тры Сашы — з Беларусі..."

Пра сахалінца, хлопчыка з Магадана і "трох Сашаў з Беларусі" — гэта праўда. Былі такія. А вось Батыра, Чынгіза і Пятра нехта з рэдактараў проста прыдумаў. Была тады гэткая завядзёнка: падкрэсліваць інтэрнацыяналізм, нават сярод дзяцей.

За гэтую заметку мне робіцца гэтак сорамна, што дзве начы не магу заснуць. "Сашы з Беларусі", дый іншыя землякі, з якімі я адпачываў, заметку абавязкова прачытаюць. І што ж яны пра мяне падумаюць? Пустаслоў і пустазвон. Выдумляе, плешча немаведама што — абы надрукавацца...

У "Піянер Беларусі" заметак я болей не дасылаю. Толькі вершы.

А калі ж сам стану галоўным рэдактарам газеты, дык у рукапісах аўтараў буду толькі скарачаць і выкрэсліваць. І ні ў якім разе нічога не дадумваць і не дапісваць.

## Нітачка і клубок

На ўроку “разглядаецца” творчасць Максіма Багдановіча. Біяграфія, некалькі хрэстаматыйных вершаў... Аднакласнікі слухаюць напаўвуха, хіба што дзяўчынкі-выдатніцы нешта ўважліва занатоўваюць у сшыткі. Аднак жа іх, дзяўчынак, усяго пяць. Затое хлопцаў — ажно сямнаццаць (мусіць, таму наш клас называюць “дзікай дывізіяй”). У большасці з нас на тварах павыскоквалі прышчы, а таму-сяму наспела пара пагаліцца...

Мне, па праўдзе кажучы, трохі крыўдна за такую няўвагу да выбітнага паэта, бо, прачытаўшы ўсе ягоныя творы, што знайшоў у вясковай і школьнай бібліятэках, дужа імі захапляюся. Перад наступным урокам беларускай літаратуры прыношу ў клас досыць пульхны томік з вершамі Багдановіча. Нейкім чынам засяроджваю на сабе ўвагу аднакласнікаў.

— Вось паслухайце, як ён піша, — і пачынаю чытаць верш “Пачуццю цёмнаму падлеглая”.

Ты ўжо рассталася з уборам
І ў ложка шлюбнае лягла,
Свой сорам, свой жаноцкі сорам,
Дрыжачая, перамагла.
Хоць ведаеш: табе мучэнні
І нават мо канец жыцця
З сабой нakліча пры раджэнні,
Ірвучыся на свет, дзіця.
Ды абяссіленай душою
Ты можаш аднаго жадаць:
Каб семя бурнае мускоe
У нетрах цела пахаваць...

— Няўжо такое надрукавана? — пытаецца Коля па мянушцы Узбек. — Пакажы!

Пераканаўшыся, што я не маню, пытаецца:

— А яшчэ штосьці падобнае ёсць?

— Ёсць, і нямала! — пацвярджаю я і зачытваю яшчэ некалькі загадзя пазначаных “эратычных” вершаў. Дзяўчынкі, вядома ж, павыбягалі ў калідор, а хлопцы як ураслі ў парты...

Школьная бібліятэкарка потым будзе дзівіцца:

— З чаго б гэта “дзікая дывізія” выграбла з паліц усяго Багдановіча?

А настаўнік беларускай літаратуры на ўроках “па Багдановічу” не зможа паставіць ніводнай адзнакі ніжэй за чацвёрку, бо, нацешыўшыся “эротыкай” (ці шукаючы яе), мае аднакласнікі міжволі праглынуць і ўсе астатнія творы.

## “Партызаны”

З рускай літаратурай нашаму класу не шанцуе ўвогуле. Не, у школе ёсць выдатная выкладчыца — Тамара Вікенцьеўна Жукавец. Ейныя ўрокі вучні не прапускаюць ніколі, бо яны — як казкі. Вось толькі не нам гэткае шчасце...

У нас выкладае рускую літаратуру Валя Давыдава, якая сама толькі сёлета скончыла школу і паступіла на завочнае аддзяленне педінстытута. Мы ведаем, што яна з вёскі Мінкавічы (дарэчы, радзімы Міхася Парахневіча), а гэта значыць, наша, старадарожская.

Мы ўжо таксама амаль што выпускнікі і з недаверам успрымаем урокі, лічы, равесніцы. Тым болей што ўрокі гэтыя — якіх свет не бачыў...

Валя Давыдава, калі вучылася ў школе, мусіць, была звычайнай зубрылкай-выдатніцай і добра засвойвала напісанае ў падручніку. А як давялося самой тлумачыць "тэму і вобразы", губляецца, блытаецца, нібы няўцямная абітурыентка на іспытах. Пасля маіх мудрагелістых пытанняў яна пачынае дробна-часта міргаць і ўвогуле збіваецца з панталыку.

Аднаго разу Валя чытае нам вядомы верш Пушкіна, затым адкладвае кнігу ўбок і прапануе:

— А цяпер давайце абмяркуем...

Я з насмешкай раблю заўвагу:

— Ды вы ж не дачыталі верш да канца. Там, на наступнай старонцы, — працяг...

Яно і сапраўды так, таму клас выбухае з'едлівым рогатам, а Давыдава зноў пачынае дробненька міргаць...

Каб не заплеснявелі мазгі, я, насуперак заімшэлай школьнай праграме, у сачыненнях знаходжу апраўданне Раскольнікаву, абзываю Пугачова не народным заступнікам, а бандытам і рабаўнікам. Давыдава кідаецца ў жах і, вядома ж, з асалодай ставіць двойкі...

У рэшце рэшт урокі ператвараюцца ў лекцыі. Валя знаходзіць нейкі метадычны часопіс і пачынае надыктоўваць з яго артыкул па тэме. Прычым чытае па складах, каб мы паспявалі запісваць, і пільна за гэтым сочыць... Мне такая нудота зусім не па нутры, таму ў мяне ці "псуецца ручка", ці "ў стрыжні заканчваецца паста".

Мой маўклівы байкот у выніку перарастае ў сапраўдны бунт. Напярэдадні ўрока рускай літаратуры я прапаноўваю аднакласнікам "сысці ў партызаны". Гэта значыць, усім кагалам падацца ў хвойную пасадку, якая падступаецца да самае школы, і перасядзець там гэтыя сорак пяць хвілін. Усе, нават дзяўчынкі, успрымаюць прапанову з імпэтам. Па-першае, не трэба амаль цэлую гадзіну занатоўваць "дыктант Давыдавай", па-другое, усіх, агулам, не пакараюць. Да таго ж завадатар — сакратар камсамольскай арганізацыі, і калі што — яму найперад і перападзе.

Пасля дзвюх-трох "партызанскіх вылазак" пачынаюцца "допыты". Дырэктар школы Уладзімір Ліцяеў (Валя Давыдава паспела выйсці за яго, нашмат старэйшага, замуж) спрабуе высветліць, хто завадатар. Зрэшты, гэта ні для каго не сакрэт, аднак сведчанняў наўпрост нямашака. Можа, хтосьці і "заклаў" бы, ды наш класны кіраўнік, настаўнік фізікі Уладзімір Францавіч Сташэўскі, які добра ведае пра тое, што робіцца на ўроках рускай літаратуры і мне сімпатызуе, папярэджвае:

— Калі хто-небудзь пакажа пальцам на пэўнага чалавека, мецьме справу са мною...

Ці то спрацоўвае гэтая пагроза, ці то мае аднакласнікі сапраўды "загуляліся ў партызаны і не жадаюць выдаваць "фашыстам" свайго камісара", аднак здраднікаў не знаходзіцца.

Зрэшты, Валя Давыдава пад час выпускных экзаменаў адпомсціць мне як след: і па рускай мове, і па літаратуры, якую я, мусіць, ведаў лепш за яе, паставіць чацвёркі...

Неўзабаве Ліцяева перавядуць у Старыя Дарогі, маладая жонка, вядома ж, паедзе з ім і там, кажуць, з часам стане неблагой выкладчыцай. Аднак жа ці не задужа дарагім коштам дадуцца яе вопыт і майстэрства? Колькі

дзесяткаў ці соцень юных душ не змогуць прычасціцца да шэдэўраў рускай літаратуры, пакуль студэнтка-завочніца сама спасцігне азы навукі!

## Вайна вайною…

1968 год. У вёсцы толькі і размоў, што нашыя войскі “напалі на Чэхаславакію”. Людзі яшчэ не зусім адышлі ад мінулай, самай жудаснай вайны, таму, прыгнечаныя страхам, перамаўляюцца напаўголасу. Колісь немцы спалілі Пасеку амаль дашчэнту, засталіся толькі тры хаты, і тым, хто выжыў, доўгі час давялося шукаць прытулак у зямлянках. Вось і цяпер старая суседка Хведарыха кажа маёй маці:

— Я свайму чалавеку загадала яму на гародзе капаць, а бярвенні шчэ з леташняе зімы ёсцека...

Усе мужыкі, якія яшчэ ў сіле, штодня збіраюцца на стадыёне і ходзяць строем. Нават школьнага завуча Ярашэвіча, які кватаруе ў майго дзядзькі Семкі, не абмінуў гэткі лёс. Ён зусім малады, аднак высокі, пузаты, таму ў шарэнзе стаіць першым. Нам, дзецям, вельмі смешна назіраць, як Ярашэвіч пад каманду “аць-два, левай” няўклюдна перастаўляе ногі, несучы перад сабою чэрава. Смешна яшчэ і таму, што загады аддае несамавіты, плюгавы мужычок — калгасны конюх Цурэлік. Усе дзецюкі ў цывільным, і толькі ён адзін у вайсковый форме — пілотка, гімнасцёрка, галіфэ (мусіць, захоўваў з далёкіх часін дэмабілізацыі). На пагонах — барвовыя сяржанцкія лычкі. Цурэлік літаральна ўпіваецца сваёю ўладаю, і асабліва над Ярашэвічам, які штогод распякае яго на бацькоўскіх сходах за гультаяватую дачку...

І вось наспявае дзень, калі “прызыўнікоў” з усіх навакольных вёсак звозяць да сельсавета. Воддаль стаяць тры грузавікі з нарошчанымі бартамі. У стракатым натоўпе — галашэнне, слёзы, развітальныя словы.

Дзе я ўсё гэта ўжо бачыў? Ды ў кінафільме, у той сцэне, дзе мужыкі выпраўляюцца на сапраўдную вайну.

У натоўпе мітусіцца рыжавалосы хлопец, ён, пэўна, з іншай вёскі, таму пытаецца ў мяне, паказаўшы пальцам на адзінокую прыгорбленую хацінку цераз дарогу, акурат насупраць сельсавета:

— Чыя гэта хата?

Я ківаю ў бок кульгавай Марынкі, якая стаіць непадалёку, абапёршыся на кіёчак.

Хлопец падбягае да яе. Усяе размовы я не чую, адно толькі далятаюць абрыўкі фраз:

— Учора пабраліся... Нават пераспаць не паспелі... Нам бы хоць на пятнаццаць хвілінаў... Як жа без дзяцей... А раптам мяне заб’юць...

Крыху воддаль стаіць тая самая нявеста, зусім яшчэ дзяўчо. Краёчкамі хусцінкі яна прыкрывае ўсчырванелы твар, хаваючы ці то слёзы, ці то сорам.

Марынка, па ўсім бачна, дае згоду і кідае маладой пары ўслед:

— Дзверы не зачынены...

Я хоць і малы, але здагадваюся, для чаго ім спатрэбіліся тыя “пятнаццаць хвілінаў”, таму пачуваю сябе няёмка — нібы дакрануўся да чужой таямніцы.

Зрэшты, усё натуральна. Вайна вайной, а дзяцей нараджаць трэба.

*Працяг будзе.*

Алесь Аркуш



...І гэта будзе святам развітання
З мінулым – застаялым, шэрым, нудным,
З самім сабой, якім ты быў раней...

# Свята развітання з мінулым

### *ВЯРТАННЕ Ў ПОЛАЦАК*

Нас будуць сустракаць, як Гагарына,
Шампанскае адкаркоўваць на гаўбцах.
Мы плануем вяртацца па бульвары Скарыны.
З пажарнай вежы на галовы сыпануць канфеці.

Наперадзе нашай калоны
будзе граць “Стары Ольса”,
А над галовамі – імчаць дэльтапланы.
Вінцэсь Мудроў будзе шпацыраваць босы
Са слязой на шчацэ і ад шчасця п’яны.

Каля помніка Францыску Скарыну
Наша калона прыпыніцца на хвіліну.
Прамову скажа Лявон Баршчэўскі
Пра тое, што Скарына быў малец някепскі.

Затым калона рушыць далей па бульвары,
А Сокалаў-Воюш дастане сваю гітару,
Будзе спяваць пра невядомага касінера,
Які аддаў жыццё, каб не знікала наша вера.

Ля помніка Цэнтру Еўропы
Уладзя Лобач распавядзе легенду пра цыклопа,
Новую, запісаную ў апошнюю экспедыцыю,
Якую ладзілі студэнты
на Верхні Замак, за бальніцу.

Каля Сімяона Полацкага Якуб Лапатка
Будзе чытаць вершы манаха гладка
У перакладзе на фінскую мову, мовячы,
Каб было зразумела нават на поўначы.

Ну а ля помніка "У нескладоваму",
ад перадозы любові,
Уладзя Арлоў насмеліцца праспяваць
песню Бон Джові.
Яму падыйграюць на губных гармоніках
Аніса і Ален – два рокеры-законнікі.

І я там быў,
Кока-колу піў,
Чытаў вершы ля помніка Тарычу,
еў вінаград і алычу,
пра астатняе прамаўчу.

### ***ПЛАЦІНА***

Сяджу над плацінай, як Бог над сусветам,
Вясёлка ўнізе між пырскаў мне свеціць.
Уверсе каметы – як авіяшоў –
Па парах ляцяць, паглядзі, проста шок.

Вада аглушае, як выступ Грэнд Фанка,
Хоць гэта Пліса, а не арыі Ганга,
Сваёй гіпнатычнасцю вабіць, як Вій,
Гучаць мае модлы: не ўкрадзі, не забі.

Дарэмныя толькі мае хваляванні,
Плаціна пра іншае думае ўранні:
Калі першы промень кранецца вады,
Ты надпіс убачыш, які праз гады

Выразна ільсніцца на засаўцы шлюза –
“Люблю цябе Таня”. Няма ўжо Саюза,
Няма тых людзей, што плаціну ўзвялі,
А надпіс жыве й будзе жыць на зямлі.

* * *

Нічога не можа здарыцца,
А можа хіба паўтарыцца.
Гульня пад назовам “Матрыца”
Павінна перагрузіцца.

* * *

Калі Пліса разліваецца да Зарэчча,
Напаўняючы ўсю пойму веснавой вадой.
Тады я прашу, нават кленчу,
Трасучы сваёй ужо сівой барадой,

Каб вярнуцца ў дзяцінства і на шалёнай маторцы,
Праімчацца між хмызоў разняволенай ракой,
Каб ля ДК ДРЭС стаяла на горцы,
Дзяўчынка адна і з усмешкай махала рукой.

## ЗДАРЭННЕ НА КАЦЯРЫНІНСКІМ ТРАКЦЕ

Мы беглі за карэтай імператрыцы,
Якая праязджала праз Жодзіна,
Магчыма ў Варшаву, а можа ў Ніцу,
Цяжка было даўмецца па яе паводзінах.

А была яна нейкая злосная,
І хустачкай манерна прыкрывала свой твар.
Паглядзела на нас напышліва грозна,
Як у цемру глядзіць апошні ліхтар.

Ахоўнік імператрыцы выцяў нас пугай
І на ўсё горла загарлаў: – Кыш!
І ў той самы момант паляцеў над лугам –
Гэта з рагаткі яго збіў наш Кібальчыш.

## ПРАГУЛКА НА БЕЛАЗЕ

Даўнюю маю мару – праехацца на БелАЗе
Па вуліцах роднага Жодзіна:
Сігналіць красуням-модніцам,
Трымаць нагу цвёрда на газе.

Заеду на стадыён «Тарпеда»,
Каб круг зрабіць з развароту,
Адзін, каб паспець да абеду
Вярнуць аўто для завода.

Дазволю ўявіць пагоню,
Крыкнуць на ўсё горла:
Нас ніхто не дагоніць!
Нас ніхто не дагоніць!

Затым пракачуся да ДРЭСа
Па родных з маленства сцяжынках.
Будуць мець добрага стрэса
Улады свае – з Дзяржынкі.

* * *

На жаль, машына часу не існуе,
Каб выправіць памылкі ў мінулым.
Зайсвойваць урокі застаецца,
Канспектаваць, як пачаткоўцам-вучням,
Не прамінаючы ніводнае драбніцы
З падзеяў прамінулых і вірлівых,
Высновы робячы ўласнымі глуздамі,
Не слухаючы голасу чужынцаў,
Гартуючы ў сабе змагарскі дух.

Тады адрозніш ты беспамылкова
Гук таямнічы, гук тваёй свабоды, –
Нібыта пошум хвояў гонкіх,
Ці зумканне чмяля над кветкай канюшыны,
Ці свіст стралы, што ведае свой шлях.

То будзе граць сурма ў дзень паводкі,
Якая нечакана завіруе
Вакол цябе шалёным карагодам,
І панясе, і панясе на хвалях моцных
Маленькі карабельчык тваёй мары,
Адкрыўшы для яго ўвесь сусвет.

І гэта будзе святам развітання
З мінулым – застаялым, шэрым, нудным,
З самім сабой, якім ты быў раней.

І гук сурмы надзвычай узмацніцца
Калі твой сцяг нарэшце залунае
Вышэй за ўсе вязніцы на Зямлі.



# Чэславу Мілашу прысвячаецца…

*Сёлета конкурс маладых літаратараў, абвешчаны Беларускім ПЭН-цэнтрам, быў прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша. Можна было дасылаць свае творы розных жанраў – паэзію, прозу, эсэістыку, а таксама пераклады. Гэтым разам удзел у конкурсе ўзялі 136 маладых літаратараў, якія мелі ўзрост не больш за 25 гадоў. Сябры журы, у склад якога ўваходзілі Ігар Бабкоў, Лявон Баршчэўскі, Марыя Мартысевіч, Барыс Пятровіч, Сяргей Сматрычэнка і Андрэй Хадановіч, перачыталі ўсе дасланыя творы і абсалютна аб'ектыўна (аўтары былі зашыфраваныя) назвалі лепшых з лепшых…*

*Гэтым разам пераможцамі конкурсу сталі:*

*Юлія Аляксеенка (пераклад)*
*Маргарыта Аляшкевіч (паэзія, проза)*
*Алеся Башарымава (паэзія)*
*Дар'я Вашкевіч (проза, пераклад)*
*Ася Волкава (паэзія)*
*Андрэй Вылінскі (пераклад*
*Кацярына Глухоўская (паэзія, проза)*
*Марыя Іванова (паэзія)*
*Павел Капанскі (паэзія, проза)*
*Уладзь Лянкевіч (паэзія)*
*Анна Мананкова (паэзія)*
*Паліна Маслянкова (пераклад)*
*Віялета Пачкоўская (паэзія, пераклад)*
*Антон Рудак (паэзія)*
*Аляксандр Філіпенка (проза)*
*Ганна Янкута (пераклад)*

*Дыплом другой ступені атрымалі:*

*Яна Аляксеенка (паэзія)*
*Саша Ветрава (паэзія)*

***Алена Запарожац (проза)***
***Алесь Емельянаў (паэзія)***
***Алена Карп (паэзія)***
***Марына Лугавая (проза)***
***Кацярына Мацієўская (пераклад)***
***Іна Мельнікава (паэзія)***
***Ліда Наліўка (паэзія)***
***Алесь Плотка (паэзія)***
***Марыя Пушкіна (пераклад)***
***Алена Пятровіч (пераклад)***
***Уладзімір Садоўскі (проза)***
***Мэры Сіндром (паэзія)***
***Ганна Спорыш (пераклад)***
***Максім Субач (проза)***
***Алесь Танкевіч (паэзія)***
***Зміцер Цярэнцьеў (пераклад)***
***Вольга Чайкоўская (паэзія, проза)***

***“Дзеяслоў” віншуе ўсіх маладых літаратараў, чые тэксты былі адзначаныя журы, зычыць ім плёну (а таксама раіць не спыняцца на дасягнутым, бо – галоўныя поспехі і ўзнагароды яшчэ наперадзе!..), і, па добрай традыцыі, друкуе творы і пераклады пераможцаў.***

## Юлія АЛЯКСЕЕНКА

### Паўліна СТЭЙНЭР

#### *СОТЫ*

...а зранку апынуліся на ложку.
Не ведалі пра існаванне жоўтых сот
Між дрэвам і тынкоўкаю сцяны.

Ужо стагоддзе пчолы зімавалі
тут, і знявольвалі свой цукар
у цнатлівы воск.

У міжсезонны час –
Вясну і восень – скалыналі дом
дрыготкай крыльцаў.

Ён далонь прыціснуў да сцяны,
Быў ранак травеньскі, і ён адчуў згасанне
іх юру: усё слабей. Слабей. Слабей,

Ды нават ужо не праз адну зіму,
Падносячы да свечкі запальніцу,
Не мог забыць трымценне той пяшчоты

Той першай раніцы пчаліную гуду.

## Саша ДАГДЭЙЛ

* * *

На гарышчы ў шыбу лье святло,
Наросхрыст дзверы,
Ты ўвагі не звяртаеш.
Стаіш у паліто глыбока ў думках.

Скрозь дзверы ўлятае птушка,
У паветры цёплым
Набірае хуткасць,
З вакна – ў нябёсы, і з вачэй знікае.

Магло здарацца тое раз за разам:
Паўколы цішыні,
Жыцця струмені,
Упэўненае дыханне планеты.

Я там стаяла, моўчкі гледзячы,
Ды ты мяне не бачыў.
Я паклала табе далонь на плечы,
Але ты не адчуў.

Я хутка ад сябе сыду, я знікну
На даляглядзе.
Ты звернеш увагу?
Ты ў паліто стаіш, і ты чакаеш.

## Кэтлін РАЙН

### *ЗАМОВА СНУ*

Каб у сне ён быў у небяспецы,
Як ліст малады пры дрэве,
Як птушка на моцных крылах,
Як кветка ў сваім бутоне.

Каб у сне ён меў абарону,
Схаваны, бы выспа – злівай;
Укрыты, бы горы – хмарай;
Нябачны, бы дол у змроку.

Хай сон прынясе свабоду:
Свабоду марское хвалі,
Свабоду вятрыскі ў стэпу,
Свабоду вандроўных зорак.

Шчэ дай яму, сон, моцы:
Бы воблаку – свежы вецер,
Нібы камяню марскому
Дае надыход хвалі
І адкрыццё пяшчотных
вуснаў ружовых ракавінак.

Спашлі яму, сон, лекі
Ў ціхія воды ночы,
У возера-люстра сненняў:
Каб больш не балела памяць,
Каб духу была палёгка,
Каб сэрцу было ўтульна.

## Гвінэт ЛЬЮІС

### *ВЯРТАННЕ*

Дзве рэчкі, што злучыліся ў адну;
менш словаў, больш на ўвазе; поле льну
па звычцы родзіць; выйгрываць вайну

трываннем; спусташэнне дзён звыш меры;
вяселле; восень; даказаны верай
і відавочны алгарытм; вяртанне ў дом

да нібы новага, ды добра ўжо вядом-
ага; не дзеянне – быццё, і так ісці
цяпер у бясконцасць; кон знайсці

адзін сярод шматлікіх, уласны кон:
пад зліваю раскладзены агонь;
моц кіраваць і тыграм, і сабой.

## Сайман АРМІТЭЙДЖ

### *КРЫК*

Мы выйшлі
ў школьны двор, я з тым хлапчынай,
чыё імя ды твар

не прыгадаю. Мы тэставалі моц
крыку чалавека:
ён мусіў крыкнуць так, як толькі мог,

я мусіў узняць руку
здалёк, каб даць сігнал,
што голас быў пачуты.

Ён крычаў праз парк – я ўзняў руку.
З-за межаў нам дазволенай прасторы
гукаў, з канца гасцінца,

з падножжа кургана,
з яго пляцоўкі для агляду –
я ўзняў руку.

Ён з'ехаў, каб памерці дваццаць год таму
на захадзе Аўстраліі ад дзюркі,
прабітай руляй стрэльбы ў паднябенні.

Хлапец з імем і тварам паўзабытым,
ужо до крычаць, бо я й дагэтуль чую.

*Пераклад з ангельскай.*

## Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ

### *І. СУТКІ*

**РАНІЦА**

Словы тоўпяцца на ганку
зранку.
Я сашчоўкну ім на згубу
зубы.
Не ўпалююць і не зловяць
словы
мой нявыспаны і голы
голас.

**СЁННЯ**

Недапечаны ранак, сыры ды маркотны, прынеслі.
Што рабіць з ім? Хіба ў кішэню да заўтра пакласці,
мо даспее... А сёння – гарлаць зухаватыя песні
і скакаць цераз лужыны коньмі гумовае масці.

**ВЕЧАР**

Льецца басанова ў цёплым вечары
па пяску, слядамі пакамечаным.
Вецер пазяхае ў рог бамбукавы,
так ляжым, ахутаныя гукамі,
танчым хвалям танцы пракаветныя,
на тымпанах сэрцаў грэем рукі мы...
Ноч плыве, бязгучнае каноэ,
мнуць і месяць месяц нашы ногі.

**НОЧ**

Мне бачна поле ў жалезныя краты ложка:
з матраса сыплецца выснелых мараў смецце,
кастрыцу ў кайстру збірае на полі вецер,
на зжатым полі самотна глядзяць валошкі.

Ці прыйдзеш ты пільнаваць са мной зоры ў полі?
Ці, можа, ты тут прынамсі забыўся вілы?
Сплятаю коўдру з туману й балотнай цвілі,
па ножцы вусень паўзе, пад'ядае хвілі...

(хай вусень скажа вам – той не прыйшоў ніколі,
вярнуўся ложак да роднай сцяны і столі)

## *II. ГОД*

**ВЯСНА**

Заблытаўся клічнік да гукаў, працяглы ды гулкі
ў дасюль безлістотным
ды ўжо абясснежаным вецці.
А заўтра пачне сакавіта-раскаціста булькаць
і шчэбетам ліцца, травой лапатаць па-над смеццем,
пакуль жа лунае
над безданню мокрых завулкаў
абронены клічнік да гукаў паўднёвага ветру.

**ВЯСНА-вандроўная**

Так абрыдлі бяссільныя капяжы,
хоць бяжы і багаж пакідай на мяжы,
і на жоўтым аўтобусе ў тым кірунку,
дзе зямля выганяе не сокі – трункі,
дзе сонца звісае з неба выспелай чэры,
дзе сонца мяне зацалуе ў мой голы чэрап,
дзе вецер густы ад спеваў, хоць маж на хлеб,
дзе хлеба няма, чорнага хлеба, затое рыкае леў,
дзе босая дзеўка смяецца і б'е ў тамтам –
не плач па мне, хлопча, я буду шчаслівай там.

**ЛЕТА-рыцарскае**

Рушым хутчэй пад альховыя шаты!
Трубы трубяць і знамёны – узняты,
хрушч закаваўся ў блішчастыя латы,
ставяць шацёр павучыхі заўзята –
тут жамярыцы збярэцца багата:
будзе абрынуты месяц рагаты,
ўсыплюць і зоркам, яго памагатым,
а на світанні, вясёлы і даты,
рыцар зляціць пераможна дахаты,
там – па язміне гайдалася плётка –
прыз зачакаўся, красуня палётка.

**ЛЕТА-сепія**

Паважна лета вырасце за плотам,
сланечнікі з'ядуць замшэлы дах,
цыкады ладзяць фэсты па начах,
а светлякі хіпуюць на балотах.

Асфальтавая лужына, глядзіце,
люстэрка смелае – пакажа твар
няісных гарадоў, нядзейсных мар...
Капае певень золата ў карыце.

Дождж выбівае на лістоце скерца,
і зіхаціць, і ўсё шкада крануць.
У сепію вам раю загарнуць,
Сусвеце, ваша залатое сэрца.

**ЛЕТА-лес**

Вільготным ротам лес цалуе хмару –
яна, бязвольная, дрыжыць над ім;
пяе ад шчасця ля шчакі камарык,
між крыльцаў таньчыць ветрык слюдавы;
у гэтым лесе спачывае Бог,
Ён плавае ў зялёных вершалінах...
Хачу па вушы закапацца ў мох
і з мурашамі бегаць па маліны.

**ВОСЕНЬ**

У мяхі зграбае пазалоту
дворнічыха. Срэбныя ўспаміны
заплятае ветрык ёй у грыву.`
Пасміхнецца дожджыку, што крыва
пасміхнуўся ёй ды крочыў міма,
заграбе ўсё – нам пакіне слоту.
Скураныя зноў начысцяць боты
сівер ды кудаса. Імяніны
зладзіць гораду сняжок, арыве-
дэрча скажа, пасміхнецца крыва,
знікне да вясны. Па голых спінах
брукаванак пешаходзяць роты,
стомленыя, без якой ахвоты.
Грып грызе іх, жвакае ангіна,
СМІ сігналяць, бы псіхічных зрываў
более. Кляне псіхолаг крыва
тую, хто, ён лічыць, ва ўсім вінна.
У мяхах пацвіла пазалота.

**ВОСЕНЬ**

Па ссівелым небасхіле
ледзьве соўваюцца хмары
што бароды адрасцілі
да прамоклых тратуараў
і аслеплае кранае
сонца пальчыкам за плечы
дабрыдзе да небакраю
дзе ў тузе зязюля енчыць
Панна Восень аксамітам –
туманамі засціць вочы
лета ў слоіку закрыта
і схавана ў царства ночы

**ВОСЕНЬ (яшчэ адна, ага)**

З нябёсаў ссыпаюцца крылы й багі,
б'е лужы люстэркі злы месяц з нагі,
крышыцца ды коле крышталь дарагі,
рыпяць у сусветаў іржавыя восі –
цягаюць на возе памерлую восень.

**ЗІМА**

На крылах цішыні злятае снежань,
крадзецца да канапы белы кот –
прыйшоў на пругкіх лапах новы год
і побач лёг глядзець, як лепіць вежы
завея-волатка. Вакол яе вальсуюць
сланяты, не шкадуючы пуант.
Ад ветракоў шалее Расінант,
мчыць за аблокі, што зіме пасуюць –
на белай шыі мяккіх перлін нізка.
А як расчэпіцца, дык паляцяць уніз,
загрукацяць на дах і на карніз.
Глядзі, мой кот. Вясна яшчэ не блізка.

## *III. ПАКУЛЬ НЕШТА ТАМ ЦВІЦЕ*

**ПРЫЗНАННЕ**

Вось я
на тваёй далоні
ідыётка
сяджу
нагамі боўтаю
цябе кахаю

**СУСТРЭЧА**

Мне ў лесе стрэўся добры рыцар,
ён ведаў шлях і смешна падаў,
каб толькі пані не сумецца,
што пані пешка й вершнік – ён.
А потым ён вярнуўся ў цемру.
Нашто здалася мне карона?
У ёй няможна басаножыць
і ў вочы добрыя глядзець

**ПАДАРУНАК**

Кудзелю блакіту ў хмызах расплятаюць сініцы
вяжу капялюшык
прыдумкі пятляюць па спіцах
кавалачак сонца далонь пацалункам праніцаў
і дорыць вязанцы агністыя цёплыя ніці
вяжу капялюшык
мой дружа ці будзе насіці?

**ІРЫСКІ**

Чакаю цябе
на чыгунцы
са жменькай ірысак

Хачу на салодкае
выманіць
твой цягнік

І – ён!
наляцеў!
пазяхнуў агнём твараў!
ды знік

На выспе самоты
кішэні выпальвае
прысак

**ЛЮСТЭРКІ**

Маё прагнае цела, што хоча і хоча, і хоча, –
толькі вокладка духу, што хоча насамрэч больш.
Не знайшоўшы цябе, які ведае гэты боль,
пазавешу люстэркі – у іх канібальскія вочы.

## *IV. ЗАЎСЯГДЫШНЯЕ*

**СТРАХ**

Спусціць з сябе тры скуры
і трыццаць тры –
і не знайсці нічога
ўнутры.

**ДЫЕТА**

Ёсць Божы дар – а ёсць і пакаранне
за ганарыстасць. Гэта як праз шкло
глядзець на торты – слінкай пацякло,
але не спраўдзіцца жаданне, паяданне.

І вось, табе дазволена глядзець,
і бачыць, і назваць інгрыдыенты –
а не куснуць! З танталавай дыеты
я вар'яцею – і муштрую хэнць.

**ПАРАШУТЫСТЫ**

Шмат(па)кутнікі выпасу аблачынак,
прастрыгаю іх статак волкі,
так – я падаю, самым нягеглым чынам,
упусціўшы сваю вясёлку.

А яна глядзіць на мяне, апусціўшы рогі,
шчыра зычыць зямліцы пухам,

слухай – крычу праз вецер – ну слухай,
пагушкай яшчэ нямнога!

**КУФАР**

У шафе бабулінай куфар з дзівоснай разьбой,
чырвонага дрэва, жалезам паўсюль акаваны –
такія, напэўна, прывозяць здалёк караваны
праз спёку і смагу пустыняў, самум і разбой.
А што ў ім? Цікую, цягнуся з дрыготкаю рук...
Духмянасці, спецыі, бутлі няведамых трункаў?
Муар, ці муслін, ці запас найтанчэйшых  карункаў?
....на пыльных вянках павуціны засохлы павук.

**ВЕЖА**

*Рапунцель, Рапунцель, проснись,*
*спусти свои косоньки вниз*

Я не крыўджу сланоў, каб сабе збудаваць сваю вежу,
не шукаю і месца таго, што на свеце няма.
Ды навошта? Пашыю для вокнаў цнатлівых адзежу,
Незаўважна, ціхенька за рондлямі знікну сама.

Ты не знойдзеш мяне ў іншасвеце, дзе пані аўсянка
ладзіць балі на кіпні. А з вежы – не знойдзеш шляхоў.
Ад пліты да лазенкі, ад зэдліка да фіранкі
– гэй, Рапунцэль! –
Рапунцэль штодня не чуваць галасоў.

## V. СВЯТЫ ПАГАНСТВА

**ДЗЯДЫ**

Яна выходзіць з сваёй труны,
калі сплывае крывёю ветах.
Яна кладзе грым і пляце вянок
    з дзьмухаўцоў і папараць-кветак,
каб у пыле пыльцы яе не пазналі мы,

яна выходзіць з сваёй труны
у мёртвым ззянні заклятых скарбаў,
і лаюць лісы на звышнатуральнасць фарбаў,
і перамінаюцца нецярплівыя груганы.

Цішотка й джынсы паверх касцей,
ядваб сатлелы ў старой камодзе,
яна выходзе глядзець, а мо дзе
жывое сэрца згубілася між асцей.

Не стой, дурыла, бяжы хутчэй,
як стрэнеш наўку пад чорнай грушай,
цябе ў абдымках яна задушыць
і вып'е смагу з тваіх вачэй.

(Стрымайся, позна, не бі ў званы,
салодкі мёд на бяскроўных вуснах,
яе пацалункаў п'янкая вусціш,
сухога верасу дываны...)

**РАДАЎНІЦА**

Калі ў горадзе ўсё дадзела,
я іду на клады, да дзеда,
там зязюля кувае звонка,
паляжу і паслухаю ніцма,
перад тварам у травах гронка –
дзед працягвае мне суніцы.

**СЕРПЕНЬ (ТРОІЦА, РУСАЛЬНАЯ НЯДЗЕЛЯ)**

Ох, нядобрае ў серпеня вока!
Пан рандо капытком выбівае,
барадзёнка зіхціць смаляная
ў лісці цемры – ці мроіцца? Гаю
ноч ажурам жуду заплятае –
ці ўсё морак? Жалейка рыдае –
пэўне, вецер... Маркотна... І рокат
нарастае... І з кожным паўкрокам
безуважным – бліжэй... Відмы хораў
кружаць голаў, і хутка ад скокаў
набрыняе дурманлівым сокам
жаху й жарсці саколка. У змроку,
як націнку сярпом, абдымае
морак-пан... Серпень вострыць
вока

**КУПАЛЛЕ**

Кветка гаротная, ой на Купалу на Йвана,
Мне на палын алергія здаўнаканавана.
Ой, не цябе, кветка горка, я ўпарта шукала
логамі й цёплымі доламі пана Купалы –
кветку агністую ў косы калісь заплятала,
лёты да стомы, нябёсаў лілейных замала,
хвалі мяне калыхалі ды пелі мне ўхвалы...

Тут на пагорку душу ўсю вятрыску расчхаю,
Ну цябе, кветка, пайду я дадому да чаю.

**ПЕСНЯ ДУШЫ**

Шэрым шоўкам блішчастая скура,
рвецца ў вецер калматая грыва,
ён адліты з свабоды й парыву,
седакоў адным зіркам прапсюрыць.
Гартаваны віхурай і змрокам,
ён не дасца нікому заброцаць –
дзе б ні лётаў, трымайся далёка,
а да нас не прыходзь, не прыходзь.

*(прыпеў)*
Наш наймоцны саўгас,
слаўны трактар у нас –
той, што мацае экспарту далі.
Каб імпэт не пагас,
з стайных коней кілбас
мы саўгасцам па картках раздалі.
Аж звініць поўны золата колас,
як кранае яго рупны жыцень –
уздымаюцца тыя, што ніца
паваліла вядзьмарка ў заломе.
Валасы твае – рудыя змеі,
цела з цёплае плавіцца медзі –
ты схавайся пакуль у суседзяў,
а да нас не прыходзь, не прыходзь.
Наш наймоцны саўгас,
поўна дзевак у нас,
бо не ўсіх жа той экспарт адолеў.
Каб імпэт не пагас,
раз на год дорым прас
і мядзяху – медаль за надоі.
Багавінне яму барадою,
яго чорны калюжныя вочы,
у трыснёг ён замовы шапоча –
і ўжо сомам пільнуе прадонне.
Голас твой то шапоткі, то звонкі,
твая моц наталяе і гоіць –
выбірайся ты з Прыпяці вонкі,
шчэ да нас не прыходзь, не прыходзь.
Наш наймоцны саўгас,
мілярацыя ў нас –
хоць на экспарт! А што журавіны,
торф, самы і папас
пераводзяцца ўраз –
гэта контра паганая вінна.
*(брыдж)*
На Купалле яны прыляцяць,
будуць родны куты аглядаць –
там, набраўшыся, спяць камбайнёры.
Хлеўнік, жыцень, вядзьмарка, амутнік,
Чым спатоліць зямлі маёй смутак?
Чы не ведаюць, чы – не гавораць...
Наш наймоцны саўгас,
чаша поўная ў нас,
чым багаты – і вам перапала.
Каб імпэт не пагас,
кажуць зоркі нам клас
па ўсіх трох тэлебачных каналах.

**НА КРАІ СВЕТУ**

Свет зацярушвае трухой,
а я на краі свету

жыву у вежы, пад страхой,
і муж мой ветах.

Заўсёды стомлены, стары,
спаўзае мой дахаты
і спіць па содні два ці тры
пад зорным гафтам.

Сляпіцай сонца лезе ў дом –
і золата, і краскі,
частую госця гарбузом
і баю казкі.

У невідочную пару
душу самота цвеліць.
Дрымель і красаўкі вару,
густое зелле,

Ты выпі, ясік мой, да дна
маіх жывільных сокаў,
каб зноў ад змроку да відна
па небе скокаць.

Паўзе туман, на дол глядзіць
і долы доіць.
Трасе рагамі маладзік
над маладою.

**P. S. ТУТАВЫ**

Халодна дно студні і волка.
Апоўдні далёка ўгары
цікаўная зорка гарыць.
Мы з ёю ў сусвеце дзве голкі,
згубіліся – сонны кіроўца
ўсё сена ціхенька растрос,
а потым згубіўся і воз...
Міргаю дарэмна зорцы:
ляжацьму, пакуль не зматаю
ў шаўковыя коканы час.
А выкуклюся – якраз
каб znічку злавіць з небакраю.

## Алеся БАШАРЫМАВА

* * *

ты прагнеш верным быць? – прагні
свой хвост пад сонца ледзяное
і ноч пры ночы дзень пры дні

нясі між безданню й сцяной
а потым пакладзі ля ног
таго хто дзякуе адданым
і мае цэлы стос бліноў
вялікіх зорак са смятанай

* * *

балотнае цеста ткнуць яго рукі –
то й гнецца балота
я статкі шукаў я ўзышоў на гару – і
яго не было там
я статкі знайшоў і закляў у каменне
бо дзе ён пастух?
зямля уздыхнула пры гэтакай змене
хто жыў ёй той стух
шурпатай расою жывіліся доўга
пад павадыром
як слухалі вы яго – чулі не тога
гара чула гром
а я чуў ягоныя крыкі свабоды
я чуў яго песні
пакуль вы смакталі скалу і усходы
быллё елі з плесняй
і вось я прыйшоў каб знайсці пры вас дзеда –
ці ў шчасце? ці важна?
паскіданы крокі, вятры з мяне здзеты
о статкі! я ваш

### *ГНЕЎ*

Глухое прадонне падлогі –
над ім махаю мятлою,
матляю ілбом,
набрынялым, нібыта рогам,
адзінай упартай думкай – пусці на маю дарогу! –
але не йду напралом.

Гнілыя галовы гневу,
і чорны вугаль, і сонца
пад сінім павекам неба.
Шапчу, уплятаючы ў крыкі
ціхіх стогнаў лагчыны,
маленняў храбты –
мне хіба шлях не адкрыты,
як гневу чужога ірты?
Вісяць запэцканыя лычы,
намаляваныя пэндзлем мятлы,
здольным сягнуць долу –
і не вырвацца з рук.
На далонях маіх мазалі каляровыя,

я па скронях размазваю іх,
абціраючы пот,
абціраючы грукат
у скронях
гарачых.
Я крычу сабе – зараз! –
і стомаю ўздрыгваю – потым! –
гэты рух – паралюш,
і раз'юшаных твараў рып
скача ў цела маё
па прагалах майго існавання:
я глытаю паветра –
і крыкаў асіплых лам'ё
апускаецца ў цела маё –
і знікае ў катле яго нетраў.
Я матляю мятлой па-над нечым сатлелым,
чорным вугалем, попелам, попелам белым,
над сатлелым святлом,
я ганяю паветра –
сіні холад кладзецца на лоб,
як на вока – павека...

* * *

ветах мружыцца вокам старэчым
разьбяры на ім рэжуць зморшчыны
іншым разам стары закрэкча
высцілаючы мора мошчамі..
пыл на хвалях дыбіцца – але не хвалюйся

марна яго змятае ў кучы – і марна
ямы выкопвае ў моры вецер
мінай іх не агінаючы іх
лашчы бакамі сваёй судзіны
ядваб юрлівай вады
тузае хай віскуцень твой ветразь
ветразь прымае гульню

шторм слепіць хмарамі ветах і
таму ты як выслепак верыш гатовы
мільёны стыхіяў перамацаць кіем
гатовы нечакана датыкнуцца да выспы – і здрыгануцца:
ейны маяк працуе
?

* * *

вось такая беларусь
багнай плясь лясамі хрусь
птушкай чыўк завеяй шорк
сонца мяккае як шоўк!

# Дар’я ВАШКЕВІЧ

## Гісторыі маленькіх смерцяў

***

Ён ёй: “Давай будзем кахаць адно аднаго да смерці!”

Яна яму: “Не, дзякуй!”

Ён: “Падумай толькі: у нас з табой наперадзе — вечнасць!..”

Яна: “Донт проміс мі форэва, джаст лаў мі дэй бай дэй...” – ну, класіку спявае, з Сашы Рыбака.

Ён пайшоў і павесіўся. У іх ніколі не супадалі музычныя густы.

***

Верачка атруцілася, бо бацькі не набылі ёй скутэр.

Яна акуратна вывела “А вось атрымайце!” на снежна-белым хрусткім альбомным аркушы, выпіла тры пакункі парацатамолу, падумала і выпіла яшчэ два. Потым з’ела халодны пельмень, што самотна туліўся ў рондалі, пачысціла зубы, падфарбавала вусны драматычнай чырвонай памадай, апранула белую саколку з карункамі і прыгожа лягла на канапе.

Потым раптам узгадала, што яшчэ варта было б памыць валасы, але ўжо не паспела.

Так і памерла з нямытымі.

***

Вераніка працавала балерынаю ў Тэатры. Трэніравалася штодзень па 10 гадзінаў, сцірала, як водзіцца, да крыві пальцы на нагах і снедала аўсянкай на вадзе. Бацька Веранікі быў галоўны дырыжор Тэатра, маці — памочнік рэжысёра. Яны абодва дужа ганарыліся дачкой, якая падавала неблагія надзеі.

Вераніка, тымчасам, таемна марыла аб прафесіі кандытаркі. Ёй штоноч снілася, як яна залівае танюткімі нітачкамі карамелі амаль гатовы торт “Банофі”, прапітвае каньяком бісквітнае печыва для цірамісу, узбівае смятанку для фруктовага пірага і растапляе чорную чакаляду для фандзю. Аднак ніколі ў сваіх снах Вераніка не каштавала гатовых дэсертаў.

Аднойчы Вераніка сасніла, што гатуе піражныя “Бульба”: яна скручвала халодныя шарыкі ды ўкачвала іх у гарэхі і цукар. Шарыкі атрымліваліся такімі шурпата-прыязнымі ды пругкімі, што Вераніка, урэшце, не вытрымала спакусы ды паклала адзін з іх у рот. Гэткае феерыі смаку Вераніка не памятала ад часоў дзяцінства: ноткі ванілі перапляталіся з водарам какао, арэхаў і — зусім крышачку, ненавязліва — карыцы. Вераніка прыглынула шарык і ўзяла яшчэ адзін. Потым яшчэ. І яшчэ...

Бацькі знайшлі здранцвелую Вераніку зранку.

Паталагаанатам канстатаваў смерць ад завароту кішак. У страўніку Веранікі знайшлі рэшткі 48-мі піражных “Бульба”.

***

Пісьменнік Саша, насуперак модзе, быў філантропам: лёгка заводзіў знаёмствы, з гэткай жа лёгкасцю іх падтрымліваў і прывозіў сябрам з замежных паездак магніцікі. Сябры яго любілі — за магніцікі ў тым ліку. А яшчэ за тое, што Саша часцяком частаваў іх алкаголем.

Аднойчы Саша піў з немаладымі літаратурнымі крытыкамі ў бары “Кефір”.

“Чулі? Лёшка Грынько кніжку сваю апошнюю на амерыканскі грант надрукаваў. Няяя... Нешта зусім безгустоўны народ — амерыкосы, калі на такую бязглуздзіцу бабло выдаткоўваюць...” — мовіў літкрытык Раевіч і задумліва перакуліў унутр сябе чарку.

“Не кажы, Рома,” — падтрымаў калегу літкрытык Кандрушэвіч і, хруснуўшы неабгрунтавана дарагім салёным агурком, дадаў: “Га...но гэтая Амерыка!”

“Амерыку не трожце, сволачы!” — раптам схамянуўшыся, нема крыкнуў Саша, ударыў сябе кулаком у грудзі... згубіў раўнавагу і ляснуўся з высокага барнага зэдліка долу. Падчас падзення ён выцяўся скроняю аб востры край барнай стойкі ды вокамгненна сканаў.

Літаратурны бамонд быў глыбока ўзрушаны Сашавай смерцю. За спачын ягонай мяцежнай душы пілі тры з паловай месяцы.

***

Ніначцы жыццё абрыдла неяк нечакана і беспадставова, але моцна. Аднак, каб самой накласці на сябе рукі, Ніначка не адчувала патрэбнае смеласці. Таму яна вырашыла не валындацца з рознымі атрутамі-мыламі-вяроўкамі, а проста выклікала таксо, пад’ехала на ім да Цэнтральнага Сквера і, абняўшы нагу бронзавага Голуба Міра, голасна і абыякава крыкнула: “Не!”

Спраўдзіўшы Ніначчыны чаканні, у ейны чэрап адразу ўпілася меткая куля. Было небалюча й хутка — як і марыла Ніначка. Праўда, балюча потым было ейным сваякам, але гэта не мае дачынення да Ніначкі, бо яна болей не жыве. І, магчыма, мае рацыю.

***

Адзначыўшыся на прахадной а 9:07 у панядзелак, працаўнік Бягомльскага заводу мясных ды кілбасных вырабаў Алег Макаранка хістка рушыў у цэх №3. Алег быў не ў гуморы: усе ягоныя косткі нылі, галава гула стараславянскім звонам, у роце было нібыта напхана паперы і да горла падступна падкотваў камяк. Аднак суровыя мужчыны проста так не здаюцца, таму, лаючыся і глытаючы “Мінскую-4”, Алег закінуў у вялізны чан-мясарубку 35 кіло фаршу, каліва жэлаціну, 16 дробак цэлюлозы, 28 жменяў мукі, прыгаршчу крухмалу, тры пальцы селітры і заліў усё вадой (на вока). Потым Алега званітавала — акурат у варыва. Алег з палёгкаю абцер вусны і, збольшага задаволены вынікам сваёй кулінарнай творчасці, абаперся на чан і неўпрыкмет прыснуў. Мясарубка працавала ў аўтаномным рэжыме: яна была кітайская і вельмі працаздольная.

Роўна праз тыдзень кавалак кілбасы “Сонечная” Бягомльскага заводу мясных ды кілбасных вырабаў ехаў у плацкартным вагоне цягніка “Полацк-Баранавічы”. Чэрвеньскі дзень ззяў адчайна-сінім небам, мігцеў палявымі рамонкамі за вакном і пасвістваў жвавым ветрам. Раптоўна ў летне-лянівай цішыні плацкарты прагучала бескампраміснае “Валя, наразай!”

У паветры бліснуў нож.

***

“...Госпадзе, ну што ж мне за дэбілы такія заўжды трапляюцца?..” – бедавала Душа, тушачы цыгарэту аб уласную падэшву і ў чарговы раз разгортваючы газету “З цела ў цела” на старонцы “Вакансіі”.

# Ася ВОЛКАВА

## ВЕРШ ПРА ХЛЕБАРОБАЎ

Калі-небудзь я напішу
Верш пра хлебаробаў.
Там будзе рэалістычна выпісаны
Вобраз хлебароба,
Ягоныя пот і кроў,
Там будзе пра жытнёвы колас,
Матуліны рукі, дзяжу
І маленькае зярнятка, што стала хлебам.
Калі-небудзь я абавязкова
Напішу верш пра хлебаробаў.

Але мне, чамусьці,
Усё часцей і часцей
Думаецца пра тыя зярняты,
Што не здолелі прарасці.

Хтосьці ўвесну шчодра рассеяў
Тысячы тысяч зярнят.
З пяцісот адно не дало парастка.

І вось ляжыць яно ў зямлі,
І так яму горка і крыўдна,
Што яно пачынае плакаць.

Зерне плача.

На самоце я часта чую
Гэты плач.
Так плача безвыходнасць.
Безвыходнасць, абцяжараная зямлёю.

* * *

*Ш. В.*

Гэта як разношваць
Новыя балетныя тапачкі.

Зробленыя з натуральнай скуры,
Спачатку яны крышку цесныя
І муляюць вялікі палец.
Я намагаюся цярпець гэты тупы боль, бо ведаю:
Хутка скура пацягнецца,
І тапачкі будуць добра сядзець на назе.

Прыкладна такім жа чынам
Перажываецца і растанне.

Парадаксальна, але пройдзе час,

І я завяду сабе
Іншыя балетныя тапачкі.

побытавы постмадэрнізм

Кузьма Чорны аднойчы напісаў,
Што ведае:
“не можна так жыць,
Абы жыць.
Трэба шукаць таго,
Каго трэба з замілаванасцю ведаць
І каго трэба ненавідзець”.

Вось і некаторыя мае асабліва дасведчаныя сяброўкі
Кажуць, што файна было б
Мыць тваёй кашуляй падлогу.

### ***ПАКОЙ***

Седзячы ў супрацьлеглых кутах
Мы спачатку моўчкі пазіраем адзін на аднаго.
Праз некаторы час мы пачынаем звыкацца
з нашай прысутнасцю,
Усё ж такі
нам тут жыць разам...

А ўжо на другім тыдні
Мы пачынаем ссоўваць ложкі.
Спачатку так,
каб было магчыма трымацца за рукі,
Але паступова мы прысоўваем нашыя ложкі
адзін да аднаго вельмі шчыльна.
У хуткім часе мы можам заснуць
толькі абняўшыся.
І чым далей,
Тым мацнейшыя становяцца нашыя абдоймы.

Па начох я адчуваю,
Што мне цяжка дыхаць праз тое,
Што ты абдымаеш мяне вельмі моцна.
Потым высвятляецца,
Што не так ужо і проста вызваліцца,
А тым часам мне становіцца
Усё больш горача і ўсё цяжэй дыхаецца.

І вось я выбіраюся з ложка,
Іду на кухню і наталяю смагу тым, што ёсць:
Чырвоным віном з адкаркаванай пляшкі.
Проста так, з рыльца.
Босая, у адных майтках ды станіку
З бутэлькай віна ў руцэ я выходжу з пакоя,

Каб больш сюды ніколі не вярнуцца,
Зачыняючы за сабой на ўсе магчымыя замкі.

Я выкідаю ключы.

На ўсялякі выпадак.

* * *

Бабуля расклала
Карты і распавяла,
Што бачыць полымя і мора.

Мужчына-мора
Такі шырокі і глыбокі,
Што яго нельга ані зразумець,
Ані абхапіць рукамі.
Толькі прайсціся басанож
Па ягоным беразе.

Мужчына-полымя
Нібыта перакідвае
У далонях сонечны шар,
А калі кранаецца скуры,
То робіцца горача.
У ім жыцця столькі,
Што можна задыхнуцца

Бабуля яшчэ раз
Расклала карты і распавяла,
Што мора – гэта мая душа,
А полымя – плоць.

* * *

Што ні кажы,
А ацтэкі ведалі жыццё.

Нават іхні бог, што апякуецца творчасцю,
Сядзіць на троне з марыхуаны.
Час ад часу
Сваімі белымі тонкімі пальцамі
Адрывае каліўца,
Размінае яго,
Падносіць да носа,
Глыбока ўдыхае пах,
Кідае пакамечанае каліўца ў рот
І доўга ганяе яго языком
Ад шчакі да шчакі,
Хвіліну сядзіць задуменны,
Сплёўвае.

І так гэты ацтэкаўскі бог
Сядзіць праз усё сваё бясконцае жыццё:
Адрывае і сплёўвае,
Адрывае і сплёўвае...

* * *

Мужчыны-рамантыкі пахнуць дымам,
Бо кожнага разу, уцякаючы,
Яны пакідаюць за сабою папялішчы
І калі крануцца скуры рамантыка языком,
Можна адчуць у роце смак попелу.

Мужчыны-курцы горкія на смак
І калі пацалуеш такога мужчыну зраніцы,
Да вечара можна так і не пракаўтнуць
Гэтую горыч.

Адно паэты, ад Байрана
І да апошняга жывога постмадэрніста,
Пахнуць дымам і пацалункі іх
Горкія на смак,
Бо паляць яны беспрабудна.
І той самай запалкай
Пакідаюць папялішчы рукапісаў.

## Андрэй ВЫЛІНСКІ

### Тэд Х'юз

### *ПЕСНЯ ПРА ІСНАВАННЕ*

Неяк жыў сабе
Чалавек, жыццём
Якога быў бег.
Гэткім быў яго Лёс.
Цяжкі лёс,
Але які ўжо ёсць.
Ён павінен быў бегчы няспынна.
Ён пачаў разважаць пра Лёс
І пра свой бег.
Хто? Чаму?
Няўжо ён проста нейкае
Пудзіла труса для трэнавання ганчакоў?
Урэшце ён вырашыўся.
Болей яго ніхто не надурыць.
Для гэтага спатрэбіцца неабыякая мужнасць
Але ён можа гэта, ён гэта можа.
Так, ён можа спыніцца.

Агонія! Агонія,
Вось што ён вытрываў,
Каб вырвацца з гэтага бегу.
Раптоўны і неабсяжны
Спакой
Пасярод бязмежнай пустыні.
Там ён і стаяў – нерухомы.
І пакольківне мог убачыць нікога
На поўнач ці захад, усход ці поўдзень
Ён падняў кулакі
І засмяяўся ў агіднай радасці.
І пагразіў імі Сусвету.
І яго кулакі адваліліся прэч,
І яго рукі адваліліся прэч.
Ён пахіснуўся і яго ногі таксама адваліліся.
Ён ужо не паспеў зразумець,
Што гэта ганчакі рвалі яго на часткі,
Што ён быў насамрэч толькі
Пудзілам труса для іх трэнавання,
А жылі насамрэч адны ганчакі.

### *УЛАДАР ПАДЛЫ*

Палац яго з чарапоў.

Карона яго ёсць апошнія трэскі
Карабля жыцця.

Трон яго ёсць эшафот з касцей, усякаму павешанаму
Шыбеніца і ўсіхная дыба.

Мантыя яго ёсць чэрань апошніх кропель крыві.

Царства яго пустое –

Пусты свет, з якога апошні енк
Вышумеў прэч цяжка і безнадзейна
У слепату і немату, у глухату заліва,

І вярнуўся, згарнуўшыся, змоўклым,

Каб правіць над цішынёй.

### *МАЛАКРОВІК*

О малакровік, ты ў гарах хаваешся ад гор,
Паранены зоркамі, ты ліжаш цень і ясі гаючую зямлю.

О малакровік, маленькі бяскосцік, маленькі бясскурык,
Ты арэш канаплянчыным шкілетам,
Жнучы вецер і малоцячы камяні.

О малакровік, ты барабаніш у каровін чэрап,
Танчыш на маскітавых ножках,
З слановым хобатам, з кракадзілавым хвастом.

Ты стаў такім мудрым, ты стаў такім жудасным,
Пакуль смактаў сплеснявелыя грудзі смерці.

Сядзь мне на палец, праспявай мне на вуха песню сваю,
О малакровік.

## Кацярына ГЛУХОЎСКАЯ

### Так пахнуць рукі

Ігнат заўжды прачынаўся перад світаннем, у самай цемры. Проста расплюшчваў сухія вочы і глядзеў перад сабой: чакаў, покі прызвычаецца зрок. Потым уставаў ціха, набліжаўся да вакенца, якое ніколі не зачынялася, намацваў на падваконні цыгарэты, запальнічку...

Пасля шчаўчка пакой пранізваў маленькі сполах. Здавалася – яркі, але святло яго было цьмяным і слабым. Ігнат звяртаў больш увагі на шчаўчок, слухаў яго і чуў па-рознаму. Часам гук раздражняў, часам радаваў. Быў то лёгкім, як шоргат крылаў, то гучным, як выбух. Сёння – сухім. Такім жа сухім, як Ігнатавы вочы, і такім жа пустым.

Было моташна. Сівы дракон узнімаўся пад столлю, на ўдыху казытліва аддавалася ў носе пахам гары. Дым заўходзіў унутр і запаўняў пустэчу ў галаве нейкімі туманнымі думкамі, тлумам.

Чаго яму не хапала? Ігнат не ведаў. Але ноч за ноччу ў самую цёмную гадзіну перад світанкам яго ахоплівала дзіўная туга.

Ігнатава маці памёрла некалькі год таму. Яна жыла ў вёсцы, адна. Муж не вярнуўся з вайны, першая дачка з’ехала ў Штаты, другая наведвалася да яе хаця б раз на тыдзень, але тады якраз трапіла ў лякарню. А сын проста рэдка прыязджаў: ці то часу не хапала, ці то розуму. У ліпені працавала на полі. Дзень быў спякотны, душны – не дзіва, што забалела сэрца. Старая страціла прытомнасць і засталася ляжаць на раллі, ніхто не заўважыў нават. Толькі пад вечар, да яе зайшла суседка, і выклікала “хуткую дапамогу”. Але было ўжо позна.

Ігнат помніў, як цёпла і смачна пахлі матчыны далоні свежаспечаным хлебам, калі яна гладзіла яго, малога, па галоўцы, і туліла да сябе. Вялікія, спрацаваныя, мазолістыя рукі. Яшчэ яны пахлі, бывала, бульбаю з укропам і маслам, са смятанкаю і кіслым малаком, пахлі сырадоем, пахлі яблыкамі ды слівамі, моцна пахлі вільготнай зямлёй... Рукі Ігнатавай жонкі пахлі, з большага, крэмамі...

Ён зацягнуўся, апаліў пальцы, з прыкрасцю, злосна затушыў недакурак. Як казала некалі яго матуля, так ці інакш чалавек атрымлівае тое, чаго варты.

Яго ўласныя рукі былі ніякімі. Ад іх нават цыгарэтамі не пахла...

### Да катэгарычна шчырага ідыёта

Гэтыя словы магла казаць любая жанчына, якая была знаёмая са “шчырым ідыётам” і любіла яго. Не мае значэння, кім бы яна прыходзілася: матуляй, сястрой, сяброўкай, каханай, дачкой... кім заўгодна.

Трошкі стамілася баяцца за цябе. Кожны дзень для мяне прыходзіць з тупым,

звыклым жахам замест словаў “добрае раніцы”. Я ніколі не ведаю дакладна, дзе знайду цябе. І ніколі не ведаю, ці будзеш ты яшчэ жывым.... Не купляючы кватэр, ты падарыў мне незлічоную колькасць месцаў жыхарства: у лякарнях і моргах я бываю часцей, чым персанал гэтых гасцінных устаноў... Да міліцыянтаў звыклася – яны ўжо нагадваюць хатніх жывёл...

Раней я думала, што не пераношу тэхналогіі, што можна абысціся без іх. А зараз гэта – мой паратунак... Навіны па тэлебачанні, асабліва крымінальная хроніка, даюць мне магчымасць падлічыць мінімальную колькасць устаноў, па якіх буду бегаць сёння. З дапамогай кампутара тая колькасць папаўняецца настолькі, што... Калі ты не бярэш тэлефон – ахоплівае сапраўдная паранойя. Ведаеш, мне не будзе значна лягчэй ад таго, дзе я знайду тваё цела: у калектары ці на чарговым апазнанні ў чарговым мед-склепе... А, яшчэ не магу пісаць у сваім дзённіку асадкай – рукі дрыжаць, асадка замест нармальных літар малюе нейкія «зю». Таму... з клавіятурай куды як прасцей.

Учора ў краме бачыла расфарбаваную пародыю на Барбі. Перасмыкнула: было яе шкада... Асабліва ўражвалі вочы, намаляваныя, напэўна, па няўдалым эскізе мішэні, бо знаходзіліся яны ў колах фіялетавых ценяў. І на вуснах – вар'яцкая ўсмешка. Жах. Перасмыкнула яшчэ, бо ў гэтай пошлай і жудаснай квазі-Барбі раптам спазнала сябе. Толькі калі пра цацку некаторыя яшчэ могуць сказаць, што цені – упрыгожванне, а ўсмешка на твары – усмешка какоткі, тое мяне гэта ніяк не тычыцца. Хаця вочы глыбока ў ліхтарах колеру індыга, а вусны скрывіла ў ліслівай сутарзе...

Калі ты ідзеш да парога, хачу кінуцца ў ногі і закрычаць ад нясцерпнага болю, каб застаўся, каб нікуды не хадзіў. Але не кідаюся і ніколі не кінуся. Бо ты правы. Заўсёды. Няправая я, таму што мне ад тваёй праваты не лягчэй ані кроплі. У кожным забітым, у кожнім зніклым без вестак я спяшаюся пазнаць цябе, хаця недзе ў глыбіні адчайна веру: тое – не ты.

Проста ў грамадстве, дзе з чатырох трое – нармальныя баязліўцы, а чацвёрты – шчыры ідыёт і твой брат па розуму, заўсёды будуць граць рэквіем па кожным чацвёртым...

Развучылася плакаць, навучылася нястомна хадзіць, шукаць, трываць, чакаць. Навучылася маўчаць і хлусіць. Потым убачыла твае вочы... развучылася... Толькі праўду. Я сама так заўсёды хацела.

“Што нас не забівае – тое робіць нас мацней”. Не хапае часу нават на цынізм і сон. У галаве засталіся толькі любоў да чалавека, які ідыёт, надзея і вера. Маліцца я, дарэчы, так і не навучылася, але малюся. Малюся бясконца. Страціўшы сорам, спрабую дакрычацца да Божай Маці, да нашай Заступніцы, каб яна, тая, што ведае, як гэта: аддаваць любімага чалавека натоўпу і губляць яго, абараніла цябе. Каб, калі камусьці – лёсу, людзям, некаму яшчэ – патрэбныя ахвяры, замест цябе ахвяраю стала я. Ты жывы – я не стамляюся дзякаваць Богу. Ты жывы. Госпадзе, якое ж шчасце...

Кожнае імгненне думаю: калі ты захочаш стацца новым Хрыстом, я ж не здолею забараніць табе гэта. Бо ты заўсёды правы для мяне. Заўсёды... Нехта думае, што гонар мець такога. Бедакі. Гэта не столькі гонар, колькі боль... А можа, я проста зараз не магу прызнацца табе, што ганаруся і люблю менавіта такім. Бо сапраўды – люблю...

## Зямля на Талерцы

Чалавечак сядзеў на белым краі велізарнай фаянсавай Талеркі, мятляў ножкамі і пільна ўзіраўся ў чорна-сінюю глыбіню, расшытую зоркамі. Апрануты Чалавечак быў у бэзавы выходны фрак з кароткімі рукавамі ды паношаныя блакітныя

джынсы, а на галаве яго ўладкаваўся бэзавы цыліндр. Ловячы срэбныя зоркавыя зайчыкі, фрак і цыліндр цьмяна паблісквалі.

– Не дрыгай нагамі: дрэнная прыкмета. Нагамі мятляеш – чорта люляеш... Вітаю! – Чалавечак азірнуўся, пачуўшы з-за спіны лагодны дзявочы голас. За ім стаяла невялічкая Стракатая Дзяўчынка.

Яна была такая, якіх зусім не бывае і якіх нельга сустрэць, але можна спазнаць. Стракатыя валасы; стракатыя вочы з вялікімі чорнымі зрэнкамі і доўгімі цёмнымі веямі, што глядзяць на свет ды адлюстроўваюць вельмі стракатыя пачуцці; стракатая ўсмешка на гожых дзявочых вуснах і стракатая палявая кветачка ў стракатых працавітых руках. Вопратка вельмі простая і таксама стракатая.

Чалавечак не здзівіўся яе прысутнасці Яна прыходзіла тады, калі хацела і калі магла прыйсці, і, нават не вельмі заўважная, заўсёды заставалася недзе побач.

Дзяўчынка падышла да Чалавечка, прысела. Ён уздыхнуў і ўсміхнуўся:

– Вітаю. Даўно не бачыліся?

– Гэта табе вырашаць. А што: няўжо хацелася? – страката спытала Дзяўчынка, са стракатым сумненнем зірнуўшы на Чалавечка.

– Ды я не ведаю нават. Я не магу прадказаць, якая ты будзеш пры наступнай сустрэчы, і мне гэта не зусім падабаецца.

– Так. Прадказаць не можаш, але ты ж ведаеш, што я буду Стракатая. Заўсёды-заўсёды.

– Вось таму я ніяк не зразумею: хачу ці не хачу бачыць цябе. Толькі ты мне патрэбная.

– Дзякуй... Чым займаешся?

– Раблю папяровыя самалёцікі, каб не думаць. Гады ідуць, а словы мудрацоў застаюцца дакладнымі. Не, я, канечне, яшчэ шмат чым займаюся, ды гэты занятак лепш за ўсе астатнія дзейнічае так, як я таго чакаю. Хочаш разам са мной кідаць самалёцікі?

– Я не супраць, давай! – Стракатая Дзяўчынка страката засмяялася. Чалавечак усміхнуўся і выняў з кішэні маску-рэспіратар і зялёную паперку, з якой незадаволена глядзеў твар нейкай амерыканскай Вельмі Значнай Асобы. – А дзе сапраўдная папера?

Чалавечак збянтэжана развёў рукамі:

– Крызіс, – памаўчаў трохі і засмучона дадаў, – даляр усё хістаецца, як акрабат пад купалам цырка... Працуеш, працуеш, карак надрываеш: дзеля чаго? А! Што там! – Ён хуценька згарнуў даляр у самалёцік і кінуў яго. – Хай лятае!..

– Няхай... Колькі ўжо было гэтых крызісаў... Жывем жа! А тое, што працуеш шмат – не зусім праўда. Табе толькі здаецца, што працуеш зашмат. Раней і не столькі працаваў – не скардзіўся. Пра што гэта сведчыць, як лічыш?..

Чалавечак маўчаў. Ён нічога не лічыў: ён рабіў папяровыя самалёцікі, каб менш разважаць. І ўвогуле: свет пачаў выходзіць з крызісу. Ва ўсякім разе так кажуць. А што там насамрэч – хто ведае? Калі перабоі былі і да крызісу, і падчас крызісу – напэўна, застануцца і пасля. А як працаваў плённа, зарабляў грошыкі свае, так і зарабляш далей, бо сумленнае выйсце знойдзецца, калі пашукаць. Чалавек увогуле трывалая істота, таму праблема для яго не столькі праблема, колькі магчымасць паскардзіцца каму-небудзь на што-небудзь. Выправіць немагчыма толькі смерць – усё астатняе паддаецца выпраўленню.

Стракатая Дзяўчынка нахіліла галаву, дакранулася да смарагдавай тканіны рэспіратара:

– А гэта што?

– Гэта маска... У нас жа тут пандэміі кожны год.

– Колькі ўжо новых хваробаў нарадзілася на маіх вачах... Яны страшныя, пакуль новыя. І з цягам часу яны становяцца звыклымі...

– Мажліва... – Чалавечак пачаў старанна складаць маску ў самалёцік. – А яшчэ з прыродаю нешта робіцца. І яшчэ...

– Ведаеш, з ёй заўсёды нешта робіцца. З табой таксама... У большасці сваіх праблем ты сам вінаваты, прыгадай... Нават у тым, што залежала ад мяне, а не ад цябе. Я ж толькі жанчына: самая моцная і самая слабая. А ты – іншы... І, калі ты мяне крыўдзіш, я не заўсёды магу стрымацца, хаця і цярплю да апошняга... Не трэба мяне тлумачыць: мне ад гэтага не лягчэй. Проста ты... ты нешта не тое робіш... І сам жа гэта адчуваеш.... Можаш не пералічваць “заганы” году дзеля таго, каб папоўніць мой слоўнікавы запас. Кожны год адбываецца нешта. І добрае, і дрэннае. І цудоўнае, і жудаснае. Вось скажы мне: няўжо толькі сусветнае дрэннае запомнілася табе?..

Чалавечак задумліва глядзеў у бэзавую прастору. Нарэшце, ён зняў цыліндр, дастаў з кішэні чыстую хусцінку, акуратна змахнуў кропелькі поту са лба:

– Не... Проста, напэўна, дрэннае прасцей і запомніць, і пералічыць. Ды і трэба так: хвалявацца за сусветнае дрэннае, пакутаваць... Але я за гэты год шмат разоў быў... шчаслівы? Так, шчаслівы... І што дзіўна – шчасце прыходзіла праз зусім простыя рэчы. Такія простыя, незаўважныя амаль што... Гэта вельмі добра – быць шчаслівым. Тады вакол усё расцвітае. Тады становішся здольным рабіць нешта добрае і светлае, каб астатнія таксама былі шчаслівыя. Тады твая ўсмешка – самая шчырая і самая сапраўдная – выклікае шчырыя і сапраўдныя усмешкі іншых... – Чалавечак усё болей і болей узбуджаўся. Яго голас быў натхнённы і... стракаты. Ён нібыта раптоўна стаў мацнейшы, прыгажэйшы, лепшы. Быццам вырваўся з чорнага квадрата Малевіча, у які сам сябе заганяў. – У маёй свядомасці ўсё зблыталася. Усё зблыталася ў маёй душы. Год як карціна: шмат фарбаў розных адценняў узята з палітры СМІ і яшчэ болей – з палітры маіх уласных дзён. Карціна, канечне, шэдэўр – а як жа інакш, калі малявала Жыццё?.. Вось толькі хай усё дрэннае ляціць прэч адсюль, з майго жыцця! Ляціць разам з гэтай зялёнай анучкай рэспіратара і крохкімі грашамі з добрай, трывалай паперы.... Ляціць разам з гэтай зменлівай модаю, з гэтым бліскучым бэзавым фракам і цыліндрам, бэзавым, абыякавым, ад якога толькі галава пацее... Гэта ўсё такое несапраўнае... Гэта не жыццё – толькі п’еса. Жыццё, яно ў іншым, я ведаю і веру. Ад мяне залежыць, наколькі сапраўдным і шчаслівым будзе маё жыццё. Нельга здавацца – і тады ўсё будзе сапраўдна, сумленна, шчасліва... Нельга здавацца – трэба стукацца ў зачыненыя дзверы, каб іх расчынілі. Нельга здавацца – трэба казаць, каб пачулі. Трэба проста жыць сумленна. Нават калі гэта складана. Сумленнае жыццё і шчасце такія падобныя... Простыя і складаныя. І такія патрэбныя мне.

Чалавечак ператварыўся ў Чалавека. Ён ускочыў і цяпер стаяў без фрака і цыліндра ў стракатай кашулі і тых жа самых блакітна-стракатых паношаных джынсах. Вельмі добрых і зручных. Ён не пераапранаўся – проста скінуў залішняе. Ён не змяніўся – проста пазбавіўся хваробаў нуды і скарджання. Стракатая Дзяўчынка глядзела на Чалавека з павагаю і пяшчотаю – таксама яшчэ стракатымі, але ўжо вельмі зразумелымі.

– Усё дакладна... Што ж – давай, наперад. – Тут Чалавек змяніўся ў твары і зноў пачаў нагадваць Чалавечка. Яшчэ адна хвароба не давала яму спакою – хвароба няўпэўненасці, хвароба баязлівасці.

– Ведаеш... Кажуць, што жыццё нагадвае кола, што ўсё паўтараецца. Шмат разоў я спрабаваў нешта змяніць, але не атрымлівалася. І зараз, напэўна, не атрымаецца. Можа, я ніколі не стану Чалавекам?..

Стракатая дзяўчынка стракатa ўздыхнула. А потым вельмі стракатa засмяялася:

– Жыццё-кола, жыццё-пярсцёнак, – у руках яна трымала маленькі пярсцёнак і спружынку ад асадкі, – націск у тваіх словах павінны падаць не на “кола”, а на

"нагадвае". Толькі нагадвае... Павер мне: жыццё выглядае не як кола, а як спіраль. Як спружына. Ты, Чалавек-Чалавечак, можаш сціскаць яе ці расцягваць – па законах фізікі ды нават без гэтых законаў спружына ўсё роўна прыме пачатковую форму... Колы гэтай спружыны нечым падобныя, так. Але яны не аднолькавыя. І ты можаш змяніцца і змяніць наступнае колца.

Чалавек кіўнуў. Цяпер ён паверыў. Падышоўшы бліжэй да краю талеркі, ён угледзеўся ў зоркі:

– Планаваў злётаць на Луну. Але ў мяне і тут шмат працы яшчэ. І шмат шчасця... Ці ж не? – Ён азірнуўся, але Стракатая Дзяўчынка знікла: ён стаяў ужо зусім не на краі Талеркі, а на сваёй добрай і лагоднай стракатай зямлі. І ён, Чалавек з вялікай літары, мог усё. Мог перажыць любы крызіс і ачуняць ад любой хваробы, мог стаць разумным настолькі, каб шчыра прызнаць сябе дурным і стаць дарослым настолькі, каб не саромецца сваёй дзіцячасці, мог сказаць праўду ў твар уладным несумленным людзям і мог абараніць сябе і іншых... і Стракатую Дзяўчынку, якая сядзела на краі белай Талеркі, кранаючыся зорак пальцамі босых ног. Талерка ляжала на трох Сланах, якія стаялі на трох Кітах, што знаходзіліся на велізарнай Чарапасе, якая мірна спала сярод бясконцасці. З-за дзявочага стракатага ззяння Талерка здавалася стракатай. Як Зямля.

## Марыя ІВАНОВА

### Дзень независимасти

***[канцэптуальная арфаграфія]***

*не парься:*
*ты видишь, сколько мужиков*
*готовы оплатить тебе выпивку.*

пяць сукенак.
у маёй шафе віселі пяць сукенак.
пяць, як пальцаў на руцэ.
пяць, як вострых вяршыняў гранатава-чырвонай зоркі на савецкай ёлцы.
пяць, як дваццаць пяць дзяліць на пяць.

у панядзелак я апранала паркалёвую ў хатнюю клетку,
у аўторак – белую з чырвонай атласнай стужкай,
у сераду – малахітавую з жоўтым,
у чацвер – белую,
у пятніцу – чорную.
у суботу я ірвала ўсе сукенкі на шматкі.
а ў нядзелю садзілася за кросны ткаць новыя.

але бог забараніў працаваць у нядзелю – а я сядзела і шыла сабе новыя сукні, не звяртаючы ўвагі на тое, як іголка час ад часу ўзрывае белыя барозны з чырвонымі кроплямі пасеваў на маёй скуры, –

таму ён пакараў мяне тым, што паслаў мне пяцёх мужчынаў.

першым быў мой бацька, і кожны панядзелак я сустракалася з ім, каб атрымаць належныя аліменты, бо згодна з артыкулам 92 кодэксу аб шлюбе і сям'і гэты чалавек не меў іншага выйсця.

другім быў старшыня моладзевай партыі, з якім я сустракалася па аўторках,

каб адкрыць танную візу ў еўропу, бо закон аб парадку выезду з рэспублікі не дазваляў адкрыць гэтую візу на тыя аліменты, якія я атрымлівала ад бацькі па панядзелках.

па серадах я бачылася з трэцім – перкусіяністам, што дапамагаў мне трапіць на імпрэзы па-за межамі рэспублікі – на тыя імпрэзы, якія грамадскі савет па маральнасці забараняў у межах нашай краіны.

да чацвёртага – доктара – я ездзіла па чацвяргах на кансультацыі наконт пазбаўлення ад нікацінавай, алкагольнай і харчовай залежнасцяў, бо міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь хоць і гарантавала бясплатную медычную дапамогу кожнаму грамадзяніну Рэспублікі Беларусь, часцяком гэтая дапамога апыналася дапамогай сярэднявечнаму чалавеку трапіць у іншасвет, каб пазбавіцца ад пакутаў гэтага.

у пятніцу да мяне завітваў апошні, інтарэсы і род прафесійнай дзейнасці якога мы ніколі не абмяркоўвалі, – але ён, апошні, нарэшце наладзіў мне хатні інтэрнэт, бо я стамілася хадзіць па кампутарных кавярнях, дзе, згодна з указам прэзідэнта № 60 аб мерах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегмента сеткі інтэрнэт, патрабавалі пашпарт.

у суботу я ні з кім не сустракалася.

я жыла, таму што так было прынята.

прачыналася, закідвала ў плэйліст трэкі тома уэйтса і плёскала некалькі кропляў каньяку ў ранішнюю каву.

а потым сыходзіла з дому і выкідала ключ ад кватэры ў сметніцу, ведаючы, што на ягоны выраб сыдзе не меней за содні, цягам якіх я буду хадзіць, спрабуючы беспадманна дабыць грошай, то бок – збіраючы бюракратычныя паперкі на грашовую дапамогу з нагоды пражывання ў чарнобыльскай зоне.

24 гадзіны служэння ўладам у чыстым выглядзе, уключаючы чаканне зялёнага колеру святлафора.

спыняцца нельга, іначай можна было вельмі моцна задумацца і перастаць рухацца –

а я павінна была рухацца няспынна з нагоды патрэбы грошай на лазерную карэкцыю зроку, і чым хутчэй, тым лепей.

у гэтую ж суботу ўжо ад поўдня ўсё пайшло ўпоперак.

як звычайна, я не думаючы ўскочыла ў трамвай, не думаючы ўчапілася ў сацыяльную пятлю, якая звісала з поручня, і не думаючы ўтаропілася ў акно – не думаючы, у прыватнасці, пра жанчыну, якая расплюшчыла маё цела аб шкло і, натуральна, – пра кантралёра, які прымусіць мяне сысці на чарговым прыпынку, бо, згодна з правіламі праезду пасажыраў у грамадскім транспарце, распрацаванымі на аснове пастановы савета міністраў № 972 ад 30.06.2008, за праезд у грамадскім транспарце кожны грамадзянін павінен зрабіць унёсак вартасцю сямсот рублёў.

і тут трамвай спыніўся.

– якое трасцы? – выдыхнула я, калі кіроўца нешта зашыпеў у гучнагаварыльнік, і людзі мурашамі пасыпаліся з трамвая на вуліцу праз расчыненыя дзверы.

– у цэнтры горада дэманстрацыя, – сказала жанчына, што ўціснула мяне ў шкло, – рух спынены.

я набрала нумар бацькі, хоць была субота, а нашыя з ім сустрэчы даўно рэгламентаваныя строга па панядзелках.

– послушай, как мне добраться до плеханова?

– я на демонстрации.

– что ты там делаешь, чёрт возьми?

– не задавай идиотских вопросов: если я слечу с работы, то, боюсь, в бли-

жайшее время нам уже не случится встречаться по понедельникам. к тому же есть на что посмотреть в...

галоўнае – своечасова націснуць чырвоную пімпачку, не даведаўшыся, на што можна паглядзець на дэманстрацыі.

але тэлефон ажыў зноўку, нервова пачало біцца яго электроннае сэрца.

– алё? вы ведаеце хлапца <... >?

– не ведаю, – кажу я. – а што з ім?

канечне, ведаю.

гэта той, з кім я сустракаюся штосераду, апранаючы малахітава-жоўтую сукенку. аматар ірваць струны на гітары так, што яны разлятаюцца па ўсёй зале, уласны голас – так, што прабарытоненыя аскепкі гукаў таксама разлятаюцца – па ўсіх суседскіх фортках, уласныя пальцы – так, што разлятаюцца пырскі крыві, трапляючы на мае вусны, і я, зглытваючы ком у горле і прыціскаючы да рота даланю, моўчкі выходжуў суседні пакой, бо не ведаю, што трэба казаць пасля такога гуказліцця,душазліцця, кровазліцця праз дотык да інструмента.

аматар зрываць бусы з маёй шыі, біць шкляныя вазы і тушыць цыгарэты ў маміных вазонах з кветкамі падчас сварак.

– памёр сёння раніцай ад перадазіроўкі какаіну.

мільёны шкляных вазаў разбіліся аб сценкімаіх скроняў і сотні нацягнутых струнаў паадляталі ад грыфа нервовай сістэмы.

суботні бюракратычны шопінг адмяняецца.

мне патрэбна таксоўка, каб дабрацца да доктара і мець з ім сур’ёзную размову.

я хачу, каб анатамаванне зрабіў ён.

я хачу, каб ён адказаў – колькі трэба зжэрці какаіну, каб выправіцца ў рай, ці колькі трэба зжэрці жыцця, каб апынуцца ў пекле.

мне патрэбна была таксоўка, каб дабрацца да доктара, але ў мяне ніколі не было ўласных грошай – акрамя адкладзеных на аперацыю – і я рашылася патэліць таму, з кім сустракалася па аўторках у белай сукенцы з атласнай чырвонай стужкай.

– паслухай, мілая, я страшэнна заняты хаця б з тае прычыны, што знаходжуся зараз у аддзяленні міліцыі.

– ты можаш бавіць свой час менш аднастайна? мне патрэбна машына!

– а ты ўпэўненая ў тым, што табе патрэбна машына чалавека, на якога пачэпяць умоўны тэрмін за блазенскі сцяг, павешаны на перакрыжаванні Камуністычнай і Свабоды нікому невядомымі апантанымі падлеткамі?

паварочваюся: сто адсоткаў. на вышыні пяцідзесяці метраў лунае штандар.

– бог з табой, каханы. не затрымлівайся.

і аддаю апошнія грошы на таксоўку. мінус пяць долараў ЗША на аперацыю.

таксіст, гэты чароўны бяззубы дзяцюк, што па-заліхвацку круціць стырно, уключае радыё. салон пачынае поўніцца галасамі:

– ...независимасци.

– а аткуда эта наша нацыанальная спакойнасць, стрэмление не ввязывацца ва всякие канфликты, сяргей макаравич, как вы шчытаеце?

я хапаюся за скроні.

– выключите, пожалуйста, приёмник, у меня раскалывается голова.

– панимаеце, макар сергеевич, я вам аб’исню, пачыму так праисходзит, – працягвае іншы радыёголас. – истарычэски наш народ – аграрнае, крэсцьянскае обшчаства, каторае палицикай не инцерэсуецца. так слажылась истарычэски.

– эй, вы слышите меня! – я пачынаю тармасіць кіроўцу, ледзь не выбіваючы стырно з яговых рук. – астарожна, мадам!

– ...паздравляю вас, дарагія саацечэ... – таксіст прыхапкам ляскае па ўсіх кнопках прыёмніка, і радыёгаласы затыкаюцца.

– что за день сегодня?! что вообще происходит? – у знясіленні я адкідваюся на сядзенне.

– севодня же дзень независимасци, – радасна паведамляе дзяцюк.

– остановитесь возле клиники.

з доктарам мы пазнаёміліся, калі мне паставілі паршывы дыягназ, і ніхто з лекараў не змог мяне вылечыць.

доктар таксама мяне не вылечыў.

лайно, а не доктар.

і вось я сяджу і тры гадзіны чакаю яго ў прыёмнай, таму што звычайны дзень, у які мы з ім сустракаемся – чацвер.

ён аперыруе.

выратоўвае чалавечыя жыцці.

а я сяджу і прыкладаюся да бутэлькі каньяка ў яго чаканні.

– прывіт, – выходзіць з аперацыйнай і па ягоным выглядзе зразумела, што ён дзівіцца, чаму на мне апранутая не белая сукенка, а расцягнуты швэдар і старыя джынсы, – я жудасна галодны: увесь дзень у працы. зранку давялося прааперыраваць шаснаццацігадовае дзяўчо з кровазліццём у страўнік, а толькі што – нейкую бабцю з ракам прамой кішкі. дзе будзем вячэраць?

глытаючы каньяк, я думаю пра тое, што калі нарадзілася мая прамаці, ішла вайна, і да шаснаццаці год прамаці ела толькі дзве стравы: спечаны ў печы хлеб і суп са спечаным у печы хлебам. таму зараз, са з'яўленнем грошай, яна есць з хлебам і пюрэ, і макарону – і таму ў яе таксама рак прамой кішкі.

калі нарадзілася мая пляменніца, вайны ўжо не было, і да шаснаццаці год яе маці, у апазіцыю сваёй прамаці, карміла дзіця толькі адной стравай – карыснай для здароўя аўсянкай, таму з шаснаццаці год мая пляменніца, выкінуўшы на сметнік ўсе скрынкі з аўсянкай, есць толькі ГМА з улюбёнымі Е131, Е142, Е153, Е210,Е211-Е216, Е219, Е230, Е240, Е249, Е252, Е280-Е283. Е33О, Е954, Е338-Е341,Е343, Е450-Е454, Е461-Е463, Е465-Е466 – і цалкам гэтым задаволеная, толькі што пакутуе два разы на год у перыяды абвастрэння хранічнага гастрыту, чарговае абвастрэнне якога таксама можа прывесці яе на аперацыйны стол майго доктара.

– nevermind. дарагі, – кажу я, разважаючы пра тое, якое прамежкавае звяно мы займаем паміж пакаленнем прамаці і пляменніцы і робячы стаўку на патэнцыйнае ўласнае захворванне. мы выходзім з лякарні і зрэшты апынаемся ў самым сэрцы шайтанскага балявання, на ўзровень якога не пацягне ніводнае з язычніцкіх святкаванняў. "народныя пацехі" – рэкламуе плакат, перацягнуты церазусю плошчу. вакол блазны – без грыму, маскарадных масак і адзенняў, у сваім натуральным абліччы.

справа.

злева.

справа.

– я тут пасадзиу усе дзярэуя, усе дамы пастроиу, я прэдседацель этава дома! ну? севодня мой праздник, так сказать! я тебе сейчас усё раскажу! – цягне мяне за руку мужчына досыць прадстаўнічага выгляду – і досыць прадстаўніча п'яны, але док мякка і рашуча вызваляе маё цела з ягоных лапаў.

– милая, дай руку. ну дай руку! – настойліва перахоплівае руку кабета, – я тебе всё расскажу! всё расскажу! загадай желание. ну загадай желание! ооо, жизнь твоя непростая, кругом завистники!

адбіваючыся, мы подбегам уцякаем у рэстарацыю, куды ўвальваемся як у бомбасховішча.

– ты што, не хочаш есці? – трохі пазней пытаецца мой доктар, гледзячы, як апатычна я калупаю відэльцам сурвэтку.

я не хачу есці, а хачу сказаць:

“паслухай, док, сёння памёр мой мужчына, памёр ад перадозу, і я ведаю, чаму гэта адбылося: таму што ён быў чараўніком і з дапамогай цудадзейнага парашка захацеў выйсці з сістэмы, якая нас акружае, і апафеоз святкавання якой адбываецца тут і зараз, калі мы з табой ямо жульен, а па рэстарацыі ходзяць міліцыянты і заглядаюць у кожны рондаль, – а за акном адбываюцца народныя святы. док, ты ж як ніхто іншы ведаеш, што нарката ды п’яныя буянствы – гэта горкі бунт самаразбурэння, але ўсё, чым адрозніваецца чалавек ад каменя, – дык толькі здольнасцю разбураць сябе і смяяцца з сябе. і гэты мой мужчына надта доўга з сябе смяяўся, так доўга, што сёння гэта яго разбурыла”.

але я кажу:

– перасолена, док.

здаецца, першым разам – на шчасце, зноўку пульсуе тэлефон.

– добры вечар, спадарыня <...>. вы ведаеце хлапца <...>?

– не, – кажу я. – а што з ім?

у адказ – прадыктаваны адрас.

устаю.

– пакуль, док. убачымся.

– няўжо ты з’явілася сёння проста так, без аніякай падставы?

– проста так.

у пастарунку я пільна ўглядаюся ў фотаздымак неўрастэніка.

адзіночка.

аматар тыднямі нічога не есці і не спаць па начах.

аматар выпіваць увечары шклянку тэкілы ў дарагім бары, а заканчваць уранні ў выцвярэзніку пасля паўскрыні посттэкілавага пладова-ягаднага, і апоўдні тэлефанаваць мне і абяцаць, што калі-небудзь ён з’едзе адсюль назаўжды і здыме сабе кватэру ў ісландыі або здыме свой касцюм і апране манаскія рызы ў кляштары святой барбары.

для яго я апранала і здымала па пятніцах маленькую чорную сукенку ў стылі коко шанэль.

суіцыд сёння ў пасляпаўдзённы час, – зацягваецца папіроскай лейтэнант і пранізліва глядзіць мне ў вочы.

– не, я не ведаю гэтага хлопца, – кажу я і выходжу на вуліцу.

наркаманы. аскеты. алкаголікі з душою манахаў. першымі выбываюць з гульні. на іх першых абвальвальецца пінкфлойдаўская сцяна. “адкрый рот і скажы: аааа”, – сістэма тыцкае ім пад нос лыжку з маннай кашай, а яны па-дзіцячы тупаюць ножкамі і махаюць рукамі, марачы вярнуцца ў матчына ўлонне і стаць недасягальнымі для машыны кармлення маннай кашай.

сёння ў гэтае ўлонне вярнуліся двое.

5 сукенак – 2 сукенкі = 3 сукенкі

засталіся замураваныя ў сцяну бацька і доктар, якія знаходзяць манную кашу карыснай для здароўя. “і не дадумайцеся прамываць крупы перад гатаваннем! крый божа, вымыеце з іх усе вітаміны!” – крычаць яны і нецярпліва стукаюць лыжкамі па стале.

3 сукенкі = 2 сукенкі + ...

засталіся змагары супраць адной сцяны за будаўніцтва іншай сцяны. мужчына, дзеля якога пашытая белая сукенка з чырвонай атласнай стужкай, абярочвае стульцы, залазіць на стол, складвае рукі рупарам і прамаўляе: “спадарства! нас кормяць атрутай. смерць маннай кашы! я выбіраю груцу. будзьма з груцай”.

... +1 сукенка

і інертная масса –

я.

+-∞.

зноў гэты пракляты тэлефон. тэлефануе мой летуценнік, які не жадае маннай, а хоча груцы. тэлефануе з іншай краіны – створанай Быкавым і Караткевічам, краіны, якая існуе ў свядомасці купкі інтэлігенцыі і перадаецца ў спадчыну, тэлефануе мне сюды – у краіну, дзе пачынае накрапваць дождж, дзе ў дапалудзенны час паміраюць ад перадозу, у пасляпалудзенны час здзяйсняюцца суіцыды, а сялянская нацыя ў гармідары адзначае дзень незалежнасці ні ад чаго.

– мне не нужна свобода, – прамаўляю я ў слухаўку, яшчэ не пачуўшы з таго боку ні адзінага гука.

– што?

– я говорю, мне на хрен не нужна свобода. мне не нужно перекраивать мир по-своему, вымащивая благими намерениями дорогу в ад и изобретая очередное добро. полная фигня. мне плевать на свободу, потому что я знаю, что это такое. ты знаешь, что это такое? я знаю. свобода – это когда ты сам осознанно выбираешь несвободу. я хочу несвободы. я хочу вкалывать десять часов в день и ни о чём не думать, а потом возвращаться вечером домой – и снова ни о чём не думать – от усталости. чай. телек. двести вина. телек. не знаю. а потом я заработаю денег на то, чтобы съездить в амстердам, где все передвигаются на велосипедах и жуют желатиновый мармелад с марихуаной на ступеньках своего дома с видом на каналы, мерцающая голубая сетка которых пронзает весь город. или в париж – чтобы выпить кофе за сто евро на елисейских полях, глядя на триумфальную арку.

я сделаю кучу фотографий.

привезу домой и буду всем хвастаться.

я буду очень счастлива.

мне плевать на свободу.

мне нужны свежие фрукты в холодильнике, тёплое одеяло, новый фен и бабки, за которые можно всё это купить.

і, прамовіўшы гэта, выкідаю тэлефон у сметніцу, як зрабіла зранку з ключом ад кватэры.

здымаю мокрыя ад дажджу туфлі.

заўтра нядзеля. працы няшмат: пашыць тры сукенкі – гэта вам не пяць.

удалечы чуецца святочны гоман. мокрыя іскры шыкоўнага, доўгачаканага і аплочанага працай грамадзянаў салюту сыплюцца на горад.

у гэты ж момант з нябёсаў абрынулася ўніз вада. мокрыя іскры шыкоўнага, доўгачаканага і нікім не аплочанага ліўня пасыпаліся на горад разам з каляровымі іскрамі феерверку.

плынямі вада абмывала мае шчыкалаткі, бруілася скрозь пальцы на нагах, суквецці ліпы чапляліся і вязлі ў спражках басаножак, фіялетавыя пялёсткі невядомых кветак, прынесеныя вадой, прыліпалі да каленняў.

я стаяла, прыхінуўшыся спінай да дому парламента, заплюшчыўшы вочы, і адчувала, як ваніты падступаюць да маёй глоткі.

я стаяла. самая залежная ў дзень незалежнасці.

## Павел КАПАНСКІ

### План захопу Балгарыі

Сам я быў аднойчы ў Балгарыі, здаецца ў Бургасе. Быў я маленькі і мала што памятаю з тых часін, але засталіся ў памяці нібы такія слайды. Першы слайд

– гэта пекла. Спёка спякотная. А навокал жоднага дрэўца, толькі тры дамы на голым ўзвышшы і пустэча. Але дамы высотныя, з ліфтам. Наступны – гэта ўсё тое ж пекла, але да таго булка ў хот-дога горш за гумовую, крычаць усе навокал па-балгарску, а я разумею толькі "бон-бон" і "на морето", ну і башню вавілонскую меней народу будавала, чымсьці на гэтым рынку таргавала. Слайд трэці – я з голай піпіськай на перавес бегаю па беразе блакітнага мора, але мне, ясная справа, да дупы якога яно колеру і што не відаць іншага берага, і што ўвогуле мяне павінна ахапіць шчасце толькі ад таго, што я на моры. Бегаю я доўга, бо пясок, най яго халера возьме, гарачы. Выбару амаль што няма, альбо ўвесь час сядзець пад мостам, дзе цень, альбо не вылазіць з мора. Дылема, я вам скажу, не дай Божанька каму яе вырашаць. Слайд чацьвёрты – ядзім з Хрысцінам піцу зробленую дома з лечо, запіваем яе кіслым мляком. Спяваем з поўным ротам адзіную песню, якая аб'яднала на тую маладую пару нашыя славянскія сэрцы. Песню з мультсерыяла чарапашкі-ніндзя. Уступную, што з першых хвілін ідзе. Па-англійску, дарэчы. Вось. Болей я там не бываў. Але Балгарыя прыехала да мяне ў Брэст.

Хрысцін, дарэчы з канчаткам "чо", яшчэ малы, а не дарослы, на два гады малодшы за мяне. Яшчэ з адзінага майго наведвання краёў Бургаса, мы з ім працавалі на кантрасце. Ён – поўны бландзін на галаву ніжэйшы ад мяне. З цягам часу я як быў худы, нібы драбіна, як кажа мая бабця ў Львове, так і застаўся, а вось Хрысцін"чо" апгрэйдзіў свой бампер даволі феерычна, ад чаго кантраст толькі выграваў, а я дзівіўся. Ёкаламэнэ, гэта ж мой брат! Трэба адзначыць, што выпісала з далёкай Балгарыі Хрысціна мая бабця, каб на ўнука паглядзець. Я думаю, што калі яна яго пабачыла, адразу падумала, вось малайчына хлопчык, поўненькі, румяненькі. Калабок, ёшкін кот. Каб было больш зразумела, найлепшае што я змог выдумаць для яго характарыстыкі, гэта параўнанне з Картманам з Паўднёвага Парку. Я вам скажу, ну вось адзін у адзін, толькі не такі падступны і шкодны, але і тут ёсць свае тэндэнцыі. Яшчэ ў Мінску-2 брацельнік выказаў, як гэта сказаць, хваткасць. Прывёз бутэлек на 6-7 болей свайго віна, чым можна ўвогуле. Яшчэ тады да мяне дайшло – у балгар карак крэпкі, такіх не зломіш: пацягнуць удвое больш, чым могуць, і ўтрое больш, чым трэба. Але хваляванцца не прыходзілася, бабця аплочвала весялуху, таму казённыя еўра пайшлі адразу ж у расход яшчэ ў аэрапорце. Потым паўстала пытанне моўнага кантакту. За доўгія гады майго пільнага ігнаравання балгарскай мовы, мае веды не палепшыліся, а англійская, як і заўжды трымалася на ўзроўні "ту гоў", "ту іт", ту сліп" і "донт воррі, а эм э сцьюдэнт". Хрысцін не выказваў амаль што ніякіх паліглоцкіх дараванняў, таму на англійскай і сышліся. Яшчэ неяк бегла ў таксі мы абмазгавалі дзясятак з гакам гадоў нашага існавання. Я вучуся, гуляю ў баскетбол, жыццё нявартае ўвагі. Увасоблены Эрык Картман выказаў зацікаўленасць дзі-джэінгу, більярду (пулу), кампутарам і піву. Але я вам скажу так, як сказаў і яму адразу. Будзь ты хоць Папа Рымскі, калі ты ў Брэсце, ты ўсё роўна пойдзеш у Брэсцкую крэпасць. Амінь, партызаны і партызанкі палесскага краю! Бо Брэсцкая крэпасць, фортрэс ё-маё, гэта як Эйфелева башня ў Парыжы, як Калізей у Рыме, як Біг Бэн у Ландоне, ну і гэтак далей. Адным словам, на хуткім цягніку мы прыехалі ў Брэст.

Слёзы шчасця, сюсі-мусюсі і ўсе такія соплі я прапушчу, бо, здаецца мне, кожны ведае такія сітуацыі, кожны іх унікае, як можа, але, курча ляга, усё роўна трапляе ў іх.

Далей трэба было прыдумаць праграму "досуга" для дарагога госця. Першым пунктам крэпасць, дзе, дарэчы, нельга катацца на роварах. Аднаго разу мне ледзь колы не папрабівалі. Мемарыял, атож. Другім пунктам Акадэмія більярда, зараз дарэчы закрытая, там, па чутках, нейкая двайная бухгалтэрыя вялася. Пунктам

трэцім кафэ “Венецыя”, дзе Хрысціну давялося пакаштаваць піцы, чацвёртым баскетбольная пляцоўка, дзе міламу брацiку прыйшлося ўспацець і пратрэсціся, але па прычынах больш празаічных, чымсьці хацелася б, і нарэшце пятым пунктам “гоў хоўм, янкіз”. Асобным пунктам адзначалася, што ўся праграма планавалася за кошт бабці, таму хвалявацца наконт фінансаў не было сэнсу.

Ведаеце, калі жывеш поруч з нечым такім выбітным ад самага дзяцінства, тады тое выбітнае не здаецца такім ужо мегакрутым, як усім іншым. Яшчэ малым хлопчыкам я бегаў па казематах Брэсцкай крэпасці і ўяўляў сябе салдатам, што шмаляе з аўтамата па немцах і спыняе “бліцкрыг”. З цягам часу ваенная рамантыка спыніла сваё існаванне ў маёй галаве, і з галоўных успамінаў тых часін засталася практыка, якую мы праходзілі аднаго разу на тэрыторыі мемарыялу. Спачатку нам шукалі працу. Працы не было, акрамя як палоць траўку альбо сядзець пад дрэвам, чакаючы пакуль траўка падрасце, каб яе палоць. Але на тую раніцу недалёка ад гістарычнага музея з'явілася вялікая яма. Нам далі рыдлёўкі і мы капалі. Як я жартую, я многафункцыянальны працаўнік – магу капаць, магу не капаць. Мы засыпалі яміну пяском да абеду. А пасля абеду пад'ехаў экскаватар і засыпаў тую частку, што мы не паспелі, і нават разраўняў. Цікава было глядзець на тое, як працу, ад якой ты напружваўся і пацеў некалькі гадзін запар, робіць за некалькі хвілін механічны монстр. “Тваю ж маць”, – менавіта так думалі ўсе мае сябры, мякка кажучы.

І вось мой капіталістычны брацельнік быў прыведзены на тэрыторыю славутага мемарыялу. Фоткаліся там і тут, залез ён на пару гармат, паглядзеў на Штык, але самае цікавае выявілася ў казематах. Мы спусціліся, каб паблукаць у іх трошкі, але Хрысцінчо не спадабалася і ён вырашыў хутчэй з іх выйсці. Але сходы там няроўныя, павышчарбленыя. Дык вось ён хуценька так пасемяніў да іх, каб падняцца. Не забываем пра ягоны рост, вагу і фразу Гамера Сімпсана, калі нешта не так выходзіць “Доў”. Ну, думаю, трэ і мне выбірацца, але пайшоў у іншы бок, толькі чую за спіною гамеравы выкрык. Азіраюся: брат падымаецца з зямлі, нешта мармыча сабе пад нос па-балгарску, на правым локці відаць драпіну. “Нід сам хэлп?”, – пытаюся, а сам шкадую, што не пабачыў гэтага феерычнага падзення. “Айм файн”, – чую у адказ і зноў іду ў свой бок. Імгненне і той самы гук зноў дасягае маіх вушэй. На гэты раз левы локаць, трошкі падраныя шорты і больш гучная балгарская лаянка. Я нават нічога не пытаў, проста глядзеў і садыстычна пасміхаўся. А што вы думаеце, замест таго, каб сядзець зараз у кафэ і піць гарбату, я павінен быў цягацца з малодшым братам. Хто калі ўвогуле ад гэтага атрымліваў асалоду? Але ў той момант я адкрыў для сябе адну ісціну: нам не патрэбны сходы, каб падняцца. Неяк нават так сакральна выйшла.

Увечары таго ж дня мы пайшлі пагуляць у більярд. Хрысцінчо прыехаў нават са сваім асабістым кіем і расказаў нам, што з вялікай ахвотай удзельнічае ў розных змаганнях у сваім родным Бургасе і некаторыя нават выграе. Спецыялізаваўся ён менавіта ў гульні пул, што з аднаго боку было зручна, бо наш дылетантскі ўзровень яшчэ дазволіў з ім змагацца. Гулялі б мы ў рускі – пішы прапала. Цікавае назіранне: меншы шар, большая луза – але нават тут ёсць значная магчымасць прамазаць. Увесь вечар Хрысцінчо як на каня падсеў: вырабляў розныя фінты, піў паўлітрамі піва, лятаў над більярдным сталом, нібы шэф-повар над сваёй стравай, жвава і натхнёна. Нарэшце я дагадзіў свайму брацiку і ад таго было прыемна.

На наступны дзень планаў было няшмат, толькі Венецыя і піца на вечар. Зразумела, што ўдвух мы туды не пайшлі, і я запрасіў яшчэ сяброў. Піца брату вельмі не спадабалася, таму пэўна ён з'еў у адзін рот амаль што дзве, ну і салат на закуску. Трэ сказаць, што Хрысцін любіў пажэрці... прабачце, паесці. Неяк за сталом ён прызнаўся, што нават працаваў некаторы час у дзюнернай. Нашую адзіную берасцейскую дзюнерную зачынілі, такім чынам найлепшы хуткі перакус

у горадзе знішчылі, нават не папярэдзілі. Мяса і булка, трошкі зялёнага гарніра, трошкі соуса... Я ўвогуле на такія рэчы рабіў бы рэферэндум, а чаму б не. Ці жадаеце вы, каб дзюнерную знеслі, а на пустым месцы нічога так і не пабудавалі? Так, Не, Ваздзержусь. Карацей, працаваў ён у балгарскай дзюнернай і там, чэснае балгарскае, былі найлепшыя дзюнеры на ўвесь Бургас, а можа і ўсю Балгарыю. Немагчыма было не браць пад увагу заявы такога мілага пузіка, як у майго брата. Гэта калі вось як на таго кашака са Шрэку, у вочы яму глядзіш і нібы так прасякаешся да яго цеплынёй і паразуменнем. Тое самае з маім братам, толькі глядзець на пуза трэба. Як ні круці, мне ўсё роўна вельмі імпанавала, нягледзячы на мой татальны недавер і сарказм, што мой малодшы брат ужо працаваў, ды яшчэ ў індустрыі фастфуду. Мне нават болей імпанавала не тое, што ён там працаваў, а магчымасць таго, што адтуль можна было б стыбзіць. З заводу па частках тэлевізар альбо "Камаз", а з дзюнернай, сябры мае, гэта сапраўдная казка, мяса. Неяк чуў я маналог Карцава, як ён салат сабе рабіў і смажыў яешню ці што. Ай, не, ну не магу далей згадваць і таму мяняю тэму.

Наступны дзень быў без грашовых марнаванняў, затое гэтым разам з маім спартыўным трыумфам. Мы гулялі ў баскетбол. Гулялі не так доўга, бо фізічная падрыхтоўка Хрысцінчо яўна не даганяла ягоныя магчымасці ў паглынанні піцы і піва. Перад гульнёй я спытаў, ці займаецца ён нечым, акрамя більярда, які таксама не з'яўляецца самым рухомым відам спорту. Некалі даўно бегаў у баскетбол, але потым падключылі кабельнае і перайшоў на "Еўраспорт". Ну, як тут не замілавацца будучыняй пакалення тэлебачання? І тады ў мяне з сябрам узнікла геніяльная і простая, як усё геніяльнае, ідэя, а канкрэтней цэлы план захопу Балгарыі. Заўважу, што гэты план распрацоўваўся выключна з цікавасці без ніякага жадання выгады, таму калі хто яго выкарыстае, на мяне спасылацца не абавязкова. Сутнасць плана ў тым, што трэ пачакаць, пакуль уся балгарская моладзь, выхаваная на еўраспорце і дзюнерах падрасце, а потым проста з клічам "Сцеражыся, Балгарыя, я цябе заваюю!" бегаць вакол яе ўздоўж мяжы. Не могучы нічога зрабіць з хуткімі і моцнымі бегунамі, балгарскія войскі павінны фактычна ўпасці на калені. Ох, як напэўна, чытаючы гэты кавалак, кенійскія бегуны затурбаваліся і пачалі наканечнікі сваіх коп'яў ядам курары змазваць. А брату на пляцоўцы стала дрэнна і, каб не справакаваць сняданак і абед, я адвёў яго дадому рыхтавацца да ад'езду.

Падчас ад'езду я зразумеў, наколькі балгары падобныя да мураўёў. Толькі адзін Божанька ведаў, навошта яму спатрэбілася на маім гарбе з Брэста цягнуць стары кілім, што бабця захавала для ўнука, а на сваім гарбе галоўку сыру і беларускую гарэлку. Я так сабе падумаў, што калі б у яго была магчымасць, дык ён бы і ванну пацягнуў у самалёт. А можа, проста ў іх там такі закон выжывання "бяры ўсё што даюць, не пытай за што, не думай навошта яно табе". У майго дзеда іншы закон: "выкідвай на хер усё, што дрэнна ляжыць, і ты не памятаеш, навошта яно табе". Шмат рэчаў прапала такім чынам з нашай кватэры, затое жыць прасторна. Толькі вось думаю, як бы гэта мой "Аіст" зберагчы...

Развітаўся з братам. Некалькі дзён, некалькі высноваў і назіранняў адносна балгараў і беларусаў. Мы не купі-прадай, бяры-цягні, мы хутчэй схавай-выкінь, падумай-не вазьмі. Шмат што здаецца мне смешным і забаўным у маім браце, але ж ясна, што калі каго моцна высмейваеш, відаць і ў табе самім ёсць ад гэтага нешта.

І цяпер вельмі прыемна думаць, што недзе далёка ёсць брацельнік Хрысцінчо, невысокі пузаты бландзін, што аддае перавагу "Еўраспорту" перад сапраўдным спортам, як я выбіраю "ралтоны", а не сапраўдныя макароны, што працаваў у дзюнернай, у якой я хацеў бы перакусваць час ад часу, а не труціцца гэтымі галімымі хот-догамі, і нарэшце той Хрысцінчо, што, нібыта Картман, кожны вечар,

бліжэй да ночы, крычаў па-ангельску: “Айм цінэйджэр ту, ай вонт ту плэй ол найт!”, на што я адказваў, што нічога не разумею і вёў яго да бабці, каб здаць дзяжурства. Сам жа ішоў шпацыраваць з сябрамі. Бо, калі ты не адолееў фортрэс удзень, ці здолееш ты вытрымаць Брэст уначы?

## Уладзь ЛЯНКЕВІЧ

* * *

плач у сэрцы маім
знаёмыя словы круцяцца пад нагамі як маленькі сабачка, што хоча пагуляцца
здаецца, што ў гэтым свеце рухаюцца толькі мошкі,
а ўсё астатняе застыгла ў чаканні
я спрабую заглушыць цішыню уключаючы музыку гучней і гучней
безвынікова
тады я спрабую змагацца з цішынёй часам і хуткасцю
я ўключаю спачатку павольныя песні, потым хутчэйшыя і яшчэ хутчэй
яшчэ хутчэй

а цішыня – больш шчыльная, больш працяглая
яшчэ пусцейшая

каб прыцішыць яе – мыю валасы, а потым доўга расчэсваю іх, мокры
марна

каб заглушыць цішыню, я разглядаю мапу ваколіцаў горада, дзе цяпер жыву
каб заглушыць цішыню, я спрабаваў напівацца, а потым наядаўся шакаладу
я спрабаваў заляпіць цішыні рот, вывучаючы іншыя мовы
я спрабаваў заторкнуць ёй рот, уключыўшы усё святло ў кватэры, нібыта я не адзін тут, маўляў, можа, пойдзеш прагуляешся, ты ж бачыш: я не адзін (не павялася, халера)

я спрабаваў вырваць ёй язык – удалося, але яна, трасца, як пачала мычаць,
давялося прышыць назад
я адціскаўся і разглядаў крошкі, маленькія нітачкі,
часцінкі паперак і валасінкі, драбязу
якая вырастае на дыване, калі доўга не прыбірацца
я пстрыкаў асадкай, покуль тая не зламалася
я перамалёўваў абрысы краіны з мапы на прасвет, праз шкло, як у дзяцінстве
я расчыняў вокны і спадзяваўся што скразняк прыглушыць цішу, але прахалода заходзіла і бралася падпяваць, падвываць, падтакваць цішыні
тады я зачыняў вокны, замыкаў дзверы і накручваў батарэю так,
што цяпло перарастала
ў спёку

вось яно
гук паведамлення з далёкага места прымусіў яе змоўкнуць
гэта ты – на хвіліну ці дзве
і цяпер, калі цішыня вярнулася, у ёй адчуваецца твой прысмак

* * *

калі мы пакрыўдзілі змей першы раз
яны выдумалі нам нітку
мы меркавалі: от бязглуздыя, дарунак за крыўду
а яны думалі: цяпер як ні круці будуць нас помніць

калі мы пакрыўдзілі змей другі раз
яны падаравалі нам валасы
мы меркавалі: от дзе дурні, нам цёпла
яны думалі: мы з іх выпаўзаем

калі мы пакрыўдзілі змей трэці раз
атрымалі пальцы
от ёлупні, мы можам іх злавіць
яны: цяпер кожны іхні рух – няўдалая спроба паўзці

мы папрасілі прабачэння
яны засмяяліся
і падаліся у бок меднай гары прыхапіўшы з сабой нашы языкі

нам засталося адно:
мы збіралі іх засохлых на сонцапёку і плялі кошыкі

* * *

незнарок стаўшы мне на нагу дзяўчына
якая прыносіла каву просіць мяне ўзаемна
ёй наступіць – наступаю. усіх рассмяшылі
кавярня сыходзіць за ёю пад'ехаў тралейбус

пыл на падлозе пакою ў куце застыгне
бы тлушч на пакінутай пад нахілам патэльні
надышла паравіна з занадта зацёганым імем
што агаляе нешта ў тваім асабістым дрэве

з усіх нумароў памятаю адно кватэрны
і сцежку якая да дому вядзе ад прыпынку
званю ў дамафон: ало адчыняць не трэба
калісь табе наступіў цяпер наступі і ты мне

* * *

вароны крычаць галасамі капрызных дзяцей
вялікі сметнік кароны дрэў ровар
па лужынах у двары апісвае адно за адным
васьмёрка кола васьмёрка кола васьмёрка кола

варонкі й барозны дарожнага покрыва аб'язджае
начамі ад людзей падалей катаецца прывід ровара
па бульвары самі круцяцца руль і педалі
кола праколата кола праколата кола праколата

варaны ровар здань мара прывід веласіпедны
абяцаны табе ў маленстве але не падораны
немаведама колькі ён ужо так ездзіць
вакол дома коламі вакол дома коламі вакол дома коламі

### *КЛАСІЧНЫ ВЫПАДАК*

пакуль мяне не было у пакой заляцела галубка
не ведаю якім ейнае заканчэнне але цельца
на паркеце шпалерах аконных рамах

узяў паперчыну нешта маркерам пазначана
паклаў ёю птушку ў пакет з супермаркета
выйшаў аддаў дзецям – пахавайце пад клёнам

сам назіраў з вакна: толькі шуфлікам ямка –
на працэсію пачалі злятацца галубы з суседняга парку
і дзіцячых пляцовак лапаталі – у гармідары я перастаў бачыць

назаўтра ўсё ўсеяна белымі пацеркамі перлінамі
ўпярэмешку з пер’ямі – галубы калі хавалі сваю цароўну
выплёўвалі сэрцы пеючы вітальныя гімны хорам

сёння ноччу я сплю нехта поруч буркоча
нешта нутро топча і я гатовы табе сваё выплюнуць
градзінай дзічкай шарыкам для пінг-понга пакоцаным

а ты не бяры да галавы не пераймайся
у нас з галубамі па два так што яшчэ адно ў запасе

### *ПЕСНЯ*

прамільгаюць рэйкі нібы кінастужка
бліскавіцай дзеліць лінія шашу
не магу на месцы мне на месцы душна
крочу па каменні утвараю шум

кожны наступны горад які я наведваю
чапляецца за ногі сваімі карэннямі
кожны наступны горад які я наведваю
пачынаецца з апошняе літары папярэдняга

і ў гэтым цьмяным дзіўным падарожжы
неўпрыкмет з кішэні выпадае час
спадзяюся пошук не дарма быць можа
проста захапляе роля ўцекача

кожны наступны горад які я наведваю
чапляецца за ногі сваімі карэннямі
кожны наступны горад які я наведваю
пачынаецца з апошняе літары папярэдняга

**_ПРАГА_**

*Дваццаць гадоў мінула – і вось, ляжу на кушэтцы*
*сябра-псіхааналітыка, што зламаў аб мяне*
*некалі швабру: "Ты тут ні пры чым. Я не веры́ў Светцы.*
*Дзеўкі няверныя. Здрада не абміне".*

А. Хадановіч.

Калі гэтым разам я разам з усімі падаваў пашпарт у амбасаду на візу,
то не спадзяваўся, не планаваў нічога і тым больш не пакаваў валізу.

Бо старонка была апошняя, і не працавала ўжо сяброўка матчына там,
карацей, не было аніякага сэнсу рыпацца і пагатоў збіраць чамадан.

Але нечакана займеў пропуск за мяжу, на халяву з даволі стрэмным турам,
што быў зладжаны маладым літаратарам ды іншым творчым натурам.

Сядаю ў аўтобус, а побач двое былых аднакласнікаў часоў фоткі на пашпарце:
"здарова-здарова" – "мы збіраліся неяк, чаго не адказваў, калі званіў Паша це?"

І ўсю дарогу ў два бакі пад шумавое суправаджэнне паэтаў-пісьменнікаў,
гаманіў з тым, што дзеўку адбіў, якой я спяваў пад гітару хіты з песеннікаў.

..................................................................................................................

Па вяртанні, адным з вечароў, як колісь на школьніку, ад вандроўкі ўражанні
я лузгаў і пераж оўваў разам з купленымі ў бабулькі семкамі пражанымі.

## Паліна МАСЛЯНКОВА

### Рэй БРЭДБЕРЫ

### Найвышэйшая асалода

Двое мужчынаў сядзелі побач, моўчкі пахістваючыся ў такт колам электрычкі, што рухалася скрозь марознае снежаньскае сутонне, раз-пораз спыняючыся на станцыях. Калі дванаццаты прыпынак застаўся ззаду, старэйшы з мужчынаў выгукнуў: "Ідыёт! Ну ідыёт!"

– Што? – малодшы адарваў вочы ад "Таймс".

Старэйшы змрочна заківаў.

– Ты не бачыў ёлупня, што памкнуўся, спатыкаючыся, за паненкай з водарам "Шанэль"?

– Ах, за ёй? – Маладзён не ведаў, ці ўсміхацца яму, ці хмурыцца. – Я і сам аднойчы сігануў быў за ёй.

– І я... гадоў пяць таму, – хмыкнуў стары і заплюшчыў вочы.

Маладзён паглядзеў на старога як на сябра па няшчасці.

– І з табой адбылося тое самае, калі ты дайшоў да краю платформы?

– Бадай што так. А як было з табой?

– Я быў за дзесяць крокаў ад яе, калі да платформы падруліў ейны муж з плоймай дзяцей! Хлоп! Дзверы зачыніліся. Толькі і пабачыў у заднім шкле аўтамабіля ейную чэшырскую ўсмешку. Прачакаў з паўгадзіны, прамерз да касцей, пакуль прыйшла наступная электрычка. Далібог, гэта было мне навукай.

– Ды якая там навука, – суха запярэчыў стары. – Дурныя самцы! Усе мужыкі без вынятку. Трапечамся ў інстынктах, як тыя жабы паддоследныя: толькі ткні – затрымціць.

– Мой дзед заўсёды казаў: “Мужык топча як певень, а мазгоў – як у курыцы”.

– Мудры ў цябе дзед. Але ты мне скажы, што ты думаеш пра яе цяпер?

– Пра яе? О, гэтая кабета любіць трымаць у трымценні. Яе, мусіць, цешыць думка, што спакуслівая гульня яе вачэй прымушае вар’яцець увесь вагон электрычкі. Для яе гэта найвышэйшая асалода, ці ж не так? Муж, дзеці, прывабная вопратка і касметыка – вось сакрэт поспеху, у якім яна запэўніваецца па пяць разоў на тыдзень у электрычцы. А калі шчыра, то і няма на што глядзець. Проста вельмі прыемна пахне.

– Лухта, – сказаў стары. – Папросту яна жанчына. Жанчыны ёсць жанчыны. А ўсе мужыкі – казлы. Калі гэта ўсвядоміш, тады ўтаймуеш уласную пажаду. Калі ж не, то не будзеш мець спакою гадоў да сямідзесяці, а то і болей. Між іншым, самакантроль напраўду неабходны ў падобных слізкіх сітуацыях. Але нават прыхільнікі гэтай непазбежнай, фундаментальнай ісціны часам не ў стане захаваць раўнавагу. Калі запытаць любога мужчыну, ці шчаслівы ён, то ён абавязкова падумае, што ты маеш на ўвазе, ці задаволены ён сваім сэксуальным жыццём. Здаволенасць – рай для мужыка. Я ведаў толькі аднаго, хто дасягнуў найвышэйшай асалоды, калі ўжо казаць тваімі словамі.

– Няўжо ж, – здзівіўся маладзён. Ягоныя вочы заіскрыліся. – Цікава.

– Ну, час, здаецца, яшчэ ёсць. Гэты хлопец – сапраўдны шчасліўчык, самы легкадумны распуснік, якіх я толькі бачыў. Цэлая калекцыя жонак і каханак, так бы мовіць, у асартыменце. І аніякіх згрызотаў сумлення, бяссонных начэй, скаргаў, пагрозаў і слёз.

– Неверагодна! – здзівіўся маладзён. – Нельга есці пампушкі і не таўсцець!

– А ён еў, есць і будзе есці! І аніякіх слядоў разгайданасьці пасля ўсяночнай гайданкі на хвалях жарсці. Паспяховы бізнесмэн. Апартаменты ў элітным раёне Нью-Ёрка, на паважнай вышыні ад гарадскога тлуму, да таго ж уласны маёнтак у Бэкінгэме, дзе ён па выходных пасе сваіх козачак. Шчаслівы фермер! Я сустрэў яго ўпершыню летась у ягонай нью-ёркскай кватэры, адразу пасля ягонага вяселля. На абедзе была ягоная жонка – шыкоўная жанчына: беласнежныя рукі, сакавітыя вусны, а цела – пульхная глеба – толькі каня запрагай. Не жанчына, а рог дастатку, кадушка спелых яблыкаў узімку! І шчаслівы ўладальнік не мог стрымацца, каб не паляпаць яе па клубах, калі яна праходзіла міма. Адыходзячы апоўначы, я спыніў сваю руку на шляху да кумпячка гэтай дароднай цёлачкі. Едучы ў ліфце ўніз, я адчуў п’янкі жар недзе ўсярэдзіне – і зарагатаў.

– Ну ў цябе і стыль, – вымавіў спадарожнік, цяжка дыхаючы.

– Кручуся ў рэкламным бізнесе, – адказаў апавядальнік. – Але слухай далей. Я сустрэў яго зноў (назавем яго Сміт) пару тыдняў таму. Цалкам выпадкова на вечарынцы, куды мяне запрасіў адзін сябар. Калі я прыехаў у Бэкінгэм, аказалася, што вечарынка адбывалася акурат у Сміта! А каля яго, у цэнтры гасцёўні, красавалася смуглая італьянка, гэткая цемнаскурая пантэра, апранутая ва ўсе тоны і колеры шчодрай ураджайнай восені – ад залаціста-жоўтага да барвова-карычневага. У вясёлым тлуме я не расчуў ейнага імя. Пасля я заўважыў, як Сміт сціскае яе ў абдымках, быццам выціскае п’янкае віно з сагрэтых сонцам вінаградных гронак. Дурны ёлуп, падумаў я. Шчаслівы кабель, пазайздросціў я. Жонка ў горадзе, каханка за горадам. А ён выціскае віно – і не п’янее. Шыкоўна! Але я вырашыў не заставацца да канца віннага фэсту і незаўважна выслізнуў за дзверы.

– Мне ўжо не церпіцца ведаць развязку, – сказаў спадарожнік, спрабуючы адчыніць вакно.

– Не перабівай, – сказаў апавядальнік. – На чым я там спыніўся?

– Як ён выціскаў віно.

– Ну, вось. Калі вечарынка скончылася, я дачуўся такі, як завуць тую красуню-італьянку. Місіс Сміт!

– Ён зноў ажаніўся?

– Наўрад ці. Не паспеў бы. Агаломшаны, я падумаў быў, што ў яго два колы сяброў. Адны ведаюць гарадскую жонку, а другія – загарадную каханку. Сміт не такі дурань, каб мець дзвюх жонак! Іншага тлумачэння быць не магло. Загадка!

– Далей, далей, – нецярпліва прыспешыў маладзён.

– Сміт тае начы быў у гуморы і падвёз мяне да чыгункі. Па дарозе ён у мяне спытаў:

– Як табе мае жонкі?

– Жонкі? А іх у цябе шмат? – здзівіўся я.

– Канечне, шмат! У мяне іх было каля дваццаці за апошнія тры гады, кожная наступная лепшая за папярэднюю. Калі хочаш – падлічы. Калі ласка!

Калі мы спыніліся ля чыгункі, ён дастаў таўшчэзны фотаальбом. Сміт гартаў фоткі і пільна ўзіраўся ў мой твар.

– Не, не, – смяяўся ён, – я не Сіняя Барада і няма ў мяне сутарэнняў, набітых маімі колішнімі прыгажунямі! Зірні ўважлівей!

Я разглядаў фотаздымкі – яны змяняліся, быццам у анімацыйным фільме. Бялявыя, чарнявыя, рыжа-кучаравыя, звычайныя і экзатычныя, неверагодна дзёрзкія і надзвычай пакорлівыя глядзелі на мяне то з хмурынкай, то з усмешкай. Мігценне фотаздымкаў загіпнатызавала мяне, пасля стала пераследаваць. У кожнай фотцы я бачыў нешта жахліва падобнае.

– Сміт, – сказаў я, – ты, відаць, надта багаты, калі ўтрымліваеш столькі жонак.

– Далібог, не багаты. Зірні яшчэ раз.

Я зноў прагартаў альбом – і разявіў рот. Я здагадаўся!

– Місіс Сміт, якую я бачыў сёння ўвечары, гэтая красуня-італьянка і ёсць адзіна магчымая місіс Сміт, – сказаў я. – І ў той жа час, жанчына, якую я бачыў два тыдні таму ў Нью-Ёрку таксама адзіна магчымая місіс Сміт. Значыць, абедзве жанчыны – гэта адна асоба!

– Малойца, – выгукнуў Сміт, здаволены маёй кемлівасцю.

– Неверагодна! – Я не мог у гэта паверыць.

– Але, – прамовіў Сміт з асалодай. – Мая жонка – проста цуд. Яна была найлепшай драматычнай акторкай калі мы пазнаёміліся. Але я, па натуры эгаіст, паставіў пытанне рубам: або ты кідаеш сцэну, або я кідаю цябе. І яна абрала мяне! Бразнула дзвярыма тэатра і пусцілася за мной па цёмных алеях жыцця. Дзікая пантэра ператварылася ў хатнюю котку. Першыя шэсць месяцаў нашага шлюбу зямля не круцілася – яна неслася і трэслася ў шалёным рытме. Але я, па натуры бабздыр, зноў пачаў заглядацца на іншых жанчын, хістаўся паміж імі, як той ківач. А пасля стаў заўважаць, з якім сумам мая жонка заглядаецца на тэатральныя афішы. Неяк я застаў яе за праглядам тэатральнай калонкі ў "New York Times". Яна плакала ў роспачы. Крызіс. Якім чынам можна было паяднаць такія магутныя амбіцыі, як таленавітая жарсная акторка і блудлівы марцовы кот?

– Неяк увечары, – працягваў Сміт, – я адчыніў вакно і згледзеў апетытную пампушку, што праплывала пад вокнамі. У той самы момант у вакно заляцела падхопленая ветрам старая тэатральная афіша і прызямлілася акурат на калені маёй жонкі. Гэтыя два імгненныя здарэнні разрубілі вузел нашых непаразуменняў і сталіся нечаканым адкрыццём найвышэйшай асалоды, якую толькі можна ўявіць.

Жонка раптам схапіла мяне за руку.

– Акторка я ці не акторка ўрэшце?

– Вядома, акторка!

– Вось і файна!

Яна выправіла мяне прэч з кватэры і загадала не вяртацца праз усе дваццаць чатыры гадзіны, пакуль яна займалася нейкімі таемнымі пераўтварэннямі. Калі назаўтра я вярнуўся дадому ў шарую гадзіну, як кажуць французы на сваёй цьмянай мове, жонкі не было. Цемнаскурая лацінаамерыканка працягнула мне руку і назвалася сяброўкай маёй жонкі. Яна кінулася на мяне з такой жарсцю, што ў мяне захрусцелі рэбры, і казытліва пакусвала мае вушы, пакуль я не адштурхнуў яе і, у раптоўнай здагадцы, не ўскрыкнуў: “Гэта не сяброўка, а мая законная жонка!” І мы абое са смеху пакаціліся па падлозе. Але, гэта была мая жонка – толькі іншы макіяж, іншы стыль, іншыя манеры і інтанацыі.

– Мая акторка! – казаў я.

– Твая акторка! – смяялася яна. – Ты мне толькі скажы, якой я павінна быць, і я буду такой. Кармэн? Калі ласка, я буду Кармэн. Брунхільда? Чаму ж не? Я вывучу ролю, пераўвасоблюся, а калі табе надакучыць, сыграю новую ролю. Я пайшла на танцы. Я вучуся сядзець, стаяць, хадзіць на тысячы ладоў. Я таксама запісалася на курсы красамоўства і ў секцыю дзюдо.

– Божа мой, – здзівіўся я. – А гэта табе нашто?

– А вось нашто.

І так мяне кіданула, што я паляцеў дагары нагамі ў ложак.

– З гэтага дня, – сказаў Сміт, – пайшло салодкае, бесклапотнае, шчаслівае, размаітае... адным словам, не жыццё, а найвышэйшая асалода! Незлічоныя выдумкі маёй жонкі стварылі для мяне цэлую галерэю жанчын розных колераў, формаў, памераў і тэмпераментаў. Мая жонка, у пошуках сябе на адмысловай сцэне, нашай гасцёўні, і свайго гледача, мяне, стала для мяне найлепшай акторкай на зямлі. Ці не занадта для аднаго гледача? Не! Я, са сваімі перакідлівымі густамі, гатовы сустрэць яе ў любой ролі, якую б яна ні абрала. Мой талент аматара жанчын нарэшце з’яднаўся з яе шматбаковым геніем пераўвасаблення. Зняволены, я атрымаў волю – кахаючы яе, кахаць увесь свет. Гэта найвышэйшая асалода, павер мне, сябра, найвышэйшая асалода!

Наступіла хвіля цішыні.

Электрычка грукацела па рэйках у снежаньскім цемрыве.

Абодва спадарожнікі, стары і малады, задуменна сядзелі, асэнсоўваючы толькі што расказаную гісторыю.

Нарэшце маладзён зглытнуў і ўтрапёна заківаў.

– Твой сябар развязаў свае праблемы, гэта так.

– Ага.

Маладзён хвілінку падумаў і заўсміхаўся.

– У мяне таксама ёсць сябрук. У яго падобная сітуацыя, але іншая. Назавем яго Квілан?

– Добра, – паспешліва адказаў стары, – толькі хутка, а то я зараз выходжу.

– Аднаго разу, – пачаў маладзён, – я бачыў Квілана ў бары з казачнай рудавалосай красуняй. Натоўп расступаўся перад ёй, як мора перад Майсеем. “Проста цуд!” – падумаў я, акрылены. Праз тыдзень я сустрэў Квілана ў Грынвічы, з ім была маленькая тоўстая кабета ягонага ўзросту, гадоў каля трыццаці двух, але такая недагледжаная, што выглядала старэйшай за яго. Рохля дый годзе, як сказалі б ангельцы, таўсматая, насатая, няўмелы макіяж, спушчаныя панчохі, валасы што павуціна, але такая ціхая і слухмяная, нібыта для яе найвышэйшай асалодай было ісці поруч з ім і маўчаць. “Авохці мне! – падумаў я, – вось гэта і ёсць ягоная бедная жонка, што багоміць зямлю, па якой ходзяць ягоныя ногі. А вольнымі гадзінамі ён забаўляецца з чароўнай рудавалосай красуняй. Які сум! Які сорам!” І я пайшоў сваёй дарогай.

Праз месяц я зноў сустрэў Квілана, калі той хацеў быў занырнуць у адзін з пад'ездаў на Мак-Дугал-стрыт. "О, Божа! – гукнуў ён, спатнелы ад хвалявання. – Маўчы! Не выдавай мяне маёй жонцы!" Я гатоў быў паабяцаць маўчаць, калі раптам аднекуль зверху Квілана паклікаў жаночы голас. Я ўзняў вочы і аслупянеў. З вакна выглядала тая самая маленькая таўсматая кабета!!! Усё раптам стала на свае месцы. Рудавалосая красуня – ягоная жонка! Бліскучая інтэлектуалка, яна і танцавала, і спявала, і тактоўна ўмела падтрымаць гутарку. Тысячарукая багіня Шыва, найлепшы рушнік, калі б то ні было вытканы смяротнай рукой! І ўсё ж яна надакучыла.

І мой сябра Квілан мусіў здымаць гэты катушок на паддашку, дзе два разы на тыдзень ён мог спакойна пасядзець і памаўчаць ці прагуляцца па цьмяных завулках з гэтай добрай, цёплай, хатняй, утульнай, маўклівай торбачкай, якая была яму зусім не жонкай, як я раней думаў, але каханкай!

Я паглядзеў на Квілана і на ягоную мажную сяброўку ў вакне і паціснуў яму руку з нейкай новай цеплынёй і разуменнем.

– Ні слова, будзь пэўны, – сказаў я.

Апошні раз я іх бачыў у кулінарыі, Квілана і ягоную каханку, яны сядзелі моўчкі, трымаліся за рукі, пяшчотна глядзелі адно на аднаго і елі бутэрброды з вяндлінкай. Па-мойму, і ён знайшоў для сябе найвышэйшую ў свеце асалоду.

Электрычка затрубіла, засвістала і запаволілася. Абодва мужчыны, падымаючыся, спыніліся і зірнулі адзін на аднаго ў здзіўленні. І адначасова выгукнулі:

– Ты выходзіш тут?

Абодва кіўнулі і заўсміхаліся.

Яны моўчкі прайшлі да выхаду і, калі электрычка спынілася пасярод золкай снежаньскай ночы, выйшлі і парукаліся.

– Шчасліва, перадавай прывітанне містэру Сміту.

– І ты маё містэру Квілану!

Два сігналы аўтамабіля пачуліся з абодвух бакоў станцыі. Абодва мужчыны паглядзелі на адну з машын. У ёй сядзела прыгожая жанчына. Абодва паглядзелі на другую. І ў ёй сядзела прыгожая жанчына.

Яны разышліся, азіраючыся крадком, як школьнікі, углядаючыся ў машыну, да якой набліжаўся колішні суразмоўца.

"Цікава, – падумаў стары, – гэтая панна ў машыне ягоная..."

"Цікава, – падумаў маладзён, – гэтая пані ў машыне ці не ягоная..."

Але абодва ўжо беглі да сваіх машын. Ляпнулі дзверы, як стрэльба ў апошняй дзеі.

Машыны паехалі. Станцыя апусцела. І снежань апусціў на дол сваю снежную заслону.

*1963*

*Пераклад з ангельскай.*

## Анна МАНАНКОВА

### *ВОЗВРАЩЕНИЕ К ИСТОКАМ*

Лилии, плавные берега  
Золотистых озер, язычки лампад.  
Небо. Путаница. Река.  
Тихий приют городских наяд.

Звезды. Молчание в их лучах,
Дивный орган и небесный свод.
Статуя Бога, алтарь в цветах.
Бог, который меня спасет.

### *ЛЕКАРСТВО ОТ БЕССОННИЦЫ*

Летняя ночь предъявляет свои права
Луна, ухмыляясь в окна, мурлыкает хабанеру.
Сон, помахав лепестками роз, вылетает из рукава
Маленькой тучки и кружится, как химера.

А я возьму и придумаю целый безумный мир
В нем будут только слоны и бабочки (максимум-антилопы)
А еще карусели, шары, бананы, большой пломбир
В виде Пизанской башни. И устрицы из Европы.

И слоны будут думать о самых простых вещах:
Поливать газоны, выращивать лук с морковью.
А бабочки будут кружиться в цветных полях
И взмахами крыльев стирать все грехи слоновьи.

И бабочек будет больше, чем звезд над морским песком,
Чем глупых китайцев под радужным небосводом.
И будут они резвиться в саду моем,
Пока горемыки-слоны проклинают свои невзгоды.

Но только однажды под золотой луной,
Слоны поднимут восстание в духе Брута.
И в полночь придут посоветоваться со мной,
Что лучше: сачки, кинжалы или цикута.

Они столпятся в комнате у дверей,
И так и застынут – одной разноцветной стаей
И будут стоять, как груда больших камней.
И вот тогда, наконец, я их пересчитаю.

А после ко мне вернется желанный сон,
Который расскажет, как летней ночной порою
Отряд угнетенных слонят возглавил розовый слон
Затеял восстанье, сразился – и пал героем.

* * *

Слышишь? Это Щелкунчик карабкается по струнам
арфы; она ему показалась гигантским орехом
Это значит: адажио, значит, задорным и юным
Воротился декабрь, и разлился серебряным эхом.

Видишь? Что-то уже происходит. Занавес чуть трепещет
И дыханье Мышильды слышится где-то рядом.

Как сказал бы классик, в райке нетерпеливо плещут.
Значит, что-то не так. Нет, видимо, так и надо.

И вот, наконец, началось. Поднимают кулисы.
Нет, кажется, все-таки правда что-то не так.
Артисты сбились со счета, у них безумные лица
И только за сценой худрук отбивает такт.

Принц запутался в парике, с парика посыпалась пудра
(Вот вам и танец снежинок, вот вам и все метели) –
Зацепился за бусы примы нежнейшего перламутра,
И они порвались на части и разлетелись.

И рассыпались, и угодили по носу Марфы –
Толстой флейтистки из Гродно, – и по очкам скрипача.
Закатились за сцену, зазвенели по струнам арфы –
Танец Феи Драже пришлось танцевать сейчас.

Дирижером какой-то лях. Лев Лях, а так он вполне «тутэйшы»
Вот он чинно правит оркестром. Но что там за спор?
Из-за дырявых кулис внезапно врывается гейша
(Зачем? Ведь это китайский танец?), спотыкается, бьет фарфор,

Задевает статисток, а те, сбиваясь с шагов ма-
шинально еще продолжают свой вальс цветов.
Из седьмого ряда партера зло ухмыляется Гофман
И гладит сову, украденную из часов.

Русский трепак – это Чайковский в погоне за дирижером
С мыслью о мести за фальшь (или роман с актрисой)
Галерка смотрит на них и возмущается хором –
И дирижер с Чайковским скрываются за кулисой.

Худрук, осознав, что балет не спасти уже
Забрался скорей в гримерку и смотрит телик,
Размышляя о том, что же нужно носить в душе,
Чтоб родить отряд полоумных танцующих карамелек.

Но спектакль продолжается. Плачет виолончель
(Или томно вздыхают дамы во мраке ложи?)
И звучат кастаньеты (или чей-то мобильный выводит трель?)
Это значит, испанский танец еще возможен.

Что происходит здесь – объяснить бы мог только Гофман,
Но он слишком занят – кормит свою сову.
Жена дирижера от горя почти оглохла,
А тот, не веря, что правда действует наяву,

Сломал свою палочку, как разъяренный колдун – чик! –
И зал неспеша превращается в грецкий орех.
Спокойно. Это Щелкунчик. Просто Щелкунчик.
Значит, скоро ударят морозы и выпадет снег.

## *FEBRIS EROTICA*

***(шизоидная поэма)***

Маразм крепчал. Синели горы
Рассудок молча уходил
Навстречу северной Авроре
И без руля, и без ветрил.
Толпою чудищ ночь глядела
(А просто меньше надо пить),
Ромео с Лиром оголтело
Орали: “Быть или не быть”?
Бальмонт и Блок смешались в кучу,
Вниманье дружбы возлюбя;
Смешались Пушкин, Фет и Тютчев –
И это все из-за тебя!
Ночь, улица, фонарь, аптека –
Все было просто и легко.
Зачем ты в наш колхоз приехал?
Зачем нарушил мой покой?
Почти что Ленский. Но не Ленский.
(Такое тоже может быть)
С душою прямо гетингенской –
Ну как тебя мне не любить?
Мне не к лицу и не по летам,
Пора, пора уж быть умней!
Куда ж я ткнусь с любовью этой?
А что-то надо делать с ней.
Уйду в запой на две недели...
Но что скажу друзьям тогда?
“Года, увенчанные хмелем,
Еще прекрасны года?”
Иль, в горизонт далекий вперясь,
На Тринидад направлю курс,
А то еще впаду, как в ересь,
В шизофренический дискурс:

Смысла нет читать газеты,
Лазить в Сеть, смотреть кино,
Ибо все на свете этом
Говорит лишь об одном.
О тебе,
как ни странно.
А не о
группе “Нео”, аш два о,
це два аш пять о аш,
Саади, Саркози,
Саддаме Хусейне Хусейне Саддаме,
Адаме – Потсдаме – татами – тамтаме – вигваме – фигваме
фиг с вами.
Так-то.

Куда, куда ж Вы удалились?

Я ж за тобой не добегу!
И перья страуса склонились
Уже давно в мое мозгу.
Я чувствую, как едет крыша
И мачта гнется и скрыпит,
А милый друг меня не слышит
И сам от счастия бежит.
О, как убийственно мы любим!
И цуккерброд не лезет в рот
Не потому, что плохи зубы,
А от любви несчастной. Вот.
Уж стали мне навеки чужды
И трюфли, роскошь юных лет.
Не искушай меня без нужды:
Я изменилась, я поэт.

* * *

Если к земле наклониться и
В ямку шептать секрет,
То беззаботный болтун-тростник
Вырастет или нет?
Если Толстого с небес позвать
Поговорить со мной,
Сможет ли, выслушав, промолчать
Праведный Лев Толстой?
Если писать под твоим окном
Мелом свое “люблю”,
Сверху соседи меня потом
Чем-нибудь не польют?
Вот заведу себе пулемет –
Он в чистом поле сам
Выпалит, выкричит, пропоет
Все, что нельзя сказать.

## Віялета ПАЧКОЎСКАЯ

* * *

А лепшым быў той,
што кідаў манеты
жменямі ў стары аўтамат,
быццам залатыя зярняты.
І цэлыя вечары
расла, квітнела,
запаўняла сваім водарам
спачатку стромкія сходы,
пасля ўвесь старасвецкі шынок,
а ўрэшце ўвогуле адчыняла дзверы

і выходзіла ў густы берлінскі дождж
музыка.
Я прыходзіла толькі дзеля яго.
Замаўляла каву й каньяк
і разбівалася аб прывідныя мелі
яго чарадзейства.
Прыходзілі адныя і тыя ж,
між сабой не знаёмыя,
вымешвалі лыжкай сваю адзіноту,
і ніводзін не асмельваўся
зрабіць хоць крок
у бок бога і ягонага
музычнага аўтамата.
Ноч расла
ракавай пухлінай,
напірала на дзверы,
а крэслы прырасталі да людзей,
як нагавіцы да наркамана,
і множыліся каменныя глыбы,
і дым падаў снегам,
і бог ставіў рэчы,
якіх не было.
А потым
А потым ён не памёр,
проста скончылася віза,
а лыжка сама залезла ў кішэнь,
быццам палец святога.
Так, на памяць.

### *СМЕРЦЬ ДЗЕДА МАРОЗА*

*Дзед Мароз памёр.*
Ф. Ніцшэ.

Снег валіў за каўнер
Хоць быў толькі пачатак зімы
Ён ішоў і нервова паліў
Захінаючы вочы зсівелымі мокрымі патламі
“Што за трасца!”
Таксоўкі стабільна міналі старога
ў недарэчным чырвоным
паедзеным моллю плашчы
Дзед махаў ім кійком
Дзед кійком моцна грукаў у ходнік
Праклінаючы снежань
І снег, і бязглузды ў такое надвор’е Парыж
І бясконца падпальваў
ўжо мокры ушчэнт недапалак
“Гэты горад мяне даканае
Гэты горад, халера, мяне ўсё ж даб’е”
у вітрынах – хваінкі
і бляск перламутравых зорак

і бялізна з карункамі
быццам з узораў на шкле
а стары ухапіўся за слуп
і паволі спаўзае
у агідную мокрую вату
“ўсё. канец. хто цяпер павіншуе дзяцей?..”
падарункі на бруку у брудзе
хтось кліча паліцыю
нехта з скрынкай падпахай
дварамі ўцякае дамоў
а алені са скрыллем
ўздымаюць уверх чалавека
што ўсяго 20 дзён не дажыў
да уласных Народзінаў

## Антон РУДАК

### *РАМАНС*

а цягнікі спяшаюцца і пралятаюць станцыю,
горад маўчыць насцярожана і назірае з маста.
помніш, як першыя месяцы ён сустракаў іх танцамі,
потым праводзіў песнямі, потым зусім перастаў.

давераснёўская лірыка не дажыве да кастрычніка,
коратка ў прозу пастрыгшыся сухім каляндарным лістом.
стане мінулае выракам, добрае зробіцца рызыкай –
прымеш усё, як звыклае, будзеш пісаць у стол.

з гэткай кепскаю звычкаю лёгка зрабіцца цынікам –
зрэшты, цурацца нечага – гэта цынічна не менш.
кінеш выходзіць на вуліцу. вуліца стане засмечанай.
ты задаволішся вынікам, вершык няўцешны складзеш.

восеньскія вакацыі пройдуць у паняверцы.
у небе бездапаможна лётаў апошні анёл.
помніш, як перад старасцю ён ратаваў іх смерцю.
потым не атрымалася. потым і сам памёр.

### *МОВА ДАЖДЖУ*

Засынае зямля, і калючымі пальцамі вуліцы кратае снег,
Завіруха сляды замятаючы, ходзіць па краі –
Дарагая мая, ты не станеш чакаць мяне далей, як чакала раней,
Я падумаў аб тым, і цябе назусім адпускаю.

І адкінуў сум назаўсёды пазбыўшыся гора,
Месяц і зоры ззялі ўваччу...
Вершалінаў шум астравоў забытага мора
Назовы паўторыць на мове дажджу.

Не пазначаны на чарцяжы, асцярожна ступаю па краі ляза
І губляць не жадаю гісторыяй дадзены шанец:
Я прызнаўся даўно, што мужык, але гэта няблага было б даказаць –
Я спяшаюся йсці да сваіх, што памоўклі ў адчаі

Што ніколі ўжо не ўцячы ім з замкнёнага кола –
Холадам золак значыць мяжу.
Ім служылі мшу і спявалі на небе анёлы,
І плакалі ўголас на мове дажджу.

...Апускаем дэталі: і спеў кулямёта, і шротам прастрэлены сцяг,
І над полем апошняй атакі дрыготкае рэха,
Дзе яны паміралі між сініх сумётаў і штосьці гукалі ў абсяг,
І чакалі яго да сябе...
Але ён не паехаў.

Пахаваліся птушкі й звяры ў патаемныя сховы,
Сціхлі дубровы, і вецер пачуў
Скрозь палёў імжу і заслону завеі кляновай
Апошнія словы на мове дажджу.

## ***КРАІНА КАНЮШЫНЫ***

Сыпле залева картоплямі дробнымі,
Долу па вымаклых стрэхах бяжыць.
Дзіўна, але мы з табою падобныя
Нібы дзве кроплі вады у дажджы.
Нас раскідала абапал Еўропы,
Мы бачым аднолькава розныя сны,
Нашыя межы ляжаць між акопамі,
Як незагойныя раны вайны.

Войнамі, бойкамі, доўга, стагоддзямі,
Нішчылі нас, але нам цэлы час
Бокам усе перамогі выходзілі
І ратавалі паразы не раз.
Нашы дзяды – партызаны і волаты,
Нашая вера – агонь на вятры,
Нашай зямлі не набудзеш за золата,
Нашае неба – у нас унутры.

Краіна канюшыны, далінаў, яроў,
Ранішняй расы і тужлівых туманоў.
Адрэналінам ты лінула ў кроў,
Клінам жураўліным пракурлыкала.
Краіна журавінаў, балотаў, імхоў,
Чыстых азярынаў і імклівых ручаёў.
Ад пупавіны да дамавіны –
Далёкая і блізкая, малая і вялікая.

### *ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ*

варшава, макотаў, вуліца польна,
побач поле – нібыта футбольнае.
пачатак матчу – а пятай увечары:
дэрбі, рашаючая сустрэча.

напад...
удар!
“свечка”.

снайпер арбітрам на каланчы.
тры раны ў крыстыны ў левым плячы,
і немагчыма дапамагчы –
дарма:
ёй ужо сняцца ляхавічы.

потым
мінае
вечнасць,
і:

можна шукаць маладыя тэатры,
можна маліцца ў баніфратраў,
можна ў паліцыю трапіць за краты,
можна паліць і лаяцца матам,
можна чытаць верлібры дзяўчатам –
марна:
крыстыны няма там.

### *ПАШТОЎКА АД МОЛАДЗІ*

Дарагі і любімы Валодзя, наш заўжды малады літаратар!
Гэты радасны дзень надыходзіць. Размяняўшы дзявяты дзясятак,
Ты дагэтуль у нашым балоце – найзапатрабаваны аўтар
(І гэтак будзе заўсёды, хто б і што там ні квакаў).
З табою малююць коміксы і фільмы здымаюць на “кодаку”,
Табою нароўні з Астрожскім цяпер ганарыцца Ворша,
А Элвіс дагэтуль з гонарам у “Хрысце” паказвае зноску,
Дзе ты згадаў яго прозвішча (хаця й пераблытаў трошкі).

Быццам усё ты маеш: вуліцы, шыльды, помнікі,
Наш прэзідэнт штогадова цытуе цябе ў прамовах,
А міністр культуры раіць чытаць штодзённа, каб
Пераадолець дэпрэсію і дасягнуць гармоніі.
Што пажадаць – не ведаем: хочацца нечага новага,
Але ж адначасова і чаканага і дарэчнага...
Жадаем табе паслядоўнікаў – такіх, як ты заслугоўваеш.
На гэтым дазволь завершыць, застаемся твае навечна:

Сева Будрыс, фасоўшчык-укладчык;
Мая Раўбіч, студэнтка гістфаку;
Стася Рэчыц, фатограф-фрылансер;
Юра Братчык, сістэмны адміністратар.

### *УБОРКІ*

Абмінаючы шэры дом, недарэчны, цяжкі, груваскі,
сонца звесілася ліхтаром са званіцы пажарнай часткі
і спынілася на мяжы недарэчных каменных джунгляў,
дзе хацінкі, як міражы, прытуліліся ўздоўж чыгункі,
дзе ўспамінаў і мараў схоў, дзе маўклівая яблынь варта,
дзе адбіткі дзіцячых сноў, не нанесеныя на карту,
дзе ў калодзежах спяць вякі, не прыдушаныя бетонам,
дзе завулкі і тупікі захавалі свае імёны,
дзе надзеі на лепшы збег не разбураныя дашчэнту,
дзе вяртаюцца да сябе дзеці гораду без легендаў...

Дзень да вечара ціха мкне, сонца ў небе даўно паснула.
Вецер песні спявае мне між панішчаных часам вулак.

### *СЯБРОЎЦЫ*

Сэрца тваё згубілася між скурчаных дрэваў на траўцы,
Вушы твае – у локшыне рачных заблытаных водарасцяў,
Вочы твае калючыя ляжаць засталіся на лаўцы
Каля стаптанае сцежкі няшчаснага парку ў Лошыцы,
Куды няможна вяртацца, каб зусім не звіхнуцца.

Што табе адказаць? Слухай, мая харошая,
У нас яшчэ шмат наперадзе і досыць нагодаў для працы,
Але куды мы прыедзем, калі не толькі па Лошыцу –
Мы ўжо і пра Кунцаўшчыну пачалі забывацца –
Там людзям няма куды ехаць, і адпаведна – вяртацца.

А прагнучых маем процьму: усе ненавідзяць горад,
Марць адсюль зваліць – пакарысталіся й годзе,
Дружным крокам на захад, сотнямі, нібы ў прорву –
Горад не плача з гора і не ладзіць праводзінаў.
Ніхто з іх чамусьці не згодны аднойчы ўстаць пад бульдозер.

Давай сустрэнемся дзесьці у транспарце ці на вуліцы –
Але дзея адбудзецца ў Менску, калі ты, вядома, не супраць
І не вызначыш іншае месца. Ды й калі, наогул, адбудзецца.
Магу прапанаваць пяць пераназваных вуліц.

### *ЗУБНАЯ КАРТА ГОРАДА*

Малочныя гараджане ўсмоктваюць ў кроў з малаком
Бяссонне, якое цурком павольна цячэ па венах,
І не разагнаць іх ні Ігаравым, ні нейкім іншым палком –
Нават палком міліцыі адмысловага прызначэння.

Карэнныя гараджане бароняць сваіх двароў
Ад недапалкаў, варонаў і неўладкаваных парковак.
Іх дзеці ніколі не ўведаюць, чаму ў іх бяссонная кроў,
З радзільні адразу трапляючы ў панельны шматпавярховік.

І горад не спіць уночы – гуляе, пакуль малады,
Міргаючы ў цемры гарэзліва ілюмінацыяй вуліцаў,
Але ён таксама хоча, як іншыя гарады,
Каб урэшце ў яго прарэзаліся свае гараджане мудрасці.

### КАЛЫХАНКА

мы пахаваліся без навігатараў
безвынікова шукаць нас на картах
не варта там белыя плямы на тварах
не змыеш слязамі і непадпісаныя
вуліцы льюцца насустрач з экранаў
глядзяць віртуальныя вокны вачыма
іх зрэнкі напальвання колер фіранак
і белыя лініі промняў за імі
ужо немагчыма спыніць гэты момант
калі да свабоды яшчэ пару крокаў
але мы заўжды прачынаемся дома
няхай сабе позна і надта далёка
і нават аблокі паснулі па комінах
ціха навокал і ў гэтым спакоі
шэраму воку нічога новага
неба без колеру
гарадское

### ПРА ДЗЕДА, БАБУЛЮ І ТАНЦЫ

Гэта была першая ў горадзе акцыя “музыка замест бомбаў”:
Гэтаксама, як некалі хрысціяне збіраліся ў катакомбах –
Варта было праставіць флан вартаўніку Пятровічу,
І вас ужо чакала зямля з ключамі ад бамбасховішча.

Дзверы жалезныя адмыкаліся: унізе расшпільвалі гузікі,
Пілі віно і гулялі ў карты – а ўгары грала музыка.
Раён тады толькі яшчэ будаваўся, але людзі здалёк прыходзілі,
А першым героем на гэтым дансе быў мой дзядуля Валодзя.

Вова быў ва ўсім піянер, і, вядома ж, касіў пад Элвіса,
Год ён меў столькі, як я цяпер – тады яны і сустрэліся.
Дзед быў як я – цыбаты й худы, бабуля была прыгожая
(Тут можна было б напісаць “як ты”, але гэта занадта пошла).

Словам, разлік быў марны, без шанцаў на вынік –
але на шчасце
Дзед быў нумар адзін па танцах –
не ў прыклад няўдзячным нашчадкам.
Гэтым, між іншага, ён і скарыў сэрца красуні-камвольшчыцы.

Мараль тут простая будзе, сябры: без усякага перабольшання
Можна з адказнасцю заявіць, сыходзячы з вышэйапісанага –
Калі б не рок-н-рол ды твіст, фіг нарадзілася б мама.
А значыць, і я таксама.

# Аляксандр ФІЛІПЕНКА

## Вытеснение

Вокруг пили чай, играли в нарды. Я заказал кебаб и свежевыжатый гранатовый сок, взял журнал. Многие правоверные мусульмане посчитали бы его грязным. Впрочем, ничего постыдного в нем не было – одна лишь глупость. Перелистывая страницы, я разглядывал одинаковые картинки, читал бессмысленные заголовки. Плохие фотографии, ужасная верстка. Много рекламы. Журнал подходил к концу, когда вдруг я порезался о ее лицо. Острое. Воспоминание, словно молния арабскую часть города, осветило меня.

До этого момента я мог с уверенностью сказать, что помню всех своих женщин. Время от времени, каждая из них возвращалась ко мне. Близость отношений сменялась близостью воспоминаний. В телефонном разговоре, сплетне, газетной колонке, нижнем белье. Они приходили ко мне. Я встречал их в Шишли и Бейоглу, Фатихе и Байрампаше. Они заходили в те же кафе, что и я. Строгие, надменные и глупые. Не подозревавшие о существовании друг друга. Случайные встречи. Их лица белели, как дешевая штукатурка. Мы улыбались и расходились, чтобы встретиться через год или два. Не важно. Так или иначе я помнил каждую. Первую, вторую, тридцатую. Помнил имена, адреса, телефоны. Переулки, дома, спутниковые тарелки. Накрытые скатертями телевизоры и фотографии отцов. Квартиры близ мечетей, рынков и акведуков. Я мог бы составить список, расчертить в тетради колонки, разрезать их на рост, вес, красоту. Составить графики встреч, определить лучшие и худшие места Стамбула и их тел. Вернуть признания в любви, крики чаек, автомобильные гудки, стрекот цикад. Если бы Аллаху было угодно выдумать кость, стороны которой украшают не числа, но имена моих любовниц, даже ему, Всемогущему, не хватило бы граней. Несмотря на это я помнил каждую. Вне моей памяти оставалась только она, одна, словно Девичья башня, вне берегов Второго Рима.

Я никогда не думал о ней. Не вспоминал. Ни разу с того дня ее призрак не возвращался ко мне. Царица теней, она не снилась мне, не оживала, когда я заходил в душ. Между тем, женщина, которая в тот вечер посмотрела на меня со страницы ненужного, глупого, созданного закомплексованными людьми журнала, обладала незабываемой внешностью. Глядя на нее вы не могли с уверенностью сказать уродлива она или прекрасна. Мелодия Шостаковича. На ее лице не было конца, ухватившись за который, вам удалось бы размотать клубок ее облика. Как два течения Босфора, лик ее был грубым и мягким одновременно.

Вырвав страницу, я бросил несколько лир и пошел вверх по трамвайным путям. Начинался вечер. Со всех сторон, точно мухи залитую медом рану, меня облепляли люди. Чумазые мальчишки, как и в любой другой день, пытались вскочить на подножку уходящего трамвая. Продавец убеждал прохожих, что со времен Константинополя не было лучшего мороженого, чем у него. Мужчины собирались вокруг телевизоров – до финала лиги чемпионов, который позже нарекут “Стамбульским чудом”, оставалось всего несколько минут. Разглядывая бронежилет полицейского на площади Таксим, я пытался вспомнить, как познакомился с ней. Увидел ли ее в такси, или на палубе ветхого корабля, в музее Модерна, или в “Красном” кафе. Весь вечер я думал о ней, думал всю ночь. И не уснул.

Следующее утро я провел в кабинете знакомого журналиста. Француз, но в общем-то не плохой человек. Он долго говорил о футболе, страсти, желании побеждать. Описывал матч, воссоздавал голы. Когда длинный монолог закон-

чился, француз взял принесенную мной страницу и попытался съязвить на общем для нас языке:

– Что, красавчик, даже тебе не по зубам такая рыба?!

– Я знаю ее...

– Конечно знаешь, все ее знают!

– Я знаю ее больше, чем все... но не могу вспомнить как и при каких обстоятельствах мы познакомились.

– Ты познакомился? С ней? Не смеши меня! Между вами Дарданеллы!

– Я помню только ее лицо и лопатки...

– Глупость! Ты посмотрел на фотографию и теперь тебе кажется, что ты знаком с ней!

– Ты можешь достать ее телефон?

– Думаю да, но что это даст тебе?

– Я позвоню ей...

– И что скажешь? Здравствуйте, я не могу вспомнить откуда знаю вас?

– Именно...

– Зачем тебе это?

– Это сводит меня с ума. Зуд. Она словно из другой жизни. Это как реинкарнация. Я понимаю, что у меня есть прошлое, но не могу его вспомнить. Разве тебе не интересно кем ты был?

– Нет! Потому что я и сейчас никто.

– Она постоянно со мной. Вчера, всю ночь, сегодня. Каждую секунду я пытаюсь вспомнить ее, но ничего не выходит! Представь себе женщину, которая перед смертью делает на своей спине татуировку. Мастер обстоятельно излагает события ее жизни. Она умирает и в это же мгновение на другом конце земного шара рождается младенец с татуировкой на спине. Ее читают врачи. Приезжает полиция, репортеры, родителей и хирурга обвиняют в шарлатанстве. Проходят дни, малыша приглашают на разные развлекательные программы. Известные журналисты устраивают собственные расследования и оказывается, что такая женщина действительно жила и в самом деле умерла в тот день, когда родился чудо-малыш. Его родители вдруг становятся богатыми, покупают дом на берегу пролива, нежданное богатство делает их наркоманами, они умирают, а он продолжает жить в неведении. Он не может прочитать татуировку – слишком мал. В конце концов мальчишка подрастает. Любовник подносит ему зеркало. Втроем, вместе со словарем, они читают то, что написано на его спине – хотя в этом нет необходимости – родительская комната завалена газетными вырезками. Он читает свою татуировку снова и снова, однако в этом нет никакого смысла – он не может вспомнить ту женщину. Он знает, что она была, но никак не может связать ее с собой. Между ними нет ничего общего.

– А как же татуировка? Любовь к мужчинам?

– Татуировка не в счет. Татуировка, как эта страница. Она ничего не дает. Я не могу сдвинуться с места. Прошу тебя, достань мне телефон.

– Да хорошо, хорошо!

Я получил номер. Тем же вечером. И позвонил. Без репетиций и прогона. Она сняла трубку и я заговорил, сразу:

– Здравствуйте, это...

– Я знала, что однажды ты позвонишь...

– Как мы познакомились?

– Какое это имеет значение?

– Я не могу вспомнить. Это мучит меня. Болит в груди.

– Мы не занимались любовью, если ты об этом...

– Но мы были вместе?
– Вечер...
– Долго?
– Достаточно.
– Не может быть, чтобы мы провели вместе много времени и я не попытался овладеть тобой. Ты слишком красива.
– Раньше ты говорил, что не можешь понять: уродлива я или красива.
– Теперь я понимаю, что очень красива. Откуда я могу знать тебя?
– Мы опять на ты?
– Да.
– У нас есть общие знакомые...
– Круг наших общих знакомых не может красить ни тебя, ни меня...
– Как ты можешь говорить об этом, если ничего не помнишь?
– Я не помню ни одного порядочного человека, среди моих знакомых...
– Это была почти пустая комната, с большим окном...
– Еще!
– Я не помню месяца, но ты был в куртке... кажется... в белой рубашке... был доволен собой...
– Еще!
– Ты гладил мою шею... и вел себя так, будто лучше меня...
– Еще!
– Я подыгрывала тебе...
– И?
– Что и?! Что ты хочешь знать?!
– Все. Как мы познакомились? Где? Как ехали до тебя? На каком этаже твоя квартира? Что мы делали?
– Я читала тебе свои рассказы...
– Наверняка дерьмо...
– Тогда ты сказал тоже самое...
– И что было потом?
– А что могло быть?
– Я уверен, что между нами что-то было...
– Да, я встала на колени... Это ты хотел услышать?!

Я бросил трубку. Потому что вспомнил. Круг замкнулся. Татуировка сработала и мальчик стал женщиной. Вечер вернулся. Я по прежнему не помнил как и при каких обстоятельствах познакомился с ней, как приехал и уехал от нее, но вспомнил самое важное, вспомнил то, что тревожило меня, вспомнил то, что делал с ней... и стало безразлично. Глупо. Я высморкался.

Она пыталась перезвонить. Несколько раз. Я не брал телефон. Вокруг пили чай. Играли в нарды. Я курил кальян и смотрел на брошенный журнал с вырванной страницей.

## Ганна ЯНКУТА

### Тон ТЭЛЕГЕН

### Ад усяго сэрца

***Святочныя апавяданні пра жывёлаў***

Шэрая гусь ніколі не святкавала свой дзень нараджэння. І нават не ведала, як гэта робіцца.

Аднаго ранку, калі ў гусі акурат быў дзень нараджэння, сустрэла яна лебедзя. Гусь павіталася з ім і запытала, а ці не ведае ён, як святкуюцца дні нараджэння.

Лебедзь крыху падумаў і адказаў:

– Трэба кагосьці запрасіць.

– І ўсё? – здзівілася гусь.

– І ўсё, – пацвердзіў лебедзь і паплыў далей, занураны ў думкі.

Шэрая гусь задуменна паглядзела яму ўслед. І адразу ж пачала рассылаць усім запрашэнні. Потым заплыла ў чарот і пачала чакаць. “А што яшчэ мне застаецца рабіць?” – думала яна.

Але хутка яна атрымала адказ:

*Дарагая шэрая гусь!*

*Я прыйду. А які будзе торт?*

*Мядзведзь.*

“Які будзе торт?” – задумалася гусь. Нічога такога лебедзь ёй не казаў. Сэрца гусі моцна забілася. “Значыць, павінен быць яшчэ і торт, – думала яна. – Дакладна павінен быць. І дзе я яго вазьму?”

Гусь вырашыла спытаць пра торт у паганкі, ці ў чаротніцы, ці ў крыжанкі, але нідзе нікога не знайшла. Усе сядзелі дома і рыхтаваліся да яе дня нараджэння. Прымяраліся капялюшыкі, запакоўваліся падарункі, развучваліся перад люстэркамі танцавальныя па.

Шэрая гусь знервавана плавала туды-сюды. “Торт, торт, дзе ўзяць торт?” – думала яна, аглядаючы возера, у якім жыла.

Раптам ёй у галаву прыйшла ідэя. Гусь паплыла да берага, з усяе моцы б’ючы хвастом па хвалях, пакуль не з’явіліся белыя пеністыя грабеньчыкі, а потым замяшала сваімі перапончатымі лапкамі водарасці і салодкі пясок са дна.

Усё возера пачало дыміцца і струменіць прыемныя пахі.

Тады гусь напісала мядзведзю маленькі лісцік:

*Дарагі мядзведзь!*

*Будзе вадзяны торт.*

*Шэрая гусь.*

Крыху пазней сабраліся госці – яны прыбывалі з неба, з ракі і з возера. Прыйшлі ўсе.

А наперадзе бег мядзведзь.

– А яго на ўсіх хопіць? – пракрычаў ён яшчэ здалёк.

– Хопіць! – пракрычала гусь у адказ. Яны выплыла ў цэнтр возера і шырокім жэстам абвяла ваду наўкола.

“Вось я і святкую свой дзень нараджэння”, – падумала яна і сама сабе кіўнула. А вакол ледзь заўважна плёскаў і паблісквaў у святле вечаровага сонца вадзяны торт.

***

Калі вавёрка яшчэ спала, вецер прынёс ёй ліст і прасунуў яго пад дзвярыма. Пачуўшы шолах паперы, вавёрка тут жа ўскочыла з ложка і ўскрыла пасланне. Гэта быў зусім маленькі шэры ліст з лёгкім саланаватым пахам.

І вось што прачытала ў ім вавёрка:

*Дарагая вавёрка!*

*Запрашаю цябе на маё свята. Гэтае свята будзе зусім маленькае. Я не запрашаю нікога, апроч цябе. Прыходзь, калі ласка, зараз жа.*

*Мідыя.*

Вавёрка хутка апранулася, схапіла гаршчочак з салёнымі букавымі арэшкамі і з усяе моцы пабегла на бераг. Там у бухце жыла мідыя.

Вавёрка пагрукала ў яе ракаўку.

– Ц-с-с-с! – прашаптаў хтосьці ўсярэдзіне.

– Гэта я, вавёрка, – ціха сказала вавёрка.

Мідыя прачыніла ракаўку і праз шчылінку зірнула на вавёрку.

– О! – сказала мідыя.

– Віншую! – прамовіла вавёрка. – У мяне ёсць для цябе падарунак.

– А пастаў яго сюды, – папрасіла мідыя.

Вавёрка прысела. Цёплая марская вада калыхалася вакол яе хваста, а побач пагойдвалася на хвалях мідыя.

Некаторы час яны маўчалі. Потым мідыя спытала:

– Табе ж падабаецца маё свята?

– Ага, – адказала вавёрка.

– Ведаеш, – прамовіла мідыя, – на вялікіх святах увесь час даводзіцца смяяцца.

– Угу, – пагадзілася вавёрка.

І зноў запанавала ціша.

Неўзабаве мідыя выцягнула з ракаўкі лакрычную цукерку.

– У мяне ёсць для цябе пачастунак, – сказала мідыя.

– Здорава, – узрадавалася вавёрка і засунула цукерку ў рот.

– Ведаеш, сёння ў мяне няма дня нараджэння, – сказала мідыя яшчэ праз некалькі хвілін.

– Праўда? – здзівілася вавёрка.

– Праўда, – пацвердзіла мідыя. – Я ніколі не святкую дзень нараджэння. Бо да яго трэба рыхтавацца.

– Ага, – пагадзілася вавёрка.

– Сёння ў мяне проста свята.

– А-а-а.

Потым надоўга запанавала цішыня. Мідыя неадрыўна глядзела на вавёрку, а вавёрка падстаўляла пыску сонечным праменьчыкам, якія адлюстроўваліся ад хваляў і гулялі ў лапту.

– Табе ўтульна? – спытала яна.

Мідыя кіўнула.

Бліжэй да вечара мідыя сказала:

– Ну, можаш ісці. Пакуль.

Яна зачыніла ракаўку і паплыла прэч.

– Вялікі дзякуй, – крыкнула ёй вавёрка, але мідыя ўжо не чула.

Задаволеная вавёрка марудна даплёхала да берагу і пабрыла ўздоўж вады назад у лес.

***

У лесе, як заўсёды, надарылася вялізнае свята, і, як заўсёды, гэтае свята было найвялікшым святам усіх часоў. Яго ладзіў слон, і ўсе мусілі прыйсці туды пераапранутымі.

Вавёрка доўга думала, у каго ёй пераапрануцца, і ўрэшце вырашыла пайсці туды мурашом. Яна ведала самога мураша так добра, што лёгка магла ў яго пераапрануцца.

Калі вавёрка ўжо збіралася ўвайсці ў святочную залу, яе спыніў слон:

– Мураш, я пушчу цябе ў залу толькі тады, калі ты ў каго-небудзь пераапранешся.

– Але слон...

– Ніякіх “але”! Схадзі спачатку дадому і паклапаціся пра касцюм, у якім я цябе не пазнаю, а потым вяртайся. У нас тут, між іншага, ёсць смачныя цукровыя палачкі...

“Цукровыя палачкі, значыць”, – падумала расчараваная вавёрка і пакрочыла дадому. Там яна села перад люстэркам і надоўга занурылася ў думкі. І вырашыла пераапрануцца ў асу. Яна часта сустракала асу на сваёй галінцы, разам з ёй зазірала ў кветкі і што          разу любавалася шыкоўным асіным касцюмам у жоўта-чорную палоску. “Штосьці такое ў мяне ёсць”, – падумала вавёрка. Так хутка, як толькі магла, вавёрка зрабіла прыўкрасны касцюм асы са смалы і некалькіх шкарлупінаў ад букавых арэшкаў.

Але яе зноў выправілі дадому.

– Аса, – сказаў слон, – я пушчу цябе ў залу толькі тады, калі ты ў каго-небудзь пераапранешся. Я вось нядаўна мураша таксама адправіў. А таму зрабіць для цябе выключэння не магу.

– Але...

– Мураш мне казаў тое самае! Але нічога ў яго не атрымалася! Гэта найвялікшае свята ўсіх часоў, і я не дазволю табе яго сапсаваць. Вось жа, прыйшла без касцюма! Ідзі і пераапраніся, а ў каго – няважна.

Засмучаная вавёрка зноў паплялася дадому. У яе не было ніякага жадання вяртацца на свята, да таго ж было ўжо позна, і ўсё самае смачнае даўно, мабыць, з’елі. Тут яна пачула ўдалечыні тупат лапак сараканожкі, але падумала, што гэта танчыць дажджавы чарвяк: “Каля самых сталоў, а на сталах – талеркі з тортам...” Яна прыспешыла крок, адначасова сцягваючы з сябе касцюм асы. Дома яна кінула ўбранне ў кут, абкруцілася сваім хвастом, з дапамогай смалы сваім жа вухам заляпіла вока і зноў выправілася на свята.

– Ого, – сказаў слон. – Паглядзім-паглядзім, хто гэта да нас прыйшоў!.. Неверагодна, проста неверагодна! Я не магу цябе пазнаць!

Пакуль слон вагаўся, хто б гэта мог пераапрануцца ў вавёрку – мураш ці аса, вавёрка ўжо з прыемнасцю каштавала першы кавалак арэхавага торта, а дажджавы чарвяк элегантна слізгаў па танцпляцоўцы.

***

На свяце насарога мядзведзь і мураш сядзелі адзін насупраць аднаго. А паміж імі стаяў торт. Мядзведзь размашыстым рухам падсунуў торт да сябе і пачаў яго есці. Праз хвілінку мураш папрасіў:

– А можна і мне кавалачак?

Мядзведзь, закінуўшы ў рот чарговы кавалак, зірнуў на мураша і паспрабаваў адказаць. Але рот у яго быў поўны, і таму ён узяў паперку і напісаў:

*У мяне поўны рот торта. Што ты там сказаў?*

Мураш закрычаў:

– Можна і мне кавалачак?!

Мядзведзь, не перастаючы жаваць, напісаў у адказ:

*Калі ты хочаш нешта спытаць, напішы гэта на паперцы. Мае сківіцы занадта гучна трашчаць, і я амаль нічога не чую.*

Мураш узяў паперку і нашкрэбаў:

*Дык можна і мне кавалачак?*

Мядзведзь, узяўшы яшчэ адзін велічэзны кавалак, крыху задумаўся і напісаў:

*Кавалачак чаго?*

Мураш зарыпеў зубамі і зноў узяўся за асадку:

*Ці магу я ўрэшце атрымаць кавалачак гэтага торта?*

Мядзведзь, які акурат засунуў у рот апошні кавалак, невыразна прамармытаў: “Ням-ням, смаката”, дажаваў яго і крыкнуў насарогу:

– Гэй, а што гэта быў за торт?

– З салодкай травы.

– Ого, – прамармытаў мядзведзь, потым павярнуўся да мураша і здзіўлена спытаў. – А ты што, таксама хацеў паспрабаваць?

Але мураш ужо падняўся з-за стала і з панылым выглядам стаяў, апусціўшы галаву, у куце за галінкай вярбы.

Мядзведзь уздыхнуў і, крэкчучы, марудна споўз з крэсла.

***

На ўскрайку лесу, пад кустом ружаў, чмель адчыніў крамку. Крамка была зусім маленькая: ні табе вітрынаў, ні прылаўка. Але тавар для продажу быў – збольшага рэчы, якія амаль нікому і ніколі не былі патрэбныя: хваінкі, пушынкі, кропелькі вады, былінкі, кавалачкі букавай кары, падвялыя кветачкі скрыпню і некалькі пылінак. Калі хтосьці пытаў у чмяля, ці часта ў яго што-небудзь купляюць, ён адказваў: “Здараецца час ад часу...”

Аднойчы леапард ладзіў свята, на якое запрашаў толькі самых акуратных жывёлаў, а таму ні прусак, ні дажджавы чарвяк, ні авадзень, ні нават насарог альбо вавёрка з мурашом туды не трапілі. Затое трапілі аса, лебедзь, змяя-акулярніца, фламінга, фарэль і конік.

Ужо з самага ранку конік стаяў перад люстэркам і старанна вывучаў сваё адлюстраванне: ці выглядае ён дастаткова акуратна? Ён папраўляў крыссё свайго пінжачка, захінаючы яго як мага шчыльней, адводзіў плечы крыху назад, раз за разам чысціў вусікі і трэніраваў адпаведную выпадку ўсмешку.

– І ўсё ж, – казаў ён сабе, уяўляючы, як будзе заходзіць у дом леапарда, – і ўсё ж чагосьці мне не хапае, чагосьці такога высакароднага, такога...

Раптам ён зразумеў, чаго менавіта. Ён яшчэ раз агледзеў сябе, расчыніў шуфлядкі, перагледзеў шафы, аблазіў усе вазы ў доме і правёў пальцам у кожным кутку. Але нідзе не было таго, што ён шукаў.

Тады ён выбег з дому і папрасіў дапамогі ў ластаўкі, якую леапард у апошнюю хвіліну таксама вырашыў запрасіць і якая цяпер прасавала свой касцюм. Але і ластаўка не змагла яму дапамагчы. Тады конік пабег да крамкі чмяля.

Запыхаўшыся, ускочыў ён у крамку.

– Мне патрэбная адна пылінка, – сказаў ён. Яго вусікі дрыжалі ад хвалявання.

– Пылінка, значыць... – задуменна прамовіў чмель. – Помніцца, дзесьці ў мяне тут ляжала адна...

Ён адвёў коніка ў кут крамкі, дзе за шыльдачкай “Не кашляць!” ляжалі пылінкі.

Конік уважліва агледзеў пылінкі і сказаў:

– Мне, безумоўна, хацелася б лягчэйшую пылінку, але што ёсць, тое ёсць, – бяру. Колькі з мяне?

– Хвіліначку... – прамармытаў чмель. – Адзін, значыцца, капітал!

На свой вялікі жаль, конік не ведаў, колькі гэта – адзін капітал. Больш за тое, у яго ўвогуле нічога не было. “Але сёння вечарам, – падумаў ён, – я сустрэну столькі важных жывёлаў, што нехта напэўна будзе мець пры сабе пару-тройку капіталаў, адзін з якіх захоча падараваць мне”.

– Заўтра ранкам я прынясу табе капітал, – паабяцаў конік чмялю.

– Цудоўна, – адказаў чмель і ад радасці праляцеў да столі і назад.

Конік забраў пылінку і пакінуў крамку.

Вечарам ён увайшоў у залу, дзе леапард ладзіў свята. Некаторы час пачакаў ля адчыненых дзвярэй, дазволіўшы сабе спачатку агледзець прысутных. Ён убачыў фламінга, які вельмі выхавана паглядаў у акно, убачыў газель, якая абмахвалася

асінавым лістом, а таксама лебедзя, які занурыўся ў думкі і з усяе моцы там нырцаваў.

Леапард расшаркаўся з высакародным аленем і падышоў да коніка.

– О, конік! – сказаў ён, гасцінна працягваючы лапу. – Вітаю, вітаю!

Конік ледзь заўважна кіўнуў яму, схіліўшы галаву набок, а потым з мяккай і абаяльнай усмешкай лёгкім рухам строс з пляча пылінку.

***

Аднаго ранку вавёрка атрымала ліст:

*Дарагая вавёрка!*

*Заўтра ў мяне дзень нараджэння. Я буду адзначаць яго пісьмова. Даслаць табе майго пісьмовага торта?*

*Птушка-сакратар.*

Вавёрка глыбока задумалася і напісала ў адказ:

*Дарагая птушка-сакратар!*

*Абавязкова дашлі, але толькі дакладна пазнач, які ў яго смак.*

*Вавёрка.*

Наступнага ранку вавёрка атрымала ад птушкі-сакратара ліст з дакладным апісаннем смаку торта.

Гэта быў вельмі тоўсты ліст, і ветру давялося дзьмуць з усяе моцы, каб праціснуць яго пад дзверы вавёркі.

Калі праз гадзіну вавёрка скончыла апошні аркуш, яна кіўнула і напісала птушцы-сакратару, што торт быў проста цудоўны. “Я смакавала кожнае слова, – пісала яна. – І асабліва мне спадабаліся печаныя каштаны, узятыя ў двукоссе”.

Яна адправіла птушцы-сакратару падарунак – маленькі пісьмовы стол, а таксама цёплую зімовую шапку, якую сама звязала. Яна ведала, што птушка-сакратар больш за ўсё любіць пісьмовае жыццё.

Вечарам яны яшчэ станчылі вальс у лістах, але хутка ў іх зусім закруціліся галовы, таму яны адклалі асадкі.

Пакуль, вавёрка, падумала птушка-сакратар.

Пакуль, птушка-сакратар, падумала вавёрка.

***

Калі свята зебры было ў самым разгары, мышка паднялася, каб зрабіць прамову. Жывёлы павіталі мышку такімі гучнымі апладысментамі, што вавёрка звалілася разам з крэслам. Тыя ж, хто ў гэты час спаў, прыснілі, што загрымеў гром, і хуценька пахаваліся ў бяспечных кутках сваіх сноў.

– Дарагія сябры! – пачала мышка.

Жывёлы зноў радасна павіталі мышку апладысментамі. Ніколі раней яна яшчэ не казала прамоваў. Але чамусьці (а чаму – невядома) лічылася, што прамаўляе яна надзвычай прыгожа.

Мышка папрасіла цішыні.

– Я вельмі засмучаная, – сказала яна.

І тут раптам на лясной палянцы, дзе сядзелі і ляжалі жывёлы, зрабілася вельмі ціха. Месяц ззяў з неба проста на зямлю і асвятляў устрывожаныя пыскі.

– Так, я вельмі засмучаная, – паўтарыла мышка, – бо хутка я скончу прамову. І тады ўсё, што я хацела яшчэ сказаць, застанецца нявыказаным.

– Ох, – уздыхнулі звяры. – Шкада...

– Для гэтага зусім не застанецца часу.

– А ты кажы бясконца! – закрычаў вожык.

– Бясконца – гэта колькі? – шэптам пацікавіўся чорны дрозд у голуба.

– Гэта да таго часу, пакуль будзе магчыма, – ціха адказаў голуб.

– Не, – запярэчыла мышка, – бо нават калі я буду казаць бясконца, я ўсё адно не змагу знайсці словаў, каб прамовіць усё, што я хачу прамовіць.

Хтосьці з жывёлаў апусціў галаву на талерку, хтосьці прыхінуўся да пляча свайго суседа. Ласось падплыў бліжэй да асятра, а слон прыціснуўся хобатам да лася.

– Дзякую за ўвагу, – ціха скончыла прамову мышка і, па-каралеўску махнуўшы правай лапкай, села на сваё месца.

І ўсе жывёлы пачалі з сумам думаць пра тыя прыўкрасныя рэчы, якія засталіся непрамоўленымі. З усіх бакоў чулася:

– Мышка і праўда цудоўна ўмее гаварыць!

– Якая прамова!

– Як кранальна!

– Прыгажосць!

І толькі жаўрук раптам залапатаў крыламі, узляцеў над сталом і ўскрыкнуў:

– Але ж яна нічога не сказала! Нічога!

Усе замаўчалі і паглядзелі на мышку. Але яна, спакойна грызучы кавалачак вытрыманага сыру, прамовіла:

– Я ж пра гэта і казала.

– Яна ж пра гэта і казала! – закрычалі ўсе жывёлы, злосна пазіраючы на жаўрука.

– Нічога! – працягваў крычаць жаўрук. – Нічога! Нічога! Яна не сказала зусім нічога!

Ён падымаўся ўсё вышэй і вышэй, пакуль не знік у аблоках.

– Пайду я, мабыць, дадому, – сказала вавёрка. – У мяне яшчэ справы.

– І ў мяне, – сказаў жук. – Прычым вельмі важныя.

Праз некалькі хвілінаў палянка апусцела – там засталіся толькі зебра і мышка, якая працягвала грызці сыр.

– І што ты скажаш цяпер? – асцярожна спытала зебра.

– Нічога. Я ж пра гэта і казала.

Зебра замаўчала. А мышка разабралася з вытрыманым сырам і ўзялася за тлусты, які ляжаў побач з маладым, абястлушчаным, цэльным і старым сырамі. І спакойна ела далей.

***

Аднаго ранку шчупак атрымаў такі ліст:

*Дарагі шчупак!*

*Заўтра ў мяне дзень нараджэння, але я цябе не запрашаю. Спадзяюся, гэта не вельмі кепска.*

*Карп.*

Шчупак, прачытаўшы ліст, не мог зразумець, што яму пра гэта думаць.

Назаўтра шчупак праплываў непадалёк ад карпавага дамка. Там ён убачыў тунца, ляшча, верхаводку, ската і шмат іншых гасцей.

Убачыўшы шчупака, карп закрычаў:

– Здароў, шчупак! Ты ж атрымаў мой ліст?

– Атрымаў, – адказаў шчупак.

– Ну, тады добра, – паспрабаваў перакрычаць святочны шум карп.

На свяце карпа танчылі, елі і смяяліся, ажно булькатала навокал рачная вада.

Кожны раз, калі карп заўважаў шчупака, ён крычаў:

– Гэй, шчупак! Тут так здорава, так здорава!

– Ага, – крычаў яму ў адказ шчупак.

– Ты мабыць, лічыш, што з майго боку было кепска не запрасіць цябе? – спытаў запыханы карп крыху пазней, праслізгваючы міма разам з акунём.

Шчупак на момант задумаўся, як бы адказаць найветлівей, і прамовіў:

– Ды не...

– Нам так весела, шчупак, каб ты толькі ведаў! – ускрыкнуў карп праз некалькі гадзінаў, калі пачало змяркацца.

Госці разышліся па дамах толькі позна вечарам. Шчупак таксама вярнуўся ў сваю лукавіну, дзе жыў ля самага дна ў зарасніку чароту.

Ён не прапусціў ніводнага моманту свята.

Ноччу ён не мог заснуць. Гадзінамі ўзіраўся ён уверх, туды, дзе над цёмнай вадою высілася неба. У вадзе танчылі зоркі, а побач з імі асцярожна купаўся месяц.

Калі ўзышло сонца і ў рачной вадзе заблішчэлі яго прамяні, шчупак напісаў такі ліст:

*Дарагі карп!*

*Сёння ў мяне дзень нараджэння, і я запрашаю цябе аднаго.*

*Шчупак.*

Ранкам карп прыйшоў да яго на дзень нараджэння.

– Як гэта міла з твайго боку, шчупак! Як міла! – закрычаў ён яшчэ здалёк.

Карп уручыў шчупаку доўгае чорнае паліто на зіму, калі самы мароз, і агледзеўся. Больш нікога не было.

Потым яны залеглі адзін насупраць аднаго ў цёмнай вадзе, у зарасніку чароту.

Шчупак не падрыхтаваў ніякага пачастунку.

– На жаль, – сказаў ён, – мяне на мой дзень нараджэння таксама не запрасілі.

– Нічога страшнага, – супакоіў яго карп.

Шчупак паведаміў, што праз хворы плаўнік ён не можа танчыць.

– Нічога страшнага, – зноў супакоіў яго карп.

Потым запанавала цішыня.

– Як ты ставішся да спеваў? – запытаўся шчупак крыху пазней.

– М-м-м... – прамармытаў карп, – як табе сказаць...

– Вось я, напрыклад, стаўлюся адмоўна, – сказаў шчупак, – проста адмоўна.

– Вось як, – прамовіў карп.

Яшчэ крыху пазней шчупак зноў запытаў:

– Табе падабаецца маё свята?

– Ну так, – адказаў карп.

– Праўда-праўда падабаецца?

– Праўда-праўда.

Шчупак паведаміў, што ён моцна ахрып, а таму чым менш ён гаворыць, тым лепей. Карп час ад часу азіраўся навокал, спадзеючыся, што раптам прыйдзе хто-небудзь яшчэ. Але ніхто не прыходзіў.

– А доўга мы яшчэ будзем святкаваць твой дзень нараджэння? – спытаў ён, калі пачало заходзіць сонца.

– Не ведаю, – адказаў шчупак. – Аднак у любым выпадку да сярэдзіны мы яшчэ не дабраліся.

Калі зусім сцямнела, карп пачаў бачком рухацца на дно.

– Больш я не вытрымаю, – мармытаў ён.

– Але мой дзень нараджэння яшчэ не скончыўся! – закрычаў шчупак. – Яшчэ далёка не скончыўся!

Карп захрас у глеі, брушкам уверх, фізіяноміяй уніз. “Больш я не вытрымаю, – час ад часу мармытаў ён, – больш я не вытрымаю...”

Ноччу шчупак выцягнуў урэшце карпа з глею і павёў яго дадому.

– Ну і дзень нараджэння! – прашаптаў карп.

– І не кажы, – пагадзіўся шчупак.

Больш яны нічога не сказалі, але разышліся сябрамі.

***

На свой дзень нараджэння вавёрка атрымала ад цвыркуна падарунак.

– Гэта сюрпрыз, – сказаў цвыркун.

– Здорава! – узрадавалася вавёрка. – Вялікі дзякуй.

Сюрпрыз быў запакаваны ў чырвоную паперу і абвязаны вяровачкай, замацаванай зверху банцікам. Вавёрка пачала развязваць банцік.

– Не трэба! – ускрыкнуў цвыркун.

– Але ж я хачу паглядзець... – сказала вавёрка.

– Не трэба, гэта мусіць застацца сюрпрызам, – запярэчыў цвыркун.

– А-а-а... – прамовіла вавёрка.

Яна паставіла пакунак да іншых падарункаў. Наперад выйшаў насарог, павіншаваў імянінніцу і ўручыў ёй капялюш. Потым усіх пацясніў слон і працягнуў вавёрцы бляшанку са змолатымі букавымі арэшкамі. Вавёрка з усмешкай прыняла падарункі і лапкай запрасіла гасцей сядаць за сталы, застаўленыя тортамі і печывам.

Але калі свята скончылася і ў гасцях застаўся толькі мураш, вавёрка выцягнула з кучы падарункаў сюрпрыз і агледзела яго з усіх бакоў.

– Што б там магло быць? – спытала вавёрка. – Як ты думаеш, мураш?

– Мабыць, я ведаю, што там, – сказаў мураш. – Але калі я скажу, гэта ўжо не будзе сюрпрызам.

– Не, не будзе, – пагадзілася вавёрка.

Яна ўздыхнула, паклала сюрпрыз у шафу і паспрабавала адразу ж пра яго забыць. Аднак вавёрка проста не магла не пазіраць на яго кожныя некалькі хвілін. “Ах, – думала яна, – якая ж я цікаўная!”

Аднойчы да яе зазірнуў цвыркун, і яны спытала, калі можна будзе распакаваць сюрпрыз.

– Ніколі, – адказаў цвыркун.

Часам вавёрцы здавалася, што сюрпрыз пачынае ззяць, а шчылінка на яго баку – пыхаць агнём, часам снілася, як з пакунка высоўваюцца ногі і рукі, як чуецца шэпт: “Памажыце, памажыце...” – і як рукі гэтыя самі развязваюць банцік. Тады яна страшэнна палохалася і вельмі своечасова прачыналася.

Урэшце цікаўнасць вырасла настолькі, што вавёрка не ведала, куды падзецца. Яна выцягнула сюрпрыз з шафы і пабегла ў лес. На беразе ракі яна сустрэла чаплю.

– Вось, калі ласка... – сказала вавёрка. – Гэта табе, чапля!

– Але ж у мяне сёння няма дня нараджэння! – усклікнула чапля.

– Гэта сюрпрыз... – працягвала вавёрка. – Ну калі ласка...

– Ого, – сказала чапля і нерашуча ўзяла пакунак.

Вавёрка штосілы пабегла прэч і спынілася толькі каля вярбы, каб паглядзець, што будзе рабіць чапля.

– Хутчэй жа, хутчэй, – прамармытала чапля. Яна адкашлялася і пачала разблытваць дзюбай вяровачку. Рывок – і вось вяровачка з абгортачнай паперай ужо ляжаць на зямлі.

– Гэта крэсла, – прамармытала чапля.

Яна прыпадняла лапкай цяжкое дубовае крэсла і са здзіўленнем паставіла яго на зямлю.

– Ну і што мне з ім рабіць? – прамармытала яна.

Чапля не магла згадаць, каб хоць раз у жыцці ёй давялося куды-небудзь прысесці. І цяпер не хацелася.

Вавёрка вялікімі вачыма сачыла за тым, як чапля кінула крэсла ў раку, у зараснік чароту.

– Можа табе, жабка, спатрэбіцца, – крыкнула чапля. – Гэта сюрпрыз!

Праз некалькі хвілін з вады пачулася задаволенае кумканне. Бо жабка любіла сядзець і ўжо даўно не бачыла такога добрага крэсла.

Вавёрка марудна пайшла дадому. “У любым выпадку, – змрочна сказала яна, – я магу хаця б уздыхнуць з палёгкай”.

***

Авадзень святкаваў свой маленькі змрочны дзень нараджэння. Прыйшла толькі вавёрка.

– Давай сюды, – закрычаў авадзень, як толькі вавёрка ўвайшла да яго, і тут жа вырваў з яе лапак падарунак. – Што гэта?

– Ну, гэта... – пачала вавёрка.

– Так-так-так! – перарваў яе авадзень і замест таго, каб распакаваць падарунак, разарваў яго на кавалачкі і выкінуў у акно. Потым насмешліва дадаў. – Значыцца, падарунак.

Вавёрка ўсё яшчэ стаяла на парозе, працягваючы лапку, каб павіншаваць авадня.

– Адкрый рот! – сказаў ёй авадзень.

Вавёрка адкрыла рот, і авадзень увапхнуў туды кавалак торта. Гэта быў вельмі злосны торт, які авадзень спёк некалькі гадоў таму, каб раз і назаўсёды разабрацца з тортамі.

– А ну глытай! – закрычаў ён.

Вавёрка адным махам праглынула кавалак торта і сама сабе заўважыла, што непрыемнасці часам здараюцца: напрыклад, град падае, альбо хвост баліць, альбо ўвогуле без дай прычыны робіцца сумна. Яна змахнула з вуснаў горкія крышкі.

Авадзень схапіў вавёрку, укусіў яе, сагнуў папалам, падкінуў уверх, потым злавіў і шпурнуў у кут.

– Гэта мы танчылі, – патлумачыў ён. – Святкавалі дзень нараджэння.

Потым адкрыў рот і прамовіў:

– Грвгр грвгр грвгр! Снвгр снвгр снвгр! Схрмфст схрмфст схрмфст! Тшмклфст тшмклфст тшмклфст і гэтак далей!

Потым кашлянуў і сказаў:

– Гэта мая святочная песня.

Вавёрка асцярожна паднялася. На яе ілбе выскачыў вялізны гуз.

Авадзень схапіў яе за талію, расчыніў лапкай дзверы і выкінуў вонкі.

– Прэч адсюль! – крыкнуў ён і зачыніў дзверы.

***

*Дарагія звяры!*

*Можа, хтосьці святкуе сёння дзень нараджэння?*

*Калі ніхто, то можа, хтосьці жадае адсвяткаваць яго загадзя?*

*Калі зноў жа ніхто, можа, нехта хоча адсвяткаваць штосьці яшчэ і запрасіць мяне на торт і печыва?*

*Калі ўсё яшчэ ніхто, можа, хтосьці мае ахвоту проста спячы торт (пажадана з мёдам і вяршкамі, а яшчэ салодкім жэле і плаўленым цукрам) і паклікаць мяне дапамагчы гэты торт з’есці?*

*Калі ніхто не хоча, то што тады?*

*Можа, ведаеце, што можа разбурыць? Хачу што-небудзь разбурыць.*
*Дапамажыце мне.*
*Мядзведзь.*

І тады ва ўсіх раптам надарыўся дзень нараджэння, альбо яны вырашылі адсвяткаваць яго загадзя, ці адзначыць штосьці яшчэ, ці проста так спячы торт. Мядзведзь хадзіў ад дому да дому, пакуль ужо нічога не магло ў яго змясціцца. Сапучы і крэкчучы, ён лёг пад вярбой і ў святле вечаровага сонца марудна занурыўся ў глыбокі сон.

***

Ібіс святкаваў свой дзень нараджэння так, як не святкаваў ніколі раней, але чаму – ніхто не ведаў. Мёду, дубовага соку і арэхавага напою было нашмат больш, чым на звычайным дні нараджэння. Цёплым вечарам ібіс сядзеў за сталом на лясной палянцы ў пяшчотным святле ветаха на самым пачэсным месцы і сам падкладаў і падліваў гасцям усё новае і новае смакоцце, кожны раз выдаючы штосьці накшталт “Ах!”, ці “О!”, ці “Хм”.

Усе сядзелі з кім хацелі, і ўсё было проста цудоўна.

Калі кожны атрымаў у два разы больш ежы, чым мог з’есці, ібіс пастукаў па сваёй талерцы.

– Дарагія сябры, – пачаў ён.

Жаванне і сёрбанне тут жа сціхла.

– Сёння нас чакае незвычайны спектакль, – прадоўжыў ён, – спектакль без словаў. Жук будзе танчыць з мурашом.

– Але ж гэта ніякі не спектакль! – закрычаў са сваёй балеі лешч.

– Яны будуць не проста танчыць, – сказаў ібіс. – Яны крануць нас.

– Крануць? – перапытала жабка. – Гэта як – падыдуць і паляпаюць па плячы? Ха-ха-ха!

Але ніхто не засмяяўся, і жабка прысаромлена замаўчала.

Тады святляк, які стаяў ля стала, пагас, і на ўзвышэнні пад дубам, асветленым светлякамі, што звісалі з галінкі, жук і мураш раптам пачалі свой танец. Святла было больш, чым звычайна. Жук быў апрануты ў чорнае, мураш жа абсыпаўся чымсьці белым, і цяпер гэтыя белыя кропачкі мігцелі ў светляковым ззянні.

– Ох... – толькі і змаглі прамовіць госці.

Потым запанавала цішыня, і на суседнім хмызе заспяваў салавей. Жук паклаў лапку на талію мураша, і яны паплылі па ўзвышэнні.

Яшчэ ніколі дзве істоты не танчылі такога прыўкраснага танца і яшчэ ніколі на вачах гледачоў не блішчэла столькі слёз адначасова.

Больш за ўсіх танец кранеў вавёрку, бо час ад часу мураш цішком на яе паглядаў. Тады вавёрка думала пра падарожжа, якое яны збіраліся здзейсніць, і пра тое, як гэта было б цудоўна, і не магла зразумець, чаму па яе шчоках цякуць слёзы.

Гэтыя двое, яны танчылі вельмі доўга. І калі ўрэшце салавей узяў апошнюю ноту, на палянцы запанавала цішыня.

Ніхто не варухнуўся, нічога не сказаў і не запляскаў, пакуль ібіс не прашаптаў:

– Кранулі?

Усе кіўнулі, нават жабка, якую танец кранеў так, што яна ажно пабялела, і лешч, які плаваў ва ўласных слязах.

Вочы жука заблішчэлі, мураш кіўнуў і неяк дзіўна выцягнуў вусны трубачкай.

Ібіс паставіў на стол торт, які быў такім неверагодным, што яго цяжка было ўявіць, але ніхто нават не паспрабаваў.

– Як шкада! – усклікнуў мядзведзь.

Але ўсе астатнія госці ўсклікнулі “Ого!” і вырашылі ніколі не забываць гэты дзень нараджэння ібіса.

***

– Гэты мёд проста цудоўны! – сказаў мураш.

– Гэты мёд – проста брыдота нейкая! – сказаў чмель.

Яны сядзелі за доўгім сталом сярод іншых жывёлаў. Святкаваўся чыйсьці дзень нараджэння, хтосьці ўжо сказаў прамову, і цяпер яны ўрэшце ўзяліся за ежу.

Мураш пакаштаваў яшчэ кропельку мёду і сказаў:

– Ты меў рацыю: гэты мёд – нейкая брыдота.

Чмель таксама пакаштаваў кропельку і сказаў:

– Не, гэта ты меў рацыю. Мёд – цудоўны.

– Глупства нейкае, – запярэчыў мураш. – І зусім я не меў рацыі. Гэта ты яе меў.

– Няпраўда! – усклікнуў чмель. – Ты меў рацыю. А я абсалютна, проста-такі цалкам і канчаткова яе не меў.

– Табе здаецца, – сказаў мураш. – Не дачакаешся – рацыю меў ты!

Тут чмель узлятаў, пнуў мураша і закрычаў:

– Гэта ты меў рацыю! Вось!

Мураш няўклюдна ўстаў і схапіў чмяля за крыло. Чмель пацягнуў мураша за вусік, а мураш схапіў чмяля за талію і з усяе моцы ўшчыкнуў.

– Аяй! – закрычалі абодва. – Але ты ўсё ж меў рацыю!

Чмель учапіўся за кончык абруса. Мядзведзь, карп, дрозд і іншыя госці толькі і паспелі заўважыць, як па стале папаўзлі стравы і праз імгненне зваліліся на зямлю.

Мураш перавёў дыханне і хрыпла, з перапынкамі, закрычаў:

– Я... не меў... рацыі...

– Я таксама не меў, – дзіка прагудзеў чмель і, моцна напружыўшыся, запхнуў мураша пад стол.

– Цудоўнае свята... – прабурчаў мядзведзь – адзіны, хто паспеў ураваць са стала сваю лыжку. Карп тым часам расчаравана разглядаў пустую ваду.

А мураш з чмялём працягвалі біцца пад сталом. Ніхто не хацеў прызнаваць сваю рацыю, нягледзячы на колькасць параненых ног і слупы пылу, выбітага імі са спінаў адзін аднаго.

Астатнія звяры, змрочныя і галодныя, пачалі разыходзіцца па дамах. На зямлі паўсюль валяліся рэшткі найсмачнейшых пачастункаў, і ніхто больш не помніў, хто і што сёння святкаваў.

Позняй ноччу змучаныя мураш і чмель ляжалі побач на зямлі. Сабраўшы апошнія сілы, чмель агарнуў мураша сваім крылом.

– Замерзнеш яшчэ... – сказаў ён.

– Ды не, мне зусім цёпла, – запярэчыў мураш і пачырванеў.

– Ты маеш рацыю, – адказаў чмель, але крыла не прыбраў.

Мураш больш нічога не сказаў, а толькі абняў чмяля адзінай не параненай лапкай. Пасля дачакаўся, пакуль чмель засне, і тады, дрыжучы ад холаду, прашаптаў:

– Ты таксама.

***

І вось усе зноў сабраліся на банкеце. Яны не ведалі, што святкуюць, затое добра ведалі, што ядуць. Абапершыся на локці, вавёрка прысёрбвала густы сок з букавых арэшкаў праз чарацінку, зрэзаную на беразе ракі. Побач з вавёркай

сядзеў мураш, які трымаў у лапках велізарны кавалак цукру, які ён смактаў, а часам нават грыз, пасля чаго мармытаў: “М-м-м...”, – але здавалася, што гэта ён бурчыць.

Трошкі далей сядзеў алень. Перад ім на талерцы ляжалі лісты падбелу, парэзаныя з дапамогай нажа і відэльца на маленькія кавалачкі, якія алень адзін за адным запіхваў у рот. Такі стан справаў аленя відавочна задавальняў. Насупраць яго сядзела пчала з кубкам, зробленым з ясноткі. Пчала нікога не слухала і ні на кога не звяртала ўвагі, а толькі піла найсаладзейшы мёд.

– Пчала, пчала, гэй, пчала! – крычаў часам дзік, што сядзеў побач з ёй, але пчала не звяртала на гэта ўвагі. На талерцы дзіка ляжала каша, а калі яна скончылася, яму далі вядро кіслага малака з пакрышаным туды хлебам. Побач з дзіком сядзела тля, якая прынесла з сабой свой пачастунак, далей штосьці клявала варона, упрыгожаная чорнай бліскучай стужкай, яшчэ далей акунь ляніва плёскаўся ў балеі, дзе плавалі салодкія водарасці, якія ён час ад часу пачынаў жаваць. Зрэдку акунь штосьці нашэптваў на вуха жырафе, якая на хвіліначку адрывалася ад дэсерту з ружовых ружаў і дзядоўніку і прыязна ківала галавой.

Далей за сталом сядзеў слон, які расклаў на яловай талерцы вялікія кавалкі дрэўнай кары па алфавіце: там была кара бука, бярозы, вяза, вярбы, дуба, каштана, ліпы і сасны. Далей сядзела разгубленая гіена з пустой талеркай і калі-нікалі хіхікала. Камар засунуў нос у кубак, змесціва якога яму відавочна падабалася. На самым пачэсным месцы сядзеў жук, які выцягваў са скрынкі кавалачкі чорнай стравы, і жабка з рапухай, якія першы раз апынуліся побач, а таму пілі за здароўе адна адной і дамаўляліся сустракацца часцей.

Неба над лесам было блакітным, а сонца тысячакроць люстравалася ў бліскучых шклянках, якія падымалі бясконцыя шэрагі гасцей. Калі кагосьці цягнула на прамову, ён абмяжоўваўся адным словам. “Сябры!” – сказаў голуб. Госці пляснулі ў далоні і працягнулі есці.

– Мы! – сказала аса.

– Ого! – сказаў насарог.

Калі б хтосьці пачаў гаварыць даўжэй, многія стравы астылі б, і гэта было б кепска. Бо любое свята існуе для таго, каб добра наесціся, ну і, магчыма, яшчэ для чагосьці менш важнага – але чаго менавіта, ніхто дакладна не ведаў.

Калі надышоў вечар, светлякі запалілі свае агеньчыкі. Леапарду дазволілі зыркаць над сталом вачыма. Дрэвы і вецер паклапаціліся пра музыку.

Калі паднялося сонца, жывёлы яшчэ не разышліся, але большасць ужо драмала. Праз некаторы час не спаў толькі мураш, які ўсё яшчэ смактаў свой велізарны кавалак цукру. Цёплыя сонечныя прамяні растапілі апошняе марожанае ў кубку маржа.

***

На свята цвыркуна ўсе мусілі прыйсці ў зялёных пінжачках і барвовых капелюшах. Планавалася, што дрозд выканае адну са сваіх песняў. Ён доўга трэніраваўся, але, апынуўшыся перад гэтым стракатым зялёна-барвовым натоўпам, адчуў, як моцна забілася яго сэрца.

Цвыркун кіўнуў, і дрозд пачаў песню.

Ён узяў першую ноту, але адразу ж замоўк, бо нота была не тая. Тады ён узяў іншую ноту, потым яшчэ і яшчэ, але кожны раз штосьці было не так.

– Я не магу знайсці правільнай ноты, – сумна сказаў урэшце дрозд. Жывёлы, што дагэтуль сядзелі стаіўшы дыханне, тут жа пачалі гэта абмяркоўваць:

– Нота кудысьці знікла.

– Хто-хто знік?

– А чаму ён не шукае яе за спінай?

– Можа, ён проста забыў яе дома?

– А чаму гэта ён не ў барвовым капелюшы?

Пытанні, пытанні – і ніякіх адказаў. Вавёрка з мурашом (яны акурат сядзелі побач) пахіталі галовамі.

– Яна не магла так проста знікнуць, – сказаў мураш.

– А гэта была выпадкова не нота “соль”? – спытала вавёрка.

– Не, – адказаў дрозд.

Тады слон спытаў, ці не была гэта нота “цукар”, конік прыцягнуў скрынку, поўную нотаў, а жаўрук нават праспяваў цэлую песню.

– Ці не было гэтай ноты ў маёй песні? – скончыўшы спяваць, спытаў ён.

– Не, – адказаў дрозд.

Першую ноту яго песні ўсё яшчэ не знайшлі. А без песні дразда свята цвыркуна працягвацца не магло. Урэшце цвыркун папрасіў усіх разыходзіцца па дамах. “На жаль”, – дадаў ён з уздыхам.

Галодныя звяры, шоргаючы лапамі і буркочучы, пайшлі па дамах. Застаўся толькі дрозд, бо праз слёзы на вачах ён ніяк не мог знайсці яшчэ і правільную дарогу дадому. Цвыркун паляпаў яго па плячы і сказаў:

– Не пераймайся, дрозд. Такое часам здараецца.

Схаладнела, і цвыркун пайшоў спаць. Дрозд ад холаду скурчыўся на галінцы і дазволіў думкам ляцець куды ім заманецца.

Бліжэй да ранку ён урэшце знайшоў першую ноту сваёй песні. Гэта было так, нібыта ён пачаў падаць з неба. Дрозд неадкладна заспяваў, і яго песня была прыгажэйшай і цяплейшай за любую іншую песню ў свеце.

Але пачуў яго толькі святляк, які часта ўставаў начамі, каб пры ўласным святле крышачку падумаць. І гэтая песня так яго кранула, што ў яго на вачах з’явіліся слёзы і хутка пагасілі яго святло.

І таму ён адразу ж пайшоў спаць. І не было ўжо нікога, хто мог бы пачуць шчаслівага, захопленага дразда на цёмнай галінцы.

***

Камару хацелася адсвяткаваць дзень нараджэння на хуткую руку. “Самы кароткі дзень нараджэння, які толькі існуе”, – падумаў ён. Адным махам – і ўсё.

Таксама яму хацелася атрымаць самы маленькі падарунак. Напрыклад, адну цукрынку. А яшчэ лепей – кавалачак цукрынкі. І нават кавалачак кавалачка цукрынкі. “Ага, не больш”, – падумаў камар.

За ружовым кустом ён адшукаў самы цёмны куток, дзе і вырашыў святкаваць дзень нараджэння. Потым спёк такі маленькі торт, што даводзілася добра так прыглядацца, каб яго ўбачыць. Але потым камар выпадкова здзьмухнуў гэты торт са стала. І не змог знайсці – такі ён быў маленькі.

Нарэшце надышоў ранак.

“Вось у мяне і дзень нараджэння”, – падумаў камар.

Але пакуль ён разважаў, каго б запрасіць (бо яго палохала думка пра любых гасцей, нават пра святляка ці страказу), дзень нараджэння ўзяў і скончыўся.

“Нічога я, значыць, не адсвяткаваў, – падумаў камар. – Карацей ужо немагчыма”.

Ён кіўнуў і задаволена зазвінеў.

І ўсё ж камар вырашыў у наступным годзе святкаваць дзень нараджэння крыху даўжэй. “Свята мусіць быць кароткім, але не настолькі”, – падумаў ён. Тады ён спячэ торт і прывяжа яго да стала нітачкай, а яшчэ папросіць, каб яму падарылі дзве цукрынкі, ці нават сто, ці нават цэлую горку. Эх, чаго гэта ён сёння нікога не запрасіў?

Ад хвалявання крылы камара пачырванелі, і ён на ўсёй хуткасці ўляцеў у ружовы куст. Прайшло ўжо некалькі хвілінаў яго новага года.

***

Набліжаўся дзень нараджэння цвыркуна, і яму вельмі хацелася, каб усе прыйшлі на яго свята. Усе, апроч мядзведзя.

І тады ён напісаў мядзведзю ліст:

*Дарагі мядзведзь!*

*Я не хачу, каб ты прыходзіў на мой дзень нараджэння.*

*Ты праглынаеш увесь пачастунак.*

*Ты ўсё разліваеш.*

*Падчас танца ты наступаеш усім на ногі.*

*Ты дорыш падарункі, ад якіх няма ніякае карысці.*

*Ты спяваеш фальшыва і занадта гучна.*

*Ты заўсёды гаворыш, што ўсё цудоўна, нават калі яшчэ не ведаеш, ці напраўду ўсё цудоўна.*

*Ты адціскаеш усіх убок, каб далезці да торта першым, і калі не бачыш на стале мядовага торта, то адразу крычыш: "Гэй, а чаму няма мядовага торта?!"*

*Калі пачастунак ужо скончыўся, ты дзесяць разоў перапытваеш, ці праўда ён зусім-зусім скончыўся.*

*І калі ён скончыўся зусім-зусім, ты перапытваеш, а чаму гэта няма яшчэ чаго-небудзь.*

*Ты завальваешся спаць, калі хтосьці кажа прамову.*

*Як толькі ты завальваешся спаць, то адразу падаеш з крэсла і пачынаеш задаваць храпака.*

*Калі ўсе ўжо разыходзяцца па дамах, ты ўсё яшчэ валяешся на зямлі і даеш храпака, а як толькі прачынаешся, адразу ідзеш шукаць рэшткі пачастунку.*

*Ты... ну ды ладна.*

*Усё адно прыходзь.*

*Напраўду здорава, калі ты прыходзіш.*

*А ў мяне заўтра дзень нараджэння.*

*Я буду вельмі рады, калі ты прыйдзеш.*

*Дык да заўтра?*

*Цвыркун.*

***

Аднаго вечару ў дзверы вавёркі хтосьці пастукаў. Вавёрка адчыніла.

На парозе ў доўгім чырвоным паліто стаяў амар і трымаў у клюшні сумку.

– Вы тут жывяце? – спытаў ён.

– Ну так, – адказала вавёрка.

– Дазвольце, калі ласка, адсвяткаваць тут мой дзень нараджэння, – папрасіў амар. – Бо я цяпер падарожнічаю і не магу адсвяткаваць у іншым месцы.

– Ого! – здзівілася вавёрка. – Ну, тады святкуйце.

Амар зняў паліто – на ім быў аранжавы касцюм з белымі ўстаўкамі. Потым крышачку адсунуў крэсла і сеў за стол, паставіўшы побач сумку і мармычучы сабе пад нос: "А я ўжо сябе павіншаваў? Не? Ну, тады віншую". Потым агледзеўся.

Вавёрка адкашлялася і спытала:

– А як вы збіраецеся святкаваць свой дзень нараджэння?

– Гэта мой клопат, – сказаў амар. Паставіўшы локці на стол, ён зірнуў на вавёрку і дадаў: – Заставайцеся там, дзе цяпер стаіце.

Вавёрка засталася стаяць ля парога.

– І лепш за ўсё, калі вы будзеце маўчаць, – дадаў амар.

Ён дастаў са свае сумкі пакунак, паклаў яго на стол і з цікаўнасцю агледзеў. “Што б гэта магло быць?” – прамармытаў ён і падняў бровы. Потым усміхнуўся і дадаў: “А ты раскрый яго”. І ён раскрыў пакунак. Там ляжаў ярка-чырвоны гальштук.

Амар задаволена кіўнуў і павязаў яго на шыю.

– Вялікі дзякуй, амар, – сказаў амар. – Мне было надзвычай прыемна. Пасуе, праўда? Так-так, вельмі пасуе.

Потым ён дастаў з сумкі маленькі блакітны торт, адрэзаў ад яго некалькі кавалкаў і схаваў рэшту ў сумцы.

– Цудоўна, – прамармытаў амар і з асалодай уцягнуў у рот некалькі крышак. Потым адкінуўся на крэсле, заплюшчыў вочы і на некаторы час застыў у такой позе. Потым прамармытаў: “Гэта было проста здорава”, – і расплюшчыў вочы.

Вавёрка ўсё яшчэ стаяла ля дзвярэй і маўчала.

– Ну вось, – сказаў амар.

Ён падняўся з крэсла і падышоў да акна. Месяц ужо амаль выкаціўся з-за дрэваў, і непадалёк ад вавёрчынага бука акурат у гэты момант слон выпадкова зваліўся з дуба.

– А-а-а! – пракрычаў здзіўлены слон, махаючы вушамі і хобатам. А потым гучна пляснуўся на зямлю.

– А ў цябе адсюль прыгожы від, – зазначыў амар.

Але вавёрка прамаўчала, думаючы, што амар усё яшчэ хоча цішыні.

Амар зноў надзеў паліто і прайшоў міма вавёркі, выходзячы з дому.

– Цяпер я магу падарожнічаць далей, – сказаў ён. – Пасталелы і задаволены. Будзьце здаровыя!

І ён саслізнуў уніз па букавым камлі, а потым, не азіраючыся, знік у кустоўі.

***

Аднойчы цвыркун адчыніў краму, дзе прадаваліся спісы пажаданых падарункаў, бо жывёлы звычайна не ведалі, што менавіта яны хочуць атрымаць на дзень нараджэння.

Цвыркун сядзеў у крэсле за прылаўкам і, нецярпліва кусаючы локці, чакаў першага пакупніка.

Ім стаў насарог, які планаваў на наступным тыдні адсвяткаваць дзень нараджэння і не ведаў, якія падарункі хоча атрымаць.

– Ага! – усклікнуў цвыркун.

Ён дастаў аркуш і напісаў: *Спіс пажаданых падарункаў для насарога*

Потым цвыркун выйшаў з-за прылаўка, некалькі разоў абышоў насарога, прамармытаў сабе штосьці пад нос, прыпадняў адно насарогава вуха, паглядзеў, ці няма за ім чаго, і зноў пакінуў яго ў спакоі.

Пасля занатаваў у спісе: *Травяны торт*

– Травяны торт? – перапытаў насарог.

– Ён-ён, – адказаў цвыркун. – Яго ты атрымаеш ад мяне. Торт з жорсткай травы. З казяльцамі і салодкай канюшынай.

– Някепска, – сказаў насарог. – І яшчэ, калі ласка, з парачкай кветак дзядоўніку.

Тут цвыркун зажмурыўся, глыбока і надоўга задумаўся, потым кашлянуў і пад травяным тортам напісаў: *Усё астатняе*

– А гэта што такое? – спытаў насарог.

– А ты што, не ведаеш? – здзівіўся цвыркун.

– Не-а, – сказаў насарог.

– Ну-у-у-у... – пачаў цвыркун. – Гэта значыць, што спіс гатовы. Але ты ж не павінен ведаць, што там. І таму я называю гэта “ўсё астатняе”.

Ён радасна паскакаў уверх-уніз так, што яго пінжачок затрапятаў.

А насарог узяў спіс пажаданых падарункаў і пайшоў паказваць яго іншым. Праўда, травяны торт быў там ужо выкраслены – яго паабяцаў прынесці цвыркун.

І праз тыдзень, у свой дзень нараджэння, ён атрымаў ад цвыркуна травяны торт з дзядоўнікам, а ад іншых жывёлаў – усё астатняе, чым застаўся цалкам задаволены.

***

Надышоў чарговы дзень нараджэння мядзведзя, і ён зладзіў вялікае свята. Яго мінулы дзень нараджэння адзначаўся ўсяго тыдзень таму, але ён не лічыўся. Сёння, менавіта сёння быў яго сапраўдны дзень нараджэння. Тым больш што сябры не мелі нічога супраць таго, каб дні нараджэння мядзведзя здараліся так часта.

Свята хутка набірала абароты. Варона з салоўкам паклапаціліся пра музыку, і вось на танцпляц выйшлі першыя танцоры: конік у сваім самым новым пінжачку і слон, які з гэтай нагоды добра памыўся і цяпер цудоўна глядзеўся ў сваёй бліскучай шэрай скуры. Яны пратанчылі з аднаго кута танцпляцу ў другі, наступаючы адзін аднаму на ногі, часам падаючы на стол перад тым ці іншым госцем праз нечаканае паскарэнне мелодыі, а часам коцячыся па зямлі, калі музыка патрабавала грацыёзных паваротаў. Тым не менш, госці бурна пляскалі ім у далоні.

На просьбу мядзведзя пчала прагудзела сумную песню пра асу, якая залезла ў кветку, і згубілася там, і знайшлася толькі праз некалькі дзён, змучаная і пакрытая слоем пылку, і з таго часу больш ніколі не насмельвалася выпраўляцца па мёд. Падчас песні расчулены мядзведзь некалькі разоў уставаў і пачынаў пляскаць у далоні. Урэшце ён даў волю слязам і пралапатаў: “Дзякуй табе, пчала, дзякуй вялікі...”

Потым надышла чарга жырафы: яна здабыла дзесьці пару хадуляў і цяпер хацела паказаць сваё ўменне на іх хадзіць. Гэта была цудоўная карціна: разгубленая жырафа, якая прахаджваецца на хадулях. Калі б яна залезла крышачку вышэй, то абавязкова захрасла б галавой у даху, зусім не разлічаным на жывёлаў з хадулямі. І тады мурашу з дзятлам давялося б умяшацца і вызваліць яе.

Усе, абсалютна ўсе ад душы весяліліся, зноў і зноў віншавалі мядзведзя і зычылі яму найхутчэйшых новых дзён нараджэння.

На канапе сядзела вавёрка і кавалак за кавалкам ела торт, ад чаго жывот яе ўсё больш і больш рос, а сама яна паступова спаўзала на спіну. Урэшце жывот зрабіўся такім велічэзным, што з-за яго нічога не было бачна. Жывёлы з павагай стоўпіліся вакол вавёркі, якая ўсё яшчэ ела, але і стаўшы на дыбачкі, і нават на крэсла, ніхто не мог ахапіць яе неверагодны жывот адным позіркам. Яны добра чулі, як вавёрка з чвяканнем паядае торт, але маглі толькі здагадвацца, што там напраўду адбываецца, ці бачыць яна далей за свой жывот і як туды яшчэ штосьці змяшчаецца.

*Пераклад з нідэрландскай.*

Сяргей Шапран



...усё лета валэндаўся з кіно,
якое абрыдла горш за тэатры...

# “Кіно – мастацтва калектыўнае...”

## *Драматычны кінадраматургічны лёс Васіля БЫКАВА*

### «Волчья стая»

*Працяг. Пачатак у №2-4 (51-53)*

Літаратурны сцэнарый фільма «Волчья стая» (рэжысёр Барыс Сцяпанаў) мае тры варыянты, другі напісаны Васілём Быкавым пасля заўваг, зробленых сцэнарнай рэдакцыйнай калегіяй «Беларусьфільма» падчас пасяджэння 21 сакавіка 1974 г.: «КРУГОВЫХ Н. П. Само обращение Василя Быкова к теме преемственности поколений, к тому, чтобы сказать сегодняшним тридцатилетним, с какими муками и невероятными лишениями был сопряжен сам факт их рождения, вызывает к автору сценария благодарное чувство, и, безусловно, по достоинству будет оценено зрителем.

Сценарий подкупает лаконизмом и прозрачной ясностью авторских ремарок и описаний, сжатым и сочным языком. Индивидуализирован и язык персонажей, особенно деда Грибоеда. Дед Грибоед говорит не просто белорусским языком, и не это главное в обрисовке портрета речевыми средствами, главное в том, что он говорит языком крепким, по-фольклорному образным и могучим.

Сюжет сценария «Волчья стая» предельно прост: бывший партизан Левчук ищет встречи с Виктором Платоновым, которого он, грудного ребенка, прожившего считанные часы после рождения, спас от верной гибели. В ретроспекции развиваются события тридцатилетней давности, полные лишений и драматизма. В. Быкову на локальных эпизодах удалось правдиво воссоздать обстановку партизанской борьбы.

Что, на мой взгляд, нуждается в доработке?

Настораживает обилие ретроспекций, порой стоящих не на месте и, в основном, иллюстративных, не высветляющих глубоко ни события, ни характеры действующих лиц. Например, ранение Левчука, гибель сына Грибоеда, воспоминание о том, какой была Клава до замужества, думается, можно было показать в репликах, в диалогах, не рисуя подробных ретроспективных картин.

Как-то слабо увязывается с действием символ — волчья стая, поданная тоже в ретроспекции.

Наверное, не новым приемом являются и «мысли вслух». По крайней мере, мастерски выписанные в самом начале поиски Левчуком дома Платоновых, ничуть не обогащаются сразу же за этим дикторским текстом.

Ушла из-под внимания автора судьба Клавы, много неясностей в ее прежних отношениях с Левчуком и Платоновым, как-то утерялась она в конце произведения.

Вовсе непонятна история появления вместе с немцами предателя полицая, который, судя по тому, что он знает о нахождении среди мужчин радистки, бежал из отряда совсем недавно.

По всему сценарию, особенно в сценах при тяжелом переходе по болоту, не совсем чувствуется атмосфера того, что мужчины везут на подводе беременную, а здесь можно было бы глубже раскрыть черты характеров и Левчука, и Грибоеда.

В финальных сценах настораживает поведение Левчука, который, направив женщину с ребенком спасаться, сам почему-то бежит в лес, оставляя Грибоеда на произвол судьбы, а на поиски Клавы с ребенком отправляется лишь с наступлением ночи.

Последнее замечание: непонятно, почему Левчук оттягивал встречу с Виктором на целых тридцать лет, а если он пытался найти его значительно раньше — в сценарии этого нет.

Вероятно, автор в дальнейшей работе над сценарием постарается что-то углубить, акцентируя внимание на самом важном. [...]

ВЫСОЦКИЙ В. И. Я не в восторге от повести В. Быкова. Мне кажется, что эта вещь слабее по силе обобщения и раскрытию образов, чем все остальное, что написано автором раньше. [...]

У меня ощущение, что характеры персонажей, за исключением Грибоеда, нужно уточнять. После прочтения мне кажется, что главного героя я знаю мало. Кто он? И лишь история с гибелью радистки проясняет что-то. [...]

Что касается радистки, то ее образ вполне приемлем.

Раненый. Нужно прояснить причину его самоубийства. То ли это обусловлено слабостью его характера, то ли желанием всех спасти. Характер этого человека нужно прояснить, здесь полная неясность. Я бы сказал, что здесь даже возникает мотив обреченности.

Нужно найти масштабность фильма, и искать его надо в предельном углублении образов.

БУЛАВИНА В. Д.[1] Мне кажется, нужно убрать полицая. Зачем он нужен?

ПОЛЯКОВ С. Г.[2] Это рудимент повести.

БУЛАВИНА В. Д. Ретроспекции тоже нужно убрать.

ФРАЙМАН М. П. У меня есть убеждение, что это может быть интересный фильм, хотя приемы его уже известны. Есть такие фильмы. Что же привлекает в этой вещи? Конечно, есть потери в отличие от повести, поэтому мы не воспринимаем ретроспекции.

На что же мне хотелось обратить внимание. Люди отправляются в путь и нужно уточнить причину их отъезда. Их путь завершается рождением человека. И, фактически, фильм о рождении человека, о том, в каких трудных, невероятных условиях появлялся человек.

Мне кажется, что действий в этом сценарии достаточно. Здесь есть живой материал, показаны интересные люди, нет никакой искусственности, заданности, материал, глубоко проникающий в суть.

Я считаю, что фильм выигрывает, когда есть новеллистичность. Я за то, чтобы она была сохранена, но ее разрушают ретроспекции. Они носят характер информационный. Я бы перевел некоторые из них в диалоги, это было бы более эмоциональное действие на зрителя. Думаю, что автору нужно посоветовать решить вопрос с ретроспекциями. От них нужно отказаться.

2. Финал я бы уточнил, причем не только конечный, но и обратить внимание на уход Левчука.

3. Я бы попросил В. Быкова рассказать судьбу Клавы, ее любовь. Фактически мы о ней ничего не знаем. [...]

ПУШКИН О. А. [...] Я считаю, что ретроспекции могут стать стилистикой произведения. Что касается Клавы: может, выясним ее отношения с Левчуком и мужем именно в ретроспекции?

ПОЛЯКОВ С. Г. Мне нравится, как товарищ Степанов видит картину. Человек раненый, без руки, пытается найти ребенка и оказывается, что у него нет наград. И вот единственной его наградой является этот спасенный ребенок — это квинтэссенция всего произведения. Если это будет чувствоваться, то мы получим масштабность, личность и необычный факт. [...]

ДЯТЛОВ А. Н. Я считаю, что здесь лишняя сцена с волками [...].

Не понятно, зачем нужно убирать полицая. И Левчук — пусть он будет таким. Зачем все приглаживать?

ГУЩИНА Р. А.[3] Я полностью поддерживаю т. т. Дятлова и Пушкина в том, что не нужно убирать все ретроспекции. Ведь они дополняют Левчука, и он, как главное лицо, проходит через все ретроспекции.

Хорош эпизод с волками, и он раскрывает героя. И в самом названии я не вижу ничего плохого. [...]

КОЛЯДЕНКО Э. Н.[4] Нужно еще обратить внимание на логику действий. Почему он решает, что не стоит ехать по гати. То ли он не доверяет разведчикам, то ли он что-то учуял. Если он почувствовал что-то, то этого не показано.

БУЛАВИНА В. Д. Ведь он сам говорит, что немцы не дураки.

КОЛЯДЕНКО Э. Н. Решение о тяжелораненом не однозначно. После этого происходит разговор — стоит ли жить? Грибоед говорит Лене, что не хочет жить. Здесь все замотивировано: у него всех убили.

Почему не показали смерть Грибоеда? Вдруг начинается бой и он потерялся в бою, он отдает себя за родившегося ребенка — это становится в ряд погибших во имя жизни, а этого в сценарии не показано. Не ясно, как он убит. Это сделать нужно — показать, что они погибли во имя будущей жизни. Нужно, чтобы этот мотив присутствовал не навязчиво, не в лоб. [...]

СТЕПАНОВ Б. М. По сравнению с повестью здесь произошли значительные потери. Быков размышляет вместе с героями, есть ретроспекции, в которых все логически оправдано. Здесь же произошла странная вещь — всё как в повести и ретроспекции на месте, но ловишь себя на мысли, что они чужеродны, они

— иллюстрация того, что уже известно. Возникает такое ощущение, что они не нужны. И я больше склоняюсь к тому, чтобы перенести их в план диалогов, и чтобы все выяснялось не сразу, а в репликах, в столкновениях, мнениях.

Но, может, автор найдет для ретроспекций другой ход, не хронологический. Допустим, сейчас все выглядит так: идет Клава и тут же ретроспекция о Клаве. Ведь ретроспекция должна возникать как психологический посыл. Мне кажется, что можно сделать так: веселая сцена и вдруг сцена трагического звучания, как контрпункт. Может, автор сделает такие вещи.

Здесь было замечание по поводу того, спас ли Левчук Клаву или убегает в лес, чтобы спастись самому. У меня, например, такого ощущения не появилось. [...]

По поводу полицая, [что] это, фактически, рудимент повести — мне не хотелось бы терять этот голос. Здесь звучит весь трагизм положения. Может, не строить все так логично?

ОСИПЕНКО А. Х. [...] В самом начале есть монолог, когда он говорит, кем он может быть: инженером, врачом, кандидатом наук. Возникает вопрос, как это перевести в зрительский ряд, как это подвести к финалу, чтобы показать, кто он такой.

Что касается Клавы. Это любовь военная, образ любви, будущей жизни. Это в ретроспекции есть. Ведь все так и было. Сколько в 41[-м], 42[-м] годах было партизанских детей.

Нужно, чтобы акцент предательства был сведен до минимума.

По поводу ретроспекций. Если бы В. Быков нашел возможность сделать все это как вспышку памяти, то это было бы для нас приемлемо.

Грибоед — очень интересная личность, абсолютно народный характер, но здесь не оправдана неясность его судьбы.

У меня предложение принять сценарий в качестве первого варианта и прикрепить режиссера к литературному сценарию до запуска его в режиссерскую разработку с 21 марта 1974 года»[5].

Пратакол гэтага пасяджэння, мяркуючы па ўсім, быў перададзены В. Быкаву, таксама як і наступнае заключэнне:

«Ретроспекции, имеющиеся в сценарии, носят иллюстративный, информационный характер, и не способствуют обогащению эмоционального звучания сценария. Некоторые из них вообще излишни. Следует их либо полностью переосмыслить, либо исключить, переведя заключенную в них информацию в диалог персонажей.

Нуждаются в углублении характеристики героев, о судьбах и взаимоотношениях которых хотелось бы узнать полнее. В частности, не ясна предыстория отношений Клавы, Платонова, Левчука.

В начальных эпизодах сценария хотелось бы ярче подчеркнуть отношение партизан к Клаве — женщине и будущей матери.

В финале уточнить эпизод, в котором партизаны предпринимают попытки спасти Клаву и ее ребенка, четче объяснить мотивы поступков Левчука, усилить роль деда Грибоеда, подчеркнув момент его самопожертвования, показать гибель Клавы.

На взгляд сценарной редакционной коллегии, не вызывается необходимостью появление предателя-полицая.

Хотелось бы, чтоб автор продумал характер закадровых размышлений Левчука перед встречей со спасенным им человеком»[6].

Другі варыянт сцэнарыя быў падрыхтаваны Быкавым, магчыма, на пачатку красавіка 1974 г. і, відаць, не выклікаў асаблівых пярэчанняў на «Беларусьфільме»:

«З А К Л Ю Ч Е Н И Е
киностудии «Беларусьфильм»
по литературному сценарию В. Быкова «ВОЛЧЬЯ СТАЯ»

...Тридцать лет искал Левчук человека, о котором знал лишь одно — сам рискуя жизнью, спас его, новорожденного, в суровую годину партизанских сражений. И вот он находит улицу, дом, квартиру...

А память неотвратимо и властно воскрешает грозные дни минувшего, заставляет вновь и вновь их пережить.

Сегодняшний день, в который врывается прошлое, — в сценарии В. Быкова не просто прием для завязки действия, а та непрерывающаяся «связь времен» в душе героя, свято хранящего память о товарищах по оружию, нравственный кодекс жизни не только в грозные годы испытаний, но и сегодня, для всех... Историю, рассказанную автором, делают значительной, наполняют высоким смыслом его герои, люди, к которым сразу проникаешься доверием, с которыми вместе переживаешь.

В. Быков знакомит нас с характерами своеобразными, незаурядными, и в то же время такими обычными, живыми, неповторимыми.

...Немногословный, чуть угрюмый и по-крестьянски находчивый Левчук, от которого вроде и трудно ждать подвига, но который в любой момент готов на самые тяжкие испытания; дед Грибоед — фигура полная трагизма и вместе с тем глубокой народной мудрости и благородства; «Партизанская Мадонна» Клава — олицетворение любви, материнства и беззаветного мужества; каждый со своей судьбой, своей мерой любви и ненависти, с верой в Победу над волчьей стаей... Их нельзя не полюбить.

Все это позволяет надеяться на то, что на основе этого сценария может быть создано интересное, значительное произведение для экрана.

Главный редактор
киностудии «Беларусьфильм» А. Осипенко
Редактор фильма Л. Поздняк
16.IV.74.»[7]

У сваю чаргу Галоўная сцэнарная рэдакцыйная калегія Дзяржкіно СССР у асобах галоўнага рэдактара Д. Арлова і галоўнага рэдактара групы ваенна-патрыятычнага фільма Ю. Платонава дазваляла запуск у рэжысёрскую распрацоўку сцэнарый Быкава, але з улікам наступных прапаноў:

«а) прояснить судьбу партизанки Клавы после того, как она оставляет группу Левчука;

б) диалоги с участием Грибоеда приблизить к русскому тексту: многие слова и выражения могут оказаться непонятными для массового зрителя;

в) сцена с волками ничего не добавляет образу главного героя, не разбивает сюжет. Одновременно она вносит путаницу и в без того сложную систему ретроспекций. Предлагаем авторам обойтись без этого эпизода, одновременно сменив название сценария»[8].

Мяркуючы па ўсім, сам Быкаў застаўся незадаволены кінастужкай — яшчэ падчас здымак ён пісаў Пімену Панчанку: «Цяпер вось па ёй [па аповесці. — С.Ш.] здымаюць фільм у Пастаўскім раёне, але фільм, як заўжды, цягне ўсё на слабіну, — на звычайнасць. Нядаўна быў там, толькі вярнуўся»[9]. А ў лісце да В. Аскоцкага прызнаваўся: «...все лето возился в кино, которое надоело хуже театра»[10].

Фільм прыняты дырэкцыяй к/с «Беларусьфільм» 3 сакавіка 1975 г. Выйшаў на экран 17 лістапада 1975 г. (у 1976 г. дубліраваны на беларускую мову).

[1] Булавіна Валянціна Дзмітрыеўна (н. 1929) — беларускі журналіст, рэдактар, член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі ТА «Телефильм» к/с «Беларусьфільм».

[2] Палякоў Самсон Германавіч (н. 1937) — беларускі журналіст, сцэнарыст, рэдактар, член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі к/с «Беларусьфільм».

[3] Гушчына Рыма Аляксандраўна (н. 1940) — рэдактар к/с «Беларусьфільм».

[4] Калядзенка Эрнэст Мікалаевіч (1927—1981) — беларускі журналіст, сцэнарыст, рэдактар к/с «Беларусьфільм».

[5] Паводле «Протокола заседания сценарно-редакционной коллегии» ад 21 сак. 1974 г. Машынапіс. Копія. Архіў В. Быкава (Гродна).

[6] Паводле «Заключения сценарной редакционной коллегии по литературному сценарию В. Быкова “Волчья стая”» ад 25 сак. 1974 г. Машынапіс за подпісамі А. Асіпенкі, Н. Кругавых, О. Пушкіна. Архіў В. Быкава (Гродна).

[7] Машынапіс. На першай стар. справа ўверсе: «“УТВЕРЖДАЮ” ДИРЕКТОР КИНОСТУДИИ “БЕЛАРУСЬФИЛЬМ” В. Ивановский. 16 апреля 1974 г.». БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 883, арк. 368—369.

[8] Машынапіс. Копія. БДАМЛМ. Ф. 112, воп 1, адз. зах. 883, арк. 367.

[9] З ліста ад 24 жн. 1974 г. «Бачу Вас побач... »: Лісты Васіля Быкава да Пімена Панчанкі / Публікацыя З. К. Панчанкі; падрыхтоўка да друку А. Урбана // Полымя, 2001, № 8, с. 162.

[10] З ліста ад 6 кастр. 1974 г. Аўтограф. Копія. Архіў В. Быкава.

*Працяг будзе.*

Ніл Гілевіч



...без мовы —
усім нам амба,
усяму народу...

# Год дзевяноста восьмы

## *Выбраныя старонкі дзённіка*

*1-га студзеня.* Вось і пачаўся Новы. Сустракалі... ніяк. Іванаўна, ушчэнт выматаная і заматаная, не стала нават чакаць “віншавання”. А я не стаў слухаць. У 24.00 выпіў кілішак, пайшоў у свой пакой і гадзін да трох карпеў над “Лодачкамі” (можа, гэту назву і пакіну).

“Звязда” надрукавала мае “Сем тэзісаў незастольнай прамовы”, але — дзе і як надрукавала! Адразу і не знайшоў. Толькі як у другі раз, праз колькі гадзін, узяўся праглядаць газету... “Цётка, а во яно ё!” Але ж і пастараліся! Ты бач, як страх пад скуру пайшоў!.. Вельмі шкадую, што пісаў. Па просьбе ж. Уважыў Таццяну Антонаву.

*5-га студзеня.* У 16.00 быў у Балгарскай Амбасадзе, доўга гутарылі з Маркам, пасля далучылася і Ані. Гаварылі пра сітуацыю ў іх краіне, пра ўзаемаадносіны паміж пісьменнікамі ў Сафіі (паміж СП і Садружнасцю, адным з заснавальнікаў якой і быў Ганчаў). Адкрыў для сябе, якая страшная ў сям’і Ганчавых крыўда на Джагарава, Ані аж закіпала нянавісцю, калі заходзіла аб ім. Божа прамілы! А мы ж былі з ім у сяб-

роўскіх адносінах, і колькі ён дабра мне зрабіў... Доля — сябра ўсёй балгарскай паэзіі, не творчасці аднаго-двух. Адчуў, што Марка занепакоены паступленнем да мяне інфармацыі з СПБ, які ў руках яго незычліўцаў. Так, чаго добрага, і я ўцягнуся ў міжусобіцу.

*7-га студзеня.* Калядаваў у Стасевічаў. Добрыя, мілыя людзі. Эпікурэйцы. Аптымісты. Нават весельчакі. А я — зануда. Слухаў іх песні і прыпеўкі — пад гармонік. Так бы і жыць, халерачка! Чытаў ім свае "песні прапашчага". Уразілі. Першае публічнае чытанне.

*8-га студзеня.* Вечар правёў у Ганчавых, на кватэры, як і дамаўляліся. Ані спецыяльна для мяне (а чакалі і Ніну) згатовіла адмысловую "шкембе-чарбу". Не еў, бадай, гадоў дваццаць. Гаварылі ўсё пра тое ж — у працяг папярэдняй сустрэчы. Ужо чатыры гады, як Марка і Ані тут, а мы так рэдка бачымся, ад выпадку да выпадку. Дзіўнаваты ён чалавек, "барсукаваты" трохі. Але рэч не ў гэтым. А ў тым, што стала з Балгарыяй у маёй душы. Як усё трагічна перайначылася! Сказаць жа ім — не магу. Як і Найдзену.

*9-га студзеня.* Напісаў Ліпскаму артыкульчык пра "смех" — для зборніка аўцюкоўскага фальклору. Трохі сядзеў над "Лодачкамі". Заўтра пачну рэдагаваць "Запіскі розных гадоў". Абяцаў Наркевічу і "ЛіМу". Пачну з "ЛіМа". Пэўнасці наконт "Звязды" — пасля таго! — не маю.

*13-га студзеня.* Быў на рэдкалегіі "Полымя". Дзялілі прэміі. Абмяркоўвалі план на паўгода. Выступіў з прапановай больш друкаваць моцнай публіцыстыкі. Каваленка рэзка крытыкаваў артыкул Дубаўца, іншыя (Федарэнка, Пісьмянкоў) таксама. І я далучыў свой голас.

*23-га студзеня.* "ЛіМ" апублікаваў першую палавіну "Запісаў" (назву трэба мяняць). Пазванілі адно Брыль і Матукоўскі. Брыль спытаў, чаму не ў "Полымя" аддаў я гэту эсэістыку. А таму — каб не злоўжываць. "Полымю" прапаную "Лодачкі".

*27-га студзеня.* Адвёз у выдавецтва "Полымя" рукапіс "Наканаванага". Доўга гутарылі з рэдактарам Ірынай Львоўнай (мая былая студэнтка Пронiна, унучка А. Моркаўкі, пра што са здзіўленнем дазнаўся ад Брыля). Склаў я гэты том, можа, як ніякі іншы — любоўна. А гарантый, што выйдзе — ніякіх. Хоць дагавор і падпісаны. Але што ў эпоху цыганшчыны дагавор!..

*30-га студзеня.* У "ЛіМе" – заканчэнне маіх "Запісаў", сярод якіх і водпаведзь "ліквідатарам літаратуры савецкай эпохі". Пазваніў... здаецца, адзін Прыходзька. Іншыя, хоць і ўсе, ведаю, згодныя са мной, не абазваліся. Страшна. Боязна. Тэлефон на ўліку. "Кантактуецеся!" Лепш не рызыкаваць.

Пры сустрэчы пісьменнікі ўсё яшчэ ўдакладняюць: ці я выйшаў з Саюза пісьменнікаў, ці толькі з Рады і Прэзідыума. І ўсё шукаюць: дзе тут і што тут, апрача відочнага і зразумелага.

*2-га лютага.* Ездзіў у "Вожык". Пасядзеў крыху у Б-на. Нешта зусім не так гаворым, як калісьці. Зусім не так!.. А будзе і яшчэ горш. Прадчуваю.

Пачалі званіць наконт аўтарства "Лысай Гары" — у сувязі з маёй публікацыяй у "ЛіМе" за 30-га. Я гэтага чакаў. Прымусіў многіх прызадумацца. Відаць, і беднага "К. Я-ча".

*3-га лютага.* Накупляў газет. У тым ліку і “Белоруссию”. А ў ёй... размова дробнага куслівага ненавісніčка беларушчыны Аўруціна з... Бураўкіным. Вось гэта сюрпрыз! І якая ж ліхая доля загнала яго туды, у гэту антыбеларускую газету? І не згідзіўся? Ды яшчэ і апраўдваецца, што не русафоб, і што па-руску гаворыць без беларускага акцэнту, і што за “Всемирную литературу” і наогул — усяго на ўсяго супроць хамства (а што прадаюць Беларусь, ліквідуюць нашу незалежную дзяржаву — пра гэта ўжо ні слова!). Ну, што ж! Усё вяртаецца на “кругі свая”. І ад гэнага акенца — таксама.

*6-га лютага.* А. М-іч апублікаваў у “ЛіМе” кароткі водгук на маю кніжачку “Маладое бестурботнае...” Звярнуў увагу, што пачатак стылю “Родных дзяцей” — там, у “паэмах” з педвучылішча. Канечне ж, там!..

Рыхтую (чышчу стылістычна) новыя кавалкі старых запісак — для “Звязды”. Назву дам: Роздумы, рэплікі, згадкі.

*11-га лютага.* Выйшла, нарэшце, у Багдановіча, кніжыца “Ёсць зямля” — самая трагічная з усіх маіх паэтычных кніг. Па запрашэнню Санько ездзіў у выдавецтва. Далі мне 50 экз. — адну шостую ад усяго тыражу. Так, наклад — 300 экз. Як год назад у Еўтушэнкі (чытаў недзе). Выйшла брашуркай, тоненькая, але — культурна, зграбненькая, з густам аформлена. З 80-ці вершаў — 60 пра наш няшчасны лёс, пра мову, пра наша супроцьстаянне ворагам беларушчыны. Напэўна, яе паяўленне ў свеце адрыгнецца мне, дый моцна.

*13-га лютага.* Абакумоўская ў “Рэспубліцы” за 11.02 “з’ела з кішкамі” Раеўскага, і не толькі. Дасталося і Міністэрству. Не сумняваюся, што пад дыктоўку М-га. Надумаў і я выказаць сваё набалелае пра наш Нацыянальны Акадэмічны. Можа, і дарэмна лезу ў гэту не сваю парафію, але ж і прамаўчаць немагчыма. Шмат гадоў насіў у душы крыўду і злосць на замаскаваных ворагаў нашай культуры, нашага гонару і славы. У што ператварылі лепшы тэатр краіны!..

Але ж і шанцуе нам на дзяржаўных кіраўнікоў-апекуноў культуры! І адкуль яны толькі бяруцца гэткія?!.

*19-га лютага.* Ужо амаль кляўся, што больш не пайду на публічныя сустрэчы з чытачамі. А перад просьбай настаўнікаў — не ўстаяў. Пайшоў, у абласны інстытут удасканалення, да Грудзінскага. Вядома, з настаўнікамі гутарыць цікава. Іх таксама вельмі хвалюе лёс нашай мовы, пра гэта было шмат пытанняў да мяне. Пыталі і аб праграмных творах, як “Родныя дзеці”. Закупілі 30 асобнікаў маёй новай кніжыцы — усім зрабіў на ўспамін надпіс. Чытаў шмат вершаў. Нібыта і ўсё добра. Людзі слухаюць, выказваюць павагу, нават захапленне. Дык чаму ж тады зноў і зноў працінае думка, што раблю не тое, трачу астаткі дзён сваіх — на мітусню, а не на працу.

*3-га сакавіка.* Прыехаў Ст. Паптонеў. Мелі доўгую гутарку, якую ён запісваў (пяром; магнітафонам, ці дыктафонам не карыстаецца). Хоча апублікаваць у нейкай газеце, у якой супрацоўнічае (“Зара”?). Сказаў яму нямала праўды пра сённяшняе палітычнае і эканамічнае становішча Беларусі, пра лёс беларушчыны і пра мой настрой. Хацеў бы пабачыць, як ён усё гэта падасць. Праліў крыху святла і на перамены, што адбыліся ў душы “першага і галоўнага беларускага балгарыста” (“О тебе у нас ходят легенды, ты легендарная личность в Болгарии!” Ну-ну!..).

*4-га сакавіка.* Быў у выдавецтве “Полымя”, утрэслі — канчаткова — усе пытанні па рукапісу “Наканаванага” (Божа, шэсць гукаў а!). Усе — на ўзроўні рэдактара І.Л., а

што скажуць вышэй? Вельмі баюся, што пасля экзекуцыі ў “Мастацкай літаратуры” могуць прыняць подлыя санкцыі і ў Міністэрстве адукацыі і зняць заказ.

*5-га сакавіка.* Выступіў на прэзентацыі “Боскай камедыі” у перакладзе Ул.Скарынкіна, у прысутнасці пасла Італіі і многіх нашых, каго ўшанаваў гонарам перакладчык. Па заканчэнні У. С. сказаў: “Каб не Вы, дык і не было б чаго слухаць, Вы ўратавалі сітуацыю”.

*12-га сакавіка.* Перадаў Г. Вагнеру (па яго просьбе) даўно абяцаныя вершы для сюіты і паэмы (?). На тэму — прырода, родная зямля, чалавек, поры года. Хваліўся, што стараецца пісаць толькі на беларускія вершы.

*16-га сакавіка.* Хадзіў на сустрэчу ў СШ № 53 і 160 (сабралі разам класы 9-11). Як звычайна. Слухалі, задавалі пытанні. У сувязі з тым, што “якраз праходзім “Родных дзяцей”. Настрой той самы, як і “тады”: не тое раблю, не тое! Думаю, гэтым дапамагу ўратаваць родную мову і саму Беларусь?

*17-га сакавіка.* Быў на юбілейным вечары Ізі Харыка, па запрашэнні Л. Левіна. З прыемнасцю паслухаў удалы даклад А. Клышкі. Не стандартнае, асабістае, жывое слова! Як і заўсёды, уразілі мяне народныя яўрэйскія танцы і песні. А Левін сваё слова па-беларуску сказаў бадай што без ніводнай памылкі. Брава, Леанід Мендэлевіч!..

*18-га сакавіка.* Угаварыла мілейшая Дзягілева — схадзіў у СШ № 53 на сустрэчу, дакладней — на спектакль па “Родных дзецях”. У школе 2400 вучняў. Руская, але, мяркуючы па сустрэчы, адносіны да беларушчыны ў ёй паважлівыя. А настаўніцы роднай мовы таксама мілейшыя. Нават наладзілі раскошную “каву” з бальзамам. Са школы — ну, Дзягілева! — завезла не дамоў, а ў Чырвоны Касцёл, на чарговую сустрэчу. А каб ты была здаровая! Але на спектакль там не застаўся, выступіў упачатку — хвілін на 20 — і знік. У зале зноў жа былі адны гімназісты. Віталі вельмі горача.

*19-га сакавіка.* Днём дзве гадзіны прабыў у бібліятэцы імя Я. Купалы — на свяце дзіцячай кнігі. Там. скарыстаўшы момант, паскардзіўся Пазьнякову, што ўжо больш 10-ці гадоў “Юнацтва” не выдае кніг Ніла Гілевіча. Дырэктар Лукша мае добрую памяць. Як і многія іншыя “сябры” Беларусі і “творцы” беларускай літаратуры.

Вечарам, з 18.30 да 21.30 — у педагагічным універсітэце. Сустрэчу ладзіў Ул.Васілевіч. Сказаў: атрымалася нават лепш, чым мінулы раз (у снежні?). Падпісаў роўна сто асобнікаў кніжыцы “Ёсць зямля” (столькі У.В. узяў у выдавецтве): кожнаму не проста аўтограф, але і штосьці змястоўнае. Будучыя настаўнікі, кажуць — будзе дарагая памятка. Амаль дзве гадзіны падпісваў. Аж узмакрэў увесь. Запіскі-пытанні сведчаць, што студэнт “пайшоў” палітычна граматны і нацыянальна свядомы.

*22-га сакавіка.* Вечарам ездзіў у тэатр “Дзе-я?”, глядзеў спектакль па драматургічнаму жарту Ф. Аляхновіча “Баба і чорт”. Пераканаўся, што тэатр — ёсць, што мой зямляк Мікола Трухан — малайчына, што людзі ў яго калектыве — таленавітыя, і што трэба мне мець гэты калектыў на ўвазе. Пасля спектакля адбылася размова пра Аляхновіча (Сабалеўскі, Арлоў, Цвірка, Панізнік). Сказаў штосьці і я, перш за ўсё — пра трагічны лёс драматурга і чаму такіх, як ён, знішчалі.

Гэта — вечарам, а днём — быў на мітынгу, каля Опернага, у гонар 80-годдзя БНР. Мітынг атрымаўся на славу, народу і сцягоў — мора. Найлепш выступіў

Багданкевіч (“власть в стране захватил человек очень низкой культуры, хам и невежда”). Добра гаварылі Шушкевіч, Баршчэўскі, Сідарэвіч і інш.

*25-га сакавіка.* Урачысты вечар у гонар 80-й гадавіны БНР (у палацы ВА “Сукно”). Пасля Быкава гаварыў я, у прамову ўставіў два васьмірадковыя вершы, якія выклікалі гарачыя воплескі. Увогуле, перажыў шчаслівыя хвіліны, бачачы, адчуваючы, як людзі (і не толькі маладыя) вераць у ідэалы БНР. Дамоў вярталіся з Быкавым у машыне актывіста БНФ (?), прадпрыемцы Ю. Бязрукага. А на вечары, як і ў нядзелю на мітынгу, не было ніводнага пісьменніка. Вось так!..

*27-га сакавіка.* Ідуць званкі наконт вершаў у “Народнай волі” (за 25.03). Вітаюць і віншуюць, віншуюць і зычаць. Дзякую, дарагія людзі! Калі будуць сілы, яшчэ я Роднай Беларусі паслужу. Толькі б быў літасцівы Бог!

Адвячоркам быў у Палацы Мастацтваў, на адкрыцці выставы “Палессе”. Нямала цікавых палотнаў. У асноўным — моладзь і нядаўняя моладзь. Дзяды амаль не выстаўлены. За маладых — радасна: таленавітыя, чэрці!

Доўга гутарылі з Шаранговічам. Падпірае час, калі я павінен “здаць” уступнае слова да яго юбілейнага альбома. Успомнілі, што маю кнігу “Зялёны востраў” ён афармляў, калі яму было 24. Гэта была “яго” другая кніга.

*29-га сакавіка.* Скончыў (як першы чарнавік) аднаактовую п’есу (камедыю!) “Пад коўдрай”. На сюжэт падштурхнула Ніна, невычэрпна дасціпная ў іроніцы. Праўда, трохі баюся, як успрымецца выкарыстанне ў камедыйнай сітуацыі гімнічнай песні М. Краўцова. Прадумаю яшчэ раз. Зрэшты, у Коласа п’яны Арцём у студні Марсельезу пяе.

*30-га сакавіка.* Схадзіў у “ЛіМ”, зняў з падборкі верш “Прысуд абвешчаны”, напісаны пад гарачую руку — у адказ на адну публікацыю у “НС” (у гэтым уся справа; свае ж ёлупні, можа, калі-небудзь паразумнеюць).

Вечарам пазваніў Быкаў — наконт кніжыцы “Ёсць зямля”, якую я падарыў яму на ўрачыстым вечары 25-га. Сказаў: “Можа, самая моцная твая кніга; купалаўскай вышыні і гарту; пасля Купалы ніхто так — усім сэрцам! — пра лёс Беларусі, пра наш лёс, не пісаў. А тым больш — ніхто так не піша сёння. Некалі, яшчэ ў Гродні, мне вельмі спадабаліся твае актавы... Ну, а цяпер — вось гэта кніга. Я проста дзіўлюся якойсьці незвычайнай шчырасці, напружанасці пачуцця, вастрыні думкі, само сабой — майстэрству”.

Ледзь не давёў, халерачка, да слёз, аж папрасіў яго спыніцца. Шчыра падзякаваў за такую своечасовую падтрымку.

Доўга гаварылі з Васілём пра справы літаратурныя ў нас і ў Маскве (расказаў мне, як там маладыя, постмадэрністы, бэсцяць “шасцідзясятнікаў”, абзываюць здраднікамі і да т. п. — Саша Сакалоў, Талстая і інш.), пра палітычную сітуацыю — таксама. Настрой у яго — як заўсёды. Не піша — нічога. Чытае. У асноўным — прэсу, “у якой, сказаў, адзін яд для душы; некалі была пустая, а цяпер — ядавітая”.

*31-га сакавіка.* Пазваніў у “Народную волю”, спытаў у сакратаркі, ці будуць заўтра мае сатырычныя вершы, у тым ліку — “Школьнікам Беларусі — каб ведалі”. Адказала: не будуць. Увогуле Сярэдзіч вярнуў іх сакратарцы разам з усім іншым, што “ў архіў”. Ніла Гілевіча — жывога! — у архіў! Брава, Сярэдзіч, брава! Не ведаю, дзе я іх апублікую, але такую сатыру здаваць у архіў рана, — гэта можна будзе рабіць тады, як не стане дыктатарскага рэжыму ў нас.

Ну, а ўвогуле — пачалося! “Звязда” два месяцы цыркае, як у насмешку, па

староначцы ў два тыдні, мае “Роздумы”, хаця іх трэба было даць у адным нумары, а цяпер і “Народная воля” раптам крута павярнулася спіною... Што да апошняй — тут справа не ў баязлівасці Сярэдзіча, ён не з баязлівых, тут штось іншае...

*9-га красавіка.* Яшчэ адна сустрэча — у гімназіі № 12. Руская. Але родныя душы ёсць, і таму беларускі дух жыве.

*10-га красавіка.* І яшчэ адна сустрэча. На гэты раз — у Чэрвеньскім раёне, у школе ў Нежаўцы (Грабёнцы), у М. Барбука, майго былога студэнта. Былі беларусісты з усяго раёна. Даў спачатку урок для маленькіх — сам не чакаў, што так зацікаўлю і павяду іх. Настаўніцы ў захапленні. На сустрэчы ў зале, у час пытанняў, адна настаўніца крычала: “Вы — наш беларускі Пушкін!” Чуць супакоіў, халерачка.

*11-га красавіка.* Яшчэ адна сустрэча! Трэці дзень запар! Сёння — у роднай школе ў Гайне. Усё — як і мінулы раз. Вельмі-вельмі-вельмі! Новае — хораша чыталі вершы госця, а Ілля Паплёўка, сынок дырэктара, проста дасканала, як артыст. І яшчэ: старэйшыя (6-10) танцавалі народныя танцы, нашанскія, тутэйшыя. Здорава! Іграў ім — Кохан С.М. (мянушка — Касёк). 75 гадоў. Трэба як-небудзь зайсці да яго, наслухацца мелодый дзяцінства. У застоллі ён засыпаў усіх рознымі прыгаворкамі і старымі вершамі, у тым ліку — з “Цёркіна”.

Настаўніца Т. Дз. Кохан прысвяціла мне верш — лепшы з усіх прысвячэнняў, апрача Янішчыц. Зусім прафесійна, а галоўнае — шчыра.

Завёз школе яшчэ торбу розных кніжак.

*13-га красавіка.* Адвёз у выдавецтва карэктуру “Наканаванага”. Рэдактар кнігі, мілая ўнучка А. Моркаўкі, намякнула, як “круціць носам” загадчыца рэдакцыі; як парэзалі прадмову Ламекі — паказала моўчкі, тлумачачы адно вачыма (начальнік — побач, за суседнім сталом).

*14-га красавіка.* Заходзіў Конан. Думаў, я нешта важнае ведаю наконт з’езда пісьменнікаў, дакладней — новага кіраўніцтва СП, якое будзем выбіраць. А я нічога не ведаю, апрача таго, што каго ні выберы — справы нашы дрэнь. Узгадніў са мной спіс беларускіх сатырыкаў для анталогіі ў Польшчы.

*19-га красавіка.* Вялікдзень. Адзначылі 90-годдзе Марыі Захараўны. Ай малайчына цешча! Трымаецца — крэпенька, дай Божа і надалей. Дый з выгляду ніхто не дасць 90. Адно памяць аслабла. У сваім “тосце” сказала: “Гэтак мы з табой, сынок, ні разу ніколі не пасварыліся! Нават голасу на мяне не павысіў ні разу”. Што праўда — то праўда.

Парадокс эпохі. Атэіст Ніл Гілевіч у свой час дамогся (быў дакладчыкам на сесіі ВС), каб зрабіць выходнымі другі дзень Вялікадня і асеннія Дзяды, а Філарэт — адмяніў (кажу: Філарэт, бо без яго згоды не пасмелі б).

*21-га красавіка.* Вечар правёў у Шаранговіча, у майстэрні — для артыкула пра яго.

Нечакана для сябе рашыў выступіць на З’ездзе, пачаў пісаць прамову. Можа, апошнюю на пісьменніцкім форуме, а можа, будзе апошняя ўвогуле.

*23-га красавіка.* Закончыўся З’езд. Даклад З-ка быў лепшы, чым я чакаў. Маё слова было ацэнена авацыямі ўсёй залы (за выняткам, вядома). Настрой З’езда вызначыўся, і гэта сарвала намеры даць “нацыяналістам” бой: ваякі пахаваліся ў

кусты, а хто і вылез (як Марчук), то ўжо без баявітасці. Нязваныя госці з Масквы (Бялоў, Ляпін, Бандарэнка) таксама пабаяліся — пасля ўбачанага — выходзіць за трыбуну і місію, дзеля якой ехалі, не выканалі. Востра выступіў Г.Б., але — супроць мішэні прыватнай (Замяталіна; стоўк на пя...душку), а гэта не страшна, асобу памяняюць — рэжым і курс застануцца тыя ж. Маю "тэму" падтрымалі У.Дамашэвіч і В. Ярац, трохі Д. Бічэль (супроць росту пальшчызны), а яшчэ Іпатава (як заўсёды — малайчына). Вось і ўвесь з'езд. Не, не ўвесь: добра прамовіў І.Жук з Гародні, а таксама А. Каско з Берасця. Абодва — дзецюкі што трэба! Дык у цэлым зусім не благі З'езд. За выняткам усяго трох пустых "балантэсін" — усё астатняе "Жыве Беларусь!"

*24-га красавіка.* Сталі вядомы вынікі галасавання на З'ездзе. У Раду не прайшлі: Бондар, Марчук, Пашкоў, Лукша, Савіцкі, Лашук, Скобелеў і... яшчэ нехта, бо "адсякалася" восем з 59 (трэба 51). Цікавая і вельмі паказальная раскладка галасоў. Вось так, шаноўныя. Падумайце, чаму і за што.

Па выбарах старшыні СП — супроць 74, кожны чацвёрты. Таксама — папярэджанне таварышу: мы ўсё ведаем, таму — глядзі! І зноў жа думай, чаму аж столькі супроць. Але... ці здольны таварыш думаць? Ягонае крэда вядомае: гуляць дык гуляць! Дзеля гэтага і лейцы ўзяў. Будзе гуляць ва ўсю — у тым ліку па краінах і кантынентах. Сумна і горка ад гэтага. Не знайшлося беларуса, каб стаць каля стырна Саюза, каб павесці яго курсам адраджэння, курсам Свабоды і Незалежнасці. Вось ад чаго і сумна. "Няхай госці на покуці, а мы — тут, з краю, каля качарэшніку!" Не знайшлося ні старэйшага, ні маладзейшага, хто б, ацаніўшы сітуацыю, праявіў пачуццё нацыянальнай годнасці і ўзяў на сябе адказнасць.

*25-га красавіка.* Яшчэ адна сустрэча — па просьбе Дзягілевай, у Чырвоным Касцёле, з гімназістамі. (З аўтазавода.) Размова адбылася досыць змястоўная, пытанні былі сур'ёзныя, што мяне найбольш радуе, бо толькі сур'ёзная моладзь арганізуе будучыню — сваю і сваёй краіны.

*3-га траўня.* Амаль тыдзень штодня ездзіў за горад — сёе-тое парадкаваў у сваім маёнтку, і, дзякаваць Богу, была хэнць шліфаваць "Чаравічкі". ("Ці ўсё ж "Лодачкі"?)

*4-га траўня.* Гадавіна са дня смерці Ліпы. Ездзілі на могілкі, памянулі і ў хаце. Прачытаў прысутным верш яе памяці "Я вас любіла".

*5-га траўня.* Навіна: нявыбраныя ў Раду СП заявілі пратэст, пісьмовы... Але каму? Хто можа адмяніць рашэнне З'езда? Л-ка? "Гэты можа!"

Учора аддаў сваю прамову "Народнай волі", Сярэдзіч сказаў паставіць на пятніцу. Развітальны, адчуваю, акорд у жанры публіцыстычнай прозы. Хачу думаць, што для такога выпадку — не горшы. Канчаць "пшыкам" было б крыўдна.

*12-га траўня.* Аддаў Законнікаву "Лодачкі" — з тым самым страхам, як аддаваў сорак гадоў назад. Хоць і бачу пэўныя вартасці. Паэма прымыкае да ранейшых аўтабіяграфічных рэчаў ("Сто вузлоў...", "Недзяленя"). Але жанрава адрозніваецца: гэта — хутчэй вершаваная аповесць, чым паэма. І напісана пераважна белым вершам. І — самая аўтабіяграфічная, выдуманага зусім мала. Можа, гэтым і дарагая мне — як памяць далёкіх часоў і памяць пра сястру, перад якою буду да смерці вінаваты.

*19-га траўня.* Нешта цяжкавата даўся мне артыкул пра Шаранговіча. Але, дзякаваць Богу, закончыў і перадаў В. П-чу. А ён пазваніў і паставіў найвысокую ацэнку: “Галя сказала: “Толькі Ніл Сымонавіч можа так напісаць”. Чытаем і перачытваем. Але страшнавата, што вялікі аванс мне выдалі...”

Ну, то дзякаваць Богу!

*22-га траўня.* Уважыў просьбу М. Ганчава і схадзіў на прыём з выпадку балгарскага свята — Дня пісьменства і культуры. Пісьменнікаў было... чалавек пяць (Вярцінскі, Законнікаў, Баравікова...). Прыставалі да мяне, каб нешта сказаў — катэгарычна адмовіўся. І ўвогуле... не трэба мне хадзіць на такія зборышчы. Вельмі нецікава. Як і 30 гадоў назад — пустыя дзяжурныя фразы таварыша Функцыянера. А ні-чо-га не змянілася!

Законнікаў сказаў, што чытаў маю паэму і плакаў. Дарагі мой Сярожа, мілая беларуская душа! Жыві доўга-доўга!.. Сказаў — паставяць “Лодачкі” ў вераснёўскі (мой!) нумар.

*29-га траўня.* Хацеў паехаць у свой церамок — і ўжо ад дзвярэй вярнуўся, так пачуўся нядобра. Цэлы дзень амаль нічога ў рот не ішло. Ды і ўчора таксама. Хацеў для апетыту глынуць кілішак — і ён не пайшоў. Надта цяжка дыхаць. А трэба пісаць даклад пра Гарэцкага, сёння званілі з музея, удакладнялі маю тэму.

У такім стане перадрукаваў новыя вершы — для “Звязды”, у панядзелак завязу.

*30-га траўня.* Пасля двух прыступаў болю ў грудзях, з аддачай у сківіцу і ў скроні, мяне забралі ў бальніцу. Дыягназ — інфаркт. Забрала другая брыгада хуткай дапамогі ў 20.30. Першая, якую выклікалі ў 4.00 раніцы, сказала: “Інфаркту няма, супакойцеся!” Спаў да 8.30, цэлы дзень быў як п’яны, сядзеў, ляжаў, чытаў “Гісторыю беларускай літаратуры” Гарэцкага, было блага. А ў 18.00 зноў разанула, як і ноччу. Тады цярпеў з 12-ці да 4-х, цяпер вытрываў толькі дзве гадзіны. Ні баралгін, ні ношпа, ні нітрагліцэрын не памаглі. У 20.00 Ніна выклікала брыгаду, з маёй згоды...

Зрабілі ўколы, паставілі кропельніцу, узялі кроў. Ціск — 150 на 100. Часова — у 407 палаце.

І нашто ж мне ўсё гэта — у такі час! Калі столькі працы!..

*31-га траўня.* “Перавезлі” ў адсек рэанімацыі. Ціск зваліўся, t° — 37,3. Узялі кроў. Кропельніца — гадзін на шэсць (нітрагліцэрын). Ранейшых боляў няма. Урач — Лія Антонаўна, вельмі ўважлівая. Колюць (у жывот, для разжыжэння крыві). Глытаю нейкія пілюлі. Сумна і тошна. Паслязаўтра — у маёй мілай Іванаўны дзень нараджэння. Вось паднёс падаруначак! Сёння яна была тут. З Сяргеем. Страшна перажываюць. А я думаю — усё абыдзецца.

*1-га чэрвеня.* Абедзве, зробленыя ўжо тут, у бальніцы, кардыяграмы (суботняя, начная, і ўчарашняя) паказалі, як я зразумеў, нешта трывожнае, але не самае горшае. Не абшырны. Ачаговы. Задача — не дапусціць абшырнага. Таму — найстрогі рэжым з усімі невыноснымі для мяне ганьбамі. Сэрца цэлы дзень на маніторы. Сусед па ложку — медык, к/н Ціханаў І.І., сын урача, які загадваў колісь гэтым адсекам, а цяпер — у Гарадзішчы, урач санаторыя. Былі Ніна з Сяргеем. Сказала: перапалохаў усю радню. Папрасіў Сяргея завезці вершы ў “Звязду”.

*2-га чэрвеня.* Была Ніна. Павіншаваў яе вершам, які напісаў учора. Сказала: званіў Быкаў, са спачуваннем і шкадаваннем, што не пабачымся, бо ад’язджае ў

Фінляндыю. А мы дамаўляліся аб сустрэчы, каб пагутарыць (па маёй прапанове). Ну, што ж! Усё гэта яшчэ ад таго часу, усё яшчэ вынікі “размовы” ў лістападзе 1989 г., калі на абвінавачванне ў “віхлянні” (у газетах “Правда” і “ЛіМ”) я паказаў характар. Павінен быў праглынуць, а я — не той аказаўся. Не праглынулася. Сябрам! — са мною! — так! — нельга! Як бачна, яны гэтага не ведаюць.

Вазілі ў крэсле на УЗІ сэрца. Прарваўся да мяне (як даўні тут знаёмы) С.І. Грахоўскі. Падбадзёрыў.

*3-га чэрвеня.* Кожную раніцу ў наш адсек заходзіць галоўурач Кісель Я.М. Урачы мяняюцца. Стамляюся. Хочацца пабыць аднаму і памаўчаць. Усё больш думаю аб тым, як пражыў жыццё. Як па-дурному! А людзі думаюць...

*4-га чэрвеня.* Медсястра Наташа, зусім маладзенькая, мінчанка, стараецца, гаворыць са мной па-беларуску. Хваліць настаўніцу беларускай мовы ў медвучылішчы В.І. Барташэвіч, маю былую студэнтку. Вось і пацвярджаецца: зерне падае не на камень. Хараша робіцца на душы ад думак пра нашу моладзь. Пастаў такую Наташу ў нармальныя нацыянальныя ўмовы — які быў бы свядомы беларускі “кадр”!

*5-га чэрвеня.* Прыходзілі Бураўкін і Матукоўскі. Генадзь расказаў як інкогніта знік з Мінску Быкаў: паехаў цягніком праз Маскву, а ўсе думалі — паляціць самалётам. Ні з кім не развітаўся, каб пазбегнуць непатрэбнай шуміхі.

Была мая сястрыца Света, страшна перажывае.

*6-га чэрвеня.* Ніна прынесла “Звязду” з вершамі. Аператыўна спрацаваў Наркевіч, малайчына!

*7-га чэрвеня.* Была Ніна. Яна выратуе мяне, а не эскулапы. Заходзіў Вярцінскі. З крыўдай і болем расказаў пра свята паэзіі на Свіцязі. Арганізацыйны ўзровень — нулявы. Людзі не прыйшлі, кучка дзяцей невялікая. Асабіста Вярцінскі чуецца абражаным, апляваным. Усё рабілася дзеля Р. Вазнясенскага.

Забягаў В. Вільтоўскі, з кнігай пра дзейнасць ПЭН. А прычым ПЭН? Я, дзякаваць Богу, там “не ко двору”, як некалі ў ЦК. У “Общей газете” — слова акадэміка Ліхачова. Колькі болю за лёс культуры, духоўнасці! Колькі пагарды да сучасных дзікуноў! І от гэта ўсё мне блізкае! Як шкадую, што знаёмства наша (некалі ў Кіеве) было “шапачнае”. Чуюся яго верным паплечнікам у змаганні за духоўны стан чалавека.

*8-га чэрвеня.* Глядзеў праф. Мрочак Аляксандр Генадзьевіч, кажуць, свяціла ў кардыялогіі. Сказаў мне: працэс ідзе на лепшае (паводле ЭКГ). Былі дзеўкі з музея гісторыі літаратуры (аж чатыры). Былі Коля з Марысяй. Гарачыня. Сонечны бок у корпусе. Ніна непакоіцца.

*9-га чэрвеня.* Перавялі ў палату 408 — у сувязі з рамонтам корпуса. Новы сусед — праф. Навумовіч Сямён Сцяпанавіч, вядомы траўматолаг, вельмі сімпатычны, сціплы чалавек. Маўклівы. Ляжыць з пнеўманіяй.

Акрэсліўся мой дыягназ: інфаркт міякарда, паражэнне задняй сценкі і “предсердия”.

Была Ніна і Св. Кліменценка.

*10-га чэрвеня.* Сяргей прынёс вентылятар, дыхаць стала лягчэй. Ніна злуецца, што не кажу ўрачам праўды пра стан свайго здароўя. Пачаў пісаць аўтабіяграфічны нарыс “Жыццё. Літаратура. Беларусь”. (“Па слядах перажытага”?)

*11-га чэрвеня.* Заходзілі (з кветкамі) выкладчыцы БДУ З.І. Бадзевіч і Саматыя І. Быў Вярцінскі. Быў Ліс. Арсень хацеў пра штось пагаварыць (так папярэдзіла Ніна), але пры Анатолю не наважыўся. Пісаў нарыс.

*12-га чэрвеня.* Заходзілі: Ніна, Сяргей, Матукоўскі, Саша (пляменнік). Урач Вольга Казіміраўна Даўгяла. Глядзела загадчык аддзялення Ал. Мік. Губар.

Ганю і ганю далей нарыс. Адчуў смак у працы.

*13-га чэрвеня.* Ніна прынесла газеты. У “Нашым слове” на першай старонцы паведамленне пра мой інфаркт (вялікая падзея!) і каментар да яго: прычына — паскудны артыкул рускага пісьменніка Бандарэнкі, які некалі быў амаль сябрам Н.Г. Двайное глупства. Каб мяне можна было абваліць паскуднай пісанінай нейкага імпер-шавініста? Ну і ну! Уяўляць мяне такім слабаком? Ды не, мае мілыя! На інфаркт я працаваў, дакладней — шчыраваў усё жыццё, асабліва ж — апошнія гадоў дваццаць. Вядома, “памаглі” і паскуднікі, але ж не такія, як гэны маскоўскі выжла сваім выпадам. Дарэчы, і сябрам яго, канечне ж, я ніколі не быў. Мела месца знаёмства, не больш, і тое павярхоўнае. Ні гарэлкі, ні нават чаю з ім я не піў. А ягоны імпер-шавіністычны аскал адчуў на пачатку 90-х, адразу ж, як рухнула імперыя, — на публікацыях у “Литературной России” і “Современнике”.

Пазваніў Брыль, сказаў, што з цікавасцю прачытаў размову са мной у “ЛГ”. А я і не ведаў, што яна апублікавана (нарэшце! амаль праз паўгода!). Сказаў: “Невялікая публікацыя, бачна, што скарочана”.

*14-га чэрвеня.* Званілі Г.Дз. Карпенка (вечарам ад’язджае ў Польшчу) і І.В. Сцяпура, які сказаў: “Адзін мой сябра моліцца за Вас, — за Ваша змаганне за беларускую мову і супроць ворагаў беларушчыны”.

*15-га чэрвеня.* Як і ўчора, ніхто, апрача Ніны, не прыходзіў. Цэлы дзень гнаў нарыс. А ў 3.00 ночы прачнуўся ад моцнага болю ў жываце, пад лыжачкай. Прыйшлося клікаць дзяжурных: урача, сястру, нават хірурга. Сяк-так (два ўколы, фестал) угаманілі.

*16-га чэрвеня.* Званіў Бураўкін. Рэзка гаварыў пра Н-ва. А на з’ездзе першы прапанаваў яго на пасаду старшыні.

Гаварыў з маёй рэдактаркай Збору твораў. Сказала: том Другі — у камп’ютарнай без ніякага руху. Не набіраюць. Г. зн. дацягнуць так да канца года, каб перанесці на 99-ы.

*17-га чэрвеня.* Прыходзілі мае памочнікі з Камісіі ВС — Гамеза і Супей. Была Света і, вядома, Ніна. Як яна перажывае! А сама — хворая.

Вільтоўскі прынёс газету “Общая газета” з інтэрв’ю Салжаніцына. Нікому не верыць: ні прэзідэнту, ніводнай партыі. Усіх судзіць як ворагаў Расіі.

*18-га чэрвеня.* Зноў глядзеў праф. Мрошак. Задаволены. На наступным тыдні — у Гарадзішча. Праведала Галіна Дзягілева. Добра пагутарылі. Пра адно і тое ж: пра лёс нашай мовы. Надзеі на моладзь. Яе муж Леанід сказаў: усе выпускнікі мастацкай вучэльні пры Акадэміі мастацтваў і каледжа імя Ахрэмчыка абаранялі дыпломы на беларускай мове. Вось гэта і цешыць.

Забягала Света. Вельмі баіцца, каб мяне тут не ўхадокалі. Супакоіў. Для гэтага ёсць шмат спосабаў “лепшых”. А я веру ў чалавечнасць урачоў. І думкі не дапускаю. Ухадокаюць іншыя, і не тут. Цяпер гэта так проста.

*19-га чэрвеня.* Званіла Ніна. Усю ноч не спала: печань, жоўцевы, падстраўнікавая. І такая хворая пайшла на ДЭК. Як яе прымусіць да лячэння — не ведаю.

Званіў Матукоўскі, каб я папрасіў Кісяля наконт лепшага пакоя ў Гарадзішчы. Абыдзецца. Які дадуць — у тым і пабуду. Не вялікі пан.

Вадзілі па калідоры. Першы раз.

Разрастаецца мой нарыс. А ці будзе гэта цікава? Ці будзе ўзровень думання, асэнсавання сябе і часу?

Упершыню за ўвесь дзень ніхто не быў.

*20-га чэрвеня.* Па тэле паказалі падзеі ў Драздах. Нешта неверагоднае. Наўмысна ўсё гэта, каб парваць адносіны з цэлым светам і перастаць быць дзяржавай. Ужо немцы сказалі ўбірацца з Германіі пасольству РБ. Скандал нечуваны. Сорам і ганьба на ўсю планету. Як з такімі га...нюкамі мець справу, як паважаць? І калі ж пралупіць вочы беларускі народ?

Гнаў і гнаў далей свой нарыс. Цікава ўспамінаць далёкае, думаць пра перажытае, але і шчымліва.

*21-га чэрвеня.* Заходзіў і доўга сядзеў Гірыловіч М.П. Ён тут, у суседнім корпусе — з каменьчыкамі ў нырках. Вечарам была Ніна — расхвалявала расказам пра Церамок і Наскае-Лупавінава. Цэлы дзень гнаў нарыс. Перад сном чытаў Гумілёва. Першакласны майстар слова. Вершы філіграннай апрацоўкі. Мала такіх у Расіі. Але ж і люблю майстроў у паэзіі! Так жа, як не цярплю вершаў раскілзаных, не сабраных ні ў думцы, ні ў вобразе, ні ў радку.

*22-га чэрвеня.* Званіла Ніна: захварэла Сітланка. Відаць, радыкуліт. Заходзілі Сямешка Л.І. і Басава Г.І. — з ружамі і торбай фруктаў. Гаварылі пра філфак, пра БДУ, пра рэктара. Сядзеў над нарысам (дакладней — ляжаў з нарысам). Пакуль што спыняюся на загалоўку “Жыццё. Літаратура. Беларусь”.

*23-га чэрвеня.* Заходзіла Міцкевіч А.Ц. з унучкай Цінай (навучэнка ліцэя, трохі расказала пра сітуацыю там). Затым — тры актывісткі ТБМ з Ленінскага раёна Мінска, сярод іх мая былая студэнтка Любачка (прозвішча такое). Расказалі, як змагаюцца за мову. А малайчыны ўсё-такі нашы беларусачкі! На іх моцы трымаемся.

Былі Ніна і Таня. Званіў Марка Ганчаў, ад’язджае ў Сафію 26-га, у сувязі з скандалам у Драздах.

*24-га чэрвеня.* Зранку заходзіў Карпенка. Мае вельмі прадстаўнічы выгляд. Глядзіцца! Цягне на першага, у крайнім выпадку на другога. Добра пагаварылі. Мысліць рэалістычна і разумна. Вечарам едзе ў Кіеў — на сустрэчу з дэпутатамі Украіны. Званіў Р. Гарэцкі.

Заўтра пераязджаю ў Гарадзішча.

*25-га чэрвеня.* У Гарадзішча праводзіла Ніна. А сама ледзь трымаецца. У чатыры раніцы вырвалі зуб мудрасці, у дзяжурнай бальніцы, — не магла далей трываць болю. Колькі ў ёй цярпення і мужнасці! І гэтак праз усё жыццё.

Размясцілі ў люксе. З тэлефонам. Гэта выдатна. Уважылі. Умовы для адпачынку, г. зн. для працы, найлепшыя. Сёння ж пагнаў далей Нарыс.

Мой урач — В.П. Каралёва, яна ж — начмед санаторыя, вельмі мілая жанчына, па-беларуску сячэ — аж ад зубоў адскоквае.

*26-га чэрвеня.* Цэлы дзень і да позняй ночы гнаў далей Нарыс.

Званіла Ніна. Вырваны зуб усё яшчэ баліць. А ўсе думкі — як я тут. Такая яна, жаночая душа, калі жанчына ад Бога.

*27-га чэрвеня.* Прыязджаў Сяргей, прывёз чыстай паперы і газеты. Зноў працаваў апантана. А перад сном — Гумілёў: у захапленні! Прафесіяналізм, майстэрства — таксама талент, бо — густ і гушчыня пісьма, гушчыня думкі.

*29-га чэрвеня.* Двойчы хадзіў гуляць. Агледзеў дачу Матукоўскага, зусім побач з санаторыем. Усе дачы належалі Саўміну, павыкуплялі іх сабе за капейкі.

Зноў і зноў чытаю геніяльнага Гумілёва.

*30-га чэрвеня.* Прыязджала Сітланка (так наш бацька вымаўляў імя дачкі — замест Святланка).

Глядзеў па тэле, які скандал адбыўся ў Швейцарыі — на прэс-канферэнцыі ў нашага.

*1-га ліпеня.* Узяў у бібліятэцы кнігі, у тым ліку пра Сталіна — Антонава-Аўсеенкі, Яна Грэя і Льва Троцкага. Буду чытаць, паперы часова адкладу на потым.

*2-га ліпеня.* Быў на канцэрце самадзейнасці. Досыць хораша хор жанок выканаў песню "Зямля Беларусі, старонка мая". Праўда, ні музыка-кіраўнік, ні харысты не ведалі і не сказалі чый тэкст. Але для мяне была прыемная нечаканасць.

*6-га ліпеня.* Усе апошнія дні чытаў узятыя кнігі. Прыязджала Ніна. Урач абяцае прадоўжыць на 5 дзён маё тут лячэнне.

*7-га ліпеня.* Прыязджалі Р.Г. і Г.Р. Гарэцкія. З імі і Ніна. Прагаварылі амаль пяць гадзін — за чаем. У асноўным — пра Акадэмію і акадэмікаў. Там — палітычнае балота. Няма нацыянальнай акадэміі, няма! Як угробілі ў 1930-31 — так і не адрадзілася. Атмасфера там зусім не патрыятычна-беларуская. Да таго ж — інтрыганства, падседжванне, падкопы і плёткі. Гэта і зразумела: няма аб'яднаўчай ідэі, супольнай вялікай мэты, супольнага гонару за Навуку Айчыны. Р. Г. трохі змагаецца, але... так мала яму падтрымкі! Расказаў, як яго рыхтавалі на прэзідэнта ў 1992 (Барысевіч і інш.), і як ён даў згоду, і як напярэдадні ўсё перайгралі – усё-такі нацыяналіст: не дапусцім, каб кіраваў акадэміяй! Гэта — у самым-самым беларускім 93-м годзе!

Званіў Цумараў — наконт абяцанай мною прадмовы да зборніка "ТБМ. Матэрыялы і дакументы". Ён — складальнік. Трэба, пакуль тут, напісаць, каб не затрымаць кнігу.

*8-га ліпеня.* Званіла Ніна, сказала, што мой том у серыі "ШБ" падпісаны ў друк, у жніўні — па словах рэдактара — павінен выйсці. Пазваніў Брылю, ён гэтыя дні ў Мінску. Трохі пагаварылі. Пахваліў маю кніжыцу "Ёсць зямля", сказаў, што многія вершы пазначыў "крыжыкам" (плюсам).

Божа, хоць бы хутчэй узяць у рукі той школьны том — каб пераканацца, што яшчэ не зусім задушылі.

*10-га ліпеня.* Прачытаў Троцкага. Таленавіты літаратар. І галава! У 1939-м пісаў, бачыў, разумеў — як у 1989-м ці ў 1998-м. Як далёка да яго таму рабому грузіну! А вось жа — з'еў яго Коба! Выходзіць, не трэба быць мудрым, а трэба быць подлым — і подласць пралажыць дарогу табе!..

Пісаў сямірадкоўі. Вечарам глядзеў канцэрт трох геніяльных тэнараў: Сарэраса, Дамінга і Павароцці. Апошні мне выварочвае душу найглыбей.

*11-га ліпеня.* Чытаў кнігу “Переписка на исторические темы” — пра левых эсэраў, пра Махно, пра Калчака, пра 2-ю ўдарную армію... Як шкада, што ў свой час не было такіх праўдзівых кніг! Ад крыўды плакаць хочацца.

Глядзеў футбол і зразумеў, чаму выйгралі харваты. Бо — вялікія патрыёты сваёй Радзімы. Палавіна перамогі забяспечана гэтым. І чаму не могуць сёння выйграць беларусы.

*12-га ліпеня.* Дапрацоўваў пачатыя ўчора сямірадкоўі. Прачытаў кнігу Я. Грэя пра Сталіна. У параўнанні з айчыннымі аўтарамі — слабавата; як у пераказе, як з другіх рук, павярхоўна.

Тэле паведаміла: 131-го беларускага дзяржаўніка не будуць пускаць у Еўропу, у тым ліку — першых асоб. З-за тых самых Драздоў. Такога яшчэ не было ў свеце! Пахне разрывам дыпламатычных адносін.

Прыехаў С.І. Грахоўскі (ён тут бывае штогод). Хадзілі, гутарылі — усё аб тым жа. Пачытаў у “Знамя юности” аповесць Я-ва пра “ўсенароднаабранага”. Ганьба! Які герой — такая і аповесць.

*13-га ліпеня.* Цэлы дзень пісаў прадмову да кнігі “ТБМ”. Уручыў Г.Ю. Чырко “Сказ пра вяртанне паэту любасці к божаму свету”.

Прыязджала Ніна. Адзначылі наш дзень, 41-ю гадавіну. За чаем. Заўтра — дадому. Развітваюся з гэтым утульным кутком, з гэтымі мілымі людзьмі.

*14-га ліпеня.* Забраў з Гарадзішча Колеў Максім. Заязджалі ў Наскае-Лупавінава: надта засумаваў па ім.

Рэдагаваў прадмову да кнігі “ТБМ”, давялося зрабіць істотныя ўстаўкі, хачу напомніць чытачам сёе-тое.

Чытаў прэсу. Сумна і страшна. Чым жа ўсё гэта кончыцца? Парвуць адносіны з Беларуссю — і што? Застанецца адно — стаць губерняй Расіі? Уладзе толькі гэта і трэба. Да гэтага ўвесь час ідзе.

*16-га ліпеня.* Гутарыў з Пісьмянковым, яго бацька мой равеснік (на шэсць дзён старэйшы) і таксама цяпер ляжыць з інфарктам. “Лодачкі” ідуць у 9-м нумары. Папрасіў унесці ў паэму праўкі, якія я тым часам зрабіў.

Званіў Бураўкін, сказаў, пойдзе да старшыні РВК ваяваць за памяшканне ТБМ, якое ў нас адбіраюць. Божа праміл! І колькі ж яны будуць здзекавацца з нашай мовы і з нас?!. Калі Ты іх пакараеш самай страшнаю карай?!.

Заходзіў Цумараў. Забраў прадмову. Пагаварылі пра кнігу, пра кампазіцыю, пра дадаткі. Будзе выдатны зборнік.

*17-га ліпеня.* Глядзеў, як хавалі косці, нібыта царскія, у Санкт-Пецярбурзе. Уражанне... нейкае страшнае. Што такое — гэта Расія? Нейкі суцэльны кашмар і суцэльная містыка. Сінод і Алексій ІІ не прынялі ўдзелу. Ну, няхай сабе! Але — які сэнс гэтай акцыі? Цар у час смерці ўжо не быў царом, быў радавым грамадзянінам. Чаму — хаваць, як цара? Каб засведчыць сваё пакаянне? Ці толькі дзеля гэтага? А хто пакаецца за мільёны забітых і замучаных ва ўсіх Гулагах? Думаю, што ідэя-сэнс тут іншая. Сэнс — нам патрэбен цар-імператар, манарх, мы былі і ёсць імперыя. Сэнс — ніколі не павінен адрадзіцца бальшавізм і камунізм, бо мы ўжо амаль канчаткова ўсталявалі капіталізм (хоць і дзікі, мафіёзны, разбойны). Сэнс — наперад толькі з Богам, дакладней — з праваслаўем, як і 150 гадоў назад. Так што — сэнсу хапае.

*19-га ліпеня.* Напісаў адкрыты ліст прэзідэнту НАН Вайтовічу. Напісаў, бо — маўчаць не магу, а губляць мне ўжо няма чаго.

Шліфаваў сямірадкоўі. Набярэцца звыш дваццаці. Палітычная — для “Народнай волі”, астатнія — не ведаю, куды. Хіба зноў у “ЛіМ”? Але няма Пятровіча, хварэе, бедны. А аддаваць Гілю не хацелася б...

*23-га ліпеня.* Сярэдзіч праявіў звышаператыўнасць: 20-га, у панядзелак, занёс яму “Ліст”, а ўчора, 22-га, Ліст ужо ў газеце, ды на першай паласе, на месцы перадавога артыкула. Брава, Язэп Паўлавіч! Цяпер — надрукуй і вершы, не задрыжы, што яны вельмі вострыя. Буду адказваць за сябе сам. Сказаў так у думках — і пакінуў рэдактару на стале сямірадкоўі.

*25-га ліпеня.* Сяджу ў Наскім-Лупавінаве. Дацягваю сямірадкоўі. Хачу вызваліцца ад іх, каб вярнуцца да Нарыса, ці да Роздумаў, ці да Песень прапашчага... Шкадую, што калі ў аўторак сутыкнуўся ў выдавецтве, на лесвіцы, з Марчуком — не сказаў яму сёе-тое па-мужчынску... Ці бачыце, супакойвае, што да Новага года мой Другі том выйдзе. Новаспечаны гаспадар беларускай літаратуры. Дыктуе ўжо сваю волю. Прыйшоў — і зрэзаў мой Збор твораў на два тамы. Пасля выхаду Першага! Нечуваны гвалт. А я яшчэ віншаваў яго з юбілеем і з прэміяй, даруй мне, Госпадзе!.. Ну, нічога. Гэтае падлюкоўства я вытрымаю. Нават са сваім інфарктам. Павінен вытрымаць! Вунь якія званкі ідуць — на публікацыю “Ліста” Вайтовічу.

*3-га жніўня.* Аддаў у “ЛіМ”, Шніпу, сямірадкоўі — ажно дваццаць адно. Усе пісаліся ад душы і сэрца, нязмушана, доўга выношваў і доўга шліфаваў, некаторыя перарабляў па шмат разоў. Так баюся, Госпадзе, што трачу густ і крытэрыі, што перамагае старэчае нестрыманне, перад якім адступае самакрытычнасць!.. Толькі б не дакаціцца да лёгкага і неабавязковага пісання, да графаманіі!..

*4-га жніўня.* Знялі маніторчык з сэрца, з якім прахадзіў суткі, яшчэ 27-га, а толькі сёння ўрач паглядзела яго паказанні; на шчасце, як любяць гаварыць урачы: нічога страшнага. Інфармацыя з сэрца — неблагая.

*5-га жніўня.* Глядзеў і слухаў праф. Гарбачоў Ул. Вас. Добра пагутарылі. Каб не чарга за мною — дык бы і яшчэ з гадзіну. Як мне паводзіцца, чым не злоўжываць, якія рэжымы вытрымліваць... А галоўнае — нечаканая маральная ін’екцыя: “Мы вас вельмі шануем, чытаем вашы вершы і артыкулы, у нас дома ёсць вашы кнігі...”. Стары чалавек (а ён, мабыць, ці не мой равеснік) хлусіць не можа, не павінен.

*6-га жніўня.* Учора сябры Рады СП хадзілі на гутарку да начальніка дзяржавы. Аж 32 чалавекі! Ну, чыноўнікі з апарата СП, зразумела, не маглі не пайсці. Галоўныя рэдактары выданняў — і іх можна зразумець. Хоць і пры адной умове — не рэптыльнічаць! Між іншым, С.З. не было, узяў тэрмінова адпачынак. Правільна! Малайчына. Ну а якая ж худая доля пагнала некаторых вельмі вядомых не-чыноўнікаў і не-рэдактароў? Ах, хлопцы, хлопцы! І што ж гэта вы робіце? Да каго вы пайшлі? На якую размову? Каму нешта тлумачыць і даказваць? Каму? Таму, хто паспеў за чатыры гады сотні разоў напляваць кожнаму з вас у душу? Напляваць у душу цэламу народу, дзецьмі якога вы ёсць?..

*7-га жніўня.* Заходзіў у “Звязду” па “зайчыкі”, заглянуў і да Наркевіча. Спытаў, чаму так рассыпалі, па кавалачку ў тыдзень, маю цэласную падборку роздумаў і згадак; не ўспрымаецца, кажу, па кавалачку. Збянтэжыўся Ул. Б. “Ну вы ж ведаеце сітуацыю...” “Што, пытаю, наконт мяне ў прынцыпе вам былі заўвагі, папярэджанні?” Моўчкі кіўнуў галавой. Папрасіў мяне што-небудзь прыносіць.

А што ж прыносіць? Што пасля гэтага прыносіць? Лірычныя смешачкі? Ды жа не да смеху, дарагія мае! Няшчасце вялікае здарылася на нашай зямлі — пасля такіх радасных узыходаў.

Заглянуў і ў “ЛіМ”, каб спытаць у Міколы, што пісьменнікі гавораць пра гістарычную сустрэчу. Сказаў, бачыў толькі К., дык плюецца і кусае сябе за локці, што пайшоў. Меў, кажа, нейкую маленечкую долю спадзявання. Нават разумны і ўдумлівы К.! Дык а чаго хацець ад іншых — менш удумлівых?

*8-га жніўня.* Па “Свабодзе” В. Аксак каментавала адказ прэзідэнта НАН РБ А. Вайтовіча Н. Гілевічу, апублікаваны ў “Народнай газеце” 6-га чысла. Малайчына. Першы раз я застаўся задаволены перадачай, што датычыць маёй міласці. Водпаведзь Вайтовічу дала выдатную. Калі я ўчора прачытаў яго “Адказ” (газету прынёс Грахоўскі), мне стала і сумна, і сорамна. Сорамна за беларускіх вучоных, за Акадэмію, за ўсё, што робіцца ў нашай краіне. Сорамна і крыўдна. Не за тое, што прэзідэнт НАН адрынуў маю прапанову-просьбу наконт беларускай мовы ў беларускай Акадэміі, — у гэтым я не сумняваўся, ці амаль не сумняваўся, і пісаў “Ліст” хутчэй для ўсёй інтэлігенцыі (каб задумалася!), чым для аднаго прэзідэнта НАН.

Крыўдна за грамадзянскую пазіцыю, за ўзровень разумення праблемы, а дакладней, прычын вялікага гора нашага, ды і за этыку акадэміка таксама. Ён абзывае мяне крыклівай вясковай бабай (між радкамі) — за тое, што душа крычыць ад нясцерпнага болю. Ён глядзіць на маё гора з вышыні. Ён дае мне адлуп. Ён абараняе гонар акадэміі і акадэмікаў. Акадэмікаў, якія не думаюць і не дбаюць пра гонар нацыі.

*9-га жніўня.* Па “Свабодзе” — гутарка з Бураўкіным і Мальдзісам наконт “гістарычнай сустрэчы” і яе эвентуальных вынікаў. Адам... як і заўсёды раней: будзем пазітывістамі, як некалі, у XIX ст., палякі, будзем рабіць канкрэтныя культурныя справы, і навуковыя, і асветніцкія — у тых умовах, якія ёсць. Без пратэсту, без змагання, у згодзе з тымі ўладамі, якія ёсць. Генадзь гаварыў лагічна, прынцыпова, пераканаўча, па вялікаму рахунку, — усё было б выдатна, калі б не адна “дробязь”: калі б не рабіў выгляду, што сапраўды спадзяецца на магчымасць паўплываць у патрэбным кірунку на Правадыра. Ты занадта разумны, Генадзь, каб дапускаць такое. Значыць, сапраўдная прычына твайго ўдзелу ў сустрэчы — іншая, і я яе ведаю. Ах, Бураўкін, Бураўкін! Як бы гэта яшчэ трохі пажыць і пабачыць, што будзе.

*10-га жніўня.* Быў на УЗІ сэрца. Трэшчынка зарубцавалася. Уся ж бяда мая — у страшным атэрасклерозе. Ад яго — усе недамаганні, усе пакуты.

Ужо каторы дзень запар пішу “Песні прапашчага”. Адна, здаецца, удалася. А надвор’е ўсё тое ж — сыпе і сыпе, і сыпе. Да таго ж і холадам дыхнула. Заўчасна, вельмі заўчасна.

Учора вечарам глядзеў кусок сустрэчы з Правадыром. Лепш бы не глядзеў. Божа прасветлы! І дзе ж Твая мудрая воля?!. Няўжо так і давядзецца сысці ў магілу, не дачакаўшыся “залацістага яснага дня”?

*14-га жніўня.* “ЛіМ” надрукаваў мае сямірадкоўі — аж дваццаць адно! Памойму, ніколі такой колькасці вершаў за адзін раз я не абнародаваў — нават і ў мініяцюрных формах. Усе напісаны ў бальніцы і ў Гарадзішчы на далечванні, і іх можна было б падаць пад загалоўкам “інфарктныя”.

А тым часам пішу патроху “Песні прапашчага”. Сеў макам на “жабраку” — ніяк не вырулюю сюжэт: чым кончыць эпізод?

*16-га жніўня.* Ездзілі з Нінай у Слабаду, пакланіліся родным магілам. 21-га будзе 20 гадоў, як памерла мама. Памянулі ў Сашы, на яго фазэндзе. Паўспаміналі, пагаварылі. Заходзілі да сястры Ліны, да брата Міколы — у кожнага свае клопаты, свае радасці і беды. Агульная ж бяда — заняпад і дэградацыя чалавека, жыцця, Бацькаўшчыны. Чалавек плюе на чалавека. Усеагульнае наплявацельства. Да могілак у Слабадзе больш паўкіламетра ішлі па свежай раллі — прыблудатрактарыст заараў дарожку. Нават ад родных магіл адразаюць чалавека — каб не мог дайсці. У барацьбе за ўраджай, за будучы хлеб, аб чым кожны дзень аж разлягаецца беларускае тэлерадыё.

Пазваніў Ул. Васілевіч, выказаў сваё захапленне сяміradкоўямі. Казаў, чыталі разам з маці Аленай Сямёнаўнай, доўга гаварылі пра раба божага Ніла і зычылі яму здароўя. Дзякую, дарагія сябры! Можа ж Бог будзе міласцівы і не пакрыўдзіць.

*17-га жніўня.* Званіла з Таргуноў Г.П. Корсак — кажа, прачытала і паперачытвала сяміradкоўі і вось не магла стрымацца, каб не пазваніць. Заадно, кажа, перачытала і “Крынічаньку”, “маю любімую паэму”. Расказала, як яна прапагандуе там, у Докшыцкім раёне, паэзію Н.Г. Колькі ў мяне добрых, верных, шчырых сяброў! І па ўсёй Беларусі, і далёка за яе межамі. Жыві і радуйся, чалавеча, і не наракай на лёс.

Напісаў ліст І. Пташнікаву — пад свежым уражаннем ад “Трох пудоў жыта” — апавядання, якое варта добрага рамана. Малайчына, зямляк!

Узяў у Пісьмянкова карэктурныя лісты “Лодачак”. Сказаў мне, што дзяжурны па нумары А.К. — “самы строгі ў нас крытык” — вельмі ўпадабаў гэту рэч.

*20-га жніўня.* Званіў Пташнікаў, дужа ўсхваляваны маім лістом, шчыра дзякаваў, пагаварылі трохі пра лёс нашай вёскі, нашага народа ўвогуле. Александрына і Сельвестра з “Трох пудоў жыта” — увасабленне гэтага лёсу. Страшнага, трагічнага. Для мяне асабіста расказанае ім — суцэльны боль. Не ўдакладняў, але маю падазрэнне, што Сельвестра — гэта мой родны дзядзька Аляксандр Гілевіч, які праз жонку Гілену Пташнік стаў сваяком Пташнікаў у Задроздзі і, такім чынам, пасваячыў мяне з Іванам. Дзядзька, якога я так і не пабачыў ні разу, — у 37-м яго схапіў хапун, косці, напэўна, у Курапатах. Па тым, як Іван узрадаваўся майму лісту, адчуў, што, відаць, і яму не надта перападае добрай сяброўскай увагі ад калегаў. Такія мы, беларусы, інтэлігенты ў першым калене, барсукі ў норах.

Званіў беларус Рудакоў з Сібіры, на жаль, мяне не заспеў.

*24-га жніўня.* Аддаў Сярэдзічу тры вершы-песні з кнігі “Сюжэты”, працяг “Прапашчага”. Усё яшчэ не маю пэўнасці, ці трэба мне гэта рабіць — пісаць гэтыя песні. Але ж раблю нязмушана; наспеўваю іх, ходзячы па лесе, на памятныя з маленства мелодыі.

*27-га жніўня.* Хадзіў на выставу з пленэра Драздовіча, арганізаваную “Пагоняй”. Паслухаў, што кажуць пра партрэт Н.Г., выкананы маім новым маладым сябрам Алесем Філіповічам (для музея ў Гудзевічах). Чакаў большай пахвалы аўтару, бо мне партрэт падабаецца, лічу яго ўдалым, — хаця б таму, што вобраз амаль трагічны, у ім ёсць тое, без чаго сёння я быў бы не Я.

*28-га жніўня.* Выйшла “Народная воля” з маімі трыма вершамі-песнямі. Думаю, што ўражання не зробяць, бо мала хто адчуе, што іх трэба не чытаць, а спяваць — на падабраную мелодыю.

*8-га верасня.* Сорак гадоў сыну. Вечарам зойдзе, павіншуем. Сумленны, здоль-

ны, старанны навуковец, але — ходу не даюць, сын нацыяналіста, і сам вельмі абвострана ўспрымае нацыянальную трагедыю беларусаў. Балюча мне, што церпіць з-за бацькі, а было б яшчэ горш, калі б мы скіравалі яго пасля школы на філалогію. Падставы былі. Ён — прыродны філолаг, слова адчувае выдатна і родную мову ведае дасканала (чым і ганаруся).

Толькі што рэдактар Ірына Львоўна прынесла сігнальны экзэмпляр "Наканаванага". Выйшла-такі доўгачаканая! Дзякаваць Богу! Цяпер хоць не так горка будзе ад таго здзеку, які чыніцца нада мной у "Мастацкай літаратуры". Ужо я канчаткова пераканаўся, што і сёлета Другі том Збору не выйдзе. Можа, і зусім не пабачу. На тым Першым выданне і закончыцца.

*15-га верасня.* Што творыцца апошнім часам у Расіі — страх і жах! І адзін Бог-бацька ведае, чым гэта ўсё скончыцца. Верх бяруць ранейшыя партакраты, да ўлады прыйшоў хітры, асцярожны барсук Прымакоў (і вонкава барсук). Канца бедам у простых расіян не відаць. У нас таксама.

*16-га верасня.* Прачытаў у "Советской Белоруссии" стэнаграму (скарочаная, на жаль) размовы Правадыра з пісьменнікамі — членамі Рады. Беспрасветны тупік! Цемра цямрыстая! Нічога хоць бы трохі светлага чакаць не даводзіцца. У пытаннях мовы і літаратуры... трэба пачынаць з лікбезу. "Какая разница, на каком языке писать?..." Ну пра што пасля такога гаварыць?.. Не весялей і ад прамоў пісьменнікаў. У кожнага так ці інакш вылезла жаданне "не раззлаваць, не ўгнявіць, не сапсаваць адносін". Ніхто з усёй рашучасцю не сказаў, што без мовы — усім нам амба, усяму народу і што калі не павярнуць на 180° нацыянальную палітыку — няма ніякага сэнсу ў такіх сустрэчах. Яны дапамогуць, як мёртваму прымочка.

*18-га верасня.* У "ЛіМе" ліст-водпаведзь Марчука Сярэдзічу. Але ж і ўзровень! Ва ўсіх адносінах. І ўсур'ёз заяўляе, што яго "раманы навек упісаліся ў гісторыю беларускай літаратуры". Значыць, на такім узроўні будуць вырашацца і выдавецкія пытанні ў "Мастацкай літаратуры". Аказваецца, я зусім не ведаў гэтага чалавека і ўскладаў надзеі на разуменне, спрабаваў з ім сур'ёзна гаварыць.

Быў на выставе "Адной кнігі" і на прэзентацыі гэтай кнігі ў музеі — па запрашэнню аўтара ілюстрацый В.П. Шаранговіча. Выдалі "Пана Тадэвуша" шыкоўна. На трох мовах. Беларускі пераклад — Бітэля. Цікава будзе пачытаць, чаго ён варты. На выставе адчуў, што чыноўнікі ад культуры мяне не цураюцца, віталіся ветліва. Дадому вяртаўся з мастаком Ул. Тоўсцікам, вельмі сімпатычны мне чалавек. Сказаў, што ў Камітэце па прэміях цяпер няма з кім належна пагаварыць, асабліва непрыемныя паводзіны М.С.

*24-га верасня.* Апублікаваў у "Народнай волі" юбілейны артыкул пра С. Грахоўскага. Настрою пісаць яго не было ніякага, зусім не юбілейныя думкі ў галаве, але — прымусіла С. Кліменценка, не адчапілася, пакуль не вырвала згоду. Паколькі не па ўласным жаданні — дык і напісалася, відаць, не зусім тое, што чакалася. Ва ўсякім разе С.І. "дзякуй" не сказаў. Я засяродзіў увагу на адным моманце — на гулагаўшчыне. Можа таму, што на гэтым трымаецца ўся яго вядомасць і ўвесь аўтарытэт — не так на творчым, як на біяграфічным.

*25-га верасня.* Схадзіў на вечарыну С.Г. — з віном і закускай, — якую наладзіў Дом Дружбы. Настрою ісці не было, але, але... Казаць не збіраўся, паколькі выступіў у газеце і сёння па беластоцкім (варшаўскім — ?) радыё. Іпатава, аднак, падвяла гаворку да таго, што мусіў узяць слова для тоста і я. Нешта са мною

сталася: не цікава на зборышчах. Можа — ад фальшывасці агульнай атмасферы ў зале, ад унутранай раз'яднанасці прысутных? Побач — аднадумцы, паплечнікі, і тут жа — чорт ведае хто яшчэ! Можа — ад унуранага душэўнага крызісу? Надта ж усё скаламуцілася ў сэрцы!..

На вечарыне новы рэдактар "Чырвонай змены" А. Карлюкевіч папрасіў стаць аўтарам яго газеты — у любым жанры. Даў згоду — на размову.

*30-га верасня.* Прыходзілі самыя блізкія сваякі — пасядзелі, пагаварылі. Прачытаў ім "Лодачкі". На Алеся зрабіла моцнае ўражанне — ледзь не ўсхліпнуў. Сын, варты светлай памяці маці, маёй сястрыцы. Амаль 40 чалавек за дзень пазванілі — павіншавалі. Нават у круглыя даты не было такога. Што за прычына? Ды аказваецца — радыё ранічкай сказала пра мой дзень.

*13-га кастрычніка.* Заходзіла дачка паэта Алеся Жамойціна — Зарына. Вельмі слаўная студэнтачка! Думаю, што стане сапраўдным славістам. Падарыў ёй некалькі кніг на сербскай і славенскай мовах.

*19-га кастрычніка.* Хадзіў на юбілейную ўрачыстасць БНФ — 10 гадоў ад заснавання. Ад выступлення адмовіўся — усё па той жа прычыне, помнячы, як усадзілі нож і дагэтуль не павініліся. Няўжо Ю.В.Х (а менавіта ён запрашаў) не разумее, што ў агульны хор хваласпеву па адрасу "апосталаў" я ўключыцца не магу? А можа, ён усяго не ведае? Як БНФ не пусціў мяне ў народныя дэпутаты СССР і хацеў не пусціць у Вярхоўны Савет БССР (праз год, у 90-м) на Маладзечаншчыне? Дзякуючы камуністам прайшоў і зрабіў там, абраны старшынёй Камісіі, тое, што павінен быў зрабіць. Можа, нават і больш, — калі ўлічыць мае арганізацыйныя "здольнасці".

*20-га кастрычніка.* Пабываў на мікравыставе Ул. Савіча. Надзвычай таленавітае выкарыстанне колераў! Але, але... Здаецца, гэта не маё. Мой Савіч — у "Родных дзецях".

Думаў пра ўчарашнюю ўрачыстасць. Зашмат экзальтацыі, воплескаў, уставанняў, малавата аналізу і канкрэтных задач.

*21-га кастрычніка.* Дзён дзесяць назад Г.Д. Карпенка папрасіў мяне ўвайсці ў аргкамітэт па падрыхтоўцы Кангрэса дэмакратычных сілаў (сказаў: трэба імя). Я даў згоду і вось сёння быў на пасяджэнні камітэта — у штабе АДП, на Судмаліса, 10. Памяшканне — звычайная 3-пакаёвая кватэрка, з адным прахадным пакойчыкам. Сабралася чалавек 15-17 (Хадыка, Шарэцкі, Грыб, Лугін, Пеціна, быў і Бураўкін). Усё выглядала, як... у падполлі, у часы падрыхтоўкі Кастрычніка, і ад гэтага мне было горка. Дэмакратычныя сілы не маюць прыстойнага месца, не маюць сродкаў, яны сапраўды загнаны, па сутнасці, у падполле. Не ўбачыў я і належнага аднадушша, гарачай зацікаўленасці і аптымізму. Карпенка трохі нерваваўся, а — не трэба, нельга. Спакой і ўпэўненасць патрэбны ўсім нам, сябры! На мінулым, першым Кангрэсе, слова для прывітання ўпачатку, на адкрыцці, меў Янка Брыль. Гэты раз Г.Д. прапанаваў: ці Гілевіч, ці Бураўкін, "пакольні Быкаў у Фінляндыі". Так што калі і выпадзе гонар, дык дзякуючы "пакольні". Але, здаецца, не выпадзе, бо Шарэцкі адразу раўніва запытаў: а ад імя каго гэта будзе прывітанне? Маўляў, калі б ён — дык ад імя Вярхоўнага Савета, а народны паэт — ад каго? І праўда, ад каго? Маеце рацыю, Сямён Георгіевіч.

Зразумеў, што моцна муціць ваду Статкевіч. Аказваецца, у 90-91-м ён быў у адной абойме з гэтым Шэйманам, які сёння...

Складаўся парадак дня Кангрэсу. Калі амаль падвялі рысу, я, не дачакаўшыся ад іншых, прапанаваў, каб была асобная рэзалюцыя аб незалежнасці Беларусі.

*24-га кастрычніка.* “Чырвонка” змясціла мае адказы на пытанні, падрыхтаваныя І. Свірка (дачка паэта). На здзіўленне, “прайшло” ўсё, што я напісаў, у тым ліку і аб незалежнасці, і аб мове. Новы рэдактар першы экзамен вытрымаў, — буду лічыць так.

*26-га кастрычніка.* Аддаў у “Звязду” артыкулец пра апавяданне Пташнікава. Сяму-таму гэта будзе недаспадобы, вельмі ж высока цаню яго майстэрства...

Перадаў Андрыевічу У.У. матэрыялы (лісты, фотаздымкі, кнігу) для музея Я.Янішчыц у Парэччы. Ах, Жэня, Жэня! Мілая Жэня!.. Як жа гэта мы, ёлупні, не ўгледзелі?!.

Званіў Ян Запруднік. Зайсці да мяне, відаць, не зможа. А шкада. Хацелася б пагутарыць — і не на хаду, а за сталом у хаце. Хоць малая надзея яшчэ ёсць.

*2-га лістапада.* З брыгадай “Палымянцаў” (Законнікаў, Пісьмянкоў, Клышка і Саковіч) ездзіў у Радашкавічы, на “Белкераміку” — да старых знаёмых. Кіруе цяпер М.А. Справы ў іх ідуць нядрэнна, зарплата досыць ладная і рэгулярная. У “музеі” — яшчэ багацей і прыгажэй, як было пры Шаферу. Якая цудоўная прадукцыя! Вачэй не адвесці. Сустрэча — у зале — прайшла трохі фармальна, па дысцыпліне — па загаду дырэктара. Да таго ж трохі сапсаваў настрой сваімі графаманскімі “сцішкамі” пра адэному мясцовы піт Сымон Белы.

*3-га лістапада.* Хадзіў на Судмаліса, на пасяджэнне аргкамітэта. Не магу сказаць, што праца ідзе зладжана і паспяхова. Баюся, што сапраўднага аб’яднання дэмакратычных сіл не адбудзецца і каша не зварыцца. У газетах выступаюць добра і здаецца — усе за адно, усе на адной пазіцыі. А тут — дробныя спрэчкі і расхэйдус. Для мяне — трата часу, бо я на сваім месцы зраблю больш.

*4-га лістапада.* Хадзіў на Раду СП — і шкадую. І ў Раду не трэба было лезці. “Мой час прайшоў”, — сам жа напісаў яшчэ да з’езду. Бесталкоўшчына і бедлам. Пытанні зусім не падрыхтаваныя, прэміі прысудзілі абы-каму, ніхто твораў не чытаў. Адным словам — як і ўсё ў дзяржаве. Затое “пасяджэнне” ў кавярні было на ўзроўні — як у былыя часы. Тут яшчэ рэгрэсу няма.

*9-га лістапада.* Гадзіны паўтары быў на выставе Г.Х. Вашчанкі (злавіў за хвост, сёння закрываецца). Гідам-экскурсаводам быў сам Г.Х. Уражанне — моцнае. Выдатны мастак. Беларускі, нацыянальны. Мой мастак. Прымаю і люблю.

*11-га лістапада.* Хадзіў на Раду “Бацькаўшчыны”. Абмяркоўвалі праграму “Беларусі — 2000 гадоў”. Як гэта кажуць — пагаварылі добра, праграму склалі. А як будзем ажыццяўляць яе — у гэткіх умовах — адзін Бог-бацька ведае. Ну але ж трэба нешта рабіць, не сядзець жа склаўшы рукі.

На Радзе падышоў В. Санько з “Хаты” і кажа: знайдзіце спонсара — і я за месяц выдам “Гэй, наперад! Гэй, назад!”. Мілы ты мой! Калі б я ўмеў шукаць фундатараў — ці ж бы мы аддалі табе рукапіс.

Паглядзеў у Мальдзіса “Гістарычны слоўнік Беларусі” Я. Запрудніка. Па-мойму, у яго не было добрых дарадцаў, бо шмат недаравальных ляпсусаў.

*12-га лістапада.* Трапіў у рукі чарговы нумар "Славянскага набата", з якога даведаўся, што і Лойка — член ПЭНа, чаму нямала здзівіўся. Цікава: хто ж з вядомых не ў ПЭНе? Няўжо адзін Ніл Гілевіч?

*13-га лістапада.* "ЛіМ" перадрукаваў з часопіса "Детская литература" маё інтэрв'ю, у якім я ўпершыню публічна выказваю шкадаванне аб празмерным захапленні перакладчыцкай працай (было шмат лішняга, неабавязковага, у прыватнасці — уся проза). Горка, але назад не вернеш пакладзеных на гэта сіл і часу.

*25-га лістапада.* "Звязда" змясціла мой вершык "Я хацеў бы адно" — памяці Янішчыц. Так уціснулі пад артыкулам, што ледзь знайшоў. А артыкул... Божа прамілы, да чаго, да якога ўзроўню дазваляе сабе апускацца мой сябра?

*26-га лістапада.* Па просьбе Дзягілевай быў на сустрэчы з моладдзю ў бібліятэцы "Юнацтва" на вул. Прытыцкага. З радасцю пераканаўся, што гарачых патрыётаў беларушчыны ў нас больш, чым думаюць нашы незычліўцы. І што мы будзем жыць! Тон у бібліятэцы задае дырэктар Валянціна Сяргееўна. Малайчына! Выставу твораў госця зрабілі проста выдатную.

*27-га лістапада.* Дзень правёў у Барысаве, у педагагічным каледжы. Сустрэча прайшла найлепшым чынам. Амаль тры гадзіны цягнулася. А пасля яшчэ гутарка з настаўнікамі за абедам... Арганізаваў сустрэчу Валеры Васільевіч Захараў — вельмі абаяльны чалавек, — з тых, на кім і трымаецца на перыферыі беларускае слова, беларуская справа.

*4-га снежня.* Выйшаў "ЛіМ" з артыкулам пра выданне анталогіі аднаго верша "Агледзіны". Папракнуў укладальніка за адсутнасць у ёй некаторых паэтаў. А цяпер думаю: калі б мяне не было ў "Агледзінах" — ніхто б і не заікнуўся, і не ўспомніў бы. А ні адна душа, а ні адзін сябра! Усё сышло б за "так і трэба", за "нармальна". Во каб цябе агні! — як любіла гаварыць нябожчыца-мама.

*5-га снежня.* Прачытаў прыпавесць Быкава "Камень". Працяг "Вусатага" і "Трубы". Алегарычныя сюжэты. Моцна, цікава. Хоць з пэўнага часу алегорый не люблю — як і ўсяго ўмоўнага, нерэалістычнага ў прозе. І не толькі ў прозе.

Апаўдні заходзілі В. Скалабан і Ю. Гарбінскі (з Варшавы хлопец, родам з Камаяў). Гарбінскі выдаў у Польшчы вялікі том пад назвай "Беларуская думка. XX стагоддзе", які і прэзентаваў мне (ёсць там і фрагмент з майго артыкула). Цудоўнае і вельмі патрэбнае выданне!.. Шкада, што ён не меў з чаго выбіраць думкі Н.Г. Калі я падарыў яму "Любоў прасветлую" — ён аж ахнуў: не падазраваў, што ў мяне столькі напрацавана. Шкада, шкада! Калі б гэта мая кніга апынулася ў Варшаве тады ж, як выйшла (пачатак 1996-га), — напэўна я быў бы прадстаўлены ў томе Гарбінскага не паўтары старонкамі. Але ж я ўсё жыццё не ўмеў паклапаціцца пра сябе так, як умеюць іншыя. О, як яны ўмеюць!..

*9-га снежня.* Сустрэча ў Мінскай СШ № 2, дзе дырэктарам актывіст адраджэння Сядзяка. Арганізавала — сябра ТБМ настаўніца-пенсіянерка Соўпель Л.А. Усё было з павагай да госця. Вучні дэкламавалі мае вершы, пелі беларускія песні. Дырэктар, пад гітару, выканаў "Вы шуміце, шуміце..." (у мае школьныя гады такое было немагчыма — каб дырэктар спяваў перад вучнямі). Пасля — доўгая гутарка з настаўнікамі за чаем (без спіртнога!). Безліч пытанняў да мяне — і амаль усе на ўзроўні. Выснова — усё тая ж: з настаўнікамі трэба кантактавацца.

*16-га снежня.* Сустрэча ў Батанічным Садзе. Наладзіў В. Вільтоўскі. Былі і людзі з іншых акадэмічных інстытутаў. Але — мала. Увогуле — мала. Не трэба ў канцы года (справаздачы!) рабіць такія сустрэчы. Слухалі добра, пытанняў было не шмат. Закончылі ўсё мерапрыемства — у экзатычных умовах, пад лімонным дрэўцам, з лімонамі.

*18-га снежня.* Вечар акадэміка Р. Гарэцкага ў Музеі Я. Купалы. Выступалі Брыль, Вярцінскі (вершам), Зуёнак (вершам), Законнікаў (вершам). Сказаў і я два-тры словы пра гэтага слаўнага чалавека і сябра (прозаю). Пасля дзвюх гадзін віншаванняў яшчэ гадзіны дзве чаркаваліся. Дзіўлюся і радуюся невычэрпнай энергіі і бадзёрасці Радзіма Гаўрылавіча. Дык і справядліва: беларусам патрэбна не толькі мужнасць, мудрасць, прынцыповасць, але і дужасць, фізічная моц, вынослівасць.

*25-га снежня.* Адзін з самых чорных дзён года. Самы чорны з усіх. Правадыр падпісаў у Маскве здрадніцкія дакументы. Яшчэ адзін ганебны, подлы крок да поўнага заклання Незалежнай Беларускай дзяржавы...

*26-га снежня.* Пад уражаннем таго злачынства, якое адбылося ўчора, напісаў, у гневе і ярасці, верш “І спытае суд высокі”. Шліфаваў яшчэ два, пачатыя раней. Дамовіўся з Сярэдзічам, што ў панядзелак ранічкой занясу ўсе тры яму — у апошні нумар года.

*29-га снежня.* Выйшла “Народная воля” з маімі гнеўнымі радкамі, заходзіў у рэдакцыю, узяў пару экзэмпляраў нумара.

З’ездзіў у Лагойск, у бальніцу, дзе ляжыць, у рэанімацыі, наша бедная Ліна. Пабачыліся, пагаварылі. Ёй ужо трохі лепш. Урачы супакоілі мяне, сказалі: выкараскаецца, працэс абнадзейвае; праўда, дыябет вельмі ўскладняе справу.

*30-га снежня.* М-кі прыслаў навагоднюю паштоўку, а ў ёй, апрача віншавання, дзіўная просьба, прычым — амаль ультыматыўная: я павінен узяць на сябе ініцыятыву па адраджэнні “сяброўскага хаўруса чатырох”. Каб усё стала, як некалі было: каб збіраліся ў яго па святах як даўнія верныя блізкія шчырыя сябры. Ах Мікола, Мікалай! І дзеля чаго ж ты варушыш адбалелае? Мне было столькі нажоў у спіну, што ў сэрцы нічога не засталося, апрача горкага шкадавання за прыкрую памылку. Што ж да В.У. — Бог суддзя і яму, і мне. Больш надзейнага, чым Н.Г., паплечніка ў яго не было, але ў 1989-м ён няйначай як рашыў вызваліцца ад мяне. Чаму? Апрацавалі вялікія патрыёты беларушчыны і Беларусі, вялікія змагары за дэмакратыю. Дык што ж ты цяпер, дарагі М.Я., ад мяне хочаш? Я нікога не прадаваў і не прадаў. Ты пішаш: “В. стаў вельмі вялікім, а Г. увесь у перажываннях за пасаду, абяцалі і не далі”. Госпадзі памілуй! І гэта мне гаворыцца сёння — у дні, калі канчаткова прадаюць у няволю Беларусь!

Анатоль Трафімчык



...колькасць і частата прывітанняў
з мінімальнай нагоды гавораць
пра сапраўды цесныя кантакты палітыка
і класіка літаратуры...

# На ростанях лёсаў паэта і палітыка

## *Якуб КОЛАС і Панцеляймон ПАНАМАРЭНКА*

*Светлай памяці Віталя Уладзіміравіча Скалабана*

***Стасункі знакамітасцей заўсёды прыцягвалі ўвагу і даследчыкаў, і люду паспалітага. А ўзаемадачыненні мастакоў і вышэйшых дзяржаўных кіраўнікоў увогуле адносяцца, так бы мовіць, да класікі жанру. Якія б яны ні былі, часцей за ўсё тыя зносіны не будуць адназначнымі, будуць хаваць у сабе прыцягальныя таямніцы і праз шматлікія гады будуць прыцягваць нашую ўвагу. Такімі фігурамі ў беларускай гісторыі з'яўляюцца Якуб Колас і Панцеляймон Панамарэнка. І калі імя першага вядомае ці не кожнаму беларусу, то пра другога пачынаюць забываць (што й казаць, маладое пакаленне пра больш рэльефных Леніна ды Сталіна не заўсёды зможа ўспомніць, а тут "усяго толькі" кіраўнік рэспублікі). Некаторыя старонкі іх стасункаў, найбольш драматычныя, ужо прыадкрыты гісторыкамі. Але цэласнай карціны пакуль не было сканструявана. І гэты нарыс са спробай аналізу зносінаў першага паэта і першага палітыка асобна ўзятай рэспублікі з'яўляецца крокам да ліквідацыі яшчэ адной белай плямы ў гісторыі і культуры Беларусі.***

Панцеляймон Канстанцінавіч Панамарэнка нарадзіўся на хутары Шалкоўскім Беларэчанскага раёна Краснадарскага краю. Скончыў Маскоўскі інстытут інжынернага чыгуначнага транспарту (1932). З 1922 года быў на камсамольскай і партыйнай рабоце. Лёсам было яму наканавана з дзясятак гадоў не проста быць звязаным з беларускай зямлёй, а быць галоўным у створанай бальшавікамі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы: у перыяд 1938-1947 гг. ён з'яўляўся Першым сакратаром ЦК КП(б)Б. Менавіта ў гэты час адбываецца знаёмства П. Панамарэнкі і Якуба Коласа. У якасці фактычнага кіраўніка рэспублікі П. Панамарэнка, зразумела, ішоў у фарватэры агульнасавецкай палітыкі, якая ў той час характарызавалася жорсткімі рэпрэсіямі. Кожны наступны кіраўнік імкнуўся пераўзысці свайго папярэдніка. Так і П. Панамарэнка, вывучыўшы сацыяльна-палітычную сітуацыю ў Савецкай Беларусі, ужо 21 лістапада1938 г. піша ў Цэнтральны Камітэт УКП(б) і асабіста І. Сталіну сёння шырока вядомы ліст "О белорусском языке, литературе и писателях". У ім зафіксаваны першыя ўражанні і меркаванні новага кіраўніка БССР пра культурную сітуацыю ў рэспубліцы, у тым ліку і стасоўна ўжо тады класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. Некаторыя ўрыўкі варта працытаваць досыць шырока, каб грунтоўней адлюстраваць адносіны П. Панамарэнкі да вядучых беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх Якуб Колас быў адным з галоўных фігурантаў:

"Наиболее крупную контр-революционную националистическую работу провел союз "советских" писателей Белоруссии, идейно возглавляемый всегда десятком профашистских писателей (в том числе известные Янка Купала и Якуб Колас), и всегда для прикрытия (в том числе и сейчас) имевший у руководства коммунистов. В этом союзе несправедливой критикой, клеветой, издевательством, пренебрежением затравили не одного честного коммуниста и беспартийного писателя. Здесь разлагали литературное движение, здесь боролись с советской властью под видом борьбы за эту власть. Здесь ненависть ко всему русскому доходила до болезненной истеричности. <...>

В отношении Янки Купалы, Якуба Коласа, Бровко, Глебки, Крапивы, Бядули, Вольского, Аксельрода и др. членов этой "могучей кучки", узурпировавшей представительство от Белорусской литературы всюду, в том числе и за рубежом, людей, творческая авторитетность которых непомерно раздута, проводивших лично всю описанную выше вражескую работу, имеются многочисленные показания разоблаченных и арестованных врагов, изобличающие их вплоть до связей с польской дефензивой.

В отношении Янки Купалы имеется 41 показание, в большинстве прямые; Якуба Коласа... 31 показание; Крапивы... 12 показаний и так далее. По количеству и качеству изобличающего материала, а также по известным нам фактам их работы, они, безусловно, подлежат аресту и суду, как враги народа. В частности, Наркомвнудел Белоруссии запросил из центра санкцию на арест Купалы и Коласа уже давно, но санкция пока не дана.

Положение в отношении к ним сложное. Они, главным образом, Янка Купала и Якуб Колас, пользуются известностью, прославили их достаточно сильно, их включают во всякие комиссии по учебникам и словарям, переводам, литературным юбилеям. Не допустить этого, значит сразу определить свое отношение к ним, а его по моему мнению определять нужно не так. Их нужно или арестовать, или, учитывая обстановку, принять, поговорить открыто, показать, что нам известны все их "ошибки", если это допустимо так называть, сказать, что они могут искупить свою вину перед Советской властью, призвать их к честной работе, посмотреть, как они будут реагировать и если в какой-либо мере пойдут на это, то использовать это в целях разложения группы, отрыва наиболее честного и ликвидации остатков нацдемовщины. При разговоре, конечно, не смягчать действительной



*Панцеляймон ПАНАМАРЭНКА і Якуб КОЛАС.*

оценки их роли, но делать это с соответствующим такому щепетильному разговору тактом.

Потом надо будет созвать совещание белорусских писателей, на котором выступить с совершенно ясными установками о дальнейшей работе Союза писателей, с критикой ошибок, постановкой задач и т.д. А там уже дальше, обстановка подскажет наиболее целесообразные шаги.

По двум вопросам:

а) о предлагаемых мероприятиях в отношении белорусского языка – грамматики и литературы;

б) об отношении к писателям Янке Купале и Якубу Коласу, – я прошу Вас дать мне совет”[1].

Дадаткова каментаваць, якая пагроза навісла над Якубам Коласам і Янкам Купалам, было б лішнім.

Тым не менш П. Панамарэнка, спадзяючыся, напэўна, што змест гэтага дакумента не выйдзе за межы сакрэтных спецсховаў, потым любіў распавядаць, як дзякуючы менавіта яму абодва народныя паэты пазбеглі малоху сталінскай рэпрэсіўнай машыны, якая тым часам працавала на поўную магутнасць. Сутнасць таго расказу зводзілася да таго, што яму на стол былі пакладзены сфабрыкаваныя НКУС БССР справы па антысавецкай дзейнасці народных паэтаў. Але нібыта добры П. Панамарэнка не даў веры прадстаўленай інфармацыі, а тэрмінова паехаў да І. Сталіна і пераканаў яго замяніць “ордэры на ордэны”. Няшчырасць П. Панамарэнкі даследчыкі ўсё ж выкрылі, даказаўшы, што ён мае непасрэднае дачыненне да масавых рэпрэсій на Беларусі і што ён гатовы быў ліквідаваць Якуба Коласа, таксама, як многіх і многіх іншых беларускіх дзеячаў літаратуры, мастацтва,

навукі (толькі за першыя пару месяцаў беларускага перыяду яго біяграфіі лік арыштаваных у маленькай рэспубліцы перавысіў пяць тысяч чалавек)[2].

Вышэйшае кіраўніцтва і ў прыватнасці І. Сталін, які ўмела практыкаваў змену бізуна на пернік, не дало санкцыі П. Панамарэнку на рэпрэсіўныя меры стасоўна буйных фігур Якуба Коласа і Янкі Купалы. Дзякуючы непераўзыдзенай значнасці іх жа можна было выкарыстаць у прапагандыскіх і ідэалагічных мэтах. Тым больш што адбывалася эскалацыя напружанасці ў свеце, і ў палітыцы савецкай дзяржавы назіраўся паварот да патрыятычных настрояў, якія асабліва неабходны былі для распалавіненай Беларусі, бо яе заходнюю частку, што знаходзілася пад Польшчай, планавалася рана ці позна далучыць.

Адсутнасць дазволу І. Сталіна, сацыяльна-палітычныя працэсы спрычыніліся да таго, што пазіцыя П. Панамарэнкі ў дачыненні да народных паэтаў таксама кардынальна змяняецца. І ўжо 26 снежня 1938 г., у сувязі з 20-годдзем БССР, у Крэмль накіроўваецца (за подпісам Панамарэнкі) хадайніцтва аб узнагароджанні 40 чалавек "за заслугі перад радзімай". У іх ліку Купала і Колас, дзейнасць якіх П. Панамарэнка ацэньвае надзвычай высока. Але тады хадайніцтва не задаволілі, ордэнаў паэтам не далі. Затое ўзнагародзілі трохі пазней – у гонар адкрыцця XVIII з'езда ВКП(б) на пачатку лютага 1939 г.[3]

Змяняецца пазіцыя новага кіраўніка БССР і стасоўна беларускай культуры, перадусім мовы ў цэлым. Калі ў вышэйцытаваным лісце ён па ўсіх аспектах варожа паставіўся да беларускай мовы, якая нібыта раз'ядноўвае два брацкія усходнеславянскія народы, то ўжо праз год у лісце І. Сталіну пра становішча ў Заходняй Беларусі П. Панамарэнка піша зусім адваротнае: "Крестьяне говорят на настоящем белорусском языке, причем употребляют много слов, о которых нас здесь уверяли, что они нацдемовские, выдуманные. Нацдемы могли выдумать в литературе, а народу привить не могли, тем более западным белорусам"[4]. Як гэта разыходзілася з яшчэ нядаўнімі пасажамі: "Существующее белорусское правописание искажено в националистическом духе, оно преднамеренно построено так, чтобы отличалось от русского даже там, где в живом произношении нет разницы. <...> Слово "подъем", заменено каким-то диким словом "уздым". Образование – адукацыя. Краски – фарбы. Борец – змагар. Отечественный – ойчынны (от польского ойчизна). Правительство – урад??? Годовщина – гадавіна (Белорусы говорят так в смысле гад-гадюка). Баня – лазня. Беспредельный, безбрежный, безграничный – бязмежны (пример сознательного обеднения языка). Безопасность – бяспечнасть (отсюда органы государственной безопасности – органы государственной беспечности). Слово товарищ заменено словом сябр. Друг – тоже сябр. Дружба – сяброуства. Благожелатель – зычлівец... Женщина, ухаживающая за овцами – овчарка. Крупны – буйны (отсюда крупный деятель – буйны дзеяч)... В лозунге "Пролетарии всех стран, соединяйтесь", слово "соединяйтесь" заменено словом "злучайцеся", а в народе "злучайцеся – злучка", все равно, что и по-русски "случайтесь – случка". Лозунг "Да здравствует годовщина Октябрьской революции" на белорусском языке "Няхай жыве гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі", испохаблен от начала до конца. Белорусы говорят здравствуй, а "няхай" означает "пусть" в смысле пренебрежительного "так и быть". Гадавіна означает гада большого размера. Так и говорят "Ух, якая гадавіна". Кастрычник – октябрь. Но кастрыца – это не лен, а отбросы от льна..."[5]

Такое палітычнае дзейства разгарнулася на ніве беларушчыны... Ці здагадваўся, ці разумеў Якуб Колас, якая небяспечная для яго адбывалася гульня з прыходам новага кіраўніка Савецкай Беларусі, невядома. Магчыма проста ўжо звыкся з такім хісткім становішчам, таму што, пачынаючы з 1925 г., меў шчыльны кантакт з органамі дзяржбяспекі, нярэдка выступаючы сведкам па справах іншых падазраваемых. Якуб Колас, аднак, сведкам быў кепскім: з яго важнай інфармацыі так і

не выцягнулі[6]. А вось на яго нагаворвалі. І ён, “старый и хитрый враг Советской власти и Коммунистической партии” (з паказанняў на паэта 1937 г.)[7], бачачы, як імкліва радзеюць пісьменніцкія шэрагі, мог толькі спадзявацца, што дамоклаў меч бальшавіцкай улады на яго апусціцца пазней. Таму і доўгі час народны паэт спаў не распранаючыся, трымаючы клуначак самых неабходных рэчаў пад рукою. Мудры і аналітычна глыбокі пясняр наўрад ці ідэалізаваў кіраўніцтва рэспублікі, уключна з П. Панамарэнкам.

Толькі дзякуючы родным (Л. Рублеўская называе Міхася Міцкевіча, малодшага Коласава сына ) да нас дайшла эпіграма Коласа, датаваная 1938 г.:

Калі на з’ездзе ці на сходзе
К табе фатограф не ідзе,
дык так і ведай: ты не ў модзе
І не патрэбен ты нідзе.
І думай, браце, аб бядзе[8].

Але і Панамарэнка не быў бы паспяховым палітыкам, каб не прадпрымаў прэвентыўныя захады. Напярэдадні лёсавызначальнага для Якуба Коласа ліста кіраўнік рэспублікі стварыў у вачах паэта свой пазітыўны імідж, імкнучыся адвесці ад сябе эвентуальныя (пры трагічным для Песняра павароце) падазрэнні. Пра іх першую сустрэчу знаходзім звесткі ва ўспамінах М. Міцкевіча: “Азнаёміўшыся са становішчам з кадрамі ў Беларусі, Панамарэнка паклікаў Коласа на размову. На здзіўленне, новы сакратар стаў расказваць пісьменніку пра гістарычнае мінулае Беларусі, закрануў шэраг падрабязнасцей гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Гаварыў з энтузіазмам. Бацька быў зачараваны новым сакратаром. Якія глыбокія веды! Але, калі прааналізаваць наступныя крокі Панамарэнкі, то можна прыйсці да высновы, што гэта была зандзіроўка, як адносіцца народны паэт да праблем самастойнасці Беларусі, яе будучыні і інш.”[9]

Відаць, сустрэча пераканала П. Панамарэнку ў нядобранадзейнасці народнага паэта і кіраўнік вырашыў лагічна завяршыць шматгадовую “распрацоўку” адной з ключавых фігур уяўнага нацыянальна-дэмакратычнага руху на Беларусі. Аднак санкцыі не атрымаў. І надалей з Коласам, шанаванне якога працягвалася, кіраўнік БССР захаваў цёплыя ўзаемадачыненні, якія можна нават назваць сяброўскімі, і падобных “падкопаў” ужо не дапускаў (прынамсі іх не выяўлена). Вось толькі той ліст 1938 г. П. Панамарэнку да канца жыцця не даваў спакою. Таму ён і імкнуўся пасля смерці І. Сталіна распаўсюдзіць легенду пра выратаванне беларускіх класікаў, расказваючы яе розным пісьменнікам, асабліва беларусам. Найбольш вядомая інтэрпрэтацыя, якая і стала асновай для ўсталявання міфа, належыць М. Лынькову. Але не менш цікавы аповед знаходзіцца і ў І. Шамякіна, які, акром наратыўнасці, утрымлівае і пэўную ступень аналітычнасці. Іван Пятровіч, які адразу па вайне гучна заявіў пра сябе як мастак слова, улетку 1953 г. быў проста выцягнуты з палескай глыбінкі для паездкі ў Маскву П. Панамарэнкам, які тым часам працаваў ужо міністрам культуры. Будучы народны пісьменнік прызнаецца, які аграмадны аўтарытэт меў П. Панамарэнка ў беларускага народа і яго інтэлігенцыі: “Помню, якое ўражанне зрабіў ён на першым пасляваенным пленуме Саюза пісьменнікаў у снежні 1945, куды мяне, аўтара “Помсты”, запрасілі. Сустрэча з вядомымі пісьменнікамі заваражыла, узяло творчае натхненне: вунь куды ўчарашні камсорг дывізіёна скочыў! Дух займала. А тут яшчэ Панамарэнка. Генерал! Начальнік партызанскага штаба! Для нас, беларусаў, бадай жа, другая асоба пасля Сталіна. Ён цэлы дзень слухаў прамовы пісьменнікаў-франтавікоў. Узарваўся адзін раз, калі Міхась Клімковіч назваў оперны тэатр перавернутым унітазам. Чаму так узлаваўся Панамарэнка, для мяне засталося загадкай. Клімковіч сядзеў збялелы. Як вытрымала сэрца немаладога ўжо чалавека, якога па загаду Панамарэнкі вывезлі з нямецкага

тыла ў Маскву. Ратавалі. Панцеляймон Кандратавіч нагадаў яму гэта з не вельмі затоенай пагрозай праверыць, чым ён займаўся ў акупацыі. На другі дзень першы сакратар выступіў перад пісьменнікамі з двухгадзіннай прамовай. І заваражыў ён не толькі мяне, галыша, але і патрыярха Якуба Коласа, самотнага Міхася Лынькова, бадзёрага Пятруся Броўку, на якіх я ледзьве не маліўся, як на багоў ”[10].

Вось з такім піетэтам ехаў у Маскву тады І. Шамякін і шмат гадоў пазней не крывіў душою, каб яго прыхаваць. Фармальнай падставай для размовы стала прапанова маладому, але ўжо ўшанаванаму Сталінскай прэміяй пісьменніку напісаць сцэнар для мастацкага фільма. Аўтару пры гэтым ствараліся ўсе ўмовы. Адмовіцца было немагчыма. Ды раптам адбыўся рэзкі паварот у гаворцы:

“Усё? Хацеў падняцца. Не, не ўсё!

– Ну, як там жывуць Колас, Крапіва, Глебка?

– Канстанцін Міхайлавіч у бальніцы...

– Хто гэта?

– Колас.

– А, так. Я забыўся. Недаравальна. Я з ім меў самыя цесныя кантакты. Сяброўскія. Можна сказаць, адносіны. Мудрэйшы чалавек!

– Я ведаю...

– А ведаеце, як я іх у трыццаць восьмым ратаваў... Купалу, Коласа і групу маладзейшых?

– Не, не ведаю.

– О, гэта тэма для рамана.

І пачаў расказваць. Каля двух гадзін расказваў. Я слухаў заваражана. Гісторыя з першых вуснаў! Дзе яшчэ пачуеш такое? Шкадую, што тады, на семінары тым, не запісаў яго падрабязны расказ, які разгортваў, маляваў карціну трагічных перадваенных гадоў. Але галоўнае помню і зараз. <...>

Далей пра тое, што асабліва ўсхвалявала мяне, – пра маіх настаўнікаў. Ён, Панамарэнка, рашэннем бюро ЦК вызваліў з турмы скатаванага Кузьму Чорнага, іншых арыштаваных (не пісьменнікаў, таму прозвішчы іх выпалі з маёй памяці). Але неўзабаве яму на стол паклалі спіс “мацёрых нацдэмаў”, якіх трэба неадкладна арыштаваць. У спісе тым – Купала, Колас, Крапіва, Броўка, Лынькоў, Глебка, Самуйлёнак...

“Глянуў я і за галаву схапіўся. З кім застануся? З кім працаваць?!” – яго, Панамарэнкі, словы. – “Трэба ратаваць! Але як? Ратаваць можа толькі Сталін. Ды як да яго дабрацца, калі за ім, Панамарэнкам, дзень і ноч сочаць чэкісты? І пазваніць нельга – слухаюць. Разумеў, што рызыкую галавой. Але вырашыў ехаць у Маскву, дамагчыся прыёму ў Сталіна і сказаць: арышт такой групы ліквідуе нацыянальную літаратуру, навуку. З кім працаваць?”

Думаў, думаў Панцеляймон і прыдумаў, пазваніў наркому, што на другі дзень едзе ў Слуцк. А выехаў уначы з адным памочнікам. У Барысаў. Узялі білет у агульны вагон цягніка, які ішоў на Маскву. Так ашукалі агентаў Бермана. (Дэтэктыўны сюжэт! Я яго слухаў заваражана). У Маскве спыніліся на прыватнай кватэры. Тры дні дажыдаўся прыёму ў Сталіна. Добра, што меў добрыя адносіны з Паскробышавым. Дамогся: прыняў Панцеляймона Сталін. І першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі сказаў праўдзе: “Не будзе з кім працаваць, таварыш Сталін”.

Сталін пахадзіў па кабінеце, папыхкаў люлькай і выклікаў загадчыка аддзела Жданава. Яму сказаў: “Тавариш Пономаренко справедливо говорит: давно мы не награждали наших писателей. Подготовьте списочек. Из всех республик. Человек на сто”.

“Так замест ордэраў завяліся ордэны. Я ратаваў Купалу, Коласа, іншых. Ды, скажу шчыра, і сабе памог: слежку за мной спынілі”, – расказваў мне Панамарэнка.

Хіба мог я ўсумніцца ў праўдзівасці расповяда такога чалавека? Папярэджання, каб не разглашаў яго расказ, не было. І я, як толькі вярнуўся ў Мінск, перадаў пачутае Броўку, нават расказаў на нейкім пасяджэнні. Мне паверылі. Не мне – Панцеляймону Кандратавічу, аўтарытэт якога трымаўся высока і пасля яго ад'езда. Нават такі крытык сталіншчыны, як Андрэй Макаёнак, паверыў. На сустрэчах з чытачамі расказвалі: во які ён, наш Панамарэнка!"[11].

Як бачым, П. Панамарэнка лёгка ўжывіў у неабыякога псіхолага І. Шамякіна (і не толькі) ледзь не святую веру ў выратаванне беларускай літаратуры. Яна доўга заставалася непарушнай, трывалай. Яе не пахіснуў момант здзіўлення ад рэакцыі Якуба Коласа на пераказ сустрэчы з П. Панамарэнкам:

"Пры наведванні Якуба Коласа за партузносамі я расказаў і яму. Канстанцін Міхайлавіч здзівіў: без захаплення сказаў:

– Я, братачка, чуў гэта з яго вуснаў.

Здзівіла, што чуў і нікому не расказаў, нават лепшаму сябру свайму Пятру Глебку, якога любіў больш чым каго"[12].

Калі гэты аповед І. Шамякіна дакладны і скрупулёзны, то адсутнасць Коласава захаплення і нераспаўсюджанне гісторыі пра свайго выратавальніка наўрад ці можна вытлумачыць толькі традыцыйнай маўклівасцю паэта. Такім чынам, існуе верагоднасць, што апошні (прынамсі, напрыканцы свайго жыцця) разумеў вартасць гэтых слоў колішняга кіраўніка БССР.

Самому І. Шамякіну спатрэбілася, як ён прызнаецца, яшчэ чвэрць стагоддзя, каб пахіснулася перакананне. Недзе ў канцы 1970-х (прычым П. Панамарэнка яшчэ быў жывы) "я прыгадаў подзвіг Панамарэнкі, пра які ўжо пачалі забываць. І мяне ашаламіў тэатразнаўца Георгі Колас... Упершыню я пачуў:

– Хлусня ўсё гэта! У партархіве, у спецфондзе, захоўваецца другі экземпляр пісьма Панамарэнкі Сталіну, у якім ён пісаў аб неабходнасці арышту нацдэмаў – Купалы, Коласа і ўсіх, каго ён "ратаваў", як вы кажыце.

Я ажно падскочыў, як падпечаны. Такая легенда рушыцца!

– Ты чытаў гэтае пісьмо?

– Мне не далі. Але архівісты пераказалі яго змест"[13].

Веры І. Шамякін не даў, але "з вожыкам у галаве" вырашыў праверыць сам. Ды ў Партыйны архіў яго не дапусцілі: тагачасны дырэктар Р. Платонаў, параіўшыся з сакратаром ЦК па прапагандзе, не дазволіў (затое потым сам і апублікаваў тыя матэрыялы, каб развянчаць міф).

"Глыбока расчараваны, мацюкнуў я і Панамарэнку, і Платонава, і ўсіх палітыканаў. Я здаўся. Хэндэ хох! Праз сорак гадоў дапяў. Да лямпачкі было Панцеляймону тое кіно, тым больш мой раман; ён шукаў магчымасці, як адмыцца. Знайшоў: выклікаць маладога беларускага пісьменніка, аўтарытэтнага (лаўрэат!), расказаць яму, які добры ён быў, безумоўна ж, пісьменнік раскажа яго легенду калегам, старым і маладым, нехта запіша яе... Але не лепшы ён быў сцэнарыст, забыўся пра адну істотную дэталь – пра архіў, які папоўніў сваімі пісьмамі..."[14] – скончыў свой расказ І. Шамякін, ужо будучы народным пісьменнікам. Вось толькі цікава, ці П. Панамарэнка (памёр у 1984 г.) дазнаўся пра тое, што яго міф пачаў бурыцца, ці пайшоў з жыцця, думаючы, што застаецца непахісным аўтарытэтам для беларускага народа. У пакінутых па сабе ўспамінах[15], аднак, колішні кіраўнік БССР пра сябе як выратавальніка беларускай пісьменніцкай эліты ўжо чамусьці не згадвае, тым не менш расказваючы пра многія свае дзеянні (сёння сапраўды неаспрэчныя) на карысць Беларусі.

А ці верыў, ці не верыў у шчырасць палітыка сам Колас – праніклівы "інжынер чалавечых душ", усё ж сказаць цяжка. Але асцярожны, маўклівы недаверлівага выгляду не падаваў. А калі і не верыў, то ўсё адно яго шырокая чалавечнасць і даравальнасць пераважалі. Дый прыязныя стасункі з палітычным кіраўніцтвам мець

лепей, чым халодныя ці тым больш варожыя. Да таго ж іх можна выкарыстоўваць: ці то па асабістай патрэбе, ці то – як найчасцей рабіў Якуб Колас – з карысцю для іншых, каму дапамога была асабліва неабходна.

Адной з такіх спраў Якуба Коласа сталі ягоныя турботы пра сваіх землякоў-мікалаеўцаў, якім неўзабаве пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР моцна не пашчасціла. Аднаго дня дзеці пяклі яечню. Не ўпільнавалі, як агонь перакінуўся на сялянскія гасподы, што стаялі адна пры адной. Дарослыя ж былі ў полі. За хвілінаў сорак полымем злізала больш за дзвесце хат. У сувязі з такім няшчасцем Якуб Колас звярнуўся ў Саўнарком і асабіста да П. Панамарэнкі з просьбай адбудаваць вёску з новаю планіроўкай, школай і бальніцай. Відаць, просьба з'яўлялася цяжкавыканальнай для ўлады, таму Колас не абмежаваўся дакладной запіскай, а, як вынікае з ліста С. Гарадзецкаму, удзяляў самую пільную ўвагу, ахвяруючы сваімі асабістымі і пісьменніцкімі справамі[16]. Свой родны кут пясняр не выпускаў з-пад увагі ніколі. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў погляды паэта ізноў звяртаюцца да праблем мікалаеўцаў, якія мелі ўсё тыя ж праблемы са школай (намі не ўстаноўлена, ці пабудавалі па яго ранейшай просьбе школу да нападу Германіі). Ізноў дзеля вырашэння гэтага пытання Колас ідзе да Панамарэнкі[17].

Больш складана было дапамагаць тым, над кім навісла смяротная пагроза рэпрэсій. Мала таго, што яна далёка не заўсёды мела жаданы вынік (як са сваякамі, напрыклад, шваграм А. Каменскім ці акадэмікам І. Замоціным), дык і несла непасрэдную пагрозу жыццю Якуба Коласа. Ратаваў Якуб Колас і людзей, якія не ўваходзілі ў блізкае кола сяброў і родных ці калег па пяру. Адным з такіх быў І. Касяк – настаўнік з Павільні. У фондах музея знаходзяцца чатыры лісты паэта да І. Касяка. У адным з іх гаворыцца, што 7 верасня 1940 г. Якуб Колас займаўся справай знаёмага і рэкамендаваў яму "возбудить хадатайство перед органами НКВД". Паэт не толькі не баяўся агалоскі пра тое, што ён дапамагае патэнцыйным, а то і эксплііцытным "ворагам народа", але і сам складаў пратэкцыю ім, і даваў згоду, каб яны спасылаліся ў хадайніцтвах на яго: "В своем заявлении можете сослаться на меня, как знающего Вас и могущего поддержать Ваше хадатайство..."[18] Колькі такіх выпадкаў, сёння, бадай, не ўстанавіць. Затое можна прывесці канкрэтныя прыклады.

Ці не першым стаў ліст да старшыні Саўнаркаму БССР Мікалаю Галадзеду ў абарону арыштаванага Ф. Аляхновіча, падпісаны разам з Янкам Купалам ды іншымі ў 1928 г. А канец 1930-х падобных перажыванняў падкінуў нашмат болей. І тут ужо просьбы (напісаныя, дарэчы, у адрозненне ад вышэйзгаданай беларускамоўнай пісаліся па-руску) накіроўваліся сакратару ЦК КПБ П. Панамарэнку.

Ізноў разам з сябруком Янкам пішацца прашэнне ў абарону арыштаванага Аляксандра Уласава (1940 г.)[19]. Тут станоўчага выніку Якуб Колас не дабіўся. А вось перад гэтым Кузьма Чорны быў выпушчаны, і пасадзейнічала вызваленню ў тым ліку заступніцтва за яго Якуба Коласа, з якім П. Панамарэнка ўжо нават раіўся. Паэт запэўніў у высокай якасці творчасці Кузьмы Чорнага і яго палітычнай добранадзейнасці[20] (на жаль, здароўе апошняга было падарвана катаваннямі і жыць яму заставалася нядоўга).

Славуты дзеяч музычнага мастацтва Р. Шырма пасля далучэння Заходняй Беларусі інтэнсіфікуе сваю дзейнасць на ніве беларушчыны і стварае прафесійны калектыў – Беларускі ансамбль песні і танцу (з 1955 года – Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР). "Аднак ужо ў 1941 годзе выбітны дзеяч апынаецца за мурамі Лубянкі. Свайму вызваленню ён мусіў быць удзячны Якубу Коласу, які асабіста хадайнічаў перад галоўным камуністам рэспублікі Панцеляймонам Панамарэнкам"[21]. У далейшым паэт таксама сачыў за лёсам гэтага ансамбля, хадайнічаў за яго перад рэспубліканскім кіраўніцтвам: "Ансамблю трэба аказаць

маральную, матэрыяльную і іншую дапамогу. <...> Пагутарыце з Панцеляймонам Кандратавічам. На мой погляд, ансамбль заслугоўвае таго, каб яму давесці болей увагі і клопату"[22], – піша Колас у лісце да Ц. Гарбунова (17 чэрвеня 1942 г.).

Не пабаяўся Колас скласці пратэкцыю і апальнаму геолагу Г. Гарэцкаму, пра перавод якога на Беларусь народны паэт гутарыў з П. Панамарэнкам летам 1944 г.[23], выказваючы ўпэўненасць, "цвёрдую перакананасць" у непасрэдным лісце вучонаму ад 11 ліпеня 1944 г., "што мы з Вамі будзем працаваць у Беларусі"[24].

За час вайны ўвогуле стасункі прыжыццёвага класіка і кіраўніка БССР развіліся ў сяброўскія. П. Панамарэнку трэба аддаць належнае ў яго празорлівасці: ён ведаў напэўна, што палітык яго рангу гісторыяй ставіцца на паліцы, ніжэйшыя за "пачэсны пасад" літаратурных класікаў. І хаця на паверхні не так шмат інфармацыі, якая раскрывае сутнасць узаемадачыненняў гэтых гістарычных асобаў, тым не менш можна гаварыць пра шырокі дыяпазон іх кантактаў, якія падтрымліваліся ўсюды, куды б іх ні закідвала доля.

Пра гэта сведчыць тое, што знаходзячыся ўжо ў Ташкенце, Якуб Колас у лісце П. Броўку ад 3 снежня 1941 г. выказвае палкае жаданне сустрэцца з Панцеляймонам Кандратавічам: "Як многа найшлося б аб чым пагаманіць! Калі давядзецца пабачыцца з ім, перадайце яму ад мяне мой гарачы прывет, сардэчны, прыязны, як нашы беларускія ўзлескі"[25]. Аналагічнае жаданне выказваецца і ў лістах членам урада БССР І. Крупеню (29 ліпеня 1942 г.), а таксама – больш фармальнае – трохі пазней, 23 верасня 1942 г.[26], і Ц. Гарбунову (20 і 22 снежня 1942 г., 8 жніўня 1943 г.)[27]. Праз першага з названых палітыкаў у лісце за 9 жніўня 1942 г. Якуб Колас перадае таварышу Панамарэнку просьбу арганізаваць прыезд у Ташкент і адпачынак М. Лынькову (прычым падкрэсліваў, што робіць гэта асабіста, без ведама свайго прыяцеля-калегі)[28]. Колькасць і частата прывітанняў з мінімальнай нагоды гавораць пра сапраўды цесныя кантакты палітыка і літаратурнага класіка.

Нярэдка на сувязь неабходна было выходзіць з-за нейкай пільнай справы. У такіх выпадках прыбягалі да дапамогі тэлеграфа. Знаходзіцца шмат згадак пра тэлеграмы і самі тэлеграмы. Але не заўсёды можна ўстанавіць, якія менавіта пытанні вырашаліся. Як, напрыклад, у дадзеным выпадку, калі Якуб Колас, як ён трывожыцца ў лісце жонцы (7-8 лютага 1942 г.), ці знойдзе каго ў Маскве, куды паэт ехаў, з кіраўніцтва, плануючы з Пензы даць тэлеграму П. Панамарэнку, што, аднак, не змог зрабіць з прычын, ад яго не залежных[29].

Некалькі тэлеграм захавалася ад П. Панамарэнкі Якубу Коласу. Бадай, усе яны тычацца афіцыйнай дзейнасці. Напрыклад, амаль загадная фармулёўка "прибыть [Якубу Коласу] по важным делам в Москву" (час не ўказаны)[30]; ці запрашэнне на Другі мітынг прадстаўнікоў беларускага народа (жнівень – верасень 1942 г.)[31], што адбыўся 27 верасня, але без удзелу народнага паэта, бо цяжка захварэла яго жонка[32]; ці просьба прыехаць у Маскву, дзе збіраюцца прадстаўнікі Беларусі «для большого дела», прычым, як сказана, прыехаць патрэбна было назусім[33], што, відавочна, было першым званком заканчэння ташкенцкага перыяду ў жыцці сям'і паэта.

Часам абодва карэспандэнты карысталіся паслугамі пасярэднікаў не толькі для абмену прывітаннямі, але і ў сувязі са справамі. Так, паводле ліста Якуба Коласа Ц. Гарбунову (24 красавіка 1942 г.), П. Панамарэнка перадаваў беларускім песнярам пажаданне скласці партызанскую песню, што і было зроблена самім Якубам Коласам (верш "Песня партызан")[34].

Было і ліставанне. Але яно не заняло шмат месца ў Коласавай эпісталярнай спадчыне. Да таго ж, думаецца, пэўная частка яе згублена. Мусіць, не захавалася лістоў, пра якія паэт згадвае, пішучы М. Лынькову (29 жніўня 1942 г.): "Перадай паклон усім сябрам. Я пісаў Гарбунову, Крупені і Пан[целяймону] Кандр[атавічу]. Ад іх яшчэ вестак не меў – адказу на свае пісьмы"[35]. Магчыма, іх так і не было. Аднак з гэтага, здавалася б, дастаткова шэраговага і беззмястоўнага ўрыўку відаць,

што вядучыя палітыкі фігуруюць у кантэксце сяброў, а не толькі таварышаў і знаёмых.

Калі фронт пачаў беспаваротна каціцца на захад, Якуб Колас перабіраецца ў Маскву. Спачатку ён прыязджае адзін. Сустракаецца з П. Панамарэнкам (16 лютага 1943 г.), які распавёў партызанскія гісторыі, пра перавод пад Маскву Акадэміі навук, паабяцаў дапамогу сям'і пры пераездзе без удзелу галавы, хоць сам паэт імкнуўся быць побач з жонкай і сынамі[36]. І на часткова вызваленую Беларусь (пад Гомель) упершыню Якуб Колас, як піша ў лісце да Э. Агняцвет (12 красавіка 1944 г.) ехаў у адным, спецыяльным вагоне з кіраўніком рэспублікі[37], які трохі пазней "некалькі разоў настойліва прапаноўваў Коласу пасаду намесніка Старшыні Саўнаркама Беларусі", ад чаго апошні "ледзь-ледзь адпрасіўся"[38]. У гэты час найбольш зніто ўваецца сяброўства паэта і палітыка: да паездкі на Беларусь Якуб Колас нават доўгі час жыў у П. Панамарэнкі[39].

Якуб Колас шчыра радаваўся, што ад нямецкіх акупантаў кожны дзень вызваляюцца ўсё новыя і новыя землі. Найбольш, канечне, ён думаў пра родную Беларусь. Аднак яго радасць азмрочвалася хваробамі жонкі, Марыі Дзмітрыеўны, якой яшчэ ў ташкенцкай эвакуацыі рабілася ўсё горай ды горай. Клапоцячыся пра яе здароўе, Канстанцін Міхайлавіч прыкладаў усе намаганні, выкарыстоўваў асабістыя сувязі. І вядома, П. Панамарэнка тут мог яму рэальна пасадзейнічаць.

"Сягоння быў у т. П[анамарэнкі]. Наўперад зайшоў да яго памочніка. Ён абяцаў мне пазваніць у Маскву, у постпрэдства, каб там паклапаціліся – калі на тое будзе патрэба – устроіць цябе ў лепшай бальніцы", – піша Якуб Колас жонцы 6 снежня 1944 г.[40], якой усё ж не стала 21 мая 1945 г.

Такім чынам, Якуб Колас распачынаў свой пасляваенны перыяд без сваёй вернай спадарожніцы па жыцці. Яшчэ да яе адыходу ў свет лепшы, паэт, які заўжды любіў фізічную працу, пачаў займацца рамонтам хаты, у якую ён і марыў прывесці Марыю Дзмітрыеўну. Пра дом, знойдзены старэйшым сынам Данілам за плячыма Акадэміі навук, Якуб Колас расказваў жонцы ў лістах. З аднаго пісьма (ад 6 снежня 1944 г.) вынікае, што клопаты Якуба Коласа, бытавыя ў тым ліку, не выпускаў з-пад увагі П. Панамарэнка, які выдзяліў у дапамогу малалітражку і загадаў правесці святло[41]. Ці не грызла яго сумленне за свой пачатак кіраўніцтва на Беларусі, калі ён хацеў спляжыць народнага паэта? Праўда, і не сказаць, каб тая дапамога была велічэзнай, бо, паводле ліста жонцы ад 30 красавіка 1945 г., Колас ўсё яшчэ займаўся рамонтам[42].

Пасля смерці Марыі Дзмітрыеўны Коласа адольвала скруха і адзінота. Кіраўнік рэспублікі суперажываў паэту, падтрымліваў яго ў тую трагічную гадзіну. Як успамінае Коласаў малодшы сын, "праз дзень пасля пахавання маці нас з бацькам запрасіў да сябе ў Дразды П. Панамарэнка"[43]. Увогуле апошні пасля вайны, як расказаў М. Міцкевіч, нярэдка клікаў да сябе народнага паэта, іх зносіны пачасціліся.. Гэта сведчыць пра тое, што палітык стаў адным з самых блізкіх людзей для літаратурнага класіка. Непасрэдна з падачы кіраўніка рэспублікі быў выдзелены народнаму паэту і першы пасляваенны аўтамабіль – трафейны "Опель-Адам", а потым – "Опель-Адмірал", два радыёпрыёмнікі – для заўзятага слухача Коласа і яго малодшага сына[44]. Прычым трафейны радыёпрыёмнік дазваляў лавіць хвалі замежных радыё, што для савецкіх, тым больш сталінскіх часоў было з'явай ледзь не паранармальнай. Ад сябе асабіста палітык падарыў паэту кішэнны гадзіннік[45].

Калі ж П. Панамарэнка наведаў сядзібу народнага паэта (летам 1946 г.), які тым часам якраз быў ад'ездзе, то "маленькая хатка здалася яму няўтульнай і непрыгоднаю для жыцця і працы народнага паэта. Ён прапанаваў пабудаваць вялікі, прасторны катэдж. Колас падзякаваў яму за клопат, але адмовіўся ад прапановы. Каля двух мільёнаў жыхароў рэспублікі жылі тады ў зямлянках, і народны паэт

лічыў немагчымым для сябе жыць у раскошы", – успамінаў старэйшы сын Даніла Канстанцінавіч[46].

Нягледзячы на сваю занятасць, П. Панамрэнка ўдзяляў увагу і творчасці свайго сябра-пісьменніка. Асабліва любіў паэму "Сымон-музыка". Як расказаў М. Аўрамчыку Даніла Канстанцінавіч, нейк П. Панамарэнка ў высокім застоллі пачаў даказваць апошняму, "што гэтая паэма – найвялікшы рамантычны эпас, гэтакі ж, як "Песня пра Гаявата" Лангфела"[47].

Тое, што палітык высокага рангу не быў далёкі ад літаратуры, відаць з яго асабістай бібліятэкі, якая была перададзена яго ўдавой Верай Георгіенай ЦНБ імя Якуба Коласа ў 1985 г. Менавіта яго кнігазбор займае адно з першых месцаў па колькасці дарчых надпісаў на кнігах – 426, што сведчыць не толькі пра грунтоўную ўладу, якую і належыць мець першай асабе рэспублікі, але і пра яго цвёрды аўтарытэт у пісьменніцкім асяродку. Выданні ў асноўным пасляваенныя. Але вось сярод даваенных знаходзіцца і кніга Якуба Коласа – паэма "Новая зямля" (1934 г.). Пасляваенных, да таго ж з подпісамі, чатыры.

С. Прыхач, даследаваўшы бібліятэку П. Панамарэнкі, піша, што "аўтографы народнага паэта Беларусі Якуба Коласа надаюць асаблівую каштоўнасць яго выданням": "Глыбокапаважанаму і дарагому Панцеляймону Кандрацьевічу Панамарэнка на памяць ад Якуба Коласа. 5.XI.1946 г." ("Паэмы", 1946); "Дорогому Пантелеймону Кандратьевичу Пономоренко. Час праходзіць, сляды-ж творчай працы на карысць народу застаюцца, а людзі, пакінуўшыя гэтыя сляды, не забываюцца. Якуб Колас. 21.IX.1951 г." ("Собрание сочинений в четырех томах. Т. 1", 1951 г.); "Глубокоуважаемому, дорогому П.К. Пономоренко на память о Белоруссии, о белорусских лесах. Якуб Колас. 27.XI.1952 г." ("Збор твораў у сямі тамах. Т. 7", 1952 г.); "Глыбокапаважанаму П.К. Панамарэнка, шчыраму другу беларускага народа на памяць ад Якуба Коласа. 22.I.1947 г." ("Избранное", 1946)[48]. Дадамо, што па колькасці Коласавых аўтографаў, выяўленых даследчыкам дэдыкацый К. Казыры, П. Панамарэнка далёка апераджаў ўсіх іншых палітыкаў, а таксама многіх пісьменнікаў, заслужыўшы 9 разоў пацверджанай подпісамі песняра ўвагі (меней, чым П. Глебка (10) і С. Гарадзецкі (12), але больш, чым, напрыклад, М. Лужанін, М. Гарэцкі, П. Тычына і многія іншыя)[49].

Шыкоўная бібліятэка са шматлікімі аўтографамі – гэта не проста фармальны паказчык удзелу П. Панамарэнкі ў справах літаратуры і мастацтва. Яго дзейнасць у гэтай сферы мела зусім непавярхоўны характар, і Якуб Колас вельмі часта быў дарадчыкам і памагатым. Так, у красавіку 1946 г. паэт наведвае П. Панамарэнку з рэляцыяй пра незадавальняючы стан выдання мастацкай літаратуры і прапановай у сувязі з гэтым разгрузіць друкарні г. Мінска, перадаўшы другарадныя заказы ў абласныя гарады, каб не затрымліваць выпуск мастацкай літаратуры (з ліста да С. Гарадзецкага ад 9 мая)[50]. Праз год, 21 мая, Старшыня Савета Міністраў БССР з нейкай прычыны раіцца з народным паэтам наконт работы беларускага мастацтвазнаўцы А. А. Уса. Як запіша Якуб Колас у дзённіку, "у ацэнцы яе сышліся"[51]. Актыўны ўдзел прыняў П. Панамарэнка на рэспубліканскім сходзе пісьменнікаў, прысвечаным абмеркаванню твораў беларускай літаратуры за 1947 г. і задачам пісьменнікаў у падрыхтоўцы да 30-годдзя БССР, выступіўшы з прамовай[52]. Прыхільна ставіцца П. Панамарэнка і да Коласавай навуковай дзейнасці, у прыватнасці да селекцыі кадраў, што ажыццяўлялася таксама і Віцэ-прэзідэнтам АН БССР К. Міцкевічам, якога да таго ж ставіў у прыклад кандыдатаў на званне акадэміка[53]. Акрамя вышэйзгаданага хадайніцтва перад кіраўніком рэспублікі адносна выбітнай фігуры Г. Гарэцкага, з лістоў Якуба Коласа можна прывесці прыклад пра прафесара-лінгвіста П. Растаргуева, кандытатурай якога быў П. Панамарэнка задаволены (ліст П. А. Растаргуеву ад 10 студзеня 1946 г.)[54]. Дарэчы, як паведамляе Р. Гарэцкі, калі пасля Другой сусветнай вайны вырашалася пытанне

пра мяжу паміж Польшчай і Беларуссю, а ў прыватнасці пра прыналежнасць Беласточчыны, Г. Гарэцкі менавіта праз Якуба Коласа перадаў сваю грунтоўную манаграфію «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)» П. Панамарэнку, які ўзяў яе з сабой на размову са І.Сталіным, прыводзіў адтуль розныя доказы ў карысць Беларусі[55].

Заўжды ўважлівы і клапатлівы Якуб Колас, нягледзячы на тое, што яго самога пачалі адольваць цяжкія хваробы, не змяншаў увагі да праблем іншых людзей, тым што і статус дэпутата Вярхоўных Саветаў БССР і СССР абавязваў. Захаваўся аўтограф дакладной на імя Старшыні Савета Міністраў БССР П. Панамарэнкі з просьбай дапамагчы Мікашэвіцкаму дзіцячаму дому, у якой пералічвае, што канкрэтна неабходна зрабіць[56]. Гэта ўказвае на тое, што Якуб Колас скрупулёзна разабраўся, вывучыў становішча дзяцей і ўзяў сітуацыю пад асабісты кантроль.

Не пакідаў паэт і сяброў. Прычым, як відаць з ліста свайму прыяцелю і перакладчыку Я. Мазалькову (1.IV.1949 г.), Якуб Колас звяртаўся да П. Панамарэнкі і тады, калі апошні пакінуў пост кіраўніка Беларусі, пайшоўшы ў Маскву на павышэнне. У дадзеным выпадку паэт дапамагаў вырашыць жыллёвае пытанне Я. Мазалькова[57].

А ўвогуле тагачассе характарызавалася беднасцю, дэфіцытам тавараў самай першай неабходнасці, таму, як расказаў М. Міцкевіч, даводзілася звяртацца да вышэйшага кіраўніцтва нават па драбязе, каб "дастаць", напрыклад, жменю якіх цвікоў.

Як бачна, Якуб Колас прыязныя адносіны да П. Панамарэнкі захоўваў і падтрымліваў да канца свайго жыцця якую б пасаду ні займаў апошні. Відавочна, сустрэч між імі стала зусім вобмаль (калі яны ўвогуле былі). Адна з прычын – адыход П. Панамарэнкі ад дзейнасці, звязанай з Беларуссю. Але галоўнай – зрабілася адлеглацсь, пераадольваць якую хваравітаму напрыканцы жыцця Коласу было вельмі цяжка (П. Панамарэнка пасля ад'езду з Беларусі працаваў да 1954 г. у Маскве, потым год у Казахстане, а ў год смерці Якуба Коласа паслом у Польшчы). Аднак пра тое, што Якуб Колас не забываў нядаўняга кіраўніка БССР, якога лічыў да таго ж сваім сябрам, пераканаўча сведчыць ліст (ад 22 снежня 1951 г.):

"Глубокоуважаемый и дорогой Пантелеймон Кондратьевич!

У меня было искреннее желание навестить Вас во время 3-й Всесоюзной конференции защитников мира. Исполнить свое желание, к сожалению, я не смог, так как чувствовал себя не важно. По окончании конференции уехал домой, а сейчас нахожусь в стационаре, откуда и пишу Вам, дорогой Пантелеймон Кондратьевич. Прибыл в стационар с высоким давлением крови – 240/130. Сейчас оно снижено, и я чувствую себя значительно лучше. По обязанности члена комитета по Сталинским премиям мне надо быть в Минске, но состояние здоровья не позволяет принять участие в работе комитета. В связи с этим я обращаюсь к Вам, Пантелеймон Кондратьевич, с просьбой поддержать, если это удобно и возможно, кандидатуру на соискание Сталинской премии романа Михася Лынькова «Векопомные дни». Наша писательская общественность, а также и партийные работники всемерно поддерживают эту кандидатуру. Поскольку роман издан на русском языке, он переносится на следующий год. Но белорусская поговорка гласит: отклад не идет в лад. Михась Лыньков всей писательской и общественной деятельностью, а также и созданием большого художественного произведения о белорусских партизанах в полной мере заслуживает премирования. В числе кандидатур на соискание Сталин[ской] пр[емии] от союза писателей БССР числится и кандидатура Михася Лынькова, его роман «Векопомные дни». Это произведение горячо поддерживается нашей писательской общественностью, как большое художественное полотно, в котором широко отражены дела и подвиги белорусских партизан. Но поскольку оно не издано в русском переводе, его откладывают на следующий год. А наша поговорка гласит: отклад не идет в лад..."[58] (Публікуецца ўпершыню.)

Па ўсім відаць, ліст застаўся недапісаным, нявычытаным і не быў адпраўлены. Магчыма, Якуб Колас сам вагаўся адносна ацэнкі названага рамана-эпапеі М.Лынькова, які, праўда, усё ж атрымаў за свой твор прэмію, але не Сталінскую, а Дзяржаўную прэмію БССР імя Якуба, і толькі ў 1968 г.

Апошнім з выяўленых кантактаў стала тэлеграма Якуба Коласа, з якой вядома, што паэту ізноў не ўдалося наведаць палітыка[59]. Нявыключана, што між імі нашмат часцей практыкавалася тэлефонная сувязь. Але ў гэтым прымушаюць сумнявацца вышэйпрыведзеныя ўспаміны І. Шамякіна пра сустрэчу яго з П. Панамарэнкам у 1953 г., паводле якіх, апошні ўжо тады нават не памятаў сапраўднага імя адзінага на той час беларускага народнага паэта.

У любым выпадку інтэнсіўнасць стасункаў Якуба Коласа і П. Панамарэнкі, які пераехаў у Маскву, пайшла на спад. Абодва былі людзьмі вельмі занятымі, і адсутнасць практычнага значэння рабіла кантакты радзейшымі.

Такім чынам, знаёмства вялікага беларускага паэта і першага палітыка БССР доўжылася амаль 20 гадоў. Напачатку яно было далёка не бясхмарным: над жыццём генія беларускага слова навісла пагроза, якая да таго ж зыходзіла з боку П. Панамарэнкі, які ў 1938 г. стаў кіраўніком Савецкай Беларусі. Палітык усё ж імкнуўся заваяваць сімпатыі ў беларускіх пісьменнікаў і народа ўвогуле (што зрэшты яму і ўдалося) і падтрымліваў іх – шляхам распаўсюджвання легенды пра сябе выратавальніка – як мага даўжэй, расказваючы яе многім пісьменнікам, стаўшы нават сябрам для многіх мастакоў слова, перадусім народнага паэта Якуба Коласа, з якім цёплыя стасункі падтрымліваліся нават пасля таго, як палітык пакінуў працу на Беларусі, хоць яны і парадзелі. У іх шчырасці з боку П. Панамарэнкі ёсць сумненні, чаго не скажаш, калі меркаваць асабліва па пасляваенных узаемінах паэта і палітыка, пра класіка нашай літаратуры. Пясняр, несумненна, добра памятаў нядаўняга кіраўніка БССР да самага свайго зыходу ў 1956 годзе захаваўшы датычна яго, нягледзячы на экзістэнцыйную складанасць часу, шчырыя сяброўскія пачуцці. У гэтым самым бачыцца праяўленне высокага, не раўнуючы біблейскага гуманізму пісьменніцкага і чалавечага генія зямлі беларускай.

---

1 http://www.clow.ru/a-history/64.htm

2 Платонаў Р. Улада і творцы // Беларусь, 1998, №7. С. 36-38; Платонаў Р. Як Купала і Колас сталі "ворагамі народа" // Беларуская мінуўшчына, 1998, №1. С. 18-23; Лепешаў І. Калі верыць міфам сталінскага стаўленіка Панамарэнкі, то месца для праўды не застанецца // http://old.nv-online.info/index.php?c=ar&i=12934

3 Лепешаў І. Калі верыць міфам сталінскага стаўленіка Панамарэнкі, то месца для праўды не застанецца // http://old.nv-online.info/index.php?c=ar&i=12934

4 Письмо секретаря ЦК КП(б)Б П. К. Пономаренко И. В. Сталину о положении в Западной Белоруссии // «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...". Верасень 1939 г. – 1956 г.: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 1. Верасень 1939 г. – 1941 г. / склад.: У. І. Адамушка [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2009. – С. 19.

5 http://www.clow.ru/a-history/64.htm

6 Скаруліс С. "Лістападаўская справа" і Якуб Колас // Полымя, 1992, №11. С. 217-233.

7 Платонаў Р. Як Купала і Колас сталі "ворагамі народа" // Беларуская мінуўшчына, 1998, №1. С. 23.

8 Рублевская Л. О цензуре, спиритизме и любви // Беларусь сегодня, 2010, 7 мая. С. 9.

9 Міцкевіч М. К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск: Беларуская навука, 2009. С. 70.

10 Шамякін І. Панцяляймонава кіно // kamunikat.org/download.php?item=4245-46.pdf

11 Там жа.

12 Там жа.

13 Там жа.

14 Там жа.

15 Пономаренко П. К. События моей жизни // Неман, 2010, №3, С. 150-177; №4. С. 132-158.

16 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908-1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 203; Міцкевіч М. К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск: Беларуская навука,

2009. С. 77; Мушынскі М. І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 312.

[17] Мушынскі М. І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 385.

[18] Літаратурны музей Коласа, КП-7886.

[19] Скобла М. "Купала і Колас глядзелі ў корань" // http://www.svaboda.org/content/article/757696.html

[20] Міцкевіч М. К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск: Беларуская навука, 2009. С. 74.

[21] Успаміны пра Рыгора Шырму // http://www.belarus.kz/aktueller/aktueller_ articles/4/189

[22] Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908-1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 287-288.

[23] Мушынскі М. І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 376; Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908-1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 414.

[24] Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 412.

[25] Там жа. С. 250.

[26] Там жа. С. 299, 321.

[27] Там жа. С. 340, 341, 380.

[28] Там жа. С. 302.

[29] Там жа. С. 262-263.

[30] Літаратурны музей Коласа, КП-14146.

[31] Там жа, КП-14147.

[32] Мушынскі М. І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 343.

[33] Літаратурны музей Коласа, КП-14148.

[34] Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908-1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 281-282.

[35] Там жа. С. 313.

[36] Там жа. С. 351.

[37] Там жа. С. 410.

[38] Міцкевіч Д. Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа. Мінск: Полымя, 2000. С. 229.

[39] Мушынскі М. І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 369.

[40] Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908-1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 418.

[41] Там жа. С. 418.

[42] Мушынскі М. І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 385.

[43] Міцкевіч М. К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск: Беларуская навука, 2009. С. 102.

[44] Там жа. С. 74.

[45] Там жа. С. 74.

[46] Міцкевіч Д. Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа. Мінск: Полымя, 2000. С. 127-128.

[47] Аўрамчык М. Знаёмыя постаці: Нарысы: Для ст. шк. узросту / Мікола Аўрамчык; Маст. Т.Д. Царова. – Мн.: Маст. літ., 2004. – С. 42.

[48] Прыхач С. Панамарэнка ў атачэнні сучаснікаў // Літаратура і мастацтва, 2010, 11 чэрвеня. С. 14.

[49] Казыра К. Новыя дарчыя надпісы Якуба Коласа // Каласавіны. Якуб Колас і яго акружэнне: матэрыялы навук. канф., прысвеч. 50-й гадавіне смерці нар. Паэта Беларусі Якуба Коласа, 3 лістап. 2005 г., Мінск / склад. З. М. Камароўская, Г. І. Зайцава. – Мінск : Выд. Цэнтр БДУ, 2007. – С.102.

[50] Мушынскі М. І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 399.

[51] Там жа. С. 416.

[52] Там жа. С. 434.

[53] Пономаренко П. К. События моей жизни // Неман, 2010, №4. С. 138.

[54] Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908-1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 452-453.

[55] Гарэцкі Р. Гаўрыла Гарэцкі – прадстаўнік беларускай інтэлігенцыі 20-х гадоў // http://www.homoliber.org/ru/xx/xx010105.html

[56] Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908-1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 525-526.

[57] Там жа. С. 567.

[58] Літаратурны музей Коласа, КП-25757.

Алесь Гібок-Гібкоўскі



...пачатая улетку 1941-га ў Беларусі вайна скончылася не ў Берліне, у маі 1945-га перамогай СССР, а ўзімку 1991 – таксама ў Беларусі – ягонай паразай...

# Парадоксы геапалітыкі-2*

***Сёлета 22 чэрвеня споўнілася 70 гадоў з дня пачатку вайны паміж Германіей і СССР – або Вялікай Айчыннай – як называла яе з лёгкай рукі Іосіфа Сталіна савецкая гістарыяграфія. Вайны, якая адыграла ў лёсе беларускай нацыі надзвычай драматычную ролю...***

## Аблом

Вялікая Айчынная вайна была часткай адной з найболыш значных геапалітычных падзей гісторыі чалавецтва – другой сусветнай вайны, якая – пачалася крыху менш чым за два гады да гэтага ў верасні 1939-га нападам немцаў на Польшчу. Тады беларусы атрымалі нават нечаканы "бонус" – была вернутая заходняя частка тэрыторыі, страчанай па Рыжскай

* Мой матэрыял пра другую сусветную вайну пад назвай "Парадоксы геапалітыкі" быў надрукаваны 14 гадоў таму 19.09.1997 г. у газеце "ЛіМ", якой тады кіраваў Уладзімір Някляеў. Што цікава, замаўляў матэрыял тагачасны першы намеснік галоўнага рэдактара "ЛіМа" (цяперашні галоўны рэдактар "Дзеяслова") Барыс Пятровіч. Перачытаўшы нядаўна той свой лімаўскі матэрыял, зразумеў, што тэма патрабуе працягу. *(Заўвага аўт.)*

дамове 1921 года паміж бальшавіцкай Расіяй і Польшчай. Большасць беларусаў лічылі тады факт далучэння заходніх зямель справядлівым і шчыра радаваліся аб'яднанню Айчыны. Але адначасна нашыя землякі, па сведчанні старажылаў, адчувалі, што сур'ёзна запахла гарэлым, што непасрэднае суседства з немцамі смяротна небяспечнае.

Так яно і сталася. Людажэрка-вайна, як міфічны Малох, прагла для сябе ўсё большай і большай спажывы, і ўсё, што паўставала перад яе тварам, было асуджанае на згубу. 22 чэрвеня 1941 года немцы перайшлі мяжу СССР і Беларусі, то бок той Рубікон, які вёў іх да самых вялікіх у гісторыі тэрытарыяльных заваёваў і да самай вялікай нацыянальнай ганьбы.

Хаця падзеі сусветнай гісторыі маглі пайсці і зусім па іншым сцэнары. Амаль два гады перад гэтым дзве самыя магутныя на той момант ваенныя сілы Еўропы Германія і СССР вялі між сабой актыўны флірт, пачаты ў жніўні 1939-га, і ў іх яшчэ была рэальная магчымасць знайсці кампраміс. Сцверджанні многіх даследчыкаў другой сусветнай, што знайсці такі кампраміс было немагчыма, не зусім карэктныя. У палітычных элітах Германіі і СССР хапала людзей, якія цвяроза глядзелі на магчымы вынік сутыкнення двух ваенных гігантаў – узаемазнішчэнне! Зразумела, на карысць трэцяй сіле. Яны лабіравалі іншы варыянт развіцця падзей і ў жніўні 1939-га пасля складаных перамоваў дасягнулі-такі поспеху.

Пасля гэтага працягваліся настойлівыя спробы замацаваць той кампраміс. У лістападзе 1940 года (хоць у сейфе Гітлера ўжо ляжаў "план Барбароса", праўда, яшчэ не зацверджаны ім), быў адмыслова арганізаваны візіт Молатава ў Германію. Той візіт чамусьці называюць фармальным, маўляў, Молатаў ехаў у Берлін у шыкоўным урадавым экспрэсе са світай у 80 чалавек ледзь не на экскурсію і нічога ўжо не мог змяніць... Мог, бо ехаў у Берлін не з пустымі рукамі – Молатаў вёз новыя прапановы Сталіна, якія датычылі вайны Германіі на Захадзе, зонаў Балтыйскага і Чарнаморскага басейнаў і лёсаў Фінляндыі і Турцыі – на той час, па сутнасці, саюзнікаў рэйха. Мог, бо і Гітлер у сваю чаргу падрыхтаваў да візіту савецкага прэм'ера нешта накшталт другога пакту Молатава-Рыбентропа, дзе падзяляліся сферы ўплыву не толькі ва ўсходняй Еўропе, але і ў цэнтральнай Азіі.

Калі б Сталін і Гітлер знайшлі тады кампраміс, то цалкам развязвалі б сабе рукі. Гітлер змог бы спакойна давесці да ладу распачатую ім на той час аперацыю "Марскі леў", а Сталін, у сваю чаргу, змог бы, як дасюль ва Украіне, Беларусі, Прыбалтыцы і Бесарабіі, без вайны атрымаць жаданыя тэрытарыяльныя саступкі ад Фінляндыі, Турцыі, Ірана. Ды і надалей бакі маглі яшчэ не раз заключаць "пакты". Гісторыя ведае нямала прыкладаў, калі палітычным драпежнікам, якія аднойчы зладзілі між сабой саюз, удавалася дасягнуць і больш складаных мэтаў.

Гітлер і Сталін, паразумеўшыся, мелі рэальную магчымасць не пакінуць шанцаў англасаксам, цалкам выцесніўшы іх за акіян. І тады гісторыя чалавецтва магла пайсці па зусім іншым рэчышчы. Па вялікім рахунку абодвум драпежнікам на той момант хапала здабычы і па-за сферамі ўплыву свайго візаві. Але яны ўсё ж не змаглі дамовіцца, і з таго моманту вайна паміж Германіяй і СССР стала непазбежнай.

Сёння называюць шмат прычынаў такога трагічнага для абодвух бакоў "аблому". Адна з іх, што Гітлер на паўгода спазніўся са сваімі прапановамі, і расклад картаў, які ён прад'явіў Молатаву ў лістападзе 1940 года, быў ужо непрымальным для Сталіна. Пасля лёгкіх тэрытарыяльных набыткаў той быў на небывалым уздыме. Пакуль усё складвалася надзвычай удала і менавіта па ягоным геапалітычным сцэнары. Сталін быў перакананы, што і надалей зможа заграбаць вугольле чужымі рукамі. Забыў, што ў свеце ёсць значна больш вопытныя майстры такой справы...

Зрэшты, тагачасная сталінская эйфарыя – не дзіва... На той момант Іосіф Вісарыёнавіч – некаранаваны цар новай Расіі – стаў у гісторыі гэтай імперыі

адным з галоўных “збіральнікаў земляў”, практычна без вайсковых стратаў вярнуўшы яе амаль да межаў 1914-га года. Болей за тое, упершыню ў гісторыі Расіі ў яго з’яўляўся рэальны шанц рэалізаваць грандыёзныя патаемныя мары яе кіруючых эліт яшчэ з часоў Івана Жахлівага – стратэгічнае ўмацаванне пазіцый на Балтыцы і выхад на пралівы Басфор і Дарданелы з ператварэннем Чорнага і Каспійскага мораў ва ўнутраныя вадаёмы Расіі. Зразумела, з перспектываю выхаду да ўзбярэжжа Індыйскага акіяна...

Прычынай няўдачы лістападаўскага візіту Молатава лічыцца таксама адмова Гітлера “здаць” сваіх сяброў – Фінляндыю і Турцыю. Але наўрад ці справа тут у высакароднасці фюрэра. Інтарэсы “сяброў” мала хвалявалі амбітнага Адольфа Алаізавіча – яму, у сваю чаргу, здавалася, што ўсё ідзе якраз па ягоным плане, у выпадку поспеху якога Трэці рэйх чакаў неверагодны куш.

Зрэшты, усе вышэйзгаданыя моманты лёгка ўкладваюцца ў канфліктную парадыгму, што была дамінуючай у знешняй палітыцы як Германіі, так і СССР. Далейшы ход гісторыі толькі пацвердзіў гэта. І хоць існавала здаровая – выратавальная для абодвух бакоў – логіка кампрамісу, якую ім настойліва падказваў розум, але была яшчэ і сфера ўзаемадачыненняў, якая розумам не кіруецца апрыёры. Хто ж не ведае вядомую мудрасць пра тое, што два мядзведзі не ўжываюцца ў адной бярлозе...

## Смерць “Марскога ільва”

Вялікая вайна ў стратэгічным плане ўлетку 1941-га была больш выгаднай Сталіну. “Правадыр усіх працоўных” выдатна разумеў, які шанц у яго з’явіўся. Германія на заходнім накірунку баявыя дзеянні на той час не спыніла, таму, па яго меркаванні, у выпадку канфлікту з СССР Гітлеру давялося б ваяваць на два франты. Сталіну абсалютна відавочным падаваўся факт – тыя краіны, якія знаходзяцца ў стане вайны з Германіяй, аўтаматычна стануць саюзнікамі СССР. Логіка была жалезнай, але савецкі кіраўнік нават і ў дурным сне не мог тады ўявіць, што пасля пачатку яго вайны з Гітлерам да акрыцця другога фронту саюзнікамі пройдзе цэлых тры гады!..

Далёка не ўсё дакументы, якія датычаць 1941 года, сёння адкрытыя ў Расіі, але нават і тое, што вядома, безумоўна, сведчыць – Сталін сам збіраўся пачаць вайну супраць немцаў і іх саюзнікаў. Тэрмін – ліпень-жнівень 1941 года. Было відавочна, што да гэтага часу Гітлеру не паспець разабрацца з брытанцамі.

І насамрэч, Гітлер, паводле бісмаркаўскай устаноўкі, ніяк не хацеў пакідаць у сваім тыле хоць і параненага, але вельмі небяспечнага брытанскага ільва і пачынаць вайну на два франты. Ды і вельмі прадметнымі былі ўрокі першай сусветнай. У рыхтуемай аперацыі супраць Брытаніі былі задзейнічаныя велізарныя сродкі і сканцэнтраваны магутныя сілы. Па меркаванні ваенных гісторыкаў, пры тых імпэце, рэсурсах і маштабах рыхтуемай з боку немцаў атакі супрацьстаяць ёй шанцаў у англічанаў было не шмат. І ўсё ж фюрэр раптоўна спыніў ход аперацыі “Марскі леў”, якая была ў поўным разгары. Гэтае здавалася б дзіўнае рашэнне Гітлера – надзвычай папулярная тэма ў гістарыяграфіі. Расійскія гісторыкі, да прыкладу, у сваёй большасці традыцыйна сцвярджаюць, што Гітлер адклаў аперацыю “Марскі леў” таму, што раптам вырашыў спачатку разабрацца з “дахадзягаю” СССР, які прадэманстраваў сваю мізэрную баяздольнасць у вайне з Фінляндыяй.

Але ў “дахадзягі” была амаль 6-ці мільённая сухапутная армія, 23 тыс. танкаў (двайная перавага над немцамі!), 24 тыс. самалётаў (трайная перавага!), магутная артылерыя (перавага ў 2,5 разы). Брытанія на той час пра такія рэсурсы магла толькі марыць. Прызнаючы, што Сталін сам рыхтаваўся да атакі, тыя ж расійскія даследчыкі сцвярдждаюць, што бедны фюрэр і чуць не чуў пра такія планы візаві і пачаў сваю акцыю без усялякай сувязі з імі. І гэта гаворыцца пра адну з лепшых

ў свеце разведак, якая напярэдадні 22 чэрвеня ведала ў раёне заходняй граніцы СССР месцазнаходжанне практычна кожнай агнявой кропкі Чырвонай арміі!

І ўсё ж іншага выйсця ў Гітлера проста не было... Калі аперацыя "Марскі леў" ужо ўваходзіла ў апошнюю фазу, ён атрымаў бясспрэчныя доказы таго, што Сталін, парушаючы пакт Молатава-Рыбентропа, канцэнтруе ля заходняй мяжы СССР стратэгічныя наступальныя сілы. І для Гітлера пачаўся зусім іншы адлік часу...

## Выбух

Пра тое, хто насамрэч першым планаваў напасці ўлетку 41-га, сёння напісана шмат даследванняў і папулярных бестселераў. Па вялікім рахунку цяпер гэта няважна. Зразумела адно – дзве велізарныя ваенныя машыны, пачаўшы ліхаманкава разварочваць свае стратэгічныя сілы, "затармазіць" ужо проста не маглі. Атмасфера накалялася і ўсялякая, нават самая нязначная іскрынка магла ў любы момант падпаліць гіганцкі бензінава-порахавы пограб.

Тут, як і ў паядынку звышцяжкіх баксёраў, вялізнае значэнне мела тое, хто паспее нанесці ўдар першым. Больш спрытны атрымліваў шанц вырвацца на аператыўную прастору... Дагэтуль у Еўропе немцы перамагалі менавіта такім чынам. Менавіта такую раскладку падзей прагназаваў план "Барбароса" і вынікі апошніх передваенных штабных вучэнняў Чырвонай арміі. Праблема была толькі ў тым, хто каго апярэдзіць. Такія разлікі былі і ў Гальдэра, і ў Жукава – кіраўнікоў Генштабаў дзвюх краін.

Гісторыя дала нам адказ на гэта – апярэдзіла Германія, ударыўшы СССР проста пад "дых"! Месца "пад дыхам" у СССР аказалася акурат у нашай Беларусі. Тут Чырвоная армія мела хоць і вялікія, але ўсё ж "успамагальныя" групоўкі, бо сама яна прымервалася неўзабаве ўдарыць (і ўжо нават шырока замахнулася асноўным сваім "кулаком") паўднёвей – у раёне Кракава, і немцы злавілі яе акурат на замаху...

Перамалоўшы першы рубеж стратэгічнай абароны Чырвонай арміі, немцы хоць і сутыкнуліся на другім і трэцім з жорсткім супраціўленнем, але па вялікім рахунку амаль што ўкладваліся ў "нарматывы" бліцкрыгу. І гэты факт проста акрыліў Гітлера, тым больш што аперацыя на ўсходзе адразу стала прыносіць неверагодныя дывідэнты. За нейкія два месяцы былі захоплены вялізныя тэрыторыі, большыя памерамі за рэйх, узятыя ў палон некалькі мільёнаў чырвонаармейцаў і нечуваныя ў гісторыі трафеі. Можна ўявіць сабе, з якой асалодай перастаўлялі ў тыя чэрвеньскія дні 1941-га сцяжкі на картах нашчадкі Фрыдрыха Вялікага, рэалізоўваючы спаконвечную мару тэўтонаў – праглынуць багатую ўсходнюю "жыццёвую прастору"! Кажучы сучасным слэнгам, перад вачыма адкрывалася неверагодная "халява"! Было ад чаго страціць галаву!

І страцілі! Лёгкія перамогі прымусілі вокамгненна забыць пра апрыоры авантурны і вымушаны характар усёй усходняй кампаніі. Падмяўшы Прыбалтыку, Беларусь, частку Украіны, немцы працягвалі ірвацца на ўсход без усялякіх тармазоў. І тут для Гітлера ізноў настаў момант ісціны. Можна было ісці далей, рызыкуючы галавой, а можна было спыніцца і пайсці з агаломшаным праціўнікам на перамовы. Тым больш, што і сам Сталін, адчуваючы блізкую катастрофу, ліхаманкава шукаў дыпламатычныя каналы для перамоваў, да прыкладу, праз саюзніцу немцаў – Балгарыю. Аднак Гітлер спыніцца не змог: немцы ўжо разглядвалі Маскву ў біноклі... Здавалася, яшчэ крыху намаганняў і...

І як вынік, да зімы 1941 года, калі працягнуць аналогію паядынку Германіі і СССР 1941 года з паядынкам баксёраў, абодва бакі ўжо нагадвалі двух смяротна стомленых байцоў, якія здавалася, не маюць ніякіх сілаў нанесці рашаючы ўдар, і віснуць адзін на даным, чакаючы або выпадковага моманту для нанясення такога удару, або пакуль сапернік вычхнецца зусім... Але да канчатковага "гонгу" было

яшчэ амаль чатыры даўжэзныя раўнды-гады. Наперадзе СССР чакалі страшныя ўдары немцаў. Пасля кожнага з іх краіна небяспечна хісталася, але ўсё ж выстойвала. Малавядомы факт, што пад тым жа Курскам удар немцаў быў такім моцным, што здавалася, у вялізнага карабля чырвоных, як і праз 60 гадоў у вядомай падлодкі "Курск", утварылася смяротная прабоіна. Адзін Бог ведае, якой цаной затыкалі тую "прабоіну" савецкія стратэгі. Страты ў "пераможцаў" Курскай бітвы былі ў некалькі разоў большыя, чым у "пераможаных". І каб толькі ў ёй!..

А самыя страшныя страты, як сцвярджаюць гісторыкі, Чырвоная армія панесла ў "невядомай" бітве пад Вязьмай. Давялося чытаць успамін аднаго ветэрана вермахта – удзельніка тае бітвы. Ён і праз дзесяцігоддзі ніяк не мог уцяміць, навошта "рускія" бесперапынна некалькі сутак запар ішлі на іхнія кулямёты ў лабавую, губляючы тысячы і тысячы (!) байцоў, калі немцаў лёгка можна было абыйсці збоку! Потым тыя самыя "стратэгі", якія пасылалі чырвонармейцаў на кулямёты падчас бойні пад Вязьмай, атрымалі маршальскія і геройскія зоркі, і ўвекавечаныя ў бронзе, як самыя вялікія пераможцы! Іх жа, кажуць, не судзяць!

І ўсё ж пасля Курска пачаўся імклівы заход зоркі Адольфа Гітлера. Немцаў паступова заганялі ў кут, адкуль яны ўжо так і не здолелі выйсці...

## Закладнікі гісторыі

У грандыёзных стратэгічных планах бакоў, якія распрацоўваліся перад вайной, было ўлічана, здавалася б, усё – і колькасць жывой сілы і тэхнікі, і накірункі удараў... Але зусім не былі ўлічаныя лёсы дзясяткаў мільёнаў простых людзей, у тым ліку і нашых землякоў, што апынуліся на шляху навалы. Зрэшты, гэта для палітычных і ваенных стратэгаў было зусім нецікава – тыя лёсы на велізарнай шахматнай дошцы вайны былі для іх неабходным фонам, "статыстычнымі пагрэшнасцямі"...

Зусім іншыя адчуванні былі ў саміх гэтых "статыстычных пагрэшнасцяў" – мільёнаў нашых бабуль і дзядуляў, якія 22 чэрвеня 1941 года апынуліся ў абсалютна іншым жыццёвым вымярэнні. Прычым імклівы ход вайны быў для большасці беларусаў шокам – тое, што "магутная Чырвоная армія" будзе так хутка выцесненая з Беларусі, і немцы атрымаюць яе на доўгія тры гады на разарванне, магло прысніцца толькі ў кепскім сне!..

У бязлітаснай мясарубцы вайны апынулася і ўся мая беларуская і ўкраінская (з боку маці) радня. Няшмат хто з іх выйшаў з яе жывым. Лёсы многіх іх – зніклых у віхурах вайны невядомыя і пасюль.

Бацька мой – Сямён Фёдаравіч – у лёсападзельным чэрвені 1941-га быў камандзірам мотапехотнага ўзвода Чырвонай арміі. За некалькі тыдняў да пачатку вайны камандаванне ягонай часткі атрымала аператыўныя карты нямецкіх тэрыторый і руска-нямецкія размоўнікі, а чырвонаармейцаў пачыналі пераабуваць з абмоткаў ў добрыя ялавыя боты. Хадзілі размовы, што чакаюцца "вельмі важныя падзеі". Зразумела, што не 22 чэрвеня...

Ваеннае злучэнне, дзе служыў бацька, было схоплена немцамі пад Міжэрычамі на Гродзеншчыне ў магутныя "клешчы" і літаральна раздушанае. Мала каму пашчасціла ацалець у тым пекле. Той, хто застаўся жывым, трапіў у палон, у іх ліку быў і мой бацька. Цудам яму ўдалося ўцячы і затым тры гады да прыходу Чырвонай арміі ваяваць у партызанскім атрадзе. Потым ізноў акопы, узяцце Кёнігсбергу, дзе быў цяжка паранены...

Бацька не раз згадваў пра неверагодную жорсткасць "партызанкі": як беларусы ваявалі між сабой. Немцы ўмелі ўсталёўваць "новы парадак" чужымі рукамі. Мяркуючы па ўсім, балючая для нас тэма "партызанкі" сёння ўсебакова і аб'ектыўна яшчэ не даследаваная. Але якія б ні былі вынікі тых даследванняў, адзін факт сёння відавочны – пры ўсёй складанасці і трагічнасці стасункаў з бальшавікамі,

якія за два дзесяцігоддзі панавання практычна абяскровілі і абезгаловілі нацыю, большасць нашых землякоў падчас вайны ўсё ж выступілі на іх баку "саветаў". Відаць, нашыя дзяды і бабулі, калі і мелі нейкія ілюзіі да прыходу немцаў, дык хутка ўразумелі "цывілізацыйны дысбаланс" з носьбітамі "новага парадку", і той рэальны імператыў, які неслі на сваіх сцягах "юберменшы". А ён нічога, апроч хуткага знішчэння, большасці беларусаў не абяцаў...

## У палоне ілюзій

Вайна на Ўсходзе для немцаў у выніку аказалася зусім іншай чым на Захадзе. Проста несувымернымі, параўнальна з Еўрапейскай кампаніяй, былі маштабы. Несувымернымі ў выніку аказаліся і страты – людскія і матэрыяльныя. А самае галоўнае, адразу выявілася зусім іншая філасофія выйны, чым на Захадзе. Там немцы былі ў звыклым для сябе асяродку, ва ўмовах ледзь не камфортных: іх сустракала звыклая цывілізацыя, дзе ўсё можна было пралічыць да дробязяў. Сеўшы на танкі ў Берліне ці Мюнхене, яны так і ўехалі, амаль не злазячы з іх, у Брусель ці ў Парыж.

У Еўропе ўсходняй лоб у лоб давялося сутыкнуцца не толькі са значна большай баявой сілай праціўніка, але і з зусім іншай духоўнай цывілізацыяй, дзе панавалі абсалютна незнаёмыя "правілы гульні". Зразумець іх немцам часта было проста немагчыма, бо гэта была іншая матрыца культуры. Яна стварыла процьму лабірынтаў, з якіх педантычныя "юберменшы" спрабавалі шукаць лагічныя выхады і... не знаходзілі! Гэта быў іншы свет, які не ўкладваўся ні ў план "Барбароса", ні ў дасканалыя аператыўныя распрацоўкі, ні ў скрупулёзныя даследванні нямецкіх вучоных-антраполагаў аб непаўнавартасных абарыгенах. Горшы ён быў ці лепшы, гэта ўжо не мела значэння. Ён быў проста іншы, а значыць, чужародны і літаральна выштурхоўваў акупантаў. З гэтым немцам давялося сутыкнуцца ўжо з першых дзён вайны. Як калісьці Напалеону... Ды хто ж калі вучыўся на чужых памылках!

Занадна вялікім, а ўрэшце проста непад'ёмным, урэшце аказаўся і сам спакусны заваяваны "кавалак". Дарэчы, тое, што тэўтоны са сваёй невымернай гістарычнай пыхай мусяць урэшце "падавіцца", было ў Германіі многім зразумела нават у эйфарыйныя дні 1941 года. Але хто тады пра гэта гаварыў услых! Болей за тое, пасля лёгкіх перамог першых месяцаў, нават у такіх – цвярозых – немцаў з'явілася спакуслівая думка: а раптам пранясе і насмрэч удасца Гітлеру праглынуць гэтую дзікую Расію! Маўляў, вар'ятам часта шанцуе!

Такія настроі ў Германіі былі, можна сказаць, масавымі. Яшчэ б! У выпадку перамогі адкрывалася проста неверагодная перспектыва – пры мяркуемым каласальным маштабе здабычы задаволеныя былі б, безумоўна, практычна ўсе без выключэння насельнікі рэйху! О як жа давялося горка расплочвацца народу Германіі за тыя ілюзіі 41-га праз чатыры гады!

## Саюзнікі

Ніяк не абыйсці і тэму згаданай трэцяй сілы – так званых "саюзнікаў". Яна асабліва актуальная ў апошнія дзесяцігоддзі, калі геапалітычны пасьянс набыў даволі пэўную канфігурацыю, у якой, дарэчы, сённяшняя Беларусь пачувае сябе, мякка кажучы, не зусім утульна.

Трэцяя сіла – англасаксонскі блок – бліскуча скарысталася няздольнасцю Гітлера і Сталіна дамовіцца, здолеўшы ў сваю чаргу, нягледзячы на вялізныя супярэчнасці, усё ж знайсці лад паміж сабой. З гэтага моманту ЗША брала на сябе адказнасць за вайну Велікабрытаніі з Германіяй, а "Уладычыца мораў" назаўсёды губляла права быць вялікай дзяржавай. Але яе лідэры, якія пайшлі на тыя да-

мовы і ў выніку ўратавалі жыцці мільёнаў сваіх грамадзянаў, таму такая ахвяра ў гістарычным кантэксце аказалася цалкам апраўданай... Ужо ў чэрвені 1941-га года, пасля нападу немцаў на СССР, калі англасаксы парушылі планы Сталіна, упэўненага, што яны рынуцца на немцаў праз Ла-Манш, стала зразумелым, што сцэнарысты гэтай вайны жывуць не ў Берліне і не ў Маскве. Што ж, магчыма, саюзнікі і кінуліся б (каб па законах джунгляў дабіць слабейшага!), калі б танкавыя арміі Сталіна праз тыдзень – як і планавалася ў савецкім Генштабе – стаялі пад Берлінам. Але дзе яны былі праз тыдзень? У рэальным раскладзе падзей, якія складваліся тады на Ўсходзе, спяшацца на дапамогу СССР было для заходніх саюзнікаў проста абсурдна. Асабліва калі да зімы 1941 года стала зразумелым, што план "Барбароса" праваліўся. Сітуацыя, якая стратэгічна склалася на той момант, сведчыла, што вайна паміж Германіяй і СССР будзе працяглай – занадта гіганцкія ўцягнутыя ў яе сілы і рэсурсы.

Дарэчы, пра рэсурсы. Тыя ж пастаўкі па ленд-лізу ў СССР былі, безумоўна, каласальнымі, але... У бяздонным жэрле вайны яны згаралі вокамгненна – занадта вялікай была ў ім тэмпература. Да таго ж яны жорстка рэгуляваліся ў залежнасці ад кан'юнктуры на савецка-германскім фронце. Дзіўнымі былі падчас вайны і многія ваенныя рашэнні саюзнікаў. Да прыкладу, гісторыя з нафтавымі промысламі Румыніі – адзінай сыравіннай крыніцай фашысцкай Германіі. Саюзнікі мелі рэальную магчымасць іх знішчыць яшчэ ў 1941 годзе і чатыры гады пастаянна бамбілі! Але гэта ім не ўдалося ажно да ўступлення ў Румынію савецкіх войск...

Яшчэ прыклад. Усю вайну амаль бесперабойна караблі пад рознымі сцягамі дастаўлялі ў Германію з нейтральных краінаў неабходныя металы і іншую сыравіну. Быццам бы нейкі нябачны лоцман пракладваў для тых караблёў бяспечныя маршруты. І калі іх нехта і пускаў на дно, то памылкова!

Зрэшты, нічога дзіўнага тут не было. Англасаксы ўжо даўно расклалі свой уласны пасьянс с пралікам на дзесяцігоддзі наперад і былі аб'ектыўна зацікаўленыя любым коштам і як мага надаўжэй захаваць адносны баланс сілаў на ўсходнім фронце. Менавіта таму і не выступілі 3 верасня 1939 года Англія і тады яшчэ пыхлівая Францыя супраць Гітлера, даючы яму магчымасць зрабіць "жывы калідор" да ўсходніх межаў СССР... У цяжкай сітуацыі, якая склалася пасля гэтага для іх саміх, англасаксы (у які ўжо раз у гісторыі!) выявілі свой абсалютны палітычны слых, бліскуча, амаль ювелірна, сыграўшы ў 1941-м на не самых радыкальных супярэчнасцях сваіх візаві і майстэрскі сутыкнуўшы іх ілбамі! Дык ці маглі яны быць зацікаўленымі адначасова са Сталіным атакаваць Германію ў чэрвені 41-га?

А драматычная для СССР трохгадовая зацяжка з другім фронтам каштавала яму не аднаго мільёна чалавечых жыццяў... (Высадка ў Італіі ўлетку 1943 года выпадала з галоўнага геапалітычнага плана саюзнікаў, таму доўга не мела стратэгічнага развіцця). Што ж, варта прызнаць, што разлікі заходніх саюзнікаў СССР былі практычна бездакорнымі. Яны яшчэ раз прадэманстравалі свету свой велізарны гістарычны геапалітычны досвед – не толькі здольнасць цягаць каштаны з агню чужымі рукамі, але і "падзяляць і ўладарыць!"

## Эпілог

У гісторыі быў чорны для нас дзень 22 чэрвеня 1941-га, але і быў дзень 9 мая 45-га – дзень Вялікай Перамогі. Яна і насамрэч была Вялікай тая Перамога, бо 30 мільёнаў грамадзянаў СССР, у тым ліку і нашых землякоў, бязлітасна кінутых на яе алтар, заслугоўваюць самай вялікай павагі і вечнай памяці. Гэта была і іхняя перамога...

Але перамога мела для пераможцаў розныя наступствы. Як ні сумна

прызнаць, але для СССР яна стала па сутнасці піравай. Страшэнныя страты смяротна падарвалі сілы геапалітычнага калоса, і гэта, у ліку іншых абставінаў, таксама было прычынай яго развалу напачатку 90-х гадоў XX стагоддзя.

Многія гісторыкі сёння пішуць, што і пераможаная ў другой сусветнай Германія і пераможца – СССР, у выніку абое яе прайгралі – адна раней, другі пазней. Што да Германіі, то яна здолела пасля страшнае паразы не толькі “выздаравець” і вярнуць частку былой сваёй тэрыторыі, але ізноў стаць адной з самых моцных дзяржаваў свету, маючы сёння выдатныя геапалітычныя перспектывы.

Для Беларусі вынікі Вялікай Айчыннай былі яшчэ больш трагічнымі, чым для СССР. Нашыя наўпроставыя ваенныя страты аказаліся прапарцыйна значна вышэйшымі, чым любой іншай дзяржавы свету, што ўдзельнічала ў другой сусветнай: каля трацiны (!) насельніцтва, больш за палову нацыянальнага багацця... І калі да гэтага дадаць даваенныя страты ад бальшавікоў, то для Беларусі яны, па сутнасці, сталіся неўзнаўляльнымі...

Выраз, што на Беларусі ад вайны пацярпела кожная сям’я, які ўжо даўно стаў прапагандысцкім штампам, на жаль, абсалютна слушны. Так яно і было. Моцна пацярпеў і мой род. Так і не ачуняў да канца сваіх дзён мой родны бацька – віхуры вайны моцна пакалечылі не толькі ягонае здароўе, але і жорстка паламалі лёс. Я заўсёды думаю пра тое, што ён, са сваёй любоўю да беларускага, са сваім фенаменальным дарам апавядальніка і выдатнай памяццю – ведаў на памяць многія дзясяткі вершаў і апаведаў на беларускай мове – мог стаць добрым пісьменнікам. Прынамсі, менавіта ён у дзяцінстве шчодра адчыніў мне дзверы ў беларушчыну, якая стала маім лёсам...

Бясследна зніклі на фронце ў першыя ж дні вайны два мае родныя дзядзькі. Ніякіх слядоў не засталося і ад шмат якой іншай радні, як беларускай так і ўкраінскай. Ім – незнаёмым мне дарагім маім сваякам – так і не пашчасціла пабудаваць сабе дамы, нарадзіць дзетак!

Відавочна, што дзень 22 чэрвеня 1941 года стаў для беларусаў адным з самых трагічных у гісторыі, бо менавіта ён запусціў страшны механізм вынішчэння апошніх рэштак генетычна перспектыўнага матэрыялу для будучага яе росквіту. Але ў гісторыі ўсё пабудавана на парадоксах – разам з тым менавіта ў той дзень быў запушчаны няўхільны гістарычны таймер адліку дзён і да вельмі важнага ў нашай гісторыі моманту. Хутчэй за ўсё, менавіта 22 чэрвеня 1941-га пачыналася новая гістарычная эпоха, якая завершылася праз 50 гадоў вяртаннем уласнай дзяржаўнасці, страчанай здавалася б беззваротна калькі соцен гадоў таму.

Хто ведае, можа і меў рацыю адзін з расійскіх гісторыкаў, які пісаў, што пачатая улетку 1941 у Беларусі вайна скончылася не ў Берліне, у маі 1945-га перамогай СССР, а ўзімку 1991 – таксама ў Беларусі – ягонай паразай.

Зрэшты, можа яна яшчэ для нас і не скончылася? Як для таго беларускага партызана з вядомага анекдота, што 20 гадоў дарэмна пускаў пад адкос цягнікі? Але – гэта тэма для асобнай размовы...

Іван Лепешаў



...калі ў 1990 годзе Украіна стала суверэннай, незалежнай дзяржавай, яе кіраўніцтва і сродкі масавай інфармацыі рашуча адмовіліся ад навязанай ім канструкцыі «на Украіне»...

# *У Беларусі* ці *на Беларусі...*

## *альбо Як пісаць, каб пісаць правільна*

Напачатку – некалькі слоў пра агульнавядомае. Адпаведна з вымаўленнем, у нашай мове замест прыназоўніка «у» перад словамі, якія пачынаюцца з «у», ужываецца прыназоўнік «ва». Кажам і пішам: *ва ўсіх, ва ўзросце, ва ўніверсітэт.* Або: *вярнуўся ў Беларусь, жыве ў Беларусі і паехаў ва Украіну, працуе ва Украіне.*

У «Народнай газеце» ўжо шмат гадоў ёсць рубрыка «Пішам па-беларуску». Яна заўсёды пачынаецца аднатыпна: «Урокі для чытачоў «НГ» вядзе загадчык кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, прафесар, доктар філалагічных навук Віктар Іўчанкаў». 29 жніўня 2009 года ў рубрыцы даецца адказ на пытанне чытача з Брэста: «Як правільна пісаць: на Украіне, ва Ўкраіне ці ў Украіне?» Паўторым гэты адказ, бо ён напісаны з неаспрэчнай самаўпэўненасцю і (хай прабачыць аўтар) з лёгкасцю ў думках надзвычайнай: «Арфаграфічна карэктна: *на Украіне.* Ёсць меркаванне, што прыназоўнік *на* пры гэтай назве ў рускай традыцыі ўзнік пад уплывам украінскай мовы. Пасля распаду Савецкага

Саюза ў склонава-прыназоўнікавай форме на Украіне была ўгледжана этымалагічная сувязь з рускай формай *на окраине*, якая быццам не давала лінгвістычнага абгрунтавання суверэннасці дзяржавы, бо па рускай традыцыі назвы дзяржаў афармляюцца пры дапамозе прыназоўнікаў *в (во)* і *из: в Англию, из Англии.* У роднай мове прыназоўнік на ў прасторава-лакальным значэнні больш ужывальны, чым у рускай: *на Беларусі*».

Амаль слова ў слова гэты ж адказ, сярод адказаў на іншыя пытанні, быў паўтораны аўтарам у «Народнай газеце» 20 лютага 2010 года. Ёсць толькі дапаўненне (істотнае для нашага артыкула): «Перавагу варта аддаць варыянту *на Украіне*».

У працытаваным адказе ледзь не ўсё – навукова негрунтоўнае. Па-першае, «Арфаграфічна карэктна: *на Украіне*». – Калі хто-небудзь скажа або напіша *ва Украіне*, а не так, як, паводле В. Іўчанкава, трэба (*на Украіне*), то такое выкарыстанне не мае ніякага дачынення да арфаграфіі. Тут арфаграфіяй і не пахне, бо і студэнты ведаюць, што тут не арфаграфічныя нормы, а сінтаксічныя, г. зн. правілы ўтварэння са слоў больш буйных адзінак маўлення – спалучэнняў і сказаў. Па-другое, сцвярджаецца, што ў беларускай мове «прыназоўнік *на* ў прасторава-лакальным значэнні больш ужывальны, чым у рускай». Але гэта няпраўда: калі звярнуцца да акадэмічных тлумачальных слоўнікаў беларускай і рускай моў, то выразна відаць, што ў абедзвюх мовах прыназоўнік *на* функцыянальна нагружаны ў аднолькавай меры. Іншыя недакладнасці ў працытаваным адказе будуць закранацца крыху ніжэй.

Пытанне пра тое, як казаць і пісаць: *у Беларусі* ці *на Беларусі, ва Украіне* ці *на Украіне*, узнікала ў друку ўжо неаднойчы. Так, у часопісе «Роднае слова» (1999. № 10. С. 92-94) робіцца спроба даказаць, што «словазлучэнне *на Беларусі* – натуральная, заканамерная адмысловая сінтаксічная канструкцыя ў беларускай мове», што яе шырока выкарыстоўвае сучасны нацыянальны друк і што ўжыванне *ў Беларусі* замест *на Беларусі* – гэта «механічнае перанясенне з рускай мовы канструкцый з прыназоўнікам *в*».

Праблема функцыянавання шматлікіх прыназоўнікава-склонавых канструкцый з прасторавым значэннем дэталёва і на вялікім фактычным матэрыяле даследавана прафесарам М.С. Яўневічам у яго вядомай манаграфіі «Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове» (1977). Ёсць у гэтай кнізе і апісанне спалучэнняў *у Беларусі* і *на Беларусі.* Яны кваліфікуюцца як сінанімічныя, узаемазамяняльныя. «Сэнсавыя адрозненні паміж імі настолькі нязначныя, што пры выбары канструкцый з *у* ці *на* яны амаль не ўлічваюцца. Аднак пры выкарыстанні гэтых спалучэнняў варта мець на ўвазе, што прыназоўнікава-склонавая форма *на Беларусі* паводле значэння блізкая да спалучэння *на тэрыторыі Беларусі*, а *ў Беларусі* – да спалучэння *ў Беларускай рэспубліцы*».

Немажліва, аднак, уявіць, каб такая сінаніміка і ўзаемазамяняльнасць скарыстоўвалася ў дачыненні да якіх-небудзь іншых краін. Ніхто не скажа: «Гэта здарылася на Кітаі» (замест «у Кітаі»), «Ездзіў на Польшчу» (замест «у Польшчу»). Амаль ва ўсіх мовах славянскай моўнай групы ў такіх выпадках ужываецца прыназоўнік «в» (у беларускай – «у»).

Калі размова ідзе пра якую-небудзь тэрыторыю або назву горада, вёскі, раёна, вобласці, дзяржавы, то прыназоўнік «у» (у іншых мовах – «в», «w», «in» і г.д.) з месным склонам назоўніка паказвае знаходжанне ўнутры гэтай мясцовасці, якая з'яўляецца ў такім разе строга абмежаванай прасторай: *у Індыі, у Японіі, у Грузіі, у Германіі, у Турцыі, у Злучаных Штатах Амерыкі* і інш. Такім чынам, «*у Беларусі*» – гэта і ўнутры рэспублікі, і на яе тэрыторыі. У абодвух выпадках маецца на ўвазе тэрытарыяльна абмежаваная прастора.

Калі ж мы гаворым пра мясцовасць без рэзка абведзеных межаў (скажам, з назвамі гор, астравоў, рэк), то ўжываецца прыназоўнік «на»: *на Каўказе, на Кубе, на Кубані, на Палессі.* Захавалася таксама традыцыйнае ўжыванне прыназоўніка

«на» з некаторымі назвамі мясцовасцей былога Вялікага Княства Літоўскага: *на Магілёўшчыне, на Палтаўшчыне, на Чарнігаўшчыне, на Гродзеншчыне, на Смаленшчыне* (супаставім наўрад ці магчымыя спалучэнні: *на Маскоўшчыне, на Саратаўшчыне, на Кракаўшчыне*).

У Статуце ВКЛ, Літоўскай метрыцы і іншых пісьмовых крыніцах нашай дзяржавы мінулых эпох прыназоўнікава-склонавыя канструкцыі са значэннем «унутры чаго-небудзь» фіксуюцца толькі з прыназоўнікам «*в*». І ў другой палове XIX стагоддзя ні ў творах першых беларускіх пісьменнікаў В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, ні ў працах фалькларыстаў і этнографаў (П. Шэйна, Е. Раманава, Я. Ляцкага, І. Насовіча) – нідзе не сустракаецца спалучэнне «на Беларусі» ці «на Белоруссии». Пасля рэвалюцыі 1905 года пачалі легальна выдавацца беларускія газеты, сталі друкавацца Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Цётка і іншыя. Тут ужо (напрыклад, на старонках «Нашай нівы») знаходзім абодва спалучэнні: часцей за ўсё «ў Беларусі», а зрэдку і «на Беларусі».

Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што прыназоўнікава-склонавае спалучэнне «на Беларусі» з'явілася не ў жывым народным маўленні, а кніжным шляхам – пад уплывам рускіх і ўкраінскіх кніг, газет, фільмаў, радыё. Самі ўкраінцы ў дасавецкія часы не гаварылі, што яны жывуць «на Украіне». Ужывалі толькі «в Україні». І Тарас Шаўчэнка ў 1847 г. пісаў: «Мені однаково, чи буду я жить в Укрaпні, чи ні». Або: «Сю ніч будуть в Україні родиться близнята. Один буде, як той Гонта, катів катувати!» Спалучэнне «на Украіне» ўпершыню ўзнікла ў Расіі і не «пад уплывам украінскай мовы» (як пісаў у памянёным вышэй адказе В. Іўчанкаў), а, як цяпер кажуць, з дакладнасцю да наадварот

Справа ў тым, што «прыназоўнік *на* ў прасторава-лакальным значэнні» (В.Іўчанкаў) «унутры чаго-небудзь» не ўласцівы ўкраінскай і беларускай мовам, але характэрны для рускай мовы, здаўна ўжываўся ў яе помніках. Так, у сярэдневяковай рускай «Задонщине» (яе самы ранні спісак адносіцца да 1470-х гадоў) чытаем: «На Москвѣ кони ржут, трубы трубят на Коломнѣ». Канструкцыі накшталт «на Маскве» былі тыповымі да сярэдзіны XVIII ст.; пісалі ў літаратурных і афіцыйных тэкстах, да прыкладу, так: *на Вологде, на Воронеже, на Костроме, на Устюге.* У часопісе «Русская речь» (1972. № 5. С. 66-70) прыводзяцца дзясяткі такіх ужыванняў. Сустракаюцца яны і ў XIX ст. Напрыклад, у трагедыі А.С. Пушкіна «Борис Годунов»: «Буду царем на Москве!», у рамане «Евгений Онегин»: «Красавиц много на Москве». Або ў п'есе А.К. Талстога «Смерть Иоана Грозного»: «Царь вернулся на Москву». Ці ў вядомым слоўніку У. Даля: «Была бы догадка, а на Москве денег кладка». Прыгадаем таксама назву паэмы М. Някрасава «Кому на Руси жить хорошо». Відаць, пад уплывам Някрасава выкарыстаў гэтую ж канструкцыю ўжо ў XX ст. А. Твардоўскі: «До войны едва в помине был ты, Теркин, на Руси. Теркин? Кто такой? А ныне Теркин – кто такой? – спроси».

Калі ж у 1654 годзе Украіна стала часткай Расійскай імперыі, слова «Украіна» пачалі (з шавіністычных пазіцый) атаясамліваць з «окраиной». Па аналогіі з «на окраине» стала ўжывацца «на Укра́ине (Укра́йне)» – з пераносам націску з трэцяга складу на другі. Так, у паэме Пушкіна «Полтава» дзевяць разоў выкарыстана «Украйна» ў розных склонавых формах: «Украйна глухо волновалась», «И перенес войну в Украйну", "Но независимой державой Украйне быть уже пора» і г.д. Параўнаем і ў аповесці Гогаля «Тарас Бульба»: «Началась разыгрываться схватка на Украйне за унию». Дарэчы, у іншых творах Гогаля знаходзім аналагічныя спалучэнні ўжо не з «на», а з «в»: «Порядку нет в Украйне», «... раскошен летний день в Малороссии», «... в Малороссии обыкновенно называют...»

З пісьмовых помнікаў вядома, што першае ўпамінанне слова «Украіна» як найменне наддняпроўскай часткі Русі (Кіеўскай) адносіцца да 1187 года, а другое (1189 год) – у дачыненні да Галіцкага княства. Хоць гэта было задоўга да першага ўпамінку пра Маскоўскае княства (там яшчэ ваўкі вылі), але на гэта Расія XVII-XX стагоддзяў не звяртала ніякай увагі і не сябе называла ўскраінай

Русі – Украіны, а наадварот. Бо «начинается земля, как известно, от Кремля», – відаць, на поўным сур'ёзе сцвярджаў Сяргей Міхалкоў – пяціразовы лаўрэат Сталінскай прэміі, аўтар гімна з пачатковым куплетам: «Союз нерушимый республик свободных сплотила навеки Великая Русь».

Нават на пачатку XX ст. адзін з губернатараў у рапарце міністру ўнутраных спраў прапаноўваў слова «Украіна» тлумачыць як «ускраіну Расійскай дзяржавы з даўніх часоў». А ў савецкі перыяд, як піша прафесар Я. Радзевіч-Вінніцкі ў кнізе «Україна: від мови до нації» (1997, с. 32), «ужыванне прыназоўніка «в» са словам «Україна» кваліфікавалася як буржуазна-нацыяналістычнае». Так спалучэнні «на Украіне», «на Украіну» хочаш не хочаш, а замацоўваліся як норма.

У гэтай сувязі можна лічыць, што і ў нас прыназоўнікава-склонавая форма *на Беларусі* сфармавалася пад уплывам *на Украіне*. Так, у творах Янкі Купалы, напісаных у 1912-1920 гадах, сустракаем паралельныя ўжыванні гэтых спалучэнняў: «Да сягоння жыве памяць аб злым гэтым дусе на ўсёй чыста Украіне і на Беларусі», «у гэтым краі, у Беларусі», «дык жа ўцям: на Беларусі жывуць беларусы», «кожнае лета праводзіць у Беларусі», «праз два гады на Беларусі», «Мураўёў гаспадарыў у Беларусі», «будзе на Беларусі не такое свята».

Спалучэнне «у Беларусі» ўсё ж пераважала ў творах нашых аўтарытэтных аўтараў (1950-2000 гг.), напрыклад: «У Беларусі таксама ёсць, вядома ж, і таленавітыя, і добра падрыхтаваныя прадстаўнікі гэтай катэгорыі літаратараў» (Я. Брыль); «Мала ў Беларусі разумных гісторыкаў, якія любяць і ведаюць родную гісторыю» (П. Панчанка); «Толькі ў Беларусі за час яжоўска-берыеўскіх рэпрэсій 30-х гадоў знішчана каля двух мільёнаў чалавек» (В. Быкаў); «Па-дурному зразуметы ў нас, у Беларусі, «інтэрнацыяналізм» дагэтуль не дае цвяроза паглядзець на рэальны стан рэчаў у сферы міжнародных адносін» (Н. Гілевіч); «У Беларусі прафесійным літаратарам ёсць Васіль Быкаў. Быў прафесіяналам і Уладзімір Караткевіч» (Р.Барадулін); «У адроджанай эканамічна Беларусі, – пісаў Г. Гарэцкі, – закрасуюць мастацтва, навука, закрасуе беларуская мова» (А. Вярцінскі). Або прыклады са сталай калонкі «Кола дзён» у газеце «ЛіМ» за 5 мая 2000 года: «Цяпер мяркуйце самі, каму ў Беларусі жыць добра», «на сённяшні дзень у Беларусі...», «І ўсё ж у Беларусі...»

Калі ў 1990 годзе Украіна стала суверэннай, незалежнай дзяржавай, яе кіраўніцтва і сродкі масавай інфармацыі рашуча адмовіліся ад навязанай ім канструкцыі «на Украіне», вярнуліся да спрадвечнай, шаўчэнкаўскай моўнай нормы, сталі ўжываць толькі «в Україні», «в Україну». Болей за тое, быў зроблены зварот да кіраўнікоў расійскага друку, радыё, тэлебачання – прытрымлівацца гэтай нормы. І сёння ў расійскіх, а таксама ў беларускіх тэкстах амаль ва ўсіх выпадках выкарыстоўваюць «в Украине, в Украину» (па-руску), «ва Украіне, ва Украіну» (па-беларуску). Так што рэкамендацыя В. Іўчанкава («Перавагу варта аддаць варыянту на Украіне») састарэла на два дзясяткі гадоў.

Ён жа таксама раіць пісаць толькі на Беларусі, але сваімі рэкамендацыямі ўводзіць у зман чытачоў «Народнай газеты». У нас цяпер усталявалася ці ўсталёўваецца адзіная норма: у Беларусі, у Беларусь. Гэта можна выразна бачыць, калі сачыць за перыёдыкай апошніх гадоў. Ды і сама «Народная газета» хоць змяшчае парады прафесара В. Іўчанкава, але ідзе ў нагу з часам і не зважае на іх. Так, у нумары за 7.04.2010 г. на с. 2-й чатыры разы ўжыта «ў Беларусі», на с. 3-й – 5 разоў («в Беларуси»; газета выдаецца на беларускай і рускай мовах).

У сучасных беларускіх часопісах і газетах толькі ў досыць рэдкіх выпадках можна напаткаць сказы, аўтары якіх, не адчуваючы дыхання часу, трымаюцца старых няпісаных правілаў, пішуць, напрыклад, так: «Перад самай вайной ён прыехаў на Беларусь» («Маладосць») або ў публікацыі В. Іўчанкава: «На Беларусі ж рускіх называлі кацапамі, украінцаў – хахламі». Але гэтыя правілы не па волі лёсу, а лагічна і чакана адышлі ў нябыт беззваротна.

юбілеі

Леанід Галубовіч



…парадыгма яго творчасці настолькі
не супадала з агульнапрынятай,
што ствaралася ўражанне:
усе пішуць удоўжкі, а ён упоперак…

# Поўніцца часам

## *Штрыхі да творчага партрэта Анатоля ВЯРЦІНСКАГА*

*"...бываюць выпадкі надзіва блізкага супадзення слова з самім чалавечым, аж да знешняга аблічча, вобразам творцы, і тады нам адкрываецца вялікая сіла ўнутранай, духоўнай цэльнасці, сутнаснай каштоўнасці чалавека, што жыве ў ім і ў аднолькавай ступені ўладарыць над учынкам паэта і ягоным вершам."*
Міхась Стральцоў.

У паэта Анатоля Вярцінскага важкі юбілей. І калі гаварыць шчыра, то творча жывы васьмідзесяцігадовы паэт у большасці прыхільнікаў паэзіі заўсёды выклікае пэўнае здзіўленне. (Дарэчы, нераўнуючы, як і ў адным з вершаў самога паэта: "Бачу: мне свята падрыхтавалі...", дзе ён канстатуе, што "ўсе святкуюць. Адзін я змрочны".) У той час як абсалютна нармальна (нібыта жывы) ўспрымаецца намі, скажам, амаль стотрыццацігадовы Янка Купала альбо амаль чатырыстапяцідзесяцігадовы Шэкспір. Бо ў саміх паэтаў насамрэч узрост ёсць, а ў паэзіі ўзросту няма.

У А. Вярцінскага натуральны талент. Ён не падганяў яго ні пад класічную традыцыю бальшыні нашых верша-

творцаў, не выштукоўваў фармальных наватарскіх метадаў уласнай версіфікацыі. Ён проста час ад часу прагаворваўся, як прагаворваецца сама прырода сваімі з'явамі – сонцам, снегам, навальніцай... Яго вылучнасць, адметнасць былі выразнымі, але ненавязлівымі. Здавалася, што ён, не выпадаючы з актыўнага грамадскага і літаратурнага жыцця, у адрозненне ад бывалых мэтраў, не заўсёды навідавоку і на слыху. Пра яго не часта гавораць і пішуць, аднак яго чытаюць і памятаюць.

З чаго ж складаецца такая ўстойлівасць яго паэтычнага і грамадскага рэнамэ?

Магчыма, скажу нечаканае – з прагматыкі яго чалавечай натуры. З магчымасці, а не з пожаду, з дадзенасці, а не з мройнасці, з думкі, а не з одумнасці...

Таму Вярцінскі праз усё сваё творчае і чалавечае жыццё стараўся не выпадаць з зямнога часу, прытрымліваўся яго чалавечых законаў жыцця, нораваў і маралі. Час для яго быў і ўладыкам і вышэйшым суддзёй. Ён верыў, што

Нам памагае ўбачыць Час:
Тут – толькі попел,
там – алмаз,
тут – зерне,
там – палова,
тут – пустазвонства гучных фраз,
там – ісціннае слова.

Што ў рэшце рэшт менавіта час

Тырана так і назаве
Тыранам і – вянок сарве.

Што:

Рана ці позна,
позна ці рана
суровая помста
спасцігне тырана.

А пакуль, што ж пакуль

Радуйся, дзікая Вандэя, –
перамагла контрідэя.
А ты чаго невясёлы, плебс?
Ці табе хмурыцца лепш?
У цябе такое ўражанне,
што не было дня ўчарашняга?

Між іншым, уся гэтая яго прарочая метафорыка друкавалася ў бальшавіцкіх друкарнях і выходзіла накладам у 4000 асобнікаў. Здараліся, праўда, і непрыемнасці. Аляксей Гардзіцкі пісаў, што калі ён "...быў маладым супрацоўнікам Камітэта па друку, яму далі заданне: выступіць на пасяджэнні Камітэта з крытычнай рэцэнзіяй на паэму Анатоля Вярцінскага "Дажынкі", як на паклёп калгаснага ладу. Вынікі пасяджэння былі прадвырашаныя, паколькі яно праводзілася паводле тэлефоннага званка, як тады гаварылі, дырэктыўных органаў. (...) Старшыні камітэта я сказаў, што не змагу крытычна выступіць, і растлумачыў чаму. Хутчэй за ўсё, ён пашкадаваў мяне, тады маладога літаратара, бо даручыў рыхтавацца іншаму супрацоўніку." Здаецца, сам А. Вярцінскі пра гэта нідзе асабліва не ўспамінае і не піша. І гэта таксама знак яго чалавечай годнасці.

Бо нафіміямленая слава для яго – дым у параўнанні з добрай справай.

Большую частку свайго творчага часу ён пісаў пра чалавека *простага*, пра людзей *звычайных*. Народнае (а яго вершы скрозь усыпаны прымаўкамі і фразеалагізмамі) праяўлялася ў ім натуральна і шчыра, як праяўляецца ад самага пачатку жыцця непадробная любоў дзіцяці да роднае маці. Усе людскія болі, нягоды і расчараванні праходзілі скрозь яго сэрца, як электрычны ток па пра-



*Анатоль ВЯРЦІНСКІ.*

вадніку. Ён і быў праваднікам народнага слова ў вялікі мастацкі свет. Хацеў толькі аднаго:

Не прашу я доўгага веку,
Не прашу асаблівай любві.
Я прашу цябе:
　　　　“Будзь чалавекам!”
Я прашу вас:
　　　　“Будзьце людзьмі!”
Нельга ж вечна жыць,
　　　　як некалі.
Час другі зусім – глядзі.
Людзі! Будзьце чалавекамі!
Чалавекі! Будзьце людзьмі!

У 1990-х шмат пісалі, што дарма Анатоль Ільіч пайшоў у палітыку, што дэпутацтва не для паэта і г.д. Ды і сам я падобным чынам завяршаў свой артыкул у часопісе “Крыніца” (№ 2, 1994), запачаткаванне якога, умоўна кажучы, па сутнасці з постаці А. Вярцінскага і пачалося. І гэта зноў жа пазнака яго паэтычнай значнасці і творчай адметнасці ў нашай нацыянальнай літаратуры. Аднак пакуль далёка не адхіліўся, скажу, што, як на мой погляд, то дэпутацтва і грамадская праца былі якраз блізкія яго чалавечай натуры. Бо, заўважце, ні тады, будучы ў Вярхоўным Савеце намеснікам старшыні камісіі па пытаннях галоснасці і правоў чалавека (дарэчы, у 1990 годзе ён быў адным з распрацоўшчыкаў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, і менавіта па яго прапанове дзень 27 ліпеня быў абвешчаны Днём Незалежнасці), ні пасля і ні цяпер, у адрозненне ад іншых дэпутатаў-дэмакратаў, ён не лез і не лезе пішчом

да мікрафона, не друкаваў у перыядычных выданнях і не агучваў кожнае сваё слова, сказанае там, дзе ў свой час ціха і прыстойна выконваў ускладзеныя на яго абавязкі. А што пісаць – апраўдвацца перад гісторыяй за палітычную паразу? Наўрад ці можна знайсці ў мемуарах тых дэпутатаў канстатацыі ўласных памылак і іх аналіз...

Што, дарэчы, намагаўся рабіць і робіць у сваіх творах Анатоль Вярцінскі, як і ў гэтым вось вершы "Баіцца быць беларус беларусам...":

Казалі "не будзь!" –
    ён схіляўся ніцма.
Гавораць "будзь!" –
    усё роўна баіцца.
Вось што робіцца з беларусам.
З сінявокім, з белавусам,
не з недарэкам, не з няўмекам,
з добрым увогуле чалавекам.

Адным словам, зямное ўсё ж засланяла паднебнае. І толькі ў хвіліны вялікага ўзрушэння душы з вуснаў паэта злятала малітва *высокаму небу ідэала*...

Апроч дэпутацтва, А. Вярцінскі працаваў сакратаром праўлення СП БССР, быў галоўным рэдактарам "ЛіМа"... Пры гэтым актыўна дапамагаў маладым талентам. Ведаю гэта па сабе. Прычым, ён перапісваўся са мной (літаратурным пачаткоўцам, вясковым электрыкам з дурнымі звычкамі), што для многіх галоўрэдаў і тады і сёння ёсць нонсенсам. Каля дзесяці яго (палемічных, мы з ім спрачаліся, sic!) лістоў з рэдакцыі я захоўваю. Яны вельмі цікавыя і ў чалавечым, і ў літаратурным плане, але пакінем іх для наступнага юбілею. Некаторыя даводзяць, што высокі наклад тагачаснага перабудоўчага "ЛіМа" – гэта заслуга самога "бурапеннага" часу, а не галоўнага рэдактара і рэдакцыйнага калектыву. Не ўся праўда ў падобнай логіцы. Не ўпэўнены, што іншы, прызначаны ЦК КПБ рэдактар, насмеліўся б выдрукаваць громападобны выкрывальны артыкул З. Пазняка і Я. Шмыгалёва "Курапаты – дарога смерці", які яшчэ і сёння выклікае неадназначную рэакцыю ў нашым грамадстве... Ды і вострыя неадназначныя матэрыялы літаратурнай крытыкі выклікалі гнеў у пэўных пазавугольных кулуарах, уздымалі буры ў самім кабінеце галоўрэда, а нярэдка і ў высокіх кабінетах на Карла Маркса... Таксама кажу гэта не на авось, а з уласнага вопыту, абапіраючыся на тагачасную перапіску з Анатолем Ільічом і на расповеды былых знаёмых мне супрацоўнікаў "ЛіМа". Грамадзянская адказнасць і чалавечае сумленне – не пустыя і не напускныя словы ў характарыстыцы А. Вярцінскага.

У яго няма званняў, апроч звання *Паэта*, хоць высокая дзяржаўная ўзнагарода дадзена яму не за паэтычную творчасць, а за публіцыстычную (але няхай гэта застаецца на сумленні былых, а мо і некаторых цяперашніх яго зайздроснікаў, якія сноўдалі каля распарадчага карыта).

Ён народны па стылі пісьма, але не па змесце і сутнасці, бо ў творчым парыванні міжволі ўздымаецца над людской будзённасцю, з яе ж самой вырастаючы... У гэтым ракурсе не лішнім будзе ўспомніць ягоны "*антынародны*" верш "Перасцярога", датаваны 1969 годам, які і сёння гучыць вельмі актуальна:

Людзі, не збівайцеся ў статак!
Знаю: моцны статкавы пачатак,
знаю: тужым мы па ім падчас,
знаю: так і падмывае нас –
збіцца ў статак, збіцца і згубіцца
недзе ў самай гушчыні яго,
збіцца ў статак, збіцца і пазбыцца
вобліку і голасу свайго.
Збіцца ў статак, важаку скарыцца,
і у той пакорнасці сляпой

тупаць да агульнага карытца,
тупаць на агульны вадапой.

Яшчэ мне прыйшло ў галаву цікавае супастаўленне ў нашай паэзіі дзвюх, на першы погляд, супярэчлівых адна адной фігур... якія (унутрана) адна да адной цягнуліся. Памятаю, на зары паэтычнага станаўлення Анатоля Сыса яго цёзка Вярцінскі напісаў прысвечаны яму верш “Апостальскі поступ”:

Што сёння дзеецца ў ЗША?
Там землятрус трасе Сан-Францыска.
А ў нас... у нас юбілей Сыса,
гудзе паэтавай славы вятрыска.
..............................................................
Жадаю табе, дарагі Анатоль,
былі каб заўжды – ні мала, ні многа –
над галавой – высокая столь,
пад нагой – цвёрдая падлога.

Ну хто яшчэ са старэйшага пакалення мог такое напісаць па тым часе?! Большыня літаратараў ставілася да Анатоля Сыса (найперш яго паводзін) пагардліва і павучальна. А сам паэт часта любіў цытаваць (у тым ліку і са сцэны) вось гэты верш Вярцінскага:

Паміраюць ад кулі шалёнай,
ад вады, ад жуды, ад бяды.
І яшчэ – ад зялёнай-зялёнай,
ад зялёнай, як раска, нуды.
Паміраюць марудна-марудна.
Паміраюць шмат дзён і начэй.
Паміраюць марудна і трудна,
паміраць нечакана лягчэй.
І я лёс свой прашу: “Калі ласка,
дай пражыць мне мае гады
без зялёнай-зялёнай, як раска,
без зялёнай смяртэльнай нуды!”

Але гэтак пражыць яму, на жаль, не ўдалося. А вось (інтэрпрэтаванае лёсам Сыса) пажаданне Вярцінскага жудасным чынам спраўдзілася. Праз шаснаццаць гадоў саракашасцігадовага паэта знайшлі сышоўшага крывёй на голай падлозе з халоднымі вачыма горна ўтаропленымі ў высокую столь яго сіратлівага закутка... Так, паэзія патрабуе ахвярнасці. Але – і высокай сілы чалавечага духу і волі. У Вярцінскага іншая закваска, іншы лёс. Прычынай таму – унутраная праца, духоўнае ўзвышэнне, любоў і ашчаднасць не толькі да падараванага зямнога жыцця, але і да паэзіі самога гэтага жыцця. Бо (можа, і насуперак паэтычнай стыхійнасці, але не насупраць творчай гармоніі) для А. Вярцінскага:

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Не марнаваць, не нішчыць, не бурыць...

Ім выдадзена няшмат кніг. Сем арыгінальных паэтычных зборнікаў, чатыры – выбраных вершаў, ды па адной кніжцы літаратурна-крытычных артыкулаў, п’ес і публіцыстыкі. Як для вядомага паэта за паўвека актыўнай творчай працы, то, пагадзіцеся, на першы погляд, плён не надта шматлікі. З іншага боку – важкі і багаты.

Па большасці назоваў ягоных кніг можна выстраіць сімвалічную парадыгму яго творчага шляху: З’яўленне, Чалавечы знак, Тры цішыні, Ветрана, Хлопчык глядзіць, Высокае неба ідэала...

І напрыканцы – наконт самой паэзіі А. Вярцінскага. За ўсёй яе прастатой і амаль празаічным празрыстым наівам схавана глыбокая падтэкставая мудрасць. Не ведаю чаму, але якраз цяпер (наўзбоч тэме, нераўнуючы як “*дзве паралельныя*

*прамыя*") прыйшлі ў галаву помныя радкі з двух вершаў вядомага рускага паэта У. Сакалова:

Пластинка должна быть скрипящей,
Заигранной...

Спасибо, музыка, за то,
Что ты меня не оставляешь,
Что ты лица не закрываешь,
Себя не прячешь ни за что.
................................................
Спасибо, музыка, за то,
Чего и умным не подделать,
За то спасибо, что никто
Не знает, что с тобою делать.

Падобнае адчуванне ўзнікае ў мяне і пры чытанні вершаў Анатоля Вярцінскага. Дазволю сабе напомніць чытачам выказванні некаторых літаратараў таго самага, упомненага мной вышэй, крынічанскага нумара з постаццю нашага сённяшняга юбіляра (тады яму было шэсцьдзесят тры гады). Паэтка Галіна Каржанеўская пісала, што "...каб палюбіць яго паэзію, у яе трэба доўга і цярпліва ўчытвацца. Ён прамаўляе разважліва, няспешна, з паўторамі, з варыяцыямі. Можа скласціся ўражанне, што ён не столькі хоча быць пачутым, колькі засяроджана слухае самога сябе. Гэта паэзія інтэлекту, перамогі разумовага пачатку над пачуццёвым і публіцыстычным". У нечым блізкі з ёй і паэт Леанід Дранько-Майсюк, які, назваўшы свой артыкул "Эстэтычная драпіна", лічыць, што "...яго пісьмо надта бачнае, надта няўклюднае ў сваёй індывідуальнасці і надта нязручнае для вучнёўскага пераймання. З гэтай прычыны ў Вярцінскага няма і не будзе эпігонаў, імітатараў. Можна імітаваць змест яго твораў (змест, дарэчы, не такі ўжо й складаны), але немагчыма (каб ніхто не заўважыў!) імітаваць ягонае пісьмо". Уладзімір Някляеў выказаў найбольш блізкае мне вызначэнне паэзіі А. Вярцінскага, зазначыўшы, што вядомы паэт "...не гуляе ў вечнае. Ён супадаў і супадае з часам – і, здараецца, надае часу прыкметы. (...) Так ствараецца прастора прысутнасці. Яна здабываецца не кожным, яна – творчае дзеянне. Яе нельга заняць, як чужую нару." Але глыбей і дакладней, як мне сёння падаецца, ахарактарызаваў творчасць паэта Алесь Разанаў: "Анатоль Вярцінскі з'явіўся ў беларускай паэзіі як выключэнне з правіла, як альтэрнатыва тагачаснай беларускай паэзіі. Парадыгма яго творчасці настолькі не супадала з агульнапрынятай, што стваралася ўражанне: усе пішуць удоўжкі, а ён упоперак, усе ўмеюць пісаць ці, прынамсі, стараюцца ўмець, а ён не ўмее і не хавае свайго няўмення. Аднак у гэтага няўмення быў почырк з'явы.

Ён уваходзіў у беларускую паэзію, адначасова выходзячы з яе, і сваёй творчасцю як бы фармуляваў некаторыя вельмі істотныя, але забытыя ці адпрэчаныя ў айчыннай паэзіі прынцыпы, у прыватнасці: паэзія не зводзіцца да красамоўства ці сумы метафар, гэта ўсяго толькі прыёмы, а яны могуць быць і наўмыснымі, і сляпымі; творчасць – гэта сутворчасць, супрацоўніцтва паэта і музы, асобы і часу..."

Хоць мне думаецца, што пішучы гэты тэкст, Алесь Сцяпанавіч спрабаваў вызначыць сутнасць творчасці Анатоля Ільіча, наўмысна скарыстаўшыся сітуацыяй, каб заадно патлумачыць і праявы сваёй мадэрнісцкай паэзіі. Ёсць у мяне ў падкорцы няпэўная здагадка, што маладыя карані паэтыкі Разанава жывіліся і з багата стылістычнай, аднаасобна, але добра ўробленай зямной паэтыкі Вярцінскага.

Агулам, з усім вышэй працытаваным нельга не пагадзіцца. Рацыя ёсць. Але – абыйдзена ірацыянальнае. Тое самае "высокае неба ідэала", да якога як да панацэі ад душэўных пакут усё сваё жыццё цягнуўся і цягнецца наш паэт...

Мая душа чалавечая спала,
вякамі спала да той пары,
пакуль не ўбачыла цябе ўгары,
пакуль нада мною ты не заззяла, –
Высокае неба ідэала!

Якім яно ёсць, гэтае *яго* неба? Якім там, на ім, бачыцца яму *яго чалавечы знак*?..

Бо што казаць, ён
Дзівак чалавек...
　　　　І гэта яго дзівацтва –
ратунак яго,
　　　　яго чалавечы знак.

Наастатку нельга не прызнаць і не агучыць усім відавочнае: выбітны талент Анатоля Вярцінскага сваёй мастацкай неардынарнасцю значна ўзбагаціў і надаў гарманічную цэласнасць усёй беларускай паэзіі. А чытачу, памятаючы, што Анатоль Вярцінскі, хоць і рэдка, але “*вяртаецца ў вершы, зусім не па славу паэта*”, пажадаем чакаць і прыняць яго такім, якім ён наноў з’явіцца.

Ад сябе ж выкажу пажаданне юбіляру яго словамі, памятаючы, што ён заўсёды трымаўся на высокай амплітудзе часу, можна сказаць, тварыў і прадбачыў сябе ў часе, пэўным метафарычным чынам нават атаясамляў сябе з часам, вось гэтыя яго даўнія, але па сёння помныя словы:

Я прапаную тост за Час –
саратніка, сааўтара!
За Час, што працаваў на нас,
за Час, працуе што на нас,
што будзе працаваць на нас,
служыць нам верна заўтра!

---

*“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць шаноўнага*
*Анатоля Ільіча ВЯРЦІНСКАГА*
*з блізкім юбілеем і зычаць яму творчага натхнення,*
*плёну і здароўя яшчэ на доўгія гады,*
*каб радаваў нас і сваіх прыхільнікаў*
*новымі цудоўнымі творамі...*

Анатоль Сыс



...сапраўднаму паэту хопіць зорак,
каб шлях знайсці па іх...

# Сардэчная мова нябёсаў

## *Невядомыя вершы Анатоля Сыса*

### Прарок свабоды і незалежнасці

Ёсць горкая іронія ў тым, што пісаць пра невядомыя вершы Анатоля Сыса – майго сябра і геніяльнага беларускага паэта канца ХХ-га стагоддзя, які ў сваім жыцці найбольш цаніў свабоду, прыходзіцца седзячы ў камеры. Жалезныя дзверы і ваконныя краты густа захіснутыя жалезнымі гарызантальнымі палосамі, якія тут ласкава называюць "раснічкамі", за імі ў шчыліны праглядаецца распілаванае бяздоннае вераснёўскае неба і белыя ватныя аблокі. Колькі разоў ужо, стоячы ля вакна і ўглядаючыся ў заманлівую сінечу неба, я паўтараў сам сабе: "Вось воблака, сяду і ў свет палячу!" Калі не целам, дык думкамі і душою. І ёсць у гэтым маім пісанні вышэйшы сэнс, бо душа мая зараз дакладна наладжаная ва ўнісон Анатолевым вершам. І хто ж як не ён навучыў мяне некалі шанаваць свабоду і даражыць ёй. Гэтае ягонае ўнутранае і вонкавае разняволенне, незалежнасць, якія праяўляліся і ў штодзённых паводзінах, і ў стасунках з людзьмі, натуральна пераходзілі

ў ягоныя вершы. За гэта мы шанавалі Анатоля, за гэта яго не любілі людзі абмежаваныя і залежныя.

Летась увосень, падчас штогадовага паэтычнага свята ў гонар Анатоля Сыса на радзіме паэта ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна, я і зямляк Анатоля паэт і журналіст Сяржук Сыс, даведаліся ад роднай сястры Анатоля Тамары Ціханаўны пра існаванне неразабранага архіву Анатоля Сыса. Падчас прагляду яго я заўважыў невядомыя вершы паэта. Для нас гэта было моцнай неспадзяванкай, неверагодным сюрпрызам, у які з першага разу цяжка было паверыць, бо Анатоль, жывучы ў Менску, неаднойчы распавядаў пра тое, што спаліў свае юнацкія вершы. Хаця, ведаючы нястрымную ахвоту Анатоля да розных жартаў і розыгрышаў, я мяркую, што гэтая містыфікацыя якраз і была ў ягоным стылі.

Перадаваць знойдзеныя вершы для публікацыі без прысутнасці паэта і нашага сябра, заснавальніка і натхняльніка паэтычнага свята ў Гарошкаве Эдуарда Акуліна, Тамара Ціханаўна не адважвалася. Таму, пасля тэлефонных дамоўленасцяў, 9-га траўня 2011 года мы з Эдуардам выбраліся ў Гарошкаў, дзе сустрэліся з Тамарай Ціханаўнай. Перабіраючы друкапісы і рукапісы, мы канчаткова пераканаліся, што перад намі вершы, пародыі і пераклады, большасць з якіх мы некалі чулі з вуснаў Анатоля Сыса ў нашыя юнацкія студэнцкія гады.

Асобна ў невядомай спадчыне паэта можна вылучыць машынапіс зборніка вершаў пад назовам “Берагі майго юнацтва” (іншая верагодная назва – “Манускрыпт майго юнацтва”) з раздзеламі “Бераг правы” і “Бераг левы”. На жаль, старонкі пераблытаныя і няма зместу зборніка, таму нельга вызначыць, як дакладна былі размеркаваныя вершы па гэтых раздзелах. Зборнік складаюць творы, напісаныя Анатолем Сысом падчас вучобы ў Гомельскім універсітэце ў канцы 70-х, пачатку 80-х гадоў.

Анатоль Сыс адсылаў свой зборнік на рэцэнзію. Захавалася частка канверта з пячаткаю Саюза пісьменнікаў Беларусі, з чаго можна зрабіць выснову, што зборнік дасылаўся менавіта туды. На жаль, рэцэнзія, падрыхтаваная Фёдарам Яфімавым, якая таксама знайшлася ў архіве, была адмоўнаю. Гэта, мабыць, і паслужыла прычынаю, чаму гэтыя вершы патрапілі ў тумбачку бацькоўскай хаты паэта. Толькі два вершы адсюль пазней былі апублікаваныя ім.

Чытаючы знойдзеныя вершы з вышыні сённяшніх гадоў, а іх мінула ўжо трыццаць, я пераканаўся, што большасць з іх з’яўляюцца самадастатковымі, высокавартаснымі творамі. А яшчэ два гады таму, складаючы ў 2009-м годзе зборнік выбраных вершаў А. Сыса “Алаіза”, які рыхтаваўся да 50-х угодкаў паэта, я моцна шкадаваў, што так мала было вядома ранніх твораў Анатоля. Бо не зусім зразумелым быў для чытача шлях развіцця ягонага магутнага таленту. І мала для асэнсавання гэтага шляху ўспамінаў і нататкаў знаёмых і сяброў. Што можа сказаць пра паэта выразней, чым ягоныя вершы. “Берагі майго юнацтва” з’яўляюцца бліскучым адказам на маё рытарычнае пытанне. Яны запаўняюць “белую пляму” на раннім этапе творчага шляху Анатоля Сыса.

Апроч гэтага машынапіснага зборніка, у паперах таксама была частка рукапісных вершаў Анатоля, у прыватнасці, вянок санетаў, напісаны ім ва ўніверсітэцкія гады. Увага да вершаванай формы санета ішла ў Анатоля Сыса ад захаплення творчасцю Максіма Багдановіча. Недарэмна ён пісаў курсавую працу, прысвечаную санету, як паэтычнай форме ў творчасці М.Багдановіча. Гэтая праца з вершам-прысвячэннем М.Багдановічу таксама захавалася ў архіве. Анатоль Сыс вучыўся ў свайго “старэйшага брата” – так ён называў пазней М.Багдановіча – працаваць са словам. 14 радкоў санета ўяўляліся яму ідэальнай формай для паэтычных практыкаванняў, для шліфоўкі слова і адточвання рыфмы і думкі. Я памятаю, як ён ганарыўся сваім вянком санетаў, гаворачы пра тое, што гэта вельмі складаная форма вершаскладання і што ў беларускай паэзіі на той час было толькі два вянкі санетаў, адзін з якіх напісала нашая зямлячка Соф’я Шах.

Некаторыя з іншых вершаў, якія знаходзяцца ў архіве, створаныя ў стылістыцы ранняга перыяду творчасці паэта. У іх пераважае рамантызм, этнаграфізм, апісальнае захапленне роднымі мясцінамі, юначая непасрэднасць, неспатоленасць праявамі  жыцця. Да гэтых твораў адносіцца верш “Вясковы каваль”.

Спробы філасофскага асэнсавання свету, пераплеценыя са старажытнай магіяй беларускіх замоваў, з іхнімі чароўнымі рытмікай і духам, якія бяруць выток з паганскай мінуўшчыны, былі характэрнымі для далейшай творчасці Анатоля Сыса. Верш “Высакосны год” і “Балада-прысвячэнне маці” акурат з’яўляюцца прыкладам гэтага этапу творчасці паэта. Выглядае на тое, што яны былі напісаныя пасля вучобы Анатоля ва ўніверсітэце.

Вялікі ўплыў на станаўленне паэтычнага таленту Анатоля Сыса аказала насычаная філасофскай думкаю паэзія Алеся Разанава. Недарэмна бліскучая “Балада-прысвячэнне маці” пачынаецца з эпіграфа – радка з верша А.Разанава: “Да гарызонта даляцела птушка”. Гэты радок паслужыў штуршком і асноўнай супярэчлівай ідэяй балады. Зыходзячы з рацыянальнага асэнсавання свету, немагчыма дапяць да гарызонту. І калі гэта ўсё ж удаецца – тады адбываецца цуд. Менавіта там, за гарызонтам, па ўяўленні паэта, птушка пераўтвараецца ў чалавека. Птушка-чалавек – гэты паганскі, родавы, татэмны вобраз заўжды прыцягваў паэта. Вобраз птушкі ўяўляецца яму абсалютным вобразам свабоды. Там, у небе – “крылы” і “музыка нябеснага прастору”, а тут, на зямлі – “немач рук” і “прыцягненне вечнае зямлі”.

Вобраз маці з’яўляецца культавым вобразам, які праходзіць праз усю творчасць Анатоля Сыса. Вось і ў “Баладзе...” птушка пераўтвараецца ў маці. Такім чынам, паэт назваў сябе з сынам жанчыны-птушкі, уяўныя будучыя дзеці якога таксама будуць дзецьмі-птушкамі.

Гэтаксама ў архіве паэта захаваўся сцэнар радыёперадачы, прысвечанай ягонай творчасці, падрыхтаваны ўвесну 1984 года для Гомельскага радыё пасля ягонага вяртання з войска. У друкапісе з рукапіснымі праўкамі паэта ёсць і невядомыя вершы. Можна меркаваць, што яны былі напісаныя ў 1983-84 гг. падчас службы. Да невядомых вершаў адносіцца “А мне не трэба шлях, дзе скрозь падковы” – аптымістычны твор, у першым радку якога выказваецца жыццёвае крэда паэта. Радкі: “Мяняў я коней, стомленых дарогай”, “Быў я ў сябрах, як брыганціна ў чайках” даюць уяўленне пра характар героя верша, якога можна атаясамліваць з асобай паэта.

Верш “Маці” існуе ў двух варыянтах – надрукаваны на асобным аркушы і ў тэксце радыёсцэнара. Мне ўяўляецца, што Анатоль вымушаны быў перарабіць першапачатковы варыянт верша для радыёэфіру з прычыны ягоных рэлігійных матываў. Паэт параўноўвае сваю маці з “жывой Божай маці”. У ягоных вачах такое падабенства з’яўляецца вышэйшай адзнакай. Рукою Анатоля Сыса ў сцэнары зробленыя праўкі, у якіх ён акцэнтуе ўвагу на тым, што вобразы Маці і Радзімы для яго з’яўляюцца непадзельнымі – такімі ж яны існуюць і ў ягонай паэзіі.

Анатоль ніяк не ўспрымаў “ідэалагічна правільную” паэзію. Ён грэбаваў і здзекваўся з рыфмаваных траскучых радкоў у гонар Леніна, партыі, рэвалюцыі ды розных іншых камуністычных святаў і падзеяў. Нават пішучы на “праходныя” на той час тэмы, да прыкладу, пра Вялікую Айчынную вайну, ён асэнсоўваў яе праз канкрэтны цяжкі лёс свайго прыйшоўшага з той вайны бацькі. І ядзерную бамбардзіроўку Хірасімы, якую савецкія ідэолагі падавалі выключна ў антыамерыканскім ключы, ён успрымаў з агульначалавечых пацыфісцкіх пазіцыяў. У вершы “А мне білет да Хірасімы” ён абыгрывае факт, які найбольш уразіў яго: на самалёце, што скінуў атамную бомбу, лётчыкам было напісанае імя ягонай маці. І менавіта да яе звяртаецца паэт, спрабуючы асэнсаваць тую трагедыю.

У вершы “Верлібр першай сустрэчы з морам” можна адзначыць знаёмы нам па

іншых вершах паэта вобраз “адзінокага пілігрыма”. Такім “адзінокім пілігрымам” і сам паэт пройдзе па гэтым зямным жыцці.

Ёсць у архіве некалькі вершаў, напісаных Анатолем Сысом у пазнейшыя часы – у 90-ыя гады, у пачатку 2000-ых. Іх лёгка распазнаць па правапісе – “тарашкевіцы”, на якую паэт перайшоў у другой палове 80-х гадоў, пасля пераезду ў Менск і далучэння да моладзевага нацыянальнага руху. Тады пераход на “тарашкевіцу” азначаў выразную грамадзянскую пазіцыю, арыентаваную на пераемнасць нацыянальных каштоўнасцяў і ідэалаў, якія бязлітасна знішчалі камуністы, і за якія і пераследавалі творцаў. Адзін з гэтых вершаў мае дачыненне і да часопіса “Дзеяслоў”. У лісце, напісаным у пачатку ліпеня 2002 года, Эдуард Акулін прасіў Анатоля Сыса даць у першы нумар “Дзеяслова”, які тады рыхтаваўся да друку, нізку вершаў. Да гэтага ў Анатоля рукі не дайшлі, але на канверце ягонай рукою быў запісаны сціслы верш: “Сапраўднаму паэту...”

Выдрукаваны таксама “тарашкевіцай” захаваўся ў архіве і пераклад твора расійскага паэта М. Гнедзіча “Маім вершам”. Як мне падаецца, думкі М. Гнедзіча, выказаныя ў гэтым вершы, былі блізкімі Анатолю Сысу, што і стала прычынай перакладу. Бескарыснасць у творчасці, любоў да музы, якая палала “з юных гадоў”, душэўны настрой, што выліваўся ў вершаваныя радкі... Анатоль Сыс пагаджаецца з Гнедзічам, які гаворыць пра тое, што ён не гандляваў душою дзеля ўцехаў, што “часта трымаў я іспыты на гонар і годнасць” і “з тых вопытаў выйшаў я чыстым”, што ён “ахвяр не паліў, патрапіць каб ідэалам свету”. М. Гнедзіч, а праз пераклад і Анатоль Сыс, жадае, каб людзі адшукалі ў ягоных вершах “сардэчную мову нябёсаў”.

Спадзяюся, што неўзабаве невядомыя вершы Анатоля Сыса выйдуць асобным зборнікам, так як некалі і планаваў паэт. Несумненна, што гэтыя вершы сур’ёзна дапоўняць творчую спадчыну паэта, нашага прарока свабоды і незалежнасці.

**Алесь БЯЛЯЦКІ,**
*8 верасня 2011 г.*

### *ВЯСКОВЫ КАВАЛЬ*

А рэкі клопатаў вясковых
Ніколі ў берагі не ўходзяць:
Бо неба на дажджы не родзіць,
Бо коні звонкія падковы
На грэблях выбітых пагубяць.

Так і жыве каваль вясковы:
Ад пеўняў першых і да зор
Куе сталёвыя падковы,
Мяхі ўзахлёб бяруць мажор,
Мінор адзвоньвае молат.

Калі ж прыводзяць коней белых,
Гнядых і чорных, як вуголь –
Мяхі спускаюць дух нясмела,
І самы рэзвы конь-агонь
Ў падзяку майстру за падковы
Нясе яго ў луг барвовы,
Дзе сонца засынае ніц
Сярод абкошаных крыніц.

У гэтай скачцы ёсць уцеха,
Калі ж, як драч, прыдрэмле плёс –
З капыт каня злятае рэха:
За Днепр імчыць кляпанне кос.

## *ВЫСАКОСНЫ ГОД*

Высакосны год, як лес высокі,
пераспелы,
гнеўны да пары.
Ў высакосны год чыесьці крокі,
Да крыві ўзарваўшы моц кары
Узбудзілі свет шалёным рэхам,
Абвясціўшы ўсе мацерыкі
Астравамі незямной ракі
Богу высакоснаму на ўцеху.

Ды лясы не смелі пакарыцца
Незвычайным высакосным дням,
І ў сваю зялёную сталіцу
Не адкрылі уваходных брам.

## *БАЛАДА-ПРЫСВЯЧЭННЕ МАЦІ.*

*Да гарызонта даляцела птушка*
А.Разанаў.

Да гарызонта даляцела птушка:
Яшчэ адзін абвергнуты закон,
І хоць зліццё яе і гарызонта
Нямногім было суджана убачыць,
Ды ўсё ж яна пад вечар даляцела.

Як я тады хацеў быць гарызонтам,
Каб на сабе адчуць узмахі крыл
І ўздыхі прагныя упартай птушкі
Гавораць, яны дыхаюць як людзі
І паміраюць ў безвадзь, як і мы.

Гавораць, птушкі – мы да нараджэння
І ў гарызонт ляцім заўжды таму,
Каб зноў вярнуцца...
Толькі ўжо не птушкай,
А чалавекам з памяццю у снах:
аб гарызонтах,
крылах
і палётах.

А хто тады упаў да гарызонта,
Таму цяпер не сняцца мары-сны,
Таму цяпер не зразумець
Самотных птушак,
Што перад смерцю плачуць,
Як і мы.
Відаць, не хочуць намі быць,
Зямнымі,
І крылы памяняць на немач рук,
А музыку нябеснага прастору –
На безвыходнасць, кожны дзень залежыць
Ад прыцягнення вечнага зямлі.

Восенню 1923 года нарадзілася
мая маці.
Да гарызонта даляцела птушка.
Быў 23 год.
Назад прыйшла
Падобная да птушкі той жанчына
І родная ёй памяццю у снах:
аб гарызонтах,
крылах
і палётах.

А восень неба мучыла дажджамі,
Зайздросна дрэвы паглядалі ўслед
Спазнёным птушкам
З мокрым апярэннем,
Што адляталі з ветрам,
Каб вярнуцца
Праз год,
Праз век
І не пазнаць зямлю
І тыя ж дрэвы,
Што як сёння помняць
Узмахі крыл адлётнай той пары.

З вяртаннем кожным
птушак з небасхілу,
Жанчына была першая за вёску
Да той дарогі,
па якой сама
Прыйшла калісь, не помнячы тых крылаў.
Так чатырох дзяцей сваіх пазнала
І немаўлячых ў хату прывяла,
Мяне апошнім вёска сустракала.

Ў сясцёр і брата я пытаўся потым
Пра той бальшак,

Вясною дзе жанчыны
З далонямі ля воч стаялі скрозь,
Чакаючы свой лёс, працяг і радасць.
Надзіва, яны помнілі таксама
Дарогу з небасхілу ў гэты свет.

Да гарызонта даляцела птушка,
Каб зноў вярнуцца,
Толькі ўжо не птушкай,
А чалавекам з памяццю у снах.
Я выйду сам аднойчы на дарогу,
Далонь прыклаўшы смутна да вачэй
І у прышэльцы сына угадаю.

* * *

А мне не трэба шлях, дзе скрозь падковы,
І ў светлы дзень я словы прыгублю,
І ў злыбяду суцешуся высновай:
Жыццё – бівак, ды я яго люблю.

Мяняў я коней, стомленых дарогай,
Каханне, прыгажунь жыватварыў,
Я верыў ім,
я верыў ім як Богу,
І быццам чорту, я не верыў ім.

Быў я ў сябрах, як брыганціна ў чайках,
Калі ж у іх выходзілі хлеб-соль,
Сваю салдацкую дзяліў між імі пайку,
Закон такі – пароўну хлеб і боль.

І мне не трэба шлях, дзе скрозь падковы,
І ў светлы дзень я словы прыгублю,
І ў злыбяду суцешуся высновай:
Жыццё – бівак. Ды я яго люблю!

## *МАЦІ*

о
якія вочы
два блакітныя сэрцы
дзве блакітныя птушкі

калі ручнікі чырвоным
на покуце вышываеш –
жывая Божая Маці

калі і рукой і словам
сабою – жывой вадою
крывавыя раны гоіш –
жывая Божая Маці

ды ў час калі сум
хоць плач ты
праз дзесяць азёр і рэк
я проста паклічу:
Маці.

* * *

*“І ніколі не пытайся па кім звон звоніць,*
*Ён звоніць па табе”.*

I
А мне білет да Хірасімы,
На той пракляты самалёт,
Дзе на крыле пад небам сінім,
Імя матулі – рукой сына.
Энола Гэй... Ці помніш?
Ты яму спявала
Пра белых лебедзяў-гусей,
Энола Гэй, Энола Гэй?
Ці помніш? Ты яму казала,
Што іх Радзіма – Фудзіяма,
Што крылы белыя гусей
Падобныя на сад вішнёвы,
На сад вішнёвы ў Хірасіме,
Дзе маці гэтак жа спявала
Над лёгкаю калыскай сына
Пра белых лебедзяў-гусей,
Што адляцелі на расе
І не вярнуліся з чужыны.
А гнёзды берагуць цяпло:
Здаецца, быццам птушаняты
Прыкрыты матчыным крылом.
Ад паляўнічых стрэл напятых,
А сумным возерам туман,
Калі садзіцца над вадою,
Гусей здаецца чарадою...

II
Хутчэй за хлеб расце падман,
Хутчэй за рыс расце падман.
Сягоння свята ў Фарысея:
Ён пяць гадкоў жыцця засеяў,
Пяць кволых свечак патушыў,

Пакуль яшчэ ён не грашыў.
Еў кашку манную – за маму,
Яшчэ паўлыжачкі – за тату,
Піў малачко – за прэзідэнта,
За слуг яго і апанентаў,
За долар – звонкую манету,
Сягоння свята ў Фарысея.
І падарыў яму прарок
Пейзаж з японскаю лілеяй,
З японскай вішняю пірог.
І можа ў небе Хірасімы
Ён прыгадае гэты дзень,
І можа гібель адвядзе
Ад спячых маці і дзяцей.
Энола Гэй, Энола Гэй!
Пакуль не позна, сэрца сына,
Ад зла ўратуй...
Энола Гэй – бяда, надзея Хірасімы.

* * *

Не разбяру,
дзе душ рыданне,
дзе губ шаленства,
страсці слоў,
Я спаць лажуся. Сон – чаканне
Кахання
Вечнага высноў.

Я спаць лажуся.
Адчуваю
Пляча чыёсьці ля свайго,
І засвяціўшы дом бягом,
Сябе за гэта дакараю.

А маладзік ужо за поўнач
Няўмольна сярод хмар брыдзе.

Я на яго ў акно глядзеў,
Глытаючы чакання горыч.

Зноў спаць лажуся.
Асцярожна,
Каб не крануць чыёсь пляча,
А дзверы хтось сваім ключом
Адкрыў,
спытаўшы: “Нанач можна?”

Жанчыны голас: “Нанач можна?”
І не ўключаючы святло,
Ён лёг са мной у цёплы ложак,
Паклаўшы плацце на акно.

* * *

Сапраўднаму паэту хопіць зорак,
каб шлях знайсці па іх...
*(напісаны на канверце, які пазначаны штэмпелем 02.07.2002)*

## ВЕРЛІБР ПЕРШАЙ СУСТРЭЧЫ З МОРАМ

Мая памяць,
Жыве ў слядах маіх босых ног –

Ракавінкі паміж пальцаў –
Здзіўленне чужому пяску,
Як нашаму снегу па асуджанаму
лістападу

яшчэ ў палёце
Над рэшткамі бабінага лета.

Я ішоў вакол мора,
Як пастух вакол свайго статку.
Як алень вакол свайго лесу,
Я ішоў вакол мора.

Наўрад ці помніць яно адзінокага
пілігрыма.

Яго дзіўна цвёрдыя пяткі,
Як панцыры карлікавых чарапашак.

Я ішоў каля мора,
Бы якут па мяжы пшанічнай,
думаючы:
Няўжо – гэта хлеб
На які я пясцоў мяняю? –

Так і я ішоў каля мора.

Стаміўшыся, станавіўся берагам.
І сонца сушыла на мне
Соль
Яшчэ ранішняга мора.

Мора,
Якое наўрад ці помніць здзіўленага
пілігрыма,
Яго рукі на крыж – як вёслы,
І спіну – быццам днішча рыбацкай шхуны,
Якой ветрам сарвала ветразь.

**Пераклад з Мікалая Гнедзіча (1784–1833)**

## *МАІМ ВЕРШАМ*

Пакуль яшчэ сэрца ўва мне ажыўляецца сонцам,
Пакуль яшчэ ў персях, ад летаў і зім не астылых,
Любоў не пагасла да вас, мае вершы, што дзеці
Душы маладой, у якіх я, бывае, знаходжу
Дары небагатыя строгай, скупой маёй музы,
Якія, быць можа, адвергла б дазваньня ад сэрца
Лядачая старасьць, і можа, яно па заслугах
(Ды хто на зямлі не прынёс самалюбству ахвяры,
Сьпяшаю, о, вершы, адвесьці прысуд ад вас грозны,
Сьпяшаю аддаць пад апеку лагоднай любові.
І нават калі вы яе не палоніце словам,
Якім нас палоняць абраньнікі муз і алімпаў,
Ані пачуцьцём, ані думай магутнай, якая
Вагнём нараджаецца ў вуснах і душы народаў хвалюе,
Дык можа, лагодная ў вершах мяне адшукае,
Душы маёй кволасьць, напэўна, – яе дабрадзейнасьць;
І скажуць яны, што ў грудзёх маіх б’ецца, быць можа,
Не грубае сэрца, што з юных гадоў трапятала
Ад цнотных пачуцьцяў, ад спраў і ўчынкаў адважных,
Ад слаўных імёнаў заступнікаў долі народнай;
Што зь юных гадоў любоў да музаў пылала
І ўсё ж захавала ва ўсіх калаўротнасьцях лёсу
Той жар, хоць ня полымны, але пастаянны і чысты;
Што ўцех не было, з-за якіх я, нат голаў згубіўшы,
Душой гандляваў бы; што часта трымаў я іспыты,
На гонар і гордасьць, з тых вопытаў выйшаў я чыстым;
Ахвяр не паліў, патрахвіць каб ідалам сьвету,
Нат словам адным бесьсмяротнай душы не прынізіў.
Няхай жа сябрына у песьнях маіх адшукае
Хоць слова для сэрца хоць верш пачуцьцём адагрэты;
Але ж, калі ў гэтых звычайных, прыземленых гуках
Пачуе той голас сардэчную мову нябёсаў,
Якою гукае да нас бесьсмяротная маці-прырода,
Быць можа, о вершы, я вас захаваў для сусьвету.

*1832 (?)*

Кацярына Безмацерных



...жывапіс –

самая раўнівая жанчына...

# «Вулканічная энергія мужчынскага і гарманічная мудрасць жаночага...»

***Гутарка Кацярыны БЕЗМАЦЕРНЫХ з мастакамі Аленай БАРАНОЎСКАЙ і Віталём ГЕРАСІМАВЫМ***

***Муж беларускай мастачкі Алены Бараноўскай Віталь Герасімаў – асоба смелая і амбіцыйная. Прафесар кафедры жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, у чыіх экспрэсіўных палотнах гэтак шмат колеру крыві. "У яго ўсё гарыць, усё кіпіць!" – кажа пра свайго спадарожніка жыцця Бараноўская.***
***Яе ж працы – вельмі беларускія. Спакойныя і гарманічныя пейзажы, прырода, снежная зіма...***

**"У нашай групе ён, напэўна, быў самы актыўны."**

*У 1984 годзе Віталь Герасімаў, з дыпломам Днепрапятроўскай мастацкай вучэльні, прыехаў на падрыхтоўчыя курсы Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.*

***Віталь:*** Алену прывёў тата – мастак Бараноўскі Анатоль Васільевіч. Яна саромелася, і ён занёс яе планшэт з паперай. Я ў той час ужо маляваў і, памятаю, падышоў да яе і папрасіў сцірку. А калі мы ўжо паступілі, то былі на адным курсе – мастацкі факультэт, станковы жывапіс.

*Цікавы быў у іх курс, 1984 года паступлення. На манументальным жывапісе – беларусы Уладзімір Ганчарук, Лада Шчасная, якой цяпер няма з намі, Руслан Вашкевіч... А ў групе станковага жывапісу два чалавекі – з Афганістану, адзін з Казахстану, а яшчэ адзін – з Арменіі. Восем чалавек і ўсяго адна дзяўчына – Алена Бараноўская.*

***Алена:*** Я чалавек вельмі спакойны, неімпульсіўны. У мяне няма рэзкіх рухаў. А Віталь зусім іншы па сваёй энергетыцы. Відаць, калі людзі розныя па сваім тэмпераменце, яны таксама неяк прыцягваюцца. У нашай групе ён, напэўна, быў самы актыўны. Я адчувала, што Віталь закаханы ў жывапіс, у мастацтва. Я таксама расла ў такой сям'і, дзе вышэй за ўсё ставілася мастацтва. Тата гэта з дзяцінства прывіваў.

*У школцы – самай звычайнай, не мастацкай – Алена выдатніцай была.*

***А.:*** Не магу сказаць, што я выдатніца ад прыроды, якім можна нават хатнія заданні не рабіць. Вядома, у мяне былі нейкія прыродныя дадзеныя, неблагая памяць, але ўсё адно гэта была вельмі вялікая праца, дадатковыя заняткі, бібліятэкі... Выхадных не было, як і цяпер, зрэшты. Ну, нічога. Па выхадных прыходзіла займацца з татам маляваннем, атрымлівала ад гэтага вялікую насалоду.

*Акрамя малявання, была ў Аленіным дзяцінстве яшчэ і музыка.*

***А.:*** Гэта было ўключана ў выхаванне дзяцей таго часу. Калі я расла, многія набывалі фано. Потым стала зразумела, што ўсяго чалавек цягнуць не можа: і добра вучыцца ў школе, і займацца музыкай, і маляваннем. Мы вырашылі: ад нечага трэба адмовіцца. І адмовіліся ад таго, што менш перспектыўным выглядала. Я пакінула музыку ў спакоі – і стала лягчэй. Было абсалютна ясна, што нікім мне не быць, акрамя мастака. Мне гэта падабалася, мне было добра, калі малявала.

*Школу Алена скончыла з залатым медалём. І ўсе здзіўляліся: Тэатральна-мастацкі інстытут?.. Вучаніца беларускага пейзажыста Анатоля Бараноўскага, яна працягнула рэалістычную лінію бацькі.*

*У мужа Віталя Герасімава ўсё было інакш.*

***В.:*** Мяне прывялі ў школу, у першы клас, і там быў урок малявання. І я ў маляванні, напэўна, быў адзін з лепшых у класе. Здаецца, дзядзька майго бацькі рэстаўратарам працаваў, але я яго ні разу не бачыў. З трэцяга класа я ўжо ў мастацкую школу хадзіў, а потым паступіў у Днепрапятроўскую вучэльню. Затым было войска. Колькі сябе памятаю, толькі з гэтым і быў звязаны. Школа мастацкая, студыя выяўленчага мастацтва, вучылішча, Акадэмія, асістэнтура.

*На чацвёртым курсе Тэатральна-мастацкага інстытута яны нарадзілі дзіця. "Акадэмку" Алена не брала, выхоўваць мама дапамагала.*

*Глеб Герасімаў, сын, выпускнік Акадэміі мастацтваў – таксама станковы жывапіс. Глеб быў пераможцам Рэспубліканскага мастацкага конкурсу, стыпендыятам Спецыяльнага фонда прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Летась у жніўні пабраўся шлюбам з аднагрупніцай – Веранікай Верамейчык, цяпер ужо Герасімавай.*

***А.:*** Я лічу, што мастак – мужчынская прафесія. Мой бацька казаў: "Жывапіс – самая раўнівая жанчына". У слабога полу – дзеці, яшчэ нешта... і ты выбіваешся з гэтай сістэмы! Як спартсмены. Спартсмен заўжды мусіць быць у добрай фізічнай форме, а мастак мусіць быць не толькі ў добрай фізічнай форме, але і ў добрай творчай. Гэта цяжка. Бо ў жанчыны ўсё роўна мусіць быць сям'я. І яна павінна клапаціцца пра сваіх дзяцей, пра сваю сям'ю. Раздзяляць творчасць, любоў, зарабляць нейкія грошы... Цяпер рэдка хто можа жыць проста за мастацтва.



*Алена БАРАНОЎСКАЯ і Віталь ГЕРАСІМАЎ.*

***В.:*** Вельмі важна, якое плячо ў сям'і знаходзіцца побач. Напрыклад, я ведаю цудоўна, што Алене трэба папісаць, трэба папрацаваць – і я дапамагу стварыць патрэбную атмасферу. У гэты час яна вельмі моцна канцэнтруецца і за гэты кароткі адрэзак выдае, колькі можа.

**Тонкі лірык Анатоль Бараноўскі і смелая рука Зоі Літвінавай**

*– Разглядаючы карціну, ці можаце вызначыць: хто ствараў – мужчына альбо жанчына?*

***В.:*** У мужчын бывае, што агрэсія проста прэ з палатна. У жанчын часам заўважаеш інфантыльнасць у працах. Я не супраць кветачак, вядома, але...

***А.:*** Але ў жанчыны ёсць такая асаблівасць: упрыгожыць і так прыгожае. А асабліва калі недастаткова мастацкага густу, то пачынаюцца нейкія "блёстачкі, каруначкі". Але, напэўна, гэта тычыцца толькі тых жанчын, якія не атрымалі добрую адукацыю. На гэтым жанчыны гараць вельмі хутка. Мужчына, канечне, не пачне там нейкімі блёсткамі ўпрыгожваць, фальгой. І нават калі будзе гэта ўносіць, то будзе ўсё ж нейк інакш выглядаць. А ўвогуле, я не сказала б, што мастацтва падзяляецца на мужчынскае і жаночае. Мужчыны бываюць вельмі тонкімі лірыкамі. Напрыклад, мой бацька. Яго працы чыстыя, крыштальныя. І сказаць, што гэта мужчына маляваў, вельмі цяжка.

***В.:*** А вось Зоя Літвінава, напрыклад. Яна па-мужчынску робіць. Але ўсё адно

нейкая цеплыня ёсць. І курсы цяпер не такія, як калі мы паступалі. Мала хлопцаў. Два-тры чалавекі паступіць – лічыцца ўжо добра.

*– І чаму сітуацыя цяпер такая?*

***А.:*** Зараз даволі меркантыльна настроеныя людзі. За жанчынай не стаіць такая задача – зарабіць шмат. І ведаеце, што самае цікавае, што мы і хацелі б узяць хлопцаў, але яны горшыя. Ну, немагчыма нават чатыры паставіць па малюнку! А адных дзяўчат таксама нельга набіраць. Жаночы калектыў – складаны калектыў. Па прыродзе закладзена: самка самку не вельмі любіць...

***В.:*** Невыпадкова хлопчыкі і дзяўчынкі разам вучацца, бо тады ідзе нармалёвае развіццё. У пэўны момант жанчыне складана выжыць у мастацтве, але калі яна ўжо там засталася, то і застанецца! І жыццё сваё абставіць адпаведным чынам.

**Для чаго ўвогуле мастацтва існуе?**

– Мая сяброўка хадзіла ў мастацкую школку-каледж, затым быў Універсітэт культуры... Маляваць яна любіць, але – амаль кінула гэтую справу. Дзяўчына не разумее, навошта сыходзіць у свае мроі і навошта ўвогуле гэтае мастацтва, калі можна проста гуляць у лесе, напрыклад, піць гарбату з жывымі людзьмі...

***А.:*** Мастак, я так думаю, не ставіць для сябе пытанне: для чаго гэта трэба? Вось яно, можа быць, нікому ні для чаго ўвогуле непатрэбна! У мастака маляваць – гэта такая ж неабходнасць, як папіць гарбаты. Сапраўдны мастак ніколі не задаецца пытаннем: каму гэта трэба? Для чаго гэта трэба? З такімі пытаннямі ён ужо не мастак. І што самае цікавае: калі гэта патрэбна мастаку, то заўжды знойдзецца той, каму гэта будзе патрэбна. Мастак не бывае самотны! Калі ён шчыры і не прыгінаецца ні пад чые густы...

***В.:*** Калі пасля сканчэння Акадэміі паназіраць гадоў дзесяць за выпускнікамі, то ўбачыце, што толькі адзінкі ўваходзяць потым у Саюз мастакоў і ўступаюць у творчае жыццё. Астатнія – нават калі добра вучыліся, нават калі добра малявалі, сыходзяць... Вельмі мала людзей, якія і надалей застаюцца ў творчасці. Але кожнаму чалавеку ёсць што сказаць. Ён для гэтага і з'явіўся на свет. Нехта праз музыку выказваецца, нехта праз жывапіс.

***А.:*** Раней, калі я яшчэ не выкладала, майстэрня была адзіным месцам працы. Вось ідзеш часам, а ў цябе запытваюцца: "А ты куды?" "А я на працу!" "У майстэрню? А што так апранулася, як на свята?" Калі на працу ходзіш, як на свята, гэта вельмі вялікая божая ласка. Ты ходзіш проста таму, што без гэтага ты не можаш... Потым едзеш на адпачынак, спачатку ўсё здарова, набіраешся ўражанняў, усё так шыкоўна... Але, ведаеце, нас з Віталём цягне не столькі дахаты, колькі папрацаваць!

*– А ці ёсць у вас студэнты таленавітыя, але ж лайдакі?*

***В.:*** Не скажаш, што паступаюць неталенавітыя. Толькі сярод таленавітых ёсць больш таленавітыя, а сярод больш таленавітых – яшчэ больш таленавітыя! Але чалавек яшчэ мусіць быць гатовы да гэтага жыцця. Многія проста ламаюцца, многім проста грошай не хапае на творчасць, а потым праходзіць час – і яны ўжо не могуць да яе вярнуцца. Талент – гэта справа няпростая. Ёсць доўгая дыстанцыя, і ты мусіш па ёй ісці, ісці.

***А.:*** Так прыродай закладзена. Таленавітых людзей шмат, але мастакамі становяцца далёка не ўсе. Мастакоў столькі, колькі трэба. Тут натуральны адбор. Выжывае толькі той, хто выжывае, каму сапраўды дадзена быць мастаком. Гэта праца – вялікая, цяжкая ва ўсіх адносінах. Можна быць таленавітым, а потым раз... і за сваё студэнцтва ўсё сказаў! І так бывае! "Я ўжо стаміўся... І паднадакучыла... Хочацца нечым іншым заняцца..." Напэўна, мастакоў ёсць столькі, колькі трэба!

Павал Абрамовіч



…на мой погляд, сучасны беларускі інтэлектуальны раман павінен быць менавіта пра… зыход чалавека – грамадзяніна і гараджаніна з паселішча, захопленага ўнукамі мордалысаўцаў, і заснаванне ім беларускага горада…

# Літаратура НЕ

***Раздзелы да ненапісанай кнігі***

## Іншы бераг літаратуры

У «Паэзіі і граху» – літаратурна-крытычным тэксце, створаным на памежжы рэцэнзіі і творчага партрэта, – Людміла Рублеўская шукала матывы і прычыны, па якіх Леанід Галубовіч больш не піша вершы[1]. Між іншым, заняткі літаратурнай дзейнасцю пакінуў у нас не адзін Галубовіч. І гэта сапраўды *масавая з'ява* ў Беларусі. А Галубовіч вылучыўся з усіх творцаў толькі тым, што абвесціў аб сваім сыходзе публічна, развітаўся з чытачамі кнігай.

### Вера паэта як брама

На сведамасць *учынка* Галубовіча красамоўна ўказвае назва ягонай кнігі паэзіі («апошнія вершы Леаніда Галубовіча»); аб тым, што ён сапраўды не парушыў дадзенага сабе і іншым слова, сведчыць наступны факт: з 2000-га года, часу выдання названай кнігі, Галубовіч не надрукаваў ніводнага верша. На думку Рублеўскай, жаданне паэта пакінуць твор-

[1] Рублеўская Л. Паэзія і грэх / ARCHE-Скарына. — 2000. — № 8.

часць выспела даўно. Абумоўлена яно самаадмаўленнем, адчуваннем уласнай непаўнавартасці, а таксама асэнсаваннем грахоўнасці самой паэзіі – гэтыя пачуцці вілі сабе гняздо ў душы Галубовіча доўгія гады. Як піша Рублеўская, «грэх слова – у тым, што яно – не дзеянне». Мастацтва грахоўнае яшчэ і таму, што творчы чалавек – усяго толькі паслухмяны выканаўца волі Ўсявышняга. Акром таго, мастацтва «не да канца жыццёвае», у той час як сам паэт заўсёды імкнецца, каб ягонае жыццё было сапраўдным, увасобленым, спраўджаным.

Магчыма, дадам ад сябе, вытокі канфлікта крыюцца ў тым, што *Галубовіч страціў веру ў свой дар*, у ягоную жыватворную моц. Канатаходзец, ён аднойчы зірнуў уніз, і спалохаўся. Так вышыня зрабілася недасягальнай, непераадольнай.

Сам Галубовіч кажа аб выгнанні:

Ты – боль, паэзія. Ты – бой.
Ты – праўды непрыступнай вежа.
Я – праведнік і грэшнік твой,
Пусці мяне ў сваё бязмежжа!..
*“Паэзія”*

Прамоўлена: «Шукайце ды знойдзеце»; Біблія поўніцца словамі аб магчымасці павяртання і даравання. Галубовіч не шукае, але *яшчэ верыць і моліць*, пачуваючыся так, быццам ад яго адракліся, быццам ён забыўся, дзе знаходзіцца ўваход на тэрыторыю паэзіі...

Спыніўшы літаратурную дзейнасць, Галубовіч працягнуў заняткі літаратурнамастацкай крытыкай. Відавочна, праз гэтую адтуліну ён бачыць краёчак высокага неба паэзіі і адначасова глыбей, праўдзівей спасцігае сябе. У адным з часопісных аглядаў Галубовіч сказаў, што «Паэзія патрабуе ўсяго Чалавека. Без астатку»[1]. І дадаў: на гэта здольныя адзінкі. І тут жа абмовіўся: «Праўда, калі даваць веры [тут і далей вылучана мною. – *П.А.*] таму, што Паэта абірае Бог, то сама асоба вершатворцы як бы губляе ўсякую героіку і пакутнасць, бо саступае месца непапраўнай наканаванасці, калі ад яго самога нічога ўжо не залежыць...».

Як бачна, Галубовіч у думках перабывае ў «бязмежнай» прасторы паэзіі. Аднак цяпер, заўважце, ён не вернік, не «праведнік і грэшнік», а ганарлівец, ён не моліць, а гаворыць дзёрзкасці і блюзнерыць, напэўна ведаючы пра немагчымасць і нежаданне свайго павяртання на радзіму.

Галубовіч стаўся першым беларускім творцам, які публічна абвесціў аб спыненні літаратурнай дзейнасці і сапраўды здолеў зрабіць гэта, назаўжды адмовіўшыся ад паэзіі. Перафразуючы Міхася Стральцова, Галубовіч мог бы сказаць: «Я засцярогся ад бяды – бо прамаўчаў»[2]. Адзінаццаць гадоў без вершаў – надзейны таму доказ. Яго больш няма сярод вас, паэты!

## Маўчанне – золата

Прачытаўшы кнігу-эсэ іспанскага пісьменніка Энрыке Віла-Матаса «Бартлбі і кампанія»[3], дзе на шырокім дакументальным матэрыяле даследуецца, чаму літаратары пакідаюць пісаць кнігі, я пэўны, што *Галубовіч сваё маўчанне ўзняў да самага важкага слова.*

Так, знешне здаецца, што Галубовіч ператварыўся ў звычайнага чалавека – о, недасяжная мара Гары Галера, персанажа «Стэпавага ваўка», які жадаў сядзець на

---

[1] Галубовіч Л. Недавершаная Беларусь / Дзеяслоў. — 2003 — № 2.

[2] Гаворка ідзе аб фінальных радках апавяданьня Міхася Стральцова «Смаленне вепрука»: «У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама. О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды — бо сказаў. Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг».

[3] Вила-Матас Э. Бартлби и компания. — Москва, Иностранка, 2007. — 207 с.

лесвіцы, падалей ад сваіх кніг і інтэлектуальных заняткаў, і любавацца геранню ў гаршках! Але насамрэч Галубовіч, змоўкнуўшы назаўжды, дасягнуў тым самым *лагеру літаратуры «Не»*, у якім, па меркаванні Віла-Матаса, нараджаецца мастацтва будучыні. Якое тое мастацтва? У чым ягоная сутнасць і сэнс? Літаратары, якія ведаюць, маўчаць. Мы ж з вамі – на іншым беразе.

Адны пісьменнікі, сцвярджае аўтар «Бартлбі і кампаніі», апынаюцца ў гэтым месцы, бо яны – «хітрыя лісы». (Чытачы чакаюць новых кніг, але «хітрыя лісы» перакананыя, што чытачы на самой справе чакаюць новых дрэнных кніг, і таму захоўваюць маўчанне, жадаючы ўсіх перахітрыць, і гэта ў іх атрымліваецца.) Другія, асэнсаваўшы свае магчымасці і майстэрства, усведамляюць, што літаратура – «занадта простая гульня» (словы Хорхэ Луіса Борхеса аб Энрыке Банчса – аргентынскім паэце, які змоўк на 57 гадоў). Трэція пісьменнікі раптоўна з жахам разумеюць, што займаліся літаратурай праз славалюбства і з грэблівасцю назаўжды спыняюць гэтыя заняткі – шчырасць вышэй за ўсё! Чацвёртыя пісьменнікі аднойчы ўспрымаюць літаратуру як праклён і пачынаюць шалёна яе ненавідзець, каб потым змоўкнуць, адпомсціўшы ёй за сваю маральную паразу. Пятыя ведаюць месцазнаходжанне лагера літаратуры «Не», але застаюцца тут, *на баку прамоўленай літаратуры*, аплочваючы гэта рэгулярнымі прыступамі болю, сіндромам Бартлбі – падобна Францу Кафку, які мог усе выходныя разглядаць свае пальцы і думаць аб велічы Гётэ і не напісаць ніводнага радка, а заўтра ж рана ўставаць і ісці ў клятую канцылярыю! Шостыя пераходзяць на іншы бераг, бо зведалі тое ж, што і Сюзан Зонтаг: «Па-сапраўднаму значная дзейнасць – тая, якая разумее мастацтва як сродак для дасягнення чагосьці, хоць, магчыма, дасягнуць мэты можна, толькі развітаўшыся з мастацтвам».

Шматлікімі шляхамі сыходзяць пісьменнікі ў край літаратуры «Не»...

## Свой сярод сваіх

У выпадку з Галубовічам не было халоднага, спакойнага развітання – была барацьба, і страх быў, і няўпэўненасць, і расчараванне, і ганарлівасць, і бязвер'е таксама былі... А яшчэ – неўтаймаваная прага расказаць іншым аб сваіх пакутах і складаным выбары, аб чым красамоўна сведчаць ягоныя апошнія вершы – тады, адзінаццаць гадоў таму, і літаратурна-крытычныя артыкулы – цяпер: «Ці сёння ёсць яшчэ тыя, хто піша нятленныя творы для вечнасці?! Пакажыце мне хоць аднаго такога геніяльнага вар'ята!»[1].

Дзеля справядлівасці адзначу, што ўжо ў першых пяці «максімумах» кнігі Галубовіча «Зацемкі з левай кішэні» (1998) праўдзіва сказана галоўнае: аднойчы я змоўкну як паэт: «Паэзія ні пра што не гаворыць. Яна гаворыць за нешта ці за некага. Альбо – маўчыць... Яна можа гаварыць за ўсё і за ўсіх, апроч Бога, бо Ён і ёсць Слова. А што можа сказаць Слова пра Сябе? Яно схаваецца за іншымі словамі, тым самым сцвярджаючы сваё Адзінства ў мностве...»[2]. Ці вось яшчэ – прымерванне адзёжаў знікнення і маўчання на сабе: «Я стаю за тваімі вейкамі – ты не бачыш мяне... (радок з ненапісанага верша)»[3]. Звярніце ўвагу на гэтыя словы: «паэзія... гаворыць... альбо маўчыць...». Значыцца, ужо ў 1998 годзе Галубовіч даведаўся аб існаванні іншай літаратуры – «нямой» паэзіі, аб чым таксама сведчыць дадзены радок з ненапісанага верша – як бачна, паэт пакрысе адмаўляўся запісваць вершы на паперы, лічачы гэта непатрэбным, неістотным заняткам.

Віла-Матас цытуе ў сваёй кнізе іспанскага пісьменніка, журналіста Ігнасія

[1] Галубовіч Л. Недавершаная Беларусь / Дзеяслоў. — 2003 — № 2.
[2] Галубовіч Л. Зацемкі з левай кішэні. — Менск: БГАКЦ, 1998. — 220 с.
[3] Там жа.

Відаль-Фольча: «Перад чалавекам, які адораны мастацкім складам розуму, але вырашыў не даваць волі сваім талентам, ляжаць два шляхі: адзін – лічыць сябе няўдачнікам <...>, другі, абіраемы значна радзей, што быў сфармуляваны калісьці ўсходнімі мудрацамі і патрабуе свайго роду духоўнай рафінаванасці, – гэта шлях <...> заснаваны на адмове без жалю ад дэманстрацыі ўласных магчымасцяў; выбар другога шляху можна лічыць прыкметаю асаблівага духоўнага арыстакратызма; і калі чалавек саступае гэтай унутранай патрэбнасці <...> значыцца, у ім ёсць нешта боскае».

Паэт Янка Лучына інсцыніраваў на ганку гарадскога тэатра паралюш і ўстаў на мыліцы, каб застацца ў Менску і пісаць вершы[1]. Галубовіч палічыў паэзію за мыліцы – і адкінуў іх, і пайшоў далей, ступаючы лёгка і свабодна.

### Скаваныя маўчаннем

Падумаўшы крыху, вы самі зможаце назваць шэраг імёнаў беларускіх творцаў, якія альбо канчаткова пакінулі літаратуру, альбо рыхтуюцца зрабіць гэта. Так, раптам змоўк Андрэй Дынько – таленавіты апавядальнік (ягоныя навелы друкаваліся ў «Нашай Ніве» і «ARCHE»). Чаму так сталася? Ігар Бабкоў выдаў раман «Адам Клакоцкі і ягоныя цені» і знік як празаік на цэлае дзесяцігоддзе. Дзе быў празаік гэтак доўга, ці назаўсёды ён вярнуўся да нас? «Хітры ліс» Уладзімер Арлоў перавыдае свае старыя апавяданні і вершы (сапраўды, што можа быць лепей за старое віно?), імітуючы бурлівую літаратурную дзейнасць, а на ўсе пытанні чытачоў і крытыкаў каторы год сур'ёзна адказвае, што праца над раманам пра беларускага паўстанца, які ён нават сніў, ідзе не гэтак шпарка, як жадалася б...

Ніхто з беларускіх літаратараў, якія дасягнулі іншага берага літаратуры, не прызналіся і не прызнаюцца ў гэтым. «Тайна великая сия есть». Дый і навошта тлумачыць нешта, калі чытачы ўсё адно не здолеюць зразумець галоўнага – ім толькі новыя кнігі давай, быццам літаратар стаіць ля канвеера на шакаладнай фабрыцы. Крытыкам жа цяжка зразумець шматграннасць і сур'ёзнасць гэтай з'явы. Адзін толькі Галубовіч, якога цяпер ніяк не назавеш яскравым прадстаўніком так званай пісьменніцкай крытыкі, працягвае, тым не менш, пісаць літаратурна-крытычныя артыкулы, адрасуючы іх пераважна творцам мастацкіх каштоўнасцяў і тлумачачы ім важнасць непісання. Прыслухайцеся да ягоных словаў: «На мой неабавязковы погляд, беларусы будуць пісаць свае вершы ажно да той пары, пакуль, у рэшце рэшт, не АДБУДУЦЦА і не стануць САМАДАСТАТКОВЫМІ нацыяй, народам, дзяржавай...»[2].

Таленавітых пісьменнікаў, якія не пішуць, у Беларусі за апошнія дзесяцігоддзі значна паболела. Магчыма, пакуль мы чытаем новыя кнігі, у невядомых далячынях вялікімі «молчальниками» ствараецца мастацтва будучыні, закладаецца канон новай беларускай літаратуры.

*8 снежня 2010 года*

## Кніга як унутраная справа

***Марціновіч, В. Сцюдзёны вырай / 34mag.net, 2011. – 303 с.***

### Абыякавасць караецца смерцю

Пачну з таго, што «Сцюдзёны вырай» – гэта тэкст-гільяціна.

Канструкцыя кнігі дазваляе адразу выдаліць Выпадковага (Масавага) Чытача, якога прывабіла магчымасць бясплатна і ў розным выглядзе спампаваць новы раман «таго самага Віктара Марціновіча, які калісьці напісаў кнігу пра палюбоўніцу

[1] Дубавец С. Чалавек тугі. Вытлумачэньне Янкі Лучыны / ARCHE. — 2001. — № 6.
[2] Галубовіч Л. Недавершаная Беларусь / Дзеяслоў. — 2003 — № 2.

Лукашэнкі». Пачатак першай часткі нагадвае пастку: ён пераконвае Выпадковага Чытача ў тым, што да апошняй старонкі яму будуць расказваць пра экзатычныя прыгоды хлапца, які напачатку кнігі шукае нейкі мастацкі музей. Выпадковаму Чытачу робіцца сумна і нецікава: драйву ў рамане замала, страляніны й эротыкі няма, звароты аўтара да свайго рэдактара, пададзеныя ў дужках, – незразумелыя і недарэчныя. Ён не хоча ў музей. Але на старонцы 25-й утрымліваецца абяцанне, быццам аўтар зараз дасць нерв «абыякаваму чытачу, які ніяк не ўцяміць, пра што наогул гэты аповед». Выпадковы Чытач усцешаны. Ён праглядае яшчэ з дваццаць старонак і, не знайшоўшы абяцанага нерву, а толькі новага нервовага персанажа, які таксама шукае той кляты музей, выдаляе раман са словамі «Лухта нейкая» і ідзе на форум «Нашай Нівы» ці ў твітэр, каб хутчэй пакінуць «перванах» альбо ёміста, з «веданнем справы», выказацца пра «Сцюдзёны вырай».

Небарака, ён нават не адчуў імгненнае шуханне гільяціны, лязом якой быў адсечаны ад усіх патаемных сэнсаў кнігі. Пакаранне Выпадковага Чытача, пазбаўленага кніжнай празорлівасці і пачуцця гумару, – *прафесійны поспех Марціновіча* ў «Сцюдзёным выраі». Чытацкія масы, канечне, будуць на форумах плявузгаць пра кнігу, але яны яе не (пра)чыталі, не зразумелі. Баласт скінуты, аўтару ён не патрэбны. Недаравальная пагарда, дарэчы, з боку літаратара, які ўпершыню піша па-беларуску і які апрыёры мусібыць удзячны кожнаму чытачу! Аднак свой новы раман Марціновіч адрасаваў не ўсім, хто тут жыве і яшчэ чытае, а 300-м айчынным інтэлектуалам, адным ім. І яны, безумоўна, з першых старонак рамана звярнулі належную ўвагу на добрыя навігатарскія здольнасці Марціновіча ў акіяне беларускай мовы; ягоныя лексічныя здабыткі і рознакаляровыя моўныя асацыяцыі; уменне спалучаць рэалістычныя і мадэрнісцкія прыёмы, якое паранейшаму лічыцца экзотыкай у беларускай літаратуры. Галовы інтэлектуалаў засталіся на плячах, і яны крочаць цяпер з Марціновічам, няспешна сузіраючы складаныя механізмы ягонай кнігі і ўважліва гледзячы пад ногі, каб не трапіць у якую-небудзь пастку, не праглядзець ключ.

## У крытыкаў мову заняло

Акром пакарання Выпадковага Чытача, Марціновіч зладзіў яшчэ адну карную аперацыю, скіраваную супраць літаратурных крытыкаў.

«Сцюдзёны вырай» пабудаваны такім чынам, што любы дотык да знешніх частак кнігі непазбежна ператварае крытыка ў так званага спойлера – чалавека, які заўчасна раскрывае важную інфармацыю пра мастацкі твор і тым самым псуе ўражанне ад яго. А такіх людзей ніхто не любіць, канечне, акром памерлага Выпадковага Чытача. Як крытык я магу свабодна сказаць, што ў «Ніжніх Байдунах» Янкі Брыля апісваецца жыццё аднавяскоўцаў пісьменніка, а ў рамане «Літоўскі воўк» Алеся Наварыча – паўстанне Каліноўскага. Аднак такія ж два-тры караценькіх словы, прамоўленыя ў адказ на заканамернае пытанне чытачоў «Аб чым новая кніга Марціновіча?», перарабляюць мяне ў заклятага ворага тых, для каго я пішу. Міжволі прыгадваецца здзеклівая (у дадзеным кантэксце і сэнсе) фраза з прамовы да «Сцюдзёнага выраю»: «Зрэшты, любы ўдалы тэкст у першую чаргу гэта злепак пэўнай манеры мыслення, пісання, маўлення і толькі ў другую – уласна сюжэт». Таму я, трапіўшы пад дыктат волі аўтара, мушу дыпламатычна сказаць у гэтай сваёй рэцэнзіі, што *новы раман Марціновіча – аб мове*, а таксама – тут я раблю крок па крохкім лёдзе застыглага цярпення чытача – аб выяўленні сувязяў між групай тэкстаў і аднаўленні іх аўтарства.

Аўтар «Сцюдзёнага выраю», імкнучыся да поўнай ізаляцыі тэксту ад большасці, дасягнуў мэты і на другім узроўні: *свабодна даследаваць раман і пісаць аб ім у цішы сваіх кабінетаў могуць толькі навукоўцы*, прыкладам, лінгвісты. Іх праца, у сваю чаргу, таксама будзе адрасаваная адзінкам. Крытыкам, як той казаў, застаецца

толькі стаяць па перыметры і ляскаць зубамі. Ці ўсё-ткі наважвацца заходзіць на чужую тэрыторыю і аналізаваць на свой лад альбо здольнасці Марціновіча ладзіць лінгвастылістычныя гульні, альбо ягоныя літаратурныя прыёмы, засвоеныя ў мадэрністаў, у тым ліку згаданае мною пагрозліва-раздражнёнае абяцанне ці то аўтара, ці то персанажа, ці то рэдактара: «Зараз, зараз, міленькі! Зараз будзе табе нерв!», альбо па-журналісцку жвава цытаваць тыя кавалкі з рамана, дзе Марціновіч кпіць з сябе, беларускай літаратуры ці раздае аплявухі (квазі) класікам: «Тут былі чорныя кнігі памукаў, былі мяне завуць чырвоны памукаў, быў музей цнатлівасці памукаў і нават снег памукаў. Здаецца, нічога іншага ў гэтай кнігарні не было, хаця ў завуголлях корпалася трохі акуніных ды яшчэ раскінуў свае прагныя лапы Дэн Браўн».

## Крышачку «Параноі»

Нягледзячы на анталагічнае непадабенства двух тэкстаў – адрознасць іх моваў, а таксама задач, якія ў часе працы над раманамі ставіў перад сабою аўтар, «Сцюдзёны вырай» можна параўноўваць з «Паранояй», праводзіць паралелі між імі. Што найперш кідаецца ў вочы?

У сваім новым рамане Марціновіч паглыбіў мастацкія здольнасці *ў тварэнні атмасферы страху і пераследу*. Хоць «БелГазету», як ні дзіўна, улады ніколі не чапалі, Марціновічу як беларускаму журналісту, намесніку галоўнага рэдактара гэтатага штотыднёвіка добра вядома пра «адценні» параноі – астатняе пра хваробу ён праўдзіва навыдумляў як літаратар. Аўтар «Сцюдзёнага выраю» працягвае ствараць удалыя, адначасова гратэскныя і псіхалагічна дакладныя, вобразы супрацоўнікаў спецслужбаў. Апошнія ў Марціновіча па-ранейшаму з'яўляюцца прыхільнікамі мастацтва (узгадаем міністра дзяржбяспекі Мураўёва з «Параноі», які наведваў філармонію і сам граў на фартэпіяна), іх эстэтычны густ значна пераўзыходзіць густ прататыпаў. (Відаць, Віктар, як і многія беларускія інтэлектуалы, падсвядома прагне ворага-эстэта з высокім IQ, якога аніяк не можа спарадзіць найноўшая беларуская гісторыя.) Нікуды не зніклі фірмовы гумар і авантурна-прыгодніцкі складнік рамана, горад як месца дзеяння (тады быў Менск, цяпер Стамбул і Вільня), саладжава-меладраматычнае каханне для чытачак-дзявуль і любоўны трохкутнік – у «Сцюдзёным выраі» ён набыў, скажам знарок няўцямна, еўрапейскія формы. Ізноў у рамане блукае дух Набокава – што праўда, раней Марціновіч пазычаў у класіка ўсё без разбору, нават канструкцыю празаічнага радка.

Дэбютны раман Віктара мне спадабаўся найперш за высокатэхнічную арганізацыю жыццёвага і пісьменніцкага матэрыялаў, спалучэнне мастацкага і публіцыстычнага стыляў, сучасную абалонку, трапныя назіранні, і я буду зрэдчасу яго перачытваць. А вось ягоны другі раман з беларускамоўным паветрам, які прысвечаны *выключна таямніцам мовы й аўтарства*, я буду працягваць вывучаць і разгадваць, паглыбляючы свае веды і тэксты.

## Другі дэбют аднаго пісьменніка

У 2009 годзе адбыўся «круглы стол», на якім Марціновіч быў вымушаны апраўдвацца за ўсю расейскамоўную літаратуру Беларусі[1]. «Жым быў жэстачайшы» – некаторыя з прысутных і большая частка непрысутных на «круглым стале» «нацдэмаў» фактычна адмовілі Марціновічу і Компані ў праве на існаванне, высунуўшы ўльтыматум: *хочаш звацца беларускім пісьменнікам – пішы па-беларуску*.

[1] Гл.: Драпежныя вавёркі беларускага лесу: актуальныя праблемы сучаснай літаратуры / ARCHE. — 2009. — № 10.

Довады другога боку да разгляду прымаліся, але заставаліся без увагі, быццам на судах над апазіцыянерамі.

Няма сумневу, што Марціновіч балюча перажываў сваю адрознасць і дзякуючы такім вось мерапрыемствам толькі паглыбляў свае комплексы, якія страшэнна замінаюць пісьменніку ў часы працы й адпачынку. Аднак ён здолеў аддзяліць ад сябе пакрыўджанага знявагай чалавека, перамагчы параною. За працоўным сталом застаўся творца, які ўзяўся за абсалютна новую для яго працу з радасцю і натхненнем. «Адзіная прычына, па якой я ваяваў з гэтым сюжэтам, падаючы яго па-беларуску, – запэўнівае ў прадмове Марціновіч, – у тым, што ні на воднай іншай мове свету ён пададзены быць не можа». На маю думку, кнігу сапраўды немагчыма было напісаць ні на адной мове свету – *яна цікавая толькі беларусам, тычыцца адных іх*. А паколькі ён (сюжэт) абраў Марціновіча, і аўтар здолеў атрымаць перамогу над моваю і тэкстам, яго сапраўды можна лічыць беларускім пісьменнікам.

Welcom у сцюдзёны вырай, Віктар!

*22 чэрвеня 2011 года*

## Збіць дыханне мордалысаўцаў

### Аказваецца, тэма непапулярная

У газеце «СБ – Беларусь сегодня» (№ 153, 2011) крытык Людміла Рублеўская апублікавала артыкул «Сена на асфальце», у якім паспрабавала адказаць на пытанне, «будет ли у белорусской деревенской прозы второе дыхание». Публікацыя пабудаваная на багатым фактычным матэрыяле, у ёй праведзеная літаратуразнаўчая праекцыя, дзякуючы якой чытач газеты можа даведацца аб супрацьстаянні беларускай вясковай і гарадской прозы, зразумець, што ў першую чаргу праблема абумоўленая *канфліктам двух менталітэтаў пісьменнікаў*.

Разам з тым Рублеўская, выступаючы са старонак газеты – рупара адміністрацыі прэзідэнта, схавала сутнасць канфлікту і, маючы на мэце прымірыць усіх і ўся, не сказала нічога новага, ухілілася як аўтар праблемнага артыкула ад абмеркавання гэтага фундаментальнага, лёсавызначальнага для нашай літаратуры пытання. Паказальна, што калі Рублеўская «попросила порассуждать на тему сегодняшнего и завтрашнего дня деревенской прозы литераторов разных взглядов и разных поколений», то «как я и *ожидала* [выдзелена мною. – *П.А.*], даже сама эта тема сегодня непопулярна, и многие просто отказывались участвовать в дискуссии». А вось тут хлусня, няўмела прыхаваная крытыкам: калі ты, прымудроны жыццёвым і літаратурным вопытам чалавек, свядома абіраеш тэму, якую лічыш актуальнай і якая сапраўды такой з'яўляецца, то ўжо ніяк нельга чакаць, што многія інтэлектуалы адмовяцца прымаць удзел у дыскусіі праз яе непапулярнасць. Адказ «не» ад сваіх рэспандэнтаў Рублеўская чула гэтак часта менавіта таму, што праблема існавання беларускай вясковай прозы і яе ўзаемаадносінаў з гарадской прозай вострая да такой ступені, што гэтыя «многія» вырашылі загнаць яе ў сваю падсвядомасць глыбей, *ніколі не абмяркоўваць прылюдна*.

### Мордалысава – наша Беларусь?

Вядомае апавяданне «У лазні» Максіма Гарэцкага, напісанае амаль сто гадоў таму. Менавіта ў ім, на мой погляд, упершыню ў беларускай літаратуры ёміста ажыццёўленая пастаноўка праблемы, якая ў далейшым будзе дзесяцігоддзямі раздзіраць душы нашых пісьменнікаў і не знаходзіць выйсця: ці можа інтэлігент, які выйшаў з народнага асяроддзя, з ранейшай сілай і шчырасцю любіць і па-

важаць аднавяскоўцаў? Ці здольны ён, гараджанін у першым пакаленні, і далей гарманічна адчуваць сябе часткай цэлага?

Праблема Гарэцкім пастаўленая, а вось рашэнне яе *залішне літаратурнае*, выдуманае, нелагічнае для рэалістычна выпісанага ім у аповедзе свету. Паколькі сам пісьменнік, плоць ад плоці сялянскага космасу, у канцы апавядання не вытрымлівае эмацыйнага напружання, пушчанага па дратах свайго сэрца. У выніку Гарэцкі сваімі рукамі тушыць вогнішча канфлікту і кідае попел у вочы чытачам.

Так, галоўны герой аповеду, выпускнік каморніцкага вучылішча Клім, шчыра ўважае за свінняў «бадай усё Мордалысава» (нічога не скажаш, вельмі «красамоўны» назоў даў пісьменнік літаратурнаму двайніку роднай вёскі, ды да таго ж рэальна існы![1]). У час наведвання родных месцаў Клім толькі і чуе ад аднавяскоўцаў зласлівыя жарты на свой адрас ды грэблівыя слоўцы «запанеў», «запышэў», «гардзіцца». А ўся ж віна юнака толькі ў тым, што захапіў з сабой з горада, дзе вучыцца, кнігі! Наіўны, Клім лічыў, быццам сялянам будзе цікава даведацца, што напісана ў тых кнігах, што яны здольныя зірнуць крыху вышэй за саламяныя дахі. У канцы апавядання Гарэцкі, сыходзячы ад рашэння занадта асабістага пытання, праецыруе пачуцці і эмоцыі свайго галоўнага персанажа, за якім бачны сам аўтар-дэбютант, *у абсалютна іншую, вышэйшую, сферу*: не любіць аднавяскоўцаў з гэтага часу азначае для Кліма не любіць Радзіму. (Сімвалічна, што дзень прыняцця юнаком гэтага рашэння ў аповедзе «выпаў» на 31 снежня, пярэдадзень Новага года.) Сама магчымасць нялюбасці Беларусі страшыць Кліма дзіка, і таму ён прымае мордалысаўцаў такімі, якімі яны ёсць, раз і назаўжды адаптуе пад іх свае зрок і мысленне, паляпшаючы[2], на яго погляд, апошнія.

Жахлівы па сваіх наступствах эксперымент!

«Здраднік» – менавіта так, па ўзаемнай згодзе аўтара і героя, якія дамовіліся не заўважаць у свеце/творы *ідэйна-эстэтычнай падробкі*, павінен называцца інтэлігент, адарваны ад сваіх каранёў і ад пропаведзяў вясковага ўкладу жыцця. А таму, пісьменнік-гараджанін, любі і паважай мордалысаўцаў, як самога сябе, а калі бачыш вакол адны свіныя лычы замест асобаў і збіраешся пісаць пра гэта, то рызыкуеш праславіцца ненавіснікам усяго беларускага[3].

Апавяданнем «У лазні» быў пакладзены пачатак жудаснаму комплексу нацыянальнай літаратуры, непапраўнаму вывіху свядомасці нашых пісьменнікаў. *Паверыўшы і прыняўшы*, Максім Гарэцкі адначасова замацаваў на паперы «сімвал веры» беларускай літаратуры вясковага напрамку, узброіўшы яе на бітву з гарадской літаратурай надзвычай пераканаўчымі па сіле аргументамі.

## Гарады без гараджанаў

Разам з палітычнай адлігай ў СССР з'явілася магчымасць больш-менш адкрыта абмяркоўваць літаратурныя праблемы. І вось прадстаўнік пакалення шасцідзясятнікаў Міхась Стральцоў пачынае выкарыстоўваць у сваіх тэкстах тэрмін «сена на асфальце» для абазначэння інтэлігентаў у першым пакаленні, настальгуючых па вёсцы. Тым самым Стральцоў праз паўстагоддзя пасля напісання апавядання-маніфеста «У лазні» фіксуе не толькі безгрунтоўнасць

[1] Гл., у прыватнасці: http://vabank.by/index.php?id=1635.

[2] У канцы апавядання, нагадаю, Клім адказвае «Палепшаіць» на пытанне бацькі, ці не захварэла ў яго галава пасля лазні.

[3] «А грэх мне казаць «дурацкае», дзе толькі цемната», — шчыра пілуе сябе Клім. Услед за ім гэтаму згубнаму для душы і веры занятку будуць аддавацца сотні беларускіх літаратурных персанажаў, што шчыра лічаць сябе недабеларусамі ў адрозненне ад тых «сапраўдных» беларусаў, каму «цемра» дадзеная адвеку стагоддзяў і хто не збіраецца «прасвятляцца» нават у другім дзесяцігоддзі XXI стагоддзя.

беларускай гарадской прозы, яе штучнасць, безжыццёвасць, прамую залежнасць ад сялянскага ідэалу, але, галоўнае, адсутнасць волі беларускага інтэлігента ў стварэнні новага мастацкага і жыццёвага ідэалу, уплыве на нацыянальны і гістарычны лёс. Стварэнне паўнакроўнага гарадскога рамана ў Беларусі зноў адкладаецца – пісаць яго няма каму і не для каго, бо ў беларускім горадзе, як я ўжо адзначаў раней, амаль няма сапраўдных гараджанаў[1]. Першынство вясковай тэматыкі і вяршэнства селяніна трывала замацоўваецца ў свядомасці беларускага грамадства, забяспечваючы пісьменнікам літаратурную славу і яднанне з народам, а літаратуразнаўцам, крытыкам і журналістам, якія абслугоўваюць іх, – навуковыя званні і кар'ерны рост.

Між тым, самі вёскі імкліва пусцеюць. Захопленыя самімі сабой, уласнымі эгаістычнымі перажываннямі і жаданнямі – ах, каб жа з'ехаць у вёску на тыдзень ды пакасіць, ды на заход сонца паглядзець! – знаходзячыся ў палоне комплексаў і ілюзіяў, не здзяйсняючы ніякай унутранай працы па духоўнаму перараджэнню, пераасэнсаванню саміх сябе ў новых рэаліях, *не жадаючы культываваць дысцыпліну і цывілізацыю*, беларускія пісьменнікі і не заўважылі, як вёска са сваім ідэалам і ўкладам пераехала да іх, у непатрэбныя, неабжытыя нашымі інтэлектуаламі гарады, дзе, абабіўшыся ў сытасці і дастатку, абвясціла канон «чаркі і шкваркі», а затым абрала сабе ідэальнага кіраўніка і ахрысціла нешматлікіх гараджанаў недачалавекамі, здраднікамі Беларусі.

«Сапраўдны мінчанін, – сказала мне неяк Г., – я проста ўпэўненая ў гэтым, марыць з'ехаць з горада, пакінуўшы яго гэтаму быдлу, якому тут так добра і прывольна жыць. Некаторыя мае знаёмыя ўжо з'ехалі ці сур'ёзна падумваюць аб такім рашэнні».

На мой погляд, сучасны беларускі інтэлектуальны раман павінен быць менавіта пра гэта. *Пра зыход чалавека – грамадзяніна і гараджаніна з паселішча, захопленага ўнукамі мордалысаўцаў, і заснаванне ім беларускага горада.* Хутчэй за ўсё, гэта будзе ўтопія, але сутнасць не ў жанравай прыналежнасці, а ў тым, што са з'яўленнем такога літаратурна-мастацкага тэксту будзе кінуты выклік ідэолагам і прыхільнікам вясковай прозы, абвешчаная магчымасць нацыянальнага абнаўлення і адраджэння сапраўднай беларускай літаратуры, у чым мы ўсе так сумняваемся сёння.

*13 жніўня 2011 года*

---

[1] Абрамович П. Тоска по белорусскому роману: истоки (http://paval-abramovi4.livejournal.com/31833.html).

Ірына Шаўлякова



...асноўная лінія лёсу кнігі:

аўтар — чытач...

# Рэпетыцыя “ўлазінаў” у метафізіку выгнання

***Сямёнава, А. У святой краіне выгнання: імпрэсіі, адлюстраванні. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 488 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 10).***

Выгнанне (прынамсі, “метафізічнае”) для беларускага літаратара найноўшае пары – стан натуральны.

Беларускі літаратар, творчае сталенне якога прыпадае на цяперашні этап так званай Новай літаратурнай сітуацыі[1], выгнаннікам не становіцца, але “нараджаецца”.

Па зразумелых прычынах не здзіўляе і тое, што многія прадстаўнікі пакалення “Тутэйшых” (якое адначасова спрыяла ўрэчаўленню згаданай сітуацыі – і ў ёй “нараджалася” як культурна-мастацкі феномен) яшчэ ў 1990-х – пачатку 2000-х “лёгка” асвойталіся ў размаітых версіях “эмігранцтва”. Згадаем, напрыклад, драматычную паэму Людмілы Рублеўскай “Апошнія гастролі Агасфера” (1993), адзін з цэнтральных персанажаў

[1] Маюцца на ўвазе прыкладна два — два з паловай апошнія дзесяцігоддзі, паводле прац В. Акудовіча, Г. Кісліцынай і інш.




якой з саркастычнай "зухаватасцю" зазначае: "Як весела – радзіму памяняць! // Не мець ніякай — боская ідэя!". Альбо прыгадаем лірычнага героя паэмы Алеся Бадака "Эміграцыя" (увайшла ў зборнік "Маланкавы посах" 2004 года), для якога быць "душой у эміграцыі" — адначасова калектыўная літаратурная спадчына — і асобаснае волевыяўленне, прымірэнне з залежнасцю ад Долі — і ўпарты ціхі бунт супраць яе: "Я не хацеў вяртацца больш назад, // Да лёсам неацэненае працы, // Да векам напрыдуманых пасад. // Хто я цяпер? Звычайны эмігрант — // Не плоццю, а душой у эміграцыі".

Што тычыцца старэйшага літаратурнага пакалення, то вострае перажыванне яго прадстаўнікамі сваёй "ачужанасці" ў хаосе літаратуры і культуры так званага пераходнага перыяду, на першы погляд, лагічна вытлумачваецца "ўзроставым" абвастрэннем пасэізму, калі мінулае — асабістае і мастацкае (творчае) — успрымаецца больш сапраўдным, больш жывым за сучаснасць. З гэтага пункта гледжання добраахвотнае "*выгнанніцтва*" многіх старэйшых беларускіх пісьменнікаў з "сёння" ў "калісьці" (пра што сведчаць вершы, паэмы, лірычныя запісы, аповеды, раманы, эсэ, іншыя творы канца XX — першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя) паўстае не выракам, але Выраем, ратавальнымі ўцёкамі ў "віртуальную" маладосць ад рэальнага, фізічна адчувальнага наступу нябыту.

Аднак у *самай* новай беларускай літаратурнай сітуацыі ўяўная празрыстасць ці не любых вытлумачальных мадэляў аказваецца крохкасцю. Агульныя развагі пра знешнія і ўнутраныя прычыны "самавыгнанніцтва" старэйшага пакалення з эстэтычна і маральна "чужой" ("чужынскай") сучаснасці аўтаматычна выяўляюць уласную павярхоўнасць, калі справа даходзіць да "дэталізацыі" — асэнсавання індывідуальнай гісторыі "пазаэпохавага" існавання канкрэтнага творцы. Надзвычай яскравае пацвярджэнне — кніга Алы Сямёнавай "У святой краіне выгнання", "юбілейнае" (дзясятае) выданне заснаванай у 2009 годзе "Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»".

Валянцін Акудовіч у лекцыях больш чым дзесяцігадовай даўніны разважаў пра тое, што беларуская літаратура жыла (і, зазначым, працягвае жыць) у "тэмпаральна іншым ад агульналітаратурнага часе"; гэты "апрычоны" час "не супадае з глабальным часам еўрапейскай літаратуры", "рэальна прысутнічае ў літаратурным працэсе і дыктуе яму эстэтычныя формы адлюстравання ўласнай тэмпаральнасці"[1]. Для мяне і сутнасць феномена творчасці Алы Сямёнавай, і загадкавасць асобы Альбіны Іванаўны Сямёнавай найбольш выразна высвечваюцца якраз у метафары "апрычонасці", памножанай на... "апрычонасць", гэткай "апрычонай апрычонасці". "Час" гэтага творцы і, шырэй, створаная пісьменнікам філасофска-мастацкая часапрастора, "аўтарскі хранатоп" ёсць феноменам арыгінальнага, а, галоўнае, *плённага* несупадзення з тэмпаральнасцю кантэксту і вонкавага ("тамтэйшага"), і ўнутранага ("тутэйшага").

Менавіта з гэтай прычыны *рэцэнзаванне* кнігі "У святой краіне выгнання" па канонах айчыннай крытыкі — як зборніка тэкстаў/твораў, — будзе мець вынік чыста "фармальны", паводле выніковасці аналагічны намаганням літаратурнай журналістыкі адшукаць "трэшавы гламур", напрыклад, у посткаланіяльных доследах Ігара Бабкова.

Ускоснае пацвярджэнне гэтаму меркаванню знаходзім у тэксце "«Аддавайся жыццю светланосна!». Ніна Мацяш", дзе можна адшукаць своеасаблівы "аўтапартрэт

[1] Цыт. паводле: Акудовіч, В. Уводзіны ў Новую літаратурную сітуацыю. Лекцыя першая / В. Акудовіч. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://bk.baj.by/lekcyji/litaratura/akudovicz01.htm/ — Дата доступу: 10.06.2011.

крытыка”: “Тут, магчыма, нехта мне запярэчыць: што гэтыя развагі? Дзе навукова-лінгвістычны аналіз? Параўнальны даслед? Ён будзе мець рацыю, і не. Таму што мастацкую каштоўнасць даследчыкі пацвярджаюць, высноўваюць, “угрунтоўваюць”, часам адкрываюць, аднак асноўная лінія лёсу кнігі: аўтар — чытач. Не той, якога штучна ствараюць, “раскручваюць”, паводле сённяшняй моднай стылістыкі паводзін, а нармальнага інтэлекту і мастацкага густу індывідуум, выхаваны ў пэўных культуровых традыцыях”.

Дык вось калі спраўджваць “асноўную лінію лёсу кнігі” ў межах найноўшага літаратурна-крытычнага “вопыту”, то, калі пашанцуе, паспееш:

1) сказаць пра кампазіцыйную будову выдання (тры раздзелы: “Святло загадкі”, “Genius saeculi”, “Для вечнасці Беларусь”);

2) похапкам закрануць жанравую разнастайнасці кнігі, дзе пад адной вокладкай сустрэліся аповесць-эсэ “Святло загадкі” (першае выданне — 1995 год), шэраг апавядаў-імпрэсій, цыкл “У мройныя хвіліны падарожжаў” (згадкі пра падарожжа ў Францыю ў 1978 годзе і нататкі пра вандроўку ў Італію), невялікія партрэты-“адлюстраванні”, “дыялог”;

3) зазначыць важкасць якога-небудзь лейтматыўнага вобраза ў агульнай структуры кнігі (“чар, палон” жаночых вачэй у аповедзе “Тэрцыны траўня”; “чар вандроўніцтва”, “чар выпадку” ў “Лямпе Псіхеі”; чар Гармоніі ў літаратурна-крытычным “адлюстраванні” “«Аддавайся жыццю светланосна!». Ніна Мацяш”), а таксама “зачапіць” і аўтарскі неалагізм кшталту “вобразы-краябразы” Наваградка;

4) прывесці дзве-тры цытаты ў якасці ілюстрацый да меркавання пра выключную здольнасць аўтара разгортваць сапраўдныя вобразы-характары на мінімальнай тэкставай “плошчы”; іх, аднак, са шкадаваннем давядзецца “здрабніць” у “зноску”[1];

5) паўпікаць сябе, а лепш — калег-крытыкаў за сістэмную безуважнасць да творчасці тых літаратараў, што па вызначэнні эпохай “шоў-цэнтрызму” ўважаюцца за “нефармат”.

І тут прамільгне перад табой за колькі секунд уся найноўшая гісторыя прафесійнага “(аўта)генацыду” беларускай крытыкі, даследаванні пра падзенне даверу да друкаваных СМІ, кошты на папяровыя літаратурна-мастацкія выданні, эрганамічныя патрабаванні да электроннай публікацыі.

І рашуча пункт 2 скароціш да першай коскі, пункт 3 скароціш у 3 разы, пункт 4 выкасуеш, затое пункт 5 расквеціш іранічнымі інвектывамі ў адрас калег старэйшых і маладзейшых, а таксама (на ўсялякі выпадак) у адрас “новага” чытача, які не ведае (анягож!), што такое “інвектыва”, — і жыве нашмат лепш, чым той, хто ведае...

Словам, на 8 папярэдніх “эрзац-крытычных” абзацаў можна не зважаць — калі не маецца патрэбы скласці “эрзац-уяўленне” пра творчасць Алы Сямёнавай.

Мяркую, і чыста літаратуразнаўчы аналіз твораў, што ўвайшлі ў кнігу “У святой краіне выгнання”, мала прыдатны для таго, каб уцямна растлумачыць (хоць бы й сабе самому) устойлівае адчуванне-прадбачанне: гэты, паводле мерак навейшай за новую літаратурнай сітуацыі, “нефармат”, у адзінкавай, нетыражуемай, “апрычона апрычонай” *сваёй мастацкай самасці* будзе спраўджвацца як эстэтычная падзея па-над “фарматамі”, наяўнымі і — дай Бог нашай літаратуры (і ўсім нянашым) доўгага быцця! — будучымі.

---

[1] У “Святле загадкі” ў гэтым сэнсе ўражваюць вобразы суседзяў Луізы Генрыхаўны (“акуратная, абруселая, абеларушаная, украінізаваная немка”), пані Хмары (“...у свае ці не дзевяноста гадоў дайсці магла ўжо толькі да плота свайго дворышча. Аднак — у капялюшыку, пальчатках, у гарнітуры шляхетна-арыстакратычнага пэрлёва-шэра-бэзавага колеру”) і яе мужа (“...ішоў у касцёл таксама ў шэрым гарнітуры, абавязкова з парасонам — тросткай-лясачкай); а яшчэ: сястры Малгажата і пані Магда; сяброўкі Хрысціны, Бэці, Іры і многіх іншых.

Бадай, “найкарацейшы” шлях да разумення твораў Алы Сямёнавай — асэнсаванне ў культурасофскім ключы сутнасных адзнак яе індывідуальна-творчага “стылю мыслення”. Маецца на ўвазе “вонкавае” (слоўна-вобразнае) урэчаўленне асобасных уяўленняў пра быццё як цэласны феномен, што раскрываюцца ва ўзаемасувязях светапоглядных, аксіялагічных, эстэтычных, уласна мастацкіх чыннікаў.

Адразу зазначым (каб перадухіліць страту прытомнасці мужным чытачом беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыкі), што падобны “праект” варты рэалізацыі ў асобным даследаванні. У любым выпадку, у размове з нагоды выхаду адной кнігі (няхай сабе і надзвычай прадстаўнічай) можна толькі ў намінатыўным плане акрэсліць найбольш істотныя складнікі згаданага вышэй феномена. Іх “прыкладны пералік”, дарэчы, адшукваецца “на паверхні” кнігі “У святой краіне выгнання” — на апошняй старонцы вокладкі, дзе змешчаны верш Ніны Мацяш “Святло згадкі” з прысвячэннем “Але Сямёнавай”. У ім з надзвычайнай дакладнасцю, нават адмысловай педантычнасцю занатаваны і эстэтычныя арыенціры, і стылявыя дамінанты, і нават “партрэт асобы” творцы:

...Голаў памяці прыхіліш
на нязмеркны цень дзяцінства,
на ў слядах ягоных высверк
урачыстае латыні —
і, ажылыя, засведчаць
постаці і сілуэты,
рытмы, водары і фарбы,
скуль яно, святло загадкі
далікатна-ўпартай кроны
вытанчанасці тваёй...

Працытаваны верш у выніку “дэшыфроўкі” (перакладу з мовы вобразаў на мову паняццяў) трансфармуецца ў своеасаблівую матрыцу. Яна, у сваю чаргу, у першым набліжэнні можа быць скарыстана для рэканструкцыі з “імпрэсій” і “адлюстраванняў” (як часткі экзістэнцыйна-мастацкага хранатопу, створанага Алай Сямёнавай) стрыжнявой ідэі, што “трымае” ўсе ўзроўні гэтага хранатопа, — ідэі *ўсвядомленага метафізічнага самавыгнанніцтва як адзіна магчымага “спосабу быцця” ў сучасным свеце*.

“Аскеза... Толькі так... Гіём з Сен-Т’еры, Тамаш Аквінскі... Іх высновы — непарушныя. Як цішыня і маўчанне. Ідэальныя ўмовы для яе modus vivendi. Засяроджанасць і праца”.

Гэтая формула ідэальнай жыццёвай часапрасторы выводзіцца Данай (Дамінікай) Азарэвіч, галоўнай гераіняй аповесці-эсэ “Святло загадкі”. Ала (Альбіна) Сямёнава ў тэксце “Імправізацыя радка: Дыялог з Галінай Шаблінскай”, асобныя фрагменты якога расчытваюцца як своеасаблівы (лаканічны па форме выказвання і аб’ёмны, шматузроўневы па змесце) “аўтакаментар” да ўласнае прозы, коратка акрэслівае суадносіны герояў і іх прататыпаў, “дамысленага” і “рэальнага”, але перад тым прамаўляе: “Падсвядомае, свядомаснае, лагічна вызначанае і імпрэсіяністычна адчутае спалучаюцца. Нешта шукае выйсця, вырэдзіць. Павінна быць выяўленым”.

Беручы пад увагу, што “аповесць — гэта ўсё ж не мемуары”, нельга не адзначыць відавочнага: найбольш паслядоўна згаданае “нешта” ў абмежжы кнігі “У святой краіне выгнання” выяўляецца менавіта праз вобраз Даны, адшукваючы не адно — мноства “выйсцяў”. Падзеі сямейнай хронікі сям’і Азарэвічаў, паказаныя праз вэлюм “нязмеркнага ценю дзяцінства” і юнацтва гераіні, счапляюцца ў аповед, прыцішана-элегічны камерны і экзістэнцыйна-напружаны адначасова. Таемнае, трэба сказаць, захоўваючы “чар Гармоніі”, праз усе творы Алы Сямёнавай выяўляецца з нейкай халаднавата-адстароненай, як бы “класічнай” калі не строгасцю, то выверанасцю: “Зіма, лета, восень — кругазварот адбываўся ў тэмпе і рытме, зададзеных адвеку, упэўнена і цвёрда. Аднастайнасць была адзнакай жыццёвага парадку. Не ператва-

раючыся ў сумоту. Яна, гэтая аднастайнасць, нібыта нагадвала пра той вобраз, што мы трымаем у сваім усведамленні, — ідылію" ("Святло загадкі").

Не атрымаецца, аднак, з палёгкай апазнаць у Гармоніі як асноўным прынцыпе існавання экзістэнцыйна-мастацкага хранатопу Алы Сямёнавай "неактуальную" спадчыну картэзіянства ці гегельянства альбо аскепак класічнай карціны свету. Пётра Садоўскі, разважаючы ў артыкуле "Нацыянальная ідэнтычнасць як метафізічны выбар (нататкі рэтраграда)" ("Arche", 2004, № 2) пра пасткі мадэрнізаванай этыкі, трапна ахарактарызаваў "грунт каштоўнасцяў" старэйшага пакалення беларускай інтэлігенцыі: "...рэч не толькі ў традыцыйным канфлікце пакаленняў, калі маладзейшыя папракаюць старэйшых у адсутнасці кругагляду, браку адукацыі ці адсутнасці сучаснага пачуцця гумару. Тут прычына ў розным характары набыцця каштоўнасцяў і ў розным разуменні, так бы мовіць, мадэрнай прагматычнасці... Мы, старэйшыя, маем свой грунт каштоўнасцяў, няхай сабе часам скалечаны, бо набыты ў таталітарны час. Але ён замяшаны на пачуццях, і мы... падсвядома шукаем гармонію — нешта накшталт спробы сумясціць хрысціянскае адчуванне душы з лейбніцаўскай манадай рэальнага свету".

Арганічнасць "выгнанніцтва" як экзістэнцыйнага феномена свята(сці) на ўзроўні эстэтыкі і паэтыкі тэксту спраўджваецца ў Алы Сямёнавай праз размаітасць, паліфанічнасць, шматколеравасць праяў гармоніі:

"Пасля таго бязмежна доўгага лета надыходзіла восень — непаспешліва, спакваля. <...> Пачыналі выбіраць бульбу, лістота спакойна ўбіралася ў вераснёва-кастрычніцкі цвет, на гарышчы пахла штрыфелем і грабштэйнам, над печчу павісалі вязкі цыбулі. Ваколле поўнілася злагадай, паспакайнелым сонечным святлом. Ставілі другія рамы, мылі аконныя шыбы, варылі журавіны з ігрушамі, сушылі грыбы. Журавы зацягвалі сваю шчымліва-развітальную коду. Ва ўсім было адчуванне законапарадку прыроды. Дзень не драбніўся мітуснёй, поўніўся зменшанай даўжынёй сваёй" ("Святло загадкі");

"Удзень тут лісце, здавалася, падала на зямлю проста з высокага, яркага неба. Надвячоркам сонца аплывала ледзь не ліпеньскай чырванню, далягляд мройна супадаў з вадой марской затокі. А пазней, як запальваліся ліхтары, усё выдавала ірэальным, прывідным. Лісце на дрэвах ціха шапацела, здавалася, гэта не дрэвы нават, толькі згадка пра дрэвы, нешта трапяткое, няўлоўнае" ("Я кварту восені вып'ю");

"Усе колеры, фарбы, паўтоны набывалі тут, на П'яцца ды Навона, асаблівы змест — падтэкстам і падсветкай часоў: вялікапышнасці сеічэнта, густога сяйва тысячагоддзяў, гаркавата-слодычнага мроіва сённяшняга дня" ("Тэрцыны траўня").

Заўважым, што памянёным "чарам Гармоніі" напоўнены для аўтара кнігі "У святой краіне выгнання" не толькі плён уласна мастацкай, літаратурнай ("Рыцар сонечнай стыхіі. Уладзімір Караткевіч", «Аддавайся жыццю светланосна!». Ніна Мацяш", "«Хлеб для душы мае»..." Рыгор Барадулін", "Цянёты вечнасці і ідэя быцця. Ян Чыквін", "Шлях у неабсяжнае. Алесь Разанаў" і інш.) ці музычнай ("«На кожны гук ёсць рэха на зямлі...». Ірына Шуміліна"), ці нават даследчыцкай ("Ніць Арыядны. Арыядна Ладыгіна") творчасці. Ён пераўтварае ў творчасць працу ўрача-тэрапеўта ("Цуд радасці. Тамара Кур'яновіч") і экскурсавода ("«Расчыніцца срэбная кніга...». Анатоль Варава"). І ў трагічным рэквіеме сыходу, незваротнага фізічнага "выгнанніцтва" ў нябыт гэты "чар" прабіваецца то шчымліва-светлай эпіталамай, шлюбнай песняй у гонар каханага чалавека ("На лініі далягляду, на вышыні палёту..."), то стрыманай мужнасцю беларускай сірвенты. Так, у загаловак тэксту "«Для вечнасці — Беларусь...». Алесь Адамовіч" вынесены словы з твора "Vixi" ("Уся ісціна ў тым, што памерці я хачу ў Беларусі, а ляжаць у Глушы. Для вечнасці Беларусь"); гэтыя ж словы, толькі без працяжніка, далі назву раздзелу кнігі, дзе сабраны "партрэты" літаратараў, урача, экскурсавода, піяністкі. "Выдаляецца",

знікае працяжнік — і перайначваецца не толькі пафас, але і сэнс, так бы мовіць, “перспектыва” фразы...

Між тым, у хранатопе дабраахвотнага метафізічнага “выгнанніцтва” — са штохвіліннасці ў адвечнасць класічных Філасофіі і Мастацтва (жывапісу, музыкі, архітэктуры), з жарслівай пачуццёвасці ў вытанчаную панадчасавую адзіноту, — “надзейнае суладдзе з прыродай, людскім атачэннем, з самой сабой” (“Я кварту восені вып’ю”) большае за шчасце. Дана са “Святла загадкі” ўсё жыццё “аддавала перавагу гэтаму паразуменню з небам і воблакамі, гэтаму бясконцаму дыялогу, што ніколі не надакучваў, перад любымі інтарэсамі. І ўсё больш пэўнілася — толькі гэта сапраўднае”. Для безыменнай гераіні аповеда “Я кварту восені вып’ю” кахаць — значыць ахвяраваць “зямным раем”, тоесным “цвярозай яснасці адзіноты і незалежнасці”, “высакароднаму холаду адстароненасці”. Ці не таму гераіні прозы Алы Сямёнавай гэтак утульна адчуваюць сябе ў Балтыі, менавіта ў ёй наталяючыся ўсё той жа “адстароненай халаднаватасцю і знешняй упарадкаванасцю”, ратуючыся магчымасцю “быць незалежнай і ад мітусні перанаселеных, як вуллі, дамоў-карабкоў, і ад гісторыі з яе салодкімі клішэ афіцыйных уяўленняў, забаронамі-вердыктамі і крывавымі разорамі” (“Святло загадкі”).

Практычна ва ўсіх празаічных творах і ў пераважнай большасці літаратурна-крытычных “партрэтаў-адлюстраванняў”, што ўвайшлі ў кнігу, аповед вядзецца ад трэцяй асобы. Нібыта крыж мета-фізічнага “выгнанніцтва” актуальнаму сёння я-герою — непасільны цяжар.

У кнізе самым красамоўным сімвалам “несупадзення” з часам і адстароненай, *натуральнай* няўвагі да яго “выклікаў” падаецца бярозка ў кадцы (замест фікусаў ці пальмаў). Гэты вобраз не проста падкрэслівае самадастатковасць, цэльнасць герояў твораў Алы Сямёнавай, рэальных (“Ніць Арыядны. Арыядна Ладыгіна”) і “дамысленых” (аповед “Салодкая рыба макрорус”), ён закліканы “маркіраваць” *сапраўдную* часапрастору “выгнанніцтва”.

Адным з найбольш важкіх наступстваў (а можа, прычына?!) арганічнага пачування Алы Сямёнавай у “святой краіне выгнання” з’яўляецца прынцыповая немагчымасць, непрымальнасць для яе — і як для празаіка, і як для крытыка, — пераходу “на асобы”. Нават філасофска-публіцыстычныя “рэтардацыйныя” адступленні, напрыклад, у аповесці-эсэ “Святло загадкі” ніколі не зрываюцца ў голую рыторыку, не перараджаюцца ў “філіпікі” і адкрываюцца ў новым эстэтычным “вымярэнні” дзякуючы шматслойнаму метафарызму аўтарскага светабачання: “Гэта раней іх горад быў горадам паэтаў і герояў. А пазней выцвілыя ілюзіі абвяшчалі вяснова-свежымі ідэямі, свет вечных каштоўнасцяў замянялі на актуаліі хвіліны, а хцівых бадзяг называлі пілігрымамі”. Калі ж у партрэтах-“адлюстраваннях” крытык ушчыльную набліжаецца *да асобы* творцы, неаспрэчны прафесіяналізм выяўляецца ў высакароднай, амаль арыстакратычнай адстароненасці позірку: “Сяргей Дубавец не пазбягае выдаткавання мысліцельнай энергіі, наадварот, ён канцэнтруе, спрасоўвае, нават кандэнсуе яе. На пісьме выкарыстоўваючы сінкрэтычны метад. Калі грамадска-публіцыстычныя, публічыстычна-філасофскія нататкі набываюць форму прозы, а ў прозе ён высвятляе для сябе і іншых пытанні быційныя, філасофскія. <...> Для мяне асабіста бясспрэчна тое, што асоба Сяргея Дубаўца і час выяўлення яго асобы — супалі. І ён выкарыстоўвае гэта. Выкарыстоўвае творча” (“Знак лёсу. Сяргей Дубавец”).

Намаганні *творча* скарыстаць кнігу Алы Сямёнавай “У святой краіне выгнання”, каб “супасці” з чаканнямі сённяшняга чытача ці хоць бы з крытычным мэйнстрымам самай-самай новай літаратурнай сітуацыі, бясспрэчна сталіся марнымі. Як і абяцанні не ператвараць размову з нагоды выдання кнігі ва “ўлазіны” ў магчымы культурасофскі дослед. Відаць, чары “выгнанніцтва” (сапраўднага метафізічнага) не такія ўжо й бяскрыўдныя. Без аніякіх, у маім выпадку, “на жаль”.

Алег Аблажэй



...кожны пісьменнік марыць напісаць
такую кнігу, якую хацеў бы прачытаць сам....

# Казкі з вітамінамі

***Вітушка Сяржук. "Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі. – Мінск: Зміцер Колас. 2011. – 114с. [іл.]***

Не так даўно на свет з'явілася доўгачаканая кніжка казак Сержука Вітушкі "Дзінь-дзілінь" (з падзагалоўкам "пара гуляць у казкі"). Кніга не толькі доўгачаканая, але й шматпакутная – пісалася доўга, сродкі на яе выданне збіраліся ажно на двух кантынентах, па абодва бакі Атлантычнага акіяна. Доўга шукалі мастака-ілюстратара. Сам аўтар параіў звярнуцца да Алены Ткачовай, і яна нават зрабіла некалькі малюнкаў – шчырых, далікатных. Але якраз гэтая трохі наіўная непасрэднасць збянтэжыла выдаўцоў – і яны вырашылі не рызыкаваць ды перадалі справу ў рукі сапраўднага "профі", Міхала Анемпадыстава. І не прагадалі – кнігу не сорамна паказаць на любым конкурсе, малюнкі дапасаваныя да тэксту проста ідэальна. Што ж тут дзіўнага – Міхал даўно стаўся адной з самых яркіх асобаў у беларускай культуры. І як мастак, і як паэт.

Зрэшты, Ткачовай таксама ні ў якім разе нельга апускаць рукі – такая ўжо доля мастака-ілюстратара, бадай што



кожны прадстаўнік гэтай прафесіі мае ў сваім “багажы” не адзін тузін нявыдадзеных ілюстрацый. Неяк у Вільні была нават зладжаная выстава гэткіх твораў.

Творчасць увогуле жорсткая справа. Бо “прадукт”, які выйшаў ці то з-пад пяра, ці з-пад пэндзля, пачынае жыць сваім уласным жыццём, кіравацца ўласным лёсам. І “спажыўца” ў большасці выпадкаў цікавіць (або не цікавіць) сам твор, а не абставіны, у якіх ён быў народжаны. Асабліва гэта датычыць дзяцей – калі ім не цікава, то іх мала хвалюе ані асоба аўтара, ані ягоныя высакародныя намеры.

А даросламу чалавеку надзвычай цяжка зразумець, што дзецям цікава, і чаму. Памятаю, я ў сваім дзяцінстве з запалам чытаў падшыўку міжваеннага польскага сельскагаспадарчага часопіса “Plon” – нешта ж я знаходзіў у тых тэкстах пра севазварот ды азотныя ўгнаенні?..

Ды выйсця няма – цяпер і казкі бачыш вачыма таго, кім ты ёсць: дарослага чалавека.

Пры чытанні казак Вітушкі, збудаваных па “калажнаму” прынцыпу, бы Піліп з каноплі, з падсвядомасці выскоквае тэрмін “постмадэрнізм”. Бо гэта ягоны прынцып – тварыць новыя якасці на падставе таго, што было напісана іншымі. Аднак “постмадэрнізм” (як і ўвесь “мадэрнізм” наогул), проста прысвоіў сабе прыярытэт на “адкрыцці”, якія даўным-даўно былі зробленыя, тады, калі такога акрэслення ніхто не ведаў і не ўжываў. Усім вядомы “Мюнхгаўзэн” Грыгорыя Горына на падставе тэксту Распэ, п’есы Яўгена Шварца па матывах класічных казак... Гэта справы часоў нядаўніх – але ж і “Каменны госць” Пушкіна таксама апрацоўка старой легенды. А свайго “Скупога рыцара” ён папярэдзіў словамі: “Сцэны з Чэнстанавай трагікамедыі”, маўляў, гэта ўсяго толькі пераказ. Разбярыся цяпер, хто там той Чэнстан, і ці існаваў ён увогуле. Шэкспір часам проста перарабляў чужыя п’есы, ды так, што пра першаўзор даўно забыліся. Дый самі казкі, што лічацца народнымі – ці ж не “перацякаюць” сюжэты і вобразы з адной казкі ў другую, ад аднаго народа да іншага?

Галоўнае – не метад, а якасць твора, якая залежыць ад таленту ды намаганняў аўтара. Пагэтаму даўно вядомы прыём выкарыстання і перапрацоўкі старых сюжэтаў і фальклорных персанажаў мае такое ж права на існаванне, як і спрэс арыгінальная творчасць.

Сяржук Вітушка стаў вядомы як лідэр суполкі “Талака”, якая займалася ахове ды адбудоваю помнікаў гісторыі і культуры. І ён застаўся па сваёй натуры “талакоўцам” назаўсёды, і надалей усе ягоныя дзеянні і памкненні скіраваныя, як казалі нашы продкі, *pro publico bono*, дзеля дабра супольнасці. І, калі ў сілу розных, не дужа вясёлых абставінаў, ён не змог займацца дзейнасцю грамадскай, то вырашыў быць карысным прынамсі сціплымі казачкамі. Менавіта “карысным” – бадай што ніводная казка не напісана для таго, каб проста забаўляць, кожная проста перанасычаная “вітамінамі”, якія, на думку аўтара, неабходныя, каб дзіця вырасла тым, хто пафасна завецца “патрыётам сваёй Бацькаўшчыны”.

Кожны чалавек, нават калі ён і не мастак, несвядома творыць аўтапартрэт – сваёй дзейнасцю. Жанчыны – тыя ўвогуле свае аўтапартрэты носяць на сабе. Вось так і кніжка Сяржука Вітушкі ў пэўным сэнсе з’яўляецца адлюстраваннем ягонай асобы. Гэта ён сам марыць знайсці ваду жывую і мёртвую, перамагчы злоснага цмока, прыдумаць для дзяцей новыя святы, узначаліць паўстанне бронзавых помнікаў супраць ворагаў Бацькаўшчыны. Ды што там – часам ён адкрыта “малюе” сам сябе, бо хто ж ёсць “вялікі краязнавец Сцяпан Дзінь-Дзілевіч”, калі не сам аўтар? Тым больш, што гэта адзін з ягоных ранейшых псеўданімаў.

Кожны пісьменнік марыць напісаць такую кнігу, якую хацеў бы прачытаць сам. Вітушка, сам былы настаўнік, імкнуўся напісаць такія казкі, якія б выхоўвалі, дапамагалі не толькі самому дзіцяці, але і ягоным бацькам. І ў гэтым хаваюцца ўсе плюсы і мінусы, усе прывабы і заганы немудрагелістых "казюлек", як сам аўтар іх называе.

Нельга не адзначыць, што ўсе хібы згладжвае (як і ў выпадку нявыкарыстаных малюнкаў Ткачовай) менавіта шчырасць, непасрэднасць аўтара, без усялякіх хітрыкаў і намаганняў здавацца большым, чым ты ёсць. Так вось, напрыклад, ён прызнаецца: "Лепшай казкі пра беларускі сцяг, чым напісаў мой сябра Сяржук Сокалаў-Воюш, я не знайшоў і не склаў". І ўзяў ды змясціў ягоны верш цалкам – і той прыжыўся так, нібыта й быў дзеля гэтай кніжкі напісаны!

І ўсё ж часам дзяруць слых словы, якія, мякка кажучы, не пасуюць да мовы казак – "экспрэсія, дынамізм, напор". Адна справа, калі герой ужывае слова "краваць" у фальклорнай стылізацыі, і іншая, калі аўтар ставіць рэмарку "шакаваць", ці піша "непралівашка". Лепей было б пашукаць больш беларускіх адпаведнікаў. А ў некаторых выпадках адна, не зусім трапная дэталь псуе агульнае ўражанне, муляе, як цвік у падэшве. Так, на маю думку, здарылася з казкай "На Купалле", – як менскія помнікі сабраліся Бацькаўшчыну бараніць. Ідэя вельмі дасціпная, асабліва з галавой Дзяржынскага. Але вось "перайменаванне" Леніна ў "Гультаёва" няўдалае – зразумела, аўтар хацеў абыграць слова "лень". Аднак усім вядома, што гэты ягамосць на справе быў працавіты як ніхто. Быў бы ён і праўда гультаём – можа, меней зла было б на нашай зямельцы. Таму варта было б прыдумаць нейкую іншую мянушку, больш адпаведную натуры "правадыра сусветнага пралетарыяту", калі ўжо па зразумелых абставінах нельга ўзгадваць сапраўднае імя.

На мой густ, найлепшая казка з усяго зборніка – "Духмяна", аб прыгодах воблачка водару зёлак. Яна атрымалася лёгкая і гарэзлівая, тут усяго ў меру, і выдумкі, і "карысці", і чытаць цікава.

Зрэшты, не горшая і "Казка пра цмока Базылішка". Шкада толькі, што аўтар не пакінуў жывым чмяля, які ўджаліў ведзьмака, і сам пры гэтым загінуў. Мабыць, казачнік пераблытаў чмяля з пчалой, бо таўстуны-чмялі могуць балюча куснуць ворага і застацца пры гэтым жывымі. Але не бяда, геройская смерць казку не псуе...

Пэўна, варта было б дадаць слоўнічак незнаёмых словаў – бо й не кожны дарослы ведае, хто такія "баёры" ці "ройст", ды з якой мовы гэта прыйшло. Аднак тут ёсць простае выйсце, якое хіба што й меў на ўвазе аўтар – гэта кніжка прызначаная не столькі для самастойнага, колькі для сумеснага чытання разам з мамай і татам.

Батлеечныя казкі – проста знаходка для нашага часу, бо патрэба ёсць, а адпаведных твораў кот наплакаў. Больш за тое, калі сам аўтар заклікае гуляць у казкі, то гэтыя сцэнкі можна дапаўняць і перарабляць па абставінах і патрэбах. І гэта будзе зусім не парушэнне аўтарскіх правоў, а, наадварот, ажыццяўленнем ягоных пажаданняў. Гуляць дык гуляць!

Застаецца пажадаць аднаго: каб гульцоў было як найболей. Бо казкі павінны жыць, рабіць сваю добрую справу, выхоўваць новых змагароў з неўміручымі, на жаль, цмокамі. А што датычыць розных дробных хібаў... У Сярэдняй Азіі майстры, скончыўшы будоўлю цудоўнай красы мінарэта ці маўзалея, знарок уторквалі ў якое-небудзь ваконца гнілое крывое бервяно, – каб пабудова не была ідэальна прыгожай, бо такую мае права стварыць толькі сам Алах, а не смяротны чалавек.

Так і Сержуковы казкі – напісаныя простым чалавекам для такіх жа звычайных дзетак. Каб навучыць іх талакою дасканаліць сябе і сваю Беларусь. А калі вы ўважліва прыгледзіцеся да апошняй старонкі кнігі, то заўважыце надрукаваныя белымі літарамі на белым фоне словы: "ПРАЦЯГ БУДЗЕ"!

# Эстэтыка маўчання

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Адважны Вінцук: выбраныя творы. Укладанне, прадмова, каментар Ірыны Багдановіч. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 592 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).**




Пяцьдзясят восьмы том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор» склалі творы Язэпа Германовіча (1890-1978) – беларускага пісьменніка-святара, айца-марыяніна, вядомага пад псеўданімам Вінцук Адважны. У кнігу ўвайшло найбольш значнае з напісанага ім: паэзія, проза, успаміны, публіцыстыка і лісты. Сярод іх такія знакамітыя ў свой час творы, як вершы з віленскага зборніка «Беларускія цымбалы», успаміны з лагернага жыцця «Кітай, Сібір, Масква».

**Брыль Антон Францішак. Не ўпаў жолуд: вершы. – Мінск: Логвінаў, 2011**




Антон Францішак Брыль чытачам вядомы найперш, як перакладчык Ейтса, Катула, Джона Толкіна, Сюзаны Кларк, ірландскіх народных казак, стараангельскай паэзіі, частка з гэтых перастварэнняў друкавалася і ў «Дзеяслове». У ягоны дэбютны паэтычны зборнік увайшлі лепшыя вершы, напісаныя за апошнія сем гадоў і дзве паэмы. «На значны адсотак кніга прысвечаная міфапаэтыцы», – кажа пра сваю кнігу аўтар.

**Віцьбіч Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 232 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 19)**




У зборнік Юркі Віцьбіча (сапраўднае імя Юры Стукаліч) увайшло «найлепшае і найбольш характэрнае з даваеннай творчасці – аповесці, а таксама ўспаміны і лісты, напісаныя ў ЗША, але тэма іх усё тая ж: даваеннае жыццё, «Узвышша» і любы Віцебск» – піша ў прадмове ўкладальнік зборніка Лявон Юрэвіч. У такім аб'ёме творчая спадчына Юркі Віцьбіча выдаецца ў Беларусі ўпершыню. У чытачоў ёсць магчымасць пазнаёміцца з адметным стылем пісьменніка, які «выразна вылучаўся з канонаў тагачаснага савецкага пісьменства».

**Вольскі Лявон. Міларусь: апавяданні, аповесць. – Мінск: Медиал, 2011. – 180 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў, «Кнігарня пісьменніка», выпуск 11.)**




Аматары і прыхільнікі знакамітых гуртоў «Мроя», «NRM», «Крамбамбуля» і іх лідэра, музыкі і спевака Лявона Вольскага ўсцешаныя: нарэшце яны маюць магчымасць трымаць у руках даўно чаканую кнігу прозы мэтра. У яе ўвайшлі роўна трынаццаць аповедаў і аповесць «Пакуль сабачка жывы» – напісаныя Вольскім, пачынаючы з 80-х гадоў і да нашых дзён. Некаторыя з іх друкаваліся ў «Нашай Ніве», але большасць аўтар адважыўся прапанаваць чытачам толькі цяпер.

«Людзі ходзяць на канцэрты, каб атрымаць нейкія эмоцыі, – кажа Лявон Вольскі. – Аднак пакуль існуюць «чорныя спісы», канцэртаў амаль няма, дык кожны можа купіць сабе кнігу і пачытаць».




**Данільчык Аксана. Сон, які немагчыма забараніць: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 168 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; 12.)**

Ад назвы да апошняга радка перакладаў з італьянскай мовы – «новая кніга Аксаны Данільчык – гэта актуальная еўрапейская паэзія з глыбока асабістымі, але зразумелымі і блізкімі кожнаму, хто спрабуе адказаць на вечныя пытанні, вобразамі, думкамі і ідэямі, якія складаюцца ў ланцужок рэфлексій, знакавы для арыгінальнай эстэтыкі паэткі». Што ж, застаецца толькі разгарнуць кнігу, каб пераканацца ў гэтым...




**Дуброўскі-Сарочанкаў Алесь. Эстэтыка маўчання: вершы, паэма. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 88 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 14.)**

Гэта нашая сённяшняя бяда – калі ад дэбютнага зборніка паэта ці празаіка да наступнага праходзіць дзесяць-пятнаццаць і больш гадоў. Таму Саюз беларускіх пісьменнікаў і правёў творчы конкурс на лепшую другую кнігу. Адным з пераможцаў яго і стаў Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў. Вядома, ад першай кнігі паэта, якая выйшла ў 1997 годзе да гэтай ён прайшоў вялікі шлях: значна большы, чым ад студэнта філфака да кандыдата філалагічных навук...




**Мартысевіч Марыя. Амбасада: вершы свае і чужыя. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 120 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка”; вып. 15).**

У зборнік Марыі Мартысевіч, таксама пераможцы конкурсу Саюза беларускіх пісьменнікаў на лепшую другую кнігу, увайшлі як яе новыя вершы, так і пераклады з украінскай, польскай, ангельскай і расійскай моваў твораў выбітных паэтаў. Асаблівую цікавасць чытачоў прыцягнуць змешчаныя ў кнізе дзве паэмы: папраўленая і дапоўненая «Сястра Зоя і Канец Свету» і паэма-серыял «Амбасада». Найцікавейшае эметафарычнае эсэ-прадмову да зборніка Марыя Мартысевіч заканчвае сімвалічнымі словамі: «...Я належу да нацыі паэтаў і жыву ў краіне, якая ніколі не аддасць паэту Сэрца. Тым цікавей пісаць тут вершы і перакладаць іх».




**По Эдгар. Маска чырвонае смерці: выбраныя навелы, вершы, эсэ. Пераклад з англійскай. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 472 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

Выданне зборніка Эдгара По «Маска Чырвонае Смерці» стала адной з найбольш важных і значных падзеяў у сёлетнім літаратурным жыцці Беларусі. Перакладзеныя ў розныя гады рознымі аўтарамі тэксты, падабраныя з густам і любоўю і чытаюцца на адным дыханні, што ёсць заслугай укладальніка Андрэя Хадановіча і супрацоўнікаў інтэрнэт-часопіса «ПрайдзіСвет». У кнігу ўвайшлі не толькі шырока вядомыя дэтэктывы, апавяданні-жахі і знакамітыя вершы, але і два самыя вядомыя эсэ Эдгара По – «Паэтычны прынцып» і «Філасофія кампазіцыі». Абсалютная большасць змешчаных у зборніку перакладаў друкуецца па-беларуску ўпершыню.




**Слінка Віктар. Арахна: вершы, эсэ, паэма. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 204 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 13)**

Лірыка, эсэ і паэма «Жбан, вада» склалі новы зборнік паэзіі Віктара Слінкі. Паэт не без падставаў некалі называў сябе паслядоўнікам традыцый, закладзеных у сучаснай беларускай літаратуры Алесем Разанавым. Але, безумоўна, ён мае свой непаўторны “твар”, адметны стыль і мелодыку, блізкую да медытацый.

# Нашыя аўтары

**Аблажэй Алег** — паэт, публіцыст, мастак, перакладчык. Творы друкаваліся ў шматлікіх беларускіх і летувіскіх выданнях. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Лезнявічы на Дзятлаўшчыне. Жыве ў Вільні.

**Абрамовіч Павал** – крытык, аглядальнік “Arche”. Артыкулы, рэцэнзіі і эсэ друкаваліся таксама ў “Нашай ніве” і “Дзеяслове”. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Койданава. Жыве ў Мінску.

**Аркуш (Козік) Алесь** — паэт, празаік, крытык, выдавец. Аўтар кніг «Вяртанне», «Тайніца», «Крылы перадтворацца ў карэньні», «Разьвітаньне з Танталам» і інш. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Полацку.

**Безмацерных Кацярына** – журналіст. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Друкавалася ў беларускіх СМІ. Працуе ў часопісе «Бярозка». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Бяляцкі Алесь** — празаік, крытык, літаратуразнаўца, публіцыст. Аўтар кніг «Літаратура і нацыя», «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Карэліі. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гібок-Гібкоўскі Алесь** — публіцыст, паэт. Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро» , Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Аўтар кнігі вершаў «Насамрэч». Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Рупейкі на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.

**Гілевіч Ніл** — народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкі Эдуард** – культуролаг, псіхолаг, гісторык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар кніг «Таямніцы народнай душы», «Цяжкі шлях да адраджэння», «Сусветная культура: Ад старажытнасці да нашых дзён», «Культуралогія» і інш. Вершы друкаваліся ў розных перыядычных выданнях Беларусі. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Ганцаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982 г.). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў г. Калінкавічы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Лепешаў Іван** – мовазнаўца, публіцыст. Доктар філалагічных навук, прафесар. Аўтар кніг «Лінгвістычны аналіз твора», «Культура маўлення», двухтомнага «Слоўніка фразеалагізмаў», «Слоўніка беларускіх прыказак» і інш. Нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Іскозы на Дубровеншчыне. Жыве ў Гродне.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000 г.). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», прозы «Цэнтр Еўропы» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Сазонаў Віктар** — публіцыст, жур-

наліст, празаік. Аўтар кніг «Занатоўкі кантрабандыста» і інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Гальшанах на Ашмяншчыне. Жыве ў Гародні.

**Сідарук Ігар** — паэт, драматург, празаік. Аўтар кніг «Чарнабел», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне. Жыве ў Кобрыне.

**Сыс Анатоль** – паэт. Аўтар кніг «Агмень», «Пан Лес», «Сыс», «Лён», «Алаіза». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Гарошкаў пад Рэчыцаю. Памёр у 2005 годзе.

**Трафімчык Анатоль** – паэт, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове». Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю, «Пустадомкі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Федарэнка Андрэй** — празаік, драматург. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа. Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Укладальнік кніг: «Дажыць да зялёнай травы... Ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960-2003)», «Паслаў бы табе душу... Ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954-1971)» (разам з Н. Давыдзенка), кнігі паэзіі Р.Барадуліна «Перакуленае/ Опрокинутое». Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча за двухтомнае даследаванне «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

**Шаўлякова Ірына** — крытык, літаратуразнаўца, паэт. Аўтар кніг «Галерэя сноў», «Сентыментальнае паляваньне» і інш. Нарадзілася ў 1970 годзе ў Чэрвені на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Шах Соф'я** – паэтка. Аўтар кніг «Пад высокай лагодай нябёс», «І не пакіне спадзяванне», «Увасабленне» і інш. Нарадзілася ў 1947 годзе ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна. Жыве ў Светлагорску.

**Шчур Макс** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Спадарыня Адзіноцтва», «Амфітэатар», «Раньні збор», «Амальгама», «Ліст, знойдзены на папялішчы» і інш. Перакладае з чэшскай, іспанскай і ангельскай моваў. Заснавальнік сайта www.niamesta.se Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Берасці. Жыве ў Празе.

# Contents

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.